АКАДЕМИЯ НАУК БЕЛОРУССКОЙ ССР
ИНСТИТУТ ЯЗЫКОЗНАНИЯ имени ЯКУБА КОЛАСА

# БЕЛОРУССКО-РУССКИЙ СЛОВАРЬ

ПОД РЕДАКЦИЕЙ
академика АН БССР К. К. КРАПИВЫ

около 90 000 слов

ГОСУДАРСТВЕННОЕ ИЗДАТЕЛЬСТВО
ИНОСТРАННЫХ И НАЦИОНАЛЬНЫХ СЛОВАРЕЙ
МОСКВА—1962

АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА імя ЯКУБА КОЛАСА

# БЕЛАРУСКА-РУСКІ СЛОЎНІК

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ
акадэміка АН БССР К. К. КРАПІВЫ

каля 90 000 слоў

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА
ЗАМЕЖНЫХ І НАЦЫЯНАЛЬНЫХ СЛОЎНІКАЎ
МАСКВА—1962

Словарь составлен группой сотрудников Института языкознания им. Якуба Коласа Академии наук Белорусской ССР под руководством академика АН БССР К. К. Крапивы (Атраховича) и содержит около 90 000 слов современного белорусского литературного языка, а также значительное количество словосочетаний, фразеологизмов, пословиц и поговорок.

Словарь может служить пособием при переводе с белорусского на русский язык художественной, общественно-политической и научно-популярной литературы, а также при изучении белорусского языка русскими и русского языка белорусами. Предназначается для самого широкого круга читателей.

# ПРАДМОВА

Паспяховае будаўніцтва камуністычнага грамадства ў нашай краіне абумовіла нябачаны ўздым матэрыяльнага дабрабыту і імкліва е развіццё нацыянальных культур савецкіх народаў. Дасягненні ў галіне сацыялістычнай эканомікі і культуры дабратворна адбіваюцца на духоўным узбагачэнні новага чалавека, садзейнічаюць развіццю грамадскіх пачаткаў у яго жыцці і дзейнасці, а пашырэнне эканамічных і культурных сувязей спрые ўмацоўванню брацкай дружбы паміж народамі.

Гэтыя заканамерныя працэсы развіцця новага грамадства знаходзяць сваё адлюстраванне ў моўнай сферы і, перш за ўсё, у лексіцы.

Адным з важнейшых сродкаў, пры дапамозе якіх розныя народы знаёмяцца з іншымі мовамі, з'яўляецца слоўнік. Гэтая акалічнасць патрабуе, каб кожны больш-менш поўны неспецыяльны слоўнік быў агульнадаступным дапаможнікам, які б дастаткова шырока ахопліваў лексічныя сродкі данай мовы і з належнай паўнатой раскрываў сэнсавы аб'ём яе слоўнага запасу.

Неабходнасць у стварэнні такіх слоўнікаў для беларускага народа ўсведамлялася даўно. Аднак у дарэвалюцыйныя часы рэалізаваць гэту ідэю не было магчымасці. Толькі пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, калі ў выніку правядзення ў жыццё ленінскай нацыянальнай палітыкі беларускі народ пазбавіўся ад сацыяльнага і нацыянальнага прыгнёту, а яго мова атрымала права на свабоднае развіццё, у Беларусі інтэнсіўна разгарнулася лексікаграфічная работа. За параўнальна кароткі тэрмін была створана фундаментальная картатэка, якая налічвала каля трох мільёнаў картак. На базе гэтай картатэкі вялася падрыхтоўка рада слоўнікаў. На жаль, распачатая ў той час слоўнікавая работа была спынена вайной, а каштоўныя лексікаграфічныя матэрыялы аказаліся знішчанымі разам з картатэкай.

У такіх умовах беларускім лексікографам прыйшлося пачынаць у пасляваенны перыяд працу над слоўнікамі.

«Беларуска-рускі слоўнік» падрыхтаваны калектывам навуковых супрацоўнікаў Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук Беларускай ССР пад кіраўніцтвам акадэміка АН БССР К. К. Крапівы (Атраховіча).

У гісторыі беларускай лексікаграфіі гэта першы даведачны дапаможнік, які з такой шырынёй ахоплівае лексічнае багацце сучаснай беларускай літаратурнай мовы і так поўна раскрывае сэнсавы бок яго слоўнікавага саставу.

Галоўнай крыніцай слоўніка як пры фарміраванні яго рэестравай часткі, так і пры распрацоўцы значэнняў слоў з'яўлялася нанава створаная ў пасляваенны час фундаментальная картатэка Інстытута мовазнаўства АН БССР, а таксама «Словарь белорусского наречия» І. І. Насовіча і «Русско-белорусский словарь» пад рэдакцыяй акадэмікаў АН БССР Я. Коласа, К. Крапівы і члена-карэспандэнта АН БССР П. Глебкі.

У якасці дапаможных крыніц укладальнікамі былі выкарыстаны: «Толковый словарь живого великорусского языка» У. І. Даля, «Толковый словарь русского языка» пад рэдакцыяй праф. Д. М. Ушакова, першыя дзесяць тамоў «Словаря современного русского литературного языка», «Словарь русского языка» Інстытута рускай мовы АН СССР, «Русско-украинский словарь» пад рэдакцыяй акадэмікаў АН УССР М. Я. Каліновіча, Л. А. Булахоўскага і М. Ф. Рыльскага, два тамы «Українсько-російського словника» пад рэдакцыяй члена-карэспандэнта АН УССР І. М. Кірычэнкі і інш. дапаможнікі.

Улічваючы тое, што «Беларуска-рускі слоўнік» павінен служыць не толькі практычным дапаможнікам пры перакладах з беларускай мовы на рускую, але і сродкам павышэння культуры беларускай мовы, укладальнікі слоўніка і яго рэдактар імкнуліся надаць слоўніку нарматыўны характар. У сувязі з гэтым рабіўся старанны адбор лексікі для рэестравай часткі. Як правіла, у яе ўключаліся тыя словы, якія шырока ўжываюцца ў беларускай мастацкай літаратуры, публіцыстыцы і папулярных навуковых работах.

Дастаткова поўна пададзена ў слоўніку навейшая лексіка, якая ўвайшла ва ўжыванне ў гады сацыялістычнага будаўніцтва ў нашай краіне. Што датычыцца ўстарэлых слоў і выразаў, а таксама вузкаспецыяльных тэрмінаў і дыялектызмаў, то яны ўключаліся ў слоўнік у абмежаванай колькасці ў залежнасці ад шырыні іх ужывання.

Нарматыўныя мэты слоўніка прымушалі ўкладальнікаў вылучаць і характарызаваць у першую чаргу тыя значэнні, якія слова мае ў літаратурнай мове. Кожная іншая сфера ўжывання слова або яго значэння ў слоўніку абазначаецца адпаведнымі стылістычнымі паметамі і пры неабходнасці ілюструецца прыкладамі.

Да ліку нарматыўных сродкаў слоўніка могуць быць аднесены таксама арфаграфія, расстаноўка націскаў, адзначэнне граматычных форм і роду.

Аўтарскі калектыў, ідучы па непракладзенай у беларускай лексікаграфіі дарозе, завяршыў вялікую і вельмі цяжкую працу над слоўнікам. Наколькі паспяхова і бездакорна ў навуковых адносінах удалося вырашыць пастаўленыя задачы, няхай мяркуе патрабавальны чытач.

Асноўная работа па ўкладанню «Беларуска-рускага слоўніка» выканана старшымі навуковымі супрацоўнікамі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР, кандыдатамі філалагічных навук П. М. Гапановічам, М. П. Лобанам, М. Р. Суднікам і малодшымі навуковымі супрацоўнікамі Г. Д. Жылуновіч, Я. А. Казачок, Л. Б. Рубцовай.

Праект інструкцыі для ўкладальнікаў, а таксама практычнае кіраўніцтва работай над слоўнікам належыць загадчыку сектара лексікалогіі і лексікаграфіі Інстытута, кандыдату філалагічных навук М. П. Лобану.

Дзеяслоўныя артыкулы з падвойнымі прыстаўкамі распрацаваны старшым навуковым супрацоўнікам, кандыдатам філалагічных навук І. М. Гайдукевічам.

Распрацоўка слоўнікавых артыкулаў, у якіх раскрываюцца функцыі беларускіх прыназоўнікаў, належыць старшаму навуковаму супрацоўніку, кандыдату філалагічных навук П. П. Шубе.

Зверка слоў са звязаным значэннем з матэрыяламі картатэкі і іншымі крыніцамі, а таксама распрацоўка і папаўненне слоўнікавых артыкулаў фразеалагізмамі праведзена кандыдатам філалагічных навук А. С. Аксамітавым.

Работа па зверцы і папаўненню слоўніка некаторай колькасцю слоў, а таксама праверка правільнасці падачы геаграфічных назваў у слоўніку выканана кандыдатам філалагічных навук А. П. Груцо.

Апрача таго, на ранніх этапе падрыхтоўкі слоўніка першапачатковая апрацоўка часткі матэрыялаў праводзілася старшым навуковым супрацоўнікам, кандыдатам філалагічных навук М. І. Крукоўскім і малодшымі навуковымі супрацоўнікамі Л. А. Ванковічам і А. І. Чабяруком.

У падрыхтоўцы рукапісу і чытанні карэктуры слоўніка прымалі ўдзел малодшыя навуковыя супрацоўнікі А.К. Бакуновіч, Г. Ф. Вештарт, Н. Д. Корань і А. М. Прышчэпчык.

Рэдактарская работа над слоўнікам праведзена народным пісьменнікам Беларусі акадэмікам К. К. Крапівой (Атраховічам).

Вялікая праца па падрыхтоўцы слоўніка да выдання праароблена супрацоўнікамі Дзяржаўнага выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў Б. Г. Раеўскім, А. М. Філатавай, Н. Б. Траяпольскай.

Усе заўвагі па слоўніку і пажаданні просім накіроўваць па адрасу: Мінск, 41, Ленінскі праспект, 66, Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР або Масква, В-71, Ленінскі праспект, 15, Дзяржаўнае выдавецтва замежных і нацыянальных слоўнікаў.

*Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР*

# АБ КАРЫСТАННІ СЛОЎНІКАМ

## СКЛАД СЛОЎНІКА

**§ 1.** Беларуска-рускі слоўнік уключае ў свой склад:

а) агульнаўжывальную лексіку сучаснай беларускай літаратурнай мовы ўсіх яе стыляў (нейтральную, размоўную, кніжную і, часткова, прастамоўную);

б) абласныя словы, або дыялектызмы, якія атрымалі пашырэнне ў мастацкай літаратуры;

в) найбольш распаўсюджаныя спецыяльныя словы і выразы;

г) важнейшыя геаграфічныя назвы зямнога шара, назвы буйнейшых гарадоў аж да абласных цэнтраў (у межах Савецкага Саюза) і раённых цэнтраў (у межах Беларусі), а таксама найбольш ужывальныя прыметнікі, утвораныя ад гэтых назваў;

д) найбольш распаўсюджаныя абрэвіятуры;

е) некаторыя ўстарэлыя словы, якія аднак ужываюцца ў літаратуры.

**§ 2.** У слоўнік не ўключаны: уласныя імёны людзей, назвы жыхароў гарадоў, вузкаспецыяльныя тэрміны, малавядомыя абрэвіятуры, вульгарызмы і інш.

## РАЗМЯШЧЭННЕ МАТЭРЫЯЛУ

**§ 3.** Беларускія загаловачныя словы размешчаны ў слоўніку ў строга алфавітным парадку. Літара **ё** ідзе пасля **е;** афрыкаты **дж** і **дз** разглядаюцца кожная як дзве літары; апостраф пры размяшчэнні слоў у алфавітным парадку пад увагу не прымаецца; складаныя словы, якія пішуцца праз дэфіс, разглядаюцца ў алфавіце як простыя, напісаныя злітна.

**§ 4.** Амонімы, г. зн. словы, падобныя па напісанню і вымаўленню, але розныя па значэнню, адзначаюцца рымскімі лічбамі, напр.:

**ГАСЦІ́НЕЦ** I, **-нца** *м.* пода́рок.
**ГАСЦІ́НЕЦ** II, **-нца** *м.* больша́к, тракт.

**§ 5.** Словы, якія пішуцца з прыстаўной галоснай або без яе ў залежнасці ад іх месца ў тэксце, даюцца ў слоўніку ў двух варыянтах **(іржа́, іржы́шча, ільнаво́д і ржа, ржы́шча, льнаво́д),** кожны варыянт на сваім месцы па алфавіту. Аднак гэта не азначае, што слоўнік узаконьвае дваякае напісанне падобных слоў у любой пазіцыі. У якіх выпадках слова пішацца з прыстаўным **і** і ў якіх без яго, гл. § 42.

**§ 6.** За знакам ✧ (ромб) у канцы слоўнікавага артыкула змяшчаюцца ідыяматычныя выражэнні, выражэнні, якія не падыходзяць ні да аднаго са значэнняў слова, а таксама прыказкі і прымаўкі. Тут матэрыял размяшчаецца ў наступным парадку: на першым месцы ставяцца выразы тэрміналагічнага характару, якія маюць самастойнае значэнне і не прыведзены ў якасці прыкладаў у асобных значэннях загаловачнага слова, затым ідуць фразеалагізмы і ў канцы артыкула — прыказкі і прымаўкі. Фразеалогія размешчана ў артыкуле не ў алфавітным парадку, а па ступені ўжывальнасці яе ў мове і па ўзрастаючай складанасці сінтаксічнай канструкцыі.

**§ 7.** Фразеалагічныя выражэнні, прыказкі і прымаўкі, дадзеныя за знакам ✧, змешчаны ў артыкулах пад апорным словам, напр., выраз **гара́ звалі́лася з плячэ́й** трэба шукаць не пад словамі **зваліцца, плячо́,** а пад словам **гара́.**

## УМОЎНЫЯ СКАРАЧЭННІ І ЗНАКІ

**§ 8.** Акрамя скарачэнняў, граматычных і стылістычных памет, якія атрымалі тлумачэнне ў спіску «Умоўныя скарачэнні», у слоўніку даюцца ў скарочаным выглядзе загаловачныя словы, калі яны сустракаюцца пасярод артыкула. Прынцып скарачэння наступны: а) калі загаловачнае слова ўжыта пасярод артыкула ў пачатковай форме, то замест яго пішацца першая літара з кропкай; б) калі ж загаловачнае слова паўтараецца ў артыкуле ў другой граматычнай форме, то пішацца толькі яго канчатак разам з апошняй нязменнай зычнай асновы, а замест скарочанай часткі ставіцца знак ~ (тыльда). Напр., слова **пара́дны** ў выразе **пара́дны вы́гляд** даецца ў скарачэнні: **п. вы́гляд,** а ў выразе **пара́днае шэ́сце** — у скарачэнні: **~нае шэ́сце.**

## ГРАМАТЫЧНЫЯ ЎКАЗАННІ

**§ 9.** Як правіла, загаловачныя словы даюцца ў слоўніку толькі ў пачатковай форме (назоўнікі ў назоўным склоне адзіночнага ліку, прыметнікі ў назоўным склоне адзіночнага ліку мужчынскага роду, дзеясловы ў неазначальнай форме). Другія граматычныя формы даюцца толькі ў тых выпадках, калі яны выклікаюць якія-небудзь цяжкасці ва ўтварэнні або маюць варыянтныя напісанні, якія аднак не з'яўляюцца літаратурнай нормай. Так, у слоўніку рэгулярна адзначаецца форма роднага склону з канчаткам **-у** назоўнікаў мужчынскага роду II скланення і не адзначаюцца формы назоўнікаў той жа катэгорыі, якія маюць у родным склоне канчатак **-а.**

Толькі як выключэнне форма роднага склону на **-а** даецца ў тых выпадках, калі канчатак стаіць пад націскам (напр.: **ЗУБР, -ра́** *м.*), калі ў аснове маецца беглы галосны (напр.: **АДО́НАК, -нка** *м.*), калі ў адных значэннях або адценнях значэння назоўнік мае канчатак **-а,** а ў другіх значэннях або адценнях значэння — **-у** (напр.: **АГРЭГА́Т** *м.* **1.** *род.* **агрэга́та** *тех.* агрега́т; **2.** *род.* **агрэга́ту** *мин.* (*смесь*) агрега́т; **КЛЁН,** *род.* **клёна,** (*о древесине и собир.*) **клёну**) або калі ў аснове наглядаюцца якія-небудзь другія змяненні (напр.: **ДЗЕЯСЛО́Ў, -ло́ва** *м.*).

Формы другіх склонаў, а таксама формы множнага ліку адзначаюцца ў слоўніку ў тым выпадку, калі пры ўтварэнні іх наглядаюцца адступленні ад нормы.

**§ 10.** Прыналежнасць слова да той ці іншай часціны мовы ў слоўніку адзначаецца адпаведнымі паметамі: *сущ., прил., прич., нареч.* і г. д. Аднак рэгулярна адзначаюцца толькі прыслоўі, займеннікі, злучнікі, прыназоў-

нікі, часціцы і выклічнікі. Іншыя часціны мовы адзначаюцца толькі ў тым выпадку, калі аднясенне іх да той ці іншай часціны выклікае цяжкасці. Напр.:

**ЖАДА́ЮЧЫ** 1. *прич.* жела́ющий; 2. *в знач. сущ.* жела́ющий; 3. *деепр.* жела́я.

**КАХА́НЫ** 1. *прил.* люби́мый; ... 2. *в знач. сущ.* люби́мый, возлюбленный.

Адзначаюцца паметамі і амонімы, калі яны адносяцца да розных часцін мовы, напр.:

**ПА́ЛКА** I *сущ. ж.* па́лка...

**ПА́ЛКА** II *нареч.* стра́стно, пы́лко, пла́менно, горячо́...

**§ 11.** Пры словах, якія ўжываюцца толькі ў адзіночным або толькі ў множным ліку, даюцца адпаведна паметы *мн. нет, ед. нет.* Калі слова мае як адзіночны, так і множны лік, але ў адным са значэнняў яно ўжываецца толькі ў адзіночным або толькі ў множным, то ў гэтым выпадку даюцца паметы *только ед.*, *только мн.*, напр.:

**ФАВО́Р, -ру** *м. мн. нет* фаво́р...

**СЦЭ́НА** *ж.* 1. *в разн. знач.* сце́на; (*помост — ещё*) подмо́стки *ед. нет*...; 2. *только ед. перен.* сце́на; **паўве́ка на ~не** полве́ка на сце́не...

**ВО́ПЛЕСКІ** *ед. нет* рукоплеска́ния, аплодисме́нты.

**БРАЗГО́ТКА** *ж.* 1. погрему́шка; 2. *только мн.* бубенцы́, бубе́нчики; 3. безделу́шка, побряку́шка; 4. трещо́тка.

**§ 12.** Для абазначэння роду назоўнікаў і некаторых займеннікаў у слоўніку ўжываюцца паметы: *м.* (мужчынскі род), *ж.* (жаночы род), *ср.* (ніякі род). Падобнымі паметамі адзначаюцца і пераклады, калі іх род не супадае з родам загаловачнага слова. Назоўнікі агульнага роду забяспечаны ў слоўніку паметай *м. и ж.* Род іншых часцін мовы не адзначаецца.

**§ 13.** Прыметнікі і прыслоўі вышэйшай ступені, якія ўвайшлі ў склад слоўніка, адзначаюцца паметай *сравнит. ст.*, напр.:

**МЕ́НШЫ** *прил. сравнит. ст.* 1. (*по величине*) ме́ньше, ме́ньший; 2. (*по возрасту*) моло́же, мла́дший...

**ЛЕПШ** *нареч. сравнит. ст.* лу́чше...

**§ 14.** Пры дапамозе памет *сов.* (закончанае трыванне), *несов.* (незакончанае трыванне), *однокр.* (аднакратнае трыванне), *многокр.* (шматкратнае трыванне) адзначаецца трыванне дзеяслова, напр.:

**ДРАМА́ЦЬ** *несов.* дрема́ть.

**ДАЕ́ХАЦЬ** *сов.* (*приехать*) дое́хать.

**КАЛЬНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* 1. *в разн. знач.* кольну́ть; ... 2. (*рогами*) бодну́ть; 3. *перен.* кольну́ть, уколо́ть, уязви́ть...

Двухвідавы дзеясловы адзначаецца адначасова дзвюма паметамі, напр.:

**АМНІСЦІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов.* амнисти́ровать.

**ДЭТАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* детализи́ровать, детализова́ть.

**ПАДГІБА́ЦЬ** *сов. и несов.* подогну́ть/подгиба́ть; (*ноги — ещё*) поджа́ть/поджима́ть, подобра́ть/подбира́ть.

**§ 15.** З дзеяслоўных станаў рэгулярна адзначаецца толькі залежны стан (памета *страд.*). Аднак у тых выпадках, калі залежны стан па значэнню і перакладах поўнасцю супадае са зваротным, акрамя паметы *страд.* ставіцца і памета *возвр.* (зваротны стан). Напр.:

**МАРНАВА́ЦЦА** *несов.* 1. тра́титься, пропада́ть, не идти́ впрок; 2. *страд.* тра́титься; убива́ться; переводи́ться, изводи́ться; *см.* **марнава́ць.**

**ГАБЛЯВА́ЦЦА** *несов. возвр.*, *страд.* строга́ться.

**§ 16.** Пры дапамозе склонавых пытанняў слоўнік адзначае ўсе выпадкі разыходжання ў спосабах кіравання загаловачнага дзеяслова і яго перакладаў, напр.:

**КАРЫСТА́ЦЬ** (*што, з чаго*) *несов. разг.* по́льзоваться (*чем*)...

**СМЯЯ́ЦЦА** *несов.* 1. смея́ться; улыба́ться; ... 2. (*з кагочаго*) смея́ться (*над кем-чем*)...

**КРЫЧА́ЦЬ** *несов.* 1. крича́ть; ора́ть; вопи́ть; 2. шуме́ть, галде́ть; 3. (*на каго*) крича́ть, руга́ть (*кого*), брани́ть (*кого*), прикри́кивать...

## СТЫЛІСТЫЧНЫЯ ПАМЕТЫ

**§ 17.** Лексічны склад слоўніка не аднародны. Асноўную частку яго складае нейтральная лексіка, г. зн. словы, якія ўжываюцца ў мове любога стылю. Такія словы ў слоўніку стылістычнымі паметамі не суправаджаюцца. Частка ж лексікі, пададзенай ў слоўніку, у той або іншай ступені абмежавана выкарыстаннем у пэўным стылі або выходзіць за рамкі літаратурнай мовы. Для таго, каб вызначыць сферу ўжывання таго ці іншага слова, слоўнік выкарыстоўвае стылістычныя паметы.

**§ 18.** Памета *разг.* (размоўнае слова) абазначае, што загаловачнае слова ва ўсіх яго значэннях і адценнях або ў адным, дадзеным значэнні ўжываецца пераважна ў вуснай мове, а ў мастацкай літаратуры — галоўным чынам у дыялогах, напр.:

**ДАЧУ́ЦЦА** *сов. разг.* узна́ть; прослы́шать, услыха́ть...

**§ 19.** Памета *прост.* (прастамоўнае слова) абазначае, што загаловачнае слова ва ўсім яго аб'ёме або ў адным, дадзеным значэнні знаходзіцца на мяжы літаратурнай мовы і можа быць ужыта толькі ў зніжаным стылі, напр.:

**КО́КНУЦЬ** *сов. прост.* ко́кнуть.

**§ 20.** Памета *груб.* (грубае слова) абазначае, што дадзенае слова з прычыны сваёй грубасці і рэзкасці знаходзіцца за межамі літаратурнай мовы і прыдае выражэнню прыніжаную стылістычную афарбоўку, напр.:

**ДАЖЫРА́ЦЬ** *несов. прост. груб.* дожира́ть.

**§ 21.** Памета *обл.* (абласное слова) указвае, што гэта слова ва ўсіх або ў якім-небудзь адным значэнні ўжываецца не ўсюды, а толькі ў некаторых гаворках, напр.:

**ЛАСКАТА́ННЕ** *ср. обл.* щекота́ние.

**§ 22.** Памета *поэт.* (паэтычнае слова) указвае на тое, што слова ва ўсім яго аб'ёме або ў дадзеным канкрэтным значэнні характэрна для мовы паэзіі.

**§ 23.** Памета *уст.* (устарэлае слова) указвае на тое, што слова або якое-небудзь яго значэнне ў сучаснай мове ўжываецца рэдка, таму што яно заменена другім словам або яго паняцце, прадмет перасталі існаваць у сучаснай рэчаіснасці, напр.:

**МЕ́СТА** *ср. уст.* го́род *м.*

**МЕЗАЛЬЯ́НС, -су** *м. уст.* мезалья́нс.

**КАЛІТА́** *ж. уст.* мошна́.

**§ 24.** У слоўніку выкарыстоўваецца рад памет (гл. «Умоўныя скарачэнні»), якія ўказваюць на спецыяльную вобласць ужывання слова, напр.:

**МЫШ'Я́К, -ку́** *м. хим.* мышья́к.

**НЕПРАВО́ДНАСЦЬ** *ж. физ.* непроводи́мость.

**§ 25.** Памета *спец.* (спецыяльнае слова) ужываецца ў слоўніку ў тым выпадку, калі слова, захаваўшы характар тэрміна, распаўсюдзілася на многія вобласці або калі яно з'яўляецца спецыфічным для якога-небудзь роду дзейнасці, не адзначанага ў слоўніку пэўнай паметай, напр.:

**КАНСТА́НТА** *ж. спец.* конста́нта.

**ЛАКТАБАЦЫЛІ́Н, -ну** *м. спец.* лактобацилли́н.

**ГАФРЫРО́ЎКА** *ж. спец.* гофриро́вка.

**§ 26.** Паметы *ирон.* (іранічнае слова або іранічны выраз), *шутл.* (жартаўлівае слова або жартаўлівы выраз), *бран.* (абразлівае слова або абразлівы выраз), *неодобр.* (асуджальнае слова або асуджальны выраз), *пренебр.* (зняважлівы выраз), *презр.* (пагардлівы выраз) указваюць на эмацыянальную афарбоўку загаловачнага слова або выразу, напр.:

**МЕ́НТАР** *м. уст.*, *ирон.* ме́нтор.

**ПАДЛЮ́ГА** *м. и ж. разг. бран.* подлюга.

**МАМА́ЕЎ: мама́ева нашэ́сце** *шутл.* мама́ево наше́ствие; **мама́ева пабо́ішча** *шутл.* мама́ево побо́ище.

## ЗНАЧЭННІ СЛОЎ І ПЕРАКЛАД

**§ 27.** Пераклад загаловачнага слова ажыццяўляецца адпаведным у сэнсавых і стылістычных адносінах словам або сінанімічным радам. Пераклады ў сінанімічным радзе размяшчаюцца ў парадку найбольшай адпаведнасці і найбольшай ужывальнасці слова ў дадзеным значэнні ў рускай мове.

**§ 28.** У выпадку, калі загаловачнае слова або якое-небудзь з яго значэнняў сустракаецца толькі ў пэўным выразе, пасля загаловачнага слова (або пасля лічбы, якая аддзяляе значэнне) ставіцца двукроп'е, затым ідзе гэты выраз з перакладам, напр.:

**КАДУ́К: к. яго́ ве́дае** *обл.* ле́ший его́ зна́ет.

Словы, якія адзначаны двукроп'ем, граматычнай характарыстыкай не суправаджаюцца.

**§ 29.** Як выключэнне слоўнік дапускае разыходжанне ў стылістычных паметах загаловачнага слова і перакладу на адну ступень. Аднак гэта датычыцца толькі тых выпадкаў, калі мае месца розны падыход да стылістычнай ацэнкі слова. Напр., дзеяслоў **дарва́цца** даецца з паметай *разг.*, пераклад жа яго 'дорва́ться' ў «Словаре русского языка» Інстытута рускай мовы АН СССР адзначан паметай *прост.*

**§ 30.** Значэнні слова адзначаюцца ў слоўніку арабскімі лічбамі, напр.:

**КЛА́ДКА** *ж.* **1.** кла́дка; **старажы́тная к.** дре́вняя кла́дка; **2.** (*доска, бревно для перехода*) мостки́ *мн.*; перекла́дина, кла́дка, кладь.

**§ 31.** Пры паўтарэнні аднаго і таго ж перакладу разбіўка на значэнні не робіцца, а замест яе ставіцца памета *в разн. знач.*, напр.:

**КА́РТКА** *ж. в разн. знач.* ка́рточка; **катало́жная к.** катало́жная ка́рточка; **к. для па́шпарта** ка́рточка для па́спорта; **прадукто́вая к.** продово́льственная ка́рточка.

Часам памета *в разн. знач.* аб'ядноўвае не ўсе значэнні загаловачнага слова, а толькі іх частку. У такім выпадку перад паметай *в разн. знач.* ставіцца лічба **1**, а значэнні, якія не ўвайшлі сюды, даюцца асобна пад лічбамі **2, 3** і г. д. Напр.:

**ДАПУСЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* допусти́ть; (*возможное — ещё*) предположи́ть; **д. да ко́нкурсу** допусти́ть к ко́нкурсу; **д. да хво́рага** допусти́ть к больно́му; **д. аза́ртныя гу́льні** допусти́ть аза́ртные и́гры; **2.** (*приладить*) подогна́ть, пригна́ть; **д. ако́нную ра́му** подогна́ть (пригна́ть) око́нную ра́му...

**§ 32.** Часам адно або некалькі першых значэнняў перакладаюцца інакш, чым усе наступныя значэнні, якія маюць адзін і той жа пераклад. У гэтым выпадку ўсе значэнні, якія перакладаюцца аднолькава, аб'ядноўваюцца паметай *в др. знач.* Напр.:

**АПЕРЫ́РАВАЦЬ 1.** *сов. и несов. мед.* опери́ровать; (*нарыв — ещё*) вскрыть/вскрыва́ть; **2.** *несов. в др. знач.* опери́ровать...

**§ 33.** Пераклады, якія адпавядаюць асобным адценням значэнняў, аддзелены адзін ад другога кропкай з коскай у адрозненне ад сінонімаў, якія раздзяляюцца коскамі, напр.:

**ДАРЭ́МНА** *нареч.* **1.** напра́сно, беспло́дно, тще́тно; по́пусту, зря, да́ром; **2.** да́ром, беспла́тно...

Часам адценні значэнняў суправаджаюцца тлумачэннямі, каторыя даюцца ў дужках перад перакладам, напр.:

**КЛА́СЦІСЯ** *несов.* **1.** (*принимать лежачее положение*) ложи́ться; (*спать — ещё*) укла́дываться...

**§ 34.** Значэнні, аб'яднаныя паметай *в разн. знач.*, і адценні значэнняў, якія маюць агульны пераклад, раскрываюцца, як правіла, пры дапамозе ілюстрацыйных прыкладаў, напр.:

**КАМПАЗІ́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* компози́ция; **к. рама́на** компози́ция рома́на; **к. карці́ны** компози́ция карти́ны; **клас ~цыі** класс компози́ции.

**МЕДЗЯНІ́СТЫ** медяни́стый; **~тая са́жа** медяни́стая са́жа; **м. ко́лер** медяни́стый цвет.

**§ 35.** Пры наяўнасці паметы *в разн. знач.* якое-небудзь са значэнняў можа мець дадатковы пераклад. Каб не вылучаць гэтага значэння і, такім чынам, не паўтараць ужо прыведзеных перакладаў, у слоўніку робіцца ўказанне, у якім іменна значэнні і які пераклад можна яшчэ ўжыць. Напр.:

**ГНАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* гнать; (*преследовать — ещё*) трави́ть; (*добывать перегонкой — ещё*) кури́ть...

Гэты ж прыём прымяняецца і пры распрацоўцы слоўнага артыкула з адценнямі значэнняў, напр.:

**НЕАХА́ЙНЫ 1.** *прил.* неопря́тный, неря́шливый, небре́жный; (*о человеке — ещё*) нечистопло́тный; **2.** *в знач. сущ.* неря́ха.

**§ 36.** Залежны стан, як правіла, даецца ў артыкуле зваротнага дзеяслова пад асобнай лічбай без разбіўкі на значэнні і са спасылкай на незваротны дзеяслоў незакончанага трывання. Спасылка павінна памагчы вызначыць, у якіх іменна значэннях ужываецца залежны стан дзеяслова. Напр.:

**ЛУЗА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*очищаться от скорлупы, кожуры*) лущи́ться; **2.** шелуши́ться; **3.** *страд.* лущи́ться; щёлка́ться; *см.* **лузаць.**

Пераклады, аддзеленыя кропкай з коскай, адпавядаюць значэнням дзеяслова, на які робіцца спасылка.

## ЗНАЧЭННЕ СПАСЫЛАК

**§ 37.** У слоўніку шырока выкарыстоўваецца прыём спасылкі аднаго слова або яго асобных значэнняў на другое слова або яго асобныя значэнні. Мэта спасылак розная:

а) загаловачнае слова або якое-небудзь яго значэнне без перакладу адсылаецца да другога слова. Гэта значыць, што спасылачнае слова, хоць і сустракаецца ў літаратуры, аднак знаходзіцца за межамі літаратурнай мовы і не рэкамендуецца да ўжывання;

б) загаловачнае слова без перакладу адсылаецца да артыкула, у загалоўку якога даецца два варыянты гэтага слова. Гэта значыць, што спасылачнае слова павінна разглядацца як раўнапраўнае з другім яго варыянтам. Напр.:

**ВЫКІ́ДВАННЕ** *ср. см.* **выкіда́нне.**

**ВЫКІДА́ННЕ** *и* **ВЫКІ́ДВАННЕ** *ср.* выбра́сывание, выки́дывание; опуска́ние...

в) загаловачнае слова або якое-небудзь яго значэнне з перакладам адсылаецца да другога слова або якога-небудзь яго значэння. Гэта значыць, што ў артыкуле, на які даецца спасылка, можна знайсці ілюстрацыйныя прыклады або тлумачэнні значэння.

**§ 38.** У артыкулах з некалькімі значэннямі спасылкі могуць мець пры сабе лічбавыя паказанні. Лічбы перад спасылкай абазначаюць, якія значэнні дадзенага слова адсылаюцца, а лічбы, якія стаяць пасля спасылкі, паказваюць, на якія значэнні паказанага слова робіцца спасылка. Адсутнасць лічбавых паказанняў перад спасылкай азначае, што адсылаецца толькі апошняе значэнне, а адсутнасць лічбавых паказанняў пасля спасылкі значыць, што спасылка робіцца на ўвесь артыкул паказанага слова.

**§ 39.** Спасылкі ад аддзеяслоўных назоўнікаў або дзеепрыметнікаў робяцца на той дзеяслоў, ад якога яны ўтвораны і якому адпавядаюць па распрацоўцы, напр.:

**ЛЯ́СКАННЕ** *ср.* **1.** ля́зганье; **2.** хло́панье; щёлканье; **3.** щёлканье, ля́зганье; 1—3 *см.* **ля́скаць.**

**ГАТАВА́НЫ 1.** *прич.* ва́ренный, стря́панный; **2.** *прич.* кипячённый; 1, 2 *см.* **гатава́ць** 2, 3; **3.** *прил.* варёный; **4.** *прил.* кипячёный.

## АБ НЕКАТОРЫХ АСАБЛІВАСЦЯХ БЕЛАРУСКАЙ АРФАГРАФІІ

**§ 40.** Цяжкасці пры карыстанні слоўнікам могуць быць выклікаваны некаторымі асаблівасцямі беларускай арфаграфіі. Да гэтых асаблівасцей перш за ўсё адносіцца змяненне галосных у пэўнай пазіцыі ў адносінах да націску, а іменна:

а) змяненне ненаціскнога **о** ў вымаўленні і на пісьме ў **а.** Таму да слоў **во́ды, го́ры, про́сіць, ко́сіць** пачатковай формай будуць словы **вада́, гара́, прасі́ць, касі́ць;**

б) змяненне ненаціскнога **э** ў **а** ва ўсіх словах, акрамя запазычанняў з неславянскіх моў. Таму да слоў **рэ́кі, цэ́ны, трасу́, грабу́** пачатковымі формамі будуць словы **рака́, цана́, трэ́сці, грэ́бці.** Аднак у словах **рэвалю́цыя, тэа́тр, дэлега́т** і пад. захоўваецца ненаціскное **э,** бо гэтыя словы з'яўляюцца запазычаннямі з неславянскіх моў;

в) змяненне **е** ў першым складзе перад націскам у **я** і захаванне **е** ў астатніх складах як перад, так і пасля націску. Таму да слоў **нясу́, вяду́, лясы́, вятры́, сямі́** пачатковай формай будуць словы **не́сці, ве́сці, лес, ве́цер, сем.**

Гэта правіла не пашыраецца на запазычанні з неславянскіх моў, дзе **е** захоўваецца ў любой пазіцыі ў адносінах да націску;

г) у складаных словах, якія маюць як асноўны, так і пабочны націск, правапіс галосных залежыць ад іх пазіцыі ў адносінах да націску сваёй часткі слова, напр.: **асно̀вапалажэ́нне, во̀даразмеркава́льнік, чо̀рнавало́сы, то̀нкавалакні́сты;** але ў словах **сталява́р, агнястрэ́льны, земляро́бства, даўгале́цце** адзін націск, і галосныя пішуцца ў залежнасці ад пазіцыі да націску ўсяго слова.

**§ 41.** Кароткае, або нескладовае, ў у беларускай мове рознага паходжання. Яно ўзнікае на месцы **у** складовага пасля галоснай перад зычнай, а таксама перад етаванай галоснай **(е, ё, ю, я),** г. зн. перад зычным гукам [j], на месцы **л** і **в** у той жа пазіцыі або ў канцы слова пасля галосных. Таму ўсе словы з пачатковым **ў** (параўн. **рака́ ўвайшла́ ў берагі́**) трэба шукаць пад **у** складовым, а слова **салаўі́** будзе мець пачатковую форму **салаве́й.**

**§ 42.** У словах з пачатковым збегам зычных, першым з якіх з'яўляецца **л** або **р,** у пачатку сказа, пасля зычных або знакаў прыпынку развіваецца прыстаўное **і,** напр.: **іржа́, ілга́ць, ільнаво́д.** У другіх пазіцыях гэтыя словы пішуцца без прыстаўнога **і.**

У словах з пачатковым збегам зычных, першым з якіх з'яўляецца **м,** заўсёды пішацца прыстаўное **і,** напр.: **імча́цца, імгла́, імгне́нне.**

**§ 43.** Зычныя **д, т** у пазіцыі перад галоснымі **е, ё, і, ю, я** або перад мяккім **в** пераходзяць у мяккія **дз, ц,** напр.: **люд—лю́дзі, ле́та—ле́це, два—дзве.**

## НАЦІСК

**§ 44.** Націскі ў слоўніку адзначаюцца пры дапамозе знака ´, які ставіцца над націскной галоснай.

У словах з літарай **ё** націск не ставіцца, таму што гэта літара заўсёды паказвае месца націску.

У складаных словах слоўнік адзначае толькі асноўны націск, напр.: **асновапалажэ́нне, лесараспрацо́ўкі, сталеліце́йны.**

# ПРЕДИСЛОВИЕ

Успешное строительство коммунистического общества в нашей стране обусловило невиданный подъем материального благосостояния и стремительное развитие национальных культур советских народов. Достижения в области социалистической экономики и культуры благотворно сказываются на духовном обогащении нового человека, содействуют развитию общественных начал в его жизни и деятельности, а расширение экономических и культурных связей способствует укреплению братской дружбы между народами.

Эти закономерные процессы развития нового общества находят свое отражение в языковой сфере и, прежде всего, в лексике.

Одним из важнейших средств, при помощи которых разные народы знакомятся с другими языками, является словарь. Это обстоятельство требует, чтобы каждый более-менее полный неспециальный словарь был общедоступным пособием, которое бы достаточно широко охватывало лексические средства данного языка и с надлежащей полнотой раскрывало смысловой объем его словарного запаса.

Необходимость в создании таких словарей для белорусского народа осознавалась давно. Однако в дореволюционное время реализовать эту идею не представлялось возможным. Только после победы Великой Октябрьской социалистической революции, когда в результате осуществления ленинской национальной политики белорусский народ избавился от социального и национального угнетения, а его язык получил право на свободное развитие, в Белоруссии интенсивно развернулась лексикографическая работа. В сравнительно короткий срок была создана фундаментальная картотека, насчитывавшая около трех миллионов карточек. На базе этой картотеки велась подготовка ряда словарей. К сожалению, начатая в то время словарная работа была прервана войной, а ценные лексикографические материалы оказались уничтоженными вместе с картотекой.

В таких условиях белорусским лексикографам пришлось начинать в послевоенный период работу над словарями.

«Белорусско-русский словарь» подготовлен коллективом научных сотрудников Института языкознания им. Якуба Коласа Академии наук Белорусской ССР под руководством академика АН БССР К. К. Крапивы (Атраховича).

В истории белорусской лексикографии это первое справочное пособие, так широко охватывающее лексическое богатство современного белорусского литературного языка и так полно раскрывающее смысловую сторону его словарного состава.

Главным источником словаря как при формировании его словника, так и при разработке значений слов являлась заново созданная в послевоенное время фундаментальная картотека Института языкознания АН БССР, а также «Словарь белорусского наречия» И. И. Носовича и «Русско-белорусский словарь» под редакцией академиков АН БССР Я. Коласа, К. Крапивы и члена-корреспондента АН БССР П. Глебки.

В качестве вспомогательных источников составителями использовались: «Толковый словарь живого великорусского языка» В. И. Даля, «Толковый словарь русского языка» под редакцией проф. Д. Н. Ушакова, первые десять томов «Словаря современного русского литературного языка», «Словарь русского языка» Института русского языка АН СССР, «Русско-украинский словарь» под редакцией академиков АН УССР М. Я. Калиновича, Л. А. Булаховского и М. Ф. Рыльского, два тома «Українсько-російського словника» под редакцией члена-корреспондента АН УССР И. Н. Кириченко и др. пособия.

Учитывая то обстоятельство, что «Белорусско-русский словарь» должен служить не только практическим пособием при переводах с белорусского языка на русский, но и средством повышения культуры белорусской речи, составители словаря и его редактор стремились придать словарю нормативный характер. В связи с этим производился тщательный отбор лексики для реестровой части. Как правило, в нее включались слова, широко употребляющиеся в белорусской художественной литературе, публицистике и популярных научных работах.

Достаточно полно представлена в словаре новейшая лексика, вошедшая в обиход в годы социалистического строительства в нашей стране. Что же касается устаревших слов и выражений, а также узкоспециальных терминов и диалектизмов, то они включались в словарь в ограниченном количестве в зависимости от широты их употребления.

Нормативные цели словаря вынуждали составителей выделять и характеризовать в первую очередь те значения, которые слово имеет в литературном языке. Всякая другая сфера употребления слова или его значения в словаре обозначается соответствующими стилистическими пометами и при необходимости иллюстрируется примерами.

К числу нормативных средств словаря могут быть отнесены также орфография, расстановка ударений, определение грамматических форм и рода.

Авторский коллектив, идя по непроторенной в белорусской лексикографии дороге, завершил большую и многотрудную работу над словарем. Насколько успешно и безупречно в научном отношении удалось разрешить поставленные задачи, пусть судит взыскательный читатель.

Основная работа по составлению «Белорусско-русского словаря» выполнена старшими научными сотрудниками Института языкознания им. Якуба Коласа Академии наук БССР, кандидатами филологических наук П. Н. Гапановичем, Н. П. Лобаном, М. Р. Судником и младшими научными сотрудниками Г. Д. Жилунович, Е. А. Казачок, Л. Б. Рубцовой.

Проект инструкции для составителей, а также практическое руководство работой над словарем принадлежит заведующему сектором лексикологии и лексикографии Института, кандидату филологических наук Н. П. Лобану.

Глагольные статьи с двойными приставками разработаны старшим научным сотрудником, кандидатом филологических наук И. М. Гайдукевичем.

Разработка словарных статей, раскрывающих функции белорусских предлогов, принадлежит старшему научному сотруднику, кандидату филологических наук П. П. Шубе.

Сверка слов со связанным значением с материалами картотеки и другими источниками, а также разработка и пополнение словарных статей фразеологизмами произведена кандидатом филологических наук А. С. Аксамитовым.

Работа по сверке и пополнению словаря недостающими словами, а также проверка правильности подачи географических названий в словаре выполнена кандидатом филологических наук А. П. Груцо.

Кроме того, на раннем этапе подготовки словаря первичная обработка части материалов проводилась старшим научным сотрудником, кандидатом филологических наук Н. И. Крюковским и младшими научными сотрудниками Л. А. Ванковичем и Е. И. Чеберук.

В подготовке рукописи и чтении корректуры словаря принимали участие младшие научные сотрудники А. К. Бакунович, Г. Ф. Вешторт, Н. Д. Корень и А. М. Прищепчик.

Редакторская работа над словарем проведена народным писателем Белоруссии академиком К. К. Крапивой (Атраховичем).

Большая работа по подготовке словаря к изданию проведена сотрудниками Государственного издательства иностранных и национальных словарей Б. Г. Раевским, Е. Н. Филатовой, Н. Б. Троепольской.

Все замечания по словарю и пожелания просим направлять по адресу: Минск, 41, Ленинский проспект, 66, Институт языкознания им. Якуба Коласа АН БССР или Москва, В-71, Ленинский проспект, 15, Государственное издательство иностранных и национальных словарей.

*Институт языкознания им. Якуба Коласа Академии наук БССР*

# О ПОЛЬЗОВАНИИ СЛОВАРЕМ

## СОСТАВ СЛОВАРЯ

**§ 1.** Белорусско-русский словарь включает в свой состав:

а) общеупотребительную лексику современного белорусского литературного языка всех его стилей (нейтральную, разговорную, книжную и, частично, просторечную);

б) областные слова, или диалектизмы, получившие распространение в художественной литературе;

в) наиболее распространенные специальные слова и выражения;

г) важнейшие географические названия земного шара, названия крупнейших городов вплоть до областных центров (в пределах Советского Союза) и районных центров (в пределах Белоруссии), а также наиболее употребительные прилагательные, образованные от этих названий;

д) наиболее распространенные аббревиатуры;

е) некоторые устарелые, но употребляющиеся в литературе слова.

**§ 2.** В словарь не включены: собственные имена людей, названия жителей городов, узкоспециальные термины, малоизвестные аббревиатуры, вульгаризмы и т. п.

## РАСПОЛОЖЕНИЕ МАТЕРИАЛА

**§ 3.** Белорусские заглавные слова помещены в словаре в строго алфавитном порядке. Буква **ё** следует после **е**; аффрикаты **дж** и **дз** рассматриваются каждая как две буквы; апостроф при расположении слов в алфавитном порядке во внимание не принимается; сложные слова, пишущиеся через дефис, рассматриваются в алфавите как простые, написанные слитно.

**§ 4.** Омонимы, т. е. слова, сходные по написанию и произношению, но различающиеся по значению, отмечаются римскими цифрами, напр.:

**ГАСЦІ́НЕЦ** I, **-нца** *м.* пода́рок.
**ГАСЦІ́НЕЦ** II, **-нца** *м.* больша́к, тракт.

**§ 5.** Слова, которые пишутся с приставной гласной или без нее в зависимости от их места в тексте, даются в словаре в двух вариантах (**іржа́, іржы́шча, ільнаво́д** и **ржа, ржы́шча, льнаво́д**), каждый вариант на своем месте по алфавиту. Это не должно означать, однако, что словарь узаконивает двоякое написание подобных слов в любой позиции. В каких случаях слово пишется с приставным **і** и в каких без него, см. § 42.

**§ 6.** За знаком ✧ (ромб) в конце словарной статьи помещаются идиоматические выражения и выражения, не подходящие ни к одному из значений слова, а также пословицы и поговорки. Здесь материал располагается в следующем порядке: на первом месте помещаются выражения терминологического характера, имеющие самостоятельное значение и не представленные в качестве примеров в отдельных значениях заглавного слова, затем идут фразеологизмы и в конце статьи — пословицы и поговорки. Фразеология размещена в статье не в алфавитном порядке, а по степени употребительности ее в языке и по возрастающей сложности синтаксической конструкции.

**§ 7.** Фразеологические выражения, поговорки и пословицы, данные за знаком ✧, помещены в статьях под опорным словом, напр., выражение **гара́ звалі́лася з плячэ́й** следует искать не под словами **зваліцца, плячо́**, а под словом **гара́**.

## УСЛОВНЫЕ СОКРАЩЕНИЯ И ЗНАКИ

**§ 8.** Помимо сокращений, грамматических и стилистических помет, получивших объяснение в списке «Условные сокращения», в словаре даются в сокращенном виде заглавные слова, если они встречаются внутри статьи. Принцип сокращения следующий: а) если заглавное слово употреблено внутри статьи в исходной форме, то вместо него пишется первая буква с точкой; б) если же заглавное слово повторяется в статье в другой грамматической форме, то пишется только его окончание вместе с последней неизмененной согласной основы, а вместо сокращенной части ставится знак ~ (тильда). Напр., слово **пара́дны** в выражении **пара́дны вы́гляд** дается в сокращении: **п. вы́гляд**, а в выражении **пара́днае шэ́сце** — в сокращении: **~нае шэ́сце.**

## ГРАММАТИЧЕСКИЕ УКАЗАНИЯ

**§ 9.** Как правило, заглавные слова даются в словаре только в исходной форме (имена существительные в именительном падеже единственного числа, имена прилагательные в именительном падеже единственного числа мужского рода, глаголы в неопределенной форме). Другие грамматические формы даются лишь в тех случаях, когда они вызывают какие-либо затруднения в образовании или имеют вариантные написания, не являющиеся, однако, литературной нормой. Так, в словаре регулярно отмечается форма родительного падежа с окончанием **-у** имен существительных мужского рода II склонения и не отмечаются формы существительных той же категории, имеющих в родительном падеже окончание **-а.**

Лишь как исключение форма родительного падежа на **-а** дается в тех случаях, когда окончание является ударенным (напр.: **ЗУБР, -ра́** *м.*), когда в основе имеется беглый гласный (напр.: **АДО́НАК, -нка** *м.*), когда в одних значениях или оттенках значения существительное имеет окончание **-а**, а в других значениях или оттенках значения — **-у** (напр.: **АГРЭГА́Т** *м.* **1.** *род.* **агрэга́та** *тех.* агрега́т; **2.** *род.* **агрэга́ту** *мин.* (*смесь*) агрега́т; **КЛЁН,** *род.* **клёна,** (*о древесине и собир.*) **клёну**) или когда в основе наблюдаются какие-либо другие изменения (напр.: **ДЗЕЯСЛО́Ў, -ло́ва** *м.*).

Формы других падежей, а также формы множественного числа отмечаются в словаре в том случае, если при образовании их наблюдаются отступления от нормы.

**§ 10.** Принадлежность слова к той или иной части речи в словаре отмечается соответствующими пометами: *сущ.*, *прил.*, *прич.*, *нареч.* и т. д. Однако регулярно отмечаются только наречия, местоимения, союзы, предлоги, частицы и междометия. Другие части речи отмечаются лишь в том случае, если отнесение их к той или иной части речи вызывает затруднение. Напр.:

**ЖАДА́ЮЧЫ** **1.** *прич.* жела́ющий; **2.** *в знач. сущ.* жела́ющий; **3.** *деепр.* желая.

**КАХА́НЫ** **1.** *прил.* люби́мый;... **2.** *в знач. сущ.* люби́мый, возлю́бленный.

Отмечаются пометами и омонимы, если они относятся к различным частям речи, напр.:

**ПА́ЛКА** I *сущ. ж.* па́лка...

**ПА́ЛКА** II *нареч.* стра́стно, пы́лко, пла́менно, горячо́...

**§ 11.** При словах, употребляющихся только в единственном числе или только во множественном, даются соответственно пометы *мн. нет*, *ед. нет*. Если слово имеет как единственное, так и множественное число, но в одном из значений оно употребляется только в единственном или только во множественном, то в этом случае даются пометы *только ед.*, *только мн.* Напр.:

**ФАВО́Р, -ру** *м. мн. нет* фаво́р...

**ВО́ПЛЕСКІ** *ед. нет* рукоплеска́ния, аплодисме́нты.

**СЦЭ́НА** *ж.* **1.** *в разн. знач.* сце́на; (*помост — ещё*) подмо́стки *ед. нет*...; **2.** *только ед. перен.* сце́на; **паўве́ка на ~не** полве́ка на сце́не...

**БРАЗГО́ТКА** *ж.* **1.** погрему́шка; **2.** *только мн.* бубенцы́, бубе́нчики; **3.** безделу́шка, побряку́шка; **4.** трещо́тка.

**§ 12.** Для обозначения рода имен существительных и некоторых местоимений в словаре употребляются пометы: *м.* (мужской род), *ж.* (женский род), *ср.* (средний род). Подобными пометами отмечаются и переводы, если их род не совпадает с родом заглавного слова. Имена существительные общего рода снабжены в словаре пометой *м. и ж.* Род других частей речи не отмечается.

**§ 13.** Прилагательные и наречия сравнительной степени, вошедшие в состав словаря, отмечаются пометой *сравнит. ст.*, напр.:

**МЕ́НШЫ** *прил. сравнит. ст.* **1.** (*по величине*) ме́ньше, ме́ньший; **2.** (*по возрасту*) моло́же, мла́дший...

**ЛЕПШ** *нареч. сравнит. ст.* лу́чше...

**§ 14.** С помощью помет *сов.* (совершенный вид), *несов.* (несовершенный вид), *однокр.* (однократный вид), *многокр.* (многократный вид) отмечается вид глагола, напр.:

**ДРАМА́ЦЬ** *несов.* дрема́ть.

**ДАЕ́ХАЦЬ** *сов.* (*приехать*) дое́хать.

**КАЛЬНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* **1.** *в разн. знач.* кольну́ть;... **2.** (*рогами*) бодну́ть; **3.** *перен.* кольну́ть, уколо́ть, уязви́ть...

Двухвидовой глагол отмечается одновременно двумя пометами, напр.:

**АМНІСЦІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов.* амнисти́ровать.

**ДЭТАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* детализи́ровать, детализова́ть.

**ПАДГІБА́ЦЬ** *сов. и несов.* подогну́ть/подгиба́ть; (*ноги — ещё*) поджа́ть/поджима́ть, подобра́ть/подбира́ть.

**§ 15.** Из глагольных залогов регулярно отмечается лишь страдательный залог (помета *страд.*). Однако в тех случаях, когда страдательный залог по значению и переводам полностью совпадает с возвратным, помимо пометы *страд.* ставится и помета *возвр.* (возвратный залог). Напр.:

**МАРНАВА́ЦЦА** *несов.* **1.** тра́титься, пропада́ть, не идти́ впрок; **2.** *страд.* тра́титься; убива́ться; переводи́ться, изводи́ться; *см.* **марнава́ць.**

**ГАБЛЯВА́ЦЦА** *несов. возвр.*, *страд.* строга́ться.

**§ 16.** При помощи падежных вопросов словарь отмечает все случаи расхождения в способах управления заглавного глагола и его переводов, напр.:

**КАРЫСТА́ЦЬ** (*што, з чаго*) *несов. разг.* по́льзоваться (*чем*)...

**СМЯЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** смея́ться; улыба́ться; ... **2.** (*з каго-чаго*) смея́ться (*над кем-чем*)...

**КРЫЧА́ЦЬ** *несов.* **1.** крича́ть; ора́ть; вопи́ть; **2.** шуме́ть, галде́ть; **3.** (*на каго*) крича́ть, руга́ть (*кого*), брани́ть (*кого*), прикри́кивать...

## СТИЛИСТИЧЕСКИЕ ПОМЕТЫ

**§ 17.** Лексический состав словаря не однороден. Основную часть его составляет нейтральная лексика, т. е. слова, употребляющиеся в речи любого стиля. Такие слова в словаре стилистическими пометами не снабжены. Часть же лексики, представленной в словаре, в той или иной степени ограничена употреблением в определенном стиле или выходит за рамки литературного языка. Для того, чтобы определить сферу употребления того или иного слова, словарь использует стилистические пометы.

**§ 18.** Помета *разг.* (разговорное слово) обозначает, что заглавное слово во всех его значениях и оттенках или в одном, данном значении употребляется преимущественно в устной речи, а в художественной литературе — главным образом в диалогах, напр.:

**ДАЧУ́ЦЦА** *сов. разг.* узна́ть; прослы́шать, услыха́ть...

**§ 19.** Помета *прост.* (просторечное слово) обозначает, что заглавное слово во всем его объеме или в одном, данном значении находится на грани литературного языка и может быть употреблено лишь в сниженном стиле, напр.:

**КО́КНУЦЬ** *сов. прост.* ко́кнуть.

**§ 20.** Помета *груб.* (грубое слово) обозначает, что данное слово по причине своей грубости и резкости находится за пределами литературного языка и придает выражению приниженную стилистическую окраску, напр.:

**ДАЖЫРА́ЦЬ** *несов. прост. груб.* дожира́ть.

**§ 21.** Помета *обл.* (областное слово) указывает, что данное слово во всех или в каком-либо одном значении употребляется не повсеместно, а лишь в некоторых говорах, напр.:

**ЛАСКАТА́ННЕ** *ср. обл.* щекота́ние.

**§ 22.** Помета *поэт.* (поэтическое слово) указывает на то, что слово во всем его объеме или в данном конкретном значении характерно для языка поэзии.

**§ 23.** Помета *уст.* (устарелое слово) указывает на то, что слово или какое-либо из его значений в современном языке употребляется редко, так как оно заменено другим словом или его понятие, предмет перестали существовать в современной действительности, напр.:

**МЕ́СТА** *ср. уст.* го́род *м.*

**МЕЗАЛЬЯ́НС, -су** *м. уст.* мезалья́нс.

**КАЛІТА́** *ж. уст.* мошна́.

**§ 24.** В словаре используется ряд помет (см. «Условные сокращения»), указывающих на специальную область употребления слова, напр.:

**МЫШ'Я́К, -ку́** *м. хим.* мышья́к.

**НЕПРАВО́ДНАСЦЬ** *ж. физ.* непроводи́мость.

**§ 25.** Помета *спец.* (специальное слово) употребляется в словаре в том случае, если слово, сохранив характер термина, распространилось на многие области или если оно является специфическим для какого-либо рода деятельности, не отмеченного в словаре определенными пометами, напр.:

**КАНСТА́НТА** *ж. спец.* конста́нта.

**ЛАКТАБАЦЫЛІ́Н, -ну** *м. спец.* лактобацилли́н.

**ГАФРЫРО́ЎКА** *ж. спец.* гофриро́вка.

**§ 26.** Пометы *ирон.* (ироническое слово или выражение), *шутл.* (шутливое слово или выражение), *бран.* (бранное слово или выражение), *неодобр.* (неодобрительное слово

**ДЗЕ́ВЯЦЬ** де́вять.
**ДЗЕВЯЦЬСО́Т,** *род.* **дзевяцісо́т** девятьсо́т.
**ДЗЕВЯЦЯРНЫ** *разг.* девятерно́й.
**ДЗЕД** I *м.* **1.** (*старый человек*) стари́к, дед, де́душка; **2.** (*отец матери или отца*) дед, де́душка; **3.** *разг.* (*обращение к старику*) дед, де́душка, старина́.
**ДЗЕД** II *м., чаще мн.* (*сорное растение*) репе́й, репе́йник.
**ДЗЕД** III *м. уст.* (*подставка для лучины*) свете́ц.
**ДЗЕ́ДАЎ 1.** (*принадлежащий старику*) старика́, де́да, де́душки, де́дов, де́душкин; **~дава ха́та** де́дов (де́душкин) дом; дом де́да (де́душки); **2.** (*принадлежащий отцу матери или отца*) де́душкин, де́дов, де́душки, де́да; **дз. уну́чак** де́душкин (де́дов) вну́чек.
**ДЗЕ́ДАЎСКІ** де́довский.
**ДЗЕ́ДАЎШЧЫНА** *ж. разг.* насле́дство *ср.* по́сле де́да, де́дина.
**ДЗЕ́ДЗІЧ** *м. разг.* насле́дник де́довского име́ния.
**ДЗЕЕПРЫМЕ́ТНІК** *м. грам.* прича́стие *ср.*; **дз. цяпе́рашняга ча́су** прича́стие настоя́щего вре́мени.
**ДЗЕЕПРЫМЕ́ТНЫ** *грам.* прича́стный.
**ДЗЕЕПРЫСЛО́ЎЕ** *ср. грам.* дееприча́стие.
**ДЗЕЕПРЫСЛО́ЎНЫ** *грам.* дееприча́стный.
**ДЗЕ́ЖКА** *ж.* **1.** (*тесто*) квашня́, дежа́; **2.** квашня́, ка́дка, дежа́.
**ДЗЕ́ЙКА** *ж. обл.* молва́, слух *м.*
**ДЗЕ́ЙКАННЕ** *ср. обл.* распуска́ние молвы́ (слу́хов).
**ДЗЕ́ЙКАЦЬ** *несов. обл.* распуска́ть молву́ (слух), погова́ривать.
**ДЗЕ́ЙКІ,** *ед.* **дзе́йка** *ж. обл.* слу́хи, молва́ *ж.*
**ДЗЕ́ЙНА** *нареч.* де́ятельно.
**ДЗЕ́ЙНАСЦЬ** *ж.* де́ятельность; **грама́дская дз.** обще́ственная де́ятельность.
**ДЗЕ́ЙНІК** *м. грам.* подлежа́щее *ср.*
**ДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ** *несов.* **1.** де́йствовать; **дз. самасто́йна** де́йствовать самостоя́тельно; **2.** (*быть в исправности*) де́йствовать, рабо́тать; **машы́на не ~чае** маши́на не де́йствует (не рабо́тает); **3.** (*оказывать влияние*) де́йствовать, влия́ть; **вымо́ва на яго́ не ~чае** вы́говор на него́ не де́йствует (не влия́ет); **4.** (*чым на што*) подверга́ть де́йствию (*чего что*); **дз. святло́м на раслі́ну** подверга́ть расте́ние де́йствию све́та.
**ДЗЕ́ЙНЫ 1.** де́йствующий; **~ная асо́ба** де́йствующее лицо́; **2.** (*энергично работающий*) де́ятельный; **дз. чалаве́к** де́ятельный челове́к.
**ДЗЕ́ЙСНА** *нареч.* де́йственно.
**ДЗЕ́ЙСНАСЦЬ** *ж.* де́йственность.
**ДЗЕ́ЙСНЫ** де́йственный.
**ДЗЕКАБРЫ́СТ** *м. ист.* декабри́ст.
**ДЗЕ́КАННЕ** *ср. лингв.* дзе́канье.
**ДЗЕ́КАЦЬ** *несов. лингв.* дзе́кать.
**ДЗЕ-КО́ЛЕЧЫ** *нареч. обл.* **1.** где́-либо, где́-нибудь; **2.** (*в немногих местах*) ко́е-где́, ко́й-где́; **дзе-к. ўжо прабіва́лася малада́я тра́ўка** ко́е-где́ (ко́й-где́) уже́ пробива́лась молода́я тра́вка.
**ДЗЕЛАВІ́ТА** *нареч.* делови́то.
**ДЗЕЛАВІ́ТАСЦЬ** *ж.* делови́тость.
**ДЗЕЛАВІ́ТЫ** делови́тый, де́льный; **дз. чалаве́к** делови́тый (де́льный) челове́к; **з ~тым вы́глядам** с делови́тым ви́дом.
**ДЗЕЛАВЫ** *в разн. знач.* делово́й.
**ДЗЕ́ЛІВА** *ср. мат.* дели́мое.
**ДЗЕЛЬ** *ж. мат.* ча́стное *ср.*
**ДЗЕ́ЛЬНІК** *м. мат.* дели́тель.
**ДЗЕ́ЛЯ** *предлог с род.* ра́ди, для; (*с целью чего-л.— ещё*) из-за; **я зраблю́ гэ́та дз. вас** я сде́лаю э́то ра́ди (для) вас; **дз. кава́лка хле́ба** из-за (ра́ди) куска́ хле́ба.
**ДЗЕ-НЕ́БУДЗЬ** *нареч.* где́-нибудь, где́-либо.
**ДЗЕ-НІДЗЕ́** *нареч.* ко́е-где́, ко́й-где́; места́ми.
**ДЗЕ́НЦА** *ср. уменьш.* до́нце, до́нышко.
**ДЗЕНЬ,** *род.* **дня** *м. в разн. знач.* день; (*месяца — ещё*) число́ *ср.*; **ён пяць дзён хварэ́ў** он пять дней боле́л; **Дз. дру́ку** День печа́ти; **чэ́рвеня пя́тага дня** ию́ня пя́того числа́; ✧ **до́бры дз.!** до́брый день!, здра́вствуйте!, **гэ́тымі дня́мі** на дня́х; **аднаго́ дня** одна́жды; в оди́н прекра́сный день; **цалю́ткі (цэ́лы) дз.** день деньско́й; **аб дз.** в оди́н день; **з ужо́ дзень** уже́ рассвело́; **дз. за днём** день за днём; **з ко́жным днём** с ка́ждым днём, день ото дня́; **дз. пры дні** изо дня́ в день; **дз. у дз.** ежедне́вно, ка́ждый день; **дз. і ноч** день и ночь; **да гэ́тага дня** по сей день; **з дня ў дз.** ежедне́вно; **з дня на дз.** со дня на́ день.
**ДЗЕ́РАВА** *ср. см.* **дрэ́ва.**
**ДЗЕРАВЯ́КА** *ж.* (*кусок дерева*) деревя́шка.
**ДЗЕРАВЯНЕ́ЦЬ** *несов.* деревене́ть.
**ДЗЕРАВЯ́НЫ** *см.* **драўля́ны.**
**ДЗЕРАВЯ́ЧКА** *ж.* (*кусок дерева*) деревя́шка.
**ДЗЕРАВЯ́ЧЫНА** *ж. разг.* **1.** (*кусок дерева*) деревя́шка; **2.** (*ствол срубленного дерева, бревно*) дерева́на.
**ДЗЕРАВЯ́ШКА** *ж.* **1.** (*кусок дерева*) деревя́шка; **2.** *разг.* о́бувь с деревя́нной подо́швой.
**ДЗЕРАЗА́** *ж. бот.* плау́н *м.*, ликопо́дий *м.*
**ДЗЕРАЗО́ВЫ** плау́нный.
**ДЗЕ́РБНІК** *м. зоол.* де́рбник.
**ДЗЕРНАВА́ЦЬ** *несов. спец.* дернова́ть.
**ДЗЕРНАЗДЫМ** *м. спец.* дерносни́м.
**ДЗЕРНАРЭ́З** *м. спец.* дерноре́з.
**ДЗЕ́РЦІ** *несов. см.* **драць.**
**ДЗЕ́РЦІСЯ** *несов. см.* **дра́цца.**
**ДЗЕСЦЬ** *ж. уст.* (*единица счёта писчей бумаги*) десть.
**ДЗЕСЬ** *нареч. см.* **дзе́сьці.**
**ДЗЕ́СЬЦІ** *нареч.* где́-то.
**ДЗЕСЯ́ТАК, -тка** *м.* деся́ток; ✧ **не з баязлі́вага ~тка** не ро́бкого деся́тка.
**ДЗЕСЯ́ТКА** *ж.* **1.** *в разн. знач.* деся́тка; **2.** *уст.* пята́к *м.*
**ДЗЕСЯТКО́ВЫ** десяти́чный; **~выя дро́бы** *мат.* десяти́чные дро́би; **~вая класіфіка́цыя** *спец.* десяти́чная классифика́ция.
**ДЗЕСЯ́ТНІК** *м.* деся́тник.
**ДЗЕСЯ́ТЫ** деся́тый; ✧ **пя́тае це́раз ~тае** из пя́того в деся́тое; с пя́того на деся́тое; **гэ́та спра́ва ~тая** *прост.* э́то де́ло деся́тое.
**ДЗЕСЯ́ЦЕРА** де́сятеро; де́сять; **дз. сане́й** де́сятеро сане́й; **дз. парася́т** де́сять порося́т.
**ДЗЕСЯЦІБО́РСТВА** *ср. спорт.* десятибо́рье.
**ДЗЕСЯЦІВЁРСТКА** *ж. разг.* (*карта*) десятивёрстка.
**ДЗЕСЯЦІВУГО́ЛЬНІК** *м. мат.* десятиуго́льник.
**ДЗЕСЯЦІВУГО́ЛЬНЫ** десятиуго́льный.
**ДЗЕСЯЦІГАДО́ВЫ** десятиле́тний.
**ДЗЕСЯЦІГО́ДДЗЕ** *ср.* десятиле́тие.
**ДЗЕСЯЦІГО́ДКА** *ж.* (*школа*) десятиле́тка.
**ДЗЕСЯЦІГРА́ННІК** *м. мат.* десятигра́нник.
**ДЗЕСЯЦІГРА́ННЫ** десятигра́нный.
**ДЗЕСЯЦІДЗЁНКА** *ж. разг.* десятидне́вка.
**ДЗЕСЯЦІДЗЁННЫ** десятидне́вный.
**ДЗЕСЯЦІКАПЕ́ЕЧНЫ** десятикопе́ечный.
**ДЗЕСЯЦІКЛА́СНІК** *м.* десятикла́ссник.
**ДЗЕСЯЦІКЛА́СНІЦА** *ж.* десятикла́ссница.
**ДЗЕСЯЦІКЛА́СНЫ** десятикла́ссный.
**ДЗЕСЯЦІКРА́ТНЫ** десятикра́тный.
**ДЗЕСЯЦІМЕ́СЯЧНЫ** десятиме́сячный.
**ДЗЕСЯЦІ́НА** *ж. ист.* десяти́на.
**ДЗЕСЯЦІНО́ГІЯ** *сущ. мн. зоол.* десятино́гие.
**ДЗЕСЯЦІРАЗО́ВЫ** десятикра́тный.
**ДЗЕСЯЦІРУБЛЁВЫ** десятирублёвый.
**ДЗЕСЯЦІРУБЛЁЎКА** *ж. разг.* десятирублёвка.
**ДЗЕСЯЦІСКЛАДО́ВЫ** десятисло́жный.
**ДЗЕСЯЦІСТРУ́ННЫ** *муз.* десятистру́нный.
**ДЗЕСЯ́ЦКІ** *сущ. дорев.* деся́тский.
**ДЗЕ́СЯЦЬ** де́сять.
**ДЗЕСЯЦЯРНЫ** *разг.* десятерно́й.

**ДЗЕТАЗАБОЙСТВА** *ср.* детоубийство.
**ДЗЕТАЗАБОЙЦА** *м. и ж.* детоубийца.
**ДЗЕТАРАДЖЭННЕ** *ср.* деторождение.
**ДЗЕТАРОДНЫ** *уст.* детородный.
**ДЗЕТВАРА** *собир. ж. разг.* детвора.
**ДЗЕТДОМ** *м.* **(дзіцячы дом)** детдом (детский дом).
**ДЗЕТДОМАЎСКІ** *разг.* детдомовский.
**ДЗЕТКА** *ж. ласк. разг.* **1.** детка; **2.** *только мн.* детки, ребятишки, детишки; **3.** *только мн.* (*обращение к детям*) детки, ребятки, ребята; **4.** (*обращение к одному ребёнку*) детка, деточка; **5.** (*обращение старика к молодым*) касатик *м.*, касатка.
**ДЗЕТСАД** *м.* **(дзіцячы сад)** детсад (детский сад).
**ДЗЕТУХНА** *ж. разг. ласк.* деточка, дитятко *ср.*
**ДЗЕЎБАНУЦЬ** *сов. однокр.* **1.** *разг.* (*о птице*) клюнуть; **2.** *прост.* (*ударить*) долбануть; **3.** *перен. прост.* (*выпить*) клюкнуть.
**ДЗЕЎКА** *ж. прост.* девка.
**ДЗЕЎЧАНЁ** *ср. см.* **дзеўчаня.**
**ДЗЕЎЧАНЯ** *и* **ДЗЕЎЧАНЁ** *ср. разг.* **1.** *пренебр.* девчонка *ж.*; **2.** *ласк.* девчурка *ж.*
**ДЗЕЎЧЫНА** *ж. разг.* **1.** девушка, девица; **2.** (*ребёнок женского пола*) девочка.
**ДЗЕЎЧЫНКА** *ж.* девочка.
**ДЗЕЦЦА** *сов. разг.* деваться, деться; (*затеряться — ещё*) задеваться; **няма дзе дз.** некуда деваться (деться); **недзе дзелася кніга** куда-то девалась (делась, задевалась) книга.
**ДЗЕЦЬ** *сов. разг.* девать, деть; (*затерять — ещё*) задевать, подевать; **няма куды дз. грошы** некуда деть (девать) деньги; **дзе ты дзеў маю кнігу?** куда ты девал (дел, задевал, подевал) мою книгу; ✧ **вачэй няма куды дз.** не знать, куда глаза деть; **гэтага нікуды не дзенеш** это никуда не денешь.
**ДЗЕШАВА** *нареч. см.* **танна.**
**ДЗЕШАВЕЙ** *нареч. сравнит. ст. см.* **танней.**
**ДЗЕШАВЕЦЬ** *несов. см.* **таннець.**
**ДЗЕЮЧЫ** *прил.* действующий; **~чая армія** действующая армия; **~чыя асобы** действующие лица.
**ДЗЕЯ** *ж.* (*в пьесе*) действие *ср.*, акт *м.*
**ДЗЕЯЗДОЛЬНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* дееспособность.
**ДЗЕЯЗДОЛЬНЫ** *в разн. знач.* дееспособный.
**ДЗЕЯННЕ** *ср. в разн. знач.* действие; **дз. роўна супрацьдзеянню** действие равно противодействию; **прывесці машыну ў дз.** привести машину в действие; **закон адваротнага ~ння не мае** закон обратного действия не имеет; **чатыры ~нні арыфметыкі** четыре действия арифметики; **ваенныя ~нні** военные действия.
**ДЗЕЯСЛОЎ, -лова** *м. грам.* глагол.
**ДЗЕЯСЛОЎНЫ** *грам.* глагольный.
**ДЗЕЯЦЦА** *несов. разг.* происходить, делаться, твориться, совершаться; **водгулле ўсяго, што дзеецца на свеце** отзвуки всего, что происходит (делается, творится) на свете.
**ДЗЕЯЦЬ** *несов. разг.* делать, совершать, творить.
**ДЗЕЯЧ** *м.* деятель.
**ДЗЁГАЦЬ, -гцю** *м.* дёготь.
**ДЗЁГЦЕВЫ** дегтярный.
**ДЗЁННІК** *м.* дневник.
**ДЗЁННЫ** *в разн. знач.* дневной.
**ДЗЁРАН, -рну** *м.* дёрн.
**ДЗЁРЗКА** *нареч.* дерзко, грубо.
**ДЗЁРЗКАСЦЬ** *ж.* дерзость, грубость.
**ДЗЁРЗКІ** дерзкий, грубый.
**ДЗЁРТЫ** (*о картофеле*) тёртый.
**ДЗЁЎБАЛА** *ср.* **1.** *тех.* долбило; **2.** *прост. бран.* балда *м. и ж.*
**ДЗЁЎБАЦЬ** *несов. см.* **дзяўбці** 1.
**ДЗІВА 1.** *ср.* (*то, что вызывает удивление*) чудо, диво, диковина *ж.*, диковинка *ж.*; невидаль *ж.*; **вось гэта дык дз.!** вот так чудо (диво, диковина, диковинка)!; **падумаеш, дз. такое!** *ирон.* подумаешь, невидаль какая!; **2.** *в знач. сказ.* диво, удивительно; странно; **не дз., што ён не прыйшоў** не диво (не удивительно), что он не пришёл; ✧ **на дз.** на диво, на удивление; **дз. што!** ещё бы!; **не дз.** не удивительно; **што за дз.** ничего удивительного; **дз.-дзіўнае!** диво-дивное!, чудеса да и только!; **проста дз.** просто чудо!
**ДЗІВАВАЦЦА** (*з каго-чаго*) *несов. обл.* дивиться (*кому-чему, на кого-что*).
**ДЗІВАК, -ка** *м.* чудак; сумасброд.
**ДЗІВАКАВАТЫ** чудаковатый.
**ДЗІВАННА** *ж. бот.* коровяк *м.*; **дз. вялікая** *бот.* медвежье ухо.
**ДЗІВАСІЛ, -лу** *м. бот.* девясил.
**ДЗІВАЦКІ** чудаческий; сумасбродный; чудной.
**ДЗІВАЦТВА** *ср.* чудачество, странность *ж.*; сумасбродство; причуда *ж.*, прихоть *ж.*
**ДЗІВАЧКА** *ж.* чудачка; сумасбродка.
**ДЗІВАЧЛІВА** *нареч. разг.* чудаковато, чудно, странно; сумасбродно.
**ДЗІВАЧЛІВЫ** чудаковатый, чудной, странный; сумасбродный.
**ДЗІВАЧЫЦЬ** *несов. разг.* чудить; сумасбродничать.
**ДЗІВІЦЦА** (*з каго-чаго*) *несов.* **1.** удивляться (*кому-чему*), дивиться (*кому-чему*); недоумевать; изумляться; поражаться; **2.** (*смотреть с восхищением*) дивиться (*на кого-что*).
**ДЗІВІЦЬ** *несов.* удивлять, изумлять, поражать, дивить.
**ДЗІВОСНА** *нареч.* **1.** чудесно; **2.** дивно, изумительно, поразительно, чудесно; **3.** причудливо, прихотливо; странно, мудрено; 1—3 *см.* **дзівосны.**
**ДЗІВОСНАСЦЬ** *ж.* **1.** чудесность; **2.** изумительность, поразительность, чудесность; **3.** причудливость, прихотливость; странность, мудрёность; 1—3 *см.* **дзівосны.**
**ДЗІВОСНЫ 1.** (*являющийся чудом*) чудесный; **2.** (*восхитительный*) дивный, изумительный, поразительный, чудесный; **3.** (*непонятный*) причудливый, прихотливый; странный, мудрёный.
**ДЗІВОСЫ, -саў** *ед. нет* чудеса.
**ДЗІВОТНЫ** *разг.* странный, причудливый.
**ДЗІВОТЫ, -таў** *ед. нет разг.* странности, причуды.
**ДЗІДА** *ж. воен. уст.* пика, копьё *ср.*
**ДЗІК,** *рсд.* **дзіка** *м.* дикий кабан.
**ДЗІКА** *нареч.* дико.
**ДЗІКАБРАЗ** *м. зоол.* дикобраз.
**ДЗІКАБРАЗАВЫЯ** *сущ. мн. зоол.* дикобразовые.
**ДЗІКАВАТА** *нареч.* диковато.
**ДЗІКАВАТЫ** диковатый.
**ДЗІКАРАСТУЧЫ** *см.* **дзікарослы.**
**ДЗІКАРОСЛЫ** дикорастущий.
**ДЗІКАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* дикость; **пейзаж вызначаўся ~цю** пейзаж отличался дикостью; **твой учынак — сапраўдная дз.** твой поступок — настоящая дикость.
**ДЗІКІ** *в разн. знач.* дикий; **~кія народы** дикие народы; **дз. вінаград** дикий виноград; **~кая каза** дикая коза; **~кія скалы** дикие скалы; **~кая думка** дикая мысль; **~кае мяса** *мед.* дикое мясо.
**ДЗІКЛІВЫ 1.** (*застенчивый*) дикий; **~вае дзіця** дикий ребёнок; **2.** (*угрюмый, избегающий общения*) необщительный, нелюдимый; **дз. чалавек** нелюдимый человек, нелюдим.
**ДЗІКУН, -на** *м. прям., перен.* дикарь.
**ДЗІКУНКА** *ж.* дикарка.
**ДЗІКУНСКІ** дикарский.
**ДЗІКУНСТВА** *ср.* дикарство.
**ДЗІНЬ-ДЗІНЬ** *межд.* динь-динь.
**ДЗІРА** *ж.* дыра.
**ДЗІРАВІЦЬ** *несов. разг.* изрешечивать, решетить; дырявить.
**ДЗІРАВЫ** дырявый; худой.

**ДЗІРВА́Н, -ну́** *м.* земля́, гу́сто поро́сшая траво́й.
**ДЗІРВАНЕ́ЦЬ** *несов.* порастáть траво́й.
**ДЗІРВАНІ́СТЫ** дерни́стый.
**ДЗІ́РКА** *ж.* **1.** дыра́, ды́рка, отве́рстие *ср.*; брешь; (*в материи —ещё*) проре́ха; **зашы́ць ~ку на рукаве́** заши́ть дыру́ (ды́рку, проре́ху) на рукаве́; **дз. ў пло́це** дыра́ (ды́рка) в забо́ре; **2.** *только мн. перен. разг.* (*недостатки, нехватки*) ды́ры, проре́хи; **у гаспада́рцы мно́га ~рак** в хозя́йстве мно́го дыр (проре́х); ✧ **дз. ад абара́нка** ды́рка от бу́блика; **хадзі́ў бы ў зло́це, каб не дз. ў ро́це** *посл.* кабы не дыра́ во рту — жил бы жил, ни о чём не тужи́л.
**ДЗІРКАВА́ТЫ** ды́рчатый.
**ДЗІРКАПРАБІЎНЫ** *тех.* дыропробивно́й.
**ДЗІРЧА́СТЫ** ды́рчатый.
**ДЗІ́СЕНСКІ РАЁН** Ди́сненский райо́н.
**ДЗІСНА́** *ж. г.* Дисна́.
**ДЗІЎНА 1.** *нареч.* стра́нно, удиви́тельно; непостижи́мо, неви́данно, дико́винно, мудрено́; **2.** *в знач. сказ.* стра́нно, удиви́тельно; непостижи́мо, чудно́.
**ДЗІЎНАСЦЬ** *ж.* стра́нность, удиви́тельность; непостижи́мость, дико́винность.
**ДЗІЎНЫ** стра́нный, удиви́тельный; непостижи́мый; неви́данный, дико́винный, мудрёный; ✧ **~ная рэч** удиви́тельно, стра́нно, стра́нное де́ло.
**ДЗІЦЯ́,** *род.* **дзіця́ці,** *тв.* **дзіцем** *ср. прям., перен.* ребёнок *м.*, дитя́; младе́нец *м.*
**ДЗІЦЯНЁ** *ср. см.* **дзіцяня́.**
**ДЗІЦЯНЯ́** *и* **ДЗІЦЯНЁ** *ср.* **1.** *прям., перен.* (*о человеке*) ребёнок *м.*, дитя́; младе́нец *м.*; **2.** (*о животном*) детёныш *м.*
**ДЗІЦЯ́ТКА** *ср. разг. ласк.* ди́тятко, ребёночек *м.*
**ДЗІЦЯ́ЧЫ** *прям., перен.* де́тский; младе́нческий; **~чыя гады́** де́тские го́ды; **~чае развlikeжа́нне** де́тское рассужде́ние; **дз. пако́й** де́тская ко́мната.
**ДЗІ́ЧКА** *ж.* **1.** дичо́к *м.*; (*о взрослом дереве — ещё*) ди́кая я́блоня (гру́ша и т. п.); **2.** плод *м.* ди́кого де́рева.
**ДЗІЧКАВЫ** *сад.* дичко́вый.
**ДЗІЧЫНА** *собир. ж.* дичь.
**ДЗІЧЫХА** *ж.* са́мка ди́кого кабана́.
**ДЗІЧЫЦЦА** *несов.* дичи́ться.
**ДЗІЧЭЦЬ** *несов. прям., перен.* дича́ть.
**ДЗОТ** *м. воен.* **(дрэ́ва-земляны́ агнявы́ пункт)** дзот (де́рево-земляна́я огнева́я то́чка).
**ДЗЫЛІ́НКАННЕ** *ср. разг.* звя́канье.
**ДЗЫЛІ́НКАЦЬ** *несов. разг.* звя́кать.
**ДЗЫЛІ́НКНУЦЬ** *сов. разг.* звя́кнуть.
**ДЗЫНДРА** *ж. разг.* шлак *м.*
**ДЗЫНКАННЕ** *ср. см.* **дзвы́нканне.**
**ДЗЫНКАЦЬ** *несов. см.* **дзвы́нкаць.**
**ДЗЫНКНУЦЬ** *сов. см.* **дзвы́нкнуць.**
**ДЗЬМУ́ТЫ** *см.* **выдзіма́ны.**
**ДЗЬМУХАВЕ́Ц, -хаўца́,** *собир.* **-хаўцу́** *м. бот. разг.* одува́нчик.
**ДЗЬМУ́ХАЦЬ** *несов.* дуть, фу́кать.
**ДЗЬМУ́ХНУЦЬ** *сов. однокр.* ду́нуть, фу́кнуть.
**ДЗЬМУ́ЦЦА** *несов. разг.* (*сердиться*) ду́ться.
**ДЗЬМУЦЬ** *несов.* дуть; (*о ветре — ещё*) ве́ять.
**ДЗЮБА** *ж.* **1.** (*у птицы*) клюв *м.*; (*у хищных птиц — ещё*) хва́тка; **2.** остриё *ср.*, о́стрый вы́ступ.
**ДЗЮБАНУ́ЦЬ** *сов. см.* **дзю́бнуць.**
**ДЗЮБА́ТЫ 1.** с дли́нным клю́вом; **2.** с дли́нным (о́стрым) вы́ступом.
**ДЗЮБАЦЦА** *несов.* клева́ться.
**ДЗЮБАЦЬ** *несов.* **1.** (*о птицах*) клева́ть; **ку́ры ~балі ячме́нь** ку́ры клева́ли ячме́нь; **2.** *разг.* (*ударять*) долби́ть; ✧ **дз. но́сам** клева́ть но́сом.
**ДЗЮБКА** *ж.* **1.** *уменьш.* клю́вик *м.*, ма́ленький клюв; **2.** (*у чайника*) но́сик *м.*; **3.** о́стрый ко́нчик, остриё *ср.*
**ДЗЮБНУЦЬ** *сов.* **1.** (*о птицах*) клю́нуть; **2.** *разг.* (*ударить*) долбану́ть; **1, 2** *см.* **дзюбаць; 3.** *прост.* (*выпить хмельного*) клю́кнуть.
**ДЗЮБЧА́СТЫ** остроконе́чный.
**ДЗЮГО́НЬ** *м. зоол.* дюго́нь.
**ДЗЮ́КЕР** *м. тех.* дю́кер.
**ДЗЮ́НА** *ж.* дю́на.
**ДЗЮНКЕ́РК** *м. г.* Дюнке́рк.
**ДЗЮНКЕ́РКСКІ** дюнке́ркский.
**ДЗЮ́ННЫ** дю́нный.
**ДЗЮРАЛЮМІ́НІЕВЫ** *хим., тех.* дюралюми́ниевый.
**ДЗЮРАЛЮМІ́НІЙ, -нію** *м. хим., тех.* дюралюми́ний.
**ДЗЮ́РКА** *ж. см.* **дзі́рка.**
**ДЗЮРЧА́ЦЬ** *несов. прост.* журча́ть.
**ДЗЮРЧЭ́ЦЬ** *несов. см.* **дзюрча́ць.**
**ДЗЮСЕЛЬДО́РФ** *м. г.* Дюссельдо́рф.
**ДЗЮСЕЛЬДО́РФСКІ** дюссельдо́рфский.
**ДЗЮШЭ́С, -су** *м. сад.* дюше́с.
**ДЗЯБЁЛАСЦЬ** *ж. разг.* **1.** полнота́, пло́тность, дебе́лость; **2.** пло́тность, толщина́; **1, 2** *см.* **дзябёлы.**
**ДЗЯБЁЛЫ** *разг.* **1.** по́лный, пло́тный, дебе́лый; **2.** (*о ткани*) пло́тный, то́лстый.
**ДЗЯВА́ЦЦА** *несов. разг.* дева́ться.
**ДЗЯВА́ЦЬ** *несов. разг.* дева́ть; *см.* **дзець.**
**ДЗЯВО́ЦКАСЦЬ** *ж. см.* **дзяво́цтва.**
**ДЗЯВО́ЦКІ** де́вичий, деви́ческий; **дз. го́нар** де́ви́чья (деви́ческая) честь; **~кія ўбо́ры** де́ви́чьи (деви́ческие) наря́ды.
**ДЗЯВО́ЦТВА** *ср.* деви́чество.
**ДЗЯВО́ЧАСЦЬ** *ж.* де́вственность.
**ДЗЯВО́ЧЫ** де́ви́чий; **~чае про́звішча** де́ви́чья фами́лия.
**ДЗЯВУ́ХА** *ж. прост.* де́вка.
**ДЗЯ́ГА** *ж.* реме́нь *м.* (*поясной*).
**ДЗЯ́ГІЛЬ, -лю** *м. бот.* дя́гиль.
**ДЗЯГЦЯ́Р,** *род.* **дзегцяра́** *м.* дегтя́рник.
**ДЗЯГЦЯ́РКА** *ж.* **1.** (*о женщине*) дегтя́рница; **2.** (*посуда для дёгтя*) дегтя́рница, мазни́ца.
**ДЗЯГЦЯ́РНЫ** дегтя́рный.
**ДЗЯГЦЯ́РНЯ** *ж.* дегтя́рня.
**ДЗЯГЦЯ́РСТВА** *ср.* вы́гонка *ж.* дёгтя.
**ДЗЯ́ДЗЕЧКА** *м. разг. ласк.* дя́денька, дя́дечка.
**ДЗЯ́ДЗІНА** *ж.* (*жена дяди*) тётка.
**ДЗЯДЗІ́НЕЦ, -нца** *м.* **1.** па́перть *ж.*; **2.** *обл.* большо́й двор.
**ДЗЯ́ДЗЬКА** *м.* **1.** (*родственник*) дя́дя, дя́дюшка; **2.** (*при обращении*) дя́дя, дя́денька; **3.** (*взрослый мужчина*) дя́дя; **4.** *уст.* (*слуга*) дя́дька; ✧ **і кві́та, дз. Мікі́та** и всё тут; и никаки́х; **до́бры дз.** *ирон.* благоде́тель.
**ДЗЯ́ДЗЬКАЎ 1.** дя́ди, дя́дин; **дз. дом** дом дя́ди, дя́дин дом; **2.** *уст.* дя́дькин; **1, 2** *см.* **дзя́дзька 1, 4.**
**ДЗЯДО́К, -дка́** *м.* **1.** старичо́к; **2.** *стр.* соха́ *ж.*; **3.** *обл. уст.* свете́ц.
**ДЗЯДО́ЎНІК, -ку** *м. бот.* тата́рник; репе́йник, репе́й.
**ДЗЯДО́ЎСКІ** старико́вский.
**ДЗЯДУ́ЛЯ** *м. разг. ласк.* де́душка, деду́ля.
**ДЗЯДУ́НЯ** *м. разг. ласк.* де́душка, деду́ля.
**ДЗЯДУ́СЯ** *м. разг. ласк.* де́душка, деду́ля.
**ДЗЯДЫ I** *мн.* **1.** де́ды, пре́дки; **2.** *рел.* роди́тельская суббо́та.
**ДЗЯДЫ II** *мн. бот.* тата́рник *м.*; репе́й *м.* (*головки*).
**ДЗЯЖА́** *ж.* квашня́, дежа́, ка́дка.
**ДЗЯЖНЁВА МЫС** мыс Дежнёва.
**ДЗЯЖУ́РКА** *ж. разг.* (*комната*) дежу́рка.
**ДЗЯЖУ́РНАЯ** *сущ.* дежу́рная; **дз. па ку́хні** дежу́рная по ку́хне.
**ДЗЯЖУ́РНЫ 1.** *прил.* дежу́рный; **2.** *в знач. сущ.* дежу́рный; **3.** *в знач. сущ.* (*о помещении*) дежу́рная.
**ДЗЯЖУ́РСТВА** *ср.* дежу́рство.
**ДЗЯЖУ́РЫЦЬ** *несов.* дежу́рить.

**ДЗЯК,** *род.* **дзяка́** *м.* **1.** *ист.* дьяк; **2.** дьяк, пономáрь, дьячóк.

**ДЗЯ́КАВАЦЬ** (*каму*) *несов.* благодарить (*кого*).

**ДЗЯКО́ВІЧ** *м. разг.* сын дьячкá.

**ДЗЯКО́ЎНА** *ж. разг.* дочь дьячкá.

**ДЗЯ́КУЙ 1.** *частица* благодарю, спасибо; **дз. (табé, вам)** благодарю (тебя, вас), спасибо (тебé, вам); **2.** *в знач. сказ.* спасибо; **дз. тавáрышам, што дапамаглí** спасибо товáрищам, что помогли; **3.** *в знач. сущ.* спасибо; **вялíкае дз.** большóе спасибо; ✧ **дз. не скáжуць** спасибо не скáжут; **дз. табé за лáску** *ирон.* благодарю покóрно.

**ДЗЯ́КУЮЧЫ 1.** *деепр.* благодаря; **2.** *предлог с дат.* благодаря; **дз. вы́падку** благодаря слу́чаю.

**ДЗЯЛЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* делéние; (*на члены — ещё*) членéние; **дз. на чáсткі** делéние на чáсти; **зрабíць дз. трохчлéна на двухчлéн** произвести делéние трёхчлéна на двучлéн; **аснóва ∼ння** основáние делéния; **дз. клéткі** делéние клéтки; **нанéсці ∼нні** нанести делéния; ✧ **залатóе дз.** *мат.* золотóе сечéние.

**ДЗЯЛÍЛЬНЫ** *спец.* делительный; **∼ная машы́на** делительная машина.

**ДЗЯЛÍМАЕ** *сущ. мат.* делимое.

**ДЗЯЛÍМАСЦЬ** *ж. мат.* делимость.

**ДЗЯЛÍЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* делиться; (*з кім-чым чым — ещё*) посвящáть (*кого-что во что*); **дз. апóшнім кавáлкам хлéба** делиться послéдним кускóм хлéба; **сям'я́ началá дз.** семья началá делиться; **цóтныя лíкі дзéляцца на два** чётные числа дéлятся нá два; **дз. з тавáрышам сваíмі плáнамі** делиться с товáрищем своими плáнами; посвящáть товáрища в свой плáны; **2.** *страд.* делиться; *см.* **дзялíць.**

**ДЗЯЛÍЦЬ** *несов. в разн. знач.* делить; **дз. парóўну** делить пóровну; **тавáрышы ∼лілі ўсё папалáм** товáрищи делили всё пополáм; **дз. дроб на дроб** делить дробь на дробь.

**ДЗЯЛÍЦЬБА** *ж. см.* **дзяльба́.**

**ДЗЯЛО́К, -лка́** *м. неодобр.* делéц.

**ДЗЯЛЬБА́** *ж.* делёж *м.*, делёжка; (*имущества*) раздéл *м.*

**ДЗЯЛЯ́ГА** *м. разг. неодобр.* деляга.

**ДЗЯЛЯ́НКА** *ж.* **1.** (*участок земли, леса и т. п.*) делянка; **2.** (*участок земли под лесом*) дáча; **3.** (*то, что получено при дележе*) часть, дóля.

**ДЗЯЛЯ́ЦКІ** делячéский.

**ДЗЯЛЯ́ЦТВА** *ср.* делячество.

**ДЗЯНШЧЫ́К, -кá** *м. дорев.* денщик.

**ДЗЯРЖА́ВА** *ж.* **1.** госудáрство *ср.*, держáва; **Вялíкая Савéцкая дз.** Великая Совéтская держáва; **пралетáрская дз.** пролетáрское госудáрство; **капіталісты́чная дз.** капиталистическое госудáрство; **2.** *ист.* (*эмблема власти монарха*) держáва.

**ДЗЯРЖА́ЛЬНА** *ср. см.* **дзяржáнне.**

**ДЗЯРЖА́ННЕ** *ср.* черенóк *м.*, рукоятка *ж.*, ру́чка *ж.*; (*у весла*) валёк *м.*

**ДЗЯРЖАПАРА́Т, -ту** *м.* **(дзяржáўны апарáт)** госаппарáт (госудáрственный аппарáт).

**ДЗЯРЖА́ЎНАСЦЬ** *ж.* госудáрственность.

**ДЗЯРЖА́ЎНЫ 1.** госудáрственный; **дз. герб (флаг)** госудáрственный герб (флаг); **∼ная мóва** госудáрственный язы́к; **∼ная тáйна** госудáрственная тáйна; **2.** *уст.* (*обладающий верховной властью*) держáвный.

**ДЗЯРЖБА́НК** *м.* **(Дзяржáўны банк)** Госбáнк (Госудáрственный банк).

**ДЗЯРЖБЮДЖЭ́Т, -ту** *м.* **(дзяржáўны бюджэ́т)** госбюджéт (госудáрственный бюджéт).

**ДЗЯРЖГА́НДАЛЬ, -длю** *м.* **(дзяржáўны гáндаль)** госторгóвля *ж.* (госудáрственная торгóвля).

**ДЗЯРЖЗАБЕСПЯЧЭ́ННЕ** *ср.* **(дзяржáўнае забеспячэ́нне)** госснабжéние (госудáрственное снабжéние).

**ДЗЯРЖЗНА́К** *м.* **(Дзяржáўнае кіраўнíцтва па вы́пуску грашóвых знáкаў)** Гознáк (Госудáрственное управлéние по вы́пуску дéнежных знáков).

**ДЗЯРЖКРЭДЫ́Т, -ту** *м.* **(дзяржáўны крэды́т)** госкредит (госудáрственный кредит).

**ДЗЯРЖПАЗЫ́КА** *ж.* **(дзяржáўная пазы́ка)** госзаём *м.* (госудáрственный заём).

**ДЗЯРЖПЛА́Н** *м.* **(Дзяржáўны плáнавы камітэ́т)** Госплáн (Госудáрственный плáновый комитéт).

**ДЗЯРЖПРАДПРЫЁМСТВА** *ср.* **(дзяржáўнае прадпрыёмства)** госпредприятие (госудáрственное предприятие).

**ДЗЯРЖПРАМЫСЛО́ВАСЦЬ** *ж.* **(дзяржáўная прамыслóвасць)** госпромы́шленность (госудáрственная промы́шленность).

**ДЗЯРЖСТРА́Х** *м.* **(дзяржáўнае страхавáнне)** госстрáх (госудáрственное страховáние).

**ДЗЯРЖФО́НД, -ду** *м.* **(дзяржáўны фонд)** госфóнд (госудáрственный фонд).

**ДЗЯРЖЫДРЭ́ВА** *ср. бот.* держидéрево.

**ДЗЯРЖЫМО́РДА** *м. разг. презр.* держимóрда.

**ДЗЯРЖЫ́НСК** *м. г.* Дзержинск.

**ДЗЯРЖЫ́НСКІ РАЁН** Дзержинский райóн.

**ДЗЯРКА́Ч,** *род.* **дзеркачá** *м.* (*веник*) голик.

**ДЗЯРНÍНА** *ж.* (*кусок дёрна*) дернина.

**ДЗЯРНÍСТЫ** дернистый.

**ДЗЯРНО́ВЫ** дернóвый.

**ДЗЯРУ́ГА** *ж. разг.* (*холст*) дерюга.

**ДЗЯРУ́ЖКА** *ж.* дерюжка.

**ДЗЯРУ́ЖНЫ** *разг.* дерюжный.

**ДЗЯРЭ́ГА** *ж. бот. обл.* зубчáтка.

**ДЗЯ́СЕННЫ** *анат.* дёсенный.

**ДЗЯСНА́** *ж. анат.* деснá.

**ДЗЯСНА́** *ж. р.* Деснá.

**ДЗЯТВА́** I *собир. ж. пчел.* детвá.

**ДЗЯТВА́** II *собир. ж. разг.* детворá.

**ДЗЯ́ТЛАВА** *ср. гп.* Дятлово.

**ДЗЯ́ТЛАВЫ** дятловый.

**ДЗЯ́ТЛАЎСКІ РАЁН** Дятловский райóн.

**ДЗЯЎБА́ННЕ** *ср.* **1.** клевáние; **2.** долблéние; **1, 2** *см.* **дзяўбцí** 1, 2.

**ДЗЯЎБА́ЦЬ** *несов. см.* **дзяўбцí** 1, 2.

**ДЗЯЎБЦÍ** *несов.* **1.** (*о птицах*) клевáть; **дз. корм** клевáть корм; **2.** (*делать углубление ударами*) долбить; **нéдзе ўвéрсе дзя́цел дзёўб кару́** где-то вверху дятел долбил кору́; **3.** *перен. разг.* (*говорить одно и то же*) долбить; **4.** *перен. прост.* болтáть ерунду́ (вздор, глу́пости).

**ДЗЯЎБЦÍСЯ** *несов.* **1.** *разг.* клевáться; **2.** *страд.* долбиться.

**ДЗЯ́ЎКАННЕ** *ср. разг.* тя́вканье.

**ДЗЯ́ЎКАЦЬ** *несов. разг.* тя́вкать.

**ДЗЯ́ЎКНУЦЬ** *сов. однокр. разг.* тя́вкнуть.

**ДЗЯЎЧА́ТЫ** *мн.* дéвушки, дéвочки, девчáта.

**ДЗЯЎЧО́, -чáці** *ср. разг. пренебр.* девчóнка *ж.*

**ДЗЯЎЧЫ́НА,** *мн.* **дзяўчáты** *ж.* дéвушка, девица.

**ДЗЯЎЧЫ́НКА** *ж.* дéвочка.

**ДЗЯ́ЦЕЛ,** *род.* **дзя́тла** *м.* дятел.

**ДЗЯ́ЦЕЛІНА** *ж.* (*дикий клевер*) кáшка.

**ДЗЯ́ЦЕЛЬНІК** *м. см.* **дзя́целіна.**

**ДЗЯЦÍНЕЦ, -нца** *м. обл.* (*детская болезнь*) родимчик.

**ДЗЯЦÍНЕЦЬ** *несов. разг.* впадáть в дéтство.

**ДЗЯЦÍНІЦЦА** *несов. разг.* ребя́читься.

**ДЗЯЦÍНСТВА** *ср.* **1.** дéтство; **2.** *разг.* ребя́чество; **ён трымáўся сур'ёзна і не мог дазвóліць сабé такóга дз.** он держáлся серьёзно и не мог позвóлить себé такóго ребя́чества.

**ДЗЯЦÍНЫ** дéтский, ребя́ческий.

**ДЗЯЦЮ́К,** *род.* **дзецюкá** *м.* **1.** молодóй пáрень; **2.** *прост.* кавалéр, ухажёр.

**ДЗЯЧО́К, -чка́** *м.* дьячо́к, понома́рь, приче́тник.
**ДЗЯЧЫ́ХА** *ж. разг.* дьячи́ха.
**ДЗЯЯ́ЧКА** *ж.* де́ятельница.
**ДЛУ́БАННЕ** *ср. обл.* колупа́ние, ковыря́ние.
**ДЛУ́БАЦЦА** *несов. обл.* (*делать что-л. медленно*) ковыря́ться.
**ДЛУ́БАЦЬ** *несов. обл.* колупа́ть, ковыря́ть.
**ДЛЯ** *предлог с род.* для; **падару́нкі д. дзяце́й** пода́рки для дете́й; **ме́сца д. стая́нкі** ме́сто для стоя́нки; **непраніка́льна д. вады́** непроница́емо для воды́; **мяшо́к д. бу́льбы** мешо́к для карто́феля; **д. яго́ гэ́та лёгкая спра́ва** для него́ э́то лёгкое де́ло; **ён до́бра разві́ты д. свайго́ ўзро́сту** он хорошо́ ра́звит для своего́ во́зраста; **д. чаго́?** для чего́?; **д. та́го, каб...** для того́, что́бы...
**ДНЕПРАДЗЯРЖЫ́НСК** *м. г.* Днепродзержи́нск.
**ДНЕПРАПЯТРО́ЎСК** *м. г.* Днепропетро́вск.
**ДНЕПРАПЯТРО́ЎСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ** Днепропетро́вская о́бласть.
**ДНЕСТР** *м. р.* Днестр.
**ДНЕЦЬ** *несов. безл.* бре́зжить, света́ть, рассвета́ть; **ужо́ дне́е** уже́ света́ет.
**ДНЁМ** *нареч.* днём.
**ДНЁЎКА** *ж.* днёвка.
**ДНІ́ШЧА** *ср.* дни́ще.
**ДНО,** *род.* **дна,** *мн.,* **дны,** *род.* **дноў** *ср.*; *в разн. знач.* дно; (*у бочки — ещё*) дни́ще; **д. мо́ра** дно мо́ря; **д. буте́лькі** дно буты́лки; ◇ **на дне** на дне; **апусці́цца на д.** опусти́ться на дно; **ісці́ на д.** идти́ ко дну; **перавярну́ць што-не́будзь уве́рх дном** переверну́ть что́-л. вверх дном (кве́рху дном).
**ДНОАЧЫШЧА́ЛЬНЫ** дноочисти́тельный.
**ДНОПАГЛЫБНІ́К** *м. тех.* дноуглуби́тель.
**ДНОПАГЛЫ́БНЫ** дноуглуби́тельный.
**ДНЯВА́ЛІЦЬ** *несов. воен. разг.* днева́лить.
**ДНЯВА́ЛЬНЫ** *сущ. воен.* днева́льный.
**ДНЯВА́ЦЬ** *несов. разг.* днева́ть; ◇ **д. і начава́ць дзе-не́будзь** днева́ть и ночева́ть где́-л.
**ДНЯ́МІ** *нареч.* (*обыкновенно в сочетании с мест.* **гэ́тымі**) на днях; **гэ́тымі д. быў я ў го́радзе** на днях был я в го́роде.
**ДНЯПРО́** *м. р.* Днепр.
**ДНЯПРО́ЎСКІ** днепро́вский.
**ДНЯСТРО́ЎСКІ** днестро́вский.
**ДО** *нескл. ср. муз.* (*нота*) до; **ве́рхняе до** ве́рхнее до.
**ДО́БЕРМАН-ПІ́НЧЭР** *м.* (*порода собак*) доберма́н-пи́нчер.
**ДО́БЛЕСНЫ** до́блестный; **~ная пра́ца** до́блестный труд.
**ДО́БЛЕСЦЬ** *ж.* до́блесть.
**ДО́БРА 1.** *нареч.* хорошо́; **д. працу́е** хорошо́ рабо́тает; **д. апрана́цца** хорошо́ одева́ться; **д. пашы́ты касцю́м** хорошо́ сши́тый костю́м; **2.** *нареч.* как сле́дует, хорошо́, хороше́нько; **зачыні́ць д. дзве́ры** закры́ть хороше́нько (хорошо́) дверь; **д. ўсы́паць** хороше́нько (как сле́дует) всы́пать; **3.** *нареч.* (*удачно*) благоприя́тно, благополу́чно; **абста́віны склалі́ся д.** обстоя́тельства сложи́лись благоприя́тно; **усё абышло́ся д.** всё обошло́сь благополу́чно; **4.** *нареч.* изря́дно, прили́чно; **д. пад'е́сці** изря́дно (прили́чно) закуси́ть; **5.** *нареч.* хорошо́, благоскло́нно; **д. аднясці́ся да каго́-чаго́** хорошо́ (благоскло́нно) отнести́сь к кому́-чему́; **6.** *в знач. сказ. с инф.* хорошо́; **д. табе́ гавары́ць** хорошо́ тебе́ говори́ть; **7.** *в знач. безл. сказ.* хорошо́; **д. на ву́ліцы** хорошо́ на у́лице; **8.** *в знач. сказ. с союзами* **што, як** хорошо́; бла́го; **д., што ты прыйшо́ў** хорошо́, что ты́ пришёл; бла́го ты пришёл; **9.** *частица* (*выражение согласия*) хорошо́, ла́дно, прекра́сно, отли́чно, добро́.
**ДОБРААХВО́ТНА** *нареч.* доброво́льно.
**ДОБРААХВО́ТНАСЦЬ** *ж.* доброво́льность.
**ДОБРААХВО́ТНІК** *м.* доброво́лец.
**ДОБРААХВО́ТНІЦКІ** доброво́льческий.
**ДОБРААХВО́ТНІЦТВА** *ср.* доброво́льчество.
**ДОБРААХВО́ТНЫ** доброво́льный.
**ДО́БРАЕ** *сущ.* хоро́шее; пу́тное.
**ДОБРАЗЫЧЛІ́ВА** *нареч.* благожела́тельно, доброжела́тельно.
**ДОБРАЗЫЧЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* благожела́тельность, доброжела́тельность.
**ДОБРАЗЫЧЛІ́ВЕЦ, -лі́ўца** *м.* благожела́тель, доброжела́тель.
**ДОБРАЗЫЧЛІ́ВЫ** благожела́тельный, доброжела́тельный.
**ДОБРАНАДЗЕ́ЙНАСЦЬ** *ж. уст.* благонадёжность.
**ДОБРАНАДЗЕ́ЙНЫ** *уст.* благонадёжный.
**ДОБРАНАМЕ́РНАСЦЬ** *ж. уст.* благонадёжность, благонаме́ренность.
**ДОБРАНАМЕ́РНЫ** *уст.* благонадёжный, благонаме́ренный.
**ДО́БРАНЬКА** *нареч. разг.* **1.** (*выражение согласия, одобрения*) ла́дно; о́чень хорошо́; **2.** хороше́нько.
**ДО́БРАНЬКІ** *разг. чаще ирон.* **1.** до́бренький; **2.** хоро́ший, хоро́ш; **~кія жа́рцікі** хоро́ши шу́тки.
**ДОБРАПРЫСТО́ЙНА** *нареч.* благопристо́йно; благови́дно.
**ДОБРАПРЫСТО́ЙНАСЦЬ** *ж.* благопристо́йность; благови́дность.
**ДОБРАПРЫСТО́ЙНЫ** благопристо́йный; благови́дный.
**ДОБРАСАРДЭ́ЧНАСЦЬ** *ж.* добросерде́чие *ср.*, добросерде́чность.
**ДОБРАСАРДЭ́ЧНЫ** добросерде́чный.
**ДОБРАСУМЛЕ́ННА** *нареч.* добросо́вестно.
**ДОБРАСУМЛЕ́ННАСЦЬ** *ж.* добросо́вестность.
**ДОБРАСУМЛЕ́ННЫ** добросо́вестный.
**ДОБРАСУСЕ́ДСКІ** добрососе́дский.
**ДО́БРАСЦЬ** *ж. разг.* доброта́.
**ДОБРАЎПАРА́ДКАВАНАСЦЬ** *ж.* благоустро́енность.
**ДОБРАЎПАРА́ДКАВАННЕ** *ср.* благоустро́йство.
**ДОБРАЎПАРА́ДКАВАНЫ** благоустро́енный.
**ДОБРАЎПАРА́ДКАВАЦЬ** *сов.* благоустро́ить.
**ДОБРАЎПАРАДКО́ЎВАЦЬ** *несов.* благоустра́ивать.
**ДО́БРУШ** *м. г.* До́бруш.
**ДО́БРУШСКІ РАЁН** До́брушский райо́н.
**ДО́БРЫ 1.** хоро́ший; **д. настро́й** хоро́шее настрое́ние; **~рыя ве́сткі** хоро́шие ве́сти; **~рая кні́га** хоро́шая кни́га; **2.** (*чуткий, отзывчивый*) до́брый; **3.** (*содержащий похвалу*) хоро́ший, ле́стный; **д. во́дзыў** хоро́ший (ле́стный) о́тзыв; **4.** (*довольно большой*) изря́дный, прили́чный, поря́дочный; **~рая су́ма** изря́дная (прили́чная, поря́дочная) су́мма; **5.** (*благоприятный*) хоро́ший, благотво́рный; **д. ўплыў** хоро́шее (благотво́рное) влия́ние; **6.** (*удачный*) благополу́чный; **д. вы́нік** благополу́чный результа́т; **7.** съедо́бный; **д. грыб** съедо́бный гриб; **8.** (*приносящий благо*) благода́тный; **д. клі́мат** благода́тный кли́мат; **9.** (*близкий*) хоро́ший, до́брый; **д. знаёмы** до́брый знако́мый; **10.** (*о стороне материи*) лицево́й; ◇ **д. ве́чар!** до́брый ве́чер!; **д. дзень!** до́брый день!, здра́вствуй(те)!; **~рай но́чы!** до́брой (споко́йной) но́чи!; **усяго́ ~рага!** всего́ до́брого (хоро́шего)!; **д. інтэ́рас!** *ирон.* хоро́шенькое де́ло!; **чаго́ ~рага** чего́ до́брого, не ровён час; **па ~раму** а) по-хоро́шему; б) *фам.* подобру́-поздоро́ву; **~рага патро́шку** *ирон.* хоро́шего понемно́жку; **лю́дзі ~рыя** честно́й наро́д; лю́ди до́брые; **у д. час** в до́брый час; **па ~рай во́лі** по до́брой во́ле; **твая́ (яго́ і г. д.) ~рая во́ля** твоя́ (его́ и т. д.) до́брая во́ля.
**ДО́ВАД** *м. см.* **до́каз.**
**ДОГ** *м.* (*порода собак*) дог.
**ДО́ГЛЯД, -ду** *м.* (*забота, попечение*) ухо́д; (*надзор*) присмо́тр.

**ДО́ГМА** *ж.* до́гма.
**ДО́ГМАТ, -ту** *м.* до́гмат.
**ДО́ЕНЫ** до́енный.
**ДОЖ** *м. ист.* дож.
**ДОЖДЖ,** *род.* **дажджу́** *м.* дождь.
**ДО́ЗА** *ж. прям., перен.* до́за.
**ДО́ЙКА** *ж.* (*действие*) до́йка, доéние *ср.*
**ДО́ЙЛА** *ср. прост.* **1.** вы́мя; **2.** *перен. презр.* мотня́ *ж.*
**ДО́ЙЛІД** *м. уст.* зо́дчий.
**ДО́ЙЛІДНЫ** *уст.* зо́дческий.
**ДО́ЙЛІДСТВА** *ср. уст.* зо́дчество.
**ДО́ЙНЫ** до́йный; **~ная каро́ва** *прям., перен.* до́йная коро́ва.
**ДО́ЙШЧЫК** *м.* дойльщик, доя́р.
**ДО́ЙШЧЫЦА** *ж.* дойльщица, доя́рка.
**ДОК** *м. мор.* док.
**ДО́КАВЫ** *мор.* до́ковый.
**ДО́КАЗ, -зу** *м.* **1.** до́вод; доказа́тельство *ср.*; **2.** доказа́тельство *ср.*; свиде́тельство *ср.*
**ДО́КАЗНАСЦЬ** *ж.* доказа́тельность.
**ДО́КАЗНЫ** **1.** доказу́емый; **2.** (*убедительный*) доказа́тельный; **3.** *юр.* доказа́тельный,ули́ковый.
**ДО́КЕР** *м.* до́кер.
**ДО́КТАР** *м.* **1.** до́ктор, врач; **2.** (*учёная степень*) до́ктор.
**ДО́КТАРСКІ** **1.** до́кторский, враче́бный; **2.** до́кторский; 1, 2 *см.* **до́ктар.**
**ДО́КТАРСТВА** *ср.* до́кторство.
**ДО́КТАРЫХА** *ж. разг.* (*жена доктора*) до́кторша.
**ДО́КШЫЦКІ РАЁН** До́кшицкий райо́н.
**ДО́КШЫЦЫ** *г.* До́кшицы.
**ДОЛ,** *род.* **до́лу** *м.* **1.** низ; земля́ *ж.*; **2.** *разг.* моги́ла *ж.* (*открытая*); **капа́ць д.** копа́ть моги́лу.
**ДО́ЛАМ** *нареч.* ни́зом.
**ДО́ЛАР** *м.* до́ллар.
**ДО́ЛАРАВЫ** до́лларовый.
**ДО́ЛАТА** *ср.* долото́; стаме́ска *ж.*
**ДО́ЛАТАВЫ** стаме́сочный.
**ДОЛАТАПАДО́БНЫ** долотообра́зный.
**ДО́ЛЕ** *нареч. разг.* на земле́; на полу́.
**ДО́ЛЕВЫ** (*являющийся долею*) долево́й; **~выя адлічэ́нні** долевы́е отчисле́ния.
**ДО́ЛЕЧКА** *ж. фольк.* до́люшка.
**ДО́ЛЬКА** *ж. уменьш.* до́лька; **апельсі́навая д.** апельси́нная до́лька.
**ДО́ЛЬНІК** I *м.* (*стихотворный размер*) до́льник.
**ДО́ЛЬНІК** II *м. уст.* (*участник в доле*) до́льщик.
**ДО́ЛЬЧАТЫ** *разг.* до́льчатый.
**ДО́ЛЮХНА** *ж. фольк.* до́люшка.
**ДО́ЛЯ** *ж.* **1.** (*часть*) до́ля; **2.** до́ля, у́часть, судьба́, уде́л *м.*; **3.** *ист.* (*единица веса*) до́ля; ✧ **ільві́ная д.** льви́ная до́ля.
**ДОМ** *м.* **1.** *род.* **до́ма** дом; **но́вы дом** но́вый дом; **д. адпачы́нку** дом о́тдыха; **дзіця́чы д.** де́тский дом; **Д. кні́гі** Дом кни́ги; **гандлёвы д.** торго́вый дом; **2.** *род.* **до́му** (*жильё*) дом; **званілі з до́му** звони́ли и́з дому; **вы́гнаць з до́му** вы́гнать и́з дому; **3.** *род.* **до́му** (*династия, род*) дом.
**ДО́МА** *нареч.* до́ма, на дому́; **вечара́мі я заўсёды д.** вечера́ми я всегда́ до́ма; **д. ён сябе́ трыма́е зусі́м іна́кш** до́ма он де́ржит себя́ совсе́м ина́че; **у нас д. ўжо касьба́ пачала́ся** у нас до́ма уже́ сеноко́с начался́; **ура́ч прыма́е д.** врач принима́ет на дому́; ✧ **не ўсе д.** не все до́ма; **адчува́ць сябе́ як д.** чу́вствовать себя́ как до́ма; **ні д., ні за́мужам** (*в неопределённом положении*) ни до́ма, ни за́мужем; **у гасця́х до́бра, а д. лепш** *посл.* в гостя́х хорошо́, а до́ма лу́чше.
**ДОМАКІРАЎНІ́К, -ка́** *м.* управдо́м.
**ДОМАКІРАЎНІ́ЦТВА** *ср.* домоуправле́ние.
**ДОМАЎЛАДА́ЛЬНІК** *м.* домовладе́лец.
**ДОМАЎЛАДА́ЛЬНІЦА** *ж.* домовладе́лица.
**ДОМАЎЛАДА́ЛЬНІЦКІ** домовладе́льческий.
**ДОМАЎЛАДА́ННЕ** *ср.* домовладе́ние.
**ДОМАЎЛА́СНІК** *м.* домовладе́лец.
**ДОМАЎЛА́СНІЦА** *ж.* домовладе́лица.
**ДОМАЎЛА́СНІЦКІ** домовладе́льческий.
**ДОМАЎПАРАДКАВА́ННЕ** *ср.* домоустро́йство.
**ДО́МБРА** *и* **ДАМБРА́** *ж. муз.* до́мбра.
**ДО́МЕННЫ** *тех.* до́менный; **~нная печ** до́менная печь.
**ДО́МЕНШЧЫК** *м.* до́менщик.
**ДО́МНА** *ж. тех.* до́мна.
**ДО́МРА** *ж. муз.* до́мра.
**ДО́МРАВЫ** *муз.* до́мровый.
**ДО́МЫСЕЛ, -слу** *м.* до́мысел, до́мысл.
**ДОН** *м. р.* Дон.
**ДО́НАР** *м.* до́нор.
**ДО́НАРСКІ** до́норский.
**ДО́НАРСТВА** *ср.* до́норство.
**ДОНЖУА́Н** *м. ирон.* донжуа́н.
**ДОНЖУА́НСКІ** *ирон.* донжуа́нский.
**ДОНЖУА́НСТВА** *ср. ирон.* донжуа́нство.
**ДОНКІХО́Т** *м. ирон.* донкихо́т.
**ДОНКІХО́ЦКІ** *ирон.* донкихо́тский.
**ДОНКІХО́ЦТВА** *ср. ирон.* донкихо́тство.
**ДО́ННА** *ж.* до́нна.
**ДО́ННЫ** до́нный; **~нная ву́да** *рыб.* до́нная у́дочка.
**ДО́НЦА** *ср. уменьш.* до́нце, до́нышко.
**ДО́НЬКА** *ж. см.* **до́ня.**
**ДО́НЯ** *и* **ДО́НЬКА** *ж. разг. ласк.* до́ченька, до́чка.
**ДО́ПІНГ, -гу** *м.* до́пинг.
**ДО́ПІС, -су** *м.* корреспонде́нция *ж.*, заме́тка *ж.*; **селько́раўскі д.** селько́ровская корреспонде́нция (заме́тка).
**ДО́ПУСК, -ку** *м. в разн. знач.* до́пуск; **гэ́тыя дэта́лі зро́блены з неабхо́дным ~кам** э́ти дета́ли сде́ланы с необходи́мым до́пуском; **мець д. да хво́рага** име́ть до́пуск к больно́му.
**ДО́ПЫТ, -ту** *м.* допро́с, опро́с.
**ДО́ПЫТНЫ** **1.** *прил.* допро́сный; **2.** *в знач. сущ.* (*человек, которого допрашивают*) допра́шиваемый.
**ДО́РАГА** *нареч. прям., перен.* до́рого; **д. даць** до́рого дать; **по́спех д. яму́ каштава́ў** успе́х до́рого ему́ сто́ил.
**ДО́РАНЫ** *и* **ДАРО́НЫ** дарёный; жа́лованный; ✧ **~наму каню́ ў зу́бы не глядзя́ць** *посл.* дарёному коню́ в зу́бы не смо́трят.
**ДО́РТМУНД** *м. г.* До́ртмунд.
**ДО́РТМУНДСКІ** до́ртмундский.
**ДО́СВЕТА** *нареч.* до рассве́та.
**ДО́СВІТАК, -тку** *м.* рассве́т; **на ~тку** *прям., перен.* на рассве́те.
**ДО́СВІТКАМ** *нареч.* на рассве́те.
**ДО́СВІТНЫ** *разг.* предрассве́тный.
**ДО́СЛЕД, -ду** *м.* **1.** (*научное сочинение*) иссле́дование *ср.*; **2.** о́пыт (*исследовательский*).
**ДО́СЛЕДНА-ПАКАЗА́ЛЬНЫ** о́пытно-показа́тельный.
**ДО́СЛЕДНЫ** (*служащий для производства опытов*) о́пытный; (*об объекте для опытов — ещё*) подо́пытный; **~ная жывёліна** о́пытное (подо́пытное) живо́тное; **~нае по́ле** о́пытное по́ле.
**ДО́СТУП, -пу** *м. в разн. знач.* до́ступ.
**ДО́СУХА** *нареч. см.* **дасу́ха.**
**ДО́СЦІП, -пу** *м.* **1.** (*остроумное выражение*) остро́та *ж.*; **2.** остроу́мие *ср.*
**ДОСЦЬ** *нареч. прост.* доста́точно, дово́льно, вво́лю, вдо́воль.
**ДО́СЫЦЬ** *нареч.* **1.** (*в достаточном количестве*) доста́точно, дово́льно, вво́лю, вдо́воль; **2.** (*в значении приказания, предложения*) доста́точно, дово́льно, хва́тит, по́лно.
**ДОТ** *м. воен.* (**даўгача́сны агнявы́ пункт**) дот (долговре́менная огнева́я то́чка).

**ДО́ТЫК, -ку** *м.* 1. (*действие*) прикаса́ние *ср.*, каса́ние *ср.*; 2. (*состояние*) соприкоснове́ние *ср.*; 3. осяза́ние *ср.*
**ДО́ТЫКАВЫ** осяза́тельный.
**ДО́ЎБНЯ** *ж.* 1. *уст.* (*молот*) балда́; 2. (*орудие для убоя скота*) бойни́ца; 3. *разг. бран.* (*глупый человек*) балда́ *м. и ж.*, обалду́й *м.*, чурба́н *м.*
**ДОЎГ,** *род.* **до́ўгу** *м.* (*взятое взаймы*) долг; **вярну́ць д.** возврати́ть долг; ✧ **не заста́цца ў даўгу́** не оста́ться в долгу́; **у даўгу́ як у шаўку́** *погов.* в долгу́ как в шелку́.
**ДО́ЎГА** *нареч.* 1. дли́нно; 2. до́лго, продолжи́тельно; подо́лгу.
**ДОЎГАБАРО́ДЫ** длиннборо́дый.
**ДОЎГАВАЛАКНІ́СТЫ** длинноволокни́стый.
**ДОЎГАВАЛО́СЫ** длинноволо́сый.
**ДОЎГАГАЛО́ВАСЦЬ** *ж. антр.* длинноголо́вость.
**ДОЎГАГАЛО́ВЫ** длинноголо́вый
**ДОЎГАІГРА́ЮЧЫ** долгоигра́ющий.
**ДОЎГАТЭРМІНО́ВЫ** 1. долгосро́чный; 2. *см.* **даўгача́сны.**
**ДОЎГАЦЯРПЕ́ННЕ** *ср.* долготерпе́ние.
**ДОЎГАЦЯРПЛІ́ВАСЦЬ** *ж. уст.* долготерпе́ние *ср.*
**ДОЎГАЦЯРПЛІ́ВЫ** *уст.* долготерпели́вый.
**ДОЎГАЧАКА́НЫ** долгожда́нный.
**ДОЎГАЧАСО́ВЫ** *см.* **даўгача́сны.**
**ДО́ЎГІ** 1. дли́нный; **д. шлях** дли́нный путь; **~гая суке́нка** дли́нное пла́тье; 2. до́лгий, дли́тельный, продолжи́тельный; **д. час** до́лгое (продолжи́тельное) вре́мя; ✧ **д. язы́к** дли́нный язы́к.
**ДО́ЎЖЫЦЦА** *несов. разг.* дли́ться.
**ДО́ЎЖЫЦЬ** *несов. разг.* длить.
**ДО́ХЛЫ** 1. (*мёртвый — о животных*) до́хлый, околе́лый, околе́вший; 2. *прост.* (*хилый*) до́хлый.
**ДО́ХНУЦЬ** *несов. разг.* до́хнуть, издыха́ть, околева́ть, подыха́ть; (*о скоте — ещё*) па́дать.
**ДО́ЧУХНА** *ж. ласк.* (*только при обращении*) до́ченька.
**ДО́ШКА** *ж.* 1. *в разн. знач.* доска́; **сасно́вая д.** сосно́вая доска́; **чырво́ная д.** кра́сная доска́; **кла́сная д.** кла́ссная доска́; 2. *чаще мн.* (*материал для кровли*) тёс *м.*; ✧ **ад ~кі да ~кі** от доски́ до доски́, от ко́рки до ко́рки; **ста́віць на адну́ ~ку** ста́вить на одну́ до́ску.
**ДО́ШЧАЧКА** *ж. уменьш.* доще́чка.
**ДРАБАВІ́К, -ка́** *м. охот. разг.* дробови́к.
**ДРАБЁСТ, -ту** *собир. м. обл.* обрешётка *ж.*
**ДРАБІ́ЛКА** *ж.* дроби́лка.
**ДРАБІ́ЛЬНЫ** дроби́льный; **~ная машы́на** дроби́льная маши́на.
**ДРАБІ́ЛЬШЧЫК** *м.* дроби́льщик.
**ДРАБІ́НКА** *ж.* (*мельчайшая частица чего-л.*) крупи́нка.
**ДРАБІ́НКІ** I, **-нак** *ед. нет* ле́сенка (*приставная*), стремя́нка *ж.*
**ДРАБІ́НКІ** II, **-нак** *ед. нет* 1. *уменьш.* теле́жка *ж.*; 2. *разг.* (*в телеге*) переплёт *м.*; решётка *ж.*
**ДРАБІ́НЫ** I *ед. нет* ле́стница (*приставная*), стремя́нка *ж.*
**ДРАБІ́НЫ** II *ед. нет* 1. теле́га *ж.*; 2. *разг.* решётка *ж.* (*в телеге*).
**ДРАБІ́ЦЦА** *несов. возвр., страд. прям., перен.* дроби́ться.
**ДРАБІ́ЦЬ** *несов. прям., перен.* дроби́ть.
**ДРАБЛЕ́ННЕ** *ср. прям., перен.* дробле́ние.
**ДРАБЛЁНЫ** 1. *прич. прям., перен.* дроблённый; 2. *прил.* дроблёный.
**ДРАБНАВА́ТЫ** *разг.* мелкова́тый; *см.* **дро́бны** 1.
**ДРАБНАТА́** *собир. ж.* мелкота́.
**ДРАБНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* ме́льче; *см.* **дро́бна.**
**ДРАБНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* ме́льче; *см.* **дро́бны** 1.
**ДРАБНЕ́ННЕ** *ср.* измельче́ние.
**ДРАБНЕ́ЦЬ** *несов. прям., перен.* мельча́ть.
**ДРАБНІ́ЦА** *ж.* ме́лочь, пустя́к *м.*, ма́лость.
**ДРАБНІ́ЦЦА** *несов.* 1. измельча́ться, дроби́ться; 2. дроби́ться; 3. *страд.* измельча́ться; дроби́ться; *см.* **драбні́ць.**
**ДРАБНІ́ЦЬ** *несов.* 1. измельча́ть, мельчи́ть, дроби́ть; **д. друз** измельча́ть (мельчи́ть, дроби́ть) щё́бень; 2. дроби́ть; **д. сі́лы** дроби́ть си́лы.
**ДРАБНЮ́ТКІ** о́чень ме́лкий.
**ДРАБО́К, -бка́** *м.* кроха́ *ж.*, кусо́чек, крупи́нка *ж.*; **д. цу́кру** кусо́чек са́хару; **д. со́лі** крупи́нка со́ли.
**ДРА́БЫ** *ед. нет* 1. рёбра, ко́сти; 2. о́стов *м.*, костя́к *м.*, карка́с *м.*
**ДРАБЯЗА́** *собир. ж.* 1. ме́лочь, мелкота́, мелюзга́; 2. (*о незначительном человеке*) ме́лкая со́шка.
**ДРАБЯЗГО́ВЫ** *разг.* ме́лочный.
**ДРАБЯЗІ́ЦЬ** *несов. разг.* идти́ ме́лким ша́гом; семени́ть.
**ДРАВІ́ДЫ, -даў** драви́ды.
**ДРАВЯНІ́СТЫ** *прям., перен.* деревяни́стый.
**ДРА́ГА** *ж. тех.* дра́га.
**ДРАГАМА́Н** *м. дип.* драгома́н.
**ДРАГАМА́НСКІ** *дип.* драгома́нский.
**ДРАГІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов. тех.* драги́ровать.
**ДРАГІ́ЧЫН** *м. гп.* Дроги́чин.
**ДРАГІ́ЧЫНСКІ РАЁН** Дроги́чинский райо́н.
**ДРАГУ́Н** *м. воен. уст.* драгу́н.
**ДРАГУ́НСКІ** *воен. уст.* драгу́нский.
**ДРАЖДЖАВА́ННЕ** *ср. спец.* дрожжева́ние.
**ДРАЖДЖАВЫ** дрожжево́й.
**ДРАЖЛІ́ВЫ** *разг.* (*задорный*) дразня́щий.
**ДРАЖНІ́ЛКА** *ж.* (*насмешливая детская прибаутка*) дразни́лка.
**ДРАЖНІ́ЦЦА** *несов.* 1. (*з кім*) дразни́ть (*кого*); дразни́ться; 2. (*давать повод надеяться*) сули́ть, обеща́ть; **ён то́лькі дра́жніцца** он то́лько сули́т (обеща́ет).
**ДРАЖНІ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* дразни́ть; (*звать не по имени, а по насмешливой кличке — ещё*) прозыва́ть; **д. саба́к** дразни́ть соба́к; **д. апеты́т** дразни́ть аппети́т.
**ДРАЖЭ́** *нескл. ср.* (*сорт конфет*) драже́.
**ДРАЗДО́ВЫ** дроздо́вый.
**ДРА́ІЦЦА** *несов. страд.* дра́иться.
**ДРА́ІЦЬ** *несов.* дра́ить.
**ДРАЙВ** *м. спорт.* драйв.
**ДРАКО́Н** *м. миф., зоол.* драко́н.
**ДРАКО́НАЎ:** **~нава дрэ́ва** *бот.* драко́ново де́рево; **~нава кроў** *хим.* драко́нова кровь.
**ДРАКО́НАЎСКІ** драко́новский; **~кія зако́ны** драко́новские зако́ны.
**ДРА́ЛА:** **даць д.** *прост.* дать (зада́ть) дра́ла, дать стрекача́ (стречка́), дать тя́гу.
**ДРА́МА** *ж. прям., перен.* дра́ма.
**ДРАМАДЭ́Р** *м. зоол.* дромаде́р.
**ДРАМА́ННЕ** *ср.* дрема́ние.
**ДРАМАТУ́РГ** *м.* драмату́рг.
**ДРАМАТУРГІ́ЧНЫ** драматурги́ческий.
**ДРАМАТУРГІ́Я** *ж.* драматурги́я.
**ДРАМАТЫЗАВА́НЫ** драматизи́рованный.
**ДРАМАТЫЗАВА́ЦЦА** *несов. страд.* драматизи́роваться.
**ДРАМАТЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* драматизи́ровать.
**ДРАМАТЫЗА́ЦЫЯ** *ж.* драматиза́ция.
**ДРАМАТЫ́ЗМ, -му** *м.* драмати́зм.
**ДРАМАТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* драмати́чность.
**ДРАМАТЫ́ЧНЫ** *в разн. знач.* драмати́ческий; (*полный драматизма — ещё*) драмати́чный; **д. тэа́тр** драмати́ческий теа́тр; **д. тэ́нар** драмати́ческий те́нор; **д. кане́ц** драмати́ческий (драмати́чный) коне́ц; **~ныя жэ́сты** драмати́ческие же́сты.
**ДРАМА́ЦЦА** *несов. безл.* дрема́ться.
**ДРАМА́ЦЬ** *несов.* дрема́ть.

**ЗАТУМА́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* затума́ниваться; *см.* **затума́ніцца, затума́ньваць.**

**ЗАТУМА́НЬВАЦЬ** *несов. прям., перен.* затума́нивать; *см.* **затума́ніць.**

**ЗАТУПАЦЕ́ЦЬ** *сов. разг.* зато́пать, затопота́ть.

**ЗАТУ́ПАЦЬ** *сов.* 1. зато́пать; **з. нагамі** зато́пать нога́ми; 2. заходи́ть; **ху́тка з. па ха́це** бы́стро заходи́ть по до́му; 3. *прост.* дойти́; **за дзень не спяша́ючыся ~паеш у го́рад** за день не спеша́ дойдёшь до го́рода.

**ЗАТУПІ́ЦЦА** *сов.* затупи́ться.

**ЗАТУПІ́ЦЬ** *сов.* затупи́ть.

**ЗАТУ́ПЛЕНЫ** зату́пленный.

**ЗАТУ́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **затупля́цца.**

**ЗАТУ́ПЛІВАЦЬ** *несов. см.* **затупля́ць.**

**ЗАТУПЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* затупля́ться.

**ЗАТУПЛЯ́ЦЬ** *несов.* затупля́ть.

**ЗАТУРЫ́ЦЬ** *сов. прост.* (*заставить войти*) загна́ть.

**ЗАТУХА́ЮЧЫ** 1. *прил. физ.* затуха́ющий; **~чыя ваганні** затуха́ющие колеба́ния; 2. *деепр.* затуха́я.

**ЗАТУХА́ННЕ** *ср.* 1. затуха́ние, погаса́ние; угаса́ние; 2. *перен.* затуха́ние; **тэо́рыя ~ння кла́савай барацьбы́** тео́рия затуха́ния кла́ссовой борьбы́; 1, 2 *см.* **затуха́ць.**

**ЗАТУХА́ЦЬ** *несов.* 1. (*переставать гореть*) затуха́ть, погаса́ть; угаса́ть; 2. *перен.* (*утихать, прекращаться*) затуха́ть; *см.* **зату́хнуць** 2.

**ЗАТУ́ХЛЫ** *см.* **пату́хлы.**

**ЗАТУ́ХНУЦЬ** *сов.* 1. (*перестать гореть*) зату́хнуть, пога́снуть; уга́снуть; 2. *перен.* (*утихнуть, прекратиться*) зату́хнуть; **радыёхва́лі ~хлі** радиово́лны зату́хли.

**ЗАТУШАВА́НЫ** *прям., перен.* затушёванный.

**ЗАТУШАВА́ЦЦА** *сов. прям., перен.* затушева́ться.

**ЗАТУШАВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* затушева́ть.

**ЗАТУ́ШАНЫ** поту́шенный, зату́шенный, пога́шенный, зага́шенный; заду́тый *см.* **затушы́ць.**

**ЗАТУ́ШВАЦЬ** *несов. прям., перен.* туши́ть, гаси́ть; (*свечу, лампу — ещё*) задува́ть; *см.* **затушы́ць.**

**ЗАТУШО́ЎВАННЕ** *ср.* затушёвывание; *см.* **затушо́ўваць.**

**ЗАТУШО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* затушёвываться; *см.* затушава́цца, **затушо́ўваць.**

**ЗАТУШО́ЎВАЦЬ** *несов. прям., перен.* затушёвывать.

**ЗАТУШЫ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* потуши́ть, затуши́ть, погаси́ть, загаси́ть; (*свечу, лампу — ещё*) заду́ть; **з. аго́нь** затуши́ть костёр; **з. паўста́нне** затуши́ть восста́ние.

**ЗА́ТХЛАСЦЬ** *ж. прям., перен.* за́тхлость; **у пакоі па́хне ~цю** в ко́мнате па́хнет за́тхлостью; **з. старо́га бы́ту** за́тхлость ста́рого бы́та.

**ЗА́ТХЛЫ** *прям., перен.* за́тхлый; (*о воздухе — ещё*) промо́зглый; **~лае асяро́ддзе** за́тхлая среда́; **~лае паве́тра** за́тхлый (промо́зглый) во́здух.

**ЗАТХНУ́ЦЦА** *сов.* 1. задохну́ться; 2. *разг.* (*о продуктах*) задо́хнуться.

**ЗАТЫКА́ННЕ** *ср.* затыка́ние; заку́поривание, заку́порка *ж.*; *см.* **затыка́ць** I.

**ЗАТЫКА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* затыка́ться; заку́пориваться; *см.* **заткну́цца, затыка́ць** I.

**ЗАТЫ́КАЦЬ** I *сов.* (*начать тыкать*) заты́кать.

**ЗАТЫ́КАЦЬ** II *сов. разг. фам.* (*начать обращаться на «ты»*) заты́кать.

**ЗАТЫКА́ЦЬ** I *несов. в разн. знач.* затыка́ть; (*пробкой — ещё*) заку́поривать; *см.* **заткну́ць.**

**ЗАТЫКА́ЦЬ** II *несов.* 1. начина́ть ткать; 2. покрыва́ть тка́ным узо́ром.

**ЗАТЫЛЬНІ́К** *м. воен.* заты́льник (*пулемёта*).

**ЗАТЫ́М** *нареч.* 1. зате́м; (*после этого — ещё*) пото́м; **зрабі, а з. хваліся** сде́лай, а зате́м (пото́м) хвали́сь; 2. (*поэтому*) потому́, зате́м; **по́йдзем у кіно́? — Я з. і зайшо́ў да цябе́** пойдём в кино? — Я потому́ (зате́м) и зашёл к тебе́; ◇ **з. што** *союз причинный* потому́ что; **з. каб** *союз цели* зате́м что́бы.

**ЗАТЫНКАВА́НЫ** *и* **ЗАТЫНКО́ВАНЫ** заштукату́ренный.

**ЗАТЫНКАВА́ЦЦА** *сов.* заштукату́риться.

**ЗАТЫНКАВА́ЦЬ** *сов.* заштукату́рить.

**ЗАТЫНКО́ВАНЫ** *см.* **затынкава́ны.**

**ЗАТЫНКО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* заштукату́риваться.

**ЗАТЫНКО́ЎВАЦЬ** *несов.* заштукату́ривать.

**ЗАТЫХА́ЦЦА** *несов. в разн. знач.* задыха́ться; *см.* **затхну́цца.**

**ЗА́ТЫЧКА** *ж. разг. прям., перен.* заты́чка; вту́лка.

**ЗАТЭ́ПАЦЬ** *сов. разг.* 1. зато́пать; 2. засемени́ть.

**ЗАУРА́ЛЛЕ** *ср.* Заура́лье.

**ЗАУРА́ЛЬСКІ** заура́льский.

**ЗАЎВА́ГА** *ж.* 1. (*краткое суждение о чем-л.*) замеча́ние *ср.*; **крыты́чная з.** крити́ческое замеча́ние; 2. (*наставление*) замеча́ние *ср.*, внуше́ние *ср.*; 3. (*замечание к тексту*) примеча́ние *ср.*

**ЗАЎВА́ЖАНЫ** 1. заме́ченный, приме́ченный; 2. заме́ченный, отме́ченный; 3. подме́ченный; 1—3 *см.* **заўва́жыць**

**ЗАЎВАЖА́ЦЦА** *несов.* 1. наблюда́ться, замеча́ться; отмеча́ться; **~жа́ецца ця́га да наву́кі сяро́д мо́ладзі** замеча́ется интере́с к нау́ке среди́ молодёжи; **пры некато́рых хваро́бах ~жа́ецца рэ́зкае паніжэ́нне тэмперату́ры** при не́которых боле́знях отмеча́ется (наблюда́ется) ре́зкое пониже́ние температу́ры; 2. *перен.* сквози́ть; **у яго́ сло́вах ~жа́лася незадаво́ленасць** в его́ слова́х сквози́ло неудово́льствие; 3. *страд.* замеча́ться; примеча́ться; отмеча́ться; подмеча́ться; *см.* **заўважа́ць.**

**ЗАЎВАЖА́ЦЬ** *несов.* 1. замеча́ть, примеча́ть; 2. (*делать замечание, говорить*) замеча́ть, отмеча́ть; 3. (*обнаруживать какое-л. свойство*) подмеча́ть.

**ЗАЎВА́ЖВАЦЬ** *несов. см.* **заўважа́ць.**

**ЗАЎВА́ЖЫЦЬ** *сов.* 1. заме́тить, приме́тить; 2. (*сделать замечание, сказать*) заме́тить, отме́тить; 3. (*обнаружить какое-л. свойство*) подме́тить; 4. *в знач. вводн. сл.* заме́ть(те); **і, ~жце, гэ́та ён сам змайстрава́ў** и, заме́тьте, э́то он сам смастери́л.

**ЗАЎДАВЕ́ЛЫ** овдове́вший.

**ЗАЎДАВЕ́ЦЬ** *сов.* овдове́ть.

**ЗАЎЖДЫ́** *нареч. см.* **заўсёды.**

**ЗАЎЗЯ́ТА** *нареч.* завзя́то, горячо́, рья́но, рети́во, с рве́нием; с усе́рдием.

**ЗАЎЗЯ́ТАСЦЬ** *ж.* горя́чность, рья́ность, рети́вость, рве́ние *ср.*; усе́рдие *ср.*

**ЗАЎЗЯ́ТЫ** завзя́тый, рья́ный, рети́вый; усе́рдный.

**ЗАЎКО́М** *м.* **(заво́дскі камітэ́т)** завко́м (заводско́й комите́т).

**ЗАЎКО́МАВЕЦ, -маўца** *м.* завко́мовец.

**ЗАЎКО́МАЎСКІ** завко́мовский.

**ЗАЎЛАДА́ЦЬ** *сов. см.* **завало́даць.**

**ЗАЎСЁДАШНІ, ЗАЎСЁДНЫ** всегда́шний; постоя́нный, неизме́нный; **з. спадаро́жнік** всегда́шний (постоя́нный, неизме́нный) спу́тник.

**ЗАЎСЁДЫ** *нареч.* всегда́; постоя́нно, неизме́нно.

**ЗАЎСМІХА́ЦЦА** *сов.* заулыба́ться.

**ЗАЎСЯГДЫ́** *нареч. обл. см.* **заўсёды.**

**ЗА́ЎТРА** 1. *нареч.* за́втра; 2. *в знач. сущ. нескл. ср.* за́втра; да з. до за́втра; ◇ **не сёння-з.** не сего́дня-за́втра.

**ЗА́ЎТРАШНІ** за́втрашний.

**ЗАЎЧАРА́ШНІ** позавчера́шний.

**ЗАЎЧА́С** *нареч. см.* **заўча́сна.**

**ЗАЎЧА́СНА** *нареч.* безвре́менно, преждевре́менно.

**ЗАЎЧА́СНАСЦЬ** *ж.* безвре́менность, преждевре́менность.

**ЗАЎЧА́СНЫ** безвре́менный, преждевре́менный.

**ЗАЎЧО́РА** *нареч.* позавчера́, тре́тьего дня.

**ЗАЎШНІЦА** *ж. мед.* заушница, свинка.
**ЗАФАНАБЭРЫЦЦА** *сов. разг.* зачваниться, зазнаться, возомнить (о себе, себя).
**ЗАФАНТАЗІРАВАЦЦА** *сов. разг.* зафантазироваться.
**ЗАФАНТАЗІРАВАЦЬ** *сов. разг.* зафантазировать.
**ЗАФАРБАВАЦЦА** *сов.* закраситься.
**ЗАФАРБАВАЦЬ** *сов.* закрасить.
**ЗАФАРБОЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* закрашиваться.
**ЗАФАРБОЎВАЦЬ** *несов.* закрашивать.
**ЗАФАРБОЎКА** *ж.* закраска.
**ЗАФАСТРЫГАВАЦЬ** *сов. порт.* заметать.
**ЗАФАСТРЫГОЎВАЦЬ** *несов. порт.* замётывать.
**ЗАФІКСАВАЦЬ** *сов. в разн. знач.* зафиксировать.
**ЗАФРАНЦІЦЬ** *сов. разг.* зафрантить.
**ЗАФРАХТАВАНЫ** *и* **ЗАФРАХТОВАНЫ** *мор., торг.* зафрахтованный.
**ЗАФРАХТАВАЦЬ** *сов. мор., торг.* зафрахтовать.
**ЗАФРАХТОВАНЫ** *см.* **зафрахтаваны.**
**ЗАФРАХТОЎВАЦЦА** *несов. страд. мор., торг.* зафрахтовываться.
**ЗАФРАХТОЎВАЦЬ** *несов. мор., торг.* зафрахтовывать.
**ЗАФЫРКАЦЬ** *сов. прям., перен.* зафыркать; **~каў конь** зафыркала лошадь; **з. на каго-небудзь** зафыркать на кого-л.
**ЗАХАВАЛЬНІК** *м.* хранитель.
**ЗАХАВАЛЬНІЦА** *ж.* хранительница.
**ЗАХАВАНА** *нареч.* 1. скрыто, тайно; 2. *канц.* сохранно.
**ЗАХАВАНАСЦЬ** *ж.* 1. скрытность; 2. *канц.* сохранность.
**ЗАХАВАННЕ** *ср.* 1. сохранение, сбережение; 2. соблюдение; 1, 2 *см.* **захаваць** 1, 3.
**ЗАХАВАНЫ** 1. сохранённый, сбережённый; 2. упрятанный, запрятанный; 3. соблюдённый; 1—3 *см.* **захаваць.**
**ЗАХАВАЦЦА** *сов.* 1. сохраниться; **старыя звычкі ~валіся** старые привычки сохранились; **з даўніх пор ~валася паданне** с давних пор сохранилось предание; **тут ~валіся сляды вайны** тут сохранились следы войны; 2. сохраниться, сберечься; **гэты чалавек добра ~ваўся** этот человек хорошо сохранился; **дом добра ~ваўся** дом хорошо сохранился; **здароўе ~валася** здоровье сохранилось; 3. (*остаться невредимым*) уцелеть; **з. на вайне** уцелеть на войне.
**ЗАХАВАЦЬ** *сов.* 1. *в разн. знач.* сохранить, сберечь; **гэты дакумент варта з.** этот документ следует сохранить; **народ ~ваў шмат паданняў** народ сохранил (сберёг) много преданий; **з. памяць аб загінуўшым герою** сохранить память о погибшем герое; **з. права на што-небудзь** сохранить право на что-л.; **з. тайну** сохранить (сберечь) тайну; **з. вастрыню пачуццяў** сохранить остроту чувств; **з. веру ў чалавека** сохранить веру в человека; **з. грошы на куплю чаго-небудзь** сберечь деньги на покупку чего-л.; **з. прадукты** сберечь продукты; **з. сілы (здароўе)** сберечь (сохранить) силы (здоровье); **бульбу можна з. у склепе** картофель можно сохранить в погребе; 2. (*спрятать так, что трудно найти*) упрятать, запрятать; **кнігу так ~ваў, што не можа знайсці** книгу так упрятал (запрятал), что не может найти; 3. (*порядок, закон*) соблюсти.
**ЗАХАД, -ду** *м.* 1. (*сторона, противоположная востоку*) запад; **на з. ад Мінска** к западу от Минска, западнее Минска; **паўднёвы з.** юго-запад; 2. (*светил*) закат, заход.
**ЗАХАД, -ду** *м.* (*Западная Европа*) Запад.
**ЗАХАДЖАЛЫ** *разг.* захожий.
**ЗАХАДЗІЦЦА** *сов.* 1. *разг.* (*устать от ходьбы*) заходиться; **~дзіўся за дзень** заходился за день; 2. захлопотать, засуетиться; **гаспадыня ~дзілася каля печы** хозяйка захлопотала около печки; 3. *разг.* (*возникнуть*) подняться; **~дзіўся вецер** поднялся ветер.
**ЗАХАДЗІЦЬ** *сов.* (*начать ходить*) заходить.
**ЗАХАДЫ: рабіць з.** принимать меры.
**ЗАХАЛАДАЦЬ** *сов. безл. разг.* захолодать.
**ЗАХАЛАДЗЕЦЬ** *сов. разг.* (*замёрзнуть*) захолодеть.
**ЗАХАНДРЫЦЬ** *сов.* захандрить.
**ЗАХАПІЦЦА** *сов.* 1. (*чым*) увлечься, пристраститься (*к чему*); **з. вучобай** увлечься учёбой, пристраститься к учёбе; 2. (*поддаться очарованию кого-чего-л.*) увлечься, плениться; **з. ігрой артыстаў** увлечься (плениться) игрой артистов; 3. (*влюбиться*) увлечься; **з. дзяўчынай** увлечься девушкой.
**ЗАХАПІЦЬ** *сов.* 1. (*силой овладеть кем-чем-л.*) захватить; **з. артылерыю ворага** захватить артиллерию врага; 2. (*взять с собой*) захватить; **з. з сабой што-небудзь з яды** захватить с собой что-л. съестное; 3. (*увести, унести куда-л.*) увлечь; **цячэнне ~піла лодку** течение увлекло лодку; 4. *перен.* (*сильно заинтересовать*) захватить, увлечь, поглотить; **новая ідэя ~піла яго** новая идея захватила (увлекла, поглотила) его; 5. застать, захватить, застичь, застигнуть; **навальніца ~піла нас у полі** гроза застигла (захватила) нас в поле; 6. *перен.* (*привести в восхищение*) увлечь, восхитить, пленить; **з. гледачоў ігрой** увлечь (пленить) зрителей игрой.
**ЗАХАПЛЕННЕ** *ср.* 1. увлечение, страсть *ж.*; **з. тэатрам** увлечение театром, страсть к театру; 2. восторг *м.*; восхищение, увлечение, упоение; **гаварыць з ~ннем** говорить с восторгом (увлечением); 3. (*влюблённость*) увлечение; **з. дзяўчынай** увлечение девушкой.
**ЗАХАПЛЯЛЬНАСЦЬ** *ж.* увлекательность.
**ЗАХАПЛЯЦЦА** *несов.* 1. (*чым*) увлекаться, пристращаться (*к чему*); 2. (*поддаваться очарованию кого-чего-л.*) увлекаться, восхищаться, пленяться, восторгаться; 3. (*влюбляться*) увлекаться; 1—3 *см.* **захапіцца.**
**ЗАХАПЛЯЦЬ** *несов.* 1. (*сильно заинтересовывать*) захватывать, увлекать, поглощать; 2. (*приводить в восхищение*) увлекать, восхищать, пленять, восторгать; 1, 2 *см.* **захапіць** 4,6.
**ЗАХАПЛЯЮЧА** *нареч.* увлекательно.
**ЗАХАПЛЯЮЧЫ** *прил.* увлекательный, захватывающий; **з. раман** увлекательный (захватывающий) роман.
**ЗАХАРКАЦЬ** *сов. в разн. знач. разг.* захаркать.
**ЗАХАЦЕЦЦА** *сов. безл.* захотеться.
**ЗАХАЦЕЦЬ** *сов.* захотеть, пожелать.
**ЗАХВАЛЕНЫ** захваленный.
**ЗАХВАЛІЦЬ** *сов.* захвалить.
**ЗАХВАЛЬВАННЕ** *ср.* захваливание.
**ЗАХВАЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* захваливаться.
**ЗАХВАЛЬВАЦЬ** *несов.* захваливать.
**ЗАХВАЛЯВАЦЦА** *сов.* 1. *в разн. знач.* заволноваться; (*начать тревожиться—ещё*) забеспокоиться; **~валася мора** заволновалось море; **натоўп ~ваўся** толпа заволновалась; **ранены ~ваўся** раненый заволновался (забеспокоился); 2. *перен.* (*прийти в замешательство*) смутиться; **дзяўчынка ~валася** девочка смутилась.
**ЗАХВАРЭЦЬ** (*на што и без доп.*) *сов.* заболеть (*чем и без доп.*), захворать (*чем и без доп.*); **з. на шкарлятыну** заболеть (захворать) скарлатиной.
**ЗАХВАСТАНЫ** засечённый, захлёстанный.
**ЗАХВАСТАЦЬ** *сов.* 1. засечь, захлестать, застегать; 2. (*начать хлестать*) захлестать.
**ЗАХВОРВАННЕ** (*на што и без доп.*) *ср.* заболевание (*чем и без доп.*); *см.* **захворваць.**
**ЗАХВОРВАЦЬ** (*на што и без доп.*) *несов.* заболевать (*чем и без доп.*); *см.* **захварэць.**
**ЗАХВОСТАВАТЫ** *обл.* (*о дереве*) комлистый.
**ЗАХІЛЕНЫ** 1. загнутый, завёрнутый; 2. заслонённый, закрытый; 1, 2 *см.* **захіліць.**
**ЗАХІЛІЦЦА** *сов.* 1. загнуться, завернуться; **край сурвэткі ~ліўся** край салфетки загнулся (завернулся); 2. заслониться, закрыться; **з. рукой** заслониться (закрыться) рукой.
**ЗАХІЛІЦЬ** *сов.* 1. загнуть, завернуть; **з. край сурвэткі** загнуть (завернуть) край салфетки; 2. заслонить, закрыть; **з. сабою** заслонить собой.

**ЗАХІЛЬВАЦЦА** *несов. см.* **захіля́цца.**
**ЗАХІЛЬВАЦЬ** *несов. см.* **захіля́ць.**
**ЗАХІЛЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** загиба́ться, завёртываться; **2.** заслоня́ться, закрыва́ться; 1, 2 *см.* **захіліцца;** 3. *страд.* загиба́ться, завёртываться; заслоня́ться, закрыва́ться; *см.* **захіля́ць.**
**ЗАХІЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** загиба́ть, завёртывать; **2.** заслоня́ть, закрыва́ть; 1, 2 *см.* **захілі́ць.**
**ЗАХІНА́ЦЦА** *несов.* **1.** запа́хиваться; ку́таться, заку́тываться, завёртываться, завора́чиваться; **2.** (*закрываться*) задёргиваться; **3.** загиба́ться, завора́чиваться; **4.** *перен.* (*закрываться тонким покровом*) оку́тываться, задёргиваться; 1—4 *см.* **захіну́цца; 5.** *страд.* запа́хиваться; задёргиваться; заку́тываться, уку́тываться; завёртываться; загиба́ться; оку́тываться; *см.* **захіна́ць.**
**ЗАХІНА́ЦЬ** *несов.* **1.** запа́хивать; **2.** (*дёргая, закрывать*) задёргивать, запа́хивать; **3.** (*кутая, закрывать*) ку́тать, заку́тывать, уку́тывать, завёртывать; **4.** загиба́ть, завёртывать; **5.** *перен.* (*закрывать тонким покровом*) оку́тывать, задёргивать; 1—5 *см.* **захіну́ць.**
**ЗАХІНУ́ТЫ 1.** запа́хнутый; **2.** задёрнутый, запа́хнутый; **3.** заку́танный, уку́танный, завёрнутый; **4.** за́гнутый, завёрнутый; **5.** *перен.* оку́танный, задёрнутый; 1—5 *см.* **захіну́ць.**
**ЗАХІНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** запахну́ться; заку́таться, заверну́ться; **з. ў плашч** запахну́ться (заку́таться, заверну́ться) в плащ; **2.** (*закрыться*) задёрнуться; **3.** загну́ться, заверну́ться; **што́ра ~ну́лася** што́ра загну́лась (заверну́лась); **4.** *перен.* (*закрыться тонким покровом*) оку́таться, задёрнуться; **вяршы́ня гары́ ~ну́лася смуго́й** верши́на горы́ оку́талась (задёрнулась) ды́мкой.
**ЗАХІНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** запахну́ть; **з. кры́сы паліто́** запахну́ть по́лы пальто́; **2.** (*дёрнув, закрыть*) задёрнуть, запахну́ть; **з. фіра́нку** задёрнуть (запахну́ть) занаве́ску; **3.** (*кутая, закрыть*) заку́тать, уку́тать, заверну́ть; **з. у кажу́х** заку́тать (уку́тать, заверну́ть) в тулу́п; **4.** загну́ть, заверну́ть; **з. край ко́ўдры** загну́ть (заверну́ть) край одея́ла; **5.** *перен.* (*закрыть тонким покровом*) оку́тать, задёрнуть; **тума́н ~ну́ў бе́раг рэ́чкі** тума́н оку́тал (задёрнул) бе́рег ре́чки.
**ЗАХІСТА́ЦЦА** *сов.* **1.** закача́ться, зашата́ться; заколеба́ться; **слуп ~та́ўся** столб закача́лся (зашата́лся); **зямля́ пад нага́мі ~та́лася** земля́ под нога́ми заколеба́лась; **ён ~та́ўся і ўпаў** он закача́лся (зашата́лся) и упа́л; **2.** *перен.* (*стать непрочным, неустойчивым*) заколеба́ться, зашата́ться, пошатну́ться; **яго́ аўтарытэ́т ~та́ўся** его́ авторите́т пошатну́лся; **3.** *перен.* (*впасть в нерешительность*) заколеба́ться; **су́ддзі ~та́ліся** су́дьи заколеба́лись.
**ЗАХІСТА́ЦЬ** *сов.* **1.** закача́ть, зашата́ть, заколеба́ть; **ве́цер ~та́ў дрэ́вы** ве́тер закача́л (зашата́л) дере́вья; **2.** *перен.* (*заставить сомневаться*) поколеба́ть.
**ЗАХІХІ́КАЦЬ** *сов.* захихи́кать.
**ЗАХЛАРАФАРМАВА́НЫ** *мед.* захлороформи́рованный.
**ЗАХЛАРАФАРМАВА́ЦЬ** *сов. мед.* захлороформи́ровать.
**ЗАХЛІПА́ЦЦА** *несов. прям., перен.* захлёбываться; **ён ужо́ пача́ў з., калі́ прыспе́ла дапамо́га** он уже́ на́чал захлёбываться, когда́ подоспе́ла по́мощь; **з. ад ра́дасці** захлёбываться от ра́дости.
**ЗАХЛІ́ПАЦЬ** *сов. разг.* захли́пать.
**ЗАХЛІПНУ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* захлебну́ться; *см.* **захліпа́цца.**
**ЗАХЛІСНУ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* захлестну́ть; **хва́ля ~ну́ла ло́дку** волна́ захлестну́ла ло́дку; **яго́ ра́дасць ~ну́ла** его́ ра́дость захлестну́ла.
**ЗАХЛІ́СТВАЦЦА** *несов. страд.* захлёстываться; *см.* **захлі́стваць.**
**ЗАХЛІ́СТВАЦЬ** *несов. прям., перен.* захлёстывать; *см.* **захлісну́ць.**
**ЗАХЛУСІ́ЦЦА** *сов. разг.* завра́ться.
**ЗАХЛЫНА́ЦЦА** *несов.* (*жидкостью*) захлёбываться.
**ЗАХЛЫНУ́ЦЦА** *сов.* (*жидкостью*) захлебну́ться.
**ЗАХЛЮ́ПАНЫ** *разг.* забры́зганный.
**ЗАХЛЮ́ПАЦЦА** *сов. разг.* (*покрыться брызгами*) забры́згаться.
**ЗАХЛЮ́ПАЦЬ** *сов. разг.* **1.** *в разн. знач.* забры́згать; **2.** захлю́пать.
**ЗАХМА́РВАЦЦА** *несов. безл.* покрыва́ться облака́ми (ту́чами).
**ЗАХМА́РЫЦЦА** *сов. безл.* покры́ться облака́ми (ту́чами).
**ЗАХМУ́РАНЫ** омрачённый, помрачённый.
**ЗАХМУ́РВАЦЦА** *несов. безл. см.* **нахма́рвацца.**
**ЗАХМУ́РВАЦЬ** *несов.* омрача́ть, помрача́ть.
**ЗАХМУ́РЫЦЦА** *сов. безл.* **1.** *см.* **нахма́рыцца; 2.** *перен.* (*о настроении*) омрачи́ться.
**ЗАХМУ́РЫЦЬ** *сов.* омрачи́ть, помрачи́ть.
**ЗАХМЯЛЕ́ЛЫ** охмеле́вший, захмеле́вший.
**ЗАХМЯЛЕ́ННЕ** *ср.* охмеле́ние.
**ЗАХМЯЛЕ́ЦЬ** *сов.* охмеле́ть, захмеле́ть.
**ЗАХНЫ́КАЦЬ** *сов.* захны́кать.
**ЗАХО́ВАНЫ** *см.* **захава́ны.**
**ЗАХО́Д, -ду** *м.* захо́д; **з. у тыл во́рага** захо́д в тыл врага́; **без ~ду ў порт** без захо́да в порт; ◇ **адны́м ~дам** а) заодно́, одни́м захо́дом; б) в оди́н приём; **двума́ (трыма́ і г.д.) ~дамі** в два (три и т. д.) приёма.
**ЗАХО́ДЗІЦЦА** *несов.* **1.** умира́ть; **2.** (*ад чаго, з чаго*) зака́тываться (*чем*); **3.** (*о пальцах — ощущать колющую боль от холода*) заходи́ться; 1—3 *см.* **зайсці́ся.**
**ЗАХО́ДЗІЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* заходи́ть; **2.** *карт.* ходи́ть; 1, 2 *см.* **зайсці́.**
**ЗАХОДНЕБЕЛАРУ́СКІ** западнобелору́сский.
**ЗАХОДНЕБЕРЛІ́НСКІ** западноберли́нский.
**ЗАХОДНЕГЕРМА́НСКІ** западногерма́нский.
**ЗАХОДНЕЕЎРАПЕ́ЙСКІ** западноевропе́йский.
**ЗАХО́ДНЕ-КАЗАХСТА́НСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ** За́падно-Казахста́нская о́бласть.
**ЗАХОДНЕРУ́СКІ** западнору́сский.
**ЗАХО́ДНЕ-СІБІ́РСКАЯ НІЗІ́НА** За́падно-Сиби́рская ни́зменность.
**ЗАХОДНЕСЛАВЯ́НСКІ** западнославя́нский.
**ЗАХОДНЕЎКРАІ́НСКІ** западноукраи́нский.
**ЗАХО́ДНІ** за́падный.
**ЗАХО́ДНІК** *м. ист.* за́падник.
**ЗАХО́ДНІЦКІ** *ист.* за́паднический.
**ЗАХО́ДНІЦТВА** *ср. ист.* за́падничество.
**ЗАХО́ДНЯЯ ДЗВІНА́** *р.* За́падная Двина́.
**ЗАХО́П, -пу** *м. в разн. знач.* захва́т.
**ЗАХО́ПЛЕНАСЦЬ** *ж.* увлечённость; поглощённость.
**ЗАХО́ПЛЕНЫ 1.** захва́ченный; **2.** захва́ченный; **3.** увлечённый; **4.** *перен.* захва́ченный, увлечённый, поглощённый; **5.** захва́ченный, засти́гнутый; **6.** *перен.* увлечённый, восхищённый, пленённый; 1—6 *см.* **захапі́ць.**
**ЗАХО́ПЛІВАННЕ** *ср.* **1.** захва́тывание; **2.** увлече́ние; 1, 2 *см.* **захо́пліваць** 1, 3.
**ЗАХО́ПЛІВАЦЦА** *несов. страд.* захва́тываться; увлека́ться; застига́ться; *см.* **захо́пліваць.**
**ЗАХО́ПЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** (*силой овладевать кем-чем-л.*) захва́тывать; **2.** (*брать с собой*) захва́тывать; **3.** (*уводить, уносить куда-л.*) увлека́ть; **4.** заставáть, захва́тывать, застига́ть; 1—4 *см.* **захапі́ць** 1—3, 5.
**ЗАХО́ПНІК** *м.* захва́тчик.
**ЗАХО́ПНІЦА** *ж.* захва́тчица.
**ЗАХО́ПНІЦКІ** захва́тнический; **~кая палі́тыка імперыялі́стаў** захва́тническая поли́тика империали́стов.
**ЗАХО́ПНЫ** захва́тный.
**ЗАХО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** сохране́ние, сбереже́ние; **2.** соблюде́ние; 1, 2 *см.* **захо́ўваць** 1, 3.
**ЗАХО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** сохраня́ться; **2.** сохраня́ться, сберега́ться; 1, 2 *см.* **захава́цца** 1, 2; **3.** храни́ться; **гро́шы ~ваюцца ў ашча́днай ка́се** де́ньги храня́тся в сберега́тель-

ной ка́ссе; **4.** *страд.* сохраня́ться, сберега́ться; упря́тываться, запря́тываться; соблюда́ться; *см.* **захо́ўваць.**

**ЗАХО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* сохраня́ть, сберега́ть; **2.** (*прятать так, что трудно найти*) упря́тывать, запря́тывать; **3.** (*порядок, закон*) соблюда́ть; 1—3 *см.* **захава́ць.**

**ЗАХО́ЎНАСЦЬ** *ж. см.* **захава́насць** 2.

**ЗАХО́ЎНЫ** *офиц.* сохра́нный.

**ЗАХРАБУСТА́ЦЬ** *и* **ЗАХРАБУСЦЕ́ЦЬ** *сов. разг.* (*начать жевать с хрустом*) захрусте́ть.

**ЗАХРАПЦІ́** *сов. разг.* захрапе́ть.

**ЗАХРАСА́ННЕ** *ср.* **1.** засоре́ние; заку́порка *ж.*; **2.** застрева́ние; 1, 2 *см.* **захраса́ць.**

**ЗАХРАСА́ЦЬ** *несов.* **1.** засоря́ться, заса́риваться; заку́пориваться; **2.** застрева́ть; 1, 2 *см.* **захра́снуць.**

**ЗАХРА́СЛЫ** засорённый; заку́поренный; *см.* **захра́снуць** 1.

**ЗАХРА́СНУЦЬ** *сов.* **1.** засори́ться; заку́пориться; **ра́кавіна ~сла** ра́ковина засори́лась; **2.** застря́ть; **ко́стка ~сла ў го́рле** кость застря́ла в го́рле.

**ЗАХРУ́МСТАЦЬ** *сов. разг.* (*начать жевать с хрустом*) захрусте́ть.

**ЗАХРУ́СТАЦЬ** *сов.* (*начать делать что-л. с хрустом*) захрусте́ть.

**ЗАХРУСЦЕ́ЦЬ** *сов.* (*начать издавать хрустящие звуки*) захрусте́ть.

**ЗАХРЫПЕ́ЦЬ** *сов. разг.* захрипе́ть.

**ЗАХУ́ТАНЫ** заку́танный.

**ЗАХУ́ТАЦЦА** *сов.* заку́таться.

**ЗАХУ́ТАЦЬ** *сов.* заку́тать.

**ЗАХУ́ТВАННЕ** *ср.* заку́тывание.

**ЗАХУ́ТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* заку́тываться.

**ЗАХУ́ТВАЦЬ** *несов.* заку́тывать.

**ЗАЦАЛАВА́НЫ** зацело́ванный.

**ЗАЦАЛАВА́ЦЦА** *сов. разг.* зацелова́ться.

**ЗАЦАЛАВА́ЦЬ** *сов.* зацелова́ть.

**ЗАЦВЕ́РДЖАНЫ** утверждённый; *см.* **зацве́рдзіць.**

**ЗАЦВЕ́РДЗІЦЬ** *сов.* утверди́ть; **з. план пра́цы** утверди́ть план рабо́ты.

**ЗАЦВЕРДЗЯВА́ННЕ** *ср.* затвердева́ние, отвердева́ние.

**ЗАЦВЕРДЗЯВА́ЦЬ** *несов.* затвердева́ть, отвердева́ть.

**ЗАЦВІ́ЛЫ** запле́сневелый.

**ЗАЦВІСЦІ́** I *сов.* (*начать цвести*) зацвести́; **~ві́лі ру́жы** зацвели́ ро́зы.

**ЗАЦВІСЦІ́** II *сов.* зацвести́; (*покрыться плесенью — ещё*) запле́сневеть; **са́жалка ~ві́ла** пруд зацвёл; **хлеб ~ві́ў** хлеб зацвёл (запле́сневел).

**ЗАЦВІТА́ННЕ** *ср.* зацвета́ние; *см.* **зацвіта́ць** I.

**ЗАЦВІТА́ЦЬ** I *несов.* (*начинать цвести*) зацвета́ть; *см.* **зацвісці́** I.

**ЗАЦВІТА́ЦЬ** II *несов.* зацвета́ть; (*покрываться плесенью — ещё*) пле́сневеть; *см.* **зацвісці́** II.

**ЗАЦВЫ́РКАЦЬ** *сов.* **1.** (*о птицах*) зачири́кать; **2.** (*о кузнечиках и т. п.*) застрекота́ть.

**ЗАЦВЯРДЖА́ЦЦА** *несов. страд.* утвержда́ться.

**ЗАЦВЯРДЖА́ЦЬ** *несов.* утвержда́ть.

**ЗАЦВЯРДЖЭ́ННЕ** *ср.* утвержде́ние.

**ЗАЦВЯРДЗЕ́ЛАСЦЬ** *ж.* затверде́лость, отверде́лость.

**ЗАЦВЯРДЗЕ́ЛЫ** затверде́лый, отверде́лый, отверде́вший.

**ЗАЦВЯРДЗЕ́ННЕ** *ср.* **1.** затверде́ние, отверде́ние, уплотне́ние; **2.** *мед.* уплотне́ние; **з. тка́нак** уплотне́ние тка́ней.

**ЗАЦВЯРДЗЕ́ЦЬ** *сов.* затверде́ть, отверде́ть.

**ЗАЦЕЛЯПА́ЦЦА** *сов. разг.* (*начать болтаться*) заболта́ться.

**ЗА́ЦЕМНА** *нареч. разг.* за́темно.

**ЗАЦЕ́МНЕНЫ** *см.* **зацямнёны.**

**ЗАЦЕ́НЕНЫ** затенённый.

**ЗА́ЦЕНЬ** *ж. см.* **за́сень.**

**ЗА́ЦЕПЛА** *нареч. разг.* за́тепло.

**ЗАЦЕРУШЫ́ЦЦА** *сов.* слегка́ засы́паться; (*снегом и т. п.*) запороши́ться.

**ЗАЦЕРУШЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** слегка́ обсы́пать; (*о снеге и т. п.*) запороши́ть, опуши́ть; **2.** (*начать идти — о снеге*) запороши́ть; (*о дожде*) закра́пать.

**ЗАЦЕ́РЦІ** *сов. в разн. знач.* затере́ть; **з. на́дпіс** затере́ть на́дпись; **су́дна ~рла льда́мі** *безл.* су́дно затёрло льда́ми; **у нато́ўпе яго́ ледзь не ~рлі** в толпе́ его́ едва́ не затёрли; **маладо́га арты́ста хаце́лі з.** молодо́го арти́ста хоте́ли затере́ть.

**ЗАЦЕ́РЦІСЯ** *сов.* затере́ться; **на́дпіс зацёрся** на́дпись затёрлась.

**ЗАЦЕ́СНА** *нареч. разг.* сли́шком те́сно.

**ЗАЦЕ́СНЫ** *разг.* сли́шком те́сный.

**ЗАЦЁГАНАСЦЬ** *ж. см.* **зацяга́насць.**

**ЗАЦЁГАНЫ** *см.* **зацяга́ны.**

**ЗАЦЁК, -ку** *м.* затёк.

**ЗАЦЁКШЫ** **1.** затёкший, онеме́лый, онеме́вший; **2.** затёкший, заплы́вший.

**ЗАЦЁПЛА** *нареч. разг.* сли́шком тепло́.

**ЗАЦЁПЛЫ** сли́шком тёплый.

**ЗАЦЁРТЫ** *в разн. знач.* затёртый; *см.* **заце́рці.**

**ЗАЦЁХКАЦЬ** *сов. разг.* (*о птицах*) защёлкать.

**ЗАЦІКА́ВІЦЦА** *сов.* заинтересова́ться.

**ЗАЦІКА́ВІЦЬ** *сов.* заинтересова́ть.

**ЗАЦІКА́ЎЛЕНА** *нареч.* заинтересо́ванно.

**ЗАЦІКА́ЎЛЕНАСЦЬ** *ж.* заинтересо́ванность.

**ЗАЦІКА́ЎЛЕНЫ** заинтересо́ванный.

**ЗАЦІКА́ЎЛІВАЦЬ** *несов.* заинтересо́вывать.

**ЗАЦІ́КАЦЬ** *сов. разг.* (*о часах*) зати́кать, нача́ть ти́кать.

**ЗАЦІНА́ЦЦА** *несов. разг.* **1.** упо́рствовать; упря́миться; **2.** зата́ивать зло́бу.

**ЗАЦІРА́ННЕ** *ср.* затира́ние; *см.* **зацíра́ць.**

**ЗАЦІРА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* затира́ться; *см.* **заце́рціся, зацíра́ць.**

**ЗАЦІРА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* затира́ть; *см.* **заце́рці.**

**ЗАЦІ́РКА** *ж.* **1.** зати́рка; *см.* **зацíра́ць;** **2.** *кул.* зати́рка.

**ЗА́ЦІСК, -ку** *м.* зажи́м.

**ЗАЦІСКА́ННЕ** *ср.* зажима́ние, зажа́тие, зажи́м *м.*

**ЗАЦІСКА́ЦЦА** *несов.* **1.** зажима́ться; **2.** (*пролезать*) зати́скиваться; 1, 2 *см.* **заці́снуцца;** **3.** *страд.* зажима́ться; зати́скиваться; *см.* **заціска́ць.**

**ЗАЦІ́СКАЦЬ** *сов.* зати́скать.

**ЗАЦІСКА́ЦЬ** *несов.* **1.** *прям., перен.* зажима́ть; **2.** (*запихивать*) зати́скивать; 1, 2 *см.* **заці́снуць** 1, 2.

**ЗАЦІСКА́ЧКА** *ж. тех.* зажи́м *м.*

**ЗАЦІСКНЫ́** *тех.* зажи́мный.

**ЗАЦІ́СНУТЫ** **1.** *прям., перен.* зажа́тый; **2.** зати́снутый; 1, 2 *см.* **заці́снуць** 1, 2.

**ЗАЦІ́СНУЦЦА** *сов.* **1.** зажа́ться; **2.** (*пролезть*) зати́снуться; **з. ў нато́ўп** зати́снуться в толпу́.

**ЗАЦІ́СНУЦЬ** *сов.* **1.** *прям., перен.* зажа́ть; **з. мане́ту ў кулаку́** зажа́ть моне́ту в кулаке́; **яго́ зусі́м ~нулі ў нато́ўпе** его́ совсе́м зажа́ли в толпе́; **з. ініцыяты́ву** зажа́ть инициати́ву; **2.** (*запихнуть*) зати́снуть; **3.** *разг.* задави́ть.

**ЗАЦІ́ЎКАЦЬ** *сов.* зачири́кать, зачили́кать; (*о цыплятах*) запища́ть.

**ЗАЦІХА́ННЕ** *ср.* затиха́ние, утиха́ние; *см.* **заціха́ць.**

**ЗАЦІХА́ЦЬ** *несов.* затиха́ть, утиха́ть; *см.* **заці́хнуць.**

**ЗАЦІ́ХЛЫ** зати́хший, ути́хший; *см.* **заці́хнуць.**

**ЗАЦІ́ХНУЦЬ** *сов.* зати́хнуть, ути́хнуть; **за́ла ~хла** зал зати́х (ути́х); **дзе́ці ~хлі** де́ти зати́хли (ути́хли); **ве́цер ~х** ве́тер зати́х (ути́х).

**ЗАЦІ́ШАК, -шку** *м.* **1.** зати́шье *ср.*, подве́тренная сторона́; **2.** *перен.* укро́мное ме́сто.

**ЗАЦІ́ШНА** *нареч.* **1.** безве́тренно, ти́хо; **2.** *перен.* укро́мно, ти́хо, споко́йно; 1, 2 *см.* **заці́шны** 1, 3.

**ЗАЦІ́ШНАСЦЬ** *ж.* укро́мность, споко́йствие *ср.*

**ЗАЦІШНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* **1.** ти́ше; **2.** *перен.* ти́ше, споко́йнее; 1, 2 *см.* **зацíшна.**

**ЗАЦІ́ШНЫ 1.** безве́тренный, ти́хий; **~нае надво́р'е** безве́тренная (ти́хая) пого́да; **2.** (*укрытый от ветра*) подве́тренный; **з. бок** подве́тренная сторона́; **3.** *перен.* укро́мный, ти́хий, споко́йный; **з. куто́к** укро́мный (ти́хий, споко́йный) уголо́к.

**ЗАЦІ́ШША** *ср.* зати́шье.

**ЗАЦКАВА́НЫ** *охот., перен.* затра́вленный; *см.* **зацкава́ць.**

**ЗАЦКАВА́ЦЬ** (*кім каго*) *сов. охот., перен.* затрави́ть; нау́ськать (*кого на кого*); **з. ваўка́** затрави́ть во́лка; **з. сумле́ннага чалаве́ка** затрави́ть че́стного челове́ка; **з. саба́камі** нау́ськать соба́к.

**ЗАЦКО́ЎВАЦЬ** (*каго кім*) *несов. охот., перен.* затра́вливать; нау́ськивать (*кого на кого*); *см.* **зацкава́ць.**

**ЗАЦМО́КАЦЬ** *сов. разг.* зачмо́кать; защёлкать.

**ЗАЦО́КАЦЬ** *сов.* зацо́кать; (*языком — ещё*) защёлкать.

**ЗАЦУГЛЯ́НЫ** зану́зданный, взну́зданный.

**ЗАЦУГЛЯ́ЦЬ** *сов.* зануздáть, взнуздáть.

**ЗАЦУРЧА́ЦЬ** *сов.* зажурча́ть.

**ЗАЦЫРАВА́НЫ** зашто́панный.

**ЗАЦЫРАВА́ЦЦА** *сов. разг.* зашто́паться.

**ЗАЦЫРАВА́ЦЬ** *сов.* зашто́пать.

**ЗАЦЫРКАЦЬ** *сов. см.* **зацвы́ркаць.**

**ЗАЦЫРО́ВАНЫ** *см.* **зацырава́ны.**

**ЗАЦЫРО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* зашто́пываться.

**ЗАЦЫРО́ЎВАЦЬ** *несов.* зашто́пывать.

**ЗАЦЫРЫ́КАЦЬ** *сов.* зачири́кать.

**ЗАЦЬМЕ́ННЕ** *ср. астр.* затме́ние.

**ЗАЦЭМЕНТАВА́НЫ** зацементи́рованный.

**ЗАЦЭМЕНТАВА́ЦЦА** *сов.* зацементи́роваться.

**ЗАЦЭМЕНТАВА́ЦЬ** *сов.* зацементи́ровать.

**ЗАЦЮГА́КАЦЬ** *сов. охот.* заулюлю́кать.

**ЗАЦЮКАВА́НЫ** *спец.* затюко́ванный.

**ЗАЦЮКАВА́ЦЬ** *сов. спец.* затюкова́ть.

**ЗАЦЮ́КАНЫ** *разг.* заби́тый; *см.* **зацю́каць.**

**ЗАЦЮ́КАЦЬ** *сов. разг.* (*довести до отупления*) заби́ть.

**ЗАЦЮКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. спец.* затюко́вываться.

**ЗАЦЮКО́ЎВАЦЬ** *несов. спец.* затюко́вывать.

**ЗАЦЯГА́НАСЦЬ** *ж.* зата́сканность, зано́шенность; *см.* **зацяга́ны** 2.

**ЗАЦЯГА́НЫ 1.** зата́сканный; **2.** зата́сканный, зано́шенный; 1, 2 *см.* **зацяга́ць.**

**ЗАЦЯГА́ЦЦА** *сов.* **1.** (*утомиться*) затаска́ться; **2.** (*загрязниться*) затаска́ться, заноси́ться.

**ЗАЦЯГА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*измучить*) затаска́ть; **з. па суда́х** затаска́ть по суда́м; **2.** (*загрязнить*) затаска́ть, заноси́ть; **з. во́пратку** затаска́ть (заноси́ть) оде́жду.

**ЗАЦЯ́ГВАННЕ** *ср.* **1.** зата́скивание; **2.** зата́скивание, затя́гивание; **3.** затя́гивание; **4.** затя́гивание, завола́кивание; **5.** затя́гивание; **6.** затя́гивание; **7.** вдева́ние; **8.** *перен.* затя́гивание; 1—8 *см.* **зацягва́ць.**

**ЗАЦЯ́ГВАЦЦА** *несов.* **1.** (*стягиваться*) затя́гиваться; **2.** (*с трудом заходить*) забреда́ть; **3.** (*покрываться*) затя́гиваться; завола́киваться; (*слегка*) подёргиваться; **4.** (*долго длиться*) затя́гиваться; 1—4 *см.* **зацягну́цца** 1—4; **5.** *страд.* зата́скиваться; затя́гиваться; завола́киваться; подёргиваться; заводи́ться; вдева́ться; *см.* **зацягва́ць.**

**ЗАЦЯ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** (*тащa, перемещать*) зата́скивать; **2.** (*заставлять зайти*) зата́скивать, затя́гивать; **3.** (*туго стягивать*) затя́гивать; **4.** *безл.* (*покрывать*) затя́гивать, завола́кивать; (*слегка*) подёргивать; **5.** (*втягивать*) затя́гивать; **6.** (*запевать*) затя́гивать, заводи́ть; **7.** (*просовывать*) вдева́ть; **8.** *перен.* (*задерживать, замедлять*) затя́гивать; 1—8 *см.* **зацягну́ць.**

**ЗАЦЯ́ГНЕНЫ** *см.* **зацягнуты** 1—4, 6, 7.

**ЗАЦЯ́ГНУТЫ 1.** зата́щенный; **2.** зата́щенный, затя́нутый; **3.** затя́нутый; **4.** затя́нутый, заволо́ченный; подёрнутый; **5.** затя́нутый; **6.** затя́нутый, заведённый; **7.** вде́тый; **8.** *перен.* затя́нутый; 1—8 *см.* **зацягну́ць.**

**ЗАЦЯГНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*стянуться*) затяну́ться; **ву́зел мо́цна ~ну́ўся** у́зел кре́пко затяну́лся; **2.** (*с трудом зайти*) забрести́; **3.** (*покрыться*) затяну́ться; заволо́чься; (*слегка*) подёрнуться; **не́ба ~ну́лася хма́рамі** не́бо затяну́лось ту́чами; **4.** (*продлиться*) затяну́ться; **спра́ва ~ну́лася** де́ло затяну́лось; **5.** (*втянуть в себя табачный дым*) затяну́ться.

**ЗАЦЯГНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*тащa, переместить*) затащи́ть; **2.** (*заставить зайти*) затащи́ть, затяну́ть; **яго́ сюды́ і на вяро́ўцы не зацягне́ш** его́ сюда́ и на верёвке не зата́щишь (не затя́нешь); **3.** (*туго стянуть*) затяну́ть; **з. гарсэ́т** затяну́ть корсе́т; **4.** *безл.* (*покрыть*) затяну́ть, заволо́чь; (*слегка*) подёрнуть; **не́ба ~ну́ла хма́рамі** не́бо затяну́ло (заволокло́, подёрнуло) ту́чами; **5.** (*втянуть*) затяну́ть; **з. у дрыгву́** затяну́ть в тряси́ну; **6.** (*запеть*) затяну́ть, завести́; **7.** (*просунуть*) вдеть; **з. ні́тку ў іго́лку** вдеть ни́тку в иглу́; **8.** *перен.* (*задержать, замедлить*) затяну́ть; **з. сяўбу́** затяну́ть сев.

**ЗАЦЯЖА́РАЦЬ** *сов.* забере́менеть.

**ЗАЦЯЖА́РВАЦЬ** *несов.* бере́менеть.

**ЗАЦЯ́ЖКА** *ж. в разн. знач.* затя́жка; **з. спра́вы** затя́жка де́ла; **з. тытунём** затя́жка табако́м.

**ЗАЦЯ́ЖКІ** *разг.* тяжелова́тый, сли́шком тяжёлый.

**ЗАЦЯ́ЖНА** *нареч.* затя́жно.

**ЗАЦЯЖНЫ́** затяжно́й; **~на́я хваро́ба** затяжна́я боле́знь.

**ЗАЦЯ́ЖЧЫК** *м. тех.* затя́жчик.

**ЗАЦЯКА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*попадать, вливаться куда-л.*) затека́ть; **2.** затека́ть, неме́ть; **3.** (*опухать*) отека́ть, затека́ть; 1—3 *см.* **зацячы́** 1—3.

**ЗАЦЯМНЕ́ННЕ** *ср.* **1.** затме́ние; **2.** затемне́ние; **3.** *перен.* затемне́ние, помраче́ние; 1—3 *см.* **зацямні́ць.**

**ЗАЦЯМНЕ́ЦЬ** *сов.* (*начать темнеть*) затемне́ть.

**ЗАЦЯМНЁНЫ** *и* **ЗАЦЕ́МНЕНЫ 1.** заслонённый, затемнённый; **2.** затемнённый; **3.** *перен.* затемнённый, помрачённый; 1—3 *см.* **зацямні́ць.**

**ЗАЦЯМНІ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*стать тёмным*) затемни́ться; **2.** *перен.* (*о рассудке и т. п.*) затемни́ться, помрачи́ться.

**ЗАЦЯМНІ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*закрыть, загородить от света*) заслони́ть, затемни́ть, затми́ть; **хма́ры ~ні́лі со́нца** ту́чи заслони́ли (затми́ли) со́лнце; **2.** (*замаскировать свет*) затемни́ть; **з. го́рад** затемни́ть го́род; **3.** *перен.* (*рассудок и т. п.*) затемни́ть, помрачи́ть.

**ЗАЦЯМНЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** (*становиться тёмным*) затемня́ться; **2.** *перен.* (*о рассудке и т. п.*) затемня́ться, помрача́ться; **3.** *страд.* заслоня́ться, затмева́ться; затемня́ться; помрача́ться; *см.* **зацямня́ць.**

**ЗАЦЯМНЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** (*закрывать, загораживать от света*) заслоня́ть, затмева́ть; **2.** (*замаскировывать свет*) затемня́ть; **3.** *перен.* (*рассудок и т. п.*) затемня́ть, помрача́ть; 1—3 *см.* **зацямні́ць.**

**ЗАЦЯНЕ́ННЕ** *ср.* затене́ние.

**ЗАЦЯНІ́ЦЬ** *сов.* затени́ть.

**ЗАЦЯНЯ́ЦЦА** *несов. страд.* затеня́ться.

**ЗАЦЯНЯ́ЦЬ** *несов.* затеня́ть.

**ЗАЦЯРУ́ШАНЫ** слегка́ обсы́панный; запорошённый, опушённый; *см.* **зацерушы́ць** 1.

**ЗАЦЯРУ́ШВАННЕ** *ср.* запора́шивание.

**ЗАЦЯРУ́ШВАЦЦА** *несов.* **1.** слегка́ обсыпа́ться; (*снегом и т. п.*) запора́шиваться; **2.** *страд.* слегка́ обсыпа́ться; запора́шиваться, опуша́ться; *см.* **зацяру́шваць.**

**ЗАЦЯРУ́ШВАЦЬ** *несов.* слегка́ обсыпа́ть; (*о снеге и т. п.*) запора́шивать, опуша́ть.

**ЗАЦЯ́ТА** *нареч.* **1.** упо́рно; насто́йчиво; **2.** затаённо.

**ЗАЦЯ́ТАСЦЬ** *ж.* **1.** упо́рство *ср.*; насто́йчивость; **2.** затаённость.

**ЗАЦЯ́ТЫ 1.** упо́рный; насто́йчивый; **~тая барацьба́** упо́рная борьба́; **з. чалаве́к** упо́рный (насто́йчивый) челове́к; **2.** затаённый.

**ЗАЦЯЎКАЦЬ** *сов. разг.* затя́вкать.
**ЗАЦЯЦЦА** *сов. разг.* **1.** заупо́рствовать; заупря́миться; **2.** затаи́ть зло́бу.
**ЗАЦЯЦЬ** *сов. безл.* отня́ться (*о языке*); **яму́ як зацяло́** у него́ бу́дто язы́к отня́лся; ◇ **няма́ за што рук з.** не́ к чему ру́ки приложи́ть.
**ЗАЦЯЧЫ** *сов.* **1.** (*попасть, влиться куда-л.*) зате́чь; **вада́ зацякла́ за каўне́р** вода́ затекла́ за воротни́к; **2.** зате́чь, онеме́ть; **но́гі зацяклі́** но́ги затекли́ (онеме́ли); **3.** (*опухнуть*) оте́чь, зате́чь; **4.** переста́ть течь; **бо́чка зацякла́** бо́чка переста́ла течь.
**ЗАЧАКАЦЦА** *сов. см.* **прачака́цца.**
**ЗАЧАПІЦЦА** *сов.* **1.** зацепи́ться; **вяро́ўка ~пілася за дрэ́ва** верёвка зацепи́лась за де́рево; **2.** (*за што*) заде́ть; споткну́ться (*обо что*); **з. за крэ́сла** заде́ть за стул; **з. за паро́г** споткну́ться о поро́г; **3.** (*з кім*) *перен.* связа́ться; затро́нуть (*кого*), заде́ть (*кого*).
**ЗАЧАПІЦЬ** *сов.* **1.** (*задеть, поддеть*) зацепи́ть; **з. буса-ко́м бервяно́** зацепи́ть багро́м бревно́; **2.** (*коснуться чего-л. при движении*) заде́ть, затро́нуть; зацепи́ть; **ку́ля ~піла косць** пу́ля заде́ла (затро́нула) кость; **3.** *перен.* тро́нуть, заде́ть; **ты то́лькі ~пі яго́** ты то́лько тронь (заде́нь) его́; **4.** *перен.* (*коснуться*) затро́нуть; **з. пыта́нне** затро́нуть вопро́с.
**ЗАЧАПЛЯЦЦА** *несов. см.* **зачэ́плівацца.**
**ЗАЧАПЛЯЦЬ** *несов. см.* **зачэ́пліваць.**
**ЗАЧАРАВАННЕ** *ср.* очарова́ние, восхище́ние.
**ЗАЧАРАВАНЫ 1.** околдо́ванный, заколдо́ванный, заворожённый; **2.** *перен.* зачаро́ванный; очаро́ванный; завороже́нный, обворожённый, восхищённый, пленённый; **1, 2** *см.* **зачарава́ць.**
**ЗАЧАРАВАЦЦА** *сов.* очарова́ться, восхити́ться, плени́ться; **з. му́зыкай** очарова́ться (восхити́ться, плени́ться) му́зыкой.
**ЗАЧАРАВАЦЬ** *сов.* **1.** околдова́ть, заколдова́ть, заворожи́ть; **2.** *перен.* (*произвести неотразимое впечатление*) зачарова́ть; очарова́ть; заворожи́ть, обворожи́ть, восхити́ть, плени́ть; **арты́стка ~ва́ла слухачо́ў цудо́ўным го́ласам** арти́стка очарова́ла (восхити́ла, плени́ла) слу́шателей чуде́сным го́лосом.
**ЗАЧАРВІВЕЦЬ** *сов.* зачерви́веть.
**ЗАЧАРНЕЦЦА** *сов.* зачерне́ться.
**ЗАЧАРНЕЦЬ** *сов.* зачерне́ть.
**ЗАЧАРНІЦЬ** *сов.* зачерни́ть.
**ЗАЧАРНЯЦЦА** *несов. страд.* зачерня́ться.
**ЗАЧАРНЯЦЬ** *несов.* зачерня́ть.
**ЗАЧАРОВАНЫ** *см.* **зачарава́ны.**
**ЗАЧАРОЎВАЦЦА** *несов.* **1.** очаро́вываться, восхища́ться, пленя́ться; *см.* **зачарава́цца; 2.** *страд.* околдо́вываться, заколдо́вываться; завора́живаться; зачаро́вываться; очаро́вываться; обвора́живаться; *см.* **зачаро́ўваць.**
**ЗАЧАРОЎВАЦЬ** *несов.* **1.** околдо́вывать, заколдо́вывать, завора́живать; **2.** *перен.* (*производить неотразимое впечатление*) зачаро́вывать; очаро́вывать; завора́живать, обвора́живать, восхища́ть, пленя́ть; **1, 2** *см.* **зачарава́ць.**
**ЗАЧАРСЦВЕЛАСЦЬ** *ж.* зачерстве́лость.
**ЗАЧАРСЦВЕЛЫ** зачерстве́лый.
**ЗАЧАРСЦВЕЦЬ** *сов.* зачерстве́ть.
**ЗАЧАРЦІЦЬ** *сов.* зачерти́ть.
**ЗАЧАРЭПАЦЬ** *сов. обл.* зачерпну́ть (*много чего-л.*), захвати́ть, подде́ть.
**ЗАЧАСАНЫ** I *и* **ЗАЧЭСАНЫ** I причёсанный; зачёсанный; *см.* **зачаса́ць** I.
**ЗАЧАСАНЫ** II *и* **ЗАЧЭСАНЫ** II *плотн.* затёсанный; *см.* **зачаса́ць** II.
**ЗАЧАСАЦЦА** *сов.* (*о волосах*) причеса́ться; зачеса́ться.
**ЗАЧАСАЦЬ** I *сов.* (*волосы*) причеса́ть; зачеса́ть; **з. на бок валасы́** зачеса́ть (причеса́ть) на́бок во́лосы.
**ЗАЧАСАЦЬ** II *сов. плотн.* затеса́ть; **з. кол** затеса́ть кол.
**ЗАЧАСТАВАЦЬ** *сов. разг.* (*переусердствовать, потчуя*) запо́тчевать.
**ЗАЧАСЦІЦЬ** *сов. в разн. знач.* зачасти́ть; **з. у го́сці** зачасти́ть в го́сти; **~ціў дождж** зачасти́л дождь.
**ЗАЧАТАК, -тка** *м. биол.* зача́ток.
**ЗАЧАТКАВЫ** *биол.* зача́точный.
**ЗАЧАТЫ 1.** *разг.* на́чатый; **2.** *уст.* зача́тый; **1, 2** *см.* **зача́ць.**
**ЗАЧАЎРЭЦЬ** *сов. обл.* зача́хнуть, захире́ть.
**ЗАЧАХНУЦЬ** *сов. прям., перен.* зача́хнуть; **кве́ткі ~хлі** цветы́ зача́хли; **з. з тугі́** зача́хнуть с тоски́.
**ЗАЧАЦЦА** *сов.* **1.** *разг.* нача́ться; **2.** *уст.* (*зародиться*) зача́ться.
**ЗАЧАЦЦЕ** *ср.* зача́тие.
**ЗАЧАЦЬ** *сов.* **1.** *разг.* нача́ть; **з. будаўні́цтва** нача́ть строи́тельство; **2.** *уст.* (*зародить*) зача́ть; **з. дзіця́** зача́ть ребёнка.
**ЗАЧМЫХАЦЬ** *сов.* **1.** зафы́ркать, засопе́ть; **2.** *перен.* (*выразить недовольство*) зафы́ркать.
**ЗАЧМЯКАЦЬ** *сов.* зача́вкать.
**ЗАЧОС, -су** *м.* зачёс.
**ЗАЧУМЛЕНЫ** зачумлённый.
**ЗАЧУХАЦЬ** *сов. разг.* (*начать чесать*) зачеса́ть.
**ЗАЧХАЦЬ** *сов.* зачиха́ть.
**ЗАЧЫКІЛЬГАЦЬ** *сов. разг.* заковыля́ть.
**ЗАЧЫН, -ну** *м. лит.* зачи́н.
**ЗАЧЫНАЛЬНІК** *м.* зачина́тель.
**ЗАЧЫНАЛЬНІЦА** *ж.* зачина́тельница.
**ЗАЧЫНАЦЦА** *несов.* **1.** *разг.* начина́ться; **2.** *уст.* (*зарождаться*) зачина́ться.
**ЗАЧЫНАЦЬ** *несов.* **1.** *разг.* начина́ть; **2.** *уст.* (*зарождать*) зачина́ть; **1,2** *см.* **зача́ць.**
**ЗАЧЫНЕННЕ** *ср.* **1.** закры́тие; **2.** закры́тие; **1, 2** *см.* **зачыні́ць.**
**ЗАЧЫНЕНЫ 1.** закры́тый, затво́ренный; за́пертый; захло́пнутый; *см.* **зачыні́ць** 1; **2.** *см.* **закры́ты.**
**ЗАЧЫНІЦЦА** *сов.* **1.** закры́ться, затвори́ться; запере́ться; захло́пнуться; **2.** (*о собрании, заседании и т.п.*) закры́ться; ◇ **свет ~ні́ўся** свет кли́ном сошёлся.
**ЗАЧЫНІЦЬ** *сов.* **1.** (*дверь, окно, шкатулку и т. п.*) закры́ть, затвори́ть; запере́ть; захло́пнуть; **з. акані́цы** закры́ть (затвори́ть, запере́ть, захло́пнуть) ста́вни; **2.** (*собрание, заседание и т. п.*) закры́ть.
**ЗАЧЫНШЧЫК** *м.* зачи́нщик.
**ЗАЧЫНШЧЫЦА** *ж.* зачи́нщица.
**ЗАЧЫНЯЦЦА** *несов.* **1.** (*о двери, окне, шкатулке и т. п.*) закрыва́ться, затворя́ться; запира́ться, захло́пываться; **2.** (*о собрании, заседании и т. п.*) закрыва́ться; **3.** *страд.* закрыва́ться; затворя́ться; запира́ться; захло́пываться; *см.* **зачыня́ць.**
**ЗАЧЫНЯЦЬ** *несов.* **1.** (*дверь, окно, шкатулку и т. п.*) закрыва́ть, затворя́ть; запира́ть; захло́пывать; *см.* **зачыні́ць** 1; **2.** (*собрание, заседание и т. п.*) закрыва́ть.
**ЗАЧЫРВАНЕЦЦА** *сов.* **1.** закрасне́ться, заале́ться, заале́ть, заруде́ться; **2.** (*от смущения*) зарде́ться, покрасне́ть.
**ЗАЧЫРВАНЕЦЬ** *сов.* закрасне́ть, закрасне́ться, зале́ть, заале́ться, зарде́ть, зарде́ться.
**ЗАЧЫРВАНІЦЬ** *сов.* сде́лать кра́сным.
**ЗАЧЫРКАЦЬ** *сов.* зачи́ркать.
**ЗАЧЫСТКА** *ж. спец.* зачи́стка.
**ЗАЧЫСЦІЦЬ** *сов. спец.* зачи́стить.
**ЗАЧЫТАНЫ** *в разн. знач.* зачи́танный; *см.* **зачыта́ць.**
**ЗАЧЫТАЦЦА** *сов.* зачита́ться; **гэ́тай кні́гай не́льга не з.** э́той кни́гой нельзя́ не зачита́ться.
**ЗАЧЫТАЦЬ** *сов. в разн. знач.* зачита́ть; **з. пастано́ву** зачита́ть постановле́ние; **з. кні́жку** зачита́ть кни́жку.
**ЗАЧЫТВАННЕ** *ср.* зачи́тывание; *см.* **зачы́тваць.**

**ЗАЧЫТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* зачи́тываться; *см.* **зачыта́цца, зачы́тваць.**

**ЗАЧЫТВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* зачи́тывать; *см.* **зачыта́ць.**

**ЗАЧЫШЧАНЫ** *спец.* зачи́щенный.

**ЗАЧЫШЧА́ЦЦА** *несов. страд. спец.* зачища́ться.

**ЗАЧЫШЧА́ЦЬ** *несов. спец.* зачища́ть.

**ЗАЧЫШЧЭННЕ** *ср. спец.* зачи́стка *ж.*

**ЗАЧЭПКА** *ж.* **1.** (*действие*) заце́пка; **2.** (*приспособление*) заце́пка, заце́па; **3.** *перен.* (*протекция, заручка*) заце́пка; **4.** заце́пка; предло́г *м.*, по́вод *м.*; **з. для сва́ркі** предло́г (по́вод) для ссо́ры.

**ЗАЧЭПЛЕНЫ 1.** заце́пленный; **2.** заде́тый, затро́нутый; заце́пленный; **3.** *перен.* тро́нутый, заде́тый; **4.** *перен.* затро́нутый; 1—4 *см.* **зачапі́ць.**

**ЗАЧЭ́ПЛІВАННЕ** *ср.* **1.** заце́пка *ж.*, зацепле́ние; **2.** задева́ние, затра́гивание; заце́пка *ж.*; **3.** *перен.* задева́ние; **4.** *перен.* затра́гивание; 1—4 *см.* **зачэ́пліваць.**

**ЗАЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** зацепля́ться; **2.** (*за што*) задева́ть; спотыка́ться (*обо что*); **3.** (*з кім*) *перен.* свя́зываться; затра́гивать (*кого*), задева́ть (*кого*); 1—3 *см.* **зачапі́цца.**

**ЗАЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** (*задевать, поддевать*) зацепля́ть; **2.** (*касаться чего-л. при движении*) задева́ть, затра́гивать; зацепля́ть; **3.** *перен.* тро́гать, задева́ть; **4.** *перен.* (*каса́ться*) затра́гивать; 1—4 *см.* **зачапі́ць.**

**ЗАЧЭПНЫ** *тех.* зацепно́й.

**ЗАЧЭ́ПШЧЫК** *м.* заце́пщик.

**ЗАЧЭ́ПШЧЫЦА** *ж.* заце́пщица.

**ЗАЧЭ́РНЕНЫ** зачернённый.

**ЗАЧЭ́РПАНЫ** заче́рпнутый; *см.* **зачэ́рпаць.**

**ЗАЧЭ́РПАЦЦА** *сов.* зачерпну́ться.

**ЗАЧЭ́РПАЦЬ** *сов.* зачерпну́ть; **з. вады́** зачерпну́ть воды́.

**ЗАЧЭ́РПВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* заче́рпываться; *см.* **зачэ́рпацца, зачэ́рпваць.**

**ЗАЧЭ́РПВАЦЬ** *несов.* заче́рпывать; *см.* **зачэ́рпаць.**

**ЗАЧЭРЧАНЫ** заче́рченный.

**ЗАЧЭРЧВАЦЦА** *несов. страд.* заче́рчиваться.

**ЗАЧЭРЧВАЦЬ** *несов.* заче́рчивать.

**ЗАЧЭ́САНЫ** I *см.* **зачаса́ны** I.

**ЗАЧЭ́САНЫ** II *см.* **зачаса́ны** II.

**ЗАЧЭ́СВАННЕ** I *ср.* причёсывание; зачёсывание; *см.* **зачэ́сваць** I.

**ЗАЧЭ́СВАННЕ** II *ср. плотн.* затёсывание; *см.* **зачэ́сваць** II.

**ЗАЧЭ́СВАЦЦА** I *несов. возвр., страд.* причёсываться; зачёсываться; *см.* **зачаса́цца, зачэ́сваць** I.

**ЗАЧЭ́СВАЦЦА** II *несов. страд. плотн.* затёсываться; *см.* зачэ́сваць II.

**ЗАЧЭ́СВАЦЬ** I *несов.* (*волосы*) причёсывать; зачёсывать; *см.* зачаса́ць I.

**ЗАЧЭ́СВАЦЬ** II *несов. плотн.* затёсывать; *см.* **зачаса́ць** II.

**ЗАШАВЯЛІЦЦА** *сов.* **1.** зашевели́ться; **лі́сце на дрэ́вах ~лі́лася** листва́ на дере́вьях зашевели́лась; **2.** (*начать суетливо передвигаться*) закопоши́ться; **у ку́чы гно́ю ~лі́ліся жукі́** в навозной ку́че закопоши́лись жуки́; **3.** *перен.* зашевели́ться; **у душы́ ~лі́ліся сумне́нні** в душе́ зашевели́лись сомне́ния; **4.** (*проявить активность*) прийти́ в движе́ние; нача́ть де́йствовать; **наро́д ~лі́ўся** наро́д пришёл в движе́ние.

**ЗАШАВЯЛІ́ЦЬ** *сов.* зашевели́ть; задви́гать.

**ЗАШАЛУДЗІ́ВЕЦЬ** *сов. разг.* покры́ться стру́пьями, зашелуди́веть.

**ЗАШАЛЯВА́ЦЬ** *сов. плотн.* обши́ть (*досками*).

**ЗАШАЛЯСЦЕ́ЦЬ** *сов.* зашелесте́ть.

**ЗАШАМАЦЕ́ЦЬ** *сов.* зашелесте́ть; зашурша́ть.

**ЗАША́МКАЦЬ** *сов.* зашамкать.

**ЗАШАПАЦЕ́ЦЬ** *сов. разг.* зашелесте́ть.

**ЗАШАПТА́ЦЦА** *сов.* зашепта́ться, зашушу́каться.

**ЗАШАПТА́ЦЬ** *сов.* зашепта́ть.

**ЗАШАПЯЛЯ́ЦЬ** *сов.* зашепеля́вить.

**ЗАШАРАВА́ЦЬ** *сов.* нача́ть тере́ть (скрести́).

**ЗАШАРАХЦЕ́ЦЬ** *сов. разг.* зашурша́ть.

**ЗАША́РКАЦЬ** *сов. разг.* заша́ркать.

**ЗАШАРЭ́ЦЬ** *сов.* (*начать сереть, делаться серым*) засере́ть.

**ЗАША́СТАЦЬ** *сов.* зашурша́ть, зашелесте́ть; прошурша́ть, прошелесте́ть.

**ЗАШВАРТАВА́НЫ** *мор.* зашварто́ванный.

**ЗАШВАРТАВА́ЦЦА** *сов. мор.* зашвартова́ться.

**ЗАШВАРТАВА́ЦЬ** *сов. мор.* зашвартова́ть.

**ЗАШВАРТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. мор.* зашварто́вываться.

**ЗАШВАРТО́ЎВАЦЬ** *несов. мор.* зашварто́вывать.

**ЗАШКЛЁНЫ** застеклённый, остеклённый.

**ЗАШКЛІ́ЦЬ** *сов.* застекли́ть, остекли́ть.

**ЗАШКО́ДЗІЦЬ** *сов.* **1.** повреди́ть; помеша́ть; **лі́шняя капе́йка не з.** ли́шняя копе́йка не повреди́т; **2.** (*принести вред, вредно отразиться*) повреди́ть; **агурка́м ~дзілі халады́** огурца́м повреди́ли холода́.

**ЗАШМАЛЬЦАВА́НЫ** *и* **ЗАШМАЛЬЦО́ВАНЫ** *разг.* замусо́ленный; заса́ленный; са́льный; зама́сленный; *см.* **зашмальцава́ць.**

**ЗАШМАЛЬЦАВА́ЦЦА** *сов. разг.* замусо́литься; (*запачкаться чем-л. сальным*) заса́литься; (*маслом*) зама́слиться.

**ЗАШМАЛЬЦАВА́ЦЬ** *сов. разг.* замусо́лить, завози́ть; заса́лить; зама́слить; **з. суке́нку** замусо́лить пла́тье; **з. кні́жкі** заса́лить (зама́слить) книжки.

**ЗАШМАЛЬЦО́ВАНЫ** *см.* **зашмальцава́ны.**

**ЗАШМАЛЬЦО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* замусо́ливаться; заса́ливаться; зама́сливаться; *см.* **зашмальцава́цца, зашмальцо́ўваць.**

**ЗАШМАЛЬЦО́ЎВАЦЬ** *несов. разг.* замусо́ливать; заса́ливать; зама́сливать; *см.* **зашмальцава́ць.**

**ЗА́ШМАРГА** *ж.* пе́тля (*затяжная*).

**ЗАШМАРГНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*о занавеске*) задёрнуться; **2.** (*о петле и т. п.*) захлестну́ться.

**ЗАШМАРГНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** задёрнуть; **з. фіра́нку** задёрнуть занаве́ску; 2. (*обвив чем-л., затянуть*) захлестну́ть; **з. пятлю** захлестну́ть пе́тлю.

**ЗАШМА́Т** *нареч.* многова́то, сли́шком мно́го.

**ЗАШМО́РГАЦЬ** *сов.* **1.** задёргать; **з. ле́йцамі** задёргать вожжа́ми; **2.** заша́ркать; **з. нагамі** заша́ркать нога́ми; **3.** зашмы́гать; **з. но́сам** зашмы́гать но́сом.

**ЗАШМО́РГВАЦЦА** *несов.* **1.** (*о занавеске*) задёргиваться; **2.** (*о петле и т. п.*) захлёстываться; 3. *страд.* задёргиваться; захлёстываться; *см.* **зашмо́ргваць.**

**ЗАШМО́РГВАЦЬ** *несов.* **1.** задёргивать; **2.** (*обвивая чем-л., затягивать*) захлёстывать; 1, 2 *см.* **зашмаргну́ць.**

**ЗАШМУ́ЛЕНЫ** *разг.* **1.** вы́тертый, обтёртый, зано́шенный; **2.** стёртый, натёртый; 1, 2 *см.* **зашму́ляць.**

**ЗАШМУ́ЛЯЦЦА** *сов. разг.* **1.** (*об одежде*) вы́тереться, обтере́ться, заноси́ться; **2.** (*о коже*) стере́ться.

**ЗАШМУ́ЛЯЦЬ** *сов. разг.* 1. (*одежду*) вы́тереть, обтере́ть, заноси́ть; 2. (*кожу*) стере́ть, натере́ть.

**ЗАШНУРАВА́НЫ** зашнуро́ванный.

**ЗАШНУРАВА́ЦЦА** *сов.* зашнурова́ться.

**ЗАШНУРАВА́ЦЬ** *сов.* зашнурова́ть.

**ЗАШНУРО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* зашнуро́вываться.

**ЗАШНУРО́ЎВАЦЬ** *несов.* зашнуро́вывать.

**ЗАШО́РГАЦЬ** *сов.* заша́ркать.

**ЗАШПАКЛЁВАНЫ** *см.* **зашпаклява́ны.**

**ЗАШПАКЛЁЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* зашпаклёвываться.

**ЗАШПАКЛЁЎВАЦЬ** *несов.* зашпаклёвывать.

**ЗАШПАКЛЯВА́НЫ** *и* **ЗАШПАКЛЁВАНЫ** зашпаклёванный.

**ЗАШПАКЛЯВА́ЦЦА** *сов.* зашпаклева́ться.
**ЗАШПАКЛЯВА́ЦЬ** *сов.* зашпаклева́ть.
**ЗАШПА́РВАЦЬ** *несов. разг.* зашвы́ривать.
**ЗАШПІ́ЛЕНЫ** зако́лотый, зашпи́ленный; застёгнутый; *см.* **зашпілі́ць.**
**ЗАШПІЛІ́ЦЦА** *сов.* зашпи́литься; (*на пуговицу*) застегну́ться; **з. на ўсе гу́зікі** застегну́ться на все пу́говицы.
**ЗАШПІЛІ́ЦЬ** *сов.* заколо́ть, зашпи́лить; (*на пуговицу*) застегну́ть; **з. ху́стку** заколо́ть (зашпи́лить) плато́к; **з. паліто́** застегну́ть пальто́.
**ЗАШПІ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** зашпи́ливаться; (*на пуговицу*) застёгиваться; *см.* **зашпілі́цца; 2.** *страд.* зака́лываться, зашпи́ливаться; застёгиваться; *см.* **зашпі́льваць.**
**ЗАШПІ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* зака́лывать, зашпи́ливать; (*на пуговицу*) застёгивать; *см.* **зашпілі́ць.**
**ЗА́ШПІЛЬКА** *ж.* застёжка, пе́тля.
**ЗАШПІЛЯ́ЦЦА** *несов. см.* **зашпі́львацца.**
**ЗАШПІЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **зашпі́льваць.**
**ЗАШПУНТАВА́НЫ** *и* **ЗАШПУНТО́ВАНЫ** заку́поренный.
**ЗАШПУНТАВА́ЦЬ** *сов.* заку́порить.
**ЗАШПУНТО́ВАНЫ** *см.* **зашпунтава́ны.**
**ЗАШПУНТО́ЎВАННЕ** *ср.* заку́порка *ж.*, заку́поривание.
**ЗАШПУНТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* заку́пориваться.
**ЗАШПУНТО́ЎВАЦЬ** *несов.* заку́поривать.
**ЗАШПУНТО́ЎКА** *ж.* заку́порка.
**ЗАШПУРЛЯ́ЦЬ** *сов. разг.* (*начать швырять*) зашвыря́ть.
**ЗАШПУРНУ́ЦЬ** *сов. разг.* зашвырну́ть.
**ЗАШРУБАВА́НЫ** зави́нченный, завёрнутый.
**ЗАШРУБАВА́ЦЦА** *сов.* завинти́ться, заверну́ться.
**ЗАШРУБАВА́ЦЬ** *сов.* завинти́ть, заверну́ть.
**ЗАШРУБО́ВАНЫ** *см.* **зашрубава́ны.**
**ЗАШРУБО́ЎВАННЕ** *ср.* зави́нчивание, завёртывание.
**ЗАШРУБО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* зави́нчиваться, завёртываться.
**ЗАШРУБО́ЎВАЦЬ** *несов.* зави́нчивать, завёртывать.
**ЗАШТАБНАВА́ЦЬ** *сов. сапож., порт.* застрочи́ть, проши́ть.
**ЗАШТАПАВА́ЦЬ** *сов. см.* **заштабнава́ць.**
**ЗАШТА́ТНЫ** *уст.* зашта́тный.
**ЗАШТРЫХАВА́НЫ** *и* **ЗАШТРЫХО́ВАНЫ** заштрихо́ванный.
**ЗАШТРЫХАВА́ЦЬ** *сов.* заштрихова́ть.
**ЗАШТРЫХО́ВАНЫ** *см.* **заштрыхава́ны.**
**ЗАШТУКАВА́НЫ 1.** заде́ланный; **2.** *порт.* заштуко́ванный.
**ЗАШТУКАВА́ЦЦА** *сов.* заде́латься.
**ЗАШТУКАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** заде́лать; **2.** *порт.* заштукова́ть.
**ЗАШТУКО́ЎВАННЕ** *ср.* заде́лка *ж.*
**ЗАШТУКО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** заде́лываться; **2.** *страд.* заде́лываться; заштуко́вываться; *см.* **заштуко́ўваць.**
**ЗАШТУКО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** заде́лывать; **2.** *порт.* заштуко́вывать.
**ЗАШТУ́РХАНЫ** зато́лканный; *см.* **зашту́рхаць.**
**ЗАШТУ́РХАЦЬ** *сов.* (*в толпе и т. п.*) затолка́ть.
**ЗАШТУ́РХВАЦЬ** *и* **ЗАШТУРХО́ЎВАЦЬ** *несов.* (*в толпе и т. п.*) зата́лкивать.
**ЗАШТУ́РХНУТЫ** зато́лкнутый.
**ЗАШТУРХНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* затолкну́ть.
**ЗАШТУРХО́ЎВАЦЬ** *несов. см.* **зашту́рхваць.**
**ЗАШТЭМПЕЛЁЎВАЦЬ** *несов.* заштемпелёвывать.
**ЗАШТЭМПЕЛЯВА́НЫ** заштемпелёванный.
**ЗАШТЭМПЕЛЯВА́ЦЬ** *сов.* заштемпелева́ть.
**ЗАШУГА́ЦЬ** *сов.* заполыха́ть; **~га́ла по́лымя** заполыха́ло пла́мя.
**ЗАШУМЕ́ЦЬ** I *сов.* (*поднять шум*) зашуме́ть.
**ЗАШУМЕ́ЦЬ** II *сов. разг.* (*покрыться пеной*) запе́ниться.
**ЗАШУШУ́КАЦЦА** *сов.* зашушу́каться.
**ЗАШЧАБЕ́НЕНЫ** *тех.* защебенённый.
**ЗАШЧАБЕ́НЬВАЦЦА** *несов. страд. тех.* защебе́ниваться.
**ЗАШЧАБЕ́НЬВАЦЬ** *несов. тех.* защебе́нивать.
**ЗАШЧАБЯНІ́ЦЬ** *сов. тех.* защебени́ть.
**ЗАШЧАБЯТА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* защебета́ть.
**ЗАШЧАМІ́ЦЦА** *сов.* защеми́ться, застря́ть.
**ЗАШЧАМІ́ЦЬ** *сов.* (*зажать*) защеми́ть.
**ЗАШЧАМЛЯ́ЦЦА** *и* **ЗАШЧЭ́МЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** защемля́ться, застрева́ть; **2.** *страд.* защемля́ться; *см.* **зашчамля́ць.**
**ЗАШЧАМЛЯ́ЦЬ** *и* **ЗАШЧЭ́МЛІВАЦЬ** *несов.* (*зажимать*) защемля́ть.
**ЗАШЧАПІ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*закрыть на крючок дверь*) запере́ться; **2.** (*закрыться — о защёлке, крючке и т. п.*) запере́ться, защёлкнуться.
**ЗАШЧАПІ́ЦЬ** *сов.* (*на крючок*) запере́ть, защёлкнуть.
**ЗА́ШЧАПКА** *ж.* защёлка; крючо́к *м.*
**ЗАШЧАПЛЯ́ЦЦА** *несов. см.* **зашчэ́пліваццa.**
**ЗАШЧАПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **зашчэ́пліваць.**
**ЗАШЧО́ЎКАЦЬ** *сов.* защёлкать; **~каў салаве́й** защёлкал солове́й.
**ЗАШЧО́ЎКВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* защёлкиваться; *см.* **зашчо́ўкнуцца, зашчо́ўкваць.**
**ЗАШЧО́ЎКВАЦЬ** *несов. разг.* защёлкивать; *см.* **зашчо́ўкнуць.**
**ЗАШЧО́ЎКНУЦЦА** *сов. разг.* защёлкнуться.
**ЗАШЧО́ЎКНУЦЬ** *сов. разг.* защёлкнуть; **з. замо́к** защёлкнуть замо́к.
**ЗАШЧО́ЧНЫ** *анат.* защёчный; **~ныя мяшкі́** защёчные мешки́.
**ЗАШЧЫМЕ́ЦЬ** *сов. разг.* заса́днить; **~ме́ла рука́** заса́днила рука́.
**ЗАШЧЫПА́НЫ** *разг.* защи́панный; *см.* **зашчыпа́ць.**
**ЗАШЧЫПА́ЦЬ** *сов. разг.* (*замучить щипками*) защипа́ть.
**ЗАШЧЫ́ТАК, -тка** *м. архит.* щит, лби́ще *ср.*
**ЗАШЧЭ́МЛЕНЫ** защемлённый; *см.* **зашчамі́ць.**
**ЗАШЧЭ́МЛІВАЦЦА** *несов. см.* **зашчамля́цца.**
**ЗАШЧЭ́МЛІВАЦЬ** *несов. см.* **зашчамля́ць.**
**ЗАШЧЭ́ПЛЕНЫ** за́пертый, защёлкнутый; *см.* **зашчапі́ць.**
**ЗАШЧЭ́ПЛІВАННЕ** *ср.* запира́ние, защёлкивание; *см.* **зашчэ́пліваць.**
**ЗАШЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *и* **ЗАШЧАПЛЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** (*закрывать на крючок дверь*) запира́ться; **2.** (*закрываться — о защёлке, крючке и т. п.*) запира́ться, защёлкиваться; **3.** *страд.* запира́ться, защёлкиваться; *см.* **зашчэ́пліваць.**
**ЗАШЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *и* **ЗАШЧАПЛЯ́ЦЬ** *несов.* (*на крючок*) запира́ть, защёлкивать.
**ЗАШЫВА́ННЕ** *ср.* зашива́ние, заши́вка *ж.*; замётывание, замётка *ж.*; *см.* **зашыва́ць.**
**ЗАШЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *разг.* залеза́ть, пря́таться; **2.** *страд.* зашива́ться; замётываться; *см.* **зашыва́ць.**
**ЗАШЫВА́ЦЬ** *несов.* зашива́ть; (*крупными стежками — ещё*) замётывать.
**ЗАШЫ́ЙНЫ** *анат.* заше́йный.
**ЗАШЫ́КАЦЬ** *сов. разг.* заши́кать.
**ЗАШЫПЕ́ЦЬ** *сов.* зашипе́ть.
**ЗАШЫРО́КА** *нареч.* широкова́то, сли́шком широко́.
**ЗАШЫРО́КІ** широкова́тый, сли́шком широ́кий.
**ЗАШЫ́ТЫ** заши́тый; замётанный; *см.* **зашы́ць.**
**ЗАШЫ́ЎКА** *ж.* заши́вка.
**ЗАШЫФРАВА́НЫ** *и* **ЗАШЫФРО́ВАНЫ** зашифро́ванный.
**ЗАШЫФРАВА́ЦЬ** *сов.* зашифрова́ть.
**ЗАШЫФРО́ВАНЫ** *см.* **зашыфрава́ны.**
**ЗАШЫФРО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* зашифро́вываться.
**ЗАШЫФРО́ЎВАЦЬ** *несов.* зашифро́вывать.
**ЗАШЫ́ЦЦА** *сов. разг.* зале́зть, спря́таться.

**ЗАШЫЦЬ** *сов.* зашить; (*крупными стежками — ещё*) заметать.

**ЗАШЭРХНУЦЬ** *сов. разг.* **1.** (*о почве*) подсохнуть; **зямля ~хла** земля подсохла; **2.** (*утратить чувствительность*) онеметь, одеревенеть; **нага ~хла** нога онемела (одеревенела).

**ЗАЮРЫЦЬ** *сов. разг.* прийти в возбуждённо-игривое состояние, взыграть, разыграться.

**ЗАЯВА** *ж.* **1.** заявление *ср.*; **2.** *юр.* показание *ср.*

**ЗАЯВАЧНЫ** заявочный.

**ЗАЯВІЦЬ** *сов.* заявить.

**ЗАЯДАЦЦА** *несов. разг.* **1.** (*з кім и без доп.*) задираться, сцепляться; **2.** (*на каго и без доп.*) взъедаться, затаивать злобу; **3.** (*у што*) застревать (*в чём*); *см.* **заесціся** 3; **4.** *страд.* заедаться; *см.* **заядаць.**

**ЗАЯДАЦЬ** *несов. в разн. знач.* заедать; *см.* **заесці.**

**ЗАЯДЛА** *нареч.* завзято, рьяно, заядло.

**ЗАЯДЛАСЦЬ** *ж.* завзятость, рьяность, заядлость.

**ЗАЯДЛЫ 1.** завзятый, рьяный, заядлый; **2.** сердитый, злой, драчливый.

**ЗАЯЗДЖАЦЬ** *несов. в разн. знач.* заезжать; *см.* **заехаць.**

**ЗАЯСНЕЦЦА** *сов.* стать ясным.

**ЗАЯСНЕЦЬ** *сов.* начать яснеть.

**ЗАЯЎКА** *ж.* заявка.

**ЗАЯЎКАЦЬ** *сов. обл.* замяукать.

**ЗАЯЎЛЕНЫ** заявленный.

**ЗАЯЎЛЯЦЬ** *несов.* заявлять.

**ЗАЯЎНІК** *м.* заявитель.

**ЗАЯЎНІЦА** *ж.* заявительница.

**ЗАЯЎШЧЫК** *м.* заявщик.

**ЗАЯЎШЧЫЦА** *ж.* заявщица.

**ЗАЯХКАЦЬ** *сов. разг.* затявкать; **ганчак ~каў** гончая затявкала.

**ЗАЯЦ,** *род.* **зайца** *м. в разн. знач.* заяц; **забіць зайца** убить зайца; **каўнер з зайца** воротник из зайца; **ехаць зайцам** ехать зайцем; ✧ **за двума зайцамі пагонішся, ні аднаго не зловіш** *посл.* за двумя зайцами погонишься, ни одного не поймаешь; **адным стрэлам двух зайцаў забіць** *погов.* одним выстрелом двух зайцев убить.

**ЗАЯЧЫ** *см.* **заечы.**

**ЗАЯЧЫНА** *ж. см.* **заечына.**

**ЗБАВЕННЕ** *ср. разг.* избавление; *см.* **збавіць** II.

**ЗБАВІЦЕЛЬ** *м.* избавитель, спаситель; искупитель.

**ЗБАВІЦЕЛЬКА** *ж.* избавительница, спасительница; искупительница.

**ЗБАВІЦЕЛЬНЫ** избавительный; искупительный.

**ЗБАВІЦЦА** *сов. разг.* (*освободиться*) избавиться.

**ЗБАВІЦЬ** I *сов. разг.* **1.** сбавить, убавить; **з. цану** сбавить (убавить) цену; **2.** (*в весе*) сбавить, убавить; ✧ **з. тон** сбавить тон.

**ЗБАВІЦЬ** II *сов. разг.* (*освободить*) избавить.

**ЗБАЁДАНЫ** *разг.* погубленный, загубленный; ухоженный.

**ЗБАЁДАЦЬ** *сов. разг.* погубить, загубить; уходить.

**ЗБАЖЫНА** *собир. ж.* (*хлебные злаки*) хлеба *мн.*

**ЗБАКАЦЬ** *сов. обл. прост.* отстранить; выгнать, прогнать.

**ЗБАЛАВАНАСЦЬ** *ж.* избалованность.

**ЗБАЛАВАНЫ** избалованный; *см.* **збалаваць.**

**ЗБАЛАВАЦЦА** *сов.* избаловаться.

**ЗБАЛАВАЦЬ** *сов.* избаловать; **бацькі ~валі дзіця** родители избаловали ребёнка.

**ЗБАЛАНСАВАНЫ** *бухг.* сбалансированный.

**ЗБАЛАНСАВАЦЦА** *сов. бухг.* сбалансироваться.

**ЗБАЛАНСАВАЦЬ** *сов. бухг.* сбалансировать.

**ЗБАЛБАТНУЦЬ** *сов. однокр. разг.* сболтнуть.

**ЗБАЛЕЛЫ 1.** *разг.* (*истощённый от болезни, страданий*) изболевший; **2.** измождённый.

**ЗБАЛТАВАНЫ** *тех.* сболченный.

**ЗБАЛТАВАЦЬ** *сов. тех.* сболтить.

**ЗБАЛТОЎВАЦЦА** *несов. страд. тех.* сболчиваться.

**ЗБАЛТОЎВАЦЬ** *несов. тех.* сболчивать.

**ЗБАН,** *род.* **збана** *м.* кувшин, жбан, крынка *ж.*, кринка *ж.*

**ЗБАНКРУТАВАЦЬ** *сов. прям., перен.* обанкротиться.

**ЗБАНКРУЦІЦЦА** *сов. см.* **збанкрутаваць.**

**ЗБАНОК, -нка** *м.* кувшинчик, крыночка *ж.*, криночка *ж.*

**ЗБАНОЧАК, -чка** *м.* **1.** *бот.* кубышка *ж.*; **2.** *уменьш.* кувшинчик, крыночка *ж.*, криночка *ж.*

**ЗБАРАЗНЁНЫ** *в разн. знач.* изборождённый; *см.* **збаразніць.**

**ЗБАРАЗНІЦЬ** *сов. в разн. знач.* избороздить; **яры ~нілі поле** овраги избороздили поле; **маршчыны ~нілі твар** морщины избороздили лицо.

**ЗБАРОЗНЕНЫ** *см.* **збаразнёны.**

**ЗБАЎКА** *ж. разг.* **1.** сбавка, убавка; **2.** сбавка; 1, 2 *см.* **збавіць** I.

**ЗБАЎЛЕНЫ** I *разг.* сбавленный, убавленный; *см.* **збавіць** I 1.

**ЗБАЎЛЕНЫ** II *разг.* избавленный; *см.* **збавіць** II.

**ЗБАЎЛЯЦЦА** I *несов. страд.* сбавляться; убавляться; *см.* **збаўляць** I.

**ЗБАЎЛЯЦЦА** II *несов. возвр., страд. разг.* избавляться; *см.* **збавіцца, збаўляць** II.

**ЗБАЎЛЯЦЬ** I *несов. разг.* **1.** сбавлять, убавлять; *см.* **збавіць** I 1; **2.** (*в весе*) сбавлять, убавлять.

**ЗБАЎЛЯЦЬ** II *сов. разг.* (*освобождать*) избавлять.

**ЗБАЯЦЦА** (*каго-чаго и без доп.*) *сов.* сробеть (*без доп.*), струсить (*перед кем-чем и без доп.*); **хлопец не збаяўся** парень не сробел (не струсил).

**ЗБЕГ,** *род.* **збегу** *м.* **1.** (*действие*) сбег; **2.** (*место, устройство*) сбег; **3.** (*состояние*) стечение *ср.*; **4.** *грам.* сочетание; **з. зычных** сочетание согласных; ✧ **з. акалічнасцей** стечение обстоятельств.

**ЗБЕГАЦЦА** *сов.* (*устать, изнуриться от беготни*) избегаться.

**ЗБЕГАЦЬ** *сов. разг.* сбегать.

**ЗБЕГЛЫ** *разг.* беглый; **з. катаржнік** беглый каторжник.

**ЗБЕГЧЫ** *сов. в разн. знач.* сбежать; (*исчезнуть тайком, совершить побег — ещё*) убежать; **з. з гары** сбежать с горы; **з. з заняткаў** сбежать (убежать) с занятий; **усмешка ~гла з твару** улыбка сбежала с лица; **увесь накіп збег** вся накипь сбежала; **вада ~гла ў канаву** вода сбежала в канаву.

**ЗБЕГЧЫСЯ** *сов.* **1.** (*собраться*) сбежаться; **2.** (*о тканях*) сесть; **3.** (*о молоке*) свернуться.

**ЗБЕДНЕНЫ** *разг.* **1.** обеднённый; **2.** прибеднившийся.

**ЗБЕДНІЦЦА** *сов. разг.* прибедниться.

**ЗБЕЖНАСЦЬ** *ж. мат.* сходимость.

**ЗБЕЖНЫ** *мат.* сходящийся.

**ЗБЕРАГАЦЦА** *несов. страд.* сберегаться; *см.* **зберагаць.**

**ЗБЕРАГАЦЬ** *несов.* (*тщательно сохранять*) сберегать; *см.* **зберагчы.**

**ЗБЕРАГЧЫ** *сов.* (*тщательно сохранить*) сберечь; **з. дакументы** сберечь документы.

**ЗБЕРАГЧЫСЯ** *сов.* сберечься.

**ЗБЕРАЖЭННЕ** *ср.* сбережение.

**ЗБІВАННЕ** *ср.* **1.** сбивание; сшибание; **2.** сбивание, сбивка *ж.*, сколачивание; **3.** сбивание, сваливание; **4.** избиение; **5.** ссаживание; **6.** сбивание; стаптывание; **7.** сбивание; **8.** сбивание; совращение; **9.** сбивание; **10.** сбивание, сбивка *ж.*; 1—10 *см.* **збіваць.**

**ЗБІВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* сбиваться; (*о шерсти — ещё*) сваливаться; (*об обуви — ещё*) избиваться; *см.* **збіцца;** **2.** *страд.* сбиваться; сшибаться; сколачиваться; сваливаться; избиваться; ссаживаться; стаптываться; совращаться; *см.* **збіваць.**

**ЗБІВАЦЬ** *несов.* **1.** (*ударом сдвигать*) сбивать; (*заставлять упасть — ещё*) сшибать; **2.** (*соединять*) сбивать, ско-

ла́чивать; **3.** (*с ног*) сбива́ть, сва́ливать; **4.** (*сильно колотить*) избива́ть; **5.** (*повреждать кожу на пальце, локте и т. п.*) сса́живать; **6.** (*скривлять на сторону*) сбива́ть; (*каблуки — ещё*) ста́птывать; **7.** (*оттеснять*) сбива́ть; *см.* **збіць** 7; **8.** (*запутывать*) сбива́ть; соврача́ть; **9.** (*снижать цену*) сбива́ть; **10.** (*масло*) сбива́ть.

**ЗБІРА́ЛЬНІК** *м.* собира́тель.

**ЗБІРА́ЛЬНІЦА** *ж.* собира́тельница.

**ЗБІРА́ЛЬНІЦТВА** *ср.* собира́тельство.

**ЗБІРА́ЛЬНЫ** *см.* **зборачны.**

**ЗБІРА́ННЕ** *ср.* **1.** собира́ние; сосредото́чение; скола́чивание; взы́скивание, взима́ние; снаряже́ние; подбира́ние; **2.** нака́пливание; **3.** убо́рка *ж.*; **4.** снима́ние; 1—4 *см.* **збіра́ць.**

**ЗБІРА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* собира́ться; (*в одном месте — ещё*) сосредото́чиваться; скопля́ться; (*организовываться — ещё*) скола́чиваться; (*в дорогу — ещё*) снаряжа́ться; (*вознамериваться — ещё*) намерева́ться, предполага́ть; *см.* **сабра́цца; 2.** *страд.* собира́ться; сосредото́чиваться; скола́чиваться; взы́скиваться, взима́ться; снаряжа́ться; подбира́ться; копи́ться, ска́пливаться, сберега́ться, прика́пливаться, нака́пливаться; убира́ться; снима́ться; *см.* **збіра́ць.**

**ЗБІРА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* собира́ть; (*в одном месте — ещё*) сосредото́чивать; (*организовывать — ещё*) скола́чивать; (*требовать — ещё*) взы́скивать, взима́ть; (*в дорогу — ещё*) снаряжа́ть; (*рассыпавшееся на полу — ещё*) подбира́ть; **2.** (*деньги, материалы и т. п.*) копи́ть, ска́пливать, сберега́ть, прика́пливать, нака́пливать; **3.** (*урожай*) убира́ть, собира́ть; **4.** снима́ть; 1—4 *см.* **сабра́ць.**

**ЗБІ́ТАСЦЬ** *ж.* изби́тость; *см.* **збіты** 11.

**ЗБІ́ТЫ 1.** *прич.* сби́тый; сши́бленный; **2.** *прич.* сби́тый, сколо́ченный; **3.** *прич.* сби́тый, сва́ленный; **4.** *прич.* изби́тый; **5.** *прич.* сса́женный; **6.** *прич.* сби́тый; сто́птанный; **7.** *прич.* сби́тый; **8.** *прич.* сби́тый; совращённый; **9.** *прич.* сби́тый; **10.** *прич.* сби́тый; 1—10 *см.* **збіць; 11.** *прил.* (*банальный*) изби́тый; **~тая тэ́ма** изби́тая те́ма.

**ЗБІ́ЦЕНШЧЫК** *м. уст.* сби́тенщик.

**ЗБІ́ЦЕНЬ,** *род.* **збі́тню** *м. уст.* сби́тень.

**ЗБІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* сби́ться; (*о шерсти — ещё*) сваля́ться; (*об обуви — ещё*) изби́ться; **павя́зка збілася** повя́зка сби́лась; **абца́сы збі́ліся** каблуки́ сби́лись; **бо́ты збі́ліся** сапоги́ сби́лись (изби́лись); **з. з даро́гі** сби́ться с доро́ги; **з. пры падлі́ку** сби́ться при подсчёте; **во́ўна збі́лася ў ля́мец** шерсть сби́лась (сваля́лась) в во́йлок; **лю́дзі збі́ліся ў ку́чу** лю́ди сби́лись в ку́чу; **ма́сла збі́лася** ма́сло сби́лось.

**ЗБІЦЬ** *сов.* **1.** (*ударом сдвинуть*) сбить; (*заставить упасть — ещё*) сшиби́ть; **2.** (*соединить*) сбить, сколоти́ть; **3.** (*с ног*) сбить, свали́ть; **4.** (*сильно отколотить*) изби́ть; **5.** (*повредить кожу на пальце, локте и т. п.*) ссади́ть; **6.** (*скривить на сторону*) сбить; (*каблуки — ещё*) стопта́ть; **7.** (*оттеснить*) сбить; **з. з пазі́цыі** сбить с пози́ции; **8.** (*запутать*) сбить; соврати́ть; **9.** (*снизить цену*) сбить; **10.** (*масло*) сбить; ✧ **з. з панталы́ку (тро́пу)** сбить с панталы́ку.

**ЗБЛАЖЭ́ЛЫ** *разг.* исхуда́лый, отоща́лый.

**ЗБЛАЖЭ́ЦЬ** *сов. разг.* исхуда́ть, отоща́ть.

**ЗБЛАЗНАВА́ЦЬ** *сов.* поступи́ть по-мальчи́шески.

**ЗБЛАКІРАВА́ЦЦА** *сов. разг.* сблоки́роваться.

**ЗБЛІ́ЖАНЫ** *в разн. знач.* сбли́женный; *см.* **зблі́зіць.**

**ЗБЛІЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* сближа́ться; *см.* **зблі́зіцца, зблiжа́ць.**

**ЗБЛІЖА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* сближа́ть; *см.* **зблі́зіць.**

**ЗБЛІЖЭ́ННЕ** *ср.* сближе́ние; *см.* **зблiжа́ць.**

**ЗБЛІ́ЗІЦЦА** *сов. в разн. знач.* сбли́зиться; **працíўнікі ~зіліся** проти́вники сбли́зились; **яны́ ве́льмі ху́тка ~зіліся** они́ о́чень бы́стро сбли́зились; **на́шы по́гляды ~зіліся** на́ши взгля́ды сбли́зились.

**ЗБЛІ́ЗІЦЬ** *сов. в разн. знач.* сбли́зить; **з. канцы́ дро́ту** сбли́зить концы́ про́волоки; **агу́льныя інтарэ́сы ~зілі іх** о́бщие интере́сы сбли́зили их; **з. паня́ццi** сбли́зить поня́тия.

**ЗБЛІ́ЗКУ** *нареч.* вблизи́; с бли́зкого расстоя́ния.

**ЗБЛЫТАНЫ** спу́танный; сме́шанный; *см.* **зблы́таць.**

**ЗБЛЫ́ТАЦЦА** *сов. в разн. знач.* спу́таться; (*прийти в хаотическое состояние — ещё*) смеша́ться; **ні́ткі ~таліся** ни́тки спу́тались; **папе́ры ~таліся** бума́ги спу́тались (смеша́лись); **ду́мкі ~таліся** мы́сли спу́тались (смеша́лись); **з. ў паказа́ннях** спу́таться в показа́ниях; **з. з жу́лікамі** спу́таться с жу́ликами.

**ЗБЛЫ́ТАЦЬ** *сов. в разн. знач.* спу́тать; (*перепутать — ещё*) смеша́ть; **з. пра́жу** спу́тать пря́жу; **з. папе́ры на стале́** спу́тать (смеша́ть) бума́ги на столе́; **з. паня́ццi** спу́тать (смеша́ть) поня́тия; **з. рэ́плікай** спу́тать ре́пликой; ✧ **з. усе́ ка́рты** спу́тать все ка́рты.

**ЗБЛЫТВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* спу́тываться; сме́шиваться; *см.* **зблыта́цца, зблы́тваць.**

**ЗБЛЫ́ТВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* спу́тывать; (*перепутывать — ещё*) сме́шивать; *см.* **зблы́таць.**

**ЗБЛЯДНЕ́ЦЬ** *сов.* побледне́ть.

**ЗБЛЯ́КЛЫ** поблёклый, поблёкший.

**ЗБО́ЖЖА** *ср.* **1.** *собир.* зерно́, хлеб *м.*; **2.** (*на корню или в снопах*) хлеб *м.*

**ЗБО́ЖЖАВЫ** хле́бный, зерново́й.

**ЗБОЖЖАВЫТВО́РЧЫ** хлебопроизводя́щий.

**ЗБОЖЖАГАНДЛЁВЫ** хлеботорго́вый; хлеботоргу́ющий.

**ЗБОЖЖАЗАКУ́ПКА** *ж.* хлебозаку́пка.

**ЗБОЖЖАЗДА́ТАЧНЫ** хлебосда́точный.

**ЗБОЖЖАЗДА́ЧА** *ж.* хлебосда́ча.

**ЗБОЖЖАНАРЫХТО́ЎКІ, -то́вак,** *ед.* **збожжанарыхто́ўка** *ж.* хлебозагото́вки.

**ЗБОЖЖАНАРЫХТО́ЎЧЫ** хлебозаготови́тельный.

**ЗБОЖЖАНАРЫХТО́ЎШЧЫК** *м.* хлебозаготови́тель.

**ЗБОЖЖАПАГРУ́ЗЧЫК** *м.* зернопогру́зчик.

**ЗБОЖЖАПАСТА́ЎКІ,** *ед.* **збожжапаста́ўка** *ж.* хлебопоста́вки; зернопоста́вки.

**ЗБОЖЖАСХО́ВІШЧА** *ср.* зернохрани́лище; хлебохрани́лище.

**ЗБОЖЖАЎБО́РАЧНЫ** хлебоубо́рочный; зерноубо́рочный.

**ЗБОЖЖАЎБО́РКА** *ж.* хлебоубо́рка.

**ЗБОЖЖАФУРА́Ж, -жу́** *м.* хлебофура́ж.

**ЗБОЖЖАФУРА́ЖНЫ** хлебофура́жный.

**ЗБОЙ** I, *род.* **збо́ю** *м. спорт.* сбой.

**ЗБОЙ** II, *род.* **збо́ю** *м.* (*голова, ноги и внутренности убитого на мясо животного*) сбой.

**ЗБОЙ** III, *род.* **збо́ю** *м.* большо́е скопле́ние.

**ЗБО́ЙКА** *ж. горн.* сбо́йка.

**ЗБО́КУ 1.** *нареч.* сбо́ку; **хлеб зацвіў з.** хлеб запле́сневел сбо́ку; **2.** *нареч. прям., перен.* в стороне́; **ха́та стаі́ць з.** изба́ стои́т в стороне́; **стая́ць з. ад грама́дскіх спраў** стоя́ть в стороне́ от обще́ственных дел; **3.** *в знач. предлога с род.* сбо́ку от; в стороне́ от; **з. даро́гі** сбо́ку (в стороне́) от доро́ги.

**ЗБО́ЛЬШАГА** *нареч.* слегка́, немно́го, отча́сти; приблизи́тельно.

**ЗБОР,** *род.* **збо́ру** *м.* **1.** (*действие*) сбор; (*урожая — ещё*) убо́рка *ж.*; **з. ураджа́ю** сбор (убо́рка) урожа́я; **з. назна́чан на пяць гадзі́н** сбор назна́чен на пять часо́в; **ме́сца збо́ру** ме́сто сбо́ра; **2.** (*законов, летописей и т. п.*) свод; **3.** (*произведений*) собра́ние *ср.*; **з. тво́раў** собра́ние сочине́ний; **4.** *только мн. разг.* сбо́ры, приготовле́ния; ✧ **з.-дружы́на** с бо́ру да с со́сенки.

**ЗБО́РАЧНЫ** сбо́рочный; **з. цэх** сбо́рочный цех.

**ЗБО́РКА** *ж. в разн. знач.* сбо́рка; **з. машы́ны** сбо́рка маши́ны; **суке́нка са ~камі** пла́тье со сбо́рками.

**ЗБО́РЛІВАСЦЬ** *ж.* бережли́вость.

**ЗБО́РЛІВЫ** бережли́вый.

**ЗБО́РНІК** *м.* сбо́рник; **з. ве́ршаў** сбо́рник стихо́в.
**ЗБО́РНЫ 1.** сбо́рный; **2.** *грам.* собира́тельный.
**ЗБО́РНЯ** *ж. ист. разг.* собра́ние *ср.*
**ЗБО́РШЧЫК** *м. в разн. знач.* сбо́рщик; **з. чле́нскіх узно́саў** сбо́рщик чле́нских взно́сов; **з. мато́раў** сбо́рщик мото́ров.
**ЗБО́РШЧЫЦА** *ж. в разн. знач.* сбо́рщица; *см.* **збо́ршчык.**
**ЗБО́РЫШЧА** *ср.* сбо́рище, ско́пище.
**ЗБО́ЎТАНЫ 1.** сбо́лтанный, перебо́лтанный; **2.** взбо́лтанный; 1, 2 *см.* **збо́ўтаць.**
**ЗБО́ЎТАЦЦА** *сов.* сболта́ться, переболта́ться.
**ЗБО́ЎТАЦЬ** *сов.* **1.** (*перемешать*) сболта́ть, переболта́ть; **з. малако́ з жаўтка́мі** сболта́ть молоко́ с желтка́ми; **2.** взболта́ть; **з. ляка́рства** взболта́ть лека́рство.
**ЗБО́ЎТВАЦЦА** *несов.* **1.** сба́лтываться, переба́лтываться; **2.** *страд.* взба́лтываться; *см.* **збо́ўтваць** 2.
**ЗБО́ЎТВАЦЬ** *несов.* **1.** (*перемешивать*) сба́лтывать, переба́лтывать; **2.** взба́лтывать; 1, 2 *см.* **збо́ўтаць.**
**ЗБО́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** сторони́ться, сходи́ть с доро́ги; **2.** отклоня́ться в сто́рону.
**ЗБО́ЧЫЦЬ** *сов.* **1.** посторони́ться, сойти́ с доро́ги; **2.** отклони́ться в сто́рону.
**ЗБРА́ТАЦЦА** *сов. разг.* побрата́ться.
**ЗБРАХА́ЦЬ** *сов. прост. неодобр.* сбреха́ть.
**ЗБРАХНУ́ЦЬ** *сов. однокр. прост. неодобр.* сбрехну́ть.
**ЗБРАШУРАВА́НЫ** *и* **ЗБРАШУРО́ВАНЫ** сброшюро́ванный.
**ЗБРАШУРАВА́ЦЬ** *сов.* сброшюрова́ть.
**ЗБРАШУРО́ВАНЫ** *см.* **збрашурава́ны.**
**ЗБРАЯНО́СЕЦ, -но́сца** *м. ист.* оружено́сец.
**ЗБРОД,** *род.* **збро́ду** *собир. м. презр.* сброд.
**ЗБРО́ДЛІВЫ** *разг.* плутова́тый; ворова́тый.
**ЗБРО́ЕВЫ** оруже́йный; **з. заво́д** оруже́йный заво́д; **~вая майстэ́рня** оруже́йная мастерска́я; **з. ма́йстар** оруже́йный ма́стер.
**ЗБРО́ЙНІК** *м.* оруже́йник.
**ЗБРО́СНЕЛЫ** запле́сневевший, запле́сневелый; *см.* **збро́снець.**
**ЗБРО́СНЕЦЬ** *сов.* (*о жидкости*) запле́сневеть.
**ЗБРО́Я** *ж. в разн. знач.* ору́жие *ср.*; **бра́цца за збро́ю** бра́ться за ору́жие; **а́тамная з.** а́томное ору́жие; **друк — магу́тная з.** печа́ть — могу́чее ору́жие.
**ЗБРЫВА́ННЕ** *ср.* сбрива́ние.
**ЗБРЫВА́ЦЦА** *несов. страд.* сбрива́ться.
**ЗБРЫВА́ЦЬ** *несов.* сбрива́ть.
**ЗБРЫ́ДАЦЬ** *сов. разг.* надое́сть, опроти́веть; прие́сться; **~дала паўтара́ць адно́ і то́е ж** надое́ло (опроти́вело) повторя́ть одно́ и то́ же.
**ЗБРЫ́ДЖАНЫ** *разг.* обезобра́женный, изуро́дованный; *см.* **збры́дзіць.**
**ЗБРЫДЗЕЦЬ** *сов. см.* **збры́даць.**
**ЗБРЫ́ДЗІЦЦА** *сов. разг.* обезобра́зиться, изуро́доваться.
**ЗБРЫ́ДЗІЦЬ** *сов. разг.* обезобра́зить, изуро́довать; **з. твар гры́мам** обезобра́зить (изуро́довать) лицо́ гри́мом.
**ЗБРЫСЦІ́** *сов. разг.* уйти́.
**ЗБРЫ́ТЫ** сбри́тый.
**ЗБРЫЦЬ** *сов.* сбрить.
**ЗБУДАВА́ННЕ** *ср.* (*постройка*) строе́ние, сооруже́ние.
**ЗБУДАВА́НЫ** постро́енный, вы́строенный; сооружённый, возведённый, воздви́гнутый; *см.* **збудава́ць.**
**ЗБУДАВА́ЦЬ** *сов.* постро́ить, вы́строить; сооруди́ть, возвести́, воздви́гнуть; **з. свіна́рнік** постро́ить (вы́строить) свина́рник; **з. пала́ц** постро́ить (вы́строить, сооруди́ть, возвести́, воздви́гнуть) дворе́ц.
**ЗБУДО́ВАНЫ** *см.* **збудава́ны.**
**ЗБУ́НТАВА́ЦЦА** *сов.* **1.** *разг.* прийти́ в замеша́тельство, смеша́ться; **2.** *прост.* взбунтова́ться.
**ЗБУНТАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *разг.* (*кого-л.*) привести́ в замеша́тельство, сбить с то́лку; **2.** *разг.* (*что-л.*) смеша́ть, перепу́тать; **3.** *прост.* взбунтова́ть.
**ЗБУ́РАНЫ** *разг.* сва́ленный в ку́чу.
**ЗБУРЫ́ЦЬ** *сов. разг.* свали́ть в ку́чу.
**ЗБУЦВЕ́ЛЫ** истле́вший, сопре́вший, сгни́вший.
**ЗБУЦВЕ́ЦЬ** *сов.* истле́ть, сопре́ть, сгнить, преврати́ться в труху́.
**ЗБЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** сбыва́ться, осуществля́ться, исполня́ться; *см.* **збы́цца; 2.** *страд.* сбыва́ться, продава́ться, распродава́ться; *см.* **збыва́ць** 1.
**ЗБЫВА́ЦЬ** (*каго-што*) *несов.* **1.** сбыва́ть, продава́ть, распродава́ть; **2.** (*освобождаться, отделываться*) сбыва́ть, избавля́ться (*от кого-чего*); 1, 2 *см.* **збыць.**
**ЗБЫТ,** *род.* **збы́ту** *м. эк., торг.* сбыт; **з. тава́раў** сбыт това́ров; **барацьба́ памі́ж капіталісты́чнымі краі́намі за ры́нкі збы́ту** борьба́ ме́жду капиталисти́ческими стра́нами за ры́нки сбы́та.
**ЗБЫТАВЫ́** *эк., торг.* сбытово́й; **~вы́я арганіза́цыі** сбытовы́е организа́ции.
**ЗБЫ́ЦЦА** *сов.* сбы́ться, осуществи́ться, испо́лниться; **надзе́і мае́ збылі́ся** наде́жды мои́ сбыли́сь.
**ЗБЫЦЬ** (*каго-што*) *сов.* **1.** сбыть, прода́ть, распрода́ть; **з. тава́р** сбыть (прода́ть, распрода́ть) това́р; **2.** (*освободиться, отделаться*) сбыть, изба́виться (*от кого-чего*); **з. гасце́й** изба́виться от госте́й.
**ЗБЭ́ЙСАЦЬ** *сов. прост.* перевести́, истреби́ть, уничто́жить.
**ЗБЭ́СЦІЦЬ** *сов. разг.* **1.** изруга́ть; **2.** (*одежду*) истрепа́ть, загрязни́ть.
**ЗБЭ́ШЧАНЫ** *разг.* **1.** изру́ганный; **2.** истрёпанный, загрязнённый; 1, 2 *см.* **збэ́сціць.**
**ЗБЯГА́ННЕ** *ср.* сбега́ние; убега́ние; *см.* **збяга́ць.**
**ЗБЯГА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*собираться*) сбега́ться; **2.** (*о тканях*) сади́ться; **3.** (*о молоке*) свёртываться.
**ЗБЯГА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* сбега́ть; (*исчезать тайком, совершать побег — ещё*) убега́ть; *см.* **збе́гчы.**
**ЗБЯДНЕ́ЛЫ** обедне́вший, обедне́лый, оскуде́вший, оскуде́лый; обнища́вший, обнища́лый, разори́вшийся; *см.* **збядне́ць.**
**ЗБЯДНЕ́ННЕ** *ср.* обедне́ние, оскуде́ние; обнища́ние, разоре́ние; *см.* **збядне́ць.**
**ЗБЯДНЕ́ЦЬ** *сов.* обедне́ть, оскуде́ть; (*утратить материальное благосостояние — ещё*) обнища́ть, разори́ться.
**ЗБЯЛЕ́ЛЫ 1.** побеле́вший; **2.** побледне́вший.
**ЗБЯЛЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** побеле́ть; **2.** побледне́ть.
**ЗБЯНТЭ́ЖАНА** *нареч.* растéрянно, смущённо; недоуме́нно, озада́ченно.
**ЗБЯНТЭ́ЖАНАСЦЬ** *ж.* нело́вкость, замеша́тельство *ср.*, расте́рянность, смуще́ние *ср.*; недоуме́ние *ср.*, озада́ченность.
**ЗБЯНТЭ́ЖАНЫ** расте́рянный, смущённый; недоуме́нный, озада́ченный; **з. вы́гляд** расте́рянный (смущённый, недоуме́нный, озада́ченный) вид.
**ЗБЯНТЭ́ЖВАЦЬ** *несов.* приводи́ть в замеша́тельство, смуща́ть; озада́чивать.
**ЗБЯНТЭ́ЖЫЦЦА** *сов.* почу́вствовать нело́вкость, прийти́ в замеша́тельство, растеря́ться, потеря́ться, смути́ться.
**ЗБЯНТЭ́ЖЫЦЬ** *сов.* привести́ в замеша́тельство, смути́ть; озада́чить.
**ЗВА́ДА** *ж.* скло́ка, ссо́ра; ра́спря; ◇ **ні да ра́ды, ні да ~ды** ни ры́ба ни мя́со; ни то́ ни сё.
**ЗВАДЗІ́ЦЬ** *сов.* (*туда и обратно*) своди́ть; **з. дзяце́й у кіно́** своди́ть дете́й в кино́.
**ЗВАДЗЯНЕ́ЦЬ** *сов.* стать водяни́стым.
**ЗВА́ДКА** *ж.* скло́ка, ссо́ра; ра́спря.
**ЗВА́ДЛІВЫ** *разг.* скло́чный.
**ЗВА́ДНІК** *м. разг.* скло́чник.
**ЗВА́ДНІЦА** *ж. разг.* скло́чница.
**ЗВА́ДНІЦКІ** *разг.* скло́чнический.

**ЗВА́ДНІЦТВА** *ср. разг.* склóчничество.
**ЗВА́ДНІЧАЦЬ** *несов. разг.* склóчничать.
**ЗВА́ДНЫ** *разг.* склóчный.
**ЗВАДЫЯ́ЦКІ** *разг.* подстрекáтельский.
**ЗВАДЫЯ́Ш** *м. разг.* подстрекáтель.
**ЗВА́ЖАНЫ** взвéшенный, свéшанный.
**ЗВАЖА́ЦЬ** *несов.* обращáть внимáние.
**ЗВА́ЖНА** *нареч. см.* **павáжна.**
**ЗВА́ЖНЫ** *см.* **павáжны.**
**ЗВА́ЖЫЦЦА** *сов.* взвéситься, свéшаться.
**ЗВА́ЖЫЦЬ** *сов.* взвéсить, свéшать.
**ЗВАЗІ́ЦЬ** *сов.* (*туда и обратно*) свозúть.
**ЗВАЛАКА́ЦЦА** *и* **ЗВАЛА́КВАЦЦА** *несов.* **1.** *разг.* сбредáть; **2.** *разг.* (*отовсюду*) сбредáться, сходúться; 1, 2 *см.* **звалачы́ся; 3.** *страд.* стáскиваться; стягиваться; уносúться; *см.* **звалакáць.**
**ЗВАЛАКА́ЦЬ** *и* **ЗВАЛА́КВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* стáскивать; стягивать; (*красть — ещё*) уносúть; *см.* **звалачы́.**
**ЗВАЛА́КВАЦЦА** *несов. см.* **звалакáцца.**
**ЗВАЛА́КВАЦЬ** *несов. см.* **звалакáць.**
**ЗВАЛАЧЫ́** *сов. в разн. знач.* стащúть; стянýть; (*украсть — ещё*) унестú; **з. мяшкí ў кýчу** стащúть мешкú в кýчу; **ледзь ~лаклí вепрукá з калёс** éле стащúли кабанá с телéги; **з. з ягó кóўдру** стащú (стянú) с негó одеяло.
**ЗВАЛАЧЫ́СЯ** *сов. разг.* **1.** сбрестú; **карóва кудьі́сьці ~лаклáся** корóва кудá-то сбрелá; **2.** (*отовсюду*) сбрестúсь, сойтúсь.
**ЗВА́ЛЕНЫ** I *в разн. знач.* свáленный; *см.* **звалíць** I.
**ЗВА́ЛЕНЫ** II свáлянный, укáтанный; *см.* **звалíць** II.
**ЗВАЛІ́ЦЦА** I *сов. в разн. знач.* свалúться; (*вниз — ещё*) упáсть; **з вóза ~лíўся сноп** с вóза свалúлся (упáл) сноп; **ён увéсь час дрэ́нна адчуваў сябé і, нарэ́шце, ~лíўся** он всё врéмя плóхо себя чýвствовал и, наконéц, свалúлся; **~лíлася на мянé цяжкая спрáва** свалúлось на меня трýдное дéло.
**ЗВАЛІ́ЦЦА** II *сов.* сваляться, укатáться; **сукнó дóбра ~лíлася** сукнó хорошó сваляло́сь (укатáлось).
**ЗВАЛІ́ЦЬ** I *сов. в разн. знач.* свалúть; **вéцер ~лíў з ног** вéтер свалúл с ног; **з. дрóвы ў кýчу** свалúть дровá в кýчу; **з. сéна з вóза** свалúть сéно с повóзки; **хварóба ягó ~лíла** болéзнь егó свалúла; **з. віну на другóга** свалúть винý на другóго.
**ЗВАЛІ́ЦЬ** II *сов.* сваля́ть, укатáть; **з. сукнó** сваля́ть (укатáть) сукнó.
**ЗВА́ЛКА** *ж.* свáлка.
**ЗВАЛÓЧАНЫ** стáщенный; стянутый; унесённый; *см.* **звалачы́.**
**ЗВА́ЛЬВАННЕ** *ср.* свáливание, свáлка *ж.*; *см.* **звáльваць** I.
**ЗВА́ЛЬВАЦЦА** I *несов.* **1.** *в разн. знач.* свáливаться; (*вниз — ещё*) пáдать; *см.* **звалíцца** I; **2.** *страд.* свáливаться; *см.* **звáльваць** I.
**ЗВА́ЛЬВАЦЦА** II *несов.* **1.** свáливаться, укáтываться; *см.* звалíцца II; **2.** *страд.* валя́ться, укáтываться; *см.* **звáльваць** II.
**ЗВА́ЛЬВАЦЬ** I *несов. в разн. знач.* свáливать; *см.* **звалíць** I.
**ЗВА́ЛЬВАЦЬ** II *несов.* валя́ть, укáтывать; *см.* **звалíць** II.
**ЗВАЛЬНЕ́ННЕ** *ср.* 1. увольнéние; смещéние; отстранéние; 2. отчислéние; 1, 2 *см.* **звальняць;** ✧ **білéт аб ~нні** увольнúтельный билéт; **пасвéдчанне аб ~нні** увольнúтельное свидéтельство; **запíска аб ~нні** увольнúтельная запúска.
**ЗВА́ЛЬНЫ** (*предназначенный для свалки*) свáльный; **~ная пры́стань** свáльная прúстань.
**ЗВАЛЬНЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** увольня́ться; **2.** отчисля́ться; **3.** *страд.* увольня́ться; смещáться; отстраня́ться; отчисля́ться; *см.* **звальня́ць.**

**ЗВАЛЬНЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** увольня́ть; (*с занимаемого места, должности*) смещáть; отстраня́ть; **2.** (*из учебного заведения*) отчисля́ть; 1, 2 *см.* **звóльніць.**
**ЗВАЛЯ́ЦЦА** *сов.* (*валяясь, прийти в негодность*) пропáсть зря.
**ЗВАНА́Р, -рá** *м.* звонáрь.
**ЗВАНЕ́Ц, -нцý** *м. бот.* погремóк, звонéц.
**ЗВАНІТАВА́ЦЬ** *сов. безл. разг.* вы́рвать, стошнúть, вы́тошнить.
**ЗВАНІ́ЦА** *ж.* колокóльня; звóнница; ✧ **глядзéць са сваёй ~цы** смотрéть со своéй колокóльни.
**ЗВАНІ́ЦЬ** *несов.* **1.** звонúть; (*во все колокола, изо всех сил — ещё*) трезвóнить; (*возвещать о начале церковной службы*) блáговестить; **2.** *перен.* звонúть, трезвóнить; **з. аб сваíх пóспехах** звонúть (трезвóнить) о свойх успéхах.
**ЗВАНКО́ВЫ** I (*служащий для устройства звонка*) звонкóвый.
**ЗВАНКО́ВЫ** II *карт.* бубнóвый.
**ЗВА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* звáние; **з. заслýжанага дзéяча навýкі** звáние заслýженного дéятеля наýки; **ваéннае з.** воéнное звáние; **духóўнае з.** духóвное звáние; ✧ **а ні ~ння** нискóлько, ни кáпельки, ни крóшки; **да ~ння** до остáтка; до послéднего; **і ~ння не пакíнуць** и кáпли не остáвить; и следá не остáвить.
**ЗВАНО́К, -нкá** *м.* **1.** (*прибор для звуковых сигналов*) звонóк, колокóльчик; **2.** (*звуковой сигнал*) звонóк; **3.** *бот.* бубéнчик.
**ЗВАНО́ЧАК, -чка** *м.* **1.** *уменьш.* звонóчек, колокóльчик; *см.* **званóк** 1; **2.** *бот.* колокóльчик.
**ЗВАНО́ЧКАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* колокóльчиковые.
**ЗВАНЧЭ́Й** *нареч. сравнит. ст.* звóнче.
**ЗВАНЧЭ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* звóнче.
**ЗВАНЧЭ́ЦЬ** *несов.* станови́ться звóнче.
**ЗВА́НЫ** звáнный; *см.* **зваць** 2; ✧ **так з.** так назывáемый.
**ЗВА́РАНЫ** **1.** свáренный, сготóвленный, приготóвленный; **2.** *тех.* свáренный; 1, 2 *см.* **звары́ць.**
**ЗВАРАЧА́ЦЦА** *несов. см.* **звяртáцца.**
**ЗВАРАЧА́ЦЬ** *несов. см.* **звяртáць.**
**ЗВА́РАЧНЫ** свáрочный; **з. цэх** свáрочный цех.
**ЗВА́РВАННЕ** *ср. тех.* свáривание, свáрка *ж.*
**ЗВА́РВАЦЦА** *несов. страд. тех.* свáриваться.
**ЗВА́РВАЦЬ** *несов. тех.* свáривать.
**ЗВА́РКА** *ж. тех.* свáрка; **гáзавая з.** гáзовая свáрка; **дугавáя з.** дуговáя свáрка; **тэрмíтная з.** термúтная свáрка.
**ЗВА́РНАСЦЬ** *ж. тех.* свáриваемость.
**ЗВАРНЫ́** *тех.* сварнóй; **~нáя рэ́йка** сварнóй рельс.
**ЗВАРО́Т, -ту** *м.* **1.** возвращéние *ср.*; возврáт; **пасля ~ту з Масквы́** пóсле возвращéния из Москвы́; **2.** (*да каго*) обращéние *ср.* (*к кому*); **з. да чытачóў** обращéние к читáтелям; **3.** *лог.* обращéние *ср.*; **4.** (*словесное выражение*) оборóт; **мóўны з.** оборóт рéчи; **фразеалагíчны з.** фразеологúческий оборóт; **дзеепрыслóўны з.** *грам.* деепричáстный оборóт.
**ЗВАРО́ТАК, -тка** *м. грам.* обращéние *ср.*
**ЗВАРО́ТНЫ** **1.** (*ведущий назад*) обрáтный; **з. шлях** обрáтный путь; **2.** (*возвращающийся*) возврáтный; **з. тыф** возврáтный тиф; **3.** *грам.* возврáтный; **з. стан** возврáтный залóг.
**ЗВАРО́ЧВАЦЦА** *несов. см.* **звяртáцца.**
**ЗВАРО́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** (*поворачивать в сторону*) сворáчивать; **2.** (*изменять положение*) сворáчивать; **3.** *разг.* (*выбрасывать*) свáливать; **4.** *разг.* (*беспорядочно сбрасывать в одно место*) свáливать; **5.** *разг.* (*вывихивать*) сворáчивать; 1—5 *см.* **звярнýць** 1—5.
**ЗВАРУХНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** шевельнýться; (*о траве, листве и т. п. — ещё*) шелохнýться; **2.** (*сделать быстрое движение*) дрóгнуть; **у ягó ~нýліся брóвы** у негó дрóгнули брóви.

**ЗВАРУХНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* шевельну́ть; дви́нуть; (*о траве, листве и т. п.—ещё*) шелохну́ть; **ве́цер не ~ну́ў травы́** ве́тер не шелохну́л травы́; ✧ **па́льцам не з.** па́льцем не шевельну́ть (не дви́нуть).

**ЗВА́РШЧЫК** *м.* сва́рщик.

**ЗВА́РШЧЫЦА** *ж.* сва́рщица.

**ЗВАРЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* свари́ться; **суп ~ры́ўся** суп свари́лся; **металі́чныя ча́сткі мо́цна ~ры́ліся** металли́ческие ча́сти кре́пко свари́лись.

**ЗВАРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*пищу*) свари́ть, сгото́вить, пригото́вить; **2.** *тех.* свари́ть; ✧ **ка́шы (пі́ва) не зва́рыш з кім--не́будзь** ка́ши (пи́ва) не сва́ришь с ке́м-л.

**ЗВАР'ЯЦЕ́ЛЫ** **1.** сумасше́дший, поме́шанный, умалишённый; **2.** (*потерявший способность соображать*) обезу́мевший, сумасше́дший.

**ЗВАР'ЯЦЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*заболеть психическим расстройством*) сойти́ с ума́, помеша́ться; **2.** (*потерять способность соображать*) обезу́меть, с ума́ сойти́.

**ЗВАСТРЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** сточи́ться; **2.** уточи́ться.

**ЗВАСТРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*уничтожить неровности*) сточи́ть; **з. шчарбі́ну на нажы́** сточи́ть зазу́брину на ноже́; **2.** (*уменьшить ширину*) уточи́ть.

**ЗВА́ЦЦА** *несов.* **1.** называ́ться, зва́ться; **2.** *страд.* призыва́ться; называ́ться; *см.* **зваць.**

**ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** (*каго на што, да каго-чаго*) звать (*кого на что, к кому-чему*), призыва́ть (*кого на что, к чему*); мани́ть (*кого на что*); **2.** (*именовать*) звать; называ́ть.

**ЗВАЯВА́НЫ** *разг.* побеждённый.

**ЗВАЯВА́ЦЬ** *сов. разг.* победи́ть, одоле́ть.

**ЗВЕ́ДАНЫ** изве́данный, испы́танный, у́знанный; *см.* **зве́даць** 1.

**ЗВЕ́ДАЦЬ** *сов.* **1.** (*узнать на собственном опыте*) изве́дать, испыта́ть, узна́ть; **2.** (*многое*) претерпе́ть; пережи́ть, испыта́ть; **3.** (*што*) подве́ргнуться (*чему*), претерпе́ть.

**ЗВЕ́ДЗЕНЫ** **1.** сведённый; **2.** сведённый, уведённый; **3.** уведённый, сведённый; **4.** сби́тый, сокращённый; **5.** переведённый, изведённый; вы́веденный; **6.** низведённый, сведённый; **7.** *перен.* сведённый; **8.** сведённый; **9.** стра́вленный; **10.** переведённый; **11.** со́мкнутый; 1—11 *см.* **зве́сці** 1—9, 11, 12.

**ЗВЕ́ЗЕНЫ** **1.** *в разн. знач.* свезённый; **2.** увезённый; 1, 2 *см.* **зве́зці.**

**ЗВЕ́ЗЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* свезти́; **з. з гары́** свезти́ с горы́; **з. каме́нне ў адну́ ку́чу** свезти́ ка́мни в одну́ ку́чу; **з. хлеб з по́ля** свезти́ хлеб с по́ля; **2.** (*захватить с собой, похитить*) увезти́.

**ЗВЕ́ЙВАЦЬ** *несов.* **1.** *с.-х.* (*очищать зерно веянием*) выве́ивать, вывева́ть, прове́ивать, провева́ть; **2.** (*сдувать*) све́ивать, свева́ть.

**ЗВЕКАВА́ЦЬ** *сов.* век прожи́ть, свекова́ть.

**ЗВЕ́КУ** *нареч.* испоко́н ве́ку (веко́в).

**ЗВЕЛІКАДУ́ШНІЧАЦЬ** *сов.* свеликоду́шничать.

**ЗВЕННЯВА́Я** *сущ.* звеньева́я.

**ЗВЕННЯВЫ** **1.** *прил.* звеньево́й; звеново́й; **~ва́я сістэ́ма** звеньева́я (звенова́я) систе́ма; **2.** *в знач. сущ.* звеньево́й; **нара́да ~вы́х** совеща́ние звеньевы́х.

**ЗВЕР** *м. прям., перен.* зверь; ✧ **з.-зве́рам** зверь-зве́рем.

**ЗВЕРАБО́Й, -бо́ю** *м. охот.* зверобо́й.

**ЗВЕРАБО́ЙНЫ** *охот.* зверобо́йный.

**ЗВЕРАВА́ТА** *нареч.* звероподо́бно; гру́бо; *см.* **зверава́ты.**

**ЗВЕРАВА́ТАСЦЬ** *ж.* звероподо́бие *ср.*; гру́бость; *см.* зверава́ты.

**ЗВЕРАВА́ТЫ** звероподо́бный; (*в обхождении*) гру́бый.

**ЗВЕРАВО́Д** *м.* зверово́д.

**ЗВЕРАВО́ДСТВА** *ср.* зверово́дство.

**ЗВЕРАВО́ДЧЫ** зверово́дческий.

**ЗВЕРАГАДО́ВЕЦ, -до́ўца** *м.* зверово́д.

**ЗВЕРАГАДО́ЎЛЯ** *ж.* зверово́дство *ср.*

**ЗВЕРАГАДО́ЎЦА** *м. см.* **зверагадо́вец.**

**ЗВЕРАГАДО́ЎЧЫ** зверово́дческий.

**ЗВЕРАЛО́Ў, -ло́ва** *м.* звероло́в.

**ЗВЕРАЛО́ЎНЫ** зверало́вный.

**ЗВЕРАЛО́ЎСТВА** *ср.* звероло́вство.

**ЗВЕРАНЁ** *ср. см.* **зверaня́.**

**ЗВЕ́РАНЫ** све́ренный; сличённый; *см.* **зве́рыць.**

**ЗВЕРАНЯ́** *и* **ЗВЕРАНЁ** *ср.* зверёныш *м.*, зверёнок *м.*

**ЗВЕРАПАДО́БНЫ** звероподо́бный.

**ЗВЕРАСАЎГА́С** *м.* зверосовхо́з.

**ЗВЕ́РГНУТЫ** све́ргнутый, низве́ргнутый, ниспрове́ргнутый; *см.* **зве́ргнуць** 1.

**ЗВЕ́РГНУЦЬ** *сов.* **1.** све́ргнуть, низве́ргнуть, ниспрове́ргнуть; **з. ярмо́ капіталі́зму** све́ргнуть и́го капитали́зма; **2.** *вет. разг.* ски́нуть.

**ЗВЕ́РКА** *ж.* све́рка; сличе́ние *ср.*; *см.* **зве́рыць.**

**ЗВЕ́РНУТЫ** **1.** своро́ченный; **2.** *разг.* сва́ленный; **3.** *разг.* свёрнутый; **4.** обращённый; устремлённый; 1—4 *см.* **звярну́ць** 2, 4—6.

**ЗВЕ́РСКІ** зве́рский.

**ЗВЕ́РСТВА** *ср.* зве́рство.

**ЗВЕ́РСТВАВАЦЬ** *несов.* зве́рствовать.

**ЗВЕРХ** *предлог см.* **звыш.**

**ЗВЕ́РХУ** **1.** *нареч. в разн. знач.* све́рху; **з., на ку́чы папе́р, ляжа́ла кні́га** све́рху, на ку́че бума́г, лежа́ла кни́га; **ма́сла сапсава́лася то́лькі з.** ма́сло испо́ртилось то́лько све́рху; **з. пасы́палася лі́сце** све́рху посы́пались ли́стья; **дырэкты́ва з.** директи́ва све́рху; **2.** *в знач. предлога* пове́рх; **апрану́ць плашч з. паліто́** наде́ть плащ пове́рх пальто́.

**ЗВЕ́РШАНЫ** свершённый; *см.* **звяршы́ць.**

**ЗВЕ́РШЧЫК** *м.* све́рщик.

**ЗВЕ́РШЧЫЦА** *ж.* све́рщица.

**ЗВЕРЫНА́** *ж.* **1.** *собир.* зверьё *ср.*; **у ле́се мно́га ~ны́** в лесу́ мно́го зверья́; **2.** *разг.* зверь *м.*, звери́на; **не́йкая з. хо́дзіць па ле́се** како́й-то зверь (кака́я-то звери́на) хо́дит по́ лесу; **3.** *бран.* зверю́га *м.*

**ЗВЕ́РЫЦЦА** *сов.* **1.** (*навести справку*) све́риться; **з. з календаро́м** све́риться с календарём, **2.** *см.* **зняве́рыцца.**

**ЗВЕ́РЫЦЬ** *сов.* све́рить; сличи́ть; **з. ко́пію з арыгіна́лам** све́рить (сличи́ть) ко́пию с по́длинником.

**ЗВЕ́СІЦЦА** *сов.* све́ситься, опусти́ться.

**ЗВЕ́СІЦЬ** *сов.* **1.** све́сить; **з. но́гі** све́сить но́ги; **2.** (*голову, нос*) опусти́ть, пове́сить.

**ЗВЕСЛАВА́ЦЦА** *сов. спорт.* сгрести́сь.

**ЗВЕ́СТКА** *ж.* све́дение *ср.*; **~кі аб надво́р'і** све́дения о пого́де.

**ЗВЕ́СЦІ** *сов.* **1.** (*сверху вниз*) свести́; **2.** (*удалить, переместив*) свести́, увести́; **з. каня́ з даро́гі** свести́ ло́шадь с доро́ги; **3.** (*украсть*) увести́, свести́; **зладзе́і звялі́ каро́ву** во́ры увели́ (свели́) коро́ву; **4.** сбить, сократи́ть; **5.** (*истребить*) перевести́, извести́; (*насекомых — ещё*) вы́вести; **з. тарака́наў** вы́вести тарака́нов; **6.** (*лишить высокого положения*) низвести́, свести́; **з. з п'едэста́ла** низвести́ (свести́) с пьедеста́ла; **7.** (*да чаго, у што*) *перен.* свести́ (*к чему, на что*); **з. выда́ткі да мі́німуму** свести́ расхо́ды к ми́нимуму; **8.** (*привести в одно место*) свести́; **усі́х дзяце́й звялі́ ў за́лу** всех дете́й свели́ в зал; **9.** (*заставить поссориться, подраться*) страви́ть; **з. саба́к** страви́ть соба́к; **10.** (*не выполнить обещанного*) подвести́, наду́ть; **11.** (*разговор*) перевести́; **12.** (*глаза*) сомкну́ть; ✧ **з. раху́нкі (разлі́кі)** свести́ счёты; **з. канцы́ з канца́мі** свести́ концы́ с конца́ми; **з. са све́ту** сжить (согна́ть) со све́та (со́ свету); **з. ў ро́жкі** столкну́ть лба́ми; **з. на нішто́** свести́ на нет.

**ЗВЕ́СЦІСЯ** *сов.* перевести́сь, вы́вестись.

**ЗВЕ́ТРАНЫ** *разг.* прове́янный; *см.* **зве́трыць.**

**ЗВЕ́ТРЫЦЬ** *сов. разг.* прове́ять; **з. збо́жжа** прове́ять зерно́.

**ЗВЕ́ЧАРА** *нареч.* с наступле́нием су́мерек, ве́чером.

**ЗВЕЧАРЭ́ЦЬ** *сов. безл.* свечере́ть.

**ЗВЕ́ШАНЫ** 1. све́шенный; 2. опу́щенный, пове́шенный; 1, 2 *см.* **зве́сіць.**

**ЗВЕ́ШВАЦЦА** *несов.* 1. све́шиваться, опуска́ться; 2. *страд.* све́шиваться; опуска́ться; *см.* **зве́шваць.**

**ЗВЕ́ШВАЦЬ** *несов.* 1. све́шивать; 2. (*голову, нос*) опуска́ть, ве́шать; 1,2 *см.* **зве́сіць.**

**ЗВЕ́ЯНЫ** 1. *с.-х.* вы́веянный, прове́янный; 2. све́янный; 1, 2 *см.* **зве́яць.**

**ЗВЕ́ЯЦЬ** *сов.* 1. *с.-х.* вы́веять, прове́ять; 2. (*сдуть*) све́ять.

**ЗВЁРСТВАЦЦА** *несов. страд. полигр.* свёрстываться.

**ЗВЁРСТВАЦЬ** *несов. полигр.* свёрстывать.

**ЗВІВА́ННЕ** *ср.* 1. свива́ние; 2. сма́тывание, смо́тка *ж.*; 3. сма́тывание, смо́тка *ж.*; 4. свива́ние, витьё; 1—4 *см.* **звіва́ць.**

**ЗВІВА́НЫ** ви́тый, вито́й.

**ЗВІВА́ЦЦА** *несов.* 1. *в разн. знач.* свива́ться; 2. (*в клубок*) сма́тываться; 3. *страд.* свива́ться; сма́тываться; *см* **звіва́ць.**

**ЗВІВА́ЦЬ** *несов.* 1. (*сплетать в одну прядь*) свива́ть; 2. (*в клубок*) сма́тывать; 3. (*с чего-л.*) сма́тывать; 4. (*сплетая, изготовлять*) свива́ть, вить; 1—4 *см.* **звіць.**

**ЗВІ́ЛІНА** *ж.* изви́лина.

**ЗВІ́ЛІСТЫ** изви́листый.

**ЗВІЛЬГАТНЕ́ЦЬ** *сов.* стать вла́жным.

**ЗВІНЕ́ЦЬ** *несов.* звене́ть; ✧ **~ніць у вуша́х** звени́т в уша́х.

**ЗВІНЮ́ЧЫ** *разг.* зво́нкий.

**ЗВІСА́ННЕ** *ср.* свиса́ние; *см.* **звіса́ць.**

**ЗВІСА́ЦЬ** *несов.* (*опускаться*) свиса́ть; *см.* **зві́снуць.**

**ЗВІ́СЛЫ** сви́сший; **~лыя ву́сы** сви́сшие усы́.

**ЗВІ́СНУЦЬ** *сов.* (*опуститься*) сви́снуть; **ву́сы ~слі** усы́ сви́сли.

**ЗВІ́ТЫ** 1. сви́тый; 2. смо́танный; 3. смо́танный; 4. сви́тый; 1—4 *см.* **звіць.**

**ЗВІХ,** *род.* **зві́ху** *м.* вы́вих.

**ЗВІХНУ́ТЫ** *разг.* вы́вихнутый, сви́хнутый; *см.* **звіхну́ць.**

**ЗВІХНУ́ЦЦА** *сов. разг.* вы́вихнуться.

**ЗВІХНУ́ЦЬ** *сов. разг.* вы́вихнуть, свихну́ть; **з. нагу́** вы́вихнуть но́гу.

**ЗВІ́ЦЦА** *сов.* 1. *в разн. знач.* сви́ться; 2. (*в клубок*) смота́ться.

**ЗВІЦЬ** *сов.* 1. (*сплести в одну прядь*) свить; **з. вяро́ўку** свить верёвку; 2. (*в клубок*) смота́ть; 3. (*с чего-л.*) смота́ть; **з. пра́жу з матаві́ла** смота́ть пря́жу с мотови́ла; 4. (*сплетая, изготовить*) свить; **з. гняздо́** свить гнездо́; ✧ **з. (сабе́) гняздо́** свить (себе́) гнездо́.

**ЗВОД,** *род.* **зво́ду** *м.* 1. свод, сведе́ние *ср.*; 2. (*похищение*) уво́д; 3. *лит.* (*редакция текста*) изво́д; 4. (*повальная смерть*) мор; 5. *только мн. разг.* пересу́ды, спле́тни.

**ЗВО́ДДАЛЕКУ** *нареч.* и́здали.

**ЗВО́ДДАЛЬ** *нареч. см.* **зво́ддалеку.**

**ЗВО́ДЗІЦЦА** *несов.* 1. переводи́ться, выводи́ться; 2. *страд.* своди́ться; уводи́ться; сбива́ться, совраща́ться; переводи́ться, изводи́ться; выводи́ться; низводи́ться; стравля́ться, стра́вливаться; смыка́ться; *см.* **зво́дзіць** 1—9, 11, 12.

**ЗВО́ДЗІЦЬ** *несов.* 1. (*сверху вниз*) своди́ть; 2. (*удалять, перемещая*) своди́ть, уводи́ть; 3. (*красть*) уводи́ть, своди́ть; 4. сбива́ть, совраща́ть; 5. (*истреблять*) переводи́ть, изводи́ть; (*насекомых — ещё*) выводи́ть; 6. (*лишать высокого положения*) низводи́ть, своди́ть; 7. (*да чаго, у што*) *перен.* своди́ть (*к чему, на что*); 8. (*приводить в одно место*) своди́ть; 9. (*заставлять поссориться, подраться*) стравля́ть, стра́вливать; 10. (*не выполнять обещанного*) подводи́ть, надува́ть; 11. (*разговор*) переводи́ть; 12. (*глаза*) смыка́ть; 1—12 *см.* **зве́сці;** ✧ **вачэ́й не з. з каго-не́будзь** глаз не спуска́ть (не своди́ть) с кого́-л.

**ЗВО́ДКА** *ж.* сво́дка; **аператы́ўная з.** операти́вная сво́дка; **з. аб надвор'і** сво́дка пого́ды.

**ЗВО́ДНІК** *м. презр.* сво́дник.

**ЗВО́ДНІЦА** *ж. презр.* сво́дница, сво́дня.

**ЗВО́ДНІЦКІ** *презр.* сво́днический.

**ЗВО́ДНІЦТВА** *ср. презр.* сво́дничество.

**ЗВО́ДНІЧАЦЬ** *несов. презр.* сво́дничать.

**ЗВО́ДНЫ** *в разн. знач.* сво́дный; **з. батальён** сво́дный батальо́н; **з. брат** сво́дный брат.

**ЗВО́ДЧЫК** *м. полигр.* сво́дчик.

**ЗВОЗ,** *род.* **зво́зу** *м.* 1. своз; 2. (*похищение*) уво́з.

**ЗВО́ЗІЦЦА** *несов. страд.* свози́ться; увози́ться; *см.* **зво́зіць.**

**ЗВО́ЗІЦЬ** *несов.* 1. *в разн. знач.* свози́ть; *см.* **зве́зці** 1; 2. (*захватывать с собой, похищать*) увози́ть.

**ЗВО́ЛЬНЕНЫ** 1. уво́ленный; смещённый; отстранённый; 2. отчи́сленный; 1, 2 *см.* **зво́льніць.**

**ЗВО́ЛЬНІЦЦА** *сов.* 1. уво́литься; 2. отчи́слиться.

**ЗВО́ЛЬНІЦЬ** *сов.* 1. уво́лить; (*с занимаемого места, должности*) смести́ть; отстрани́ть; **з. з рабо́ты** уво́лить с рабо́ты; **з. зага́дчыка** смести́ть (отстрани́ть) заве́дующего; **з. у запа́с** *воен.* уво́лить в запа́с; 2. (*из учебного заведения*) отчи́слить; **з. студэ́нта** отчи́слить студе́нта.

**ЗВОН** *м.* 1. *род.* **звана́** ко́локол; 2. *род.* **зво́ну** (*звук*) звон; (*во все колокола — ещё*) трезво́н; (*церк. — ещё*) бла́говест; (*сигнал тревоги — ещё*) наба́т; **наба́тны з.** наба́тный звон; **з. тале́рак** звон таре́лок; 3. *род.* **зво́ну** *перен.* (*сплетни, толки*) звон; ✧ **званíць ва ўсе званы́** звони́ть во все колокола́; **чуў з., ды не ве́дае, дзе ён** *погов.* слы́шал звон, да не зна́ет, где он.

**ЗВО́НАВЫ** колоко́льный.

**ЗВО́НКА** *нареч.* зво́нко.

**ЗВОНКАГАЛО́СЫ** звонкоголо́сый.

**ЗВО́НКАСЦЬ** *ж.* зво́нкость.

**ЗВО́НКІ** I *прил. в разн. знач.* зво́нкий; **~кая пе́сня** зво́нкая пе́сня; **з. зы́чны** *лингв.* зво́нкий согла́сный; ✧ **~кая мане́та** зво́нкая моне́та.

**ЗВО́НКІ** II, **-каў** *сущ. ед. нет карт.* бу́бны.

**ЗВО́НКУ** *нареч.* 1. снару́жи, извне́; 2. нару́жно; вне́шне.

**ЗВО́РАНЫ** спа́ханный; *см.* **з'ара́ць.**

**ЗВО́РВАЦЬ** *несов.* спа́хивать; *см.* **з'ара́ць.**

**ЗВО́СТРАНЫ** 1. сто́ченный; 2. уто́ченный; 1, 2 *см.* **звастры́ць.**

**ЗВО́СТРЫВАННЕ** *ср.* 1. сто́чка *ж.*; 2. уто́чка *ж.*; 1, 2 *см.* **зво́стрываць.**

**ЗВО́СТРЫВАЦЦА** *несов.* 1. ста́чиваться; 2. ута́чиваться; 3. *страд.* ста́чиваться; ута́чиваться; *см.* **зво́стрываць.**

**ЗВО́СТРЫВАЦЬ** *несов.* 1. (*уничтожать неровности*) ста́чивать; 2. (*уменьшать ширину*) ута́чивать; 1, 2 *см.* **звастры́ць.**

**ЗВУ́ЖАНЫ** су́женный.

**ЗВУЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **зву́жвацца.**

**ЗВУЖА́ЦЬ** *несов. см.* **звужваць.**

**ЗВУ́ЖВАННЕ** *ср.* суже́ние.

**ЗВУ́ЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* су́живаться.

**ЗВУ́ЖВАЦЬ** *несов.* су́живать.

**ЗВУЖЭ́ННЕ** *ср.* суже́ние.

**ЗВУ́ЗІЦЦА** *сов.* су́зиться.

**ЗВУ́ЗІЦЬ** *сов.* су́зить.

**ЗВЫКА́ЦЦА** (*з кім-чым*) *несов.* свыка́ться, привыка́ть (*к кому-чему*).

**ЗВЫКА́ЦЬ** *несов.* (*приобретать привычку*) привыка́ть; *см.* **звы́кнуць.**

**ЗВЫ́КЛАСЦЬ** *ж.* 1. привы́чность; обы́чность; 2. на́вык *м.*; **з. у пра́цы** на́вык в рабо́те.

**ЗВЫ́КЛЫ** привы́чный; обы́чный.

**МЕДЫЧНЫ** медици́нский.
**МЕДЫЯ́ЛЬНЫ** медиа́льный, медиа́нный.
**МЕДЫЯ́НА** *ж. мат.* медиа́на.
**МЕДЫЯ́ТАР** *м. муз., физиол.* медиа́тор.
**МЕДЭЛЯ́НСКІ** (*о породе собак*) меделя́нский.
**МЕЖАВА́ЛЬНЫ** межева́льный.
**МЕЖАВА́ННЕ** *ср.* межева́ние, межо́вка *ж.*; *см.* **межава́ць** 1.
**МЕЖАВА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*иметь общую границу*) грани́чить; **2.** *страд.* межева́ться; *см.* **межава́ць** 1.
**МЕЖАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*проводить межи на чём-л.*) межева́ть; **м. палі́** межева́ть поля́; **2.** (*быть смежным, иметь общую границу*) грани́чить; **на по́ўдні Белару́сь мяжу́е з Украі́най** на ю́ге Белору́ссия грани́чит с Украи́ной.
**МЕЖАВІ́К, -ка́** *м.* (*специалист по межеванию*) межеви́к.
**МЕЖАВЫ** **1.** *прил.* межево́й; **~вы́я слупы́** межевы́е столбы́; **м. ланцу́г** межева́я цепь; **2.** *в знач. сущ. уст.* полево́й сто́рож.
**МЕ́ЖАННЫ** *гидр.* меже́нный.
**МЕ́ЖАНЬ** *ж. гидр.* меже́нь.
**МЕЗАДЭ́РМА** *ж. спец.* мезоде́рма.
**МЕЗАЗА́ЎР** *м. палеонт.* мезоза́вр.
**МЕЗАЗО́ЙСКІ:** **~кая э́ра** *геол.* мезозо́йская э́ра.
**МЕЗАЛІ́Т, -ту** *м. археол.* мезоли́т.
**МЕЗАЛІТЫ́ЧНЫ** мезолити́ческий.
**МЕЗАЛЬЯ́НС, -су** *м. уст.* мезалья́нс.
**МЕЗАНІ́Н** *м.* мезони́н.
**МЕЗДРАВА́ТЫ** мездрова́тый.
**МЕ́ЗЕНЕЦ, -нца** *м.* мизи́нец.
**МЕ́ЗЕНСКАЯ ГУБА́** Ме́зенская губа́.
**МЕ́ЗЕНЫ:** **м. па́лец** мизи́нец.
**МЕ́ЗЕНЬ** *ж. г.* Ме́зень.
**МЕ́ККА** *ж. г.* Ме́кка.
**МЕКО́НГ** *м. р.* Меко́нг.
**МЕ́КСІКА** *ж.* Ме́ксика.
**МЕКСІКА́НЕЦ, -нца** *м.* мексика́нец.
**МЕКСІКА́НКА** *ж.* мексика́нка.
**МЕКСІКА́НСКІ ЗАЛІ́Ў** Мексика́нский зали́в.
**МЕКСІКА́НЦЫ, -цаў** мексика́нцы.
**МЕЛ,** *род.* **ме́лу** *м.* мел.
**МЕЛАВЫ́:** **м. перы́яд** *геол.* мелово́й пери́од.
**МЕЛАДРА́МА** *ж. прям., перен.* мелодра́ма.
**МЕЛАДРАМАТЫ́ЧНА** *нареч.* мелодрамати́чески.
**МЕЛАДРАМАТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* мелодрамати́чность.
**МЕЛАДРАМАТЫ́ЧНЫ** **1.** мелодрамати́ческий; **2.** (*такой, как в мелодраме*) мелодрамати́чный, мелодрамати́ческий.
**МЕЛАДЫ́ЧНА** *нареч.* мелоди́чно.
**МЕЛАДЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* мелоди́чность.
**МЕЛАДЫ́ЧНЫ** **1.** *спец.* мелоди́ческий; **2.** мелоди́чный, мелоди́ческий; благозву́чный.
**МЕЛАДЭКЛАМАВА́ЦЬ** *несов.* мелодеклами́ровать.
**МЕЛАДЭКЛАМА́ТАР** *м.* мелодеклама́тор.
**МЕЛАДЭКЛАМА́ЦЫЯ** *ж.* мелодеклама́ция.
**МЕЛАМА́Н** *м.* мелома́н.
**МЕЛАМА́НІЯ** *ж.* мелома́ния.
**МЕЛАМА́НКА** *ж. разг.* мелома́нка.
**МЕЛАМА́НСКІ** мелома́нский.
**МЕЛАНЕЗІ́ЕЦ, -зі́йца** *м.* меланези́ец.
**МЕЛАНЕЗІ́ЙКА** *ж.* меланези́йка.
**МЕЛАНЕЗІ́ЙСКІ** меланези́йский.
**МЕЛАНЕЗІ́ЙЦЫ, -цаў** меланези́йцы.
**МЕЛАНЕ́ЗІЯ** *ж. о-ва* Мелане́зия.
**МЕЛА́НЖАВЫ** *текст.* мела́нжевый.
**МЕЛАНІ́Н, -ну** *м. спец.* мелани́н.
**МЕЛАНІ́Т, -ту** *м. мин.* мелани́т.
**МЕЛАНХАЛІ́ЧКА** *ж. разг. в разн. знач.* меланхоли́чка.
**МЕЛАНХАЛІ́ЧНА** *нареч.* меланхоли́чески, меланхоли́чно.
**МЕЛАНХАЛІ́ЧНАСЦЬ** *ж.* меланхоли́чность.
**МЕЛАНХАЛІ́ЧНЫ** *в разн. знач.* меланхоли́ческий, меланхоли́чный.
**МЕЛАНХО́ЛІК** *м. в разн. знач.* меланхо́лик.
**МЕЛАНХО́ЛІЯ** *ж. в разн. знач.* меланхо́лия.
**МЕЛАТЫ́ПІЯ** *ж. полигр.* мелоти́пия.
**МЕ́ЛЕС, -су** *м. тех.* мела́сса *ж.*
**МЕЛІЗНА́** *ж. разг.* о́тмель, мель.
**МЕЛІНА́** *ж. разг.* мель.
**МЕЛІНІ́Т, -ту** *м. хим.* мелини́т.
**МЕЛІНІ́ТАВЫ** мелини́товый.
**МЕЛІ́СА** *ж. бот.* мели́сса, лимо́нная мя́та.
**МЕ́ЛІСТЫ** ме́листый; **м. залі́ў** ме́листый зали́в.
**МЕЛІТО́ПАЛЬ** *м. г.* Мелито́поль.
**МЕЛІТО́ПАЛЬСКІ** мелито́польский.
**МЕЛІЯРА́ТАР** *м.* мелиора́тор.
**МЕЛІЯРАЦЫ́ЙНЫ** мелиорати́вный, мелиоратио́нный.
**МЕЛІЯРА́ЦЫЯ** *ж. с.-х.* мелиора́ция.
**МЕ́ЛКА** *нареч.* ме́лко; ✧ **м. пла́ваць** ме́лко пла́вать.
**МЕЛКАВО́ДДЗЕ** *ср.* мелково́дье.
**МЕЛКАВО́ДНАСЦЬ** *ж.* мелково́дность.
**МЕЛКАВО́ДНЫ** мелково́дный.
**МЕЛКАДО́ННЫ** мелкодо́нный.
**МЕ́ЛКАСЦЬ** *ж.* ме́лкость.
**МЕ́ЛКІ** **1.** (*неглубокий*) ме́лкий; **~кая рака́** ме́лкая река́; **2.** (*с низкими краями*) ме́лкий, пло́ский; **~кая тале́рка** ме́лкая (пло́ская) таре́лка.
**МЕЛО́ДЫКА** *ж.* мело́дика.
**МЕЛО́ДЫЯ** *ж.* мело́дия.
**МЕЛЬ** *ж.* мель, о́тмель; ✧ **се́сці на м.** сесть на мель.
**МЕ́ЛЬБУРН** *м. г.* Ме́льбурн.
**МЕ́ЛЬБУРНСКІ** ме́льбурнский.
**МЕ́ЛЬНІК** *м.* ме́льник.
**МЕ́ЛЬНІЧЫХА** *ж.* ме́льничиха.
**МЕЛЬХІЁР, -ру** *м.* мельхио́р.
**МЕЛЬХІЁРАВЫ** мельхио́ровый.
**МЕМАРА́НДУМ** *м.* мемора́ндум.
**МЕМАРЫЯ́Л** *м. бухг.* мемориа́л.
**МЕМАРЫЯ́ЛЬНЫ** мемориа́льный; **~ная до́шка** мемориа́льная доска́; **~ная кні́га** мемориа́льная кни́га.
**МЕМБРА́НА** *ж. тех., анат.* мембра́на.
**МЕМБРА́НАВЫ, МЕМБРА́ННЫ** мембра́нный.
**МЕМУА́РНЫ** мемуа́рный.
**МЕМУА́РЫ** *ед. нет* мемуа́ры.
**МЕМУАРЫ́СТ** *м.* мемуари́ст.
**МЕМУАРЫ́СТКА** *ж.* мемуари́стка.
**МЕМФІ́С** *м. г. ист.* Мемфи́с.
**МЕ́НА** *ж.* ме́на.
**МЕНАВІ́ТА** *частица* и́менно; ✧ **а м.** *союз пояснит.* а и́менно.
**МЕНАВЫ** менов́ой; **м. га́ндаль** менова́я торго́вля; **~ва́я ва́ртасць** менова́я сто́имость.
**МЕНАЖО́Р** *м. спорт.* менажёр.
**МЕНДЗЯЛЕ́ВІЙ, -вію** *м. хим.* менделе́вий.
**МЕ́НЕЙ** *нареч. сравнит. ст.* ме́ньше, ме́нее.
**МЕНЕСТРЭ́ЛЬ** *м. ист.* менестре́ль.
**МЕ́НЗУЛА** *ж. тех.* ме́нзула.
**МЕ́НЗУЛЬНЫ** *тех.* ме́нзульный.
**МЕНЗУ́РАЧНЫ** мензу́рочный.
**МЕНЗУ́РКА** *ж.* мензу́рка.
**МЕНІНГІ́Т, -ту** *м. мед.* менинги́т.
**МЕНІ́СК** *м. в разн. знач.* мени́ск.
**МЕНСТРУА́ЛЬНЫ** менструа́льный.
**МЕНСТРУА́ЦЫЯ** *ж.* менструа́ция.
**МЕНСТРУІ́РАВАЦЬ** *несов.* менструи́ровать.
**МЕ́НТАР** *м. уст., ирон.* ме́нтор.
**МЕ́НТАРСКІ** *уст., ирон.* ме́нторский.
**МЕНТО́Л, -лу** *м.* менто́л.
**МЕНТО́ЛАВЫ** менто́ловый.

**МЕНТУЗО́ВЫ** нали́мий.
**МЕНУЭ́Т** *м.* менуэ́т.
**МЕ́НЦІК** *м. воен. уст.* ме́нтик.
**МЕНШ** *нареч. сравнит. ст.* ме́ньше, ме́нее; ✧ **тым не м.** тем не ме́нее; **больш-м.** бо́лее или ме́нее; **ні больш ні м. (як)** ни бо́льше ни ме́ньше (как); **м. за ўсё** ме́нее (ме́ньше) всего́; **са́ма м.** а) са́мое ма́лое, по ме́ньшей ме́ре; б) ме́ньше всех.
**МЕНШАВІ́ЗМ, -му** *м.* меньшеви́зм.
**МЕНШАВІ́К, -ка́** *м.* меньшеви́к.
**МЕНШАВІ́ЦКІ** меньшеви́стский.
**МЕНШАВІ́ЧКА** *ж. разг.* меньшеви́чка.
**МЕ́НШАСЦЬ** *ж.* меньшинство́ *ср.*
**МЕ́НШАЦЬ** *несов.* станови́ться ме́ньше, уменьша́ться; убыва́ть.
**МЕ́НШЫ** *прил. сравнит. ст.* **1.** (*по величине*) ме́ньше, ме́ньший; **2.** (*по возрасту*) моло́же, мла́дший; ✧ **адзі́н за другóга м.** мал ма́ла ме́ньше.
**МЕ́НШЫЦЦА** *несов. разг.* уменьша́ться, убавля́ться; убыва́ть.
**МЕНЮ́** *нескл. ср.* меню́.
**МЕ́РА** *ж. в разн. знач.* ме́ра; (*для отмеривания—ещё*) ме́рка; **м. даўжыні́** ме́ра длины́; **м. вагі́** ме́ра ве́са; **кра́йняя м.** кра́йняя ме́ра; **прыня́ць ме́ры** приня́ть ме́ры; **ме́ры спагна́ння** ме́ры взыска́ния; **ме́ры сацыя́льнай засцяро́гі** ме́ры социа́льной защи́ты; ✧ **без ме́ры** без ме́ры; **праз ме́ру** сверх ме́ры, че́рез ме́ру; **знаць (ве́даць) ме́ру** знать ме́ру; **па ме́ры магчы́масці** по ме́ре возмо́жности; **па ме́ры сіл** по ме́ре сил; **па ме́ры (у ме́ру) таго́** по ме́ре того́; **па ме́ры таго́, як...** по ме́ре того́, как...; **у зна́чнай ме́ры** в значи́тельной ме́ре; **у ме́ру** в ме́ру; в са́мый раз; **у по́ўнай ме́ры** в по́лной ме́ре; **усі́мі ме́рамі** все́ми ме́рами; **м. і ве́ра** как в апте́ке; **па кра́йняй ме́ры** по кра́йней ме́ре; **канца́-ме́ры няма́** конца́-кра́ю (конца́-кра́я) нет.
**МЕ́РАННЕ** *ср.* (*действие*) измере́ние.
**МЕ́РАНЫ** ме́ренный.
**МЕРАПРЫЕ́МСТВА** *ср.* мероприя́тие.
**МЕ́РАЦЦА** *несов.* **1.** ме́риться, ме́ряться; **м. сі́ламі з кім-не́будзь** ме́риться си́лами с ке́м-л.; **м. ро́стам з кім-не́будзь** ме́риться ро́стом с ке́м-л.; **2.** *страд.* ме́риться, ме́ряться, измеря́ться.
**МЕ́РАЦЬ** *несов.* **1.** ме́рить, ме́рять, измеря́ть; **2.** (*надевать или прикладывать*) примеря́ть; ✧ **м. той жа ме́рай** ме́рить то́ю же ме́рой.
**МЕ́РГЕЛЬ, -лю** *м. геол.* ме́ргель.
**МЕ́РГЕЛЬНЫ** ме́ргельный.
**МЕРЗЛАТА́** *ж.* мерзлота́; **ве́чная м.** *геол.* ве́чная мерзлота́.
**МЕ́РЗНУЦЬ** *несов.* **1.** мёрзнуть, замерза́ть, зя́бнуть; **ру́кі м.** ру́ки мёрзнут (замерза́ют, зя́бнут); **2.** (*гибнуть от холода*) замерза́ть; (*о растениях—ещё*) мёрзнуть, вымерза́ть.
**МЕ́РКА** *ж. в разн. знач.* ме́рка; (*критерий—ещё*) мери́ло *ср.*; **пад ~ку не падыхо́дзіць** под ме́рку не подхо́дит; **м. з папе́ры (з вяро́ўкі)** ме́рка из бума́ги (из верёвки); **м. ва́ртасці** мери́ло сто́имости; ✧ **ме́раць усі́х адно́й ~кай** ме́рить всех одно́й ме́ркой.
**МЕРКАВА́ННЕ** *ср.* **1.** сужде́ние, мне́ние, соображе́ние, усмотре́ние; **2.** расчёт *м.*; предположе́ние.
**МЕРКАВА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*чаще в безл. форме*) предполага́ть, рассчи́тывать; **сход мярку́ецца перане́сці на за́ўтра** собра́ние предполага́ют (рассчи́тывают) перенести́ на за́втра; **2.** (*жить в согласии*) мири́ться; **так-ся́к мярку́юцца** ко́е-ка́к ми́рятся.
**МЕРКАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** толкова́ть, рассужда́ть; **~ва́лі аб тым, як трэ́ба працава́ць** толкова́ли (рассужда́ли) о том, как на́до рабо́тать; **2.** рассчи́тывать; предполага́ть; **яны́ ~ва́лі дасягну́ць вяршы́ні за́відна** они́ рассчи́тывали (предполага́ли) дости́гнуть верши́ны за́светло; **3.** суди́ть; **ко́жны мярку́е па-сво́йму** ка́ждый су́дит по-сво́ему; **мярку́йце са́мі** суди́те са́ми; **4.** (*иметь намерение*) *переводится прич. с инф.*: **што вы мярку́еце рабі́ць?** что вы наме́рены де́лать?; **5.** жить в ладу́; ✧ **разважа́ць ды м.** суди́ть да ряди́ть.
**МЕРКАНТЫЛІ́ЗМ, -му** *м. прям., перен.* меркантили́зм.
**МЕРКАНТЫЛІ́СТ** *м.* меркантили́ст.
**МЕРКАНТЫЛІСТЫ́ЧНЫ** меркантилисти́ческий; **~ная палі́тыка** меркантилисти́ческая поли́тика.
**МЕРКАНТЫЛІ́СЦКІ** меркантили́стский.
**МЕРКАНТЫ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* меркати́льность.
**МЕРКАНТЫ́ЛЬНЫ** *прям., перен.* меркати́льный.
**МЕ́РКНУЦЬ** *несов. в разн. знач.* ме́ркнуть.
**МЕРКУ́РЫЙ** *м. астр.* Мерку́рий.
**МЕРЛА́Н, -на́** *м. зоол.* мерла́н.
**МЕ́РНА** *нареч.* **1.** ме́рно; ро́вно; **2.** уме́ренно; 1, 2 *см.* **ме́рны** 1, 3.
**МЕ́РНАСЦЬ** *ж.* **1.** ме́рность; ро́вность; **2.** уме́ренность; 1, 2 *см.* **ме́рны** 1, 3.
**МЕ́РНЫ** 1. (*ритмичный*) ме́рный; ро́вный; **м. стук ко́лаў** ме́рный (ро́вный) стук колёс; **2.** (*служащий для измерения*) ме́рный; **м. ланцу́г** ме́рная цепь; **3.** (*средний*) уме́ренный.
**МЕРСЕРЫЗАВА́НЫ** *тех.* мерсеризо́ванный, мерсеризи́рованный.
**МЕРСЕРЫЗАВА́ЦЦА** *несов. страд. тех.* мерсеризова́ться, мерсеризи́роваться.
**МЕРСЕРЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов. тех.* мерсеризова́ть, мерсеризи́ровать.
**МЕРСЕРЫЗА́ЦЫЯ** *ж. тех.* мерсериза́ция.
**МЕ́РЦІ** *несов. разг.* (*погибать, умирать*) мере́ть.
**МЕРЫДЫЯ́Н** *м.* меридиа́н.
**МЕРЫДЫЯНА́ЛЬНЫ** меридиона́льный; **~ная пло́скасць** *мат.* меридиона́льная пло́скость.
**МЕРЫДЫЯ́ННЫ** меридиа́нный; **~нная лі́нія** меридиа́нная ли́ния.
**МЕРЫНО́С** *м.* **1.** *род.* **мерыно́са** (*об овце*) мерино́с; **2.** *род.* **мерыно́су** (*о ткани*) мерино́с.
**МЕРЫНО́САВЫ** мерино́совый; **~выя аве́чкі** мерино́совые о́вцы; **~вая во́ўна** мерино́совая шерсть.
**МЕ́РЫЦЦА** *несов.* **1.** (*принимать намерение*) намерева́ться, вознаме́риваться; **2.** (*для удара, выстрела, броска*) ме́тить, ме́титься, це́литься; **3.** *перен.* ме́тить; **м. ў знамяні́тасці** ме́тить в знамени́тости.
**МЕРЭ́НГА** *ж. кул.* мере́нга.
**МЕСАПАТА́МІЯ** *ж.* Месопота́мия.
**МЕСІ́НА** *ж. г.* Месси́на.
**МЕСІ́НСКІ ПРАЛІ́Ў** Месси́нский проли́в.
**МЕСІ́Я** *м. рел.* месси́я.
**МЕСІЯНІ́ЗМ, -му** *м.* мессиани́зм.
**МЕСІЯ́НСКІ** мессиа́нский.
**МЕСІЯ́НСТВА** *ср.* мессиа́нство.
**МЕ́СНІЦКІ** *ист., перен.* ме́стнический.
**МЕ́СНІЦТВА** *ср. ист., перен.* ме́стничество.
**МЕ́СНЫ: м. склон** *грам.* ме́стный (предло́жный) паде́ж.
**МЕ́СТА** *ср. уст.* го́род *м.*
**МЕСТАЧКО́ВЕЦ, -ко́ўца** *м. разг.* жи́тель месте́чка.
**МЕСТАЧКО́ВЫ** местечко́вый.
**МЕ́СЦА** *ср. в разн. знач.* ме́сто; **ён пабыва́ў у трох ~цах** он побыва́л в трёх места́х; **у ваго́не няма́ месц** в ваго́не нет мест; **у інстыту́це ёсць вака́нтнае м.** в институ́те име́ется вака́нтное ме́сто; **у кні́зе мно́га ціка́вых месц** в кни́ге мно́го интере́сных мест; **у бага́ж здадзена пяць месц** в бага́ж сдано́ пять мест; **маляўні́чае м.** живопи́сное ме́сто; ✧ **на ~цы злачы́нства** на ме́сте преступле́ния; **сла́бае м.** сла́бое (больно́е, уязви́мое) ме́сто; **ні з м.** ни с ме́ста; **ву́зкае м.** у́зкое ме́сто; **з м. на м.** с ме́ста на ме́сто; **мець м.** име́ть ме́сто; **во́чы на мо́крым ~цы** глаза́ на мо́кром ме́сте; **м. (сабе́) не знахо́дзіць** ме́ста (себе́) не находи́ть; **сэ́рца (душа́) не на ~цы** се́рдце (душа́) не на ме́сте; **ве́даць сваё м.** знать своё

ме́сто; **з м. ў кар'е́р** с ме́ста в карье́р; **не да м.** неуме́стно, некста́ти; **цёплае м.** тёплое ме́сто (месте́чко); **таптáцца на ~цы** топтáться на ме́сте; **на ро́ўным ~цы** на ро́вном ме́сте; **пастáвіць на (сваё) м. каго-не́будзь** постáвить на (своё) ме́сто кого́-л.; **кранýць спрáву з м.** сдви́нуть де́ло с мёртвой то́чки.

**МЕСЦАЗНАХО́ДЖАННЕ** *ср.* местонахожде́ние, местопребывáние.

**МЕ́СЦАМ** *нареч.* местáми; ко́е-где́; и́зредка.

**МЕ́СЦАМІ** *нареч. см.* **ме́сцам.**

**МЕСЦАНАРАДЖЭ́ННЕ** *ср.* месторожде́ние.

**МЕСЦАПРАБЫВА́ННЕ** *ср.* местопребывáние.

**МЕСЦАПРАЖЫВА́ННЕ** *ср.* местожи́тельство.

**МЕСЦАРАСПАЛАЖЭ́ННЕ** *ср.* местоположе́ние, месторасположе́ние.

**МЕ́СЦЕЙКА** *ср. уменьш.-ласк.* месте́чко; **знайшо́ў утýльнае м.** нашёл ую́тное месте́чко.

**МЕ́СЦІ** *несов. в разн. знач.* мести́; **м. сме́цце** мести́ мýсор; **м. падло́гу** мести́ пол; **ве́цер мяце́ лі́сце** ве́тер метёт ли́стья; **сёння на вýліцы мяце́** *безл.* сего́дня на ýлице метёт.

**МЕ́СЦІСЯ** *несов. страд.* мести́сь.

**МЕ́СЯЦ** *м.* **1.** ме́сяц; **у стýдзені ~цы** в январе́ ме́сяце; **2.** лунá *ж.*, ме́сяц.

**МЕ́СЯЧНА** *в знач. безл. сказ.* ме́сячно.

**МЕ́СЯЧНІК** I *м.* (*промежуток времени*) ме́сячник; **м. дзіця́чай кні́гі** ме́сячник де́тской кни́ги.

**МЕ́СЯЧНІК** II *м. ист.* ме́сячник.

**МЕ́СЯЧНЫ 1.** ме́сячный; **м. аклáд** ме́сячный оклáд; **2.** (*относящийся к луне*) лýнный, ме́сячный; **~нае зацямне́нне** лýнное затме́ние; **~нае святло́** лýнный (ме́сячный) свет; **м. год** лýнный год.

**МЕ́СЯЧНЫЯ, -ных** *сущ. прост.* ме́сячные.

**МЕ́СЯЧЫК** *м. ласк.* лунá *ж.*, ме́сяц.

**МЕ́СЯЧЫНА** *ж. ист.* ме́сячина.

**МЕ́ТА** *ж.* (*отличительный знак*) ме́тка.

**МЕТАБАЛІ́ЗМ, -му** *м. физиол.* метаболи́зм.

**МЕТАБІЁЗ, -зу** *м. бакт.* метабио́з.

**МЕТАГЕНЕ́З, -зу** *м. биол.* метагене́з.

**МЕ́ТАД, -ду** *м.* ме́тод; **маркссíцкі дыялекты́чны м.** маркси́стский диалекти́ческий ме́тод; **~ды навучáння** ме́тоды обуче́ния.

**МЕТАДАЛАГІ́ЧНЫ** методологи́ческий.

**МЕТАДАЛО́ГІЯ** *ж.* методоло́гия.

**МЕТАДО́ЛАГ** *м.* методо́лог.

**МЕТАДЫ́ЗМ, -му** *м. рел.* методи́зм.

**МЕТАДЫ́СТ** *м. в разн. знач.* методи́ст.

**МЕТАДЫ́СТКА** *ж. в разн. знач.* методи́стка.

**МЕТАДЫ́ЧНА** *нареч.* **1.** методи́чески; **2.** методи́чески, методи́чно; 1, 2 *см.* **метады́чны.**

**МЕТАДЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* методи́чность.

**МЕТАДЫ́ЧНЫ 1.** методи́ческий; **~ныя дапамо́жнікі** методи́ческие посо́бия; **2.** (*осуществляемый по определённому плану*) методи́ческий, методи́чный; **~ная стральбá** методи́ческая (методи́чная) стрельбá.

**МЕТА́Л, -лу** *м.* метáлл; **каштóўныя ~лы** драгоце́нные метáллы; **ця́жкія ~лы** тяжёлые метáллы.

**МЕТАЛААПРАЦО́ЎКА** *ж.* металлообрабо́тка.

**МЕТАЛААПРАЦО́ЎЧЫ** металлообрабáтывающий.

**МЕТАЛААРГАНІ́ЧНЫ** *хим.* металлооргани́ческий.

**МЕТАЛАГРАФІ́ЧНЫ** металлографи́ческий.

**МЕТАЛАГРА́ФІЯ** *ж.* металлогрáфия.

**МЕТАЛАГРА́ФСКІ** *спец.* металлогрáфский.

**МЕТАЛАЁМКАСЦЬ** *ж.* металлоёмкость.

**МЕТАЛАЗНА́ЎСТВА** *ср.* металлове́дение.

**МЕТАЛАІДА́ЛЬНЫ** *хим.* металлоидáльный.

**МЕТАЛАКАНСТРУ́КЦЫЯ** *ж.* металлоконстрýкция.

**МЕТАЛАЛО́М, -му** *м.* (**металі́чны лом**) металлоло́м (металли́ческий лом).

**МЕТАЛАНО́СНЫ** металлоно́сный.

**МЕТАЛАПАДО́БНЫ** металлообрáзный, металлови́дный.

**МЕТАЛАПЛАВІ́ЛЬНЫ** металлоплави́льный.

**МЕТАЛАПРАКА́ТНЫ** металлопрокáтный.

**МЕТАЛАПРАМЫСЛО́ВАСЦЬ** *ж.* металлопромы́шленность.

**МЕТАЛАПРАМЫСЛО́ВЫ** металлопромы́шленный.

**МЕТАЛАРЭ́ЖУЧЫ** металлоре́жущий.

**МЕТАЛАРЭ́ЗНЫ** металлоре́жущий; **м. станóк** металлоре́жущий станóк.

**МЕТАЛАФО́Н** *м. муз.* металлофо́н.

**МЕТАЛАХІМІ́ЧНЫ** металлохими́ческий.

**МЕТАЛАХІ́МІЯ** *ж.* металлохи́мия.

**МЕТАЛЁВЫ** *см.* **металі́чны.**

**МЕТАЛІЗАВА́НЫ** *тех.* металлизи́рованный.

**МЕТАЛІЗАВА́ЦЦА** *несов. страд. тех.* металлизи́роваться.

**МЕТАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов. тех.* металлизи́ровать.

**МЕТАЛІЗА́ЦЫЯ** *ж. тех.* металлизáция.

**МЕТАЛІ́СТ** *м.* металли́ст.

**МЕТАЛІ́ЧНЫ** *прям., перен.* металли́ческий; **~ныя канстрýкцыі** металли́ческие констрýкции; **~ная вытвóрчасць** металли́ческое произво́дство; **м. гук** металли́ческий звук.

**МЕТАЛО́ІД, -ду** *м. хим.* металло́ид.

**МЕТАЛО́ІДНЫ** *хим.* металло́идный, металлоидáльный.

**МЕТАЛУ́РГ** *м.* металлýрг.

**МЕТАЛУРГІ́ЧНЫ** металлурги́ческий.

**МЕТАЛУ́РГІЯ** *ж.* металлýргия.

**МЕТАМАРФІ́ЗМ, -му** *м. геол.* метаморфи́зм.

**МЕТАМАРФІ́ЧНЫ** *геол.* метаморфи́ческий.

**МЕТАМАРФО́ЗА** *ж. в разн. знач.* метаморфо́з *м.*, метаморфо́за.

**МЕТА́Н, -ну** *м. хим.* метáн.

**МЕТА́НАВЫ** *хим.* метáновый.

**МЕТАНІМІ́ЧНЫ** *лит.* метоними́ческий, метоними́чный.

**МЕТАНІ́МІЯ** *ж. лит.* метони́мия.

**МЕТАСТА́З, -зу** *м. мед.* метастáз.

**МЕТАСТАТЫ́ЧНЫ** *мед.* метастати́ческий.

**МЕТАТЭ́ЗА** *ж. лингв.* метате́за.

**МЕТА́ФАРА** *ж. лит.* метáфора.

**МЕТАФАРЫ́ЧНА** *нареч.* метафори́чески.

**МЕТАФАРЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* метафори́чность.

**МЕТАФАРЫ́ЧНЫ** метафори́ческий; (*богатый метафорами—ещё*) метафори́чный.

**МЕТАФІ́ЗІК** *м.* метафи́зик.

**МЕТАФІ́ЗІКА** *ж. в разн. знач.* метафи́зика.

**МЕТАФІЗІ́ЧНЫ** метафизи́ческий; (*отвлечённый, умозрительный—ещё*) метафизи́чный.

**МЕ́ТКА** I *сущ. ж.* ме́тка, знак *м.*, отме́тина.

**МЕ́ТКА** II *нареч.* ме́тко; *см.* **ме́ткі.**

**МЕ́ТКАСЦЬ** *ж.* ме́ткость; *см.* **ме́ткі.**

**МЕ́ТКІ** ме́ткий; **м. стрэл** ме́ткий вы́стрел.

**МЕТО́ДЫКА** *ж.* мето́дика.

**МЕТР** I *м.* (*единица длины*) метр.

**МЕТР** II *м.* (*стихотворный размер*) метр.

**МЕТР** III *м. уст., шутл.* (*учитель*) метр.

**МЕТРА́Ж, -жý** *м.* метрáж.

**МЕТРАЛАГІ́ЧНЫ** метрологи́ческий.

**МЕТРАЛО́ГІЯ** *ж.* метроло́гия.

**МЕТРАНО́М** *м. физ., муз.* метроно́м.

**МЕТРАНПА́Ж** *м.* метранпáж.

**МЕТРАПАЛІТЭ́Н** *м.* митрополи́т.

**МЕТРАПО́ЛІЯ** *ж.* метропо́лия.

**МЕТРДАТЭ́ЛЬ** *м.* метрдоте́ль.

**МЕТРО́** *нескл. ср.* метро́.

**МЕТРО́ЛАГ** *м.* метро́лог.

**МЕ́ТРЫКА** I *ж. лит., мат.* ме́трика.

**МЕ́ТРЫКА** II *ж.* (*документ о рождении*) ме́трика.

**МЕТРЫ́ЧНЫ** I *(о мерах)* метри́ческий; **~ная сістэ́ма** метри́ческая систе́ма.
**МЕТРЫ́ЧНЫ** II *лит.* метри́ческий.
**МЕТРЫ́ЧНЫ** III метри́ческий; **~ная кніга** метри́ческая кни́га.
**МЕ́ТЧЫК** *м. в разн. знач.* ме́тчик.
**МЕТЫ́Л, -лу** *м. хим.* мети́л.
**МЕТЫЛАВЫ** *хим.* мети́ловый; **м. спірт** мети́ловый спирт.
**МЕТЫЛЕ́Н, -ну** *м. хим.* метиле́н.
**МЕТЫЛЕ́НАВЫ** *хим.* метиле́новый.
**МЕТЫ́С** *м.* мети́с.
**МЕТЭАРАЛАГІ́ЧНЫ** метеорологи́ческий.
**МЕТЭАРАЛО́ГІЯ** *ж.* метеороло́гия.
**МЕТЭАРО́ГРАФ** *м. метеор.* метеоро́граф.
**МЕТЭАРО́ЛАГ** *м.* метеоро́лог.
**МЕТЭАРЫ́Т** *м.* метеори́т.
**МЕТЭАРЫ́ТНЫ** метеори́тный; метеори́ческий; **~нае жале́за** метеори́тное (метеори́ческое) желе́зо; **м. дождж** метеори́тный дождь.
**МЕТЭАРЫ́ЧНЫ** метеори́ческий.
**МЕТЭО́Р** *м.* метео́р.
**МЕТЭО́РНЫ** *в разн. знач.* метео́рный; **м. след** метео́рный след; **~ныя во́ды** метео́рные во́ды.
**МЕФІСТО́ФЕЛЬСКІ** мефисто́фельский.
**МЕХ** I *м.* **1.** (*тара*) мешо́к; (*из рогожи*) куль; **2.** (*мера*) *см.* **мяшо́к 2**; ✧ **м. развязаўся** прорвало́; **нагаварыць цэ́лы м.** наговори́ть с три ко́роба; **як з ме́ха** как из ро́га изоби́лия; **прапаў м.—на ба́цьку грэх** *погов.* с больно́й головы́ на здоро́вую.
**МЕХ** II *м.* мех; **кава́льскі м.** кузне́чный мех; **мяхі́ фотаапара́та** мехи́ фотоаппара́та; ✧ **сапе́, як м.** пыхти́т, как парово́з.
**МЕХАВА́ТА** *нареч.* мешкова́то.
**МЕХАВА́ТАСЦЬ** *ж.* мешкова́тость.
**МЕХАВА́ТЫ** мешкова́тый.
**МЕХАНАЗБО́РАЧНЫ** механосбо́рочный.
**МЕХАНАЗБО́РШЧЫК** *м.* механосбо́рщик.
**МЕХАНІЗАВАНЫ** механизи́рованный.
**МЕХАНІЗАВА́ЦЦА 1.** *сов. и несов.* механизи́роваться; **2.** *несов. страд.* механизи́роваться.
**МЕХАНІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* механизи́ровать.
**МЕХАНІЗА́ТАР** *м.* механиза́тор.
**МЕХАНІЗА́ТАРСКІ** механиза́торский.
**МЕХАНІЗА́ЦЫЯ** *ж.* механиза́ция.
**МЕХАНІ́ЗМ** *м. в разн. знач.* механи́зм; **гадзі́ннікавы м.** часово́й механи́зм; **дзяржаўны м.** госуда́рственный механи́зм; **м. хімі́чнай рэа́кцыі** механи́зм хими́ческой реа́кции.
**МЕХА́НІК** *м.* меха́ник.
**МЕХА́НІКА** *ж. в разн. знач.* меха́ника; **прыкладна́я м.** прикладна́я меха́ника; **нябе́сная м.** *астр.* небе́сная меха́ника; ✧ **хі́трая м.** хи́трая меха́ника.
**МЕХАНІ́СТ** *м. филос.* механи́ст.
**МЕХАНІСТЫ́ЧНЫ** *филос.* механисти́ческий, механисти́чный.
**МЕХАНІЦЫ́ЗМ, -му** *м. филос.* механици́зм.
**МЕХАНІЦЫ́СТ** *м.* механици́ст.
**МЕХАНІ́ЧНА** *нареч.* **1.** (*автоматически, бессознательно*) механи́чески; **2.** *филос.* механи́чески, механисти́чески.
**МЕХАНІ́ЧНАСЦЬ** *ж.* механи́чность.
**МЕХАНІ́ЧНЫ 1.** *в разн. знач.* механи́ческий; **м. рух** механи́ческое движе́ние; **~нае абсталява́нне** механи́ческое обору́дование; **м. цэх** механи́ческий цех; **~нае запаміна́нне** механи́ческое запомина́ние; **2.** *филос.* механи́ческий, механисти́ческий; **м. матэрыялі́зм** механи́ческий (механисти́ческий) материали́зм.
**МЕ́ХІКА** *нескл. м. г.* Ме́хико.
**МЕ́ЦІЦЦА** I *несов.* **1.** це́литься, ме́титься; **2.** намерева́ться.
**МЕ́ЦІЦЦА** II *несов. страд.* помеча́ться, ме́титься; *см.* **ме́ціць** II.
**МЕ́ЦІЦЬ** I *несов.* ме́тить, це́лить.
**МЕ́ЦІЦЬ** II *несов.* помеча́ть, ме́тить; **м. бялі́зну** ме́тить бельё.
**МЕ́ЦЦА** I *несов.* **1.** име́ться; **у мяне́ ма́юцца но́выя ве́сткі** у меня́ име́ются но́вые изве́стия; **у атра́дзе ме́ліся запа́сы праду́ктаў** в отря́де име́лись запа́сы проду́ктов; **м. ў ная́ўнасці** име́ться налицо́; **2.** чу́вствовать себя́; пожива́ть; **як вы ма́ецеся?** как вы себя́ чу́вствуете (пожива́ете)?; **3.** до́лжен (должна́, должно́ и т. д.) быть; (*иметь намерение*) предполага́ть; (*реже*) намерева́ться; **ху́тка ме́лася пача́цца жніво́** ско́ро должна́ была́ нача́ться жа́тва; **ён ме́ўся вярну́цца ўчо́ра** он до́лжен был (предполага́л) верну́ться вчера́; **да мяне́ ме́ліся прыйсці́ сябры́** ко мне должны́ бы́ли (намерева́лись) прийти́ друзья́; ✧ **м. на ўва́зе** *безл.* име́ться в виду́.
**МЕ́ЦЦА** II *сущ. нескл. ср. муз. разг.* ме́ццо.
**МЕ́ЦЦА-САПРА́НА** *нескл. ср. муз.* ме́ццо-сопра́но.
**МЕ́ЦЦА-ТЫ́НТА** *нескл. ср. полигр.* ме́ццо-ти́нто.
**МЕЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* име́ть; **м. ула́сны дом** име́ть со́бственный дом; **м. узнагаро́ды** име́ть награ́ды; **м. спра́ву з людзьмі́** име́ть де́ло с людьми́; **м. сі́лы зрабі́ць што-не́будзь** име́ть си́лы сде́лать что́-л.; **м. непрые́мнасці** име́ть неприя́тности; **2.** (*за каго-што*) счита́ть (*кем-чем*), принима́ть (*за кого-что*); **м. за чалаве́ка разу́мнага** счита́ть челове́ком у́мным; **м. за ні́што** ни во что́ не ста́вить; **3.** (*в личных формах со знач. долженствования*) *переводится обычно сл.* до́лжен, должна́ *или гл.* предполага́ть, намерева́ться, *а также сочет. гл.* предстоя́ть *с личным мест. в дат. п. и отглагольным сущ.*; **я за́ўтра ма́ю е́хаць у го́рад** я за́втра до́лжен (должна́) е́хать в го́род; я за́втра предполага́ю (намерева́юсь) е́хать в го́род; мне за́втра предстои́т пое́здка в го́род; ✧ **м. го́нар** име́ть честь; **м. зуб на каго-не́будзь** име́ть зуб на (про́тив) кого́-л.; **ме́йце ла́ску** бу́дьте любе́зны, сде́лайте одолже́ние; **м. лі́тасць** быть милосе́рдным, щади́ть; **м. ра́цыю** быть пра́вым; **вось табе́ ма́еш!** вот тебе́ и на!; вот так та́к!; **м. на ўва́зе** име́ть ввиду́; **што ма́е сі́лы** что есть си́лы; **як ма́е быць** как сле́дует; как на́до; как полага́ется; по-настоя́щему; **не м. сэ́рца** не име́ть се́рдца; **не м. ні́чога за душо́й** не име́ть ничего́ за душо́й.
**МЕЦЭНА́Т** *м.* мецена́т.
**МЕЦЭНА́ТКА** *ж. разг.* мецена́тка.
**МЕЦЭНА́ЦКІ** мецена́тский.
**МЕЦЭНА́ЦТВА** *ср.* мецена́тство.
**МЕЦЭНА́ЦТВАВАЦЬ** *несов.* мецена́тствовать.
**МЕЧ,** *род.* **мяча́** *м.* меч; ✧ **дамо́клаў м.** дамо́клов меч; **скрыжава́ць мячы́** скрести́ть мечи́; **падня́ць (вы́няць) м.** подня́ть (обнажи́ть) меч.
**МЕ́ЧАННЕ** *ср.* ме́тка *ж.*; *см.* **ме́ціць** II.
**МЕЧАНО́С** *м. зоол.* мечено́с.
**МЕЧАНО́СЕЦ, -но́сца** *м. ист.* мечено́сец.
**МЕ́ЧАНЫ 1.** *прич.* поме́ченный, ме́ченный; *см.* **ме́ціць** II; **2.** *прил.* ме́ченый; **~ныя а́тамы** ме́ченые а́томы; **3.** *прил.* (*об игральных картах*) краплёный.
**МЕЧАПАДО́БНЫ** мечеви́дный.
**МЕЧАХВО́СТ** *м. зоол.* мечехво́ст.
**МЕ́ЧНІК** I *м. ист.* мечено́сец.
**МЕ́ЧНІК** II, **-ку** *м. см.* **шпа́жнік.**
**МЕЧ-РЫБА** *ж. зоол.* меч-ры́ба.
**МЕ́ШАЛКА** *ж.* меша́лка.
**МЕШАНІ́НА** *ж. разг.* мешани́на, смесь, окро́шка.
**МЕ́ШАНКА** *ж. с.-х.* ме́шанка.
**МЕ́ШАНЫ** I ме́шенный; мя́тый; *см.* **мясі́ць.**
**МЕ́ШАНЫ** II *см.* **мяша́ны.**
**МЕ́ШАНЬ** *ж.* **1.** смесь, мешани́на; **2.** *разг.* по́месь.
**МЕШКАВІ́НА** *ж.* мешкови́на.
**МЕШЧАНІ́Н** *м. прям., перен.* мещани́н.

**МЕШЧАРА́К, -ка́** *м.* мещеря́к.
**МЕШЧАРАКІ́, -ко́ў** мещеряки́.
**МЕШЧАРА́ЦКІ** мещеря́цкий.
**МЕШЧАРА́ЧКА** *ж.* мещеря́чка.
**МЁД,** *род.* **мёду** *м. в разн. знач.* мёд; ✧ **не мяды́** *в знач. сказ.* не мёд; **ва́шымі б ву́снамі ды м. піць** *погов.* ва́шими бы уста́ми да мёд пить; **на языку́ м., а на сэ́рцы лёд** *погов.* на языке́ медо́к, а на се́рдце ледо́к.
**МЁДАВАРЭ́ННЕ** *ср.* медоваре́ние.
**МЁРЗЛАСЦЬ** *ж.* мёрзлость.
**МЁРЗЛЫ** *в разн. знач.* мёрзлый; **~лая зямля́** мёрзлая земля́; **~лыя шы́бы** мёрзлые стёкла о́кон; **~лыя я́блыкі** мёрзлые я́блоки.
**МЁРТВА** *нареч.* **1.** мёртво, мертво́; **2.** мёртво, мертво́, безжи́зненно; **3.** мертво́, пу́сто; беспло́дно; недви́жно; **4.** *перен.* хо́лодно; ту́скло; 1—4 *см.* **мёртвы** 1—4; **5.** *в знач. безл. сказ.* мёртво, мертво́.
**МЁРТВАЕ МО́РА** Мёртвое мо́ре.
**МЁРТВАНАРО́ДЖАНЫ** *прям., перен.* мертворождённый.
**МЁРТВЫ 1.** мёртвый, уме́рший; (*о растительности—ещё*) засо́хший, увя́дший; **м. чалаве́к** мёртвый челове́к; **~выя лісты́** мёртвые (засо́хшие, увя́дшие) ли́стья; **2.** (*такой, как у мертвеца*) мёртвый, ме́ртвенный, безжи́зненный; **м. твар** мёртвое (безжи́зненное) лицо́; **3.** (*лишённый признаков жизни*) мёртвый, пусто́й; (*о земле—ещё*) беспло́дный; (*лишённый движения—ещё*) недви́жный; **~вая ву́ліца** мёртвая (пуста́я) у́лица; **~выя пяскі́** мёртвые (беспло́дные) пески́; **4.** *перен.* холо́дный; ту́склый; **м. бляск ако́н** холо́дный блеск о́кон; **5.** *перен.* (*далёкий от жизни*) мёртвый; **6.** (*не нарушаемый звуками*) мёртвый; безмо́лвный; **~вая цішыня́** мёртвая тишина́; ✧ **~вая галава́** а) мёртвая голова́, че́реп; б) *зоол.* мёртвая голова́, ада́мова голова́, бра́жник; **~вая пры́рода** мёртвая приро́да; **~вая пятля́** *ав.* мёртвая пе́тля; **~выя ду́шы** мёртвые ду́ши; **м. пункт** *тех., спорт.* мёртвая то́чка; **м. сон** мёртвый сон; **~вая хва́тка** мёртвая хва́тка; **~вая мо́ва** мёртвый язы́к; **м. капіта́л** мёртвый капита́л; **м. інвента́р** мёртвый инвента́рь; **м. я́кар** *мор.* мёртвый я́корь; **м. зыб** мёртвая зыбь; **~вая прасто́ра** *воен.* мёртвое простра́нство; **~вая гадзі́на** мёртвый час; **м. сезо́н** мёртвый сезо́н; **ні жывы́ ні м.** ни жив ни мёртв.
**МІ** *нескл. ср. муз.* ми.
**МІГ,** *род.* **мі́гу** *м.* миг, мгнове́ние *ср.*
**МІГА́ЛКА** *ж. прост.* копти́лка.
**МІГА́ЛЬНЫ 1.** *анат.* мига́тельный; **2.** *биол.* мерца́тельный; **м. эпітэ́лій** мерца́тельный эпите́лий.
**МІ́ГАМ** *нареч.* ми́гом.
**МІГА́ННЕ** *ср.* **1.** мига́ние, морга́ние; **2.** сверка́ние, мига́ние, мерца́ние; **3.** мелька́ние; 1—3 *см.* **міга́ць.**
**МІГАТЛІ́ВА** *нареч.* тре́петно; *см.* **мігатлі́вы.**
**МІГАТЛІ́ВЫ** тре́петный; мерца́ющий; **м. аге́ньчык** тре́петный (мерца́ющий) огонёк.
**МІГАЦЕ́ННЕ** *ср.* **1.** мелька́ние; **2.** сверка́ние, мига́ние, мерца́ние.
**МІГАЦЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** мелька́ть; **2.** сверка́ть, мига́ть, мерца́ть.
**МІГА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*глазами*) мига́ть, морга́ть; **2.** сверка́ть, мига́ть, мерца́ть; **3.** мелька́ть.
**МІ́ГІ: гавары́ць на м.** разгова́ривать зна́ками.
**МІГНУ́ЦЦА** *сов.* мелькну́ть, промелькну́ть.
**МІГНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* **1.** (*глазами*) мигну́ть, моргну́ть; **2.** сверкну́ть, мигну́ть; **3.** мелькну́ть, промелькну́ть.
**МІГРАЦЫ́ЙНЫ** миграцио́нный.
**МІГРА́ЦЫЯ** *ж.* мигра́ция.
**МІГРЫРАВАЦЬ** *несов.* мигри́ровать.
**МІГРЭ́НЬ** *ж. мед.* мигре́нь.
**МІГЦЕ́ННЕ** *ср.* мига́ние, мерца́ние; тре́пет *м.*, трепета́ние; *см.* **мігце́ць** 2.
**МІГЦЕ́ЦЦА** *несов.* мига́ть, мерца́ть; (*о пламени*) трепета́ть.
**МІГЦЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** (*чуть светиться*) бре́зжить; **2.** мига́ть, мерца́ть; (*о пламени*) трепета́ть.
**МІДЫ́ЙСКІ** миди́йский.
**МІДЫ́ЙЦЫ, -цаў** *ист.* миди́йцы.
**МІ́ДЫЯ** *ж. ист.* Ми́дия.
**МІЁРСКІ РАЁН** Мио́рский райо́н.
**МІЁРЫ** *гп.* Мио́ры.
**МІЖ** *предлог* **1.** *с твор. в разн. знач.* ме́жду; меж; **даро́га ўе́цца м. паля́мі** доро́га вьётся ме́жду поля́ми; **перапы́нак м. ле́кцыямі** переры́в ме́жду ле́кциями; **дру́жба м. наро́дамі** дру́жба ме́жду наро́дами; **ро́зніца м. го́радам і вёскай** ра́зница ме́жду го́родом и дере́вней; **размеркава́ць пра́цу м. супрацо́ўнікамі** распредели́ть рабо́ту ме́жду сотру́дниками; **выбіра́ць м. двума́ варыя́нтамі** выбира́ть ме́жду двумя́ вариа́нтами; **перагаво́рвацца м. сабо́ю** перегова́риваться ме́жду собо́й; **2.** *с род.* (*для обозначения положения предмета или проявления действия в промежутке, посреди чего-л.*) ме́жду; (*в числе или среди других вещей, лиц, явлений—ещё*) среди́ (*кого-чего*); **м. лясо́ў і бало́т** среди́ лесо́в и боло́т; **ро́ўная м. ро́ўных** ра́вная ме́жду ра́вными (среди́ ра́вных); ✧ **м. на́мі** ме́жду на́ми; **м. тым** ме́жду тем; **м. і́ншым** а) ме́жду про́чим; б) вскользь, мимохо́дом; **м. на́мі ка́жучы** ме́жду на́ми говоря́.
**МІЖАКО́ННЕ** *ср.* просте́нок *м.*
**МІЖАКО́ННЫ** просте́ночный.
**МІЖАМЕРЫКА́НСКІ** межамерика́нский.
**МІЖБРО́ЎЕ** *ср.* межбро́вье.
**МІЖБРЫГА́ДНЫ** межбрига́дный.
**МІЖВЕ́ДАМАСНЫ** междуве́домственный.
**МІЖВІ́ДАВЫ** *биол.* межвидово́й, междувидово́й.
**МІЖВО́ЛІ** *нареч. см.* **міжво́льна.**
**МІЖВО́ЛЬНА** *нареч.* нево́льно; непроизво́льно; *см.* **міжво́льны.**
**МІЖВО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* непроизво́льность.
**МІЖВО́ЛЬНЫ** нево́льный; (*не зависящий от воли—ещё*) непроизво́льный; **м. све́дка** нево́льный свиде́тель; **м. смех** нево́льный (непроизво́льный) смех.
**МІЖГАРО́ДНІ** междугоро́дный.
**МІЖГАТУНКО́ВЫ** *спец.* межсортово́й.
**МІЖГО́Р'Е** *ср.* межго́рье.
**МІЖГО́РНЫ** межго́рный.
**МІЖЗЕ́МНАЕ МО́РА** Средизе́мное мо́ре.
**МІЖЗЕМНАМО́Р'Е** *ср.* Средиземномо́рье.
**МІЖЗЕМНАМО́РСКІ** средиземномо́рский
**МІЖЗО́РНЫ** межзвёздный.
**МІЖЗУ́БНЫ** *лингв.* межзу́бный.
**МІЖКАЛГА́СНЫ** межколхо́зный.
**МІЖКЛЕ́ТАЧНЫ** *биол.* межкле́точный.
**МІЖНАРО́ДНЫ** *в разн. знач.* междунаро́дный; **~нае стано́вішча** междунаро́дное положе́ние; **~ная саліда́рнасць** междунаро́дная солида́рность; **~ная Ле́нінская прэ́мія «За ўмацава́нне мі́ру памі́ж наро́дамі»** междунаро́дная Ле́нинская пре́мия «За укрепле́ние ми́ра ме́жду наро́дами»; **~ная палі́тыка** междунаро́дная поли́тика; **~нае пра́ва** междунаро́дное пра́во.
**МІЖНАЦЫЯНА́ЛЬНЫ** межнациона́льный.
**МІЖПАВЕ́РХАВЫ** междуэта́жный, межэта́жный.
**МІЖПАРО́ДНЫ** межпоро́дный; **~нае скрыжава́нне** межпоро́дное скре́щивание.
**МІЖПЛАНЕ́ТНЫ** межплане́тный.
**МІЖПЛО́ДНІК** *м. бот.* межпло́дник.
**МІЖПЛЯМЕ́ННЫ** междуплеменно́й.
**МІЖПУ́ЦЦЕ** *ср. ж.-д.* междупу́тье.
**МІЖРА́ДДЗЕ** *ср. с.-х.* междуря́дье.
**МІЖРАДКО́ВЫ 1.** *с.-х.* междуря́дный; **2.** междустро́чный.
**МІЖРАДКО́ЎЕ** *ср. см.* **міжра́ддзе.**

**МІЖРАЁННЫ** межрайо́нный.
**МІЖРАМО́НТНЫ** межремо́нтный.
**МІЖРО́ДАВЫ** *биол.* межродово́й.
**МІЖРЭ́БЕРНЫ** *анат.* межрёберный.
**МІЖРЭСПУБЛІКА́НСКІ** межреспублика́нский.
**МІЖРЭ́ЧЧА** *ср.* междуре́чье.
**МІЖСАРТАВЫ́** *спец.* межсортово́й.
**МІЖСАЮЗНІЦКІ** *полит.* межсоюзнический.
**МІЖСАЮЗНЫ** межсоюзный.
**МІЖСЕСІЁННЫ** межсессио́нный; **~нная нара́да** межсессио́нное совеща́ние.
**МІЖСЦЕ́ННЕ** *ср. анат., перен.* средосте́ние.
**МІЖУСО́БІЦА** *ж.* междоусо́бие *ср.*; междоусо́бица; раздо́р *м.*, сму́та.
**МІЖУСО́БНЫ** междоусо́бный.
**МІЖФРАКЦЫ́ЙНЫ** междуфракцио́нный.
**МІЖЦА́РСТВА** *ср.* междуца́рствие.
**МІЖЦЭ́ХАВЫ** межцехово́й.
**МІЗАНСЦЭ́НА** *ж. театр.* мизансце́на.
**МІЗАНТРАПІ́ЧНЫ** мизантропи́ческий.
**МІЗАНТРО́П** *м.* мизантро́п, человеконенави́стник.
**МІЗАНТРО́ПІЯ** *ж.* мизантро́пия, человеконенави́стничество *ср.*
**МІЗАРНЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** худе́ть (*в лице*); **2.** теря́ть вид, станови́ться невзра́чным.
**МІЗЭ́РНА** *нареч.* **1.** мизе́рно, ничто́жно, ску́дно; плаче́вно; **2.** невзра́чно, неказѝсто.
**МІЗЭ́РНАСЦЬ** *ж.* **1.** мизе́рность, ничто́жность, ску́дость; плаче́вность; **2.** невзра́чность, неказѝстость.
**МІЗЭ́РНЫ** **1.** мизе́рный, ничто́жный, ску́дный; плаче́вный; **2.** то́щий; **м. твар** то́щее лицо́; **3.** невзра́чный, неказѝстый.
**МІКА́ДА** *нескл. м.* мика́до.
**МІКАЛАГІ́ЧНЫ** микологи́ческий.
**МІКАЛО́ГІЯ** *ж.* миколо́гия.
**МІКАШЭ́ВІЧЫ, -віч** *гп.* Микаше́вичи.
**МІКРААМПЕ́Р** *м. эл.* микроампе́р.
**МІКРААРГАНІ́ЗМ** *м. биол.* микроорганѝзм.
**МІКРАБІЁЛАГ** *м.* микробио́лог.
**МІКРАБІЯЛАГІ́ЧНЫ** микробиологи́ческий.
**МІКРАБІЯЛО́ГІЯ** *ж.* микробиоло́гия.
**МІКРАВАГА́** *ж.* микровесы́ *ед. нет.*
**МІКРАКЛІ́МАТ, -ту** *м.* микрокли́мат.
**МІКРАКО́СМ, -му** *м. физ., филос.* микроко́см.
**МІКРАКО́СМАС, -су** *м. см.* **мікрако́см.**
**МІКРАЛЯ́МПА** *ж. радио* микрола́мпа.
**МІКРАМЕ́Р** *м. тех.* микроме́р.
**МІКРАМЕ́ТР** *м. физ., тех.* микроме́тр.
**МІКРАМЕТРЫ́ЧНЫ** *физ., тех.* микрометри́ческий.
**МІКРАМЕ́ТРЫЯ** *ж. физ.* микроме́трия.
**МІКРАНЕЗІ́ЙСКІ** микронези́йский; **~кія мо́вы** микронези́йские языки́.
**МІКРАНЕ́ЗІЯ** *ж. о-ва* Микроне́зия.
**МІКРАПО́РЫСТЫ** микропо́ристый; **~тая рызі́на** микропо́ристая рези́на.
**МІКРАРАЁН** *м.* микрорайо́н.
**МІКРАСКАПІ́ЧНА** *нареч.* микроскопи́чески.
**МІКРАСКАПІ́ЧНАСЦЬ** *ж.* микроскопи́чность.
**МІКРАСКАПІ́ЧНЫ** **1.** микроскопи́ческий; **м. ана́ліз** микроскопи́ческий ана́лиз; **2.** *перен.* микроскопи́ческий, микроскопи́чный; **~ная до́за** микроскопи́ческая (микроскопи́чная) до́за.
**МІКРАСКАПІ́Я** *ж.* микроскопи́я.
**МІКРАСКО́П** *м.* микроско́п; **электро́нны м.** электро́нный микроско́п.
**МІКРАСКО́ПНЫ** микроско́пный.
**МІКРАСПО́РА** *ж. бот.* микроспо́ра.
**МІКРАСТРУКТУ́РА** *ж.* микрострукту́ра.
**МІКРАТО́М** *м.* микрото́м.
**МІКРАТЫПІ́Я** *ж. фото* микроти́пия.
**МІКРАТЭЛЕФО́Н** *м.* микротелефо́н.
**МІКРАЎГНАЕ́ННЕ** *ср.* микроудобре́ние.
**МІКРАФАТАГРА́ФІЯ** *ж.* микрофотогра́фия.
**МІКРАФЛО́РА** *ж. бот.* микрофло́ра.
**МІКРАФО́Н** *м.* микрофо́н.
**МІКРАФО́ННЫ** микрофо́нный.
**МІКРАХІМІ́ЧНЫ** микрохими́ческий.
**МІКРАХІ́МІЯ** *ж.* микрохи́мия.
**МІКРАЦЭФА́Л** *м. антр.* микроцефа́л.
**МІКРАЦЭФА́ЛІЯ** *ж. антр.* микроцефа́лия.
**МІКРАЭЛЕМЕ́НТЫ,** *ед.* **мікраэлеме́нт** *м. спец.* микроэлеме́нты.
**МІКРО́Б** *м.* микро́б.
**МІКРО́БНЫ** микро́бный.
**МІКРО́Н** *м.* микро́н.
**МІКСТ** *м.* **1.** *муз.* микст; **2.** *в знач. прил. нескл. ж.-д.* микст.
**МІКСТУ́РА** *ж.* миксту́ра.
**МІ́ЛА** *нареч.* **1.** ми́ло; **2.** (*приветливо*) ми́ло, любе́зно; **3.** (*нежно*) уми́льно, тро́гательно.
**МІЛАВА́ННЕ** *ср.* милова́нье; леле́яние.
**МІ́ЛАВАЦЦА** *несов. страд.* ми́ловаться; щади́ться.
**МІЛАВА́ЦЦА** *несов.* милова́ться, ласка́ться.
**МІ́ЛАВАЦЬ** *несов.* **1.** ми́ловать; щади́ть; **2.** (*оказывать внимание*) жа́ловать.
**МІЛАВА́ЦЬ** *несов.* милова́ть, ласка́ть, голу́бить; леле́ять.
**МІЛАВІ́ДНАСЦЬ** *ж.* милови́дность.
**МІЛАВІ́ДНЫ** милови́дный.
**МІЛАГУ́ЧНА** *нареч.* благозву́чно.
**МІЛАГУ́ЧНАСЦЬ** *ж.* благозву́чие *ср.*; сладкозву́чие *ср.*
**МІЛАГУ́ЧНЫ** благозву́чный; сладкозву́чный.
**МІЛА́Н** *м. г.* Мила́н.
**МІЛА́НСКІ** мила́нский.
**МІ́ЛАСЛІВА** *нареч. см.* **мі́ласціва.**
**МІ́ЛАСЛІВЫ** *см.* **мі́ласцівы.**
**МІ́ЛАСЦІВА** *и* **МІ́ЛАСЛІВА** *нареч.* ми́лостиво.
**МІ́ЛАСЦІВЫ** *и* **МІ́ЛАСЛІВЫ** ми́лостивый.
**МІ́ЛАСЦІНА** *ж.* ми́лостыня.
**МІ́ЛАСЦЬ** *ж.* **1.** ми́лостыня, подая́ние *ср.*; **хадзі́ць па ~ці** проси́ть ми́лостыню (подая́ние); **2.** (*милосердие*) ми́лость; **змяні́ць гнеў на м.** смени́ть гнев на ми́лость; **3.** *только мн.* щедро́ты.
**МІЛАСЭ́РНА** *нареч.* милосе́рдно.
**МІЛАСЭ́РНАСЦЬ** *ж.* милосе́рдие *ср.*
**МІЛАСЭ́РНЫ** милосе́рдный.
**МІ́ЛАЧКА** *ж. ласк.* ми́лочка.
**МІ́ЛАЯ** *сущ.* ми́лая.
**МІ́ЛЕНЬКІ** **1.** *прил.* ми́ленький, дорого́й; люби́мый; **м. дружо́к** ми́ленький (дорого́й) дружо́к; **2.** *прил.* (*приятный на вид*) ми́ленький; **3.** *прил.* (*при ласковом обращении*) ми́ленький; **4.** *в знач. сущ. разг.* ми́ленький; ◇ **як м.** как ми́ленький.
**МІЛЁНАК, -нка** *м. прост.* милёнок.
**МІЛІАМПЕ́Р** *м. эл.* миллиампе́р.
**МІЛІВАЛЬТМЕ́ТР** *м. эл.* милливольтме́тр.
**МІЛІВА́Т** *м. эл.* милливатт.
**МІЛІВО́ЛЬТ** *м. эл.* милливо́льт.
**МІЛІГРА́М** *м.* миллигра́мм.
**МІЛІМЕ́ТР** *м.* миллиме́тр.
**МІЛІМЕТРО́ВЫ** миллиметро́вый.
**МІЛІМЕТРО́ЎКА** *ж. разг.* (*бумага*) миллиметро́вка.
**МІЛІМІКРО́Н** *м.* миллимикро́н.
**МІЛІТАРЫЗАВА́НЫ** милитаризо́ванный, милитаризи́рованный.
**МІЛІТАРЫЗАВА́ЦЦА** *несов. страд.* милитаризова́ться, милитаризи́роваться.
**МІЛІТАРЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* милитаризова́ть, милитаризи́ровать.

**МІЛІТАРЫЗА́ЦЫЯ** *ж.* милитариза́ция.
**МІЛІТАРЫ́ЗМ, -му** *м.* милитари́зм.
**МІЛІТАРЫ́СТ** *м.* милитари́ст.
**МІЛІТАРЫСТЫ́ЧНЫ** милитаристи́ческий.
**МІЛІТАРЫ́СЦКІ** милитари́стский.
**МІЛІЦЫ́ЙНЫ** милицио́нный; ✧ **~ная а́рмія** милицио́нная а́рмия.
**МІЛІ́ЦЫЯ** *ж.* мили́ция; **аддзяле́нне ~цыі** отделе́ние мили́ции; **наро́дная м.** наро́дная мили́ция.
**МІЛІЦЫЯНЕ́Р** *м. в разн. знач.* милиционе́р.
**МІЛІЦЫЯНЕ́РСКІ** милиционе́рский.
**МІЛІЦЭ́ЙСКІ** милице́йский; **м. пост** милице́йский пост.
**МІ́ЛКА** *ж. прост.* ми́лка, мила́шка.
**МІЛО́РД** *м.* мило́рд.
**МІЛО́С** *м. о-в* Мило́с.
**МІЛО́СКІ** мило́сский.
**МІ́ЛЫ 1.** *прил.* ми́лый; **2.** *прил.* (*приятный*) ми́лый, миловидный; (*нежный—ещё*) умили́ьный; **3.** *прил.* (*приветливый, предупредительный*) ми́лый, любе́зный; **4.** *прил.* (*дорогой, близкий*) ми́лый, люби́мый; **5.** *прил.* (*при дружеском обращении*) ми́лый; **6.** *в знач. сущ.* ми́лый; ✧ **за мі́лую душу́** за ми́лую ду́шу; **з мі́лым і ў бу́дане рай** *посл.* с ми́лым рай и в шалаше́.
**МІЛЬГА́ННЕ** *ср.* мелька́ние; мерца́ние; *см.* **мільга́ць 1.**
**МІЛЬГАНУ́ЦЦА** *сов. разг.* промелькну́ть, мелькну́ть.
**МІЛЬГАНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* **1.** мелькну́ть; **цень ~ну́ў на даро́зе** тень мелькну́ла на доро́ге; **2.** (*о свете*) сверкну́ть, блесну́ть.
**МІЛЬГАЦЕ́ННЕ** *ср.* **1.** мелька́ние; **2.** мерца́ние; мелька́ние; 1, 2 *см.* **мільгаце́ць.**
**МІЛЬГАЦЕ́ЦЬ** *несов.* **1.** мелька́ть; пестре́ть; **2.** (*о светящихся предметах*) мерца́ть; мелька́ть.
**МІЛЬГА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* мелька́ть; (*о светящихся предметах — ещё*) мерца́ть; **2.** *безл.* пестри́ть; **~га́е ў вача́х** пестри́т в глаза́х.
**МІЛЬЁН** *м.* миллио́н.
**МІЛЬЁННЫ** *в разн. знач.* миллио́нный; **~нная до́ля** миллио́нная до́ля; **~нныя дахо́ды** миллио́нные дохо́ды.
**МІЛЬЁНШЧЫК** *м. разг.* миллио́нщик.
**МІЛЬЯНЕ́Р** *м.* миллионе́р; **калга́с-м.** колхо́з-миллионе́р.
**МІЛЬЯНЕ́РКА** *ж. разг.* миллионе́рка.
**МІЛЬЯНЕ́РЫХА** *ж. разг.* миллионе́рша.
**МІЛЬЯ́РД** *м.* миллиа́рд.
**МІЛЬЯ́РДНЫ** *в разн. знач.* миллиа́рдный; **~ная ча́стка** миллиа́рдная часть; **~ныя сро́дкі** миллиа́рдные сре́дства.
**МІЛЬЯРДЭ́Р** *м.* миллиарде́р.
**МІЛЭ́ДЗІ** *нескл. ж.* миле́ди.
**МІ́ЛЯ** *ж.* ми́ля.
**МІЛЯ́ГА** *м. прост.* миля́га.
**МІМ** *м. театр.* **1.** *ист.* мим; **2.** (*актёр*) мим, мими́ст.
**МІ́МА 1.** *нареч.* ми́мо; **страля́ць м.** стреля́ть ми́мо; **2.** *предлог с род.* ми́мо; **ісці́ м. до́ма** идти́ ми́мо до́ма; ✧ **м. вушэ́й прапусці́ць** ми́мо уше́й пропусти́ть.
**МІМАВО́ЛІ** *нареч.* нево́льно; непроизво́льно; *см.* **мімаво́льны.**
**МІМАВО́ЛЬНА** *нареч.* нево́льно; непроизво́льно; *см.* **мімаво́льны.**
**МІМАВО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* непроизво́льность.
**МІМАВО́ЛЬНЫ** нево́льный; (*не зависящий от воли — ещё*) непроизво́льный; **~ная памы́лка** нево́льная оши́бка; **м. рух** нево́льное (непроизво́льное) движе́ние.
**МІМАЛЁТНА** *нареч.* мимолётно.
**МІМАЛЁТНАСЦЬ** *ж.* мимолётность; непродолжи́тельность.
**МІМАЛЁТНЫ 1.** мимолётный; **~ныя пту́шкі** мимолётные пти́цы; **2.** мимолётный; (*быстрый — ещё*) бе́глый; (*недолговечный — ещё*) скоропреходя́щий; непро́чный; **м. по́зірк** мимолётный взгляд; **~нае шча́сце** мимолётное (скоропреходя́щее, непро́чное) сча́стье.
**МІМАХО́ДАМ** *нареч.* **1.** мимохо́дом, попу́тно, по́ходя; **2.** *перен.* мимохо́дом, ме́жду про́чим; **сказа́ць м.** сказа́ть мимохо́дом (ме́жду про́чим).
**МІМАХО́ДЗЬ** *нареч. обл. см.* **мімахо́дам.**
**МІ́МІКА** *ж.* ми́мика.
**МІМІКРЫ́Я** *ж. биол.* мимикри́я.
**МІМІ́СТ** *м. театр.* мими́ст.
**МІМІ́СТКА** *ж. театр.* мими́стка.
**МІМІ́ЧНЫ** мими́ческий.
**МІМО́ЗА** *ж. бот.* мимо́за; недотро́га; не-тронь-меня́.
**МІМО́ЗАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* мимо́зовые.
**МІ́НА I** *ж. воен.* ми́на.
**МІ́НА II** *ж.* (*выражение лица*) ми́на; ✧ **рабі́ць вясёлую мі́ну пры дрэ́ннай гульні́** де́лать весёлую (хоро́шую) ми́ну при плохо́й игре́.
**МІНАМЁТ** *м.* миномёт.
**МІНАМЁТНЫ** миномётный; **~ная батарэ́я** миномётная батаре́я.
**МІНАМЁТЧЫК** *м.* миномётчик.
**МІНАНО́СЕЦ, -но́сца** *м.* миноно́сец; **эска́драны м.** эска́дренный миноно́сец.
**МІНАНО́СНЫ** *уст. в разн. знач.* миноно́сный.
**МІНАРЭ́Т** *м.* минаре́т.
**МІНА́ЦЦА** *несов.* проходи́ть; истека́ть; *см.* **міну́цца.**
**МІНА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*проезжать, проходить стороной*) минова́ть; **2.** *перен.* (*не затрагивать*) минова́ть; **3.** *перен.* избега́ть; **4.** (*оканчиваться*) проходи́ть; истека́ть; (*завершаться*) исполня́ться; **5.** пропуска́ть; 1—5 *см.* **міну́ць.**
**МІНАШУКА́ЛЬНІК** *м. воен.* миноиска́тель.
**МІНГРЭ́Л** *м.* мингре́л.
**МІНГРЭ́ЛІЯ** *ж.* Мингре́лия.
**МІНГРЭ́ЛКА** *ж.* мингре́лка.
**МІНГРЭ́ЛЫ, -лаў** мингре́лы.
**МІНГРЭ́ЛЬСКІ** мингре́льский.
**МІНДА́ЛЕВЫ** минда́левый.
**МІНДА́ЛЕВЫЯ** *сущ. мн. бот.* минда́левые.
**МІНДАЛЕПАДО́БНЫ** миндалеви́дный; **~ная зало́за** *анат.* миндалеви́дная железа́.
**МІНДА́ЛІК** *м. анат.* минда́лик.
**МІНДА́ЛІНА** *ж.* **1.** (*миндальный орех*) минда́лина; **2.** *анат.* минда́лина, минда́лик *м.*; **паднябе́нныя ~ны** нёбные минда́лины.
**МІНДА́ЛЬ** *м.* **1.** *род.* **мінда́ля** (*дерево*) минда́ль; **2.** *род.* **мінда́лю** (*о древесине, семенах и собир.*) минда́ль.
**МІНДА́ЛЬНІК, -ку** *м. бот.* (*поросль*) минда́льник.
**МІНДА́ЛЬНІЧАЦЬ** *несов. разг.* минда́льничать.
**МІНДА́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* минда́льный; **~нае дрэ́ва** минда́льное де́рево; **~ная кіслата́** минда́льная кислота́; **м. ка́мень** минда́льный ка́мень.
**МІНДАНА́О** *нескл. ср.* (*остров, море*) Минданао.
**МІНЕЗІ́НГЕР** *м. ист.* миннезингер.
**МІНЕРА́Л, -лу** *м.* минера́л.
**МІНЕРАЛАГІ́ЧНЫ** минералоги́ческий; **м. музе́й** минералоги́ческий музе́й.
**МІНЕРАЛАГРА́ФІЯ** *ж.* минерагра́фия.
**МІНЕРАЛО́Г** *м.* минерало́г.
**МІНЕРАЛО́ГІЯ** *ж.* минерало́гия.
**МІНЕРА́ЛЬНЫ** минера́льный; **~ныя бага́цці** минера́льные бога́тства; **~ная вада́** минера́льная вода́; **~ная ва́та** минера́льная ва́та.
**МІНЕ́Я** *ж. церк.* мине́я.
**МІНЁР** *м.* минёр.
**МІНЁРНЫ** минёрный.
**МІНІМАЛІ́ЗМ, -му** *м.* минимали́зм.
**МІНІМАЛІ́СТ** *м.* минимали́ст.
**МІНІМАЛІ́СТКА** *ж.* минимали́стка.
**МІНІМАЛІ́СЦКІ** минимали́стский.

**МІНІМА́ЛЬНА** *нареч.* минима́льно; ми́нимум; **м. загру́жаны** минима́льно загру́жен.
**МІНІМА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* минима́льность.
**МІНІМА́ЛЬНЫ** минима́льный.
**МІ́НІМУМ 1.** *сущ.* **-муму** *м.* ми́нимум; **тэхні́чны м.** техни́ческий ми́нимум; **агранамі́чны м.** агрономи́ческий ми́нимум; **пражы́тачны м.** прожи́точный ми́нимум; **2.** *нареч.* ми́нимум; **м. два дні** ми́нимум два дня; **3.** *прил. нескл.* ми́нимум; **прагра́ма-м.** програ́мма-ми́нимум.
**МІНІ́РАВАННЕ** *ср.* мини́рование.
**МІНІ́РАВАНЫ** мини́рованный.
**МІНІ́РАВАЦЦА** *несов. страд.* мини́роваться.
**МІНІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов.* мини́ровать.
**МІНІ́СТР** *м.* мини́стр; **Саве́т Міні́страў** Сове́т Мини́стров; **прэм'е́р-м.** премье́р-мини́стр; **м. без партфе́ля** мини́стр без портфе́ля; **паўнамо́цны м.** *дип.* полномо́чный мини́стр.
**МІНІСТЭ́РСКІ** министе́рский; **м. пост** министе́рский пост; **м. кры́зіс** министе́рский кри́зис.
**МІНІСТЭ́РСТВА** *ср.* министе́рство.
**МІНІЯЦЮ́РА** *ж. в разн. знач.* миниатю́ра; ✧ **у ～ры** в миниатю́ре.
**МІНІЯЦЮ́РНА** *нареч.* миниатю́рно.
**МІНІЯЦЮ́РНАСЦЬ** *ж.* миниатю́рность.
**МІНІЯЦЮ́РНЫ** *прям., перен.* миниатю́рный; **м. жы́вапіс** миниатю́рная жи́вопись; **～ная кні́жка** миниатю́рная кни́жка.
**МІНІЯЦЮРЫ́СТ** *м.* миниатюри́ст.
**МІНІЯЦЮРЫ́СТКА** *ж.* миниатюри́стка.
**МІ́ННЫ** ми́нный.
**МІНО́ГА** *ж. зоол.* мино́га.
**МІНО́Р, -ру** *м. муз., перен.* мино́р.
**МІНО́РКА** *ж.* (*порода кур*) мино́рка.
**МІНО́РНА** *нареч. муз., перен.* мино́рно; *см.* **міно́рны.**
**МІНО́РНЫ** *муз., перен.* мино́рный; **～ная га́ма** мино́рная га́мма; **м. настро́й** мино́рное настрое́ние.
**МІНСК** *м. г.* Минск.
**МІ́НСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ** Ми́нская о́бласть.
**МІ́НСКІ РАЁН** Ми́нский райо́н.
**МІНУЛАГО́ДНІ** прошлого́дний.
**МІНУ́ЛАЕ** *сущ.* про́шлое; мину́вшее, проше́дшее; ✧ **адысці́ ў м.** отойти́ в про́шлое.
**МІНУ́ЛЫ 1.** про́шлый, проше́дший; **2.** (*окончившийся*) мину́вший, проше́дший, исте́кший.
**МІ́НУС** *м. мат., перен.* ми́нус.
**МІ́НУСАВЫ** *спец.* ми́нусовый.
**МІНУ́СКУЛЫ,** *ед.* **міну́скул** *м. филол.* мину́скулы.
**МІНУ́СКУЛЬНЫ** *филол.* мину́скульный; **～нае пісьмо́** мину́скульное письмо́.
**МІНУ́ТА** *ж. в разн. знач.* мину́та; **без дваццаці́ ～т чаты́ры** без двадцати́ мину́т четы́ре; **80 гра́дусаў 30 ～т** 80 гра́дусов 30 мину́т.
**МІНУ́ТКА** *ж. ласк.* мину́тка.
**МІНУ́ТНЫ** *в разн. знач.* мину́тный.
**МІНУ́ЎШЧЫНА** *ж.* про́шлое *ср.*, было́е *ср.*, мину́вшее *ср.*
**МІНУ́ЦЦА** *сов.* минова́ть, минова́ться, пройти́; исте́чь; **яго́ пара́ міну́лася** его́ пора́ минова́лась (прошла́); **кры́зіс міну́ўся** кри́зис прошёл; **тэ́рмін міну́ўся** срок истёк; ✧ **міна́юцца дні і но́чы** прохо́дят дни и но́чи.
**МІНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*проехать, пройти стороной*) минова́ть; **2.** *перен.* (*не затронуть*) минова́ть; **няшча́сце міну́ла мяне́** несча́стье минова́ло меня́; **3.** *перен.* избе́гнуть, избежа́ть, минова́ть; **злачы́нец не міне́ ка́ры** престу́пник не избе́гнет (не избежи́т, не мину́ет) наказа́ния; **4.** (*окончиться*) минова́ть, пройти́; исте́чь; (*завершиться*) испо́лниться; **тэ́рмін міну́ў** срок истёк; **яму́ міну́ла дваццаць год** ему́ испо́лнилось два́дцать лет; **5.** пропусти́ть; **усі́х надзе́ліць, ніко́га не міне́** всех наде́лит, никого́ не пропу́стит.
**МІНУ́ЧАСЦЬ** *ж.* недолгове́чность.
**МІНУ́ЧЫ** преходя́щий; недолгове́чный.
**МІНУ́ШКІ, -шак** *мн. бот.* селезёночник *м.*
**МІНЬЁН I, -ну** *м. полигр.* миньо́н.
**МІНЬЁН II** *м.* (*бальный танец*) миньо́н.
**МІР,** *род.* **мі́ру** *м. в разн. знач.* мир; **мы стаі́м за м.** мы стои́м за мир; **заключы́ць м.** заключи́ть мир; ✧ **лепш благі́ м., чым до́брая сва́рка** *посл.* худо́й мир лу́чше до́брой ссо́ры.
**МІ́РА** *ср.* (*благовонное масло*) ми́ро; ✧ **адны́м мі́рам ма́заны** одни́м ми́ром ма́заны.
**МІРАБЕ́ЛЕВЫ** мирабе́левый.
**МІРАБЕ́ЛЬ, -ля,** (*о плодах и собир.*) **-лю** *м. бот.* мирабе́ль *ж.*
**МІРАБЕ́ЛЬНЫ** мирабе́льный; **～нае дрэ́ва** мирабе́льное де́рево; **～нае варэ́нне** мирабе́льное варе́нье.
**МІРАВЫ́ I** *прил.* мирово́й; **～во́е пагадне́нне** мирова́я сде́лка.
**МІРАВЫ́ II** *сущ. дорев.* мирово́й.
**МІРАЕ́Д** *м. разг. презр.* мирое́д.
**МІРА́Ж, -жу** *м. прям., перен.* мира́ж.
**МІРА́КЛЬ** *м. ист.* мира́кль.
**МІРАЛЮБІ́ВА** *нареч.* миролюби́во.
**МІРАЛЮБІ́ВАСЦЬ** *ж.* миролюби́вость.
**МІРАЛЮБІ́ВЫ** миролюби́вый.
**МІРАЛЮ́БНА** *нареч.* миролюби́во.
**МІРАЛЮ́БНАСЦЬ** *ж.* миролюби́вость, миролю́бие *ср.*
**МІРАЛЮ́БНЫ** миролюби́вый.
**МІРАНО́СІЦА** *ж. церк.* мироно́сица.
**МІРАПАМА́ЗАННЕ** *ср. церк.* миропома́зание.
**МІРАТВО́РАЦ, -рца** *м. уст.* миротво́рец.
**МІРАТВО́РНЫ** *уст.* миротво́рный.
**МІРАТВО́РЧЫ** *уст.* миротво́рческий.
**МІРГ** *межд. см.* **морг** III.
**МІРГА́ННЕ** *ср. см.* **марга́нне.**
**МІРГА́ЦЬ** *несов. см.* **марга́ць.**
**МІРГНУ́ЦЬ** *сов. см.* **маргну́ць.**
**МІРЗА́** *м. в разн. знач.* мирза́.
**МІ́РНА** *нареч.* ми́рно.
**МІ́РНЫ** *в разн. знач.* ми́рный; **～нае будаўні́цтва** ми́рное строи́тельство; **м. дагаво́р** ми́рный догово́р; **～ная краі́на** ми́рная страна́; **～нае насе́льніцтва** ми́рное населе́ние; **～ная гу́тарка** ми́рная бесе́да; **м. хара́ктар** ми́рный хара́ктер.
**МІ́РРА** *ж. в разн. знач.* ми́рра.
**МІ́РРАВЫ** ми́рровый.
**МІРТ,** *род.* **мі́рта,** (*о древесине и собир.*) **мі́рту** *м. бот.* мирт.
**МІ́РТАВЫ** ми́ртовый.
**МІ́РТАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* ми́ртовые.
**МІРЫ́ЦЦА** *несов. в разн. знач.* мири́ться; **прыйшо́ў да вас м.** пришёл к вам мири́ться; **м. з недахо́памі** мири́ться с недоста́тками.
**МІРЫ́ЦЬ** *несов.* мири́ть; **м. ба́цьку з сы́нам** мири́ть отца́ с сы́ном.
**МІРЫЯ́ДЫ** *ед. нет* мириа́ды.
**МІРЫЯМЕ́ТР** *м.* мириаме́тр.
**МІС** *нескл. ж.* мисс.
**МІ́СА** *ж. разг.* ми́са, ми́ска.
**МІ́САЧНІК** *м.* ми́сочник, горше́чник.
**МІ́САЧНЫ** ми́сочный; **～ная вытво́рчасць** ми́сочное произво́дство.
**МІ́СІС** *нескл. ж.* ми́ссис.
**МІСІСІ́ПІ** *нескл. ж. р.* Миссиси́пи.
**МІ́СІЯ** *ж. в разн. знач.* ми́ссия; **грама́дская м.** обще́ственная ми́ссия; **выко́нваць мі́сію** выполня́ть ми́ссию; **вае́нная м.** вое́нная ми́ссия; **дыпламаты́чная м.** дипломати́ческая ми́ссия.

**НАПЕ́РАД** *нареч.* 1. вперёд; **забяга́ць н.** забега́ть вперёд; **зрабі́ць крок н.** сде́лать шаг вперёд; 2. *разг.* (*сперва*) вперёд, пре́жде, ра́ньше; 3. *разг.* (*в счёт будущего*) вперёд; **узя́ць пла́ту н.** взять пла́ту вперёд; 4. *в знач. межд.* вперёд; **н., тава́рышы!** вперёд, това́рищи!

**НАПЕРАДАВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) переда́ть; *см.* **перадава́ць** 1.

**НАПЕ́РАДЗЕ** 1. *нареч.* впереди́; **н. быў лес** впереди́ был лес; 2. *нареч.* (*в будущем*) впереди́; **аб гэ́тым гаво́рка н.** об э́том речь впереди́; 3. *предлог с род.* впереди́, спе́реди; **се́сці н. каго-не́будзь** сесть впереди́ (спе́реди) кого́-л.

**НАПЕРАЗДЫМА́ЦЬ** *сов. см.* **наперазніма́ць.**

**НАПЕРАЗНІМА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пересня́ть; *см.* **перазніма́ць.**

**НАПЕРАКІДА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) перебро́сить, переки́нуть; *см.* **перакіда́ць** 1.

**НАПЕРАКІ́ДВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) перебро́сить, переки́нуть; *см.* **перакі́дваць** 1.

**НАПЕРАКЛАДА́ЦЬ** I *сов.* (*во множестве*) переложи́ть; *см.* **перакла́да́ць** I 1.

**НАПЕРАКЛАДА́ЦЬ** II *сов.* (*во множестве*) перевести́; *см.* **перакладаць** II 1.

**НАПЕРАКО́Р** 1. *нареч.* наперекор; **гавары́ць н.** говори́ть наперекор; 2. *предлог с дат.* наперекор; **н. стыхі́і** наперекор стихи́и.

**НАПЕРАКРУ́ЧВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) перекрути́ть; перевертеть; изврати́ть, исказить; *см.* **перакру́чваць** 1, 2, 7.

**НАПЕРАЛО́МЛІВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) переломать; *см.* **перало́млівацъ** 1.

**НАПЕРАМЕ́НКУ** *нареч.* попереме́нно.

**НАПЕРАНО́СІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) перенести́; *см.* **пераносіць.**

**НАПЕРАПА́ЛЬВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пережечь; *см.* **перапа́льваць.**

**НАПЕРАПІ́СВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) переписать; *см.* **перапі́сваць.**

**НАПЕРАРАЗА́ЦЬ** *и* **НАПЕРАРЭ́ЗВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) перерезать; *см.* **перараза́ць** 1.

**НАПЕРАРЭ́З** 1. *нареч.* наперерез; **дзе́ці бягу́ць н.** де́ти бегу́т наперерез; 2. *предлог с дат.* наперерез; **яна́ кру́та ве́рне свой чо́вен н. другому чо́ўну** она́ кру́то повора́чивает свой челно́к наперерез друго́му челноку́.

**НАПЕРАРЭ́ЗВАЦЬ** *сов. см.* **наперараза́ць.**

**НАПЕРАСА́ДЖВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пересади́ть; *см.* **перасаджваць.**

**НАПЕРАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) переставить; *см.* **перастаўля́ць** 1.

**НАПЕРАХО́ДЗІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) перейти́; *см.* **перахо́дзіць.**

**НАПЕРАЦЯ́ГВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) перетяну́ть; перетащи́ть; *см.* **пераця́гваць** 1, 2.

**НАПЕ́РСНІК** I *м.* (*часть упряжи*) напе́рсник.

**НАПЕ́РСНІК** II *м. уст.* напе́рсник.

**НАПЕ́РСТАЎКА** *ж. бот.* наперстя́нка.

**НАПЕ́РЦІ** *сов. прост.* 1. *в разн. знач.* напере́ть; **н. на дзве́ры** напере́ть на дверь; **у за́лу ~рла мно́га людзе́й** в зал напёрло мно́го люде́й; 2. (*напихать*) наби́ть.

**НАПЕ́РЦІСЯ** *сов. прост. в разн. знач.* напере́ться; **н. ка́шы** напере́ться ка́ши; **у за́лу ~рлася мно́га людзе́й** в зал напёрлось мно́го люде́й.

**НАПЕ́РЧАНЫ** напе́рченный.

**НАПЕ́РЧЫЦЬ** *сов.* напе́рчить.

**НАПЕ́ТЫ** *в разн. знач.* напе́тый; *см.* **напе́ць.**

**НАПЕ́Ў, -пе́ву** *м.* напе́в.

**НАПЕ́ЎНАСЦЬ** *ж.* напе́вность.

**НАПЕ́ЎНЫ** напе́вный.

**НАПЕ́ЦЦА** *сов.* (*вдоволь*) напе́ться.

**НАПЕ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* напе́ть; **н. мно́га пе́сень** напе́ть мно́го пе́сен; **н. маты́ў** напе́ть моти́в; **н. пласці́нку** напе́ть пласти́нку; ✧ **н. у ву́шы** напе́ть в у́ши.

**НАПЕ́ЧАНЫ** 1. напечённый; 2. нажа́ренный; 3. накалённый, раскалённый; 1—3 *см.* **напячы́.**

**НАПІВА́ЦЦА** *несов. в разн. знач.* напива́ться; *см.* **напі́цца.**

**НАПІВА́ЦЬ** *несов. разг.* (*выпивать на нек-рую сумму*) напива́ть.

**НАПІЛАВА́НЫ** напи́ленный.

**НАПІЛАВА́ЦЦА** *сов.* напили́ться.

**НАПІЛАВА́ЦЬ** *сов.* напили́ть.

**НАПІЛО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* напи́ливаться.

**НАПІЛО́ЎВАЦЬ** *несов.* напи́ливать.

**НАПІ́ЛЬНІК** *м.* напи́льник, напи́лок, подпи́лок; терпу́г.

**НАПІ́ЛЬНІКАВЫ** напи́лочный, подпи́лочный.

**НАПІНА́ННЕ** *ср.* 1. *разг.* натя́гивание, напя́ливание; 2. натя́гивание, натяже́ние, натя́жка *ж.*; 1, 2 *см.* **напіна́ць** 2, 3.

**НАПІНА́ЦЦА** *несов.* 1. напряга́ться, нату́живаться; 2. (*о канате и т. п.*) натя́гиваться; 1, 2 *см.* **напя́цца;** 3. *страд.* напряга́ться; натя́гиваться; напя́ливаться; впя́ливаться; *см.* **напіна́ць.**

**НАПІНА́ЦЬ** *несов.* 1. напряга́ть, нату́живать; 2. *разг.* (*надевать*) натя́гивать, напя́ливать; 3. (*канат и т. п.*) натя́гивать; (*на пяльцы*) впя́ливать; 1—3 *см.* **напя́ць.**

**НАПІРА́ЦЦА** *несов. прост. в разн. знач.* напира́ться; *см.* **напе́рціся.**

**НАПІРА́ЦЬ** *несов. разг. в разн. знач.* напира́ть; **н. на дзве́ры** напира́ть на дверь; **во́раг ~ра́е з фла́нга** враг напира́ет с фла́нга; **ён ~ра́е на сваю заня́тасць** он напира́ет на свою за́нятость.

**НАПІСА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* написа́ние.

**НАПІ́САНЫ** *в разн. знач.* напи́санный; *см.* **напіса́ць.**

**НАПІСА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* написа́ть; **н. лі́тару** написа́ть бу́кву; **н. заяву** написа́ть заявле́ние; **н. рама́н** написа́ть рома́н; **аб ёй ~са́лі ў газе́це** о ней написа́ли в газе́те; **ён абяца́ў н. з до́му** он обеща́л написа́ть и́з дому; ✧ **на лбе напі́сана** на лбу напи́сано; **на тва́ры напі́сана** на лице́ напи́сано; **на раду́ напі́сана** на роду́ напи́сано.

**НАПІ́ТАК, -тку** *м.* напи́ток; **прахаладжа́льныя ~ткі** прохлади́тельные напи́тки; **спіртны́я ~ткі** спиртны́е напи́тки.

**НАПІХА́ННЕ** *и* **НАПІ́ХВАННЕ** *ср.* наби́вка *ж.*; начи́нка *ж.*; *см.* **напіха́ць** 1.

**НАПІХА́ЦЦА** *и* **НАПІ́ХВАЦЦА** *несов.* 1. *прост.* набива́ться; *см.* **напха́цца** 2; 2. *страд.* напи́хиваться, набива́ться; начиня́ться; насо́вываться; *см.* **напіха́ць.**

**НАПІХА́ЦЬ** *и* **НАПІ́ХВАЦЬ** *несов.* 1. напи́хивать, набива́ть; (*заполнять внутренность чего-л.— ещё*) начиня́ть; 2. (*засовывая, наполнять чем-л.*) насо́вывать; 1, 2 *см.* **напха́ць.**

**НАПІ́ХВАННЕ** *ср. см.* **напіха́нне.**

**НАПІ́ХВАЦЦА** *несов. см.* **напіха́цца.**

**НАПІ́ХВАЦЬ** *несов. см.* **напіха́ць.**

**НАПІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* напи́ться; **н. вады́** напи́ться воды́; **н. да непрыто́мнасці** напи́ться до бесчу́вствия.

**НАПІ́ЦЬ** *сов. разг.* (*выпить на нек-рую сумму*) напи́ть.

**НАПІШЧА́ЦЦА** *сов. разг.* навизжа́ться.

**НАПЛА́ВАЦЦА** *сов.* напла́ваться.

**НАПЛА́ВАЦЬ** *сов.* напла́вать.

**НАПЛА́ВІЦЬ** *сов.* напла́вить; (*воску и т. п.—ещё*) натопи́ть.

**НАПЛАДЗІ́ЦЦА** *сов. разг.* наплоди́ться.

**НАПЛАДЗІ́ЦЬ** *сов. разг.* наплоди́ть.

**НАПЛА́КАЦЦА** *сов. в разн. знач.* напла́каться; **н. пры развіта́нні** напла́каться при проща́нии; **з такі́м рабо́тнічкам ~ла́чашся** с таки́м рабо́тничком напла́чешься.

**НАПЛА́КАЦЬ** *сов.* напла́кать; ✧ **кот ~каў** кот напла́кал.
**НАПЛАНАВА́НЫ** *разг.* напланиро́ванный.
**НАПЛАНАВА́ЦЬ** *сов. разг.* напланирова́ть.
**НАПЛАСТАВА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* наслое́ние, напластова́ние; **пясча́нае н.** песча́ное наслое́ние; **пазне́йшыя ~нні** поздне́йшие наслое́ния (напластова́ния).
**НАПЛАСТАВА́НЫ** 1. наслоённый, напласто́ванный; 2. наслоённый; 1, 2 *см.* **напластава́ць.**
**НАПЛАСТАВА́ЦЦА** *сов.* наслои́ться; напластова́ться.
**НАПЛАСТАВА́ЦЬ** *сов.* 1. (*наложить пластами*) наслои́ть, напластова́ть; 2. (*разделить на слои*) наслои́ть; **н. слюды́** наслои́ть слюды́.
**НАПЛАСТО́ВАНЫ** *см.* **напластава́ны.**
**НАПЛАСТО́ЎВАННЕ** *ср.* насла́ивание.
**НАПЛАСТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* насла́иваться; напласто́вываться; *см.* **напластава́цца, напласто́ўваць.**
**НАПЛАСТО́ЎВАЦЬ** *несов.* 1. (*накладывать пластами*) насла́ивать, напласто́вывать; 2. (*разделять на слои*) насла́ивать; 1, 2 *см.* **напластава́ць.**
**НАПЛА́ЎЛЕНЫ** напла́вленный; нато́пленный *см.* **напла́віць.**
**НАПЛАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* наплавля́ть; (*воску и т. п.*) ната́пливать.
**НАПЛАЎНЫ́** *спец.* наплавно́й; **н. мост** наплавно́й мост.
**НАПЛЕ́СЦІ** *сов.* 1. (*изготовить плетением*) наплести́; нави́ть; **н. вянко́ў** наплести́ (нави́ть) венко́в; 2. *перен. разг.* наплести́; **ён нам ~лёў немаве́дама чаго́** он нам наплёл неве́сть чего́; **н. на каго-не́будзь** наплести́ на кого́-л.
**НАПЛЕ́ТАЦЬ** *несов. см.* **наплята́ць.**
**НАПЛЕ́ЦЕНЫ** наплетённый; нави́тый; *см.* **напле́сці** 1.
**НАПЛЕ́ЧНІК** *м.* наплечник.
**НАПЛЕ́ЧНЫ** напле́чный.
**НАПЛО́ЕНЫ** *уст.* наплоённый.
**НАПЛО́ІЦЬ** *сов. уст.* наплои́ть.
**НАПЛЫВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* наплыва́ть; *см.* **наплы́сці** 1.
**НАПЛЫ́СЦІ** *и* **НАПЛЫ́ЦЬ** *сов.* 1. *в разн. знач.* наплы́ть; **н. на ка́мень** наплы́ть на ка́мень; **у раку́ ~лыло́ шмат сме́цця** в ре́ку наплы́ло мно́го му́сора; 2. *перен.* нахлы́нуть; **~лыло́ шмат наро́ду** нахлы́нуло мно́го наро́ду; **~лылі́ ўспамі́ны** нахлы́нули воспомина́ния.
**НАПЛЫ́Ў, -лы́ву** *м. в разн. знач.* наплы́в.
**НАПЛЫЎНЫ́** *геол.* наплывно́й.
**НАПЛЫ́ЦЬ** *сов. см.* **наплы́сці.**
**НАПЛЮХА́ЦЦА** *сов.* наплеска́ться (*вдоволь*).
**НАПЛЮХА́ЦЬ** *сов.* наплеска́ть.
**НАПЛЮ́ХВАЦЦА** *несов. страд.* наплёскиваться.
**НАПЛЮ́ХВАЦЬ** *несов.* наплёскивать.
**НАПЛЯВА́ЦЕЛЬСКІ** *разг.* наплева́тельский; **~кія адно́сіны да спра́вы** наплева́тельское отноше́ние к де́лу.
**НАПЛЯВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* наплева́ть.
**НАПЛЯВУ́ЗГАЦЦА** *сов. прост.* наболта́ться, натрепа́ться.
**НАПЛЯВУ́ЗГАЦЬ** *сов. прост.* наболта́ть, натрепа́ть, намоло́ть чу́ши (вздо́ра).
**НАПЛЯ́ЖЫЦЬ** *сов. прост.* наруби́ть (*в большом количестве, без разбора*).
**НАПЛЯСКА́ЦЦА** *сов. разг.* (*в ладоши*) нахло́паться.
**НАПЛЯ́СКАЦЬ** *сов. разг.* нахло́пать, нашлёпать.
**НАПЛЯСКА́ЦЬ** *сов. разг.* наплю́щить.
**НАПЛЯТА́ЦЬ** *несов.* (*изготавливать плетением*) наплета́ть; навива́ть; *см.* **напле́сці** 1.
**НАПЛЯТКА́РЫЦЬ** *сов. разг.* наспле́тничать, насуда́чить.
**НАПНУ́ТЫ** *см.* **напя́ты.**
**НАПНУ́ЦЦА** *сов. см.* **напя́цца.**
**НАПНУ́ЦЬ** *сов. см.* **напя́ць.**
**НАПО́ЕНЫ** напо́енный.
**НАПО́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* напа́иваться; *см.* **напо́йваць.**
**НАПО́ЙВАЦЬ** *несов.* (*к* **напаі́ць**) напа́ивать.
**НАПО́ЛАТЫ** напо́лотый.
**НАПО́ЛВАЦЬ** *несов.* напа́лывать.
**НАПО́МНІЦЬ** *сов.* (*заставить вспомнить*) напо́мнить.
**НАПО́ПЕРАК** *разг.* 1. *нареч.* поперёк; 2. *нареч.* наперекор; **гавары́ць н.** говори́ть напереко́р; 3. *предлог с дат.* наперекор, вопреки́; **н. во́лі ба́цькі** напереко́р (вопреки́) во́ле отца́.
**НАПО́Р, -ру** *м. в разн. знач.* напо́р.
**НАПО́РВАЦЦА** *несов.* 1. *прям., перен.* напа́рываться; *см.* **напаро́цца**; 2. *страд.* напа́рываться; нака́лываться; *см.* **напо́рваць** 1, 2.
**НАПО́РВАЦЬ** *несов.* 1. (*распарывать во множестве*) напа́рывать; 2. (*повреждать чем-л. острым*) напа́рывать, нака́лывать; 3. (*чаго*) *разг.* (*отыскивая что-л.*) находи́ть (*что или много чего*), набира́ть (*во множестве*); 1—3 *см.* **напаро́ць.**
**НАПО́РНЫ** напо́рный; **н. бак** *тех.* напо́рный бак.
**НАПО́РЫСТА** *нареч.* напо́ристо; *см.* **напо́рысты.**
**НАПО́РЫСТАСЦЬ** *ж.* напо́ристость; *см.* **напо́рысты.**
**НАПО́РЫСТЫ** напо́ристый; **н. хара́ктар** напо́ристый хара́ктер.
**НАПО́ЎЗАЦЦА** *сов.* напо́лзаться.
**НАПО́ЎЗВАЦЬ** *несов. см.* **напаўза́ць.**
**НАПО́ЎНЕНАСЦЬ** *ж.* напо́лненность.
**НАПО́ЎНЕНЫ** напо́лненный; преиспо́лненный; *см.* **напо́ўніць.**
**НАПО́ЎНІЦЦА** *сов.* напо́лниться; (*сильным чувством — ещё*) преиспо́лниться.
**НАПО́ЎНІЦЬ** *сов.* напо́лнить; (*о сильном чувстве — ещё*) преиспо́лнить.
**НАПРАБІВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) проби́ть; проломи́ть, продыря́вить; *см.* **прабіва́ць** 1.
**НАПРА́ВА** I *сущ. ж. разг.* почи́нка.
**НАПРА́ВА** II *нареч.* напра́во.
**НАПРАВА́ЦЬ** *несов.* напрева́ть.
**НАПРА́ВІЦЬ** *сов.* 1. (*лезвие*) напра́вить; 2. (*починить*) испра́вить, нала́дить; 3. (*внести много исправлений*) напра́вить.
**НАПРАДА́ЦЬ** *несов.* напряда́ть.
**НАПРАДВЕ́СНІ** *нареч.* на исхо́де зимы́; ра́нней весно́й.
**НАПРА́ДЗЕНЫ** напрядённый.
**НАПРА́ЖВАЦЬ** *несов.* (*кофе, семечек и т.п.*) нажа́ривать.
**НАПРА́ЖЫЦЬ** *сов.* (*кофе, семечек и т. п.*) нажа́рить.
**НАПРАКА́Т** *нареч.* напрока́т.
**НАПРАКО́ПВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) проры́ть, прокопа́ть.
**НАПРАКРУ́ЧВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) проверну́ть, просверли́ть.
**НАПРАКТЫКАВА́НЫ** намётанный; *см.* **напрактыкава́ць.**
**НАПРАКТЫКАВА́ЦЦА** *сов.* напрактикова́ться; наловчи́ться, наби́ть ру́ку; приобрести́ на́вык.
**НАПРАКТЫКАВА́ЦЬ** *сов.* наловчи́ть; (*глаз — ещё*) намета́ть.
**НАПРАКТЫКО́ЎВАЦЬ** *несов.* упражня́ть; (*глаз — ещё*) намётывать.
**НАПРАКУ́ДЗІЦЬ** *сов. разг.* напрока́зничать, набедоку́рить.
**НАПРАЛА́ЗІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пролезть; пробра́ться, проти́снуться, протолкну́ться; *см.* **прала́зіць** I 1.
**НАПРАЛЁТ** *нареч.* напролёт.
**НАПРАЛО́М** *нареч.* напроло́м.
**НАПРА́МАК, -мку** *м.* направле́ние *ср.*; **дава́ць н.** дава́ть направле́ние.
**НАПРАНА́ЦЦА** *несов. страд. разг.* надева́ться, напя́ливаться.

**НАПРАНА́ЦЬ** *несов. разг.* надева́ть, напя́ливать.
**НАПРА́НУТЫ** *разг.* наде́тый, напя́ленный.
**НАПРАНУ́ЦЬ** *сов. разг.* наде́ть, напя́лить.
**НАПРАПАЛУ́Ю** *нареч.* напропалу́ю.
**НАПРАПА́ЛЬВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прожéчь, пропали́ть; *см.* **прапа́львацъ** 1.
**НАПРАПО́РВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пропоро́ть, проткну́ть, проколо́ть; *см.* **прапо́рваць.**
**НАПРАПУСКА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пропусти́ть; *см.* **прапуска́ць** 1.
**НАПРАРАЗА́ЦЬ** *и* **НАПРАРЭ́ЗВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) проре́зать; *см.* **праразáць.**
**НАПРАРО́ЧАНЫ** напроро́ченный.
**НАПРАРО́ЧЫЦЬ** *сов.* напроро́чить.
**НАПРАРЭ́ЗВАЦЬ** *сов. см.* **напраразáць.**
**НАПРАСАВА́НЫ** нагла́женный.
**НАПРАСАВА́ЦЬ** *сов.* нагла́дить.
**НАПРАСВІДРО́ЎВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) просверли́ть; пробура́вить; *см.* **прасвідро́ўваць.**
**НАПРАСІ́ЦЦА** *сов.* напроси́ться; **н. ў го́сці** напроси́ться в го́сти.
**НАПРАСІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** (*пригласить многих*) назва́ть, напроси́ть; **н. гасце́й** назва́ть госте́й; **2.** подстрекну́ть (про́сьбой).
**НАПРАСО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* нагла́живаться.
**НАПРАСО́ЎВАЦЬ** I *сов.* (*во множестве*) просу́нуть; продви́нуть; протащи́ть; *см.* **прасо́ўваць** 1, 2.
**НАПРАСО́ЎВАЦЬ** II *несов.* нагла́живать.
**НАПРАСТКІ́** *нареч.* прямико́м, напрями́к.
**НАПРА́СЦІ** *сов.* напря́сть.
**НАПРАСЦЯ́К** *нареч.* прямико́м, напрями́к.
**НАПРАТО́ПТВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) протопта́ть; протори́ть; *см.* **пратапта́ць.**
**НАПРАТЫКА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) проткну́ть.
**НАПРА́ЎДУ** *нареч. разг.* в са́мом де́ле, взапра́вду.
**НАПРА́ЎКА** *ж.* (*бритвы и т. п.*) напра́вка.
**НАПРА́ЎЛЕНЫ** **1.** напра́вленный; **2.** испра́вленный, нала́женный; 1, 2 *см.* **напра́віць** 1, 2.
**НАПРАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* направля́ться; исправля́ться, нала́живаться; *см.* **напраўля́ць.**
**НАПРАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** (*лезвие*) направля́ть; **2.** (*чинить*) исправля́ть, нала́живать; 1, 2 *см.* **напра́віць** 1, 2.
**НАПРА́ЎШЧЫК** *м.* напра́вщик.
**НАПРА́ЎШЧЫЦА** *ж.* напра́вщица.
**НАПРАЦАВА́ЦЦА** *сов.* нарабо́таться.
**НАПРАЦАВА́ЦЬ** *сов.* нарабо́тать.
**НАПРО́СТ** *нареч.* **1.** *обл. см.* **напрасткі́; 2.** (*о жатве*) не свя́зывая в снопы.
**НАПРО́ЦІ** *и* **НАПРО́ЦІЎ** *обл.* **1.** *предлог с род.* (*в пространственном знач.*) напро́тив, про́тив; **2.** *предлог с род.* (*во временно́м знач.*) *переводится описательными конструкциями*: **ісці́ н. но́чы** идти́ на́ ночь гля́дя; **ён стаі́ць н. ве́ку** у него́ вся жизнь впереди́; **3.** *нареч.* напро́тив; **н. сядзе́ў малады́ чалаве́к** напро́тив сиде́л молодо́й челове́к; **4.** *нареч.* наперекóр, попере́к, напро́тив; **сказа́ць н.** сказа́ть наперекóр (попере́к, напро́тив).
**НАПРО́ШВАЦЦА** *несов.* **1.** напра́шиваться; *см.* **напрасі́цца; 2.** *перен.* (*приходить на ум*) напра́шиваться; **міжво́льна ~ваецца параўна́нне** нево́льно напра́шивается сравне́ние.
**НАПРО́ШВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** (*приглашать многих*) называ́ть, напра́шивать; **2.** подстрека́ть (про́сьбой); 1, 2 *см.* **напрасі́ць.**
**НАПРУ́ЖАНА** *нареч.* напряжённо.
**НАПРУ́ЖАНАСЦЬ** *ж.* напряжённость; взви́нченность; натя́нутость; *см.* **напру́жаны.**
**НАПРУ́ЖАННЕ** *ср. в разн. знач.* напряже́ние; **галава́ бале́ла ад ~ння** голова́ боле́ла от напряже́ния; **рабо́та патрабу́е вялі́кага ~ння сіл** рабо́та тре́бует большо́го напряже́ния сил; **рука́ дрыжы́ць ад ~ння** рука́ дрожи́т от напряже́ния; **ток высо́кага ~ння** ток высо́кого напряже́ния.
**НАПРУ́ЖАНЫ** напряжённый; взви́нченный; *см.* **напру́жыць.**
**НАПРУ́ЖВАННЕ** *ср.* напряже́ние; *см.* **напру́жваць.**
**НАПРУ́ЖВАЦЦА** *несов.* **1.** напряга́ться; *см.* **напру́жыцца; 2.** *страд.* напряга́ться; взви́нчиваться; *см.* **напру́жваць.**
**НАПРУ́ЖВАЦЬ** *несов.* напряга́ть; (*нервы — ещё*) взви́нчивать; *см.* **напру́жыць.**
**НАПРУ́ЖЫЦЦА** *сов.* напря́чься; **мы́шцы ~жыліся да адка́зу** мы́шцы напрягли́сь до преде́ла.
**НАПРУ́ЖЫЦЬ** *сов.* напря́чь; (*нервы — ещё*) взвинти́ть; **н. ува́гу** напря́чь внима́ние.
**НАПРЫБАЎЛЯ́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приба́вить; *см.* **прыбаўля́ць.**
**НАПРЫБІВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приби́ть, приколоти́ть; прикрепи́ть.
**НАПРЫБУДО́ЎВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пристро́ить; *см.* **прыбудо́ўваць.**
**НАПРЫБЯГА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прибежа́ть; *см.* **прыбяга́ць.**
**НАПРЫВАЛАКА́ЦЦА** *сов. разг.* (*во множестве*) притащи́ться, приволо́чься, прибрести́.
**НАПРЫВАЛАКА́ЦЬ** *сов. разг.* (*во множестве*) притащи́ть, приволо́чь.
**НАПРЫВО́ДЗІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) привести́; предста́вить; принести́; *см.* **прыво́дзіць** 1, 2.
**НАПРЫВО́ЗІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) привезти́; ввезти́; *см.* **прыво́зіць.**
**НАПРЫВЯ́ЗВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) привяза́ть; прича́лить; *см.* **прывя́зваць.**
**НАПРЫГАНЯ́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пригна́ть; *см.* **прыганя́ць** 1.
**НАПРЫГО́РТВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пригрести́; *см.* **прыго́ртваць** 1.
**НАПРЫДУ́МВАЦЬ** *и* **НАПРЫДУМЛЯ́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приду́мать; вы́думать, сочини́ть; *см.* **прыдумля́ць** 1, 2.
**НАПРЫ́КЛАД** *вводн. сл.* наприме́р.
**НАПРЫКЛАДА́ЦЬ** *и* **НАПРЫКЛА́ДВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приложи́ть; приба́вить, привра́ть; *см.* **прыкла́дваць** 1, 2, 4.
**НАПРЫКЛЕ́ЙВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прикле́ить.
**НАПРЫКО́ЛВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приколо́ть, прикрепи́ть; *см.* **прыко́лваць** 1.
**НАПРЫКО́ЧВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прикати́ть; *см.* **прыко́чваць.**
**НАПРЫКРА́ЦЬ** *сов. разг.* надое́сть.
**НАПРЫЛЕ́ПЛІВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прилепи́ть; *см.* **прыле́пліваць** 1.
**НАПРЫЛІПА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прили́пнуть.
**НАПРЫЛЯТА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прилете́ть.
**НАПРЫМА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приня́ть; убра́ть; *см.* **прыма́ць.**
**НАПРЫМЕ́ШВАЦЬ** I *сов.* (*во множестве*) примеша́ть; *см.* **прыме́шваць** I.
**НАПРЫМЕ́ШВАЦЬ** II *сов.* (*во множестве*) примеси́ть; *см.* **прыме́шваць** II.
**НАПРЫМЯРЗА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) примёрзнуть; *см.* **прымярза́ць** 1.
**НАПРЫНО́СІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) принести́; *см.* **прыно́сіць.**
**НАПРЫПЛЫВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приплы́ть.
**НАПРЫРАБЛЯ́ЦЬ** *и* **НАПРЫРО́БЛІВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приде́лать; *см.* **прырабля́ць** 1.
**НАПРЫСЫЛА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) присла́ть; *см.* **прысыла́ць.**

**НАПРЫХО́ДЗІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прийти́; *см.* **прыхо́дзіць.**

**НАПРЫЦЯ́ГВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) притащи́ть, приволо́чь; притяну́ть; *см.* **прыця́гваць** 1, 2.

**НАПРЫЧАПЛЯ́ЦЦА** *сов. см.* **напрычэ́пліванца.**

**НАПРЫЧАПЛЯ́ЦЬ** *сов. см.* **напрычэ́пліваць.**

**НАПРЫЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *и* **НАПРЫЧАПЛЯ́ЦЦА** *сов.* (*во множестве*) прицепи́ться; *см.* **прычэ́пліваца** 1.

**НАПРЫЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *и* **НАПРЫЧАПЛЯ́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прицепи́ть; приве́сить; *см.* **прычэ́пліваць.**

**НАПРЫШПІ́ЛЬВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) пришпи́лить, приколо́ть, наколо́ть; пристегну́ть; *см.* **прышпі́льваць** 1.

**НАПРЫШЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *и* **НАПРЫШЧАПЛЯ́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приви́ть; окули́ровать; прищепи́ть; *см.* **прышчэ́пліваць** 1.

**НАПРЫШЫВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) приши́ть; примета́ть, пристега́ть; притача́ть; присади́ть; *см.* **прышыва́ць** 1.

**НАПРЫЯЗДЖА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) прие́хать; прибы́ть.

**НАПРЭ́ГЧЫ** *сов.* (*кофе, семечек и т. п.*) нажа́рить.

**НАПРЭ́ЦЬ** *сов.* напре́ть.

**НАПСАВА́НЫ** напо́рченный; *см.* **напсава́ць.**

**НАПСАВА́ЦЬ** *сов.* напо́ртить; **н. шмат матэрыя́лу** напо́ртить мно́го материа́ла.

**НАПСТРЫ́КАЦЬ** *сов. разг.* нащёлкать.

**НАПУ́ДРАНЫ** напу́дренный.

**НАПУ́ДРЫВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* напу́дриваться.

**НАПУ́ДРЫВАЦЬ** *несов.* напу́дривать.

**НАПУ́ДРЫЦЦА** *сов.* напу́дриться.

**НАПУ́ДРЫЦЬ** *сов.* напу́дрить.

**НАПУ́ЖАНЫ** напу́ганный.

**НАПУЖА́ЦЦА** *сов.* напуга́ться.

**НАПУЖА́ЦЬ** *сов.* напуга́ть.

**НАПУ́ЛЬСНІК** *м.* напу́льсник.

**НА́ПУСК, -ку** *м.* на́пуск.

**НАПУСКА́ЦЦА** *несов. страд.* напуска́ться; припуска́ться; *см.* **напуска́ць** I.

**НАПУСКА́ЦЬ** I *несов.* **1.** *в разн. знач.* напуска́ть; *см.* **напусці́ць** 1; **2.** (*прибавлять в размерах*) припуска́ть.

**НАПУСКА́ЦЬ** II *сов.* напусти́ть; **~ка́ў абы-каго́** напусти́л кого́ попа́ло.

**НАПУСКНЫ́** **1.** с на́пуском; **~на́я ко́фта** ко́фта с на́пуском; **2.** напускно́й; **~на́я весяло́сць** напускна́я весёлость.

**НАПУСЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* напусти́ть; **н. ды́му** напусти́ть ды́му; **н. мух** напусти́ть мух; **н. суро́васць** напусти́ть суро́вость; **2.** (*прибавить в размерах*) припусти́ть.

**НАПУХА́ННЕ** *ср.* напуха́ние, опуха́ние; *см.* **напуха́ць.**

**НАПУХА́ЦЬ** *несов.* напуха́ть, опуха́ть; (*о болезненном увеличении в объёме — ещё*) *переводится безл. конструкцией с гл.* раздува́ть; *см.* **напу́хнуць.**

**НАПУ́ХЛЫ** напу́хший.

**НАПУ́ХНУЦЬ** *сов.* напу́хнуть, опу́хнуть; (*о болезненном увеличении в объёме — ещё*) *переводится безл. конструкцией с гл.* разду́ть; **ме́сцы ўку́саў на руцэ́ ~хлі** места́ уку́сов на руке́ напу́хли; **шчака́ ~хла** щёку разду́ло.

**НАПХА́НЫ** **1.** напи́ханный, наби́тый; начинённый; **2.** насо́ванный; 1, 2 *см.* **напха́ць.**

**НАПХА́ЦЦА** *сов. прост.* **1.** *груб.* (*наесться вдоволь*) нало́паться, натре́скаться; **2.** наби́ться; **у ваго́н ~ха́лася мно́га наро́ду** в ваго́н наби́лось мно́го наро́ду.

**НАПХА́ЦЬ** *сов.* **1.** напиха́ть, наби́ть; (*заполнить внутренность чего-л. — ещё*) начини́ть; **н. сянні́к салo´май** наби́ть (напиха́ть) тюфя́к соло́мой; **2.** (*засовывая, наполнить чем-л.*) насова́ть; **н. цуке́рак у кішэ́ні** насова́ть конфе́т в карма́ны.

**НАПХНУ́ТЫ** *см.* **напха́ны.**

**НАПХНУ́ЦЬ** *сов. см.* **напха́ць.**

**НАПЫЛІ́ЦЬ** *сов.* напыли́ть.

**НАПЫ́РСКАНЫ** **1.** набры́зганный, напры́сканный; **2.** напры́сканный; 1, 2 *см.* **напы́рскаць.**

**НАПЫ́РСКАЦЬ** *сов.* **1.** набры́згать, напры́скать; **н. вады́** набры́згать (напры́скать) воды́; **2.** (*прыская, смочить*) напры́скать; **н. духа́мі** напры́скать духа́ми.

**НАПЫ́РСКВАЦЬ** *несов.* **1.** набры́згивать, напры́скивать; **2.** (*прыская, смачивать*) напры́скивать; 1, 2 *см.* **напы́рскаць.**

**НАПЫТА́НЫ** разу́знанный.

**НАПЫТА́ЦЬ** (*каго-што*) *сов.* разузна́ть (*о ком-чём*).

**НАПЫ́ШЛІВА** *нареч.* **1.** напы́щенно, высокопа́рно, высопренне; **2.** высокоме́рно, надме́нно; спеси́во, чванли́во; 1, 2 *см.* **напы́шлівы.**

**НАПЫ́ШЛІВАСЦЬ** *ж.* **1.** напы́щенность, высокопа́рность, вы́спренность; **2.** высокоме́рность, надме́нность; спеси́вость, чванли́вость; 1, 2 *см.* **напы́шлівы.**

**НАПЫ́ШЛІВЫ** **1.** напы́щенный, высокопа́рный, вы́спренний; **н. стыль** напы́щенный (высокопа́рный, вы́спренний) стиль; **2.** высокоме́рный, надме́нный; спеси́вый, чванли́вый; **н. вы́гляд** высокоме́рный (надме́нный) вид.

**НАПЭ́ЎНА** **1.** *нареч.* определённо, наверняка́; достове́рно; допо́длинно; **2.** *в знач. вводн. сл.* наве́рно, вероя́тно, по всей вероя́тности, очеви́дно, по-ви́димому, должно́ быть, ви́дно.

**НАПЭ́ЎНЕ** *нареч. см.* **напэ́ўна** 1.

**НАПЭ́ЎНЫ** определённый; достове́рный; допо́длинный.

**НАПЭ́ЦКАНЫ** *разг.* **1.** напа́чканный, нагрязнённый; нама́ранный; **2.** *перен.* нама́ранный, нама́занный; 1, 2 *см.* **напэ́цкаць.**

**НАПЭ́ЦКАЦЬ** *сов. разг.* **1.** напа́чкать, нагрязни́ть; намара́ть; **н. на стале́** напа́чкать (намара́ть, нагрязни́ть) на столе́; **2.** *перен.* (*плохо нарисовать*) намара́ть, нама́зать.

**НАПЭ́ЦКВАЦЬ** *несов. разг.* па́чкать, грязни́ть; мара́ть; *см.* **напэ́цкаць** 1.

**НАПЯВА́ННЕ** *ср.* напева́ние.

**НАПЯВА́ЦЦА** *несов. страд.* напева́ться; *см.* **напява́ць.**

**НАПЯВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* напева́ть; *см.* **напе́ць; 2.** (*петь тихо*) напева́ть; **ціхенька н.** тихо́нько напева́ть.

**НАПЯКА́ЦЦА** *несов.* **1.** *разг.* (*сильно прогреваться*) накаля́ться; (*о человеке*) напека́ться, нажа́риваться; **2.** *страд.* напека́ться; нажа́риваться; нака́ливаться, накаля́ться, раскаля́ться; *см.* **напяка́ць.**

**НАПЯКА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* напека́ть; **2.** нажа́ривать; **3.** нака́ливать, накаля́ть, раскаля́ть; 1—3 *см.* **напячы́.**

**НАПЯРЭ́ДАДНІ** **1.** *нареч.* накану́не; **2.** *предлог с род.* накану́не; **н. рэвалю́цыі** накану́не револю́ции.

**НАПЯРЭ́ЙМЫ** *нареч. разг.* наперерез, наперехва́т.

**НАПЯРЭ́СЦІГІ** *нареч. обл.* наперере́з.

**НАПЯ́ТАСЦЬ** *ж.* натяже́ние *ср.*; **н. струны́** натяже́ние струны́.

**НАПЯ́ТЫ** **1.** напряжённый, нату́женный; **2.** *разг.* натя́нутый, напя́ленный; **3.** натя́нутый; вдя́ленный; 1—3 *см.* **напя́ць.**

**НАПЯ́ЦЦА** *сов.* **1.** напря́чься, нату́житься; **у яго́ напя́ўся ко́жны му́скул** у него́ напря́гся ка́ждый му́скул; **2.** (*о канате и т. п.*) натяну́ться; **пастро́нкі напя́ліся, як стру́ны** постро́мки натяну́лись, как стру́ны.

**НАПЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** напря́чь, нату́жить; **н. му́скулы** напря́чь (нату́жить) му́скулы; **2.** *разг.* (*надеть*) натяну́ть, напя́лить; **н. ша́пку на са́мыя ву́шы** натяну́ть (напя́лить) ша́пку на са́мые у́ши; **3.** (*канат и т. п.*) натяну́ть; (*на пяльцы*) впя́лить; **н. вяро́ўку** натяну́ть верёвку.

**НАПЯЧЫ́** *сов.* **1.** *в разн. знач.* напе́чь; **н. піраго́ў** напе́чь пирого́в; **напякло́ галаву́** *безл.* напекло́ го́лову; **2.** нажа́рить; **н. сква́рак** нажа́рить шква́рок; **3.** накали́ть, раскали́ть; **н. жале́зны прут** накали́ть (раскали́ть) желе́зный прут.

**НАПЯЧЫ́СЯ** *сов. разг.* (*сильно прогреться*) накали́ться; (*о человеке*) напе́чься, нажа́риться.

**НАРА́** *ж.* **1.** нора́; **барсуко́ва н.** нора́ барсука́; **2.** *перен.* нора́, конура́; **гэ́та не памяшка́нне, а н.** э́то не помеще́ние, а нора́ (конура́).

**НАРАБАВА́НЫ** *уст.* награ́бленный.

**НАРАБАВА́ЦЬ** *сов. уст.* награ́бить.

**НАРАБІ́ЦЦА** *сов.* нарабо́таться, натруди́ться.

**НАРАБІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* наде́лать; **н. скры́начак** наде́лать коро́бочек; **н. памы́лак** наде́лать оши́бок; **2.** (*чего-л. неприятного, предосудительного*) наде́лать, доста́вить, причини́ть; натвори́ть; **н. кло́пату** наде́лать (доста́вить, причини́ть) хлопо́т; **н. глу́пства** наде́лать (натвори́ть) глу́постей; **3.** (*нагрязнить*) насори́ть, напа́чкать; **дзе́ці ~білі сме́ццяў пакóі** де́ти насори́ли (напа́чкали) в ко́мнате; **4.** (*изготовить вязанием*) навяза́ть.

**НАРАБЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* де́лать; **2.** (*что-л. неприятное, предосудительное*) де́лать, доставля́ть, причиня́ть; твори́ть; **3.** (*грязнить*) сори́ть, па́чкать; **4.** (*изготавливать вязанием*) навя́зывать; 1—4 *см.* **нарабі́ць.**

**НАРАВІ́СТЫ** *разг.* **1.** своенра́вный, с но́ровом; **2.** (*о лошади*) норови́стый, с но́ровом.

**НАРАВІ́ЦЦА** *несов.* **1.** упря́миться; арта́читься; **2.** привере́дничать.

**НАРАВІ́ЦЬ** *несов.* угожда́ть; ✧ **н. як ліхо́й скуле́** не знать как угоди́ть.

**НАРАГАТА́ЦЦА** *сов. разг.* нахохота́ться, насмея́ться.

**НАРА́Д** *м.* *в разн. знач.* наря́д; **вы́пісаць н.** вы́писать наря́д; **н. мілі́цыі** наря́д мили́ции; **быць у ~дзе** *воен.* быть в наря́де.

**НАРА́ДА** *ж.* **1.** сове́т *м.*; **сяме́йная н.** семе́йный сове́т; **2.** совеща́ние *ср.*; **вытво́рчая н.** произво́дственное совеща́ние.

**НАРА́ДАВАЦЦА** *сов.* нара́доваться.

**НАРАДАВО́ЛЕЦ, -льца** *м. ист.* народово́лец.

**НАРАДАВО́ЛЬСКІ** *ист.* народово́льческий.

**НАРАДАВО́ЛЬСТВА** *ср. ист.* народово́льчество.

**НАРАДАЗНА́ВЕЦ, -зна́ўца** *м. уст.* народове́д.

**НАРАДАЗНА́ЎСТВА** *ср. уст.* народове́дение.

**НАРАДАЗНА́ЎЧЫ** *уст.* народове́дческий.

**НАРАДЖА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* рожда́емость.

**НАРАДЖА́ЦЦА** *несов. прям., перен.* рожда́ться; *см.* **нарадзі́цца.**

**НАРАДЖА́ЦЬ 1.** *несов.* рожа́ть, рожда́ть; **н. дзяце́й** рожа́ть дете́й; **2.** *несов. перен.* рожда́ть; **сацыялі́зм ~джа́е но́выя адно́сіны да пра́цы** социали́зм рожда́ет но́вое отноше́ние к труду́; **3.** *сов.* (*родить много*) нарожа́ть, народи́ть.

**НАРАДЖЭ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* рожде́ние; **год і ме́сца ~ння** год и ме́сто рожде́ния; **сляпы́ ад ~ння** слепо́й от рожде́ния; **дзень ~ння** день рожде́ния.

**НАРАДЗІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* роди́ться; **~дзі́ўся ў бе́днай сям'і́** роди́лся в бе́дной семье́; **у маёй галаве́ ~дзі́лася ду́мка** в моей голове́ родила́сь мысль.

**НАРАДЗІ́ЦЬ** *сов.* роди́ть; **яна́ ~дзі́ла дачку́** она́ родила́ дочь; ✧ **у чым ма́ці ~дзі́ла** в чём мать родила́.

**НАРА́ДЧЫК** *м.* наря́дчик.

**НАРА́ДЧЫЦА** *ж.* наря́дчица.

**НАРА́ЕНЫ** насове́тованный.

**НАРАЗА́ННЕ** *и* **НАРЭ́ЗВАННЕ** *ср.* **1.** нареза́ние, наре́зывание, наре́зка *ж.*; **2.** надре́зывание; **3.** зубре́ние; 1—3 *см.* **нараза́ць.**

**НАРАЗА́НЫ** *мед.* (*о банках*) кровосо́сный.

**НАРАЗА́ЦЦА** *и* **НАРЭ́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** (*о зубах*) прореза́ться; **2.** *страд.* нареза́ться, наре́зываться; надреза́ться, надре́зываться; назу́бриваться, зубри́ться; *см.* **нараза́ць.**

**НАРАЗА́ЦЬ** *и* **НАРЭ́ЗВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* нареза́ть, наре́зывать; *см.* **нарэ́заць** 1; **2.** надреза́ть, надре́зывать; **3.** (*пилу*) назу́бривать, зубри́ть.

**НАРАЗБІВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разби́ть; расколо́ть, расщепи́ть; *см.* **разбіва́ць** 1, 2.

**НАРАЗВАРО́ЧВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разворотить, развали́ть, разру́шить; разры́ть, развороши́ть; *см.* **разваро́чваць** 1, 2.

**НАРАЗВЕ́ШВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разве́сить; разве́шать; *см.* **разве́шваць.**

**НАРАЗВО́ДЗІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) развести́; расплоди́ть; *см.* **разво́дзіць** 2.

**НАРАЗВО́РВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) распаха́ть; *см.* **разво́рваць.**

**НАРАЗВЯ́ЗВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) развяза́ть; *см.* **развя́зваць.**

**НАРАЗДУ́ШВАЦЬ** *сов. разг.* (*во множестве*) раздави́ть.

**НАРАЗЛІВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разли́ть; нали́ть.

**НАРАЗЛО́МЛІВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разлома́ть; *см.* **разло́млiваць.**

**НАРАЗНО́СІЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разнести́; *см.* **разно́сіць** 1.

**НАРАЗНЫ́** нарезно́й.

**НАРАЗРАЗА́ЦЬ** *и* **НАРАЗРЭ́ЗВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разре́зать; вскрыть; распили́ть; *см.* **разраза́ць.**

**НАРА́ІЦЬ** *сов.* насове́товать.

**НАРАКА́ННЕ** *ср.* ропта́ние, ро́пот *м.*, се́тование.

**НАРАКА́ЦЬ** *несов.* ропта́ть, се́товать, пеня́ть.

**НАРАСКА́ЗВАЦЬ** *сов.* нарасска́зывать.

**НАРАСКІДА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разброса́ть, раскида́ть; размета́ть, расшвыря́ть; разру́шить, развороти́ть; разори́ть; *см.* **раскіда́ць.**

**НАРАСКІ́ДВАЦЬ** *сов. см.* **нараскіда́ць.**

**НАРАСКЛА́ДВАЦЬ** *и* **НАРАСКЛАДА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разложи́ть; развести́; *см.* **раскла́дваць.**

**НАРАСКЛЕ́ЙВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) раскле́ить; *см.* **раскле́йваць.**

**НАРАСКО́ЛВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) расколо́ть; *см.* **раско́лваць.**

**НАРАСКРУ́ЧВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) раскрути́ть; рассучи́ть; *см.* **раскру́чваць** 1.

**НАРАСПЕ́Ў** *нареч.* нараспе́в.

**НАРАСПЛО́ДЖВАЦЦА** *сов.* (*во множестве*) расплоди́ться, размно́житься.

**НАРАСПЛО́ДЖВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) расплоди́ть, развести́; *см.* **распло́джваць** 1.

**НАРАСПО́РВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) распоро́ть; *см.* **распо́рваць** 1.

**НАРАССЦІЛА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) разостла́ть; *см.* **рассціла́ць.**

**НАРАССЫПА́ЦЦА** *сов.* (*во множестве*) рассы́паться; просы́паться; *см.* **рассыпа́цца** 1.

**НАРАССЫПА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) рассы́пать; просы́пать; *см.* **рассыпа́ць** 1.

**НА́РАСТ** *м.* наро́ст.

**НАРАСТАВА́ЦЬ** *сов.* натая́ть; **~ва́ла мно́га сне́гу** ната́яло мно́го сне́гу.

**НАРАСТА́ННЕ** *ср.* нараста́ние.

**НАРАСТА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* нараста́ть; (*о наросте — ещё*) образо́вываться; *см.* **нарасці́.**

**НАРАСТО́ЧВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) расточи́ть; *см.* **расто́чваць** 1.

**НАРАСТРАСА́ЦЬ** *и* **НАРАСТРЭ́СВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) растрясти́, раструси́ть, развороши́ть; растеря́ть; *см.* **растраса́ць** 1, 2.

**НАРАСХВА́Т** *нареч.* нарасхва́т.

**НАРАСЦІ́** *сов. в разн. знач.* нарасти́; (*о наросте — ещё*) образова́ться; **~сло́ шмат дрэ́ў** наросло́ мно́го дере́вьев; **~слі́ працэ́нты** наросли́ проце́нты; **на гало́дным парася́ці са́ла не ~сце́** на голо́дном поросёнке са́ло не нарастёт; **на ствале́ наро́с гуз** на стволе́ образова́лся наро́ст.

**НАРАСЦІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* нарасти́ть; **н. кве́так** на-

растíць цветóв; **н. скýру** нарастíть кóжу; **н. працэ́нты** нарастíть процéнты.

**НА́РАСЦЬ** *ж.* нарóст *м.*

**НАРАСЦЯРУ́ШВАЦЦА** *сов.* (*во множестве*) раструсúться, рассы́паться.

**НАРАСЦЯРУ́ШВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) раструсúть, рассы́пать.

**НАРАЎЛЯ́НСКІ РАЁН** Наровля́нский райóн.

**НА́РАЎНІ** *нареч.* (*одинаково*) наравнé; **жанчы́ны працавáлі н. з мужчы́намі** жéнщины рабóтали наравнé с мужчи́нами.

**НАРАЎЦІ́СЯ** *сов. разг.* нареве́ться.

**НАРАЧО́НАЯ** *сущ. уст.* наречённая.

**НАРАЧО́НЫ** *сущ. уст.* наречённый.

**НАРАШЧЫНЯ́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) растворúть; натворúть; *см.* **рашчыня́ць.**

**НАРАШЧЭ́ННЕ** *ср.* наращéние; *см.* **нарасці́ць.**

**НА́РВА** *ж. г.* Нáрва.

**НАРВА́НЫ 1.** нáрванный; **2.** нáрванный; **3.** натереблённый, надёрганный; **4.** *разг.* нáгнанный; 1—4 *см.* **нарвáць** I.

**НАРВА́ЦЦА** *сов. разг.* нарвáться; **~вáўся на засáду** нарвáлся на засáду; **н. на непрые́мнасць** нарвáться на неприя́тность.

**НАРВА́ЦЬ** I *сов.* **1.** (*сорвать*) нарвáть; **н. квéтак** нарвáть цветóв; **2.** (*разорвать*) нарвáть; **н. ні́так** нарвáть ни́ток; **н. папéры** нарвáть бумáги; **3.** (*льна, конопли*) натеребúть, надёргать; **4.** *разг.* (*о ветре*) нагнáть; **вéцер ~вáў дажджý** вéтер нагнáл дождь.

**НАРВА́ЦЬ** II *сов.* (*нагноиться*) нарвáть; **пáлец ~вáў** пáлец нарвáл.

**НАРВА́ЦЬ** III *сов. разг.* (*напачкать блевотиной*) наблевáть.

**НАРВЕ́ГІЯ** *ж.* Норвéгия.

**НАРВЕ́ЖАЦ, -жца** *м.* норвéжец.

**НАРВЕ́ЖКА** *ж.* норвéжка.

**НАРВЕ́ЖСКІ** норвéжский.

**НАРВЕ́ЖЦЫ, -цаў** норвéжцы.

**НА́РВІК** *м. г.* Нáрвик.

**НА́РВСКІ ВАДАСПА́Д** Нáрвский водопáд.

**НАРД,** *род.* **нáрду** *м. бот.* нард.

**НА́РДАВЫ** нáрдовый.

**НАРЗА́Н, -ну** *м.* нарзáн.

**НАРЗА́ННЫ** нарзáнный.

**НАРКАМА́Н** *м.* наркомáн.

**НАРКАМА́НІЯ** *ж. мед.* наркомáния.

**НАРКАМА́НКА** *ж.* наркомáнка.

**НАРКАМАСВЕ́ТЫ** *м. ист.* (**нарóдны камісарыя́т асвéты**) наркомпрóс (нарóдный комиссариáт просвещéния).

**НАРКАМА́Т** *м. ист.* (**нарóдны камісарыя́т**) наркомáт (нарóдный комиссариáт).

**НАРКАМЗЕ́М** *м. ист.* (**нарóдны камісарыя́т земляробства**) наркомзéм (нарóдный комиссариáт земледе́лия).

**НАРКАТЫЗАВА́НЫ** *мед.* наркотизи́рованный.

**НАРКАТЫЗАВА́ЦЦА** *мед.* **1.** *сов. и несов.* наркотизи́роваться; **2.** *несов. страд.* наркотизи́роваться.

**НАРКАТЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов. мед.* наркотизи́ровать.

**НАРКАТЫЗА́ТАР** *м. мед.* наркотизáтор.

**НАРКАТЫЗА́ЦЫЯ** *ж. мед.* наркотизáция.

**НАРКАТЫ́ЧНЫ** *в разн. знач.* наркоти́ческий.

**НАРКО́З, -зу** *м. мед.* наркóз.

**НАРКО́М** *м. ист.* (**нарóдны камісáр**) наркóм (нарóдный комиссáр).

**НАРКО́ТЫК, -ку** *м. в разн. знач.* наркóтик.

**НАРКО́ТЫКА** *собир. ж. мед.* наркóтика.

**НАРМАВА́НЫ** *см.* **нарміравáны.**

**НАРМАВА́ЦЬ** *несов. см.* **нарміравáць.**

**НАРМАЛІЗАВА́НЫ** нормализóванный.

**НАРМАЛІЗАВА́ЦЦА 1.** *сов. и несов.* нормализи́роваться, нормализовáться; **2.** *несов. страд.* нормализи́роваться, нормализовáться.

**НАРМАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* нормализи́ровать, нормализовáть.

**НАРМАЛІЗА́ЦЫЯ** *ж.* нормализáция.

**НАРМА́ЛЬ** *ж. мат., тех.* нормáль.

**НАРМА́ЛЬНА** *нареч.* нормáльно.

**НАРМА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нормáльность.

**НАРМА́ЛЬНЫ** нормáльный.

**НАРМА́НДЗЕЦ, -дца** *м.* нормáндец.

**НАРМА́НДКА** *ж.* нормáндка.

**НАРМА́НДСКІЯ АСТРАВЫ** Нормáндские островá.

**НАРМА́НДЦЫ, -дцаў** нормáндцы.

**НАРМА́НДЫЯ** *ж.* Нормáндия.

**НАРМА́НСКІ** *ист.* нормáнский.

**НАРМА́НЫ, -наў** *ист.* нормáнны.

**НАРМАТЫВІ́ЗМ, -му** *м.* нормативи́зм.

**НАРМАТЫ́Ў, -ты́ва** *м.* нормати́в.

**НАРМАТЫ́ЎНЫ** нормати́вный.

**НАРМІРАВА́ННЕ** *ср.* нормировáние, нормирóвка *ж.*

**НАРМІРАВА́НЫ** нормирóванный.

**НАРМІРАВА́ЦЦА** *несов. страд.* нормировáться.

**НАРМІРАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* нормировáть.

**НАРМІРО́ВАЧНЫ** нормирóвочный.

**НАРМІРО́ЎКА** *ж.* нормирóвка.

**НАРМІРО́ЎШЧЫК** *м.* нормирóвщик.

**НАРМІРО́ЎШЧЫЦА** *ж.* нормирóвщица.

**НАРО́БЛЕНЫ 1.** *в разн. знач.* наде́ланный; **2.** наде́ланный, достáвленный, причинённый; **3.** насóренный, напáчканный; **4.** навя́занный; 1—4 *см.* **нарабі́ць.**

**НАРО́Г** *м.* ле́мéх, сошни́к.

**НАРО́Д,** *род.* **нарóду** *и* **нарóда** *м. в разн. знач.* нарóд; **працóўны н.** трудовóй нарóд; **савéцкі н.** совéтский нарóд; **дрýжба ~даў** дрýжба нарóдов; **шмат ~ду** мнóго нарóду.

**НАРОДАНАСЕ́ЛЬНІЦТВА** *ср.* народонаселéние.

**НАРОДАЎЛА́ДДЗЕ** *ср.* народовлáстие.

**НАРОДАЎЛА́ДСТВА** *ср. см.* **народаўлáддзе.**

**НАРО́ДЖАНЫ** рождённый; *см.* **нарадзі́ць.**

**НАРО́ДНА-ВЫЗВАЛЕ́НЧЫ** нарóдно-освободи́тельный.

**НАРОДНАГАСПАДА́РЧЫ** народнохозя́йственный.

**НАРО́ДНА-ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ** нарóдно-демократи́ческий.

**НАРО́ДНА-ПАЭТЫ́ЧНЫ** нарóдно-поэти́ческий.

**НАРО́ДНА-РЭВАЛЮЦЫ́ЙНЫ** нарóдно-революциóнный.

**НАРО́ДНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* нарóдность; **~ці Ўсхóду** нарóдности Востóка; **н. паэ́зіі** нарóдность поэ́зии.

**НАРО́ДНАЯ РЭСПУ́БЛІКА АЛБА́НІЯ** Нарóдная Респýблика Албáния.

**НАРО́ДНАЯ РЭСПУ́БЛІКА БАЛГА́РЫЯ** Нарóдная Респýблика Болгáрия.

**НАРО́ДНІК** *м. ист.* нарóдник.

**НАРО́ДНІЦА** *ж. ист.* нарóдница.

**НАРО́ДНІЦКІ** *ист.* нарóднический.

**НАРО́ДНІЦТВА** *ср. ист.* нарóдничество.

**НАРО́ДНЫ** *в разн. знач.* нарóдный; **~ныя мáсы** нарóдные мáссы; **~ная гаспадáрка** нарóдное хозя́йство; **~ныя пéсні** нарóдные пéсни; **~ная рэспýбліка** нарóдная респýблика; **н. арты́ст** нарóдный арти́ст; **н. суд** нарóдный суд; **н. фронт** нарóдный фронт; **н. настáўнік** нарóдный учи́тель; **н. камісáр** *ист.* нарóдный комиссáр; **~ная медыцы́на** нарóдная медици́на; **н. універсітэ́т** нарóдный университéт; **~ная будóўля** нарóдная стрóйка.

**НАРО́КАМ** *нареч. разг.* в шýтку, шутя́, нарóчно.

**НАРО́СХРЫСТ** *нареч.* нараспáшку.

**НАРО́ЎЛЯ** *ж. гп.* Нарóвля.

**НАРО́ЎНІ** *нареч. в разн. знач.* наравне́; **н. з да́хам** наравне́ с кры́шей; **н. з і́ншымі** наравне́ с други́ми.

**НАРО́ШЧАНЫ** *в разн. знач.* наращённый; *см.* **нарасці́ць.**

**НАРО́ШЧВАННЕ** *ср.* нараще́ние, нара́щивание; *см.* **наро́шчваць.**

**НАРО́ШЧВАЦЦА** *несов. страд.* нара́щиваться; *см.* **наро́шчваць.**

**НАРО́ШЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* нара́щивать; *см.* **нарасці́ць.**

**НАРСУ́Д, -да́** *м.* нарсу́д.

**НА́РТА** *ж.*, **НА́РТЫ** на́рта, на́рты.

**НАРУБІ́ЦЬ** *сов. горн.* наруби́ть; **н. ву́галю** наруби́ть у́гля.

**НАРУКА́ЎНІКІ,** *ед.* **нарука́ўнік** *м.* нарука́вники.

**НАРУКА́ЎНЫ** нарука́вный.

**НАРУМЯ́НЕНЫ** нарумя́ненный.

**НАРУМЯ́НІЦЦА** *сов.* нарумя́ниться.

**НАРУМЯ́НІЦЬ** *сов.* нарумя́нить.

**НАРУМЯ́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* нарумя́ниваться.

**НАРУМЯ́НЬВАЦЬ** *несов.* нарумя́нивать.

**НАРУ́ЧНІКІ,** *ед.* **нару́чнік** *м.* нару́чники.

**НАРУ́ЧНЫ** нару́чный.

**НА́РУЧЫ** *ед. нет ист.* на́ручи.

**НАРЦЫ́С** *м.* нарци́сс.

**НАРЦЫ́САВЫ** нарци́ссовый.

**НА́РЫ, -раў** *ед. нет* на́ры.

**НАРЫВА́ЦЦА** *несов. разг.* нарыва́ться; *см.* **нарва́цца.**

**НАРЫВА́ЦЬ** I *несов.* **1.** (*срывать*) нарыва́ть; **2.** (*разрывать*) нарыва́ть; **3.** (*лён, коноплю*) теребить, надёргивать, дёргать; **4.** *разг.* (*о ветре*) нагоня́ть; 1—4 *см.* **нарва́ць** I.

**НАРЫВА́ЦЬ** II *несов.* (*нагнаиваться*) нарыва́ть; *см.* **нарва́ць** II.

**НАРЫВА́ЦЬ** III *несов.* (*рылом — о животных*) нарыва́ть.

**НАРЫ́М** *м. г.* Нары́м.

**НАРЫ́МСКІ ХРЫБЕ́Т** Нары́мский хребе́т.

**НАРЫ́Н** *м. г.* Нары́н.

**НАРЫ́НСКІ** нары́нский.

**НА́РЫС** *м.* о́черк.

**НАРЫСАВА́НЫ** *и* **НАРЫСО́ВАНЫ** нарисо́ванный.

**НАРЫСАВА́ЦЬ** *сов.* нарисова́ть.

**НА́РЫСАВЫ** очерко́вый.

**НАРЫСІ́СТ** *м.* очерки́ст.

**НАРЫСІ́СТКА** *ж.* очерки́стка.

**НАРЫСІ́СЦКІ** очерки́стский.

**НАРЫСО́ВАНЫ** *см.* **нарысава́ны.**

**НАРЫ́ТЫ** нары́тый; *см.* **нары́ць.**

**НАРЫ́Ў, -ры́ва** *м.* нары́в.

**НАРЫ́ЎНЫ** нары́вный; **~ная паве́рхня** нары́вная пове́рхность.

**НАРЫЎНЫ́** нарывно́й; **н. пла́стыр** нарывно́й пла́стырь; **н. газ** нарывно́й газ.

**НАРЫХТАВА́НЫ** **1.** загото́вленный, нагото́вленный, запасённый; **2.** снаряжённый; 1, 2 *см.* **нарыхтава́ць.**

**НАРЫХТАВА́ЦЦА** *сов.* собра́ться.

**НАРЫХТАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** загото́вить, нагото́вить, запасти́; **2.** снаряди́ть; **н. у даро́гу** снаряди́ть в доро́гу.

**НАРЫХТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* загота́вливаться, нагота́вливаться, запаса́ться; снаряжа́ться; *см.* **нарыхто́ўваць.**

**НАРЫХТО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** загота́вливать, нагота́вливать, запаса́ть; **2.** снаряжа́ть; 1, 2 *см.* **нарыхтава́ць.**

**НАРЫХТО́ЎКА** *ж.* **1.** (*действие*) загото́вка; **н. хле́ба** загото́вка хле́ба; **2.** *разг.* хлебопоста́вка; **здаць ~ку** сдать хлебопоста́вку.

**НАРЫХТО́ЎЧЫ** заготови́тельный.

**НАРЫХТО́ЎШЧЫК** *м.* заготови́тель, загото́вщик.

**НАРЫХТО́ЎШЧЫЦА** *ж.* заготови́тельница, загото́вщица.

**НАРЫ́ЦЬ** *сов.* (*рылом — о животных*) нары́ть.

**НАРЭ́БЕРНЫ** нарёберный.

**НАРЭ́З, -зу** *м.* **1.** *в разн. знач.* наре́з; **зрабі́ць н. на чым-небудзь** сде́лать наре́з на чём-л.; **н. зямлі́** наре́з земли́; **2.** наре́зка *ж.*

**НАРЭ́ЗАНЫ** **1.** *в разн. знач.* наре́занный; **2.** надре́занный; **3.** назу́бренный; 1—3 *см.* **нарэ́заць.**

**НАРЭ́ЗАЦЦА** *сов.* **1.** (*о зубах*) проре́заться; **2.** *перен. прост.* (*напиться*) наре́заться.

**НАРЭ́ЗАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* наре́зать; **н. хле́ба** наре́зать хле́ба; **н. зямлі́** наре́зать земли́; **н. курэ́й** наре́зать кур; **н. болт** наре́зать болт; **2.** надре́зать; **3.** (*пилу*) назубри́ть.

**НАРЭ́ЗВАННЕ** *ср. см.* **наразáнне.**

**НАРЭ́ЗВАЦЦА** *несов. см.* **наразáцца.**

**НАРЭ́ЗВАЦЬ** *несов. см.* **наразáць.**

**НАРЭ́ЗКА** *ж. в разн. знач.* наре́зка; **н. шру́бы** наре́зка винта́; **н. зямлі́** наре́зка земли́.

**НАРЭ́ШЦЕ** *нареч.* **1.** наконе́ц, в конце́ концо́в; **н. прыйшла́ вясна́** наконе́ц пришла́ весна́; **2.** *в знач. вводн. сл.* наконе́ц; **гэ́та, н., несправядлі́ва** э́то, наконе́ц, несправедли́во.

**НАР'Я́Н-МА́Р** *м. г.* Нарья́н-Ма́р.

**НАР'Я́Н-МА́РСКІ** нарья́н-ма́рский.

**НАС** *мест. в род., вин., предл.* нас; *см.* **мы.**

**НАСАБА́ЧЫЦЦА** *сов. прост. фам.* насоба́читься.

**НАСАВЫ́** *в разн. знач.* носово́й; **~ва́я перагаро́дка** носова́я перегоро́дка; **~вы́я гу́кі** носовы́е зву́ки; **~ва́я па́луба** носова́я па́луба; **~ва́я ху́стачка** носово́й плато́к.

**НАСАГЛО́ТАЧНЫ** носогло́точный.

**НАСАГЛО́ТКА** *ж. анат.* носогло́тка.

**НАСАГЛО́ТКАВЫ** *см.* **насагло́тачны.**

**НАСАДЖА́ЛЬНІК** *м.* насади́тель.

**НАСА́ДЖАНЫ** I **1.** наса́женный; **2.** наса́женный; **3.** *перен.* насаждённый; 1—3 *см.* **насадзі́ць** I 1, 2, 4.

**НАСА́ДЖАНЫ** II наса́женный; *см.* **насадзі́ць** II.

**НАСАДЖА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* насажа́ть; **н. гасце́й за стол** насажа́ть госте́й за стол; **н. дрэ́ў** насажа́ть дере́вьев; **н. пасажы́раў** насажа́ть пассажи́ров; **н. сіняко́ў** насажа́ть синяко́в; **н. кля́ксаў** насажа́ть клякс; **н. пірагоў у печ** насажа́ть пирого́в в печь.

**НАСА́ДЖВАННЕ** *ср.* наса́дка *ж.*; *см.* **наса́джваць** II.

**НАСА́ДЖВАЦЦА** I *несов.* **1.** наса́живаться; **2.** *страд.* наса́живаться; сажа́ться; насажда́ться; *см.* **наса́джваць** I.

**НАСА́ДЖВАЦЦА** II *несов. страд.* наса́живаться; *см.* **наса́джваць** II.

**НАСА́ДЖВАЦЬ** I *несов.* **1.** (*растения, деревья*) наса́живать; **2.** (*помещать*) наса́живать; **3.** (*ставить в горячую печь*) сади́ть, сажа́ть; **4.** *перен.* (*внедрять*) насажда́ть; 1—4 *см.* **насадзі́ць** I.

**НАСА́ДЖВАЦЬ** II *несов.* (*плотно надевать на что-л.*) наса́живать; *см.* **насадзі́ць** II.

**НАСАДЖЭ́ННЕ** *ср.* **1.** *прям., перен.* насажде́ние; *см.* **насадзі́ць** I 1, 4; **2.** (*группа деревьев*) насажде́ние; **зялёныя ~нні** зелёные насажде́ния.

**НАСАДЗІ́ЦЬ** I *сов.* **1.** (*растения, деревья*) насади́ть; **н. фрукто́вых дрэў** насади́ть фрукто́вых дере́вьев; **2.** (*поместить*) насади́ть; **н. людзе́й у ваго́н** насади́ть люде́й в ваго́н; **3.** (*поставить в горячую печь*) насажа́ть; **н. по́ўную печ хле́ба** насажа́ть по́лную печь хлебо́в; **4.** *перен.* (*внедрить*) насади́ть; **н. культу́ру** насади́ть культу́ру.

**НАСАДЗІ́ЦЬ** II *сов.* (*плотно надеть на что-л.*) насади́ть; **н. чарвяка́ на кручо́к** насади́ть червяка́ на крючо́к.

**НАСА́ДКА** *ж. в разн. знач.* наса́дка; (*о приманке — ещё*) нажи́вка; **надзе́ць кані́чную ~ку** наде́ть кони́ческую наса́дку; **н. чыгу́ннай му́фты** наса́дка чугу́нной му́фты; **ры́ба з'е́ла ~ку** ры́ба съе́ла наса́дку.

**НАСАКАТА́ЦЦА** *сов.* **1.** (*о курице*) накуда́хтаться; **2.** (*наболтаться*) натарато́риться.

**НАЎЗВАЛАКА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) встащи́ть, взволо́чь.
**НАЎЗВАЛА́КВАЦЬ** *сов. см.* **наўзвалака́ць.**
**НАЎЗДАГА́Д** *нареч.* науга́д, науда́чу.
**НАЎЗДАГО́Н** *нареч.* вдого́нку.
**НАЎЗДЗІ́Ў** *нареч.* на ди́во.
**НАЎЗДО́ЎЖ** *предлог с род. обл. см.* **уздо́ўж.**
**НАЎЗРЫ́Д: пла́каць н.** пла́кать навзры́д.
**НАЎКО́Л, НАЎКО́ЛА** *нареч., предлог см.* **наво́кал.**
**НАЎКО́ПВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) врыть, вкопа́ть; *см.* **уко́пваць.**
**НАЎКО́С** *нареч., предлог обл. см.* **наўскася́к.**
**НАЎКРУ́Г** *нареч. см.* **наўкруга́.**
**НАЎКРУГА́** *нареч. разг.* вкругову́ю.
**НАЎМЕ́** *нареч.* 1. на уме́, в уме́; **гэ́тага не было́ ў яго́ н.** э́того не́ было у него́ на уме́; 2. (*с отрицанием*) не до (*чего-л.*); **цяпе́р яму́ гэ́та не н.** тепе́рь ему́ не до э́того; ◇ **гало́днай куме́ хлеб н.** голо́дной куме́ хлеб на уме́; **што ў каго́ н., той пра то́е і дзяўбе́** что у кого́ боли́т, тот о том и говори́т.
**НАЎМЕНА́ЛЬНЫ** *филос.* ноумена́льный.
**НАЎМЫ́СЛЯ** *нареч. см.* **наўмы́сна.**
**НАЎМЫ́СНА** *нареч.* умы́шленно, наро́чно, нарочи́то, наме́ренно, преднаме́ренно.
**НАЎМЫ́СНАСЦЬ** *ж.* умы́шленность, нарочи́тость, наме́ренность, преднаме́ренность.
**НАЎМЫ́СНЫ** умы́шленный, нарочи́тый, наро́чный, наме́ренный, преднаме́ренный.
**НАЎПЕ́РАД** *нареч. обл.* снача́ла, пре́жде всего́; **н. трэ́ба падве́зці матэрыя́л** снача́ла (пре́жде всего́) ну́жно подвезти́ материа́л.
**НАЎПРО́СТ** *нареч. разг.* прямико́м.
**НАЎРА́Д** *нареч.* вряд ли, едва́ ли; **н. ці гэ́та яму́ ўда́сца** вряд ли э́то ему́ уда́стся; **ты ду́маеш, ён своечасо́ва прые́дзе? Н.** ты ду́маешь он во́время прие́дет? Вряд ли (Едва́ ли).
**НАЎСКАПЫТА́** *нареч. обл.* вскачь.
**НАЎСКАСЫ́** *нареч., предлог см.* **наўскася́к.**
**НАЎСКАСЯ́К** 1. *нареч.* на́искось, наискосо́к; вкось; **перасячы́ н. по́ле** пересе́чь на́искось (наискосо́к, вкось) по́ле; 2. *нареч.* вкось, на́кось; **прыбі́ць н.** прибить вкось (на́кось); 3. *предлог с род.* на́искось, наискосо́к; вкось; **тэлефо́нная лі́нія ішла́ н. даро́гі** телефо́нная ли́ния шла на́искось (наискосо́к) от доро́ги.
**НАЎСКА́Ч** *нареч.* вскачь.
**НАЎСКІДА́ЦЬ** *сов.* 1. (*во множестве*) взбро́сить, вски́нуть; *см.* **ускіда́ць** 1; 2. *прост.* (*побить*) всы́пать.
**НАЎСКІ́ДВАЦЬ** *сов. см.* **наўскіда́ць** 1.
**НАЎСКО́С** *нареч., предлог см.* **наўскася́к.**
**НАЎСПЛЫВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) всплыть; *см.* **усплыва́ць** 1.
**НАЎСТО́РЧ** *нареч. обл.* торчко́м, торчмя́; **паста́віць н.** поста́вить торчко́м (торчмя́).
**НАЎСЦЯ́ГВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) втащи́ть, встащи́ть; *см.* **усця́гваць** 1.
**НАЎСЦЯ́Ж** 1. *нареч.* (*о запряжке*) цу́гом; 2. *нареч. обл.* вдоль; на всём протяже́нии; 3. *предлог с род. обл.* вдоль, вдоль по (*чему*); **н. даро́гі** вдоль доро́ги, вдоль по доро́ге.
**НАЎТЫКА́ЦЬ** *сов.* наты́кать.
**НАЎТЫ́ЛУС** *м. зоол.* наути́лус.
**НАЎЦЕКАЧА́** *нареч. прост.* наутёк.
**НАЎЦЁКІ** *нареч.* наутёк; **кі́нуцца н.** пусти́ться наутёк.
**НАЎЦЯ́ГВАЦЬ** *сов.* (*во множестве*) втяну́ть; втащи́ть; *см.* **уця́гваць** 1.
**НАЎШЫВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) вшить; вмета́ть; приши́ть; втача́ть; *см.* **ушыва́ць.**
**НАЎЮ́ЧАНЫ** навью́ченный.
**НАЎЮ́ЧВАННЕ** *ср.* навью́чивание.
**НАЎЮ́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* навью́чиваться.
**НАЎЮ́ЧВАЦЬ** *несов.* навью́чивать.
**НАЎЮ́ЧЫЦЦА** *сов.* навью́читься.
**НАЎЮ́ЧЫЦЬ** *сов.* навью́чить.
**НАЎЯЗДЖА́ЦЬ** *сов. разг.* (*во множестве*) въе́хать; *см.* **уязджа́ць** 1.
**НАФАБРЫКАВА́НЫ** нафабрико́ванный.
**НАФАБРЫКАВА́ЦЬ** *сов.* нафабрикова́ть.
**НАФАНТАЗІ́РАВАЦЬ** *сов. разг.* нафантази́ровать.
**НАФАРБАВА́НЫ** накра́шенный; нафа́бренный; *см.* **нафарбава́ць.**
**НАФАРБАВА́ЦЦА** *сов.* накра́ситься.
**НАФАРБАВА́ЦЬ** *сов.* накра́сить; (*фаброй*) нафа́брить.
**НАФАРБО́ЎВАЦЦА** *несов.* 1. накра́шиваться; 2. *страд.* накра́шиваться; фа́бриться; *см.* **нафарбо́ўваць.**
**НАФАРБО́ЎВАЦЬ** *несов.* накра́шивать; (*фаброй*) фа́брить.
**НАФАСТРЫГАВА́НЫ** *порт.* намётанный; *см.* **нафастрыгава́ць.**
**НАФАСТРЫГАВА́ЦЬ** *сов. порт.* намета́ть; **н. швы** намета́ть швы.
**НАФАСТРЫГО́ЎВАЦЬ** *несов. порт.* намётывать; *см.* **нафастрыгава́ць.**
**НА́ФТА** *ж.* нефть.
**НАФТАБА́ЗА** *ж.* нефтеба́за.
**НАФТАВІ́К, -ка́** *м.* 1. (*о человеке*) нефтя́ник; 2. (*двигатель*) нефтя́нка *ж.*
**НАФТАВО́З** *м.* нефтево́з.
**НА́ФТАВЫ** нефтяно́й.
**НАФТАЗДАБЫ́ЧА** *ж.* нефтедобы́ча.
**НАФТАЛІ́Н, -ну** *м.* нафтали́н.
**НАФТАЛІ́НАВЫ** нафтали́нный, нафтали́новый.
**НАФТАНАЛІ́ЎНЫ** нефтеналивно́й.
**НАФТАНО́СНАСЦЬ** *ж. геол.* нефтено́сность.
**НАФТАНО́СНЫ** нефтено́сный.
**НАФТАПЕРАГО́ННЫ** нефтеперего́нный.
**НАФТАПЕРАПРАЦО́ЎКА** *ж.* нефтеперерабо́тка.
**НАФТАПЕРАПРАЦО́ЎЧЫ** нефтеперераба́тывающий.
**НАФТАПО́МПА** *ж.* нефтенасо́с *м.*
**НАФТАПРАВО́Д** *м.* нефтепрово́д.
**НАФТАПРАДУ́КТЫ,** *ед.* **нафтапраду́кт, -ту** *м.* нефтепроду́кты.
**НАФТАПРАМЫСЛО́ВАСЦЬ** *ж.* нефтепромы́шленность.
**НАФТАПРАМЫСЛО́ВЕЦ, -ло́ўца** *м.* нефтепромы́шленник.
**НАФТАПРАМЫСЛО́ВЫ** нефтепромы́шленный.
**НАФТАСІНДЫКА́Т** *м.* нефтесиндика́т.
**НАФТАСХО́ВІШЧА** *ср.* нефтехрани́лище.
**НАФТАШЧЫЛІ́НА** *ж.* нефтескважи́на.
**НАФТО́Л, -лу** *м. хим.* нафто́л.
**НАХА́БНА** *нареч.* наха́льно, на́гло.
**НАХА́БНАСЦЬ** *ж.* наха́льство *ср.*, на́глость.
**НАХА́БНІК** *м.* наха́л, нагле́ц.
**НАХА́БНІЦА** *ж.* наха́лка.
**НАХА́БНІЧАЦЬ** *несов.* наха́льничать.
**НАХА́БНЫ** наха́льный, на́глый.
**НАХА́БСТВА** *ср.* наха́льство, на́глость *ж.*
**НАХАВА́НЫ** напря́танный; *см.* **нахава́ць.**
**НАХАВА́ЦЦА** *сов. разг.* напря́таться.
**НАХАВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве*) напря́тать.
**НАХАДЗІ́ЦЦА** *сов.* находи́ться; наброди́ться.
**НАХАДЗІ́ЦЬ** *сов. разг.* 1. находи́ть; **за ме́сяц ~дзіў тры́ста кіламе́траў** за ме́сяц находи́л три́ста киломе́тров; 2. походи́ть; **у гэ́тых бо́тах до́ўга не нахо́дзіш** в э́тих сапога́х до́лго не похо́дишь.
**НАХАПА́НЫ** *прям., перен.* нахва́танный.
**НАХАПА́ЦЦА** *сов. прям., перен.* нахвата́ться.
**НАХАПА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* нахвата́ть.
**НАХАПІ́ЦЦА** *сов.* 1. наста́ть, наступи́ть (*неожиданно*); **дзень ~пі́ўся неўзаме́тку** день наста́л (наступи́л) незаме́тно;

2. вскочи́ть, появи́ться; **на лбе ~пі́ўся гуз** на лбу вскочи́ла (появи́лась) ши́шка.
**НАХА́РКАЦЬ** *сов. прост.* наха́ркать.
**НАХВА́ЛЕНЫ** нахва́ленный.
**НАХВАЛІ́ЦЦА** *сов.* нахвали́ться, нахва́статься; **ба́цька сы́нам не ~ва́ліцца** оте́ц сы́ном не нахва́лится.
**НАХВАЛІ́ЦЬ** *сов.* нахвали́ть.
**НАХВАЛЯВА́ЦЦА** *сов.* переволнова́ться; перене́рвничать.
**НАХВАСТА́НЫ** нахлёстанный; *см.* **нахваста́ць.**
**НАХВАСТА́ЦЬ** *сов.* нахлеста́ть; **н. спі́ну** нахлеста́ть спи́ну.
**НАХВАТА́НЫ** *см.* **нахапа́ны.**
**НАХВАТА́ЦЦА** *сов. см.* **нахапа́цца.**
**НАХВАТА́ЦЬ** *сов. см.* **нахапа́ць.**
**НАХВА́ТВАЦЬ** *несов. см.* **нахо́пліваць.**
**НАХВО́СНІК** *м.* (*в упряжи*) нахво́стник.
**НАХВО́СТВАЦЬ** *несов.* нахлёстывать; *см.* **нахваста́ць.**
**НАХІ́Л, -лу** *м.* **1.** накло́н; **2.** *перен.* (*расположение*) накло́нность *ж.*, скло́нность *ж.*; призва́ние *ср.*; предрасположе́ние *ср.*; **н. да разумо́вай пра́цы** накло́нность (скло́нность) к у́мственному труду́; **н. да му́зыкі** призва́ние к му́зыке; **н. да якога-не́будзь захво́рвання** предрасположе́ние к како́му-л. заболева́нию; **3.** *чаще мн. перен.* (*свойства характера*) накло́нности; **дрэ́нныя ~лы** дурны́е накло́нности.
**НАХІ́ЛЕНА** *нареч.* накло́нно.
**НАХІ́ЛЕНАСЦЬ** *ж.* **1.** наклонённость; **2.** (*положение*) накло́нность.
**НАХІЛЕ́ННЕ** *ср.* наклоне́ние; накре́нивание; *см.* **нахілі́ць.**
**НАХІ́ЛЕНЫ 1.** *прич.* наклонённый; накренённый; *см.* **нахілі́ць; 2.** *прил.* накло́нный; **~ная пло́скасць** накло́нная пло́скость; ✧ **каці́цца па ~най пло́скасці** кати́ться по накло́нной пло́скости.
**НАХІЛІ́ЦЦА** *сов.* наклони́ться; накрени́ться; **дзяўчы́на ~лі́лася да ба́цькі** де́вушка наклони́лась к отцу́; **дрэ́ва ~лі́лася да са́май зямлі́** де́рево наклони́лось к са́мой земле́; **ка́тэр мо́цна ~лі́ўся** ка́тер си́льно накрени́лся.
**НАХІЛІ́ЦЬ** *сов.* наклони́ть; накрени́ть; **н. галаву́** наклони́ть го́лову; **н. вядро́** наклони́ть ведро́; **ве́цер ~лі́ў ло́дку** ве́тер накрени́л ло́дку.
**НАХІ́ЛЬНАЯ** *сущ. мат.* накло́нная.
**НАХІ́ЛЬНЫ** накло́нный; **~ная пры́зма** *мат.* накло́нная при́зма; **н. пласт** *горн.* накло́нный пласт.
**НАХІЛЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** наклоня́ться, клони́ться; накреня́ться, крени́ться; *см.* **нахілі́цца; 2.** *страд.* наклоня́ться; накреня́ться; *см.* **нахіля́ць.**
**НАХІЛЯ́ЦЬ** *несов.* наклоня́ть, клони́ть; накреня́ть, крени́ть; *см.* **нахілі́ць.**
**НАХІ́МАВЕЦ, -маўца** *м.* нахи́мовец.
**НАХІ́МАЎСКІ** нахи́мовский; ✧ **~кае вучы́лішча** нахи́мовское учи́лище.
**НАХІНА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*одежду*) набра́сывать; **2.** *обл.* наклоня́ть.
**НАХІНУ́ТЫ 1.** набро́шенный; *см.* **нахіну́ць** 1; **2.** *обл.* наклонённый.
**НАХІНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*одежду*) набро́сить; **2.** *обл.* наклони́ть.
**НАХІЧЭВА́НСКАЯ АЎТАНО́МНАЯ САВЕ́ЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫ́ЧНАЯ РЭСПУ́БЛІКА** Нахичева́нская Автоно́мная Сове́тская Социалисти́ческая Респу́блика.
**НАХІЧЭВА́НЬ** *ж. г.* Нахичева́нь.
**НАХЛЕ́БНІК** *м.* нахле́бник, прижива́льщик.
**НАХЛЕ́БНІЦА** *ж.* нахле́бница, прижива́льщица.
**НАХЛЕ́БНІЦКІ** прижива́льческий.
**НАХЛЕ́БНІЦТВА** *ср.* нахле́бничество.
**НАХЛЁБАЦЦА** *сов. разг.* наглота́ться.
**НАХЛУСІ́ЦЦА** *сов. разг.* навра́ться.
**НАХЛУСІ́ЦЬ** *сов.* навра́ть, налга́ть.
**НАХЛУ́ШАНЫ** на́вранный.
**НАХЛЫ́НУЦЬ** *сов.* нахлы́нуть.
**НАХЛЯБТА́ЦЦА** *сов. разг.* налака́ться.
**НАХМА́РВАЦЦА** *несов. безл.* покрыва́ться ту́чами; *см.* **нахма́рыцца.**
**НАХМА́РЫЦЦА** *сов. безл.* покры́ться ту́чами; **~рылася, ці не бу́дзе дажджу́?** не́бо покры́лось ту́чами, не бу́дет ли дождя́?
**НАХМУ́РАНЫ** нахму́ренный, насу́пленный.
**НАХМУ́РВАЦЦА** *несов.* нахму́риваться, насу́пливаться.
**НАХМУ́РВАЦЬ** *несов.* нахму́ривать.
**НАХМУ́РЫЦЦА** *сов.* нахму́риться, насу́питься.
**НАХМУ́РЫЦЬ** *сов.* нахму́рить, насу́пить.
**НАХМЫ́ЛІЦЦА** *сов.* (*о лошади*) прижа́ть у́ши.
**НАХО́ВАНЫ** *см.* **нахава́ны.**
**НАХО́ДЗІЦЬ** *несов. в разн. знач.* находи́ть; *см.* **найсці́** 1.
**НАХО́ПЛІВАЦЬ** *несов.* нахва́тывать.
**НАХРА́ПАМ** *нареч. разг.* нахра́пом.
**НАХРА́ПІСТЫ** *разг.* нахра́пистый.
**НАХУЛІГА́НІЦЬ** *сов.* нахулига́нить.
**НАЦАДЗІ́ЦЦА** *сов.* нацеди́ться.
**НАЦАДЗІ́ЦЬ** *сов.* нацеди́ть.
**НАЦАЛАВА́ЦЦА** *сов.* нацелова́ться.
**НАЦАЛАВА́ЦЬ** *сов.* нацелова́ть.
**НАЦАНІ́ЦЬ** *сов.* нацени́ть.
**НАЦА́ЦКАЦЦА** *сов. разг.* нання́нчиться.
**НА́ЦЕ** *частица разг.* на́те.
**НАЦЕ́ЛЬНІК** *м.* тельня́шка *ж.*
**НАЦЕ́ЛЬНЫ** нате́льный.
**НАЦЕ́ПЛЕНЫ** нато́пленный; *см.* **нацяплі́ць.**
**НАЦЕ́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **нацапля́цца.**
**НАЦЕ́ПЛІВАЦЬ** *несов. см.* **нацяпля́ць.**
**НАЦЕРАБІ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*льна*) натереби́ть, надёргать; **2.** наруби́ть; **н. сукоў** наруби́ть су́чьев; **3.** начи́стить; **н. капу́сты** начи́стить капу́сты.
**НАЦЕРУШЫЦЦА** *сов. разг.* **1.** натруси́ться, насы́паться; **2.** (*о снеге*) напороши́ть.
**НАЦЕРУШЫЦЬ** *сов. разг.* **1.** натруси́ть, насы́пать; **2.** (*о снеге*) напороши́ть.
**НАЦЕ́РЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* натере́ть; (*мелом — ещё*) намели́ть; **н. ску́ру вазелі́нам** натере́ть ко́жу вазели́ном; **н. парке́т** натере́ть парке́т; **н. ма́ку** натере́ть ма́ку; **хаму́т нацёр шы́ю каню́** хому́т натёр ше́ю ло́шади; **2.** (*льна, пеньки*) намя́ть.
**НАЦЕ́РЦІСЯ** *сов. в разн. знач.* натере́ться; **н. ма́ззю** натере́ться ма́зью; **парке́т до́бра нацёрся** парке́т хорошо́ натёрся.
**НАЦЁЧНЫ** натёчный.
**НАЦЕ́ШЫЦЦА** *сов.* **1.** (*кім-чым, з каго-чаго и без доп.*) наслади́ться (*кем-чем и без доп.*), натёшиться (*кем-чем и без доп.*); нара́доваться (*на кого-что, кому-чему и без доп.*); **дзіця́ ~шылася ца́цкай** ребёнок натёшился игру́шкой; **ма́ці не н. з сы́на** мать не нара́дуется на сы́на; **2.** (*насладиться взаимной любовью*) намилова́ться.
**НАЦЕ́ШЫЦЬ** *сов. разг.* натёшить, услади́ть.
**НАЦЁК, -ку** *м.* натёк.
**НАЦЁРТЫ 1.** натёртый; намелённый; **2.** намя́тый; 1, 2 *см.* **наце́рці.**
**НАЦІ́НА** *ж. обл.* **1.** ботва́; **2.** были́нка.
**НАЦІ́НКА** *ж. обл.* были́нка, трости́нка.
**НАЦІ́ННЕ** *собир. ср. обл.* ботва́ *ж.*, сте́бли *мн.* травы́.
**НАЦІРА́ННЕ** *ср.* **1.** (*действие*) натира́ние; *см.* **націра́ць** 1; **2.** *мед.* втира́ние; **прыгатава́ць н.** пригото́вить втира́ние.
**НАЦІРА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* натира́ться; *см.* **наце́рціся; 2.** *страд.* натира́ться; мели́ться; намина́ться; *см.* **націрáць.**
**НАЦІРА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* натира́ть; (*мелом — ещё*) мели́ть; **2.** (*лён, пеньку*) намина́ть; 1, 2 *см.* **наце́рці.**
**НА́ЦІСК, -ку** *м.* **1.** нажи́м, нажима́ние *ср.*, нада́вли-

ванне *ср.*; *см.* **націскáць** 1; **2.** нажи́м, давлéние *ср.*; **зрабíць н. на каго-нéбудзь** оказáть давлéние (нажи́м) на когó-л.; **пад ~кам abстáвін** под давлéнием обстоя́тельств; **3.** (*движение, направленное на кого-что-л.*) нáтиск; **стры́мліваць н. натóўпу** сдéрживать нáтиск толпы́; **4.** нажи́м; **пісáць з ~кам** писáть с нажи́мом; **5.** ударéние *ср.*, нажи́м; **сказáць з ~кам** сказáть с ударéнием (нажи́мом); **6.** *лингв.* ударéние *ср.*; **пастáвіць н.** постáвить ударéние.

**НАЦІСКÁЛЬНАСЦЬ** *ж. лингв.* ударя́емость.

**НАЦІСКÁННЕ** *ср.* **1.** нажи́м *м.*, нажáтие, надáвливание; **2.** натирáние; 1, 2 *см.* **націскáць** 1, 2.

**НАЦІСКÁЦЦА** *несов. страд.* нажимáться, надáвливаться; натирáться; нахлобу́чиваться; *см.* **націскáць.**

**НАЦІСКÁЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* нажимáть, надáвливать; **2.** (*мозоль*) натирáть; **3.** (*шапку*) нахлобу́чивать; 1—3 *см.* **нацíснуць.**

**НАЦІСКНЫ́** **1.** *тех.* нажимнóй; **н. болт** нажимнóй болт; **2.** *лингв.* ударя́емый, удáрный; **н. галóсны** ударя́емый (удáрный) глáсный.

**НАЦÍСНЕНЫ** *см.* **нацíснуты.**

**НАЦÍСНУТЫ** **1.** *в разн. знач.* нажáтый, надáвленный; **2.** натёртый; **3.** нахлобу́ченный; 1—3 *см.* **нацíснуць.**

**НАЦÍСНУЦЦА** *сов.* нати́скаться, наби́ться; **у хáту ~нулася шмат людзéй** в дом нати́скалось (наби́лось) мнóго людéй.

**НАЦÍСНУЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* нажáть, надави́ть; **н. на дзвéры** нажáть (надави́ть) на дверь; **н. на кнóпку** нажáть (надави́ть) на кнóпку; **н. сóку** нажáть (надави́ть) сóку; **н. на каго-нéбудзь** нажáть (надави́ть) на когó-л.; **2.** (*мозоль*) натерéть; **3.** (*шапку*) нахлобу́чить.

**НАЦКАВÁНЫ** *прям., перен.* натрáвленный, наýськанный, напу́щенный; *см.* **нацкавáць.**

**НАЦКАВÁЦЬ** *сов. прям., перен.* натрави́ть, наýськать, напусти́ть; **н. сабáку на каго-нéбудзь** натрави́ть (наýськать, напусти́ть) собáку на когó-л.

**НАЦКÓЎВАННЕ** *ср.* натрáвливание, наýськивание; *см.* **нацкóўваць.**

**НАЦКÓЎВАЦЬ** *несов. прям., перен.* натрáвливать, наýськивать, напускáть; *см.* **нацкавáць.**

**НАЦМÉНШАСЦЬ** *ж.* нацменьшинствó *ср.*

**НАЦМÓКАЦЦА** *сов. разг. фам.* начмóкаться.

**НАЦУКРАВÁНЫ** насáхаренный.

**НАЦУКРАВÁЦЬ** *сов.* насáхарить.

**НАЦУКРÓЎВАЦЦА** *несов. страд.* насáхариваться.

**НАЦУКРÓЎВАЦЬ** *несов.* насáхаривать.

**НÁЦЫ** *нескл.* нáци.

**НАЦЫ́ЗМ, -му** *м.* наци́зм.

**НАЦЫРАВÁНЫ** наштóпанный.

**НАЦЫРАВÁЦЬ** *сов.* наштóпать.

**НАЦЫ́РКАЦЬ** *сов. разг.* (*мелкими струйками*) нали́ть; надои́ть.

**НАЦЫ́СТ** *м.* наци́ст.

**НАЦЫ́СЦКІ** наци́стский.

**НÁЦЫЯ** *ж.* нáция.

**НАЦЫЯНÁЛ-ДЭМАКРÁТ** *м.* национáл-демокрáт.

**НАЦЫЯНÁЛ-ДЭМАКРАТЫ́ЧНЫ** национáл-демократи́ческий.

**НАЦЫЯНАЛІЗАВÁНЫ** национализи́рованный, национализóванный.

**НАЦЫЯНАЛІЗАВÁЦЦА** **1.** *сов. и несов.* национализи́роваться, национализовáться; **2.** *несов. страд.* национализи́роваться, национализовáться.

**НАЦЫЯНАЛІЗАВÁЦЬ** *сов. и несов.* национализи́ровать, национализовáть.

**НАЦЫЯНАЛІЗÁЦЫЯ** *ж.* национализáция.

**НАЦЫЯНАЛÍЗМ, -му** *м.* национали́зм.

**НАЦЫЯНАЛÍСТ** *м.* национали́ст.

**НАЦЫЯНАЛÍСТКА** *ж.* национали́стка.

**НАЦЫЯНАЛІСТЫ́ЧНЫ** националисти́ческий.

**НАЦЫЯНÁЛ-ЛІБЕРÁЛ** *м.* национáл-либерáл.

**НАЦЫЯНÁЛ-САЦЫЯЛÍЗМ** *м.* национáл-социали́зм.

**НАЦЫЯНÁЛ-САЦЫЯЛÍСТ** *м.* национáл-социали́ст.

**НАЦЫЯНÁЛ-САЦЫЯЛÍСЦКІ** национáл-социали́стский.

**НАЦЫЯНÁЛЬНА-ВЫЗВАЛÉНЧЫ** национáльно-освободи́тельный.

**НАЦЫЯНÁЛЬНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* национáльность; **Савéт Нацыянáльнасцей** Совéт Национáльностей; **белару́с па ~ці** белору́с по национáльности; **н. мастáцтва** национáльность искýсства.

**НАЦЫЯНÁЛЬНЫ** *в разн. знач.* национáльный; **н. рух** национáльное движéние; **~ная культу́ра** национáльная культу́ра; **н. гімн** национáльный гимн.

**НАЦЭ́ДЖАНЫ** нацéженный.

**НАЦЭ́ДЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* нацéживаться.

**НАЦЭ́ДЖВАЦЬ** *несов.* нацéживать.

**НАЦЭ́ЛЕНЫ** **1.** нацéленный, намéченный; **2.** *перен.* нацéленный.

**НАЦЭ́ЛІЦЦА** *сов.* **1.** нацéлиться, намéтиться, прицéлиться; **2.** *перен.* нацéлиться.

**НАЦЭ́ЛІЦЬ** *сов.* **1.** нацéлить, намéтить; **2.** *перен.* нацéлить.

**НАЦЭ́ЛЬВАННЕ** *ср.* **1.** нацéливание, прицéливание; **2.** *перен.* нацéливание.

**НАЦЭ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** нацéливаться, мéтиться, прицéливаться; **2.** *перен.* нацéливаться.

**НАЦЭ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* **1.** нацéливать, мéтить; **2.** *перен.* нацéливать.

**НАЦЭ́НЕНЫ** наценённый.

**НАЦЭ́НКА** *ж. в разн. знач.* нацéнка.

**НАЦЭ́НЬВАЦЦА** *несов. страд.* нацéниваться.

**НАЦЭ́НЬВАЦЬ** *несов.* нацéнивать.

**НАЦЮРМÓРТ** *м. жив.* натюрмóрт.

**НАЦЮРМÓРТАВЫ** *жив.* натюрмóртный.

**НАЦЯГÁНЫ** натáсканный.

**НАЦЯГÁЦЦА** *сов. разг.* **1.** находи́ться, натаскáться; **2.** (*устать, таская*) натаскáться.

**НАЦЯГÁЦЬ** *сов. в разн. знач.* натаскáть; **н. галля́** натаскáть хвóросту; **н. за валасы́** натаскáть за вóлосы.

**НАЦЯ́ГВАННЕ** *ср.* **1.** натя́гивание, натяжéние, натя́жка *ж.*; **2.** натя́гивание; **3.** натя́гивание; **4.** натáскивание; **5.** *разг.* натя́гивание; 1—5 *см.* **нацягваць** 1—4, 6.

**НАЦЯ́ГВАЦЦА** *несов.* **1.** (*становиться тугим*) натя́гиваться; **2.** *страд.* натя́гиваться; натáскиваться; *см.* **нацягваць** 1—4, 6.

**НАЦЯ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** натя́гивать; **2.** (*покрываться*) натя́гивать; **3.** (*с трудом надевать, обувать*) натя́гивать; **4.** (*приносить много чего-л.*) натáскивать; **5.** завáриваться; **6.** *разг.* (*делать с натяжкой*) натя́гивать; 1—6 *см.* **нацягну́ць.**

**НАЦЯ́ГНЕНЫ** *см.* **нацягнуты.**

**НАЦЯ́ГНУТА** *нареч. прям., перен.* натя́нуто.

**НАЦЯ́ГНУТАСЦЬ** *ж. прям., перен.* натя́нутость.

**НАЦЯ́ГНУТЫ** **1.** натя́нутый; **2.** натя́нутый; **3.** натя́нутый; **4.** натáщенный; **5.** *разг.* натя́нутый; 1—5 *см.* **нацягну́ць** 1—4, 6; **6.** *перен.* натя́нутый; **~тыя адносíны** натя́нутые отношéния.

**НАЦЯГНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*стать тугим*) натяну́ться; **2.** *разг.* (*прийти во множестве*) найти́.

**НАЦЯГНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** натяну́ть; **н. стру́ны** натяну́ть стру́ны; **2.** (*покрыться*) натяну́ть; **н. на сябé кóўдру** натяну́ть на себя́ одея́ло; **3.** (*с трудом надеть, обуть*) натяну́ть; **н. халáт** натяну́ть халáт; **4.** (*принести много чего-л.*) натащи́ть; **н. галля́** натащи́ть вéток; **5.** завари́ться; **чай ~ну́ў** чай завари́лся; **6.** *разг.* (*сделать с натяжкой*) натяну́ть; **н. ацэ́нку** натяну́ть оцéнку.

**НАЦЯ́ЖКА** *ж.* натя́жка; **н. ў дóвадах** натя́жка в доказáтельствах.

**НАЦЯЖНЫ** натяжно́й; **~ны́я шы́ны** натяжны́е ши́ны.
**НАЦЯЖЭ́ННЕ** *ср.* **1.** натяже́ние, натя́нутость *ж.*; **н. струны́** натяже́ние (натя́нутость) струны́; **2.** *физ.*, *мед.* натяже́ние; **паве́рхневае н.** пове́рхностное натяже́ние; **пе́ршаснае н.** первичное натяже́ние.
**НАЦЯКА́ЦЬ** *несов.* натека́ть.
**НАЦЯМО́ЧКУ** *нареч. разг.* с рассве́том, на рассве́те.
**НАЦЯНЬКІ́** *нареч.* напрями́к.
**НАЦЯПЛІ́ЦЦА** *сов.* (*о помещении*) натопи́ться.
**НАЦЯПЛІ́ЦЬ** *сов.* (*помещение*) натопи́ть.
**НАЦЯПЛЯ́ЦЦА** *и* **НАЦЕ́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр.*, *страд.* ната́пливаться; *см.* **нацяплі́цца, нацяпля́ць.**
**НАЦЯПЛЯ́ЦЬ** *и* **НАЦЕ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* (*помещение*) ната́пливать.
**НАЦЯРПЕ́ЦЦА** *сов.* натерпе́ться, настрада́ться.
**НАЦЯРУ́ШАНЫ** *разг.* натру́шенный, насы́панный.
**НАЦЯРУ́ШВАННЕ** *ср. разг.* натру́ска *ж.*
**НАЦЯРУ́ШВАЦЦА** *несов. возвр.*, *страд. разг.* натру́шиваться, насыпа́ться.
**НАЦЯРУ́ШВАЦЬ** *несов. разг.* натру́шивать, насыпа́ть.
**НАЦЯРЭ́БЛЕНЫ** **1.** натереблённый, надёрганный; **2.** нару́бленный; **3.** начи́щенный; **1—3** *см.* **нацерабі́ць.**
**НАЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** (*лён*) теребить, дёргать; **2.** наруба́ть; **3.** начища́ть; **1—3** *см.* **нацерабі́ць.**
**НАЦЯЧЫ́** *сов.* натéчь.
**НАЧАВА́ЦЬ** *несов.* ночева́ть.
**НАЧАДЗІ́ЦЬ** *сов.* начади́ть.
**НАЧАКА́НЕНЫ** начека́ненный.
**НАЧАКА́НІЦЬ** *сов.* начека́нить.
**НАЧАКА́НЬВАЦЦА** *несов. страд.* начека́ниваться.
**НАЧАКА́НЬВАЦЬ** *несов.* начека́нивать.
**НАЧАКА́ЦЦА** *сов. разг.* нажда́ться.
**НАЧА́ЛЬНІК** *м.* нача́льник.
**НАЧА́ЛЬНІЦА** *ж.* нача́льница.
**НАЧА́ЛЬНІЦКІ** **1.** нача́льствующий; **н. склад а́рміі** нача́льствующий соста́в а́рмии; **2.** нача́льственный, нача́льнический; **н. тон** нача́льственный (нача́льнический) тон.
**НАЧА́ЛЬСТВА** *собир. ср.* нача́льство.
**НАЧА́ЛЬСТВАВАННЕ** *ср.* нача́льствование.
**НАЧА́ЛЬСТВАВАЦЬ** *несов.* нача́льствовать.
**НАЧАПІ́ЦЬ** *сов.* **1.** нацепи́ть; наве́сить; **2.** *разг. неодобр.* (*надеть*) напя́лить, нацепи́ть.
**НАЧАПЛЯ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*во множестве*) прицепи́ться, приста́ть; **2.** (*цепляясь, усесться*) насе́сть.
**НАЧАПЛЯ́ЦЬ** *сов.* наве́шать; нацепи́ть; **~ля́ў малю́нкаў на сце́ны** наве́шал карти́нок на сте́ны.
**НАЧАПУ́РЫЦЦА** *сов. обл.* наряди́ться, принаряди́ться.
**НАЧАРАВА́ЦЬ** *сов.* наколдова́ть.
**НА́ЧАРНА** *нареч.* на́черно, вчерне́.
**НАЧАРНІ́ЦЬ** *сов.* начерни́ть.
**НАЧАРТА́ЛЬНЫ:** **~ная геаме́трыя** начерта́тельная геоме́трия.
**НАЧАРЦІ́ЦЬ** *сов.* начерти́ть.
**НАЧАСА́НЫ** I *и* **НАЧЭ́САНЫ** I начёсанный; *см.* **начаса́ць** I.
**НАЧАСА́НЫ** II *и* **НАЧЭ́САНЫ** II *плотн.* натёсанный.
**НАЧАСА́ЦЬ** I *сов.* (*льна, пеньки и т. п.*) начеса́ть.
**НАЧАСА́ЦЬ** II *сов. плотн.* натеса́ть.
**НАЧА́ТКІ** *ед. нет см.* **пача́ткі.**
**НАЧАЎПЦІ́** *сов. пренебр.* наболта́ть, наговори́ть ерунды́, наплести́.
**НАЧВЭ́РЫЦЬ** *сов. прост.* (*наделать чего-л. предосудительного*) натвори́ть.
**НАЧЛЕ́Г, -гу** *м.* **1.** ночле́г; **спыні́цца на н.** останови́ться на ночле́г; **2.** ночно́е *ср.*; **е́хаць на н.** е́хать в ночно́е.
**НАЧЛЕ́ЖКА** *ж. прост.* ночле́жка.
**НАЧЛЕ́ЖНІК** *м. разг.* ночле́жник.
**НАЧЛЕ́ЖНІЦА** *ж. разг.* ночле́жница.
**НАЧЛЕ́ЖНЫ** ночле́жный.
**НАЧМУЦІ́ЦЬ** *сов. разг.* набаламу́тить.
**НАЧНІ́К, -ка́** *м.* **1.** (*лампочка*) ночни́к; **2.** *разг.* полуно́чник.
**НАЧНІ́ЦА** **1.** *ж. зоол.* ночни́ца; **2.** *м. и ж.* (*тот, кто поздно ложится спать — о мужчине*) полуно́чник; (*о женщине*) полуно́чница; **3.** *ж. обл.* лету́чая мышь.
**НАЧНЫ** *в разн. знач.* ночно́й; **н. час** ночно́е вре́мя; **~на́я саро́чка** ночна́я руба́шка; **н. госць** ночно́й гость; **~на́я трыво́га** ночна́я трево́га; **~на́я зме́на** ночна́я сме́на.
**НАЧО́РНА** *нареч. см.* **на́чарна.**
**НАЧО́С, -су** *м. текст.* начёс.
**НАЧО́ТНІЦТВА** *ср.* начётничество.
**НАЧО́ТЧЫК** *м.* начётчик.
**НАЧО́ТЧЫЦА** *ж.* начётчица.
**НАЧО́ЎКА** *ж.* ночёвка.
**НАЧО́ЎКІ, -чо́вак** *ед. нет* коры́то *ср.* (*для стирки*).
**НАЧСАСТА́Ў, -та́ву** *м.* (**нача́льніцкі саста́ў**) начсоста́в (нача́льствующий соста́в).
**НАЧУ́БІЦЬ** *сов. прост.* натрепа́ть за во́лосы.
**НАЧУ́ХАНЫ** *разг.* начёсанный.
**НАЧУ́ХАЦЦА** *сов. разг.* начеса́ться.
**НАЧУ́ХАЦЬ** *сов. разг.* начеса́ть.
**НАЧУ́ХВАЦЬ** *несов. разг.* начёсывать.
**НАЧХА́ЦЦА** *сов.* начиха́ться.
**НАЧХА́ЦЬ** *сов.* **1.** начиха́ть; **2.** *перен. прост.* (*наплевать*) начиха́ть, начха́ть.
**НАЧЫНЕНЫ** начинённый.
**НАЧЫНІ́ЦЬ** *сов.* начини́ть.
**НАЧЫНКА** *ж.* начи́нка.
**НАЧЫННЕ** *ср.* **1.** принадле́жности *мн.*; прибо́р *м.*; **2.** (*совокупность предметов обихода*) у́тварь *ж.*
**НАЧЫНЯ́ЦЦА** *несов. страд.* начиня́ться.
**НАЧЫНЯ́ЦЬ** *несов.* начиня́ть.
**НАЧЫРКАНЫ** начёрканный.
**НАЧЫРКАЦЬ** *сов.* начерка́ть.
**НА́ЧЫСТА** *нареч.* **1.** на́чисто, на́бело; **перапіса́ць н.** переписа́ть на́чисто (на́бело); **2.** на́чисто, до́чиста; **вы́мыць н.** вы́мыть на́чисто (до́чиста); **3.** *разг.* (*полностью*) на́чисто, до́чиста, подчисту́ю; вчисту́ю; **з'е́лі ўсё н.** съе́ли всё на́чисто (до́чиста, подчисту́ю); **вы́зваліць н.** уво́лить вчисту́ю.
**НАЧЫСТУ́Ю** *нареч. разг.* **1.** начисту́ю, на́чисто; (*окончательно*) вчисту́ю; **2.** (*откровенно*) начистоту́, пря́мо.
**НАЧЫСЦІЦЬ** *сов. в разн. знач.* начи́стить; **н. бо́ты** начи́стить сапоги́; **н. ры́бы** начи́стить ры́бы.
**НАЧЫТАНАСЦЬ** *ж.* начи́танность.
**НАЧЫТАНЫ** *прич.*, *прил.* начи́танный.
**НАЧЫТА́ЦЦА** *сов.* начита́ться.
**НАЧЫТА́ЦЬ** *сов.* начита́ть.
**НАЧЫТВАЦЦА** *несов.* начи́тываться.
**НАЧЫТВАЦЬ** *несов.* начи́тывать.
**НАЧЫШЧАНЫ** *в разн. знач.* начи́щенный; *см.* **начы́сціць.**
**НАЧЫШЧА́ЦЦА** *несов. страд.* начища́ться; *см.* **начышча́ць.**
**НАЧЫШЧА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* начища́ть; *см.* **начы́сціць.**
**НАЧЭ́ПЛЕНЫ** **1.** нацéпленный; наве́шанный; **2.** *разг. неодобр.* напя́ленный, нацéпленный; *см.* **начапі́ць** 2.
**НАЧЭ́ПЛІВАННЕ** *ср.* **1.** нацéпливание; наве́шивание, наве́ска *ж.*; **2.** *разг. неодобр.* напя́ливание, нацéпливание; *см.* **начэ́пліваць** 2.
**НАЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *несов. страд.* нацепля́ться; наве́шиваться; напя́ливаться; *см.* **начэ́пліваць.**
**НАЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** нацепля́ть; наве́шивать; **2.** *разг. неодобр.* (*надевать*) напя́ливать, нацепля́ть.
**НАЧЭ́РНЕНЫ** начернённый.
**НАЧЭ́РПАНЫ** наче́рпанный.
**НАЧЭ́РПАЦЦА** *сов.* **1.** (*почерпать вдоволь*) наче́рпаться; **2.** (*набраться при черпании*) зачерпну́ться.

**НАЧЭ́РПАЦЬ** *сов.* начéрпать.
**НАЧЭ́РПВАЦЦА** *несов.* 1. (*черпать вдоволь*) начéрпываться; 2. (*набираться при черпании*) зачéрпываться; 3. *страд.* начéрпываться.
**НАЧЭ́РПВАЦЬ** *несов.* начéрпывать.
**НАЧЭ́РЧАНЫ** начéрченный.
**НАЧЭ́РЧВАЦЦА** *несов. страд.* начéрчиваться.
**НАЧЭ́РЧВАЦЬ** *несов.* начéрчивать.
**НАЧЭ́САНЫ** I *см.* **начаса́ны** I.
**НАЧЭ́САНЫ** II *см.* **начаса́ны** II.
**НАЧЭ́СВАЦЦА** I *несов. страд.* начёсываться; *см.* **начэ́сваць** I.
**НАЧЭ́СВАЦЦА** II *несов. страд. плотн.* натёсываться.
**НАЧЭ́СВАЦЬ** I *несов.* (*льна, пеньки и т. п.*) начёсывать.
**НАЧЭ́СВАЦЬ** II *несов. плотн.* натёсывать.
**НАШ** 1. *ж. и ср.* **на́ша** *мест. притяж. м.* наш; **н. край** наш край; **на́ша магу́тная радзі́ма** на́ша могу́чая ро́дина; **на́шы пла́ны** на́ши пла́ны; 2. *в знач. сущ. разг.* (*начальник, хозяин*) наш; ✧ **і на́шым і ва́шым** *неодобр.* и на́шим и ва́шим; **знай на́шых!** *шутл.* знай на́ших!
**НА́ША** 1. *мест. притяж. ж. и ср.* на́ша, на́ше; *см.* **наш** 1; 2. *только ед. в знач. сущ. ср.* на́ше; **адда́й н.** отда́й на́ше; ✧ **н. ўзяло́!** на́ша взяла́!
**НАШАПТА́НЫ** нашёптанный.
**НАШАПТА́ЦЦА** *сов.* нашепта́ться.
**НАШАПТА́ЦЬ** *сов.* нашепта́ть.
**НАШАРАВА́НЫ** натёртый; начи́щенный; *см.* **нашарава́ць.**
**НАШАРАВА́ЦЦА** *сов.* натере́ться.
**НАШАРАВА́ЦЬ** *сов.* натере́ть; начи́стить; **н. гу́зікі ме́лам** натере́ть пу́говицы ме́лом; **н. самава́р** начи́стить самова́р.
**НАШАРМАКА́** *нареч. прост. груб.* нашармака́.
**НАШАРО́ЎВАННЕ** *ср.* натира́ние; *см.* **нашаро́ўваць.**
**НАШАРО́ЎВАЦЦА** *несов.* 1. натира́ться; 2. *страд.* натира́ться; начища́ться; *см.* **нашаро́ўваць.**
**НАШАРО́ЎВАЦЬ** *несов.* натира́ть; начища́ть; *см.* **нашарава́ць.**
**НАША́СТАЦЬ** *сов. разг.* наре́зать; накромса́ть.
**НАШАТКАВА́НЫ** нашинко́ванный.
**НАШАТКАВА́ЦЬ** *сов.* нашинкова́ть.
**НАШАТЫ́Р, -ру́** *м. в разн. знач.* нашаты́рь.
**НАШАТЫ́РНЫ** нашаты́рный; **н. спірт** нашаты́рный спирт.
**НАШВЭ́НДАЦЦА** *сов. разг.* нашля́ться, нашата́ться.
**НАШКЛЁНЫ** застеклённый.
**НАШКЛІ́ЦЬ** *сов.* застекли́ть, вста́вить стёкла.
**НАШКО́ДЗІЦЬ** *сов.* навреди́ть; напо́ртить; **н. спра́ве** навреди́ть де́лу.
**НАШЛЁПАЦЬ** *сов. разг.* нашлёпать.
**НАШЛЫНДАЦЦА** *сов. прост.* навала́ндаться, нашля́ться.
**НАШМАРАВА́НЫ** *прост.* натёртый; *см.* **нашмарава́ць.**
**НАШМАРАВА́ЦЬ** *сов. прост.* (*втирая, смазать*) натере́ть.
**НАШМА́Т** *нареч.* намно́го.
**НАШМО́РГАНЫ** надёрганный; *см.* **нашмо́ргаць.**
**НАШМО́РГАЦЬ** *сов.* надёргать; **н. ні́так з ткані́ны** надёргать ни́ток из тка́ни.
**НАШМО́РГВАЦЬ** *несов.* надёргивать; *см.* **нашмо́ргаць.**
**НАШПІГАВА́НЫ** 1. нашпиго́ванный, начинённый; 2. *перен.* нашпиго́ванный, напи́чканный; 3. *перен. разг.* настро́енный; 1—3 *см.* **нашпігава́ць.**
**НАШПІГАВА́ЦЬ** *сов.* 1. нашпигова́ть, начини́ть; **н. гуся́** нашпигова́ть (начини́ть) гу́ся; 2. *перен.* нашпигова́ть, напи́чкать; **н. ро́знымі пара́дамі** нашпигова́ть (напи́чкать) ра́зными сове́тами; 3. *перен. разг.* настро́ить; **н. су́праць тава́рышаў** настро́ить про́тив това́рищей.
**НАШПІГО́ЎВАННЕ** *ср.* 1. нашпиго́вывание, начи́нка *ж.*; 2. *перен.* нашпиго́вывание, пи́чканье; 3. *перен. разг.* настра́ивание; 1—3 *см.* **нашпіго́ўваць.**
**НАШПІГО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* нашпиго́вываться; начиня́ться; пи́чкаться; настра́иваться; *см.* **нашпіго́ўваць.**
**НАШПІГО́ЎВАЦЬ** *несов.* 1. нашпиго́вывать, начиня́ть; 2. *перен.* нашпиго́вывать, пи́чкать; 3. *перен. разг.* настра́ивать; 1—3 *см.* **нашпігава́ць.**
**НАШПУРЛЯ́НЫ** *разг.* нашвы́рянный.
**НАШПУРЛЯ́ЦЬ** *сов. разг.* нашвыря́ть.
**НАШРУБАВА́НЫ** нави́нченный.
**НАШРУБАВА́ЦЦА** *сов.* навинти́ться.
**НАШРУБАВА́ЦЬ** *сов.* навинти́ть.
**НАШРУБО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* нави́нчиваться.
**НАШРУБО́ЎВАЦЬ** *несов.* нави́нчивать.
**НАШТАБНАВА́НЫ** *сапож., порт.* настро́ченный, проши́тый.
**НАШТАБНАВА́ЦЬ** *сов. сапож., порт.* настрочи́ть, прошить.
**НАШТАПАВА́НЫ** *см.* **наштабнава́ны.**
**НАШТАПАВА́ЦЬ** *сов. см.* **наштабнава́ць.**
**НАШТО́** *нареч.* заче́м; (*к чему — ещё*) чего́; (*для чего — ещё*) куда́; **н. мне гавары́ць няпра́ўду?** заче́м (чего́) мне говори́ть непра́вду?; **н. яму́ ўсё гэ́та патрэ́бна?** заче́м ему́ всё э́то ну́жно?; **н. табе́ сто́лькі папе́ры?** заче́м (куда́) тебе́ сто́лько бума́ги?
**НАШТО́СЬЦІ** *нареч.* заче́м-то.
**НАШТУ́РХАЦЦА** *сов. разг.* натолка́ться.
**НАШТУ́РХАЦЬ** *сов. разг.* натолка́ть.
**НАШТУ́РХВАЦЬ** *и* **НАШТУРХО́ЎВАЦЬ** *несов. прям., перен.* ната́лкивать; *см.* **наштурхну́ць.**
**НАШТУРХНУ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* натолкну́ть; **н. на стол** натолкну́ть на стол; **н. на ду́мку** натолкну́ть на мысль.
**НАШТУРХО́ЎВАЦЬ** *несов. см.* **нашту́рхваць.**
**НАШУКА́ЦЦА** *сов. разг.* наиска́ться.
**НАШУМЕ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* нашуме́ть.
**НАШУШУ́КАЦЦА** *сов.* нашушу́каться.
**НА́ШЧА** *нареч. разг.* натоща́к.
**НАШЧА́ДАК, -дка** *м.* 1. пото́мок, о́тпрыск; 2. *только мн.* пото́мки, пото́мство *ср.*
**НАШЧАПА́НЫ** наще́панный.
**НАШЧАПА́ЦЬ** *сов.* нащепа́ть.
**НАШЧАПІ́ЦЬ** *сов. обл.* (*слегка расщепить*) надколо́ть.
**НАШЧАРБІ́ЦЬ** *сов. разг.* слегка́ вы́щербить, зазубри́ть.
**НАШЧЫПАНЫ** *в разн. знач.* нащи́панный; *см.* **нашчыпа́ць.**
**НАШЧЫПА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* нащипа́ть; **н. шча́ўя** нащипа́ть щавеля́; **н. ву́шы** нащипа́ть у́ши.
**НАШЧЭ́НТ** *нареч.* соверше́нно; вдре́безги; до основа́ния; дотла́, до́чиста; вконе́ц; в пух и прах.
**НАШЧЭ́ПЛІВАЦЦА** *несов. страд. обл.* надка́лываться; *см.* **нашчэ́пліваць.**
**НАШЧЭ́ПЛІВАЦЬ** *несов. обл.* (*слегка расщеплять*) надка́лывать.
**НАШЧЭ́РБЛЕНЫ** *разг.* слегка́ вы́щербленный, зазу́бренный.
**НА́ШЫ** 1. *мест. притяж. мн.* на́ши; *см.* **наш** 1; 2. *в знач. сущ.* (*родные, близкие*) на́ши.
**НАШЫВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* нашива́ть; *см.* **нашы́ць.**
**НАШЫЙНІК** *м. обл.* оше́йник.
**НАШЫЛЬНІК** *м.* (*ремень в упряжи*) наши́льник.
**НАШЫТЫ** *в разн. знач.* наши́тый; *см.* **нашы́ць.**
**НАШЫ́ЎКА** *ж.* наши́вка.
**НАШЫ́ЎНЫ** нашивно́й.
**НАШЫЦЦА** *сов.* 1. (*вдосталь*) наши́ться; 2. *прост.* наби́ться; **нашы́лася по́ўная ку́хня дзяце́й** наби́лась по́лная ку́хня детей.

**НАШЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* наши́ть; **н. фальбо́ну** наши́ть обо́рку; **н. суке́нак** наши́ть пла́тьев.
**НАШЭ́ННЕ** *ср.* но́ска *ж.*, ноше́ние.
**НАШЭ́ПТВАННЕ** *ср.* нашёптывание.
**НАШЭ́ПТВАЦЦА** *несов. страд.* нашёптываться.
**НАШЭ́ПТВАЦЬ** *несов.* нашёптывать.
**НАШЭ́СЦЕ** *ср.* наше́ствие.
**НАЭЛЕКТРЫЗАВА́НЫ** *прям., перен.* наэлектризо́ванный; *см.* **наэлектрызава́ць.**
**НАЭЛЕКТРЫЗАВА́ЦЦА** *сов. прям., перен.* наэлектризова́ться; **шкляна́я па́лачка ~ва́лася** стекля́нная па́лочка наэлектризова́лась; **гледачы́ ~ва́ліся** зри́тели наэлектризова́лись.
**НАЭЛЕКТРЫЗАВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* наэлектризова́ть; **н. дрот** наэлектризова́ть про́волоку; **н. гледачо́ў** наэлектризова́ть зри́телей.
**НАЭЛЕКТРЫЗО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* наэлектризо́вываться; *см.* **наэлектрызава́цца, наэлектрызо́ўваць.**
**НАЭЛЕКТРЫЗО́ЎВАЦЬ** *несов. прям., перен.* наэлектризо́вывать; *см.* **наэлектрызава́ць.**
**НАЯ́ВЕ** *нареч. см.* **наяву́.**
**НАЯВУ́** *нареч.* наяву́.
**НАЯ́ДА** I *ж. миф.* ная́да.
**НАЯ́ДА** II *ж. зоол., бот.* ная́да.
**НАЯДАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* ная́довые.
**НАЯДА́ЦЦА** *несов.* наеда́ться; *см.* **нае́сціся.**
**НАЯДА́ЦЬ** *несов. разг.* наеда́ть.
**НАЯЗДЖА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* наезжа́ть; **2.** (*изменять положение*) надвига́ться, сполза́ть; 1, 2 *см.* **нае́хаць.**
**НАЯ́РВАЦЬ** *несов. прост.* надя́ривать.
**НАЯ́ЎНАСЦЬ** *ж.* **1.** нали́чие *ср.*, нали́чность; **быць у ~ці** быть в нали́чии; **2.** (*о фактическом количестве — о деньгах и т. п.*) нали́чность; **н. тава́раў** нали́чность това́ров; **ка́савая н.** ка́ссовая нали́чность.
**НАЯ́ЎНЫ** нали́чный; име́ющийся; **н. разлі́к** нали́чный расчёт; **аперы́раваць ~нымі фа́ктамі** опери́ровать име́ющимися фа́ктами; **~ныя гро́шы** нали́чные де́ньги.
**НЕ 1.** *отриц. частица в разн. знач.* не; **ву́чань не разуме́ў тлумачэ́ння наста́ўніка** учени́к не понима́л объясне́ния учи́теля; **мне яго́ больш не ўба́чыць** мне его́ бо́льше не уви́деть; **спеў не спеў, плач не плач, а яка́ясьці ну́дная мело́дыя** пе́ние не пе́ние, плач не плач, а кака́я-то ну́дная мело́дия; **не дрэ́нна было́ б схадзі́ць у тэа́тр** не пло́хо бы́ло бы сходи́ть в теа́тр; **не без та́ленту** не без тала́нта; **не́льга не напіса́ць** нельзя́ не написа́ть; **ён паслізну́ўся і ледзь не паваліўся** он поскользну́лся и чуть не упа́л; **я не магу́ не сказа́ць пра́ўды** я не могу́ не сказа́ть пра́вды; **хаця́ б чаго́ не зда́рылася** хоть бы чего́ не случи́лось; **2.** *отриц. частица* нет; **вы не ве́даеце, куды́ ён пайшо́ў?— Не** вы не зна́ете, куда́ он пошёл?— Нет; **гэ́та пра́ўда ці не?** э́то пра́вда или нет?; **захо́дзь у ха́ту. — Не, не трэ́ба** заходи́ в дом.— Нет, не ну́жно; **3.** *усил. частица* нет; **не, ты паглядзі, яка́я цудо́ўная кве́тка** нет, ты погляди́, како́й чуде́сный цвето́к.
**НЕАБАВЯЗКО́ВА** *нареч.* необяза́тельно.
**НЕАБАВЯЗКО́ВАСЦЬ** *ж.* необяза́тельность.
**НЕАБАВЯЗКО́ВЫ** необяза́тельный.
**НЕАБАРАЧА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* необрати́мость.
**НЕАБАРАЧА́ЛЬНЫ** необрати́мый.
**НЕАБАРО́НЕНЫ** незащищённый.
**НЕАБА́ЧЛІВА** *нареч. разг.* **1.** неосмотри́тельно; **2.** нечу́тко; *см.* **неаба́члівы** 2.
**НЕАБА́ЧЛІВАСЦЬ** *ж. разг.* **1.** неосмотри́тельность; **2.** нечу́ткость; *см.* **неаба́члівы** 2.
**НЕАБА́ЧЛІВЫ** *разг.* **1.** неосмотри́тельный; **2.** (*несочувствующий*) нечу́ткий.
**НЕАБВЕ́РЖНА** *нареч. см.* **неабвярга́льна.**
**НЕАБВЕ́РЖНАСЦЬ** *ж. см.* **неабвярга́льнасць.**
**НЕАБВЕ́РЖНЫ** *см.* **неабвярга́льны.**
**НЕАБВЯРГА́ЛЬНА** *и* **НЕАБВЕ́РЖНА** *нареч.* неопровержи́мо; *см.* **неабвярга́льны.**
**НЕАБВЯРГА́ЛЬНАСЦЬ** *и* **НЕАБВЕ́РЖНАСЦЬ** *ж.* неопровержи́мость; *см.* **неабвярга́льны.**
**НЕАБВЯРГА́ЛЬНЫ** *и* **НЕАБВЕ́РЖНЫ** неопровержи́мый; **н. факт** неопровержи́мый факт; **н. до́вад** неопровержи́мый до́вод.
**НЕАБГРУНТАВА́НА** *нареч.* необосно́ванно, огу́льно.
**НЕАБГРУНТАВА́НАСЦЬ** *ж.* необосно́ванность, огу́льность.
**НЕАБГРУНТАВА́НЫ** необосно́ванный, огу́льный.
**НЕАБДУ́МАНА** *нареч.* необду́манно.
**НЕАБДУ́МАНАСЦЬ** *ж.* необду́манность.
**НЕАБДУ́МАНЫ** необду́манный.
**НЕАБДЫ́МНА** *нареч.* необъя́тно, необозри́мо, неогля́дно.
**НЕАБДЫ́МНАСЦЬ** *ж.* необъя́тность, необозри́мость, неогля́дность.
**НЕАБДЫ́МНЫ** необъя́тный, необозри́мый, неогля́дный.
**НЕАБ'Е́ЗДЖАНЫ 1.** (*о лошади*) необъе́зженный; **2.** (*о дороге*) нее́зженный, ненае́зженный.
**НЕАБ'ЕКТЫ́ЎНА** *нареч.* необъекти́вно, пристра́стно.
**НЕАБ'ЕКТЫ́ЎНАСЦЬ** *ж.* необъекти́вность, пристра́стность, пристра́стие *ср.*
**НЕАБ'ЕКТЫ́ЎНЫ** необъекти́вный, пристра́стный.
**НЕАБЖЫ́ТЫ** необжито́й, необжи́тый.
**НЕАБКЛАДНЫ** необлага́емый; **~ны́я дахо́ды** необлага́емые дохо́ды.
**НЕАБМЕЖАВА́НА** *нареч.* неограни́ченно.
**НЕАБМЕЖАВА́НАСЦЬ** *ж.* неограни́ченность.
**НЕАБМЕЖАВА́НЫ** *и* **НЕАБМЯЖО́ВАНЫ** неограни́ченный.
**НЕАБРО́БЛЕНЫ** необрабо́танный; (*о земле — ещё*) невозде́ланный.
**НЕАБСТАЛЯВА́НЫ 1.** необору́дованный; **2.** необста́вленный.
**НЕАБСЯ́ЖНА** *нареч.* необъя́тно; необозри́мо.
**НЕАБСЯ́ЖНАСЦЬ** *ж.* необъя́тность; необозри́мость.
**НЕАБСЯ́ЖНЫ** необъя́тный; необозри́мый.
**НЕАБХО́ДНА** *нареч.* необходи́мо.
**НЕАБХО́ДНАСЦЬ** *ж.* необходи́мость.
**НЕАБХО́ДНЫ** необходи́мый.
**НЕАБЫЯ́КАВЫ** небезразли́чный, неравноду́шный.
**НЕАБЫЯКІ́** нешу́точный; (*отличный*) изря́дный.
**НЕАВІТАЛІ́ЗМ, -му** *м. биол.* неовитали́зм.
**НЕАГЕГЕЛЬЯ́НСТВА** *ср. филос.* неогегелья́нство.
**НЕАГЛЯ́ДНА** *нареч.* необозри́мо.
**НЕАГЛЯ́ДНАСЦЬ** *ж.* необозри́мость.
**НЕАГЛЯ́ДНЫ** необозри́мый.
**НЕАДАБРЭ́ННЕ** *ср.* неодобре́ние.
**НЕАДАРВІНІ́ЗМ, -му** *м. биол.* неодарвини́зм.
**НЕАДВО́ЛЬНА** *нареч.* непроизво́льно; нево́льно.
**НЕАДВО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* непроизво́льность; нево́льность.
**НЕАДВО́ЛЬНЫ** непроизво́льный; нево́льный.
**НЕАДДЗЕ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неотдели́мость.
**НЕАДДЗЕ́ЛЬНЫ** неотдели́мый.
**НЕАД'Е́МНА** *нареч.* неотъе́млемо.
**НЕАД'Е́МНАСЦЬ** *ж.* неотъе́млемость.
**НЕАД'Е́МНЫ** неотъе́млемый.
**НЕАДКЛА́ДНА** *нареч.* **1.** неотло́жно; **2.** неме́дленно, без промедле́ния; 1, 2 *см.* **неадкла́дны.**
**НЕАДКЛА́ДНАСЦЬ** *ж.* неотло́жность.
**НЕАДКЛА́ДНЫ 1.** неотло́жный; **~ная медыцы́нская дапамо́га** неотло́жная медици́нская по́мощь; **2.** неме́дленный; **~нае выкана́нне** неме́дленное исполне́ние.
**НЕ́АДКУЛЬ** *нареч.* не́откуда.
**НЕАДЛУ́ЧНА** *нареч.* неотлу́чно, безотлу́чно.
**НЕАДЛУ́ЧНЫ** неотлу́чный, безотлу́чный.

**НЕАДМЕ́ННЫ** непреме́нный; **н. член** *уст.* непреме́нный член.

**НЕАДНАРАЗО́ВА** *нареч.* неоднокра́тно.

**НЕАДНАРАЗО́ВЫ** неоднокра́тный.

**НЕАДНАРО́ДНАСЦЬ** *ж.* неоднородность.

**НЕАДНАРО́ДНЫ** неоднородный.

**НЕАДНАСТА́ЙНАСЦЬ** *ж.* неоднородность.

**НЕАДНАСТА́ЙНЫ** (*неодинаковый*) неоднородный.

**НЕАДНО́ЛЬКАВА** *нареч.* неодина́ково.

**НЕАДНО́ЛЬКАВАСЦЬ** *ж.* неодина́ковость.

**НЕАДНО́ЛЬКАВЫ** неодина́ковый.

**НЕАДО́ЛЬНА** *нареч.* неодоли́мо, непреодоли́мо.

**НЕАДО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неодоли́мость, непреодоли́мость.

**НЕАДО́ЛЬНЫ** неодоли́мый, непреодоли́мый.

**НЕАДПАВЕ́ДНА** *нареч.* несоотве́тственно.

**НЕАДПАВЕ́ДНАСЦЬ** *ж.* **1.** (*чаму*) несоотве́тствие *ср.*, несообра́зность (*с чем*); **2.** несоразме́рность; 1, 2 *см.* **неадпаве́дны.**

**НЕАДПАВЕ́ДНЫ 1.** (*чаму*) несоотве́тствующий, несообра́зный (*с чем*); неподходя́щий; несогла́сный (*с чем*); ~**ныя мо́манту ўмо́вы** не соотве́тствующие моме́нту усло́вия; ~**ная кампа́нія** неподходя́щая компа́ния; **учы́нак, н. акалі́чнасцям** посту́пок, не согла́сный с обстоя́тельствами; **2.** (*лишённый соразмерности*) несоразме́рный.

**НЕАДПЛА́ТНЫ** невознагради́мый; ~**ная паслу́га** невознагради́мая услу́га.

**НЕАДРЫ́ЎНА** *нареч.* неотры́вно.

**НЕАДРЫ́ЎНЫ** неотры́вный.

**НЕАДСТУ́ПНА** *нареч.* неотсту́пно.

**НЕАДСТУ́ПНАСЦЬ** *ж.* неотсту́пность.

**НЕАДСТУ́ПНЫ** неотсту́пный.

**НЕАДУКАВА́НАСЦЬ** *ж.* необразо́ванность, непросвещённость.

**НЕАДУКАВА́НЫ** необразо́ванный, непросвещённый.

**НЕАДУШАЎЛЁНАСЦЬ** *ж.* неодушевлённость.

**НЕАДУШАЎЛЁНЫ** неодушевлённый; ~**ная матэ́рыя** неодушевлённая мате́рия; **н. прадме́т** неодушевлённый предме́т.

**НЕАДХІ́ЛЬНА** *нареч.* **1.** неустрани́мо; **2.** неотрази́мо; 1, 2 *см.* **неадхі́льны.**

**НЕАДХІ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* **1.** неустрани́мость; **2.** неотрази́мость; 1, 2 *см.* **неадхі́льны.**

**НЕАДХІ́ЛЬНЫ 1.** неустрани́мый; ~**ная перашко́да** неустрани́мое препя́тствие; **2.** неотрази́мый; **н. до́каз** неотрази́мый до́вод.

**НЕАДЧУВА́ЛЬНА** *нареч.* нечувстви́тельно, неощути́тельно, неощути́мо; неосяза́емо; *см.* **неадчува́льны.**

**НЕАДЧУВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* нечувстви́тельность, неощути́тельность, неощути́мость; неосяза́емость; *см.* **неадчува́льны.**

**НЕАДЧУВА́ЛЬНЫ** *прям., перен.* нечувстви́тельный, неощути́тельный, неощути́мый; (*незаметный — ещё*) неосяза́емый.

**НЕАДЧУЖА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. юр.* неотчужда́емость.

**НЕАДЧУЖА́ЛЬНЫ** *юр.* неотчужда́емый.

**НЕАДЧЭ́ПНА** *нареч.* неотсту́пно, неотвя́зно.

**НЕАДЧЭ́ПНАСЦЬ** *ж.* неотсту́пность, неотвя́зность.

**НЕАДЧЭ́ПНЫ** неотсту́пный, неотвя́зный; ~**ная ду́мка** неотсту́пная (неотвя́зная) мысль.

**НЕАДЭКВА́ТНА** *нареч.* неадеква́тно.

**НЕАДЭКВА́ТНАСЦЬ** *ж.* неадеква́тность.

**НЕАДЭКВА́ТНЫ** неадеква́тный.

**НЕАЖЫЦЦЯВІ́МАСЦЬ** *ж.* неосуществи́мость.

**НЕАЖЫЦЦЯВІ́МЫ** неосуществи́мый.

**НЕАЗНАЧА́ЛЬНА** *нареч.* неопределённо.

**НЕАЗНАЧА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* **1.** неопредели́мость; **2.** *грам., мат.* неопределённость; 1, 2 *см.* **неазнача́льны.**

**НЕАЗНАЧА́ЛЬНЫ 1.** неопредели́мый; 2. *грам., мат.* неопределённый; ~**ная фо́рма дзеясло́ва** неопределённая фо́рма глаго́ла; ~**нае ўраўне́нне** неопределённое уравне́ние.

**НЕАЗО́Й, -зо́ю** *м. геол.* неозо́й.

**НЕАЗО́ЙСКІ** *геол.* неозо́йский.

**НЕАІМПРЭСІЯНІ́ЗМ, -му** *м. жив.* неоимпрессиони́зм.

**НЕАКАНТЫЯ́НЕЦ, -нца** *м.* неокантиа́нец.

**НЕАКАНТЫЯ́НСКІ** *филос.* неокантиа́нский.

**НЕАКАНТЫЯ́НСТВА** *ср. филос.* неокантиа́нство.

**НЕАКЛАСІЦЫ́ЗМ, -му** *м. лит., иск.* неоклассици́зм.

**НЕАКРЭ́СЛЕНА** *нареч.* неопределённо.

**НЕАКРЭ́СЛЕНАСЦЬ** *ж.* неопределённость.

**НЕАКРЭ́СЛЕНЫ** неопределённый.

**НЕАКТУА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неактуа́льность.

**НЕАКТУА́ЛЬНЫ** неактуа́льный.

**НЕАКТЫ́ЎНЫ** неакти́вный.

**НЕАКУРА́ТНА** *нареч. в разн. знач.* неаккура́тно; *см.* **неакура́тны.**

**НЕАКУРА́ТНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* неаккура́тность; *см.* **неакура́тны.**

**НЕАКУРА́ТНЫ** *в разн. знач.* неаккура́тный; **н. чалаве́к** неаккура́тный челове́к; ~**нае выкана́нне** неаккура́тное исполне́ние; ~**ная дастаўка по́шты** неаккура́тная доста́вка по́чты.

**НЕАЛАГІ́ЗМ, -му** *м. лингв.* неологи́зм.

**НЕАЛАМАРКІ́ЗМ, -му** *м. биол.* неоламарки́зм.

**НЕАЛІ́Т, -ту** *м. археол.* неоли́т.

**НЕАЛІ́ТЫЧНЫ** *археол.* неолити́ческий.

**НЕАМАЛЬТУЗІЯ́НЕЦ, -нца** *м.* неомальтузиа́нец.

**НЕАМАЛЬТУЗІЯ́НСКІ** *эк.* неомальтузиа́нский.

**НЕАМАЛЬТУЗІЯ́НСТВА** *ср. эк.* неомальтузиа́нство.

**НЕАНДЭРТА́ЛЕЦ, -льца** *м. археол.* неандерта́лец.

**НЕАНДЭРТА́ЛЬСКІ** *археол.* неандерта́льский.

**НЕАПАЗНА́НЫ** *юр.* неопо́знанный.

**НЕАПАЛІТА́НСКІ ЗАЛІ́Ў** Неаполита́нский зали́в.

**НЕА́ПАЛЬ** *м. г.* Неа́поль.

**НЕАПЕТЫ́ТНА** *нареч.* неаппети́тно.

**НЕАПЕТЫ́ТНЫ** неаппети́тный.

**НЕАПІСА́ЛЬНЫ** неопису́емый.

**НЕАПІ́САНЫ** неопи́санный.

**НЕАПЛА́ЗМА** *ж. мед.* неопла́зма.

**НЕАПЛА́ТНЫ** неопла́тный.

**НЕАПЛА́ЧАНЫ** неопла́ченный.

**НЕАПРА́ЎДАНЫ** неопра́вданный.

**НЕАПРАЦАВА́НАСЦЬ** *ж.* необрабо́танность.

**НЕАПРАЦАВА́НЫ** *и* **НЕАПРАЦО́ВАНЫ** необрабо́танный.

**НЕАПУБЛІКАВА́НЫ** неопублико́ванный.

**НЕАРАМАНТЫ́ЗМ, -му** *м. лит.* неороманти́зм.

**НЕАРА́НЫ** *и* **НЯВО́РАНЫ** непа́ханый.

**НЕАРГАНІЗАВА́НА** *нареч.* неорганизо́ванно.

**НЕАРГАНІЗАВА́НАСЦЬ** *ж.* неорганизо́ванность.

**НЕАРГАНІЗАВА́НЫ** неорганизо́ванный.

**НЕАРГАНІ́ЧНЫ** неоргани́ческий; ~**ная прыро́да** неоргани́ческая приро́да; ~**ная хі́мія** неоргани́ческая хи́мия.

**НЕАСАЛЬВАРСА́Н, -ну** *м. фарм.* неосальварса́н.

**НЕАСВЕ́ЧАНАСЦЬ** *ж.* непросвещённость.

**НЕАСВЕ́ЧАНЫ** I (*не получивший образования*) непросвещённый.

**НЕАСВЕ́ЧАНЫ** II (*без освещения*) неосвещённый.

**НЕАСЛА́БНА** *нареч.* неосла́бно.

**НЕАСЛА́БНАСЦЬ** *ж.* неосла́бность.

**НЕАСЛА́БНЫ** неосла́бный; неослабева́ющий.

**НЕАСПРЭ́ЧНА** *нареч.* неоспори́мо.

**НЕАСПРЭ́ЧНАСЦЬ** *ж.* неоспори́мость.

**НЕАСПРЭ́ЧНЫ** неоспори́мый.

**НЕАСЦЯРО́ГА** *ж. разг.* неосторо́жность.

**НЕАСЦЯРО́ЖНА** *нареч.* неосторо́жно; неосмотри́тельно; неблагоразу́мно.

**НЕАСЦЯРО́ЖНАСЦЬ** *ж.* неосторо́жность; неосмотри́тельность; неблагоразу́мие *ср.*
**НЕАСЦЯРО́ЖНЫ** неосторо́жный; неосмотри́тельный; неблагоразу́мный.
**НЕАСЭНСАВА́НЫ** неосмы́сленный.
**НЕАФАШЫ́ЗМ, -му** *м.* неофаши́зм.
**НЕАФАШЫ́СТ** *м.* неофаши́ст.
**НЕАФАШЫ́СЦКІ** неофаши́стский.
**НЕАФІ́Т** *м.* неофи́т.
**НЕАФІЦЫЙНА** *нареч.* *см.* **неафіцыя́льна.**
**НЕАФІЦЫЙНАСЦЬ** *ж.* *см.* **неафіцыя́льнасць.**
**НЕАФІЦЫЙНЫ** *см.* **неафіцыя́льны.**
**НЕАФІЦЫЯ́ЛЬНА** *нареч.* неофициа́льно.
**НЕАФІЦЫЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* неофициа́льность.
**НЕАФІЦЫЯ́ЛЬНЫ** неофициа́льный.
**НЕАФО́РМЛЕНЫ** неофо́рмленный.
**НЕАХА́ЙНА** *нареч.* неопря́тно, неря́шливо, небре́жно; нечистопло́тно; *см.* **неаха́йны** 1.
**НЕАХА́ЙНАСЦЬ** *ж.* неопря́тность, неря́шливость, небре́жность; нечистопло́тность; *см.* **неаха́йны** 1.
**НЕАХА́ЙНЫ 1.** *прил.* неопря́тный, неря́шливый, небре́жный; (*о человеке — ещё*) нечистопло́тный; **2.** *в знач. сущ.* неря́ха.
**НЕАХВО́ТА** *ж.* неохо́та; **пае́хаў з ~тай** пое́хал с неохо́той.
**НЕАХВО́ТНА** *нареч.* неохо́тно; не́хотя, с неохо́той.
**НЕАХО́ПНЫ** необъя́тный, неохва́тный.
**НЕАЦЭ́ННЫ** неоцени́мый, бесце́нный.
**НЕАШЧА́ДНА** *нареч.* небережли́во, неэконо́мно.
**НЕАШЧА́ДНАСЦЬ** *ж.* небережли́вость, неэконо́мность.
**НЕАШЧА́ДНЫ** небережли́вый, неэконо́мный.
**НЕ́БА,** *мн.* **нябёсы** *ср.* не́бо; ✧ **пад адкры́тым не́бам** под откры́тым не́бом; **на сёмым не́бе** на седьмо́м не́бе; **памі́ж не́бам і зямлёй** ме́жду не́бом и землёй; **тра́піць па́льцам у н.** попа́сть па́льцем в не́бо; **як з н. звалі́ўся** как с не́ба свали́лся; **зо́ры з н. хапа́ць** звёзды с не́ба хвата́ть.
**НЕБАГА́ТА** *нареч.* **1.** небога́то; **2.** немно́го.
**НЕБАГА́ТЫ 1.** небога́тый, несостоя́тельный; **2.** (*скромный, недорогой*) небога́тый; **3.** *перен.* небога́тый, ограни́ченный; **~тая фанта́зія** небога́тая (ограни́ченная) фанта́зия.
**НЕБАЖА́ТЫ** *ед. нет ласк. обл.* (*обычно о детях племянника, племянницы*) внуча́та.
**НЕБАРА́К** *м.* *см.* **небара́ка.**
**НЕБАРА́КА** *м. и ж. разг.* бедня́га, бедня́жка; (*в обращении — ещё*) серде́чный; **по́йдзем, н.** пойдём, серде́чный.
**НЕБАСКРО́Б** *м.* небоскрёб.
**НЕБАСХІ́Л, -лу** *м.* небосво́д, небоскло́н.
**НЕБАЯЗДО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* небоеспосо́бность.
**НЕБАЯЗДО́ЛЬНЫ** небоеспосо́бный.
**НЕБАЯЗЛІ́ВЫ** небоязли́вый.
**НЕБЕЗВЫНІКО́ВА** *нареч.* небезрезульта́тно.
**НЕБЕЗВЫНІКО́ВЫ** небезрезульта́тный.
**НЕБЕЗДАКО́РНА** *нареч.* небезукори́зненно, небезупре́чно.
**НЕБЕЗДАКО́РНЫ** небезукори́зненный, небезупре́чный.
**НЕБЕЗЗАГА́ННА** *нареч.* небезукори́зненно, небезупре́чно.
**НЕБЕЗЗАГА́ННЫ** небезукори́зненный, небезупре́чный.
**НЕБЕЗНАДЗЕ́ЙНЫ** небезнадёжный.
**НЕБЕЗРЭЗУЛЬТА́ТНА** *нареч.* небезрезульта́тно.
**НЕБЕЗРЭЗУЛЬТА́ТНЫ** небезрезульта́тный.
**НЕБЕСКАРЫ́СЛІВЫ** небескоры́стный.
**НЕБЕСКАРЫ́СНА** *нареч.* небесполе́зно.
**НЕБЕСКАРЫ́СНЫ** небесполе́зный.
**НЕБЕСПАДСТА́ЎНА** *нареч.* небезоснова́тельно.
**НЕБЕСПАДСТА́ЎНЫ** небезоснова́тельный.
**НЕБЕСПАСПЯХО́ВА** *нареч.* небезуспе́шно.
**НЕБЕСПАСПЯХО́ВЫ** небезуспе́шный.
**НЕБІТКІ́** небьющийся; **~ко́е шкло** небью́щееся стекло́.
**НЕБЛАГІ́** неплохо́й, недурно́й, прили́чный.
**НЕБРУКАВА́НЫ** немощёный.
**НЕБУДАЎНІ́ЧЫ** (*о лесе*) нестроево́й.
**НЕБЫВА́ЛЫ** небыва́лый; бесприме́рный, неви́данный.
**НЕБЫЛІ́ЦА** *ж.* небыли́ца.
**НЕБЫЦЦЁ** *ср. филос.* небытие́.
**НЕБЯСПЕ́КА** *ж.* опа́сность.
**НЕБЯСПЕ́ЧНА** *нареч.* опа́сно.
**НЕБЯСПЕ́ЧНАСЦЬ** *ж.* опа́сность.
**НЕБЯСПЕ́ЧНЫ** опа́сный.
**НЕ́ВАД** *м.* не́вод.
**НЕВЕРАГО́ДНА** *нареч.* невероя́тно.
**НЕВЕРАГО́ДНАСЦЬ** *ж.* невероя́тность.
**НЕВЕРАГО́ДНЫ 1.** (*неправдоподобный, невозможный*) невероя́тный; **н. вы́падак** невероя́тный слу́чай; **2.** (*вызывающий сомнения*) недостове́рный; **~ныя паведамле́нні** недостове́рные сообще́ния.
**НЕВІДЗІ́МКА 1.** *м. и ж.* невиди́мка; **2.** *ж.* (*шпилька*) невиди́мка; ✧ **ша́пка-н.** *фольк.* ша́пка-невиди́мка.
**НЕВІДУ́ШЧЫ** *разг.* незря́чий.
**НЕВІНАВА́ТА** *нареч.* неви́нно, безви́нно.
**НЕВІНАВА́ТАСЦЬ** *ж.* невино́вность, невинова́тость, непови́нность.
**НЕВІНАВА́ТЫ** невино́вный, невинова́тый, непови́нный.
**НЕ́ВУК** *м.* не́уч, неве́жда.
**НЕ́ВУЦКІ** неве́жественный.
**НЕ́ВУЦТВА** *ср.* неве́жество, неве́жественность *ж.*
**НЕВЫГО́ДА** *ж.* неудо́бство *ср.*; ✧ **не так шко́да, як н.** *погов.* не так жа́лко, как неудо́бно.
**НЕВЫГО́ДНА** *нареч.* неудо́бно; стесни́тельно.
**НЕВЫГО́ДНАСЦЬ** *ж.* неудо́бство *ср.*; стесни́тельность.
**НЕВЫГО́ДНЫ** неудо́бный; стесни́тельный.
**НЕВЫДАТКАВА́НЫ** неизрасхо́дованный.
**НЕВЫДА́ТНАСЦЬ** *ж.* незаме́тность, незначи́тельность.
**НЕВЫДА́ТНЫ** незаме́тный, незначи́тельный.
**НЕВЫКА́ЗНА** *нареч.* несказа́нно, невырази́мо, неопису́емо.
**НЕВЫКА́ЗНЫ** несказа́нный, невырази́мый, неопису́емый.
**НЕВЫКАНА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* невыполни́мость, неисполни́мость.
**НЕВЫКАНА́ЛЬНЫ** невыполни́мый, неисполни́мый.
**НЕВЫКАНА́ННЕ** *ср.* **1.** невыполне́ние, неисполне́ние; **н. зага́ду** невыполне́ние (неисполне́ние) прика́за; **2.** (*правил, законов*) неисполне́ние, несоблюде́ние.
**НЕВЫКАРАНЯ́ЛЬНА** *нареч.* неискорени́мо.
**НЕВЫКАРАНЯ́ЛЬНЫ** неискорени́мый.
**НЕВЫЛА́ЗНЫ 1.** невыла́зный, непрола́зный; **2.** *перен.* невыла́зный.
**НЕВЫЛЕ́ЧНА** *нареч.* неизлечи́мо.
**НЕВЫЛЕ́ЧНАСЦЬ** *ж.* неизлечи́мость.
**НЕВЫЛЕ́ЧНЫ** неизлечи́мый.
**НЕВЫЛЯГА́ЮЧЫ** *с.-х.* неполега́ющий.
**НЕВЫМЕ́РНА** *нареч.* неизмери́мо.
**НЕВЫМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* неизмери́мость.
**НЕВЫМЕ́РНЫ** неизмери́мый.
**НЕВЫМО́ЎНА** *нареч.* невырази́мо, неопису́емо, непереда́ваемо, несказа́нно.
**НЕВЫМО́ЎНЫ** невырази́мый, неопису́емый, непереда́емый, несказа́нный.
**НЕВЫНІШЧА́ЛЬНЫ** неистреби́мый.
**НЕВЫПАДКО́ВА** *нареч.* неслуча́йно.
**НЕВЫПАДКО́ВЫ** неслуча́йный.
**НЕВЫРА́ЗНА** *нареч.* **1.** нея́сно, неотчётливо, нечётко; сму́тно; неразбо́рчиво; **2.** невня́тно, нечленоразде́льно; невырази́тельно; **3.** нея́сно, неотчётливо, нечётко; 1—3 *см.* **невыра́зны.**
**НЕВЫРА́ЗНАСЦЬ** *ж.* **1.** нея́сность, неотчётливость, не-

**за́муж за яго́** она́ пойдёт за́муж за него́; **п. ту́зам** пойти́ с туза́; **по́езд пайшо́ў** по́езд пошёл; **кроў пайшла́ з но́са** кровь пошла́ из но́су; **пасы́лка по́йдзе за́ўтра** посы́лка пойдёт за́втра; **гадзі́ннік пайшо́ў** часы́ пошли́; **дождж пайшо́ў** дождь пошёл; **з пе́чы пайшо́ў дым** из пе́чки пошёл дым; **папе́ра пайшла́ на по́дпіс** бума́га пошла́ на по́дпись; **даро́га пайшла́ ле́сам** доро́га пошла́ ле́сом; **на паліто́ по́йдзе тры ме́тры** на пальто́ пойдёт три ме́тра; **цвік лёгка пайшо́ў у сцяну́** гвоздь легко́ пошёл в сте́нку; **бураќі пайшлі ў бацві́нне** свёкла пошла́ в ботву́; **пра́ца пайшла́ лепш** рабо́та пошла́ лу́чше; **у тэа́тры ско́ра по́йдзе но́вая п'е́са** в теа́тре ско́ро пойдёт но́вая пье́са; 2. (*взять начало*) произойти́; **ад яго́ пайшло́ шматлі́кае пато́мства** от него́ произошло́ многочи́сленное пото́мство; 3. (*уйти откуда-л., направиться куда-л.*) пойти́, уйти́, удали́ться; **ён пайшо́ў у свой пако́й** он пошёл (ушёл, удали́лся) в свою ко́мнату; ✧ **п. напрало́м** пойти́ напроло́м; **п. ўгару́** пойти́ в го́ру; **п. на глум** пойти́ насма́рку; пропа́сть зря; **п. ў свет** пойти́ куда́ глаза́ глядя́т; **калі́ на то́е пайшло́** е́сли на то пошло́; **п. як па ма́сле** пойти́ как по ма́слу.

**ПА́ЙШЧЫК** *м.* па́йщик.

**ПА́ЙШЧЫЦА** *ж.* па́йщица.

**ПАК** I *м.* ки́па *ж.*; тюк, **бунт.**

**ПАК** II, *род.* **па́ку** *м.* (*лёд*) пак.

**ПА-КАБАРДЗІ́НСКУ** *нареч.* по-кабарди́нски.

**ПАКАВА́ЛЬНЫ** пако́вочный, упако́вочный.

**ПАКАВА́ЛЬШЧЫК** *м.* пако́вщик; тюко́вщик.

**ПАКАВА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* пако́вщица; тюко́вщица.

**ПАКАВА́ННЕ** *ср.* упако́вка *ж.*, пако́вка *ж.*; тюко́вка *ж.*

**ПАКАВА́НЫ** упако́ванный, пако́ванный; тюко́ванный.

**ПАКАВА́ЦЦА** *несов.* 1. (*в дорогу*) укла́дываться; 2. *страд.* упако́вываться, пакова́ться; тюкова́ться.

**ПАКАВА́ЦЬ** I *несов.* упако́вывать, пакова́ть; тюкова́ть.

**ПАКАВА́ЦЬ** II *сов.* 1. (*подвергнуть ковке*) покова́ть; 2. (*во множестве*) перекова́ть; окова́ть.

**ПА́КАВЫ** I тю́чный.

**ПА́КАВЫ** II па́ковый; **п. лёд** па́ковый лёд.

**ПАКАДЗІ́ЦЬ** *сов. церк., перен.* покади́ть.

**ПАКАЁВЫ** ко́мнатный.

**ПАКАЁЎКА** *ж.* го́рничная.

**ПАКА́З, -зу** *м.* 1. пока́з; 2. изображе́ние *ср.*, пока́з, отраже́ние *ср.*; 3. предъявле́ние *ср.*, пока́з; 1—3 *см.* **паказа́ць** 1, 4, 5; 4. *театр.* представле́ние *ср.*

**ПАКАЗА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* показа́тельность; знамена́тельность; *см.* **паказа́льны** 1.

**ПАКАЗА́ЛЬНІК** *м. в разн. знач.* указа́тель; **п. імён** указа́тель имён; **п. даро́г** указа́тель доро́г.

**ПАКАЗА́ЛЬНЫ** 1. *в разн. знач.* показа́тельный; (*полный значения — ещё*) знамена́тельный; **~ная гаспада́рка** показа́тельное хозя́йство; **п. суд** показа́тельный суд; **п. факт** показа́тельный (знамена́тельный) факт; 2. (*служащий для указания*) указа́тельный.

**ПАКАЗА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* показа́ние; **судо́выя ~нні** суде́бные показа́ния; **п. прыбо́ра** показа́ние прибо́ра.

**ПАКА́ЗАНЫ** 1. *в разн. знач.* пока́занный; 2. пока́занный, ука́занный; 3. обнару́женный, пока́занный; 4. изображённый, пока́занный, отражённый; 5. предъя́вленный, пока́занный; 1—5 *см.* **паказа́ць** 1—5.

**ПА-КАЗА́ХСКУ** *нареч.* по-каза́хски.

**ПАКАЗА́ЦЦА** *сов.* 1. показа́ться, появи́ться; 2. поме́рещиться, показа́ться.

**ПАКАЗА́ЦЬ** *сов.* 1. *в разн. знач.* показа́ть; **п. язы́к** показа́ть язы́к; **пакажы́, што ты купі́ў** покажи́, что ты купи́л; **п. сябе́ гаспадара́мі** показа́ть себя́ хозя́евами; 2. показа́ть, указа́ть; **п. па́льцам** указа́ть (показа́ть) па́льцем; 3. обнару́жить, показа́ть; **п. здо́льнасці** обнару́жить (показа́ть) спосо́бности; 4. (*воплотить в художественном образе*) изобрази́ть, показа́ть, отрази́ть; 5. предъяви́ть, показа́ть; **п. дакуме́нты** предъяви́ть (показа́ть) докуме́нты; 6. *юр.* показа́ть; ✧ **п. пры́клад** показа́ть приме́р; **п. нос** показа́ть нос; **п. сябе́** показа́ть себя́; **п. пя́ткі** показа́ть пя́тки; **п. ду́лю** *прост.* показа́ть ку́киш.

**ПАКА́ЗВАННЕ** *ср.* 1. пока́зывание; 2. пока́зывание, ука́зывание; 3. изображе́ние, пока́зывание, отраже́ние; 4. предъявле́ние, пока́зывание; 1—4 *см.* **пака́зваць** 1, 2, 4, 5.

**ПАКА́ЗВАЦЦА** *несов.* 1. пока́зываться, появля́ться; 2. мере́щиться, каза́ться; 3. *страд.* пока́зываться; ука́зываться; обнару́живаться; изобража́ться, отража́ться; предъявля́ться; *см.* **пака́зваць;** ✧ **не п. на во́чы** не пока́зываться на глаза́.

**ПАКА́ЗВАЦЬ** *несов.* 1. *в разн. знач.* пока́зывать; 2. пока́зывать, ука́зывать; 3. обнару́живать, пока́зывать; 4. (*воплощать в художественном образе*) изобража́ть, пока́зывать, отража́ть; 5. предъявля́ть, пока́зывать; 6. *юр.* пока́зывать; 1—6 *см.* **паказа́ць;** ✧ **не п. вачэ́й (но́са)** не пока́зывать (не каза́ть) глаз (но́са).

**ПАКАЗНЫ** показно́й.

**ПАКА́ЗЧЫК** *м.* 1. *в разн. знач.* показа́тель; **раён быў уперадзе па ўсіх ~ках** райо́н был впереди́ по всем показа́телям; **п. ступе́ні** *мат.* показа́тель сте́пени; **ко́лькасныя і я́касныя ~кі** коли́чественные и ка́чественные показа́тели; 2. (*приспособление для указания*) указа́тель; **п. даро́гі** указа́тель доро́ги.

**ПАКАЗЫТА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* пощекота́ть; **п. пад па́хай** пощекота́ть под мы́шкой; **п. чые-не́будзь самалю́бства** пощекота́ть чьё-л. самолю́бие.

**ПАКАКЕ́ТНІЧАЦЬ** *сов. прям., перен.* пококе́тничать.

**ПАКАЛАМУ́ЦІЦЦА** *сов.* помути́ться; *см.* **каламу́ціцца.**

**ПАКАЛАМУ́ЦІЦЬ** *сов.* помути́ть, взбаламу́тить; *см.* **каламу́ціць.**

**ПАКАЛАМУ́ЧАНЫ** помутнённый, взбаламу́ченный; *см.* **пакаламу́ціць.**

**ПАКАЛАЦІ́ЦЦА** *сов.* подрожа́ть, потрясти́сь.

**ПАКАЛАЦІ́ЦЬ** *сов.* 1. (*всё, многое и нек-рое время*) потрясти́; 2. (*снопы*) помолоти́ть; 2. *безл.* потрясти́, позноби́ть.

**ПАКАЛАШМА́ЦІЦЬ** *сов. разг.* потрепа́ть, исколошма́тить.

**ПАКАЛАШМА́ЧАНЫ** *разг.* потрёпанный, исколошма́ченный.

**ПАКАЛЕ́ННЕ** *ср.* поколе́ние; ✧ **з ~ння ў п.** из поколе́ния в поколе́ние.

**ПАКАЛЕ́ЦЬ** *сов.* 1. (*обо всех, многих*) помёрзнуть, замёрзнуть, озя́бнуть, окочене́ть, продро́гнуть; 2. (*нек-рое время*) помёрзнуть, позя́бнуть, подро́гнуть.

**ПАКАЛЕ́ЧАННЕ** *ср. разг.* уве́чье.

**ПАКАЛЕ́ЧАНЫ** 1. изуве́ченный, покале́ченный, изуро́дованный, искале́ченный, перекале́ченный; 2. *перен.* искале́ченный; изуро́дованный; 1, 2 *см.* **пакале́чыць.**

**ПАКАЛЕ́ЧЫЦЦА** *сов.* изуве́читься, покале́читься, изуро́доваться, искале́читься; (*о многих — ещё*) перекале́читься.

**ПАКАЛЕ́ЧЫЦЬ** *сов.* 1. (*многих или во многих местах*) изуве́чить, покале́чить, изуро́довать, искале́чить, перекале́чить; 2. *перен.* искале́чить; изуро́довать.

**ПАКАЛМА́ЦІЦЬ** *сов.* взлохма́тить.

**ПАКАЛО́ННА** *нареч.* поколо́нно.

**ПАКАЛО́ННЫ** поколо́нный.

**ПАКАЛО́ЦЦА** I *сов.* 1. исколо́ться; 2. *мед. разг.* (*подвергаться уколам нек-рое время*) поколо́ться.

**ПАКАЛО́ЦЦА** II *сов.* 1. (*о посуде и т. п.*) поколо́ться; 2. потре́скаться, растре́скаться.

**ПАКАЛО́ЦЬ** I *сов.* 1. (*всё, многое*) поколо́ть, переколо́ть; (*свиней — ещё*) поре́зать, прире́зать; 2. (*во многих местах*) исколо́ть, поколо́ть; 3. (*чем-л. острым — нек-рое время*) поколо́ть.

**ПАКАЛО́ЦЬ** II *сов.* 1. (*расколоть всё, многое*) поколо́ть; 2. (*дрова и т. п. — нек-рое время*) поколо́ть.

**ПАКАЛУПА́НЫ** *разг.* исковы́рянный, исколу́панный.
**ПАКАЛУПА́ЦЬ** *сов. разг.* 1. исковыря́ть, исколупа́ть; 2. (*нек-рое время*) поковыря́ть; поколупа́ть.
**ПАКАЛУ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* поковы́ривать.
**ПАКАЛЫВА́ЦЦА** *сов.* пошата́ться, поколеба́ться.
**ПАКАЛЫВА́ЦЬ** *сов.* пошата́ть, поколеба́ть.
**ПАКАЛЫХА́ЦЦА** *сов.* покача́ться, поколыха́ться.
**ПАКАЛЫХА́ЦЬ** *сов.* покача́ть, поколыха́ть; (*ребёнка — ещё*) побаю́кать.
**ПАКАЛЫ́ХВАННЕ** *ср.* колыха́ние, пока́чивание.
**ПАКАЛЫ́ХВАЦЦА** *несов.* колыха́ться, пока́чиваться.
**ПАКАЛЫ́ХВАЦЬ** *несов.* колыха́ть, пока́чивать.
**ПАКАЛЫХНУ́ЦЦА** *сов. однокр.* колыхну́ться, покачну́ться, качну́ться.
**ПАКАМА́НДАВАЦЬ** *сов.* 1. (*нек-рое время*) покома́ндовать; 2. *разг.* скома́ндовать.
**ПАКАМЕ́ЧАНЫ** *разг.* 1. *прич.* ско́мканный, помя́тый, смя́тый, измя́тый; 2. *прич.* сжа́тый; 1, 2 *см.* **пакамячы́ць** 1, 3; 3. *в знач. прил.* мя́тый, измя́тый, помя́тый.
**ПА-КАМУНІСТЫЧНАМУ** *нареч.* по-коммунисти́чески.
**ПАКАМЯЧЫ́ЦЦА** *сов.* ско́мкаться, помя́ться, смя́ться, измя́ться.
**ПАКАМЯЧЫ́ЦЬ** *сов. разг.* 1. ско́мкать, помя́ть, смять, измя́ть; 2. (*нек-рое время*) поко́мкать, помя́ть; 3. (*кулаки*) сжать.
**ПАКАНАПА́ЦІЦЬ** *сов.* 1. (*всё, многое*) переконопа́тить; 2. (*нек-рое время*) поконопа́тить.
**ПАКАНЧА́ЦЦА** *сов.* 1. (*обо всем, многом*) ко́нчиться, око́нчиться, зако́нчиться; 2. *разг.* (*обо всех, многих*) сконча́ться, поумира́ть.
**ПАКАНЧА́ЦЬ** *сов.* (*обо всех, многих*) ко́нчить, зако́нчить, око́нчить; **дзе́ці ~ча́лі шко́лу** де́ти ко́нчили (зако́нчили, око́нчили) шко́лу.
**ПАКА́НЬКАЦЬ** *сов. разг.* покля́нчить.
**ПАКАПА́НЫ** *и* **ПАКО́ПАНЫ** 1. изры́тый; 2. вы́рытый; 3. у́бранный, вы́копанный; 1—3 *см.* **пакапа́ць** 2—4.
**ПАКАПА́ЦЦА** *сов.* покопа́ться, поры́ться.
**ПАКА́ПАЦЬ** *сов. разг.* пока́пать; (*о дожде — ещё*) покра́пать.
**ПАКАПА́ЦЬ** *сов.* 1. (*нек-рое время*) поры́ть, покопа́ть; 2. (*всё, многое*) изры́ть; 3. (*во множестве*) вы́рыть; 4. (*картофель*) убра́ть, вы́копать.
**ПАКА́ПВАЦЬ** *несов. разг.* пока́пывать; (*о дожде — ещё*) покра́пывать.
**ПАКАПРЫ́ЗІЦЬ** *сов.* покапри́зничать.
**ПАКАРАБА́ЦІЦЦА** *сов.* покоро́биться, покорёжиться.
**ПАКАРАБА́ЦІЦЬ** *сов.* покоро́бить, покорёжить.
**ПАКАРАБА́ЧАНЫ** покоро́бленный, покорёженный.
**ПАКАРА́БКАЦЦА** *сов. разг.* покара́бкаться, поле́зть.
**ПАКАРА́ННЕ** *ср.* наказа́ние; возме́здие; **вышэ́йшая ме́ра ~ння** вы́сшая ме́ра наказа́ния; **у п.** в наказа́ние; ✧ **п. сме́рцю** сме́ртная казнь.
**ПАКАРА́НЫ** нака́занный; пока́ранный; *см.* **пакара́ць** I.
**ПАКАРАЦЕ́ЦЬ** *сов.* укороти́ться, стать коро́че.
**ПАКАРАЦІ́ЦЦА** *сов.* укороти́ться, стать коро́че.
**ПАКАРАЦІ́ЦЬ** *сов.* укороти́ть, сде́лать коро́че.
**ПАКАРА́ЦЦА** (*каму-чаму*) *несов.* покоря́ться, подчиня́ться; смиря́ться (*с кем-чем и без доп.*).
**ПАКАРА́ЦЬ** I *сов.* (*подвергнуть наказанию*) наказа́ть; покара́ть; ✧ **п. сме́рцю** казни́ть.
**ПАКАРА́ЦЬ** II *несов.* 1. покоря́ть, подчиня́ть; 2. (*внушать симпатию*) покоря́ть.
**ПАКАРАЧЭ́ННЕ** *ср.* укора́чивание.
**ПАКА́РКАЦЬ** *сов.* пока́ркать.
**ПАКАРМІ́ЦЦА** *сов.* покорми́ться.
**ПАКАРМІ́ЦЬ** *сов.* покорми́ть.
**ПАКАРО́ЧАНЫ** укоро́ченный.
**ПАКАРО́ЧВАННЕ** *ср.* укора́чивание.
**ПАКАРО́ЧВАЦЦА** *несов.* 1. укора́чиваться, станови́ться коро́че; 2. *страд.* укора́чиваться.
**ПАКАРО́ЧВАЦЬ** *несов.* укора́чивать, де́лать коро́че.
**ПАКАРПА́ЦЦА** *сов. см.* **пако́рпацца.**
**ПАКАРПА́ЦЬ** *сов. см.* **пако́рпаць.**
**ПАКАРПЕ́ЦЬ** *сов. разг.* покорпе́ть.
**ПАКАРЧАВА́ЦЬ** *сов.* 1. (*всё, многое*) вы́корчевать; 2. занима́ться корчёвкой не́которое вре́мя.
**ПАКАРЧАНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* (*обо всех, многих*) окочене́ть; закочене́ть.
**ПАКАРЫСТА́ЦЦА** *сов.* попо́льзоваться.
**ПАКАРЫ́ЦЕЛЬ** *м.* покори́тель.
**ПАКАРЫ́ЦЕЛЬКА** *ж.* покори́тельница.
**ПАКАРЫ́ЦЦА** (*каму-чаму*) *сов.* покори́ться, подчини́ться; смири́ться (*с кем-чем и без доп.*).
**ПАКАРЫ́ЦЬ** I *сов.* 1. покори́ть, подчини́ть; 2. (*внушить симпатию*) покори́ть.
**ПАКАРЫ́ЦЬ** II (*што*) *сов.* снять кору́ (*с чего*), очи́стить от коры́.
**ПА-КАРЭ́ЙСКУ** *нареч.* по-коре́йски.
**ПА-КАРЭ́ЛЬСКУ** *нареч.* по-каре́льски.
**ПАКАРЭ́ННЕ** *ср.* покоре́ние, подчине́ние.
**ПАКАСАВА́НЫ** *разг.* почёрканный.
**ПАКАСАВА́ЦЬ** *сов. разг.* почерка́ть, почёркать.
**ПАКАСІ́ЦЦА** *сов.* (*стать косым*) покоси́ться; **дзве́ры ~сі́ліся** дверь покоси́лась.
**ПАКАСІ́ЦЬ** I *сов. безл.* (*искривить*) покоси́ть; **~сі́ла ако́нную ра́му** покоси́ло око́нную ра́му.
**ПАКАСІ́ЦЬ** II *сов.* (*траву и т. п.*) 1. (*всё, многое*) скоси́ть; 2. (*нек-рое время*) покоси́ть.
**ПАКА́Т, -ту** *м.* укло́н, пока́т.
**ПАКА́ТА** *нареч.* пока́то, поло́го, отло́го.
**ПАКАТАВА́ЦЬ** *сов.* подве́ргнуть пы́ткам (му́кам).
**ПАКА́ТАСЦЬ** *ж.* пока́тость, поло́гость, отло́гость.
**ПАКАТА́ЦЦА** *сов.* поката́ться; **п. на канька́х** поката́ться на конька́х.
**ПАКАТА́ЦЬ** *сов.* поката́ть; **п. на са́нках** поката́ть на са́нках.
**ПАКА́ТНЫ** *спец.* укло́нный; **~ныя зна́кі на чыгу́начных пуця́х** укло́нные зна́ки на железнодоро́жных путя́х.
**ПАКА́ТЫ** пока́тый, поло́гий, отло́гий.
**ПАКАЎЗНУ́ЦЦА** *сов.* поскользну́ться.
**ПАКАХА́ЦЦА** *сов. разг.* полюби́ть друг дру́га, слюби́ться.
**ПАКАХА́ЦЬ** *сов.* полюби́ть; **яны́ ~ха́лі адзі́н адна́го** они́ полюби́ли друг дру́га.
**ПАКА́ЦІСТЫ** пока́тый, поло́гий, отло́гий.
**ПАКАЦІ́ЦЦА** *сов.* 1. *в разн. знач.* покати́ться; **ка́мень ~ці́ўся з гары́** ка́мень покати́лся с горы́; **машы́на ~ці́лася** маши́на покати́лась; **хва́лі ~ці́ліся адна́ за друго́й** во́лны покати́лись одна́ за друго́й; **з вачэ́й ~ці́ліся слёзы** из глаз покати́лись слёзы; **рэ́ха ~ці́лася па цясні́не** э́хо покати́лось по уще́лью; **во́раг ~ці́ўся наза́д** враг покати́лся наза́д; 2. (*катясь, удалиться*) укати́ться; **мяч ~ці́ўся далёка** мяч укати́лся далеко́; 3. *разг.* повали́ться, упа́сть; **ён ~ці́ўся на даро́зе** он повали́лся (упа́л) на доро́ге.
**ПАКАЦІ́ЦЬ** *сов.* 1. покати́ть; **п. бервяно́** покати́ть бревно́; 2. (*катя, угнать куда-л.*) укати́ть; 3. *разг.* (*свалить*) повали́ть; **ён ~ці́ў мяне́ на зямлю́** он повали́л меня́ на зе́млю.
**ПАКАЧАВА́ЦЬ** *сов.* покочева́ть.
**ПАКАЧА́ЦЦА** *сов.* 1. поката́ться; **шар ~ча́ўся па падло́зе і спыні́ўся** шар поката́лся по́ полу и останови́лся; 2. (*с боку на бок*) поваля́ться; 3. (*в кровати*) поваля́ться.
**ПАКАЧА́ЦЬ** *сов.* 1. поката́ть; **п. шар** поката́ть шар; 2. (*кончить катать*) поката́ть; перекатать; **п. бялі́зну** поката́ть бельё; 3. (*в чём-л.*) поваля́ть, обваля́ть; 4. *разг.* (*всё, многое*) повали́ть; **ве́цер ~ча́ў мэ́ндлікі** ве́тер повали́л суслó́ны.

**ПАКА́ЧВАЦЬ** *несов.* пока́тывать.
**ПАКА́ШЛІВАЦЬ** *несов.* пока́шливать.
**ПАКА́ШЛЯЦЬ** *сов.* пока́шлять.
**ПАКАШТАВА́НЫ** попро́бованный, отве́данный; *см.* **пакаштава́ць** 1.
**ПАКАШТАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** попро́бовать (*на вкус*), отве́дать; **2.** *перен.* отве́дать, хлебну́ть.
**ПА-КАШЭ́ЧАМУ** *нареч.* по-коша́чьи.
**ПАКАЯ́ННЕ** *ср.* покая́ние; ✧ **адпусці́ць душу́ на п.** *шутл.* отпусти́ть ду́шу на покая́ние.
**ПАКАЯ́ННЫ** покая́нный, пови́нный; ✧ **~ннай галавы́ меч не сячэ́** *посл.* пови́нную го́лову меч не сечёт.
**ПАКА́ЯЦЦА** *сов.* пока́яться, повини́ться.
**ПАКВА́ПІЦЦА** *сов.* поза́риться; посягну́ть, покуси́ться, польсти́ться.
**ПАКВА́ПІЦЬ** *сов. см.* **паква́піцца.**
**ПАКВАРТА́ЛЬНА** *нареч.* покварта́льно.
**ПАКВАРТА́ЛЬНЫ** покварта́льный.
**ПАКВА́СІЦЬ** *сов.* скваси́ть.
**ПАКВАХТА́ЦЬ** *сов.* поклохта́ть.
**ПАКВІТА́ЦЦА** *сов.* поквита́ться, сквита́ться.
**ПАКГА́УЗ** *м.* пакга́уз.
**ПАКГА́УЗНЫ** пакга́узный.
**ПАКЕ́ПЛІВАННЕ** (*з каго*) *ср. разг.* подтру́нивание (*над кем*).
**ПАКЕ́ПЛІВАЦЬ** (*з каго*) *несов. разг.* подтру́нивать (*над кем*), труни́ть (*над кем*), шути́ть (*над кем*).
**ПАКЕ́Т** *м.* паке́т; **індывідуа́льны перавя́зачны п.** индивидуа́льный перевя́зочный паке́т.
**ПАКЕТБО́Т** *м. мор.* пакетбо́т.
**ПАКЕ́ТНЫ** паке́тный.
**ПАКІВА́ЦЦА** *сов.* покача́ться; (*на ходу — ещё*) пошата́ться.
**ПАКІВА́ЦЬ** *сов.* **1.** покива́ть, покача́ть; **2.** пошата́ть.
**ПАКІДА́ННЕ** *ср.* **1.** оставле́ние; **2.** броса́ние; 1, 2 *см.* **пакіда́ць.**
**ПАКІ́ДАНЫ** бро́шенный, ки́нутый; пошвы́рянный; *см.* **пакі́даць** 1.
**ПАКІ́ДАЦЦА** *сов.* 1. покида́ться, пошвыря́ться; **2.** помета́ться; **хво́ры ~даўся на паду́шцы і заці́х** больно́й помета́лся на поду́шке и зати́х.
**ПАКІ́ДАЦЬ** *сов.* **1.** (*всё, многое*) поброса́ть, покида́ть; пошвыря́ть; (*стога́*) помета́ть; **п. усе́ каме́нні ў ваду́** поброса́ть (покида́ть, пошвыря́ть) все ка́мни в во́ду; **2.** (*нек-рое время*) поброса́ть, покида́ть, пошвыря́ть.
**ПАКІДА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* покида́ть, оставля́ть; **2.** (*переставать*) броса́ть; 1, 2 *см.* **пакі́нуць.**
**ПАКІ́ДВАЦЬ** *несов.* побра́сывать, пошвы́ривать.
**ПАКІ́ДЗІШЧА** *ср. разг. презр.* отре́бье.
**ПАКІ́НУТЫ** *в разн. знач.* поки́нутый, оста́вленный; *см.* **пакі́нуць** 1; ✧ **~тыя зе́млі** бро́совые зе́мли.
**ПАКІ́НУЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* поки́нуть, оста́вить; **на каго́ ты нас ~нуў?** на кого́ ты нас поки́нул (оста́вил)?; **п. ро́дны го́рад** поки́нуть (оста́вить) родно́й го́род; **ён не ~нуў тава́рыша ў бядзе́** он не поки́нул (не оста́вил) това́рища в беде́; **п. рабо́ту** оста́вить рабо́ту; **п. на за́ўтра** оста́вить на за́втра; **п. сцэ́ну** поки́нуть (оста́вить) сце́ну; **п. запі́ску** оста́вить запи́ску; **яго́ ~нулі на ране́йшай паса́дзе** его́ оста́вили на пре́жней до́лжности; **2.** (*перестать*) бро́сить; **п. куры́ць** бро́сить кури́ть.
**ПАКІПЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** покипе́ть; **2.** *перен.* покипяти́ться.
**ПАКІПЯЦІ́ЦЦА** *сов.* покипяти́ться.
**ПАКІПЯЦІ́ЦЬ** *сов.* покипяти́ть.
**ПАКІРАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** *разг.* (*лодкой, автомобилем, лошадьми и т. п.*) попра́вить; **2.** *разг.* поруководи́ть; **3.** *разг.* (*дать направление*) напра́вить, поверну́ть.
**ПА-КІРГІ́ЗСКУ** *нареч.* по-кирги́зски.
**ПАКІ́СНУЦЬ** *сов.* **1.** (*о многом*) ски́снуть, проки́снуть; **2.** (*нек-рое время*) поки́снуть.

**ПАКІСТА́Н** *м.* Пакиста́н.
**ПАКІСТА́НСКІ** пакиста́нский.
**ПАКІТАВА́НЫ** *и* **ПАКІТО́ВАНЫ** зама́занный; *см.* **пакітава́ць.**
**ПАКІТАВА́ЦЬ** *сов.* (*во множестве — окна*) зама́зать.
**ПА-КІТА́ЙСКУ** *нареч.* по-кита́йски.
**ПАКІТО́ВАНЫ** *см.* **пакітава́ны.**
**ПАККА́МЕРА** *ж. тех.* пакка́мера.
**ПАКЛА́Д** *м. см.* **пакла́ды.**
**ПАКЛАДА́ННЕ** *ср.* холоще́ние, выхола́щивание, кастра́ция *ж.*, оскопле́ние.
**ПАКЛАДА́НЫ** 1. *прич.* холощённый, кастри́рованный, оскоплённый; **2.** *прил.* холощёный, кастри́рованный, оскоплённый.
**ПАКЛАДА́ЦЦА** *несов. страд.* холости́ться, выхола́щиваться, кастри́роваться, оскопля́ться.
**ПАКЛАДА́ЦЬ** *несов.* холости́ть, выхола́щивать, кастри́ровать, оскопля́ть.
**ПАКЛА́ДЗЕНЫ** **1.** поло́женный; уло́женный; **2.** уло́женный; 1, 2 *см.* **пакла́сці.**
**ПАКЛА́ДЫ,** *ед.* **пакла́д** *геол.* залега́ние *ср.*; за́лежи.
**ПАКЛА́ЖА** *ж.* покла́жа, кладь.
**ПАКЛАНЕ́ННЕ** *ср.* **1.** поклоне́ние; **2.** (*каму*) поклоне́ние, преклоне́ние (*перед кем*).
**ПАКЛАНІ́ЦЦА** *сов.* поклони́ться.
**ПАКЛАНЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** поклоня́ться; **2.** (*каму*) поклоня́ться, преклоня́ться (*перед кем*).
**ПАКЛАПАТА́ЦЬ** *сов.* похлопота́ть.
**ПАКЛАПАЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*аб кім-чым*) позабо́титься, поради́ть (*кому-чему, о чём*); призре́ть (*кого-что*); **2.** похлопота́ть; **3.** распоряди́ться.
**ПАКЛА́СЦІ** *сов.* (*всё, многое, многих*) **1.** *в разн. знач.* положи́ть; (*поместить — ещё*) уложи́ть; **п. снапы́ на воз** положи́ть снопы́ на теле́гу; **п. кні́гі ў партфе́ль** положи́ть кни́ги в портфе́ль; **п. рэ́чы ў чамада́н** положи́ть (уложи́ть) ве́щи в чемода́н; **п. хво́рых у бальні́цу** положи́ть больны́х в больни́цу; **2.** (*спать*) уложи́ть; **п. дзяце́й спаць** уложи́ть дете́й спать.
**ПАКЛА́СЦІСЯ** *сов.* (*обо всех, многих*) лечь; **дзе́ці ра́на ~ла́ліся спаць** де́ти ра́но легли́ спать.
**ПАКЛЕ́ЕНЫ** 1. окле́енный, обкле́енный; **2.** перекле́енный; 1, 2 *см.* **паклеі́ць.**
**ПАКЛЕ́ІЦЬ** *сов.* **1.** (*покрыть чем-л., наклеивая*) окле́ить, обкле́ить; **2.** (*всё, многое*) перекле́ить.
**ПАКЛЕЙМАВА́НЫ** переклеймённый; *см.* **паклеймава́ць** 1.
**ПАКЛЕЙМАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*всё, многое*) переклейми́ть; **2.** (*нек-рое время*) поклейми́ть.
**ПАКЛЕ́НЧЫЦЬ** *сов.* покля́нчить.
**ПАКЛЁП** *м.* поклёп, клевета́ *ж.*, кля́уза *ж.*, напра́слина *ж.*; **узве́сці п.** возвести́ (взвести́) поклёп, наклевета́ть.
**ПАКЛЁПНІК** *м.* клеветни́к, кля́узник, я́бедник.
**ПАКЛЁПНІЦА** *ж.* клеветни́ца, кля́узница, я́бедница.
**ПАКЛЁПНІЦКІ** клеветни́ческий, кля́узнический, кля́узный.
**ПАКЛЁПНІЦТВА** *ср.* клевета́ *ж.*, кля́узничество.
**ПАКЛЁПНІЧАЦЬ** *несов.* клевета́ть, кля́узничать, я́бедничать.
**ПАКЛІ́КАНЫ** 1. по́званный, окли́кнутый; **2.** по́званный, подо́званный; подма́ненный, подманённый; **3.** приглашённый, по́званный; **4.** при́званный; 1—4 *см.* **паклі́каць.**
**ПАКЛІ́КАЦЬ** *сов.* **1.** позва́ть, окли́кнуть; **2.** (*подозвать к себе*) позва́ть, подозва́ть; подмани́ть (*голосом*); **3.** пригласи́ть, позва́ть; **п. у го́сці** пригласи́ть (позва́ть) в го́сти; **4.** (*на што*) призва́ть (*к чему, на что*); **п. на дапамо́гу** призва́ть на по́мощь; **п. да збро́і** призва́ть к ору́жию.
**ПАКЛО́Н** *м.* покло́н; **зямны́ п.** земно́й покло́н; ✧ **ісці́ з ~нам** идти́ с покло́ном (на покло́н).

**ПАКЛО́ННІК** *м.* **1.** (*почитатель*) покло́нник; **2.** (*влюблённый*) покло́нник, вздыха́тель.

**ПАКЛО́ННІЦА** *ж.* **1.** (*почитательница*) покло́нница; **2.** (*влюблённая*) покло́нница, вздыха́тельница.

**ПАКЛЫ́ПАЦЬ** *сов. прост.* поковыля́ть.

**ПАКЛЫ́ЧАНЫ** *разг.* помя́тый; поко́мканный, всклоченный.

**ПАКЛЫ́ЧЫЦЬ** *сов. разг.* помя́ть; поко́мкать, всклочить.

**ПАКЛЯВА́ЦЬ** I *сов. разг.* (*о рыбе*) **1.** (*все, многое*) склева́ть; **2.** (*нек-рое время*) поклева́ть.

**ПАКЛЯВА́ЦЬ** II *несов.* па́клить.

**ПАКЛЯПА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) поклепа́ть; **2.** (*косу*) отби́ть.

**ПАКЛЯСЦІ́** *сов.* прокля́сть.

**ПАКЛЯСЦІ́СЯ** *сов.* покля́сться; дать кля́тву.

**ПАКО́ВАЧНЫ** *тех.* поко́вочный.

**ПАКО́Й** *м.* **1.** ко́мната *ж.*; **прыёмны п.** приёмный поко́й; приёмная; **пярэ́днi п.** пере́дняя; **п. для чака́ння** ожида́льня; **2.** *только мн. уст.* поко́и, хоро́мы.

**ПАКО́ЙЧЫК** *м. уменьш.-ласк.* ко́мнатка *ж.*

**ПАКО́ЛАНЫ** *см.* **пако́латы.**

**ПАКО́ЛАТЫ** **1.** поко́лотый, переко́лотый; поре́занный, прире́занный; **2.** иско́лотый; **3.** иско́лотый, поко́лотый; **4.** поко́лотый; 1—4 *см.* **пакало́ць.**

**ПАКО́ЛВАННЕ** *ср.* пока́лывание.

**ПАКО́ЛВАЦЬ** *несов.* пока́лывать.

**ПАКО́ЛЬКІ** *союз* поско́льку.

**ПАКО́НЧЫЦЬ** *сов. см.* **ско́нчыць.**

**ПАКО́ПАНЫ** *см.* **пакапа́ны.**

**ПАКО́РА** *ж.* **1.** поко́рность; подчине́ние *ср.*; **трыма́ць у ~ры** держа́ть в подчине́нии; **2.** (*о чувстве*) смире́ние *ср.*

**ПАКО́РАНЫ** **1.** покорённый, подчинённый; **2.** покорённый; *см.* **пакары́ць** I.

**ПАКО́РЛІВА** *нареч.* поко́рно, смире́нно, безро́потно.

**ПАКО́РЛІВАСЦЬ** *ж.* поко́рность, смире́нность, безро́потность.

**ПАКО́РЛІВЫ** поко́рный, смире́нный, безро́потный.

**ПАКО́РМ, -му** *м. обл.* кормёжка *ж.*

**ПАКО́РМЛЕНЫ** поко́рмленный.

**ПАКО́РНА** *нареч.* поко́рно, смире́нно, безро́потно, кро́тко.

**ПАКО́РНАСЦЬ** *ж.* поко́рность, смире́нность, безро́потность, кро́тость.

**ПАКО́РНЫ** поко́рный, смире́нный, безро́потный, кро́ткий; ✧ **ваш п. слуга́** *уст.* ваш поко́рный слуга́; **~ная про́сьба** *уст.* поко́рнейшая про́сьба.

**ПАКО́РПАЦЦА** *и* **ПАКАРПА́ЦЦА** *сов. разг.* **1.** поковыря́ться; **2.** *перен.* поковыря́ться, покопа́ться.

**ПАКО́РПАЦЬ** *и* **ПАКАРПА́ЦЬ** *сов. прям., перен. разг.* поковыря́ть.

**ПАКО́СТ, -ту** *м.* оли́фа *ж.*

**ПАКО́ЎЗАЦЦА** *сов. разг.* **1.** поката́ться; **п. на канька́х** поката́ться на конька́х; **2.** поело́зить.

**ПАКО́ЎЗВАЦЦА** *несов.* поска́льзываться.

**ПАКО́ЎКА** I *ж.* **1.** (*действие*) пако́вка; тюко́вка; **2.** (*обёртка*) пако́вка.

**ПАКО́ЎКА** II *ж. тех.* поко́вка; ко́вка.

**ПАКО́ЎНАСЦЬ** *ж.* ёмкость, вмести́тельность.

**ПАКО́ЎНЫ** ёмкий, вмести́тельный.

**ПАКО́ЧАНЫ** **1.** пока́ченный; **2.** *разг.* пова́ленный; 1, 2 *см.* **пакаці́ць** 1, 3.

**ПАКО́ША** *ж.* ско́шенный луг.

**ПАКО́ШАНЫ** I поко́шенный; *см.* **пакасі́ць** I.

**ПАКО́ШАНЫ** II ско́шенный; *см.* **пакасі́ць** II 1.

**ПАКПІ́ЦЬ** (*з каго-чаго*) *сов.* поиздева́ться (*над кем-чем*), пошути́ть зло (*над кем-чем*).

**ПАКРА́ДВАЦЬ** *несов. разг.* поворо́вывать.

**ПАКРА́ДЗЕНЫ** поворо́ванный, покра́денный; похи́щенный; уведённый, у́гнанный; *см.* **пакра́сці.**

**ПАКРА́ЖА** *ж.* **1.** (*действие*) покра́жа, кра́жа; **2.** (*украденная вещь*) покра́жа.

**ПАКРА́КАЦЬ** *сов.* покря́кать.

**ПАКРА́КВАЦЬ** *несов.* покря́кивать.

**ПАКРАКТА́ЦЬ** *сов. см.* **пакрахта́ць.**

**ПАКРА́ПАНЫ** покра́панный; *см.* **пакра́пацъ** 2.

**ПАКРА́ПАЦЬ** *сов.* **1.** (*о дожде*) покра́пать, пока́пать; **2.** (*покрыть крапом*) покра́пать.

**ПАКРА́ПВАННЕ** *ср.* покра́пывание, пока́пывание; *см.* **пакра́пваць.**

**ПАКРА́ПВАЦЬ** *несов.* (*о дожде*) покра́пывать, пока́пывать.

**ПАКРАПІ́ЦЬ** *сов.* покропи́ть.

**ПАКРАСАВА́ЦЦА** *сов.* (*нек-рое время*) **1.** покрасова́ться; **2.** *разг.* пожи́ть сча́стливо.

**ПАКРА́СЦІ** *сов.* (*всё, многое*) поворова́ть, покра́сть; похи́тить; (*животных — ещё*) увести́, угна́ть.

**ПАКРА́ТАНЫ** потро́ганный.

**ПАКРА́ТАЦЦА** *сов.* подви́гаться, пошевели́ться.

**ПАКРА́ТАЦЬ** *сов.* **1.** потро́гать; **2.** подви́гать.

**ПАКРАХТА́ЦЬ** *сов.* покряхте́ть.

**ПАКРО́ВЫ** *ед. нет церк.* покро́в *м.*

**ПАКРО́ЕНЫ** перекро́енный, покро́енный; поре́занный, наре́занный; *см.* **пакро́іць** 1.

**ПАКРО́ІЦЬ** *сов.* **1.** (*всё, многое*) перекрои́ть, покрои́ть; (*хлеб и т. п.*) поре́зать, наре́зать; **2.** (*нек-рое время*) покрои́ть; (*хлеб и т. п.*) поре́зать.

**ПАКРО́ПЛЕНЫ** покроплённый.

**ПАКРО́ЧЫЦЬ** *сов.* пошага́ть.

**ПАКРУГЛЕ́ЦЬ** *сов.* покругле́ть.

**ПАКРУЖЫ́ЦЦА** *сов.* покружи́ться.

**ПАКРУЖЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* покружи́ть; **самалёт ~жы́ў над го́радам** самолёт покружи́л над го́родом; **мы здо́рава ~жы́лі, паку́ль не вы́біліся на даро́гу** мы здо́рово покружи́ли, пока́ не вы́брались на доро́гу.

**ПАКРУХМА́ЛЕНЫ** покрахма́ленный.

**ПАКРУХМА́ЛІЦЬ** *сов.* покрахма́лить.

**ПА-КРУЦЕ́ЛЬСКУ** *нареч. разг.* плутовски́, моше́ннически.

**ПАКРУЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** сверну́ться; **лісты́ папе́ры ~ці́ліся** листы́ бума́ги сверну́лись; **2.** (*нек-рое время*) покрути́ться, поверте́ться; покружи́ться; **3.** (*принять другое положение*) поверну́ться; **4.** поверте́ться, поёрзать; **5.** *разг.* (*пробыть нек-рое время где-л.*) поверте́ться; **п. ў пако́і і пайсці́** поверте́ться в ко́мнате и уйти́; **6.** *разг.* (*о любовных отношениях*) покрути́ть.

**ПАКРУЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*привести в круговое движение*) покрути́ть, поверте́ть; **2.** (*придать иное положение*) поверну́ть; **3.** (*нек-рое время*) покрути́ть, поверте́ть; покружи́ть; **4.** (*сверлом — отверстия*) просверли́ть, вы́сверлить; **5.** *безл.* покорёжить, искорёжить.

**ПАКРУ́ЧАНЫ** **1.** покру́ченный, пове́рченный; **2.** повёрнутый; **3.** просверлённый, вы́сверленный; **4.** покорёженный, искорёженный; 1—4 *см.* **пакруці́ць** 1, 2, 4, 5.

**ПАКРУЧА́СТЫ** **1.** вьющийся; **п. плюшч** вью́щийся плющ; **2.** изви́листый; **~тая сцё́жка** изви́листая тропа́.

**ПАКРУ́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** враща́ться, верте́ться; **2.** (*беспокойно сидеть*) ёрзать, верте́ться.

**ПАКРУ́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** враща́ть, повёртывать; **2.** (*держа в руках*) покру́чивать.

**ПАКРЫВА́ВІЦЬ** *сов. разг.* (*всё, многое*) окрова́вить.

**ПАКРЫВА́ЛА** *ср.* покрыва́ло.

**ПАКРЫВА́ННЕ** *ср.* покрыва́ние; *см.* **пакрыва́ць.**

**ПАКРЫВА́ЎЛЕНЫ** *разг.* окрова́вленный; *см.* **пакрыва́віць.**

**ПАКРЫВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* покрыва́ться; *см.* **пакры́цца, пакрыва́ць.**

**ПАКРЫВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* покрыва́ть; *см.* **пакры́ць.**

**ПАКРЫВЕ́Ц, -рыўцу́** *м. бот.* волови́к.

**ПАКРЫВІ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*стать кривым*) покриви́ться, покоси́ться, перекоси́ться; **2.** (*обо всём, многом*) искриви́ться, перекоси́ться.

**ПАКРЫВІ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*сделать кривым*) покриви́ть, покоси́ть, перекоси́ть; **2.** (*всё, многое*) искриви́ть, перекоси́ть.

**ПАКРЫ́КВАННЕ** *ср.* покри́кивание; *см.* **пакры́кваць.**

**ПАКРЫ́КВАЦЬ** *несов.* (*на кого-л.*) покри́кивать, прикри́кивать.

**ПАКРЫСЕ́** *нареч.* **1.** понемно́гу; **2.** постепе́нно.

**ПАКРЫТАНАСЕ́ННЫЯ** *сущ. мн. бот.* покрытосемя́нные, покрытосеменны́е.

**ПАКРЫ́ТЫ** *в разн. знач.* покры́тый; *см.* **пакры́ць.**

**ПАКРЫТЫКАВА́ЦЬ** *сов.* покритикова́ть.

**ПАКРЫЎДАВА́ЦЬ** *сов.* оби́деться.

**ПАКРЫ́ЎДЖАНЫ** оби́женный; ✧ **п. бо́гам** бо́гом оби́женный.

**ПАКРЫ́ЎДЗІЦЦА** *сов.* оби́деться.

**ПАКРЫ́ЎДЗІЦЬ** *сов.* оби́деть.

**ПАКРЫ́ЎЛЕНЫ** **1.** покривлённый, поко́шенный, переко́шенный; **2.** искривлённый, переко́шенный; 1,2 *см.* **пакрыві́ць.**

**ПАКРЫ́ЎЛЯЦЦА** *сов.* **1.** покривля́ться, погрима́сничать; попая́сничать; **2.** полома́ться, пожема́ниться, пожема́нничать.

**ПАКРЫ́ЦЦА** *сов.* покры́ться; **зямля́ ~ры́лася сне́гам** земля́ покры́лась сне́гом.

**ПАКРЫЦЦЁ** *ср.* **1.** (*действие*) покры́тие; **2.** (*материал, которым покрывают что-л.*) покры́тие; **асфа́льтавае п. даро́гі** асфа́льтовое покры́тие доро́ги; **3.** (*верхний слой, покрывающий что-л.*) покро́в *м.*; **сне́жнае п.** сне́жный покро́в; ✧ **пад ~цццём чаго-не́будзь** под покро́вом чего́-л.

**ПАКРЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* покры́ть; **п. дом чарапі́цай** покры́ть дом черепи́цей; **снег ~ры́ў зямлю** снег покры́л зе́млю; **п. даўгі́** покры́ть долги́; **п. саўдзе́льнікаў** покры́ть соо́бщников; **лы́жнік ~ры́ў двухкіламе́травую дыста́нцыю за дзе́сяць хвілі́н** лы́жник покры́л двухкилометро́вую диста́нцию за де́сять мину́т; **п. вале́та да́май** покры́ть вале́та да́мой.

**ПАКРЫЧА́ЦЬ** *сов.* **1.** покрича́ть; **2.** (*на каго*) побрани́ть (*кого*).

**ПАКРЫ́ШАНЫ** **1.** покро́шенный; поре́занный; дроблённый; **2.** измельчённый, размельчённый; **3.** *перен. разг.* сокрушённый; 1—3 *см.* **пакрышы́ць.**

**ПАКРЫ́ШАЧНЫ** покры́шечный.

**ПАКРЫ́ШКА** *ж.* покры́шка.

**ПАКРЫ́ШКУ** *нареч.* понемно́жку.

**ПАКРЫШЫ́ЦЦА** *сов.* перекроши́ться, искроши́ться; подроби́ться; *см.* **крышы́цца** 1.

**ПАКРЫШЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* покроши́ть; (*ножом — ещё*) поре́зать; (*твёрдое*) подроби́ть; **2.** измельчи́ть, размельчи́ть; **3.** *перен. разг.* (*уничтожить*) сокруши́ть; 1—3 *см.* **крышы́ць.**

**ПАКРЭ́КТВАННЕ** *ср. см.* **пакрэ́хтванне.**

**ПАКРЭ́КТВАЦЬ** *несов. см.* **пакрэ́хтваць.**

**ПАКРЭ́МЗАНЫ** *разг.* исчёрканный; испа́чканный; исцара́панный, поцара́панный; *см.* **пакрэ́мзаць.**

**ПАКРЭ́МЗАЦЬ** *сов. разг.* исчёркать; испа́чкать; (*чем-л. острым*) исцара́пать, поцара́пать.

**ПАКРЭ́ПНУЦЬ** *сов. разг.* (*о многом*) окочене́ть, закочене́ть; **па́льцы ~плі** па́льцы окочене́ли (закочене́ли).

**ПАКРЭ́СЛЕНЫ** почёрканный, пома́ранный; *см.* **пакрэ́сліць** 1.

**ПАКРЭ́СЛІЦЬ** *сов.* **1.** (*написанное*) почерка́ть, почёркать, помара́ть; **2.** почерти́ть; **п. па пяску́** почерти́ть на песке́.

**ПАКРЭ́ХТВАННЕ** *ср.* покря́хтывание.

**ПАКРЭ́ХТВАЦЬ** *несов.* покря́хтывать.

**ПАКТ** *м.* пакт; **п. аб ненапа́дзе** пакт о ненападе́нии.

**ПАКУДА́ХТАЦЬ** *сов. разг.* покуда́хтать.

**ПАКУДЛА́ЦІЦЦА** *и* **ПАКУДЛА́ЧЫЦЦА** *сов.* взъеро́шиться, взлохма́титься; спу́таться.

**ПАКУДЛА́ЦІЦЬ** *и* **ПАКУДЛА́ЧЫЦЬ** *сов. разг.* взъеро́шить, взлохма́тить; спу́тать.

**ПАКУДЛА́ЧАНЫ** *разг.* взъеро́шенный, взлохма́ченный; спу́танный.

**ПАКУДЛА́ЧЫЦЦА** *сов. см.* **пакудла́ціцца.**

**ПАКУДЛА́ЧЫЦЬ** *сов. см.* **пакудла́ціць.**

**ПАКУКАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*о кукушке*) покукова́ть; **2.** *перен. разг.* попры́гать, поскака́ть; **ну і пакуку́еш ты ў мяне́!** ну и попры́гаешь (поска́чешь) ты у меня!

**ПАКУКАРЭ́КАЦЬ** *сов.* покукаре́кать.

**ПА́КУЛЛЕ** *ср.* **1.** *собир.* па́кля *ж.*; **2.** *спец.* (*пучок пеньки или кудели*) пробо́йка *ж.*

**ПАКУ́ЛЬ** **1.** *союз* пока́, поку́да; **п. я жывы́, я бу́ду служы́ць радзі́ме** пока́ (поку́да) я жив, я бу́ду служи́ть ро́дине; **п. дайду́, бу́дзе ноч** пока́ (поку́да) дойду́, бу́дет ночь; **ён чака́ў, п. ве́рнуцца ўсе** он ожида́л, пока́ (поку́да) возвратя́тся все; **не пайду́ да той пары́, п. не ско́нчу рабо́ты** не уйду́ до тех пор, пока́ (поку́да) не око́нчу рабо́ту; **2.** *нареч.* (*в сочетании со словом* **што**) пока́, поку́да; (*в течение нек-рого времени — ещё*) пока́ что; **пажыві́це п. што тут** поживи́те пока́ (поку́да) здесь; **ён п. што задаво́лены** он пока́ что дово́лен; **3.** *нареч. разг.* (*до какого места*) доку́да; **п. нам задалі́ ўрок?** доку́да нам за́дали уро́к?; **4.** *нареч. разг. см.* **даку́ль** 2; ✧ **п.!** *разг.* пока́!; **п. што** а) (*до известного срока*) до поры́, до вре́мени, пока́ что; б) (*независимо от того, что может случиться потом*) пока́ что; **п. со́нца ўзы́йдзе, раса́ во́чы выесць** *посл.* пока́ со́лнце взойдёт, роса́ о́чи выест.

**ПАКУЛЬГА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) похрома́ть; **2.** (*пойти, хромая*) поковыля́ть.

**ПАКУ́ЛЬГВАЦЬ** *несов.* похра́мывать, прихра́мывать.

**ПАКУЛЯ́ЦЦА** *сов.* **1.** покувырка́ться; **2.** покати́ться ку́барем.

**ПАКУМІ́ЦЦА** *сов. прост. уст.* покуми́ться.

**ПАКУ́НАК, -нка** *м.* свёрток.

**ПАКУПА́НЫ** иску́панный.

**ПАКУПА́ЦЦА** *сов.* искупа́ться.

**ПАКУПА́ЦЬ** *сов.* покупа́ть, искупа́ть.

**ПАКУ́ПКА** *ж.* поку́пка; приобрете́ние *ср.*

**ПАКУПЛЯ́ЦЬ** *сов.* (*всё, многое*) купи́ть.

**ПАКУПНІ́К, -ка́** *м.* покупа́тель.

**ПАКУПНІ́ЦА** *ж.* покупа́тельница.

**ПАКУПНІ́ЦКІ** покупа́тельский.

**ПАКУПНЫ́** покупно́й, покупа́тельный; **~на́я здо́льнасць** покупна́я (покупа́тельная) спосо́бность.

**ПАКУРА́ЖЫЦЦА** *сов. разг.* покура́житься.

**ПАКУ́РАНЫ** **1.** *в разн. знач.* поку́ренный; **2.** иску́ренный, вы́куренный; 1, 2 *см.* **пакуры́ць.**

**ПАКУ́РВАЦЬ** *несов.* поку́ривать.

**ПАКУРО́ДЫМЕЦЬ** *сов.* покопти́ть, покопте́ть.

**ПАКУ́РЧАНЫ** покоро́бленный, покорёженный.

**ПАКУ́РЧВАЦЦА** *несов.* **1.** (*от боли*) ко́рчиться; **2.** (*от холода*) поёживаться, пожима́ться.

**ПАКУ́РЧЫЦЦА** *сов.* **1.** (*от боли*) поко́рчиться; **2.** (*от холода*) поёжиться, пожа́ться; **3.** (*стать неровным*) покоро́биться, покорёжиться.

**ПАКУ́РЧЫЦЬ** *сов.* покоро́бить, покорёжить.

**ПАКУРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* покури́ть; **п. лю́льку** покури́ть тру́бку; **дава́й паку́рым** дава́й поку́рим; **п. ла́данам** покури́ть ла́даном; **2.** искури́ть, вы́курить; **п. усе́ папяро́сы** искури́ть (вы́курить) все папиро́сы.

**ПАКУРЭ́ЦЬ** *сов.* покопте́ть.

**ПАКУСА́НЫ** поку́санный, иску́санный.

**ПАКУСА́ЦЬ** *сов.* покуса́ть, искуса́ть.

**ПАКУ́СВАЦЬ** *несов.* поку́сывать.

**ПАКУ́ТА** *ж.* страда́ние *ср.*, муче́ние *ср.*, терза́ние *ср.*, му́ка; мыта́рство *ср.*, пы́тка; **боль ~ты** боль страда́ния; **во́чы, по́ўныя ~ты** глаза́, по́лные страда́ния; **душэ́ўныя ~ты** душе́вные страда́ния (муче́ния, терза́ния, му́ки); **нечалаве́чыя ~ты** нечелове́ческие страда́ния (муче́ния, му́ки); **гэ́та п.** э́то муче́ние (пы́тка).

**ПАКУ́ТАВАЦЬ** *несов.* **1.** (*от чего-л.*) страда́ть; **п. ад бо́лю зубо́ў** страда́ть от зубно́й бо́ли; **2.** *без доп.* страда́ть, му́читься, терза́ться; **усё жыццё ~туе** всю жизнь страда́ет (му́чится, терза́ется).

**ПАКУ́ТЛІВА** *нареч.* мучи́тельно; томи́тельно; **п. до́ўга ду́маў стары́** мучи́тельно до́лго ду́мал стари́к.

**ПАКУ́ТЛІВАСЦЬ** *ж.* мучи́тельность; томи́тельность.

**ПАКУ́ТЛІВЫ 1.** страда́льческий; **2.** мучи́тельный; томи́тельный.

**ПАКУ́ТНА** *нареч. см.* **паку́тліва.**

**ПАКУ́ТНІК** *м.* страда́лец; му́ченик.

**ПАКУ́ТНІЦА** *ж.* страда́лица; му́ченица.

**ПАКУ́ТНІЦКІ** страда́льческий; му́ченический.

**ПАКУ́ТНІЦТВА** *ср.* му́ченичество.

**ПАКУ́ТНЫ** *см.* **паку́тлівы.**

**ПАКУХА́РЫЦЬ** *сов. разг.* постря́пать.

**ПАЛА́БСКІ** пола́бский; **~кія славя́не** пола́бские славя́не.

**ПАЛАВЕ́ЦКІ** полове́цкий.

**ПАЛАВЕ́ЦЬ** *несов.* желте́ть, принима́ть поло́вую окра́ску.

**ПАЛАВІ́К, -ка́** *м.* полови́к.

**ПАЛАВІ́НА** *ж. в разн. знач.* полови́на; **п. трэ́цяга** полови́на тре́тьего; **п. до́ма** полови́на до́ма.

**ПАЛАВІ́НІЦЬ** *несов. разг.* дели́ть попола́м.

**ПАЛАВІ́НКА** *ж.* **1.** *уменьш.* полови́нка; **2.** (*двери и т. п.*) створ *м.*, ство́рка.

**ПАЛАВІ́ННЫ 1.** полови́нный; **2.** *ист.* испо́льный.

**ПАЛАВІ́НЧАТАСЦЬ** *ж.* полови́нчатость.

**ПАЛАВІ́НЧАТЫ 1.** полови́нчатый; **2.** *перен.* полови́нчатый; компроми́ссный, середи́нный.

**ПАЛАВІ́НШЧЫК** *м.* **1.** полови́нщик; **2.** *ист.* испо́льщик.

**ПАЛАВІ́НШЧЫНА** *ж. ист.* испо́льщина.

**ПАЛАВІ́РАВАЦЬ** *сов.* полави́ровать.

**ПАЛАВІ́ЦЬ** *сов.* **1.** полови́ть, перелови́ть; **2.** (*нек-рое время*) полови́ть.

**ПАЛАВЫ́** I поло́во́й; **~вы́я о́рганы** половы́е о́рганы.

**ПАЛАВЫ́** II (*о масти*) поло́вый; (*желтоватый со светлыми хвостом и гривой — о лошади*) соло́вый; (*о подобной масти коровы*) све́тло-бу́рый.

**ПАЛАГАДНЕ́ЦЬ** *сов.* подобре́ть; сде́латься мя́гче (доброду́шнее); стать бо́лее покла́дистым.

**ПАЛАГРА́Ф** *м. мор.* паллогра́ф.

**ПАЛАДЗІ́Н** *м.* палади́н.

**ПАЛА́ДЗІЦЬ** *сов.* **1.** (*прийти к соглашению*) пола́дить, согласи́ться, сойти́сь; **мы з ім ~дзілі на тым, што адзі́н друго́му ўступі́лі** мы с ним пола́дили, уступи́в друг дру́гу; **2.** (*уладить ссору*) помири́ться; **мы ~дзілі ўжо** мы уже́ помири́лись; **3.** (*всё, многое отремонтировать*) нала́дить, перечини́ть, испра́вить, почини́ть; **за ме́сяц усё ~дзіў** за ме́сяц всё перечини́л (испра́вил, почини́л).

**ПАЛА́ДЫЙ, -дыю** *м. хим.* палла́дий.

**ПАЛАЖЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* положи́ть; **п. кні́гу ў партфе́ль** положи́ть кни́гу в портфе́ль; **п. гро́шы на кні́жку** положи́ть де́ньги на кни́жку; **п. рэ́чы ў чамада́н** положи́ть ве́щи в чемода́н; **п. хво́рага ў бальні́цу** положи́ть больно́го в больни́цу; **2.** настла́ть; **п. падло́гу** настла́ть пол; **3.** уложи́ть; **п. дзіця́ спаць** уложи́ть ребёнка спать; ✧ **п. жыццё** положи́ть жизнь; **п. сі́лы (пра́цу)** положи́ть си́лы (труд); **п. пача́так (кане́ц) чаму-не́будзь** положи́ть нача́ло (коне́ц) чему́-л.; **п. на (абе́дзьве) лапа́ткі** положи́ть на (о́бе) лопа́тки; **як бог на душу́ пало́жыць** как бог на́ душу поло́жит.

**ПАЛАЖЭ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* положе́ние; **п. аб вы́барах** положе́ние о вы́борах; **асно́ўныя ~нні кні́гі** основны́е положе́ния кни́ги.

**ПАЛА́ЗІЦЬ** (*па кім-чым*) *сов.* пола́зить (*по кому-чему*), пола́зать (*по кому-чему*); **п. па дрэ́вах** пола́зить (пола́зать) по дере́вьям.

**ПАЛАКІРАВА́НЫ** покры́тый ла́ком, отлакиро́ванный, полакиро́ванный; перелакиро́ванный; *см.* **палакірава́ць** 1.

**ПАЛАКІРАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** покры́ть ла́ком, отлакирова́ть, полакирова́ть; (*всё, многое — ещё*) перелакирова́ть; **2.** (*нек-рое время*) полакирова́ть.

**ПАЛАМА́НЫ** *и* **ПАЛО́МАНЫ 1.** *прям.*, *перен.* поло́манный; сло́манный; **2.** поло́манный, перело́манный, изло́манный; 1, 2 *см.* **палама́ць** 1, 2.

**ПАЛАМА́ЦЦА** *сов.* **1.** полома́ться; слома́ться; **2.** (*во многих местах или целиком*) полома́ться.

**ПАЛАМА́ЦЬ** *сов.* **1.** *прям.*, *перен.* полома́ть; слома́ть; **п. мэ́блю** полома́ть ме́бель; **п. машы́ну** слома́ть маши́ну; **п. гра́фік** слома́ть гра́фик; **п. жыццё** полома́ть (слома́ть) жизнь; **2.** (*целиком, всё, многое*) полома́ть, перелома́ть, излома́ть; **3.** *безл.* (*о болезненном ощущении*) поломи́ть; **~ма́ла тро́хі ў баку́** поломи́ло немно́го в боку́; **4.** (*нек-рое время*) полома́ть.

**ПАЛАНЕ́З** *м.* полоне́з.

**ПАЛАНЕ́ННЕ** *ср.* плене́ние.

**ПАЛАНЁНЫ** *прям.*, *перен.* пленённый.

**ПАЛАНІЗАВА́НЫ** полонизи́рованный.

**ПАЛАНІЗАВА́ЦЦА 1.** *сов. и несов.* полонизи́роваться; **2.** *несов. страд.* полонизи́роваться.

**ПАЛАНІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* полонизи́ровать.

**ПАЛАНІЗА́ЦЫЯ** *ж.* полониза́ция.

**ПАЛАНІ́ЗМ, -му** *м. лингв.* полони́зм.

**ПАЛАНІ́ЦЬ** *сов. и несов. прям.*, *перен.* плени́ть/пленя́ть.

**ПАЛАНКІ́Н** *м.* паланки́н.

**ПАЛАНЦІ́Н** *м.* паланти́н.

**ПАЛАНЯ́НКА** *ж. поэт. уст.* пле́нница, полоня́нка.

**ПАЛАПАТА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*крыльями*) похло́пать; **2.** поболта́ть; **3.** (*невнятно, несвязно говорить нек-рое время*) полопота́ть.

**ПАЛА́ПІЦЬ** *сов. обл. см.* **пала́таць.**

**ПАЛА́ПЛЕНЫ** *обл. см.* **пала́таны.**

**ПАЛА́С** *м.* пала́с.

**ПАЛАСА́** *ж. в разн. знач.* полоса́; **чарназёмная п.** чернозёмная полоса́; **п. агню́** *воен.* полоса́ огня́; **п. рэа́кцыі** полоса́ реа́кции; **п. до́брага надво́р'я** полоса́ хоро́шей пого́ды.

**ПАЛАСАВА́ЛЬНЫ** *спец.* полосова́льный.

**ПАЛАСАВА́ННЕ** *ср.* полосова́ние; *см.* **паласава́ць.**

**ПАЛАСАВА́НЫ** *в разн. знач.* полосо́ванный; *см.* **паласава́ць.**

**ПАЛА́САВАЦЦА** *сов.* пола́комиться.

**ПАЛА́САВАЦЬ** *сов. разг.* (*угостить*) пола́комить.

**ПАЛАСАВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* полосова́ть; **п. жале́за** полосова́ть желе́зо; **п. пу́гай** полосова́ть кнуто́м.

**ПАЛАСАВЫ́** полосово́й, полосно́й; **~во́е жале́за** полосово́е желе́зо.

**ПАЛАСА́ТАСЦЬ** *ж.* полоса́тость.

**ПАЛАСА́ТЫ** полоса́тый.

**ПАЛАСА́ЦІК** *м. зоол.* полоса́тик.

**ПАЛАСКАВЕ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** уми́лостивиться, сде́латься ми́лостивее (снисходи́тельнее); **2.** сде́латься ла́сковее.

**ПАЛАСКА́ЛЬНІЦА** *ж.* полоска́тельница.

**ПАЛАСКА́ЛЬНЫ** полоска́тельный.

**ПАЛАСКА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* полоска́ние; **п. бялі́званы** полоска́ние белья́; **заказа́ць п. для го́рла** заказа́ть полоска́ние для го́рла.

**ПАЛАСКА́НЫ** *в разн. знач.* поло́сканный; *см.* **паласка́ць** 1.

**ПАЛАСКАТА́ЦЬ** *сов. обл.* пощекота́ть.

**ПАЛАСКА́ЦЦА** *несов.* 1. полоска́ться, плеска́ться; **дзе́ці ўвесь дзень пало́шчуцца ў рацэ́** де́ти весь день поло́щутся (пле́щутся) в реке́; 2. *страд.* полоска́ться; *см.* **паласка́ць** 1.

**ПАЛАСКА́ЦЬ** *несов.* 1. *в разн. знач.* полоска́ть; **п. бялі́зну** полоска́ть бельё; **п. го́рла** полоска́ть го́рло; 2.: **яго́ пало́шча** *безл. разг.* у него́ поно́с.

**ПАЛА́ТА** *ж. в разн. знач.* пала́та; **п. ў бальні́цы** пала́та в больни́це; **п. ло́рдаў** пала́та ло́рдов; **п. абшчы́н** пала́та о́бщин; **п. мер і вагі́** пала́та мер и весо́в; **гандлёвая п.** торго́вая пала́та.

**ПАЛАТАЛІЗАВА́НЫ** *лингв.* палатализи́рованный, палатализо́ванный.

**ПАЛАТАЛІЗАВА́ЦЦА** *сов. и несов. лингв.* палатализи́роваться, палатализова́ться.

**ПАЛАТАЛІЗА́ЦЫЯ** *ж. лингв.* палатализа́ция.

**ПАЛАТА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. лингв.* палата́льность.

**ПАЛАТА́ЛЬНЫ** *лингв.* палата́льный.

**ПАЛА́ТАНЫ** *разг.* почи́ненный, зала́танный; *см.* **пала́таць** 1.

**ПАЛА́ТАЦЬ** *сов. разг.* 1. (*всё, многое*) почини́ть, поста́вить запла́ты, залата́ть; **п. адзе́нне** почини́ть (залата́ть) оде́жду; 2. (*нек-рое время*) полата́ть.

**ПАЛА́ТАЧНЫ** *в разн. знач.* пала́точный; **п. ла́гер** пала́точный ла́герь; **п. га́ндаль** пала́точная торго́вля.

**ПАЛА́ТКА** *ж.* 1. *в разн. знач.* пала́тка; **хле́бная п.** хле́бная пала́тка; **прабі́рная п.** *ист.* проби́рная пала́тка; 2. *только мн.* пола́ти.

**ПАЛА́ТКАВЫ** *см.* **пала́тачны.**

**ПАЛАТНО́** *ср.* 1. *в разн. знач.* полотно́; (*картина — ещё*) холст *м.*; **шаўко́вае п.** шёлковое полотно́; **чыгу́начнае п.** железнодоро́жное полотно́; **п. канве́ера** полотно́ конве́йера; **п. вядо́мага мастака́** полотно́ (холст) изве́стного худо́жника; **эпі́чнае п.** эпи́ческое полотно́; 2. холст *м.*, холсти́на *ж.*; 3. *спец.* (*часть инструмента*) полотно́, поло́тнище; **п. пілы́** полотно́ (поло́тнище) пилы́.

**ПАЛА́ТНЫ** пала́тный; **~ная сястра́** пала́тная сестра́.

**ПАЛАТНЯ́НЫ** 1. полотня́ный; **~ная вытво́рчасць** полотня́ное произво́дство; **~ная руба́шка** полотня́ная руба́шка; 2. (*из холста*) холщо́вый; холсти́нный.

**ПА-ЛАТЫ́НІ** *нареч.* по-латы́ни.

**ПА-ЛАТЫ́ШСКУ** *нареч.* по-латы́шски.

**ПАЛАЎЧА́НКА** *ж. ист.* половча́нка.

**ПАЛАХЛІ́ВА** *нареч.* пугли́во.

**ПАЛАХЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* пугли́вость.

**ПАЛАХЛІ́ВЫ** пугли́вый.

**ПАЛА́Ц** *м.* дворе́ц; **П. піяне́раў** Дворе́ц пионе́ров; **П. пра́цы** Дворе́ц труда́.

**ПАЛА́ЦАВЫ** дворцо́вый.

**ПАЛАЦЁР** *м.* полотёр.

**ПАЛАЦЁРНЫ** полотёрный.

**ПАЛАЦЁРСКІ** полотёрский.

**ПАЛА́ЦІ** *ед. нет обл.* пола́ти.

**ПАЛА́ЦІЦЬ** *сов. стр.* обреше́тить, подреше́тить.

**ПАЛА́ЦЬ** I *несов.* 1. (*гореть*) пыла́ть, полыха́ть; 2. (*ярко светиться, сверкать*) пыла́ть, полыха́ть, пламене́ть.

**ПАЛА́ЦЬ** II *несов.* прове́ивать (*зерно с помощью специального корытца*).

**ПАЛА́ЧАНЫ** *стр.* обреше́ченный, подреше́ченный.

**ПА́ЛАЧКА** *ж.* 1. *в разн. знач.* па́лочка; **бараба́нныя ~кі** бараба́нные па́лочки; **дырыжо́рская п.** дирижёрская па́лочка; **п. Ко́ха** па́лочка Ко́ха; **чарадзе́йная п.** *фольк.* волше́бная па́лочка; ✧ **п.-выруча́лачка** па́лочка-выруча́лочка.

**ПА́ЛАЧКАВЫ** *бакт.* па́лочковый.

**ПА́ЛАЧНЫ** *прям., перен.* па́лочный; **~ныя ўда́ры** па́лочные уда́ры; **~ная дысцыплі́на** па́лочная дисципли́на.

**ПАЛА́Ш, -ша́** *м. воен.* пала́ш.

**ПАЛА́ШЧЫЦЦА** *сов.* поласка́ться, пола́ститься.

**ПАЛА́ШЧЫЦЬ** *сов.* поласка́ть.

**ПАЛА́ЯНЫ** пору́ганный; *см.* **пала́яць.**

**ПАЛА́ЯЦЦА** *сов. в разн. знач.* поруга́ться, побрани́ться; **ён лю́біць п.** он лю́бит поруга́ться (побрани́ться); **п. з сусе́дам** поруга́ться (побрани́ться) с сосе́дом.

**ПАЛА́ЯЦЬ** *сов.* поруга́ть, побрани́ть, пробра́ть; **п. за спазне́нне** поруга́ть (побрани́ть, пробра́ть) за опозда́ние; **п. кні́гу** поруга́ть кни́гу.

**ПАЛГА́ЦЬ** *сов.* полга́ть, поврáть.

**ПАЛЕААЗІЯ́ТЫ** палеоазиа́ты.

**ПАЛЕААЗІЯ́ЦКІ** палеоазиа́тский.

**ПАЛЕААРКТЫ́ЧНЫ** палеоаркти́ческий.

**ПАЛЕАБАТА́НІКА** *ж. палеонт.* палеобота́ника.

**ПАЛЕАБАТАНІ́ЧНЫ** *палеонт.* палеоботани́ческий.

**ПАЛЕАГЕАГРА́ФІЯ** *ж. геол.* палеогеогра́фия.

**ПАЛЕАГЕ́Н, -ну** *м. геол.* палеоге́н.

**ПАЛЕАГРАФІ́СТ** *м.* палеографи́ст.

**ПАЛЕАГРАФІ́ЧНЫ** палеографи́ческий.

**ПАЛЕАГРА́ФІЯ** *ж.* палеогра́фия.

**ПАЛЕАЗААЛО́ГІЯ** *ж. палеонт.* палеозооло́гия.

**ПАЛЕАЗА́ЎР** *м. палеонт.* палеоза́вр.

**ПАЛЕАЗО́Й, -зо́ю** *м. геол.* палеозо́й.

**ПАЛЕАЗО́ЙСКІ** *геол.* палеозо́йский.

**ПАЛЕАЛІ́Т, -ту** *м. археол.* палеоли́т.

**ПАЛЕАЛІТЫ́ЧНЫ** *археол.* палеолити́ческий.

**ПАЛЕАНТАЛАГІ́ЧНЫ** палеонтологи́ческий.

**ПАЛЕАНТАЛО́ГІЯ** *ж.* палеонтоло́гия.

**ПАЛЕАНТО́ЛАГ** *м.* палеонто́лог.

**ПАЛЕАТЭ́РЫЙ** *м. палеонт.* палеоте́рий.

**ПАЛЕАФІТАЛО́ГІЯ** *ж. палеонт.* палеофитоло́гия.

**ПА́ЛЕВЫ** I (*о цвете*) па́левый.

**ПА́ЛЕВЫ** II сва́йный; **~выя рабо́ты** сва́йные рабо́ты.

**ПАЛЁГЛЫ** (*о злаках и т. п.*) полёглый.

**ПАЛЁГЧАНЫ** *в разн. знач.* облегчённый.

**ПАЛЁГЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **палягча́цца.**

**ПАЛЁГЧВАЦЬ** *несов. см.* **палягча́ць** I.

**ПАЛЁГЧЫ** *сов. в разн. знач.* поле́чь; **усе́ паляглі́ спаць** все полегли́ спать; **п. ў бая́х** поле́чь в боя́х; **жы́та палягло́** рожь полегла́.

**ПАЛЁГЧЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* облегчи́ть.

**ПАЛЁЖВАЦЬ** *несов. разг.* полёживать.

**ПАЛЕ́ЗЦІ** *сов.* 1. *в разн. знач.* поле́зть; **п. на дрэ́ва** поле́зть на де́рево; **хлапчукі́ ~злі ў сад** мальчи́шки поле́зли в сад; **п. бі́цца** поле́зть дра́ться; **п. ў кішэ́нь** поле́зть в карма́н; 2. (*о волосах, шерсти и т. п.*) нача́ть лезть.

**ПАЛЕМІЗАВА́ЦЬ** *несов.* полемизи́ровать.

**ПАЛЕ́МІКА** *ж.* поле́мика.

**ПАЛЕМІ́СТ** *м.* полеми́ст.

**ПАЛЕМІ́ЧНЫ** полеми́ческий, полеми́чный.

**ПАЛЕ́НА** *ср.* 1. поле́но; 2. *перен. бран.* (*о тупом, глупом человеке*) бревно́, чурба́н *м.*

**ПАЛЕНАВА́ЦЦА** *сов.* полени́ться.

**ПА-ЛЕ́НІНСКУ** *нареч.* по-ле́нински.

**ПАЛЕ́ННЕ** I *ср.* (*действие*) 1. жже́ние; 2. то́пка *ж.*; 3. о́бжиг *м.*, обжига́ние; 1—3 *см.* **палі́ць** I 1, 4, 5.

**ПАЛЕ́ННЕ** II *собир. ср.* поле́нья *мн.*; **на двар́э валя́лася п.** на дворе́ валя́лись поле́нья.

**ПА́ЛЕНЫ** 1. жжённый; 2. то́пленный; 3. обожжённый; 1—3 *см.* **палі́ць** I 1, 4, 5.

**ПАЛЕО́ГРАФ** *м.* палео́граф.

**ПАЛЕ́ПЛІВАЦЬ** *несов.* поле́пливать.

**ПАЛЕ́ПШАННЕ** *ср. см.* **паляпшэ́нне.**

**ПАЛЕ́ПШАНЫ** улу́чшенный.

**ПАЛЕ́ПШАЦЬ** *сов.* 1. стать лу́чше, улу́чшиться; 2.

**ПАСПЕ́ШЛІВЫ** торопли́вый.

**ПАСПЕ́ШНА** *нареч.* поспе́шно, торопли́во.

**ПАСПЕ́ШНАСЦЬ** *ж.* поспе́шность, торопли́вость.

**ПАСПЕ́ШНЫ** поспе́шный, торопли́вый.

**ПАСПІЛО́ЎВАНЫ** спи́ленный; *см.* **паспіло́ўваць.**

**ПАСПІЛО́ЎВАЦЬ** *сов.* (*о многом*) спили́ть; *см.* **спіло́ўваць** 1.

**ПАСПІ́СВАЦЬ** *сов.* (*о многом*) списа́ть, поспи́сывать; исписа́ть; *см.* **спі́сваць** 1, 2.

**ПАСПІХА́ЦЬ** *и* **ПАСПІ́ХВАЦЬ** *сов. разг.* (*о многих, о многом*) столкну́ть; спихну́ть; свали́ть; *см.* **спіха́ць** I.

**ПАСПЛАЎЛЯ́ЦЬ** I *сов.* (*о многом*) спла́вить; *см.* **сплаўля́ць** I.

**ПАСПЛАЎЛЯ́ЦЬ** II *сов.* (*о многом*) спла́вить, перепла́вить; *см.* **сплаўля́ць** II 1.

**ПАСПЛЫВА́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) сплыть; уплы́ть; *см.* **сплыва́ць** 1, 2.

**ПАСПЛЯТА́ЦЦА** *сов.* (*о многом*) сплести́сь, переплести́сь.

**ПАСПО́ЙВАЦЬ** *сов. разг.* (*о многих*) спои́ть.

**ПАСПО́ЎЗВАЦЬ** *сов. см.* **паспаўза́ць.**

**ПАСПРАБАВА́НЫ** *см.* **папрабава́ны.**

**ПАСПРАБАВА́ЦЬ** *сов. см.* **папрабава́ць.**

**ПАСПРАГА́ЦЬ** *сов. разг.* (*о многих*) спрячь; *см.* **спрага́ць** I.

**ПАСПРАЎЛЯ́ЦЬ** *сов. разг.* (*о многих*) спра́вить, нажи́ть; *см.* **спраўля́ць** 1.

**ПАСПРАЧА́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* поспо́рить; **2.** поспо́рить, повздо́рить; попрепира́ться, попререка́ться; **3.** *перен.* поме́риться си́лами; поспо́рить, потяга́ться; 1—3 *см.* **спрача́цца** 1—3.

**ПАСПРЫЯ́ЦЬ** (*каму-чаму*) *сов.* **1.** поспосо́бствовать, поблагоприя́тствовать; **2.** благосклóнно (доброжела́тельно) отнести́сь (*к кому-чему*); 1, 2 *см.* **спрыя́ць.**

**ПАСПУСКА́ЦЦА** *сов. разг.* (*о многих, о многом*) спусти́ться; опусти́ться; *см.* **спуска́цца** 1.

**ПАСПУСКА́ЦЬ** *сов.* (*о многих, о многом*) спусти́ть; опусти́ть; свали́ть; све́сить; прости́ть; *см.* **спуска́ць** 1, 2, 4, 5.

**ПАСПЫТА́НЫ** **1.** отве́данный, попро́бованный; **2.** *перен. разг.* изве́данный, отве́данный; 1, 2 *см.* **паспыта́ць.**

**ПАСПЫТА́ЦЬ** (*што, чаго*) *сов.* **1.** (*поесть немного*) отве́дать, попро́бовать; **п. пірага́** отве́дать пирога́; **2.** *перен. разг.* (*испытать*) изве́дать (*что*), отве́дать, хлебну́ть (*чего*); **п. го́ра** изве́дать го́ре.

**ПАСПЯВА́ННЕ** *ср.* созрева́ние, поспева́ние.

**ПАСПЯВА́ЦЬ** I *сов.* попе́ть.

**ПАСПЯВА́ЦЬ** II *несов.* **1.** созрева́ть, поспева́ть; **2.** *разг.* (*о пище*) поспева́ть; 1, 2 *см.* **паспе́ць** I.

**ПАСПЯВА́ЦЬ** III *несов.* **1.** успева́ть, поспева́ть; **2.** (*не отставать*) успева́ть; 1, 2 *см.* **паспе́ць** II; **3.** (*хорошо заниматься*) успева́ть.

**ПАСПЯВА́ЮЧЫ** **1.** *прил.* успева́ющий; **2.** *в знач. сущ.* успева́ющий; **3.** *деепр.* успевая.

**ПАСПЯХО́ВА** *нареч.* успе́шно.

**ПАСПЯХО́ВАСЦЬ** *ж.* **1.** успе́шность; **2.** успева́емость.

**ПАСПЯХО́ВЫ** успе́шный.

**ПАСПЯША́ЦЦА** *сов.* поспеши́ть, поторопи́ться.

**ПАСРЭ́ДНА** **1.** *нареч.* посре́дственно; **адказа́ць уро́к п.** отве́тить уро́к посре́дственно; **2.** *в знач. сущ. нескл.* посре́дственно; **атрыма́ць па матэма́тыцы п.** получи́ть по матема́тике посре́дственно.

**ПАСРЭ́ДНАСЦЬ** *ж.* посре́дственность.

**ПАСРЭ́ДНІК** *м.* посре́дник.

**ПАСРЭ́ДНІЦА** *ж.* посре́дница.

**ПАСРЭ́ДНІЦКІ** посре́днический.

**ПАСРЭ́ДНІЦТВА** *ср.* посре́дничество.

**ПАСРЭ́ДНІЧАЦЬ** *несов.* посре́дничать.

**ПАСРЭ́ДНЫ** посре́дственный.

**ПАССА́ДЖВАЦЬ** *сов.* (*о многих*) ссади́ть; вы́садить; *см.* **сса́джваць.**

**ПАССА́ЦЬ** *несов.* пососа́ть.

**ПАССО́ЎВАЦЦА** *сов.* (*о многом*) сдви́нуться; смести́ться; свали́ться; съе́хать; *см.* **ссо́ўвацца** 1—4.

**ПАССО́ЎВАЦЬ** *сов.* (*о многом*) сдви́нуть; смести́ть; сбро́сить; сгрести́; *см.* **ссо́ўваць.**

**ПАССУ́КВАЦЦА** *сов.* (*о многом*) ссучи́ться.

**ПАССУ́КВАЦЬ** *сов.* (*о многом*) ссучи́ть.

**ПАССЫЛА́ЦЬ** *сов.* (*о многих*) сосла́ть, усла́ть.

**ПАССЫХА́ЦЦА** *сов.* (*о многом*) ссо́хнуться.

**ПАССЯДА́ЦЦА** *сов.* (*о многом*) осе́сть; уплотни́ться; *см.* **ссяда́цца.**

**ПАССЯКА́НЫ** сру́бленный, ссечённый; *см.* **пассяка́ць.**

**ПАССЯКА́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) сруби́ть, ссечь; *см.* **ссяка́ць.**

**ПА́СТА** *ж.* па́ста; **зубна́я п.** зубна́я па́ста.

**ПАСТА́ВА** *ж.* **1.** оса́нка; **выда́тная п.** отли́чная оса́нка; **2.** по́за; положе́ние *ср.*; **здыма́цца ў ро́зных ~вах** снима́ться в ра́зных по́зах; **п. ко́рпуса** положе́ние ко́рпуса; **3.** постано́вка; **п. ног** постано́вка ног.

**ПАСТА́ВІЦЦА** *сов.* отнести́сь; **до́бра п. да гэ́тай спра́вы** хорошо́ отнести́сь к э́тому де́лу.

**ПАСТА́ВІЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* поста́вить; **п. ліхта́р на стол** поста́вить фона́рь на стол; **п. машы́ну ў гара́ж** поста́вить маши́ну в гара́ж; **п. на́рус** поста́вить па́рус; **п. ха́ту** поста́вить избу́ (дом); **п. ба́нькі** поста́вить ба́нки; **п. на вале́та** поста́вить на вале́та; **п. на пасто́й** поста́вить на посто́й; **п. но́вага дырэ́ктара** поста́вить но́вого дире́ктора; **п. у тупі́к пыта́ннем** поста́вить в тупи́к вопро́сом; **п. умо́ву** поста́вить усло́вие; **п. но́вую о́перу** поста́вить но́вую о́перу; **до́бра п. рабо́ту** хорошо́ поста́вить рабо́ту; **п. дыя́гназ** поста́вить диа́гноз; **п. баяву́ю зада́чу** поста́вить боеву́ю зада́чу; **п. па́ртыю мануфакту́ры** поста́вить па́ртию мануфакту́ры; **2.** *спец.* установи́ть; **п. гарма́ту** установи́ть ору́дие; **3.** (*сделать выше*) подня́ть; **п. каўне́р** подня́ть воротни́к; **4.** предъяви́ть; **п. патрабава́нні** предъяви́ть тре́бования; **5.** (*возбудить*) поста́вить, подня́ть; **п. пыта́нне** поста́вить (подня́ть) вопро́с; **6.** (*счесть за что-л.*) поста́вить, вмени́ть; **п. у заслу́гу** поста́вить (вмени́ть) в заслу́гу; **7.** (*вписать*) проста́вить; **п. лі́чбу** проста́вить число́; **8.** настоя́ть; **п. на тым, каб гэ́та было́ зро́блена** настоя́ть на том, чтобы э́то бы́ло сде́лано; ◇ **п. у су́вязь** поста́вить в связь; **п. на адну́ до́шку** поста́вить на одну́ до́ску; **п. на сваі́м** поста́вить на своём; **п. на ка́рту** поста́вить на ка́рту; **п. на галаву́** поста́вить на́ голову.

**ПАСТА́ВЫ** *г.* Поста́вы.

**ПАСТАВЫ́** **1.** *прил.* постово́й; **2.** *в знач. сущ.* постово́й; **паклі́каць ~во́га** позва́ть постово́го.

**ПАСТАГНА́ЦЬ** *сов.* **1.** постона́ть; **2.** *перен.* попла́каться, пожа́ловаться; похны́кать.

**ПАСТАЛЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** повзросле́ть; возмужа́ть; **2.** остепени́ться; стать бо́лее соли́дным (серьёзным); **калі́ ты ~ле́еш?** когда́ ты остепени́шься?

**ПАСТАЛЫ́** *ед. нет обл.* ко́жаные ла́пти.

**ПАСТАМЕ́НТ** *м. в разн. знач.* постаме́нт.

**ПАСТАНАВІ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*принять решение*) постанови́ть, реши́ть; **сход ~віў** собра́ние постанови́ло (реши́ло); **2.** *юр.* определи́ть; **суд ~віў** суд определи́л.

**ПАСТАНАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* постановля́ться, реша́ться; определя́ться; *см.* **пастанаўля́ць.**

**ПАСТАНАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** (*принимать решение*) постановля́ть, реша́ть; **2.** *юр.* определя́ть; 1, 2 *см.* **пастанаві́ць.**

**ПАСТАНО́ВА** *ж.* **1.** постановле́ние *ср.*, реше́ние *ср.*; **2.** *юр.* определе́ние *ср.*

**ПАСТАНО́ВАЧНЫ** постано́вочный.

**ПАСТАНО́ЎКА** *ж. в разн. знач.* постано́вка; **п. на я́кар** постано́вка на я́корь; **пра́вільная п. ног** пра́вильная поста-

но́вка ног; **о́пера ідзе́ ў но́вай ~но́ўцы** о́пера идёт в но́вой постано́вке.

**ПАСТАНО́ЎЛЕНЫ 1.** постано́вленный, решённый; **2.** *юр.* определённый; 1, 2 *см.* **пастанаві́ць.**

**ПАСТАНО́ЎШЧЫК** *м.* постано́вщик.

**ПАСТАНО́ЎШЧЫЦА** *ж.* постано́вщица.

**ПА́СТАР** *м. церк.* па́стор.

**ПА-СТАРАДА́ЎНЯМУ** *нареч.* по-стари́нному.

**ПАСТАРА́ЛЬ** *ж. лит., муз.* пастора́ль.

**ПАСТАРА́ЛЬНЫ** *лит., муз.* пастора́льный.

**ПАСТАРА́ЦЦА** *сов.* **1.** постара́ться, поусе́рдствовать; **2.** (*попытаться что-л. сделать*) постара́ться; **~ра́йся заснýць** постара́йся засну́ть.

**ПАСТАРНА́К** *м. бот.* пастерна́к.

**ПА-СТАРО́МУ** *нареч.* по-ста́рому.

**ПАСТА́РЫЦЬ** *сов.* соста́рить.

**ПАСТАРЭ́ЛЫ** постаре́вший, постаре́лый.

**ПАСТАРЭ́ННЕ** *ср.* постаре́ние.

**ПАСТАРЭ́ЦЬ** *сов.* постаре́ть.

**ПАСТА́Ў** I, **-та́ва** *м.* поста́в; **млын на два ~та́вы** ме́льница в два поста́ва.

**ПАСТА́Ў** II, **-та́ва** *м.* (*рулон ткани*) шту́ка *ж.*

**ПАСТА́ЎКА** *ж.* поста́вка.

**ПАСТА́ЎЛЕНЫ 1.** *в разн. знач.* поста́вленный; **2.** *спец.* устано́вленный; **3.** по́днятый; **4.** предъя́вленный; **5.** поста́вленный, по́днятый; **6.** поста́вленный, вменённый; **7.** проста́вленный; 1—7 *см.* **паста́віць** 1—7.

**ПАСТАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* поставля́ться; *см.* **пастаўля́ць** I.

**ПАСТАЎЛЯ́ЦЬ** I *несов.* поставля́ть; **п. тава́ры** поставля́ть това́ры.

**ПАСТАЎЛЯ́ЦЬ** II *сов.* (*о многих, о многом*) поста́вить, расста́вить; **п. межавы́я зна́кі** поста́вить межевы́е зна́ки.

**ПАСТАЎНІ́К, -ка́** *м.* (*для скота*) заго́н.

**ПАСТА́ЎСКІ РАЁН** Поста́вский райо́н.

**ПАСТАЎШЧЫ́К, -ка́** *м.* поставщи́к.

**ПАСТАЎШЧЫ́ЦА** *ж.* поставщи́ца.

**ПАСТА́ЦЬ** *сов.* стать; вы́строиться.

**ПАСТАЯ́ЛЕЦ, -льца** *м. уст.* постоя́лец.

**ПАСТАЯ́ННА** *нареч.* постоя́нно.

**ПАСТАЯ́ННЫ** постоя́нный; **п. кло́пат** постоя́нная забо́та; ✧ **~ная велічыня́** постоя́нная величина́; **п. ток** *эл.* постоя́нный ток; **п. лік** постоя́нное число́; **п. капіта́л** *эк.* постоя́нный капита́л.

**ПАСТАЯ́НСТВА** *ср.* постоя́нство; **зако́н п. саста́ву** зако́н постоя́нства соста́ва.

**ПАСТАЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) постоя́ть; **2.** (*защитить, оградить от чего-л.*) постоя́ть; **п. за радзі́му** постоя́ть за ро́дину; **п. за сябе́** постоя́ть за себя́; **3.** (*только во 2 л. ед. и мн. ч. повелительного наклонения*) посто́й (посто́йте), подожди́ (подожди́те); ✧ **п. галаво́й** постоя́ть голово́й.

**ПА́СТВА** *ж. церк.* па́ства.

**ПА́СТКА** *ж.* **1.** капка́н *м.*, западня́, ловýшка; (*для крыс — ещё*) крысоло́вка; (*для мышей — ещё*) мышело́вка; **2.** *перен.* ловýшка, западня́, се́ти *мн.* ✧ **~ку ста́віць** ста́вить ловýшку; устра́ивать западню́.

**ПАСТО́Й, -то́ю** *м.* посто́й.

**ПАСТО́ЙВАЦЬ** *несов. разг.* поста́ивать.

**ПАСТО́ЙНЫ** посто́йный; **~ная наві́ннасць** *ист.* посто́йная пови́нность.

**ПАСТО́ЛЬКІ** *союз* посто́льку; ✧ **п. пако́лькі** посто́льку поско́льку.

**ПАСТО́ПТВАЦЦА** *сов.* (*о многом*) износи́ться; стопта́ться; *см.* **сто́птвацца** 1, 2.

**ПАСТО́ПТВАЦЬ** *сов.* (*о многом*) истопта́ть; износи́ть; стопта́ть; *см.* **сто́птваць** 1—3.

**ПАСТО́ЧВАЦЦА** *сов. разг.* (*стать тоньше от точки— обо всём, о многом*) сточи́ться, источи́ться.

**ПАСТО́ЧВАЦЬ** I *сов.* (*всё, многое*) сточи́ть, источи́ть; *см.* **сто́чваць** I 2.

**ПАСТО́ЧВАЦЬ** II *сов.* (*всё, многое*) сшить; связа́ть; срасти́ть; *см.* **сто́чваць** III.

**ПАСТПРЭ́Д** *м.* **(пастая́нны прадстаўні́к)** постпре́д (постоя́нный представи́тель).

**ПАСТПРЭ́ДСТВА** *ср.* **(пастая́ннае прадстаўні́цтва)** постпре́дство (постоя́нное представи́тельство).

**ПАСТРАЕ́ННЕ** *ср. воен.* построе́ние.

**ПАСТРАЙНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* стать бо́лее стро́йным.

**ПАСТРАКАТА́ЦЬ** *сов.* пострекота́ть.

**ПАСТРАЛЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) постреля́ть; **2.** (*всех, многих*) постреля́ть, перестреля́ть.

**ПАСТРАСА́НЫ** *и* **ПАСТРЭ́СВАНЫ** стрясённый, стря́хнутый; *см.* **пастраса́ць.**

**ПАСТРАСА́ЦЬ** *и* **ПАСТРЭ́СВАЦЬ** *сов.* (*о многом*) стрясти́, стряхну́ть; *см.* **страса́ць** 1.

**ПАСТРАЧЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*пошить на швейной машине нек-рое время*) построчи́ть; **2.** *разг.* (*из автоматического оружия*) построчи́ть, постреля́ть; **3.** (*всё, многое*) перестрочи́ть; **п. усе́ насо́ўкі** перестрочи́ть все носовы́е платки́.

**ПАСТРА́ШВАЦЬ** *несов. разг.* попу́гивать.

**ПАСТРА́ШЫЦЬ** *сов.* попуга́ть.

**ПАСТРО́ЕНЫ** *воен.* постро́енный; *см.* **пастро́іць.**

**ПАСТРО́ІЦЦА** *сов. воен.* постро́иться.

**ПАСТРО́ІЦЬ** *сов. воен.* постро́ить; **п. у дзве шарэ́нгі** постро́ить в две шере́нги.

**ПАСТРО́НКАВЫ** постро́мочный.

**ПАСТРО́НКІ, -нкаў,** *ед.* **пастро́нак** *м.* постро́мки.

**ПАСТРУГА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) построга́ть, постру́га́ть; почи́стить; поре́зать; **2.** (*всё, многое*) перестрога́ть, перестру́га́ть; перечи́стить; поре́зать; переpе́зать.

**ПАСТРЫГА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* постригáться; *см.* **пастры́гчыся;** **2.** *страд.* постригáться; *см.* **пастрыга́ць.**

**ПАСТРЫГА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* постригáть; *см.* **пастры́гчы** 1.

**ПАСТРЫ́ГЧЫ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* постри́чь; **п. валасы́** постри́чь во́лосы; **п. ў мана́хі** постри́чь в мона́хи; **2.** (*остричь во множестве*) остри́чь, перестри́чь; **п. ўсіх аве́чак** остри́чь (перестри́чь) всех ове́ц.

**ПАСТРЫ́ГЧЫСЯ** *сов. в разн. знач.* постри́чься; **зайсці́ ў парыкма́херскую і п.** зайти́ в парикма́херскую постри́чься; **п. ў мана́хі** постри́чься в мона́хи.

**ПАСТРЫ́ЖАНЫ 1.** *в разн. знач.* постри́женный; **2.** остри́женный, перестри́женный; 1, 2 *см.* **пастры́гчы.**

**ПАСТРЫЖЭ́ННЕ** *ср. церк.* постриже́ние.

**ПАСТРЫНО́ЖВАЦЬ** *сов.* (*о многих*) стрено́жить; *см.* **стрыно́жваць.**

**ПАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* (*стрелять время от времени*) постре́ливать.

**ПАСТРЭ́СВАНЫ** *см.* **пастраса́ны.**

**ПАСТРЭ́СВАЦЬ** *сов. см.* **пастраса́ць.**

**ПАСТСКРЫ́ПТУМ** *м.* постскри́птум.

**ПАСТУДЗІ́ЦЬ** (*што*) *сов.* постуди́ть; поду́ть (*на что*); **п. чай** поду́ть на чай.

**ПАСТУ́КАЦЦА** *сов. разг.* постуча́ться.

**ПАСТУ́КАЦЬ** *сов.* посту́кать; постуча́ть; **п. у дзве́ры** постуча́ть в дверь.

**ПАСТУ́КВАННЕ** *ср.* посту́кивание.

**ПАСТУ́КВАЦЬ** *несов.* посту́кивать.

**ПАСТУЛА́Т** *м.* постула́т.

**ПАСТУЛІ́РАВАНЫ** постули́рованный.

**ПАСТУЛІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов.* постули́ровать.

**ПАСТУПА́ЛЬНЫ** поступа́тельный; **п. рух** поступа́тельное движе́ние.

**ПАСТУПА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* поступа́ть; *см.* **пасту́піць.**

**ПАСТУПІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* поступи́ть; **п. у інстыту́т** поступи́ть в институ́т; **~пілі зве́сткі ад партыза́н** посту-

пи́ли све́дения от партиза́н; **гро́шы ~пілі ў банк** де́ньги поступи́ли в банк.

**ПАСТУПЛЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* поступле́ние; *см.* **пастýпіць.**

**ПАСТУПО́ВА** *нареч.* постепе́нно, и́сподволь, мало-пома́лу.

**ПАСТУПО́ВАСЦЬ** *ж.* постепе́нность.

**ПАСТУПО́ВЫ** постепе́нный.

**ПАСТУ́Х, -ха́** *м.* пасту́х; (*пасущий овец — ещё*) чаба́н, ота́рщик.

**ПАСТУХО́Ў** пасту́ший; пастуха́; **~хо́ва ду́дка** пасту́ший рожо́к, рожо́к пастуха́.

**ПАСТУ́ШКА** *ж.* пасту́шка.

**ПАСТФА́КТУМ** *нареч.* постфа́ктум.

**ПА́СТЫР** *м. церк.* па́стырь.

**ПА́СТЫРСКІ** *церк.* па́стырский.

**ПА́СТЫРСТВА** *ср. церк.* па́стырство.

**ПАСТЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*стыть нек-рое время*) посты́ть; **2.** (*о многом*) осты́ть; **ужо́ ўсё ~ты́ла** всё уже́ осты́ло.

**ПАСТЭ́ЛЬ** *ж. жив.* пасте́ль.

**ПАСТЭ́ЛЬНЫ** *жив.* пасте́льный.

**ПАСТЭ́РАЎСКІ** пасте́ровский.

**ПАСТЭРЫЗАВА́НЫ** пастеризо́ванный.

**ПАСТЭРЫЗАВА́ЦЦА** *несов. страд.* пастеризова́ться.

**ПАСТЭРЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* пастеризова́ть.

**ПАСТЭРЫЗА́ТАР** *м.* пастеризáтор.

**ПАСТЭРЫЗАЦЫ́ЙНЫ** пастеризацио́нный.

**ПАСТЭРЫЗА́ЦЫЯ** *ж.* пастериза́ция.

**ПА-СУВО́РАЎСКУ** *нареч.* по-суво́ровски.

**ПАСУ́ДА** *ж.* посу́да; **кухо́нная п.** ку́хонная посу́да.

**ПАСУ́ДАК, -дку** *м. разг.* посу́да *ж.*

**ПАСУДАМЫ́ЙКА** *ж.* (*помещение*) судомо́йка.

**ПАСУ́ДЗІНА** *ж.* посу́дина; (*для жидкости — ещё*) сосу́д *м.*

**ПАСУДЗІ́ЦЦА** *сов. разг.* посуди́ться.

**ПАСУ́ДНІК** *м. в разн. знач.* посу́дник.

**ПАСУ́ДНІЦА** *ж.* (*работница*) посу́дница, судомо́йка.

**ПАСУ́ДНЫ** посу́дный; **п. магазі́н** посу́дный магази́н.

**ПАСУКА́НЫ** ссу́ченный, пересу́ченный; *см.* **пасука́ць** 2.

**ПАСУКА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) посучи́ть; **2.** (*всё, многое*) ссучи́ть, пересучи́ть.

**ПАСУМАВА́ЦЬ** *сов.* поскуча́ть; потоскова́ть; погрусти́ть, попеча́литься; покручи́ниться.

**ПАСУ́НУТЫ** *прям., перен.* подви́нутый; *см.* **пасу́нуць.**

**ПАСУ́НУЦЦА** *сов.* **1.** *прям., перен.* подви́нуться, дви́нуться; **2.** сдви́нуться, дви́нуться; **3.** *прост.* втихомо́лку уйти́.

**ПАСУ́НУЦЬ** *сов. прям., перен.* подви́нуть, дви́нуть.

**ПАСУРАВЕ́ЦЬ** *сов.* посуро́веть, стать (бо́лее) суро́вым.

**ПА-СУР'Ё́ЗНАМУ** *нареч.* всерьёз, серьёзно.

**ПАСУРМІ́ЦЬ** *сов.* посурьми́ть.

**ПАСУ́РМЛЕНЫ** посурьмлённый.

**ПА-СУСЕ́ДСКУ** *нареч.* по-сосе́дски.

**ПАСУ́СЛЕНЫ** *разг.* посу́сленный, посусо́ленный.

**ПАСУ́СЛІЦЬ** *сов. разг.* посу́слить, посусо́лить.

**ПАСУ́ТАЧНА** *нареч.* посу́точно.

**ПАСУ́ТАЧНЫ** посу́точный; **~ная зарпла́та** посу́точная зарпла́та.

**ПАСУ́ХУ** *нареч.* по́суху.

**ПА-СУЧА́СНАМУ** *нареч.* по-совреме́нному.

**ПАСУ́ШАНЫ 1.** посу́шенный; **2.** вы́сушенный, пересу́шенный; 1, 2 *см.* **пасушы́ць.**

**ПАСУШЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) посуши́ться; **2.** (*обсушить свою одежду — о многих*) вы́сушиться, обсуши́ться.

**ПАСУШЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) посуши́ть; **2.** (*всё, многое*) вы́сушить, пересуши́ть.

**ПА́СХА** *ж. кул.* па́сха; **тваро́жная п.** творо́жная па́сха.

**ПА́СХІ ВО́СТРАЎ** о́стров Па́схи.

**ПАСХІЛЯ́НЫ** склонённый, наклонённый; *см.* **пасхіля́ць.**

**ПАСХІЛЯ́ЦЦА** *сов.* (*о многих, о многом*) склони́ться, наклони́ться; *см.* **схіля́цца** 1.

**ПАСХІЛЯ́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) склони́ть, наклони́ть; *см.* **схіля́ць** 1.

**ПАСХО́ДЗІЦЦА** *сов.* собра́ться, сойти́сь.

**ПАСЦЕ́ЛЬ** *ж.* посте́ль.

**ПАСЦЕ́ЛЬНІЧЫ** *сущ. ист.* посте́льничий, посте́льник.

**ПАСЦЕ́ЛЬНЫ** посте́льный; **~ныя рэ́чы** посте́льные принадле́жности.

**ПАСЦЕРАГЧЫ** *сов.* постере́чь.

**ПАСЦЕРАГЧЫСЯ** *сов.* остере́чься, поберéчься.

**ПАСЦЁБАЦЬ** *сов.* похлеста́ть, постега́ть.

**ПАСЦЁБВАЦЬ** *несов.* похлёстывать, постёгивать.

**ПА́СЦІ** *сов. в разн. знач.* пасть; **п. ў баі́** пасть в бою́; **крэ́пасць па́ла** кре́пость па́ла; **цары́зм паў** цари́зм пал; **ні́зка п. ў чыі́х-не́будзь вача́х** ни́зко пасть в чьи́х-л. глаза́х; ✧ **ні се́ла ні па́ла** ни с того́ ни с сего́, с бу́хты-бара́хты.

**ПАСЦІЛА́** *ж.* пастила́.

**ПАСЦІ́ЛКА** *ж. см.* **по́сцілка.**

**ПАСЦІРА́НЫ** стёртый; истёртый; *см.* **пасціра́ць.**

**ПАСЦІРА́ЦЦА** *сов.* (*о многом*) стере́ться; *см.* **сціра́цца** 1.

**ПАСЦІРА́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) стере́ть; истере́ть; *см.* **сціра́ць.**

**ПАСЦІСКА́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) сжать, сдави́ть, сти́снуть; *см.* **сціска́ць** 1.

**ПАСЦІХА́ЦЬ** *сов.* (*о многом, о многих*) зати́хнуть, ути́хнуть, сти́хнуть; замо́лкнуть, умо́лкнуть, смо́лкнуть; уня́ться, успоко́иться, переста́ть; *см.* **сціха́ць** 1, 3.

**ПА́СЦІЦЬ** *сов. см.* **па́свіць.**

**ПАСЦІ́ЦЬ** *несов.* пости́ться, по́стничать.

**ПАСЦЭ́ДЖВАНЫ** сцéженный; *см.* **пасцэ́джваць.**

**ПАСЦЭ́ДЖВАЦЬ** *сов.* (*о многом*) сцеди́ть.

**ПАСЦЯБА́ЦЬ** *сов. см.* **пасцёбаць.**

**ПАСЦЯ́ГВАЦЦА** *сов. разг.* (*о многих, о многом*) сбрести́; сня́ться; *см.* **сця́гвацца** 2.

**ПАСЦЯ́ГВАЦЬ** *сов.* (*о многих, о многом*) стяну́ть, стащи́ть; снять; сдёрнуть; затащи́ть; *см.* **сця́гваць** 1, 2, 4.

**ПАСЦЯКА́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) стечь; *см.* **сцяка́ць** 1.

**ПАСЦЯПЕ́НАВЕЦ, -наўца** *м. полит.* постепе́новец.

**ПАСЦЯПЕ́НАЎШЧЫНА** *ж. полит.* постепе́новщина.

**ПАСЧЫШЧА́НЫ** счи́щенный; *см.* **пасчышча́ць.**

**ПАСЧЫШЧА́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) счи́стить.

**ПАСЧЭ́СВАНЫ** I счёсанный; *см.* **пасчэ́сваць** I.

**ПАСЧЭ́СВАНЫ** II стёсанный; *см.* **пасчэ́сваць** II.

**ПАСЧЭ́СВАЦЬ** I *сов.* (*о многом*) счеса́ть; *см.* **счэ́сваць** I.

**ПАСЧЭ́СВАЦЬ** II *сов.* (*о многом*) стеса́ть; *см.* **счэ́сваць** II 1.

**ПАСШЫВА́НЫ** сши́тый; смётанный, состёганный; ста́чанный; *см.* **пасшыва́ць.**

**ПАСШЫВА́ЦЬ** *сов.* (*о многом*) сшить; смета́ть, состега́ть; стача́ть; *см.* **сшыва́ць.**

**ПАСЫ́Л, -лу** *м. воен., спорт.* посы́л.

**ПАСЫЛА́ННЕ** *ср.* **1.** посыла́ние; усыла́ние; **2.** посыла́ние, отсыла́ние; **3.** посыла́ние; **4.** посыла́ние; 1—4 *см.* **пасыла́ць** 1, 2, 4, 5.

**ПАСЫЛА́ЦЦА** *несов. страд.* посыла́ться; усыла́ться; отсыла́ться; *см.* **пасыла́ць** 1, 2, 4, 5.

**ПАСЫЛА́ЦЬ** *несов.* **1.** посыла́ть; усыла́ть; **2.** (*письмо и т. п.*) посыла́ть, отсыла́ть; **3.** наряжа́ть, посыла́ть; **4.** (*направлять*) посыла́ть; **5.** посыла́ть; 1—5 *см.* **пасла́ць** I.

**ПАСЫ́ЛАЧНЫ** посы́лочный.

**ПАСЫ́ЛКА** *ж. в разн. знач.* посы́лка; **п. гро́шай** посы́лка де́нег; **атрыма́ць ~ку** получи́ть посы́лку; **пра́вільная п. для вы́ваду** пра́вильная посы́лка для вы́вода; ✧ **быць на ~ках у каго́-не́будзь** быть на посы́лках у кого́-л.

**ПАСЫЛЬНЫ** 1. *прил.* посы́льный; 2. *в знач. сущ.* посы́льный, рассы́льный.

**ПА́СЫНАК, -нка** *м.* 1. (*неродной сын*) па́сынок; 2. (*о растении*) па́сынок, побе́г, о́тпрыск.

**ПАСЫНКАВА́ННЕ** *ср. с.-х.* пасынкова́ние, прищи́пка *ж.*, чека́нка *ж.*, чека́н *м.*

**ПАСЫНКАВА́НЫ** *с.-х.* пасынко́ванный.

**ПАСЫНКАВА́ЦЦА** *несов. страд. с.-х.* пасынкова́ться, прищи́пываться, чека́ниться.

**ПАСЫНКАВА́ЦЬ** *сов. и несов. с.-х.* пасынкова́ть, прищи́пывать, чека́нить.

**ПАСЫПА́ННЕ** *ср.* посыпа́ние, посы́пка *ж*; *см.* **пасыпа́ць.**

**ПАСЫ́ПАНЫ** посы́панный; *см.* **пасы́пац**ь 1.

**ПАСЫ́ПАЦЦА** *сов. прям., перен.* посы́паться; **~паліся лісты́** посы́пались ли́стья; **~паліся пыта́нні** посы́пались вопро́сы; ✧ **з вачэ́й ~паліся і́скры** и́скры из глаз посы́пались.

**ПАСЫПА́ЦЦА** *несов. страд.* посыпа́ться; *см.* **пасыпа́ць.**

**ПАСЫ́ПАЦЬ** *сов.* 1. посы́пать; **п. хлеб цу́крам** посы́пать хлеб са́харом; 2. (*начать сыпать*) посы́пать; **~паў дождж** посы́пал дождь.

**ПАСЫПА́ЦЬ** *несов.* посыпа́ть; *см.* **пасы́пац**ь 1.

**ПАСЫРЭ́ЦЬ** *сов.* стать сыре́е.

**ПАСЫХА́ННЕ** *ср.* 1. увяда́ние; 2. подсыха́ние; 1, 2 *см.* **пасыха́ць.**

**ПАСЫХА́ЦЬ** *несов.* 1. увяда́ть, со́хнуть; 2. (*о ране*) подсыха́ть.

**ПАСЫХО́ДЗІЦЦА** *сов.* (*о многих*) сойти́сь; *см.* **сыхо́дзіцца.**

**ПАСЫХО́ДЗІЦЬ** *сов.* (*о многом, о многих*) сойти́; истече́ь; уйти́, скры́ться; *см.* **сыхо́дзіць.**

**ПАСЫЦЕ́ЦЬ** *сов.* стать жирне́е, пожире́ть.

**ПАСЬБА́** *ж.* пастьба́.

**ПАСЬЯ́НС** *м. карт.* пасья́нс.

**ПАСЬЯ́НСНЫ** *карт.* пасья́нсный.

**ПАСЭ́САР** *м.* 1. *ист.* посе́ссор; 2. *уст.* аренда́тор.

**ПАСЭСІ́ЙНЫ** *ист.* посессио́нный.

**ПАСЭ́СІЯ** *ж. ист.* посе́ссия.

**ПАСЯБРАВА́ЦЦА** *сов.* подружи́ться.

**ПАСЯБРАВА́ЦЬ** *сов.* подружи́ть; подружи́ться, сдружи́ться.

**ПА-СЯБРО́ЎСКУ** *нареч.* по-дру́жески, дру́жески.

**ПАСЯДЖЭ́ННЕ** *ср.* заседа́ние; **п. суда́** заседа́ние суда́.

**ПАСЯДЗЕ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* посиде́ть; **п. за кні́гай** посиде́ть за кни́гой; **п. у знаёмых** посиде́ть у знако́мых; **п. пад а́рыштам** посиде́ть под аре́стом.

**ПАСЯДЛА́ЦЬ** *сов.* (*всех, многих*) оседла́ть.

**ПАСЯЛЕ́НЕЦ, -нца** *м.* поселе́нец.

**ПАСЯЛЕ́ННЕ** *ср.* 1. (*действие*) поселе́ние; 2. *ист.* поселе́ние; **ссы́лка (вы́сылка) на п.** ссы́лка на поселе́ние.

**ПАСЯЛІ́ЦЦА** *сов.* 1. посели́ться; 2. всели́ться.

**ПАСЯЛІ́ЦЬ** *сов.* 1. посели́ть; **п. навасёлаў на ле́пшай зямлі́** посели́ть новосёлов на лу́чшей земле́; 2. всели́ть; **п. но́вага жыхара́** всели́ть но́вого жильца́.

**ПАСЯЛКО́ВЫ** поселко́вый.

**ПАСЯЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* поселя́ться; вселя́ться; *см.* **пасяля́ць.**

**ПАСЯЛЯ́ЦЬ** *несов.* 1. поселя́ть; 2. вселя́ть; 1, 2 *см.* **пасялі́ць.**

**ПА-СЯМЕ́ЙНАМУ** *нареч.* по-семе́йному.

**ПАСЯМЕ́ЙНЫ** посеме́йный.

**ПАСЯРО́Д** *предлог с род.* посреди́; **п. калга́снага двара́** посреди́ колхо́зного двора́.

**ПАСЯРО́ДКАВЫ** посре́дствующий; **~вае звяно́** посре́дствующее звено́.

**ПАСЯРЭ́БРАНЫ** 1. посеребрённый, вы́серебренный; 2. посеребрённый; 1, 2 *см.* **пасерабры́ць.**

**ПАСЯРЭ́ДЗІНЕ** 1. *нареч.* посреди́, посреди́не; **стая́ць п.** стоя́ть посреди́ (посреди́не); 2. *предлог с род.* посреди́; **п. пако́я стая́ў стол** посреди́ ко́мнаты стоя́л стол.

**ПАСЯРЭ́ДНІ** (*о положении*) середи́нный, среди́нный.

**ПАСЯЎНЫ** посевно́й; **~на́я кампа́нія** посевна́я кампа́ния.

**ПАСЯЧЫ** *и* **ПАСЕ́Ч** *сов.* 1. поруби́ть; **пасе́клі малады́ лес** поруби́ли молодо́й лес; 2. (*рассечь на мелкие куски, уничтожить*) изруби́ть; 3. (*нек-рое время*) поруби́ть.

**ПАСЯЧЫСЯ** *и* **ПАСЕ́ЧСЯ** *сов.* (*о волосах*) посе́чься.

**ПАТ** I *м. шахм.* пат.

**ПАТ** II, *род.* **па́ту** *м.* (*сорт пастилы*) пат.

**ПА-ТАВАРЫ́СКУ** *нареч.* по-това́рищески.

**ПАТАВА́ЦЬ** *несов. шахм.* патова́ть.

**ПА́ТАВЫ** *шахм.* па́товый.

**ПАТАГЕНЕ́З, -зу** *и* **ПАТАГЕНЕ́ЗІС, -су** *м. мед.* патогене́з.

**ПАТАГЕНЕТЫ́ЧНЫ** *мед.* патогенети́ческий.

**ПАТАГЕ́ННЫ** *мед.* патоге́нный.

**ПАТАГО́НІЯ** *ж.* Патаго́ния.

**ПАТАГО́ННАЕ** *в знач. сущ. фарм.* потого́нное.

**ПАТАГО́ННЫ** *прям., перен.* потого́нный; **~нныя сро́дкі** потого́нные сре́дства; **~нная сістэ́ма пра́цы** потого́нная систе́ма труда́.

**ПА-ТАДЖЫ́КСКУ** *нареч.* по-таджи́кски.

**ПАТАЕ́МНА** *нареч. обл.* потаённо, та́йно.

**ПАТАЙНІ́К** *м.* тайни́к.

**ПАТАЙНЫ** потайно́й; **п. замо́к** потайно́й замо́к.

**ПА́ТАКА** *ж. мн. нет* па́тока.

**ПАТАКА́ЛЬНІК** *м.* потака́тель, пота́тчик.

**ПАТАКА́ННЕ** *ср.* потака́ние.

**ПАТАКА́ЦЬ** *несов.* потака́ть.

**ПАТАЛАГІ́ЧНЫ** *мед., перен.* патологи́ческий.

**ПАТАЛО́ГІЯ** *ж. мед., перен.* патоло́гия.

**ПАТАЛО́К, -лка́** *м. ав.* потоло́к.

**ПАТА́ЛЬ** *ж. мн. нет* пота́ль.

**ПАТАМІ́ЦЦА** *сов.* (*о многих*) утоми́ться, уста́ть, умори́ться.

**ПАТАМІ́ЦЬ** *сов.* (*всех, многих*) утоми́ть, умори́ть.

**ПАТАНЕ́ННЕ** *ср.* удешевле́ние.

**ПАТА́НЕНЫ** удешевлённый.

**ПАТАНЕ́ЦЬ** I *сов.* удешеви́ться, подешеве́ть.

**ПАТАНЕ́ЦЬ** II *сов. обл. см.* **патанчэ́ць.**

**ПАТАНІ́ЦЬ** *сов.* удешеви́ть; **п. капіта́льнае будаўні́цтва** удешеви́ть капита́льное строи́тельство.

**ПАТАНУ́ЛЫ** затону́вший.

**ПАТАНУ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* утону́ть; **ба́ржа ~ну́ла** ба́ржа утону́ла; **п. у снéзе** утону́ть в снегу́; **п. у спра́вах** утону́ть в дела́х; **п. у зяляні́не** утону́ть в зе́лени; **усе́ гу́кі ~ну́лі ў магу́тнай пе́сні** все зву́ки утону́ли в мо́щной пе́сне.

**ПАТАНЦАВА́ЦЬ** *сов.* потанцева́ть; (*о народных танцах — ещё*) попляса́ть.

**ПАТАНЧЫ́ЦЦА** *сов.* утончи́ться.

**ПАТАНЧЫ́ЦЬ** *сов.* утончи́ть; **п. ні́тку** утончи́ть ни́тку.

**ПАТАНЧЭ́ННЕ** *ср.* утонче́ние; *см.* **патанчы́ць.**

**ПАТАНЧЭ́ЦЬ** *сов.* стать то́ньше, потонча́ть, утончи́ться; (*слишком*) истончи́ться.

**ПАТАПІ́ЦЦА** *сов.* (*обо всех, многих*) утону́ть.

**ПАТАПІ́ЦЬ** I *сов.* 1. *прям., перен.* потопи́ть, утопи́ть; **п. варо́жы крэ́йсер** потопи́ть (утопи́ть) неприя́тельский кре́йсер; **п. жыву́ю спра́ву ў размо́вах** потопи́ть (утопи́ть) живо́е де́ло в разгово́рах; 2. (*всех, многих*) перетопи́ть, утопи́ть.

**ПАТАПІ́ЦЬ** II *сов.* 1. (*всё, многое — сало и т. п.*) перетопи́ть, истопи́ть; (*воск — ещё*) перепла́вить; 2. (*нек-рое время*) потопи́ть; (*воск — ещё*) попла́вить.

**ПАТАПЛЕ́ННЕ** *ср.* потопле́ние.

**ПАТАПЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* потопля́ться, топи́ться; *см.* **патапля́ць.**

**ПАТАПЛЯ́ЦЬ** *несов. прям., перен.* потопля́ть, топи́ть; *см.* **патапі́ць** I 1.

**ПАТАПСІХАЛО́ГІЯ** *ж.* патопсихоло́гия.

**ПАТАПТА́НЫ** 1. пото́птанный; помя́тый; 2. исто́птанный; 3. *перен.* по́пранный; 4. *разг.* запи́ханный; 1—4 *см.* **патапта́ць.**

**ПАТАПТА́ЦЦА** *сов.* потопта́ться.

**ПАТАПТА́ЦЬ** *сов.* 1. потопта́ть; (*сделать мятым—ещё*) помя́ть; **п. траву́** потопта́ть (помя́ть) траву́; **ко́нніца ~та́ла варо́жую пяхо́ту** ко́нница потопта́ла вра́жескую пехо́ту; 2. (*сносить обувь*) истопта́ть; 3. *перен.* (*грубо нарушить*) попра́ть; **п. міжнаро́дныя абавяза́цельствы** попра́ть междунаро́дные обяза́тельства; 4. *разг.* (*небрежно сложить*) запиха́ть; **п. усё ў адну́ скры́нку** запиха́ть всё в оди́н я́щик.

**ПАТА́ПЦЫ** *ед. нет* тю́ря *ж.*

**ПАТАРАБА́НІЦЬ** *сов. прост.* потащи́ть, попере́ть.

**ПАТАРГАВА́ЦЦА** *сов.* поторгова́ться.

**ПАТАРГАВА́ЦЬ** *сов. разг.* 1. (*нек-рое время*) поторгова́ть; **п. я́блыкамі** поторгова́ть я́блоками; 2. (*осведомиться о цене*) сторгова́ть; прицени́ться.

**ПАТАРМАСІ́ЦЬ** *сов.* потормоши́ть, потереби́ть.

**ПАТАРМО́ШАНЫ** потормошённый.

**ПАТАРО́ЧА** *ж. уст. обл.* пу́гало *ср.*, чу́чело *ср.*

**ПАТАРЧА́КА** *ж.* (*торчащий предмет*) тычо́к *м.*

**ПАТАРЧА́ЦЬ** *сов.* поторча́ть.

**ПАТАСАВА́ЦЬ** *сов.* потасова́ть.

**ПАТАСО́ЎКА** *ж. разг.* потасо́вка.

**ПА-ТАТА́РСКУ** *нареч.* по-тата́рски.

**ПАТАЎСЦЕ́ЦЬ** *сов.* потолсте́ть, пополне́ть.

**ПАТАЎСЦІ́ЦЦА** *сов.* стать то́лще, утолсти́ться.

**ПАТАЎСЦІ́ЦЬ** *сов.* сде́лать то́лще, утолсти́ть.

**ПАТАЎХА́ЦЬ** *сов. разг.* потолка́ть.

**ПАТАЎЧЫ** *сов.* 1. (*нек-рое время*) потоло́чь; (*картошку*) помя́ть; 2. (*всё, многое*) истоло́чь, перетоло́чь; (*картошку*) перемя́ть; (*посуду*) переби́ть, переколоти́ть; (*зерно для крупы*) обша́стать, обру́шить; 3. *прост.* (*повредить побоями*) поби́ть, разби́ть.

**ПАТАЎЧЫСЯ** *сов.* 1. истоло́чься; (*о картошке*) перемя́ться; (*о посуде*) переби́ться, переколоти́ться; (*о зерне*) обша́статься, обру́шиться; 2. *прост.* (*походить*) потолка́ться.

**ПАТАЎШЧА́ЦЦА** *несов.* станови́ться то́лще, утолща́ться.

**ПАТАЎШЧА́ЦЬ** *несов.* де́лать то́лще, утолща́ть, толсти́ть.

**ПАТАЎШЧЭ́ННЕ** *ср.* 1. (*действие*) утолще́ние; 2. утолще́ние, толщи́нка *ж.*

**ПАТАФІЗІЯЛО́ГІЯ** *ж.* патофизиоло́гия.

**ПА́ТАЧНЫ** па́точный.

**ПАТАЧЫ́ЦЬ** I *сов.* (*на станке, точиле и т. п.*) 1. (*нек-рое время*) поточи́ть; 2. (*всё, многое*) переточи́ть.

**ПАТАЧЫ́ЦЬ** II *сов.* (*о червях и т. п.*) источи́ть; **ша́шаль ~чы́ў мэ́блю** ша́шель источи́л ме́бель.

**ПАТА́Ш, -шу́** *м. хим.* потáш.

**ПАТА́ШНЫ** пота́шный.

**ПА-ТВО́ЙМУ** *нареч.* по-тво́ему.

**ПАТКА́НЫ** 1. пере́тканный; 2. пере́тканный; 1, 2 *см.* **патка́ць** 2, 3.

**ПАТКА́ЦЬ** *сов.* 1. (*нек-рое время*) потка́ть; 2. (*всё*) перетка́ть; 3. (*выткать по основе утком*) перетка́ть.

**ПАТКНУ́ЦЦА** *сов. разг.* 1. су́нуться, ткну́ться, толкну́ться; **п. ў дзве́ры** су́нуться (ткну́ться, толкну́ться) в дверь; 2. *перен.* попыта́ться; **то́лькі ён ~ну́ўся сказа́ць, як яго́ зноў перабі́лі** то́лько он попыта́лся сказа́ть, как его́ опя́ть переби́ли.

**ПАТКНУ́ЦЬ** *сов.* 1. *разг.* су́нуть; **п. кату́ са́ла** су́нуть ко́шке са́ло; 2. *перен. прост.* су́нуть, дать взя́тку.

**ПАТЛЕ́ЦЬ** *сов.* 1. (*обо всём, многом*) истле́ть; 2. (*нек-рое время*) потле́ть.

**ПАТЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* потли́вость.

**ПАТЛІ́ВЫ** потли́вый.

**ПАТЛУСЦЕ́ЦЬ** *сов.* стать жирне́е, потолсте́ть, потучне́ть.

**ПА́ТЛЫ** *ед. нет прост.* ло́хмы.

**ПАТОЙБАКО́ВЫ** потусторо́нний.

**ПАТО́К, -ку** *м. в разн. знач.* пото́к; **бурлі́выя ~кі** бурли́вые пото́ки; **п. слоў** пото́к слов; **п. бе́жанцаў** пото́к бе́женцев; **у вытво́рчасці ўжы́ты ме́тад бесперапы́ннага ~ку** в произво́дстве применён ме́тод непреры́вного пото́ка; **студэ́нты здава́лі экза́мены ў два ~кі** студе́нты сдава́ли экза́мены в два пото́ка.

**ПАТОКАПАДО́БНЫ** подо́бный пото́ку.

**ПАТО́ЛАГ** *м.* пато́лог.

**ПАТОЛАГААНА́ТАМ** *м.* патологоана́том.

**ПАТО́ЛЯ** *ж.* (*доброжелательное отношение к более слабому*) сочу́вствие *ср.*

**ПАТО́МАК, -мка** *м.* пото́мок.

**ПАТО́МНЫ** I пото́мственный; **п. пралета́рый** пото́мственный пролета́рий.

**ПАТО́МНЫ** II (*томами*) пото́мный.

**ПАТО́МСТВА** *ср.* пото́мство.

**ПАТО́НЧАНЫ** утончённый.

**ПАТО́НЧВАННЕ** *ср.* утонче́ние.

**ПАТО́НЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* утонча́ться.

**ПАТО́НЧВАЦЬ** *несов.* утонча́ть.

**ПАТО́П, -пу** *м.* пото́п.

**ПАТО́ПЛЕНЫ** I 1. пото́пленный, уто́пленный; 2. перето́пленный, уто́пленный; 1, 2 *см.* **патапі́ць** I.

**ПАТО́ПЛЕНЫ** II перето́пленный, исто́пленный; перепла́вленный; *см.* **патапі́ць** II 1.

**ПАТО́ПТАНЫ** *см.* **патапта́ны.**

**ПАТО́РГАНЫ** подёрганный.

**ПАТО́РГАЦЦА** *сов.* подёргаться.

**ПАТО́РГАЦЬ** *сов.* подёргать.

**ПАТО́РГВАННЕ** *ср.* подёргивание.

**ПАТО́РГВАЦЬ** *несов.* подёргивать.

**ПАТО́РКАЦЬ** *сов.* 1. (*о рыбе*) поклева́ть; 2. *разг.* (*чем-л. острым*) поты́кать.

**ПАТО́РКВАЦЬ** *несов.* (*о рыбе*) поклёвывать.

**ПАТО́ЎШЧАНЫ** утолщённый.

**ПАТО́ЧАНЫ** I перето́ченный; *см.* **патачы́ць** I 2.

**ПАТО́ЧАНЫ** II исто́ченный; *см.* **патачы́ць** II.

**ПАТО́ЧНА-СКАРАСНЫ** пото́чно-скоростно́й.

**ПАТО́ЧНАСЦЬ** *ж.* пото́чность.

**ПАТО́ЧНЫ** пото́чный; **п. ме́тад вытво́рчасці** пото́чный ме́тод произво́дства.

**ПАТРАБАВА́ЛЬНА** *нареч.* тре́бовательно, взыска́тельно; стро́го.

**ПАТРАБАВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* тре́бовательность, взыска́тельность; стро́гость.

**ПАТРАБАВА́ЛЬНІК** *м. офиц.* тре́бователь.

**ПАТРАБАВА́ЛЬНЫ** 1. тре́бовательный, взыска́тельный; стро́гий; 2. (*содержащий требование*) тре́бовательный; **~ная ве́дамасць** тре́бовательная ве́домость.

**ПАТРАБАВА́ННЕ** *ср. в разн. знач.* тре́бование; **па ~нню суда́** по тре́бованию суда́; **не заніжа́ць ~нняў** не снижа́ть тре́бований; **чалаве́к без уся́кіх ~нняў** челове́к без вся́ких тре́бований; **п. на дро́вы** тре́бование на дрова́; **прыпы́нак па ~нню** остано́вка по тре́бованию.

**ПАТРАБАВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* тре́бовать; **п. дапамо́гі** тре́бовать по́мощи; **п. дакла́днасці** тре́бовать то́чности; **гэ́та спра́ва ~бу́е вялі́кага во́пыту** э́то де́ло тре́бует большо́го о́пыта.

**ПАТРА́ВА** *ж.* 1. потра́ва; 2. *обл.* ку́шанье *ср.*

**ПАТРАВІ́ЦЬ** *сов.* (*произвести потраву*) потрави́ть; **п. луг** потрави́ть луг.

**ПАТРАЕ́ННЕ** *ср.* утрое́ние; *см.* **патро́іць.**

**ПАТРАІ́ЦЬ** *сов. с.-х. разг.* строи́ть; **п. папа́р** строи́ть пар.

**ПАТРАНАВА́ННЕ** *ср.* патрони́рование, патрона́т *м.*
**ПАТРАНА́Т, -ту** *м.* патрона́т.
**ПАТРАНЕ́СА** *ж.* патроне́сса.
**ПАТРАНІ́РАВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* патрони́ровать.
**ПАТРАНТА́Ш** *м.* патронта́ш.
**ПАТРАПА́НЫ 1.** потрёпанный; **2.** перетрёпанный, потрёпанный; **3.** *перен.* потрёпанный; 1—3 *см.* **патрапа́ць.**
**ПАТРАПА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) потрепа́ть; **2.** (*всё, многое*) перетрепа́ть, потрепа́ть; **3.** *перен.* (*войска*) потрепа́ть.
**ПАТРА́ПІЦЬ** *сов. разг.* **1.** (*бросив или выстрелив*) попа́сть, угоди́ть; **2.** (*метко и кстати сказать*) попа́сть, угада́ть; **3.** (*пройти куда-л.*) попа́сть, прони́кнуть, пробра́ться; **4.** суме́ть (*сделать что-л.*); **5.** (*сделать что-л. вовремя*) угоди́ть, подоспе́ть; **6.** угоди́ть, потра́фить.
**ПАТРАПЛЯ́ЦЬ** *несов. разг.* **1.** (*бросив или выстрелив*) попада́ть; **2.** (*метко и кстати говорить*) попада́ть, уга́дывать; **3.** (*проходить куда-л.*) попада́ть, проника́ть, пробира́ться; **4.** угожда́ть, потрафля́ть.
**ПАТРАПЯТА́ЦЦА** *сов.* **1.** потрепета́ть; **2.** потрепыха́ться.
**ПАТРА́ЎКА** *ж. обл.* **1.** ку́шанье *ср.*; **2.** (*соус с кусочками говядины или телятины*) потра́вка.
**ПАТРА́ЎЛЕНЫ** потра́вленный; *см.* **патраві́ць.**
**ПАТРА́ЎНЫ** потра́вный.
**ПАТРА́ЦІЦЦА** *сов.* потра́титься, истра́титься, издержа́ться.
**ПАТРА́ЦІЦЬ** *сов.* **1.** (*израсходовать*) потра́тить, истра́тить, издержа́ть; **2.** (*время*) потра́тить, затра́тить.
**ПАТРА́ЧАНЫ 1.** потра́ченный, истра́ченный, издёржанный; **2.** потра́ченный, затра́ченный; 1, 2 *см.* **патра́ціць.**
**ПАТРАШЧА́ЦЬ** *сов.* потреща́ть.
**ПАТРАШЫ́ЦЦА** *несов. страд.* потроши́ться; пласта́ться; *см.* **патрашы́ць.**
**ПАТРАШЫ́ЦЬ** *несов.* потроши́ть; (*рыбу — ещё*) пласта́ть.
**ПАТРАШЭ́ННЕ** *ср.* потроше́ние.
**ПАТРО́ЕНЫ 1.** *прич.* утро́енный; *см.* **патро́іць; 2.** *прич. разг. с.-х.* строённый; *см.* **патраі́ць; 3.** *прил.* утро́енный.
**ПАТРО́ІЦЦА** *сов.* утро́иться; **~ро́іліся рады́** утро́ились ряды́.
**ПАТРО́ІЦЬ** *сов.* утро́ить; **п. намага́нні** утро́ить уси́лия.
**ПАТРО́ЙВАННЕ** *ср.* утрое́ние; *см.* **патро́йваць.**
**ПАТРО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* утра́иваться, трои́ться; *см.* **патро́йваць.**
**ПАТРО́ЙВАЦЬ** *несов.* утра́ивать, трои́ть; *см.* **патро́іць.**
**ПАТРО́ЙНЫ** тройно́й; **п. кана́т** тройно́й кана́т.
**ПАТРО́Н** I *м. воен., тех.* патро́н.
**ПАТРО́Н** II *м.* (*хозяин, покровитель*) патро́н.
**ПАТРО́ННІК** *м.* патро́нник.
**ПАТРО́ННЫ** патро́нный; **п. заво́д** патро́нный заво́д.
**ПАТРО́ХУ** *нареч. в разн. знач.* понемно́гу; **ён есць п., але́ ча́ста** он ест понемно́гу, но ча́сто; **хво́ры пача́ў п. папраўля́цца** больно́й на́чал понемно́гу поправля́ться; **жывём п.** живём понемно́гу.
**ПАТРО́ШАНЫ** потрошённый; пла́станный; *см.* **патрашы́ць.**
**ПАТРО́ШКУ** *нареч. в разн. знач.* помале́ньку, понемно́жку.
**ПА́ТРУБАК, -бка** *м. тех.* па́трубок.
**ПАТРУБІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* потруби́ть; *см.* **трубі́ць.**
**ПАТРУ́ЛЬ, -ля́** *м.* патру́ль.
**ПАТРУ́ЛЬНЫ 1.** *прил.* патру́льный; **~ная слу́жба** патру́льная слу́жба; **2.** *в знач. сущ.* патру́льный; **вы́лучыць ~нага** вы́делить патру́льного.
**ПАТРУЛЯВА́ННЕ** *ср.* патрули́рование.
**ПАТРУЛЯВА́НЫ** патрули́рованный.
**ПАТРУЛЯВА́ЦЦА** *несов. страд.* патрули́роваться.
**ПАТРУЛЯВА́ЦЬ** *несов.* патрули́ровать.
**ПАТРУ́ХАЦЬ** *сов. разг.* побежа́ть рысцо́й.
**ПАТРУХЛЕ́ЦЬ** *сов. разг.* (*о многом*) иструхля́веть, отрухля́веть.
**ПАТРУЦІ́ЦЬ** *сов.* потрави́ть; помори́ть.
**ПАТРУ́ЧАНЫ** потра́вленный; поморённый.
**ПАТРУ́ШЧАНЫ** *разг.* разби́тый, раздро́бленный, раздроблённый; *см.* **патру́шчыць.**
**ПАТРУ́ШЧЫЦЦА** *сов. разг.* (*обо всём, многом*) разби́ться, раздроби́ться.
**ПАТРУ́ШЧЫЦЬ** *сов. разг.* (*всё, многое*) разби́ть, раздроби́ть.
**ПАТРЫВА́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** потерпе́ть; **~ва́й хвілі́нку** потерпи́ мину́тку; **2.** продержа́ться; **паго́да яшчэ́ ~ва́е** пого́да ещё продéржится.
**ПАТРЫВО́ЖАНЫ** потрево́женный, обеспоко́енный.
**ПАТРЫВО́ЖЫЦЦА** *сов.* потрево́житься, побеспоко́иться.
**ПАТРЫВО́ЖЫЦЬ** *сов.* потрево́жить, побеспоко́ить, обеспоко́ить.
**ПАТРЫЁТ** *м.* патрио́т.
**ПАТРЫЁТКА** *ж.* патрио́тка.
**ПАТРЫМАНІЯ́ЛЬНЫ** *юр.* патримониа́льный.
**ПАТРЫМА́НЫ** (*бывший в употреблении*) подёржанный, дёржаный; **~ная кні́га** подёржанная (дёржаная) кни́га.
**ПАТРЫМА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* подержа́ться; **п. за руку́** подержа́ться за́ руку; **гэ́ты буды́нак ~ма́ецца яшчэ́ до́ўга** э́та постро́йка подéржится ещё до́лго.
**ПАТРЫМА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* подержа́ть; **п. на рука́х хло́пчыка** подержа́ть на рука́х ма́льчика; **п. кні́гу** подержа́ть кни́гу; **п. акно́ адчы́неным** подержа́ть окно́ откры́тым; **п. ко́ней** подержа́ть лошаде́й; **п. пту́шку ў клётцы** подержа́ть пти́чку в клётке; **п. у па́мяці што-не́будзь** подержа́ть в па́мяти что́-л.
**ПАТРЫМО́НІЙ** *м. юр.* патримо́ний, патримо́ниум.
**ПАТРЫМО́НІУМ** *м. см.* **патрымо́ній.**
**ПАТРЫМЦЕ́ЦЬ** *сов.* потрепета́ть; (*испытать дрожь — ещё*) подрожа́ть; (*о свете — ещё*) померца́ть; помелька́ть.
**ПАТРЫНО́ЖЫЦЬ** *сов. разг.* (*всех, многих*) стрено́жить.
**ПА́ТРЫЦА** *ж. полигр.* па́трица.
**ПАТРЫ́ЦЫЙ** *м. ист.* патри́ций.
**ПАТРЫЦЫЯ́НКА** *ж. ист.* патрициа́нка.
**ПАТРЫЦЫЯ́НСКІ** *ист.* патрициа́нский.
**ПАТРЫЦЫЯ́Т, -ту** *м. ист.* патрициа́т.
**ПАТРЫЯ́РХ** *м. в разн. знач.* патриа́рх.
**ПАТРЫЯРХА́ЛЬНА** *нареч.* патриарха́льно.
**ПАТРЫЯРХА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* патриарха́льность.
**ПАТРЫЯРХА́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* патриарха́льный; **п. лад** патриарха́льный строй; **~ныя по́гляды** патриарха́льные взгля́ды.
**ПАТРЫЯРХА́ЛЬШЧЫНА** *ж. мн. нет пренебр.* патриарха́льщина.
**ПАТРЫЯРХА́Т, -ту** *м.* патриарха́т.
**ПАТРЫЯ́РХІЯ** *ж. церк.* патриа́рхия.
**ПАТРЫЯ́РШАСТВА** *ср. церк.* патриа́ршество.
**ПАТРЫЯ́РШЫ** патриа́ршеский, патриа́рший.
**ПАТРЫЯТЫ́ЗМ, -му** *м.* патриоти́зм.
**ПАТРЫЯТЫ́ЧНА** *нареч.* патриоти́чески, патриоти́чно.
**ПАТРЫЯТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* патриоти́чность.
**ПАТРЫЯТЫ́ЧНЫ** патриоти́ческий, патриоти́чный.
**ПАТРЭ́БА** *ж.* нужда́, на́добность; **у вы́падку ~бы** в слу́чае нужды́ (на́добности); **адчува́ць ~бу** испы́тывать нужду́; ◇ **па сваёй ~бе** за естественной на́добностью.
**ПАТРЭ́БАВАНЫ** потре́бованный; *см.* **патрэ́баваць.**
**ПАТРЭ́БАВАЦЬ** *сов.* потре́бовать; **п. выкана́ння зага́ду** потре́бовать выполне́ния прика́за.
**ПАТРЭ́БНА** *в знач. безл. сказ.* ну́жно, на́до, тре́буется; **на гэ́та п. шмат ча́су** на э́то ну́жно (на́до, тре́буется) мно́го вре́мени.
**ПАТРЭ́БНАСЦЬ** *ж.* потре́бность; нужда́емость.

**ПАТРЭ́БНЫ** ну́жный; потре́бный; необходи́мый; надлежа́щий; **~ная ко́лькасць** ну́жное (необходи́мое) коли́чество; **п. чалаве́к** ну́жный челове́к; **яму́ п. гро́шы** ему́ нужны́ (необходи́мы) де́ньги; **ве́льмі п.** о́чень ну́жный.
**ПАТРЭНІРАВА́ЦЦА** *сов.* потренирова́ться.
**ПАТРЭНІРАВА́ЦЬ** *сов.* потренирова́ть.
**ПАТРЭ́СВАННЕ** *ср.* потря́хивание, встря́хивание; *см.* **патрэ́сваць.**
**ПАТРЭ́СВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* потря́хивать, встря́хивать; **калёсы ~свае на калдо́бінах** теле́гу потря́хивает (встря́хивает) на колдо́бинах; **п. галаво́й** потря́хивать голово́й.
**ПАТРЭ́СКАНЫ** потре́скавшийся.
**ПАТРЭ́СКАЦЦА** *сов.* **1.** потре́скаться; растре́скаться; **тынк ~каўся** штукату́рка потре́скалась; **2.** поло́паться, перетре́скаться, перело́паться; **шкля́нкі ўсе ~каліся** стака́ны все перело́пались.
**ПАТРЭ́СКВАННЕ** *ср.* потре́скивание.
**ПАТРЭ́СКВАЦЬ** *несов. разг.* потре́скивать.
**ПАТРЭ́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* потрясти́; (*от холода — ещё*) познobи́ть; (*о лихорадке — ещё*) потрепа́ть; **п. я́блыню** потрясти́ я́блоню; **у даро́зе вас крыху́ ~сла** в доро́ге вас немно́го потрясло́; **п. галаво́ю** потрясти́ голово́й; **з ве́чара мяне́ крыху́ ~сла** с ве́чера меня́ немно́го потрясло́ (познобило); **2.** (*каго-што*) *разг.* произвести́ о́быск (*у кого, в чём*); **трэ́ба п. падазро́ных у крадзяжы́** на́до произвести́ о́быск у заподо́зренных в воровстве́.
**ПАТРЭ́СЦІСЯ** *сов.* потрясти́сь; (*от страха, холода — ещё*) подрожа́ть; **п. на калёсах** потрясти́сь на теле́ге; **п. ад хо́ладу** потрясти́сь (подрожа́ть) от хо́лода.
**ПА-ТРЭ́ЦЯЕ** *вводн. сл.* в-тре́тьих.
**ПАТСДА́М** *м. г.* Потсда́м.
**ПАТСДА́МСКІ** потсда́мский.
**ПАТУ́ГІ,** *ед.* **патуга** *ж.* **1.** (*при родах и т. п.*) поту́ги; **2.** *перен.* (*попытки что-л. сделать*) поту́ги, уси́лия; **ма́рныя п.** напра́сные поту́ги (уси́лия).
**ПАТУ́ЖВАЦЬ** *несов.* де́лать ту́же.
**ПАТУ́ЖЫЦЬ** *сов.* сде́лать ту́же.
**ПАТУЖЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** погорева́ть; потужи́ть; попеча́литься, покручи́ниться; **2.** потужи́ть, потоскова́ть; 1, 2 *см.* **тужы́ць 1, 2.**
**ПАТУЖЭ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*о струне и т. п.*) стать ту́же; **2.** (*о тесте*) стать бо́лее круты́м, погусте́ть.
**ПАТУ́ЗАЦЦА** *сов. разг.* потаска́ть друг дру́га.
**ПАТУ́ЗАЦЬ** *сов.* подёргать; потормоши́ть; **п. за руку́** подёргать за́ руку.
**ПАТУ́ЗВАННЕ** *ср.* подёргивание.
**ПАТУ́ЗВАЦЬ** *несов.* подёргивать.
**ПАТУ́ЛЬ** *нареч.* до тех по́р, дото́ле.
**ПАТУПАЦЕ́ЦЬ** *сов. разг.* пото́пать.
**ПАТУ́ПАЦЬ** *сов. разг.* **1.** (*топать нек-рое время, топнуть несколько раз*) пото́пать; **2.** (*туда и обратно*) походи́ть.
**ПАТУ́ПВАЦЬ** *несов.* **1.** (*топать нек-рое время*) пото́пывать; **2.** (*туда и обратно*) поха́живать.
**ПАТУПІ́ЦЦА** *сов.* (*обо всём, многом*) иступи́ться.
**ПАТУПІ́ЦЬ** *сов.* (*всё, многое*) иступи́ть.
**ПАТУРА́ЛЬНІК** *м.* потво́рщик, пота́тчик; попусти́тель.
**ПАТУРА́ЛЬНІЦА** *ж.* потво́рщица, пота́тчица; попусти́тельница.
**ПАТУРА́ЛЬНІЦКІ** попусти́тельский.
**ПАТУРА́ННЕ** *ср.* потво́рство, потака́ние, пота́чка *ж.*, побла́жка *ж.*; попусти́тельство.
**ПАТУРА́ЦЬ** *несов.* потво́рствовать, потака́ть; попусти́тельствовать; покрови́тельствовать.
**ПАТУРБАВА́ЦЦА** *сов.* побеспоко́иться.
**ПАТУРБАВА́ЦЬ** *сов.* побеспоко́ить.
**ПА-ТУРКМЕ́НСКУ** *нареч.* по-туркме́нски.
**ПАТУРЫ́ЦЬ** *сов. прост.* потури́ть.
**ПА-ТУРЭ́ЦКУ** *нареч.* по-туре́цки.

**ПАТУХА́ННЕ** *ср.* **1.** потуха́ние, погаса́ние; **2.** *перен.* погаса́ние; угаса́ние; потуха́ние; 1, 2 *см.* **патуха́ць.**
**ПАТУХА́ЦЬ** *несов.* **1.** потуха́ть, погаса́ть; **2.** *перен.* погаса́ть; угаса́ть; потуха́ть; 1, 2 *см.* **патýхнуць.**
**ПАТУ́ХЛЫ 1.** поту́хший, пога́сший; **2.** пога́сший; уга́сший; поту́хший; 1, 2 *см.* **патýхнуць.**
**ПАТУ́ХНУЦЬ** *сов.* **1.** поту́хнуть, пога́снуть; **све́чка ~хла** свеча́ поту́хла (пога́сла); **2.** *перен.* пога́снуть; уга́снуть; поту́хнуть; **жада́нні ~хлі** жела́ния уга́сли.
**ПАТУШАВА́ЦЬ** *сов.* потушева́ть.
**ПАТУ́ШАНЫ** поту́шенный, пога́шенный; заду́тый; *см.* **патушы́ць I.**
**ПАТУШЫ́ЦЬ** I *сов.* потуши́ть, погаси́ть; (*свечу, лампу — ещё*) заду́ть.
**ПАТУШЫ́ЦЬ** II *сов. кул.* потуши́ть; **п. мя́са** потуши́ть мя́со.
**ПАТЫДНЁВА** *нареч.* понеде́льно.
**ПАТЫДНЁВЫ** понеде́льный.
**ПАТЫ́КАНЫ** поты́канный.
**ПАТЫКА́ЦЦА** *несов. разг.* **1.** сова́ться, толка́ться; **2.** *перен.* пыта́ться; 1, 2 *см.* **паткну́цца.**
**ПАТЫ́КАЦЬ** *несов.* поты́кать.
**ПАТЫКА́ЦЬ** *несов.* **1.** *разг.* сова́ть; *см.* **паткну́ць 1;** **2.** (*утком*) перетока́ть.
**ПАТЫ́ЛІЦА** *ж.* заты́лок *м.*
**ПАТЫ́ЛІЧНЫ** заты́лочный; **~ная косць** заты́лочная кость.
**ПАТЫНКАВА́НЫ** оштукату́ренный; перештукату́ренный; *см.* **патынкава́ць 2.**
**ПАТЫНКАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) поштукату́рить; **2.** оштукату́рить; (*всё, многое — ещё*) перештукату́рить.
**ПАТЫНКО́ВАНЫ** *см.* **патынкава́ны.**
**ПАТЫСО́Н** *м.* патиссо́н.
**ПАТЫХА́ЦЬ** *несов.* (*о неприятном запахе*) нести́; отдава́ть.
**ПАТЭ́ЛЬНЯ** *ж.* сковорода́; про́тивень *м.*
**ПАТЭ́НТ** *м. прям., перен.* пате́нт; **п. на вынахо́дства** пате́нт на изобрете́ние; **гандлёвы п.** торго́вый пате́нт; **п. на высакаро́днасць** пате́нт на благоро́дство.
**ПАТЭНТАВА́ННЕ** *ср.* патентова́ние.
**ПАТЭНТАВА́НЫ 1.** *прич.* патенто́ванный; **2.** *прил.* патенто́ванный; **п. сро́дак** патенто́ванное сре́дство.
**ПАТЭНТАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* патентова́ть.
**ПАТЭ́НТАВЫ** пате́нтный; **п. збор** пате́нтный сбор.
**ПАТЭ́НТНЫ** пате́нтный.
**ПАТЭНТО́ВАНЫ** *см.* **патэнтава́ны.**
**ПАТЭНЦЫ́РАВАННЕ** *ср. мат.* потенци́рование.
**ПАТЭНЦЫ́РАВАНЫ** *мат.* потенци́рованный.
**ПАТЭНЦЫ́РАВАЦЬ** *сов. и несов. мат.* потенци́ровать.
**ПАТЭ́НЦЫЯ** *ж. мн. нет* поте́нция.
**ПАТЭНЦЫЯ́Л, -лу** *м. прям., перен.* потенциа́л; **ро́знасць ~лаў** ра́зность потенциа́лов; **эканамі́чны п.** экономи́ческий потенциа́л.
**ПАТЭНЦЫЯ́ЛЬНЫ** потенциа́льный; **~ная эне́ргія** потенциа́льная эне́ргия.
**ПАТЭ́ПАЦЬ** *сов. разг.* пото́пать; посемени́ть.
**ПА́ТЭР** *м. церк.* па́тер.
**ПАТЭ́Т-ЛА́О** *нескл. ср.* Пате́т-Ла́о.
**ПАТЭ́ТЫКА** *ж. мн. нет* пате́тика.
**ПАТЭТЫ́ЧНА** *нареч.* патети́чески, патети́чно.
**ПАТЭТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* патети́чность.
**ПАТЭТЫ́ЧНЫ** патети́ческий, патети́чный.
**ПАТЭФО́Н** *м.* патефо́н.
**ПАТЭФО́ННЫ** патефо́нный; **~нныя пласці́нкі** патефо́нные пласти́нки.
**ПАЎАБАРО́НА** *ж. спорт.* полузащи́та.
**ПАЎАБАРО́НЦА** *м. спорт.* полузащи́тник.
**ПАЎАБАРО́Т** *м.* полуоборо́т.

**ПАЧА́ТЫ** на́чатый; откры́тый; предпри́нятый, зате́янный; заведённый; *см.* **пача́ць** 1.

**ПАЧА́ЎКАЦЬ** *сов.* поча́вкать.

**ПАЧАЎРЭЦЬ** *сов.* (*нек-рое время*) поча́хнуть.

**ПА-ЧАЦВЁРТАЕ** *вводн. сл.* в-четвёртых.

**ПАЧА́ЦЦА** *сов.* нача́ться; (*о собрании — ещё*) откры́ться; (*о вьюге, споре и т. п.— ещё*) подня́ться; (*о разговоре— ещё*) зайти́; **пра́ца пачала́ся** рабо́та начала́сь; **спрэ́чкі пачаліся з выступле́ння старшыні́** пре́ния начали́сь (откры́лись) выступле́нием председа́теля; **пачала́ся завіру́ха** начала́сь (подняла́сь) мете́ль.

**ПАЧА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*што*) *в разн. знач.* нача́ть; (*приступить к какому-л. делу — ещё*) приня́ться (*за что*); (*прения— ещё*) откры́ть; (*решиться на исполнение чего-л. — ещё*) предприня́ть, зате́ять; (*разговор — ещё*) завести́; **п. пра́цу** нача́ть рабо́ту, приня́ться за рабо́ту; **п. выда́нне кні́гі** нача́ть (предприня́ть, зате́ять) изда́ние кни́ги; **ён пача́ў старэ́ць** он на́чал старе́ть; **п. но́вую бо́чку пі́ва** нача́ть но́вую бо́чку пи́ва; **2.** *безл.* нача́ть; **пачало́ змярка́ць** на́чало смерка́ться.

**ПАЧАШЧА́ЦЦА** *несов.* учаща́ться.

**ПАЧАШЧЭ́ННЕ** *ср.* учаще́ние.

**ПАЧАЯВА́ЦЬ** *сов. разг.* почаёвничать.

**ПАЧВА́РА** *ж.* **1.** уро́д *м.*; **2.** *фольк.* кики́мора; **3.** *перен.* изуве́р *м.*, чудо́вище *ср.*

**ПАЧВА́РНА** *нареч.* **1.** безобра́зно, уро́дливо; **2.** *перен.* чудо́вищно; *см.* **пачва́рны** 2.

**ПАЧВА́РНАСЦЬ** *ж.* **1.** безобра́зие *ср.*, уро́дливость; **2.** *перен.* чудо́вищность, изуве́рство *ср.*; *см.* **пачва́рны** 2.

**ПАЧВА́РНЫ** **1.** безобра́зный, уро́дливый; **2.** *перен.* (*жестокий, грубый*) чудо́вищный, изуве́рский.

**ПАЧВЯ́КАЦЬ** *сов. разг.* **1.** поча́вкать; **2.** (*по грязи*) пошлёпать.

**ПА́ЧКА** *ж. театр.* па́чка.

**ПАЧКАВА́ННЕ** *ср. биол.* почкова́ние.

**ПАЧКАВА́ЦЦА** *несов. биол.* почкова́ться.

**ПА́ЧКАВЫ** па́чечный.

**ПА́ЧКАМІ** *нареч.* па́чками; **стральба́ п.** *воен. уст.* стрельба́ па́чками.

**ПАЧМЫ́ХАЦЬ** *сов. разг.* **1.** попыхте́ть, пофы́ркать; **2.** (*выразить недовольство*) пофы́ркать, побрюзжа́ть.

**ПАЧМЫ́ХВАЦЬ** *несов.* пофы́ркивать.

**ПАЧО́СТКА** *ж. разг.* угоще́ние *ср.*

**ПАЧУВА́ННЕ** *ср. разг.* самочу́вствие.

**ПАЧУВА́ЦЬ** *несов. разг.* чу́вствовать; **як вы сябе́ ~ва́еце?** как вы себя́ чу́вствуете?

**ПА-ЧУВА́ШСКУ** *нареч.* по-чува́шски.

**ПАЧУ́ЛЕВЫ** пачу́левый.

**ПАЧУ́ЛІ, -ляў** *ед. нет* пачу́ли.

**ПАЧУ́ХАЦЦА** *сов. разг.* почеса́ться.

**ПАЧУ́ХАЦЬ** *сов. разг.* почеса́ть; ✧ **п. паты́ліцу** почеса́ть заты́лок.

**ПАЧУ́ХВАЦЬ** *несов. разг.* почёсывать.

**ПАЧУ́ЦЦА** *сов.* **1.** послы́шаться, разда́ться; **удалечыні́ пачу́ліся стрэ́лы** вдали́ послы́шались (раздали́сь) вы́стрелы; **2.** *безл.* почу́диться, показа́ться; **ды табе́ гэ́та про́ста пачу́лася** да тебе́ э́то про́сто почу́дилось (показа́лось); **3.** *разг.* почу́вствоваться.

**ПАЧУ́ЦЦЕ** *ср.* чу́вство; **о́рганы ~цця́ў** о́рганы чувств; **п. зро́ку** чу́вство зре́ния; **п. слы́ху** чу́вство слу́ха; **п. сма́ку** чу́вство вку́са; **п. нюху** чу́вство обоня́ния; **п. до́тыку** чу́вство осяза́ния.

**ПАЧУ́ЦЦЕВАСЦЬ** *ж.* чу́вственность; *см.* **пачу́ццевы.**

**ПАЧУ́ЦЦЕВЫ** (*осуществляемый или воспринимаемый посредством органов чувств*) чу́вственный; **~вае ўспрыма́нне** чу́вственное восприя́тие.

**ПАЧУ́ЦЦЁ** *ср. в разн. знач.* чу́вство; **п. го́рдасці за сваю́ радзі́му** чу́вство го́рдости за свою́ ро́дину; **кла́савае п.** кла́ссовое чу́вство; **п. ме́ры** чу́вство ме́ры; **з ~ццём** с чу́вством; **п. но́вага** чу́вство но́вого; **вялі́кае п.** большо́е чу́вство; ✧ **п. ло́кця** чу́вство ло́ктя.

**ПАЧУЦЦЁВА** *нареч.* чу́вственно; *см.* **пачуццёвы.**

**ПАЧУЦЦЁВАСЦЬ** *ж.* чу́вственность; *см.* **пачуццёвы.**

**ПАЧУЦЦЁВЫ** (*плотский*) чу́вственный; **~вая асало́да** чу́вственное наслажде́ние; **п. по́гляд** чу́вственный взгляд.

**ПАЧУ́ЦЬ** *сов.* **1.** услы́шать, услыха́ть; расслы́шать; **п. не́чы го́лас** услы́шать (услыха́ть) че́й-то го́лос; **з іх размо́вы я пачу́ў то́лькі асо́бныя сло́вы** из их разгово́ра я расслы́шал лишь отде́льные слова́; **2.** (*узнать*) услы́шать, услыха́ть, прослы́шать; **ён дзе́сьці пачу́ў, што...** он где́-то услы́шал (услыха́л, прослы́шал), что...; **3.** *разг.* почу́вствовать, ощути́ть, почу́ять, зачу́ять.

**ПАЧЦІ́ВА** *нареч.* почти́тельно, учти́во.

**ПАЧЦІ́ВАСЦЬ** *ж.* почти́тельность, учти́вость.

**ПАЧЦІ́ВЫ** почти́тельный, учти́вый.

**ПАЧЫКІЛЬГА́ЦЬ** *сов. разг.* поковыля́ть.

**ПАЧЫ́М** *нареч. разг.* (*по какой цене*) почём; ✧ **пазна́ць, п. фунт лі́ха** узна́ть, почём фунт ли́ха.

**ПАЧЫ́Н, -ну** *м. в разн. знач.* почи́н.

**ПАЧЫ́НАК, -нка** *м. текст.* поча́ток.

**ПАЧЫНА́ЛЬНІК** *м.* зачина́тель; начина́тель.

**ПАЧЫНА́ЛЬНІЦА** *ж.* зачина́тельница; начина́тельница.

**ПАЧЫНА́ННЕ** *ср.* начина́ние, предприя́тие; **грандыёзнае п.** грандио́зное начина́ние (предприя́тие).

**ПАЧЫНА́ЦЦА** *несов.* **1.** начина́ться; (*о собрании — ещё*) открыва́ться; (*о вьюге, споре и т. п.— ещё*) поднима́ться; (*о разговоре — ещё*) заходи́ть; *см.* **пача́цца;** **2.** *страд.* начина́ться; открыва́ться; предпринима́ться, затева́ться; заводи́ться; *см.* **пачына́ць.**

**ПАЧЫНА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*што*) *в разн. знач.* начина́ть; (*приступать к какому-л. делу — ещё*) принима́ться (*за что*); (*прения — ещё*) открыва́ть; (*решаться на исполнение чего-л.— ещё*) предпринима́ть, затева́ть; (*разговор — ещё*) заводи́ть; **2.** *безл.* начина́ть; 1, 2 *см.* **пача́ць;** ✧ **п. сваё** начина́ть своё.

**ПАЧЫНА́ЮЧЫ** **1.** *прил.* начина́ющий; **п. пісьме́ннік** начина́ющий писа́тель; **2.** *в знач. сущ.* начина́ющий; **падру́чнік для ~чых** уче́бник для начина́ющих; **3.** *деепр.* начина́я.

**ПАЧЫРВАНЕ́ЛЫ** **1.** покрасне́вший; **2.** покрасне́вший, побагрове́вший; вспы́хнувший; 1, 2 *см.* **пачырване́ць.**

**ПАЧЫРВАНЕ́ННЕ** *ср.* покрасне́ние, краснота́ *ж.*

**ПАЧЫРВАНЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*стать красным*) покрасне́ть; **ві́шні ~не́лі** ви́шни покрасне́ли; **2.** (*покрыться румянцем*) покрасне́ть, побагрове́ть; (*мгновенно — ещё*) вспы́хнуть.

**ПАЧЫРВАНІ́ЦЦА** *сов.* **1.** обагри́ться, окра́ситься в кра́сный цвет; **2.** запа́чкаться в чём-л. кра́сном.

**ПАЧЫРВАНІ́ЦЬ** *сов.* **1.** сде́лать кра́сным; окра́сить багря́нцем, обагри́ть; **2.** покра́сить в кра́сный цвет; **3.** *разг.* запа́чкать в чём-л. кра́сном.

**ПАЧЫСТА́Й: зво́льніць п.** *воен. разг.* уво́лить вчи́стую.

**ПАЧЫ́СЦІЦЦА** *сов.* почи́ститься; **памы́цца і п.** помы́ться и почи́ститься.

**ПАЧЫ́СЦІЦЬ** *сов. в разн. знач.* почи́стить; **п. адзе́нне** почи́стить оде́жду; **~ціў пяць хвілі́н і кі́нуў** почи́стил пять мину́т и бро́сил.

**ПАЧЫТА́ЦЬ** *сов.* почита́ть.

**ПАЧЫ́ТВАЦЬ** *несов. разг.* почи́тывать.

**ПАЧЫ́ШЧАНЫ** почи́щенный; *см.* **пачы́сціць.**

**ПАЧЭ́ЗНУЦЬ** *сов.* (*обо всём, многом*) захире́ть; зача́хнуть, поча́хнуть.

**ПАЧЭ́ПЛЕНЫ** пове́шенный, приве́шенный, прице́пленный.

**ПА-ЧЭРКЕ́СКУ** *нареч.* по-черке́сски.

**ПАЧЭ́РНЕНЫ** почернённый.

**ПАЧЭ́РПАЦЬ** *сов.* поче́рпать.

**ПАЧЭ́РПНУТЫ** почёрпнутый; *см.* **пачарпну́ць.**
**ПАЧЭ́САНЫ** I *см.* **пачаса́ны** I.
**ПАЧЭ́САНЫ** II *см.* **пачаса́ны** II.
**ПАЧЭ́СНА** *нареч.* почётно.
**ПАЧЭ́СНАСЦЬ** *ж.* почётность.
**ПАЧЭ́СНЫ** *в разн. знач.* почётный; **п. абавя́зак** почётная обя́занность; **п. госць** почётный гость.
**ПА-ЧЭ́ШСКУ** *нареч.* по-че́шски.
**ПА́ША** *ж.* па́стбище *ср.*, вы́пас *м.*
**ПАШААБАРО́Т, -ту** *м. с.-х.* пастбищеоборо́т.
**ПАШАВЕ́ЛЕНЫ** пошевелённый.
**ПАШАВЕ́ЛЬВАЦЦА** *несов. прям., перен.* пошеве́ливаться.
**ПАШАВЕ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* пошеве́ливать; дви́гать (*время от времени, слегка*).
**ПА́ШАВЫ** па́стбищный; **~вая ўго́ддзі** па́стбищные уго́дья.
**ПАШАВЯЛІ́ЦЦА** *сов.* пошевели́ться; пошевельну́ться.
**ПАШАВЯЛІ́ЦЬ** *сов.* **1.** пошевели́ть; дви́нуть; **2.** (*сено*) повороши́ть.
**ПАШАЛЕ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* **1.** (*обо всех, многих*) перебеси́ться, побеси́ться; **2.** (*нек-рое время*) побеси́ться, посумасше́ствовать.
**ПАШАЛЯВА́НЫ** обши́тый; *см.* **пашалява́ць.**
**ПАШАЛЯВА́ЦЬ** *сов.* обши́ть (*досками*).
**ПАША́МКАЦЬ** *сов. разг.* поша́мкать.
**ПАША́НА** *ж. мн. нет* почёт *м.*; почте́ние *ср.*, почти́тельность; **быць у ~не** быть в почёте; **адно́сіцца з ~най** относи́ться с почте́нием (почти́тельностью); ◇ **п. і пава́га** почёт и уваже́ние.
**ПАШАНАВА́ЦЦА** *сов.* поберéчься; **пасля́ хваро́бы трэ́ба п.** по́сле боле́зни ну́жно поберéчься.
**ПАШАНАВА́ЦЬ** *сов.* поберéчь; **п. адзе́жу** поберéчь оде́жду; **п. аўтарытэ́т** поберéчь авторите́т.
**ПАШАНЦАВА́ЦЬ** *сов. безл.* повезти́, подвезти́, посчастли́виться.
**ПАШАПТА́ЦЦА** *сов.* пошепта́ться, пошушу́каться.
**ПАШАПТА́ЦЬ** *сов.* пошепта́ть; (*между собой*) пошепта́ться.
**ПАШАРАВА́НЫ** потёртый.
**ПАШАРАВА́ЦЬ** *сов.* потере́ть; поскрести́; почи́стить.
**ПАША́РКАЦЬ** *сов.* поша́ркать.
**ПАШАРПА́НЫ** потрёпанный, истрёпанный; растрёпанный.
**ПАШАРПА́ЦЦА** *сов.* потрепа́ться, истрепа́ться; растрепа́ться.
**ПАШАРПА́ЦЬ** *сов.* потрепа́ть, истрепа́ть; растрепа́ть.
**ПАША́РЭЛЫ** посере́вший.
**ПАША́РЭЦЬ** *сов.* **1.** посере́ть; **2.** *безл. разг.* сме́ркнуться.
**ПАША́СТАНЫ** *разг.* поре́занный; покро́мсанный; *см.* **паша́стаць** 2.
**ПАША́СТАЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) пошурша́ть, пошелесте́ть; **2.** *разг.* (*всё, многое*) поре́зать; покромса́ть.
**ПАШАТКАВА́НЫ 1.** пошинко́ванный; **2.** перешинко́ванный; 1, 2 *см.* **пашаткава́ць.**
**ПАШАТКАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) пошинкова́ть; **2.** (*всё*) перешинкова́ть.
**ПА-ШАТЛА́НДСКУ** *нареч.* по-шотла́ндски.
**ПАШАТРАВА́ЦЬ** *сов.* (*зерно*) ободра́ть.
**ПА-ШВЕ́ДСКУ** *нареч.* по-шве́дски.
**ПАШВЭ́НДАЦЦА** *сов. разг.* пошля́ться, пошата́ться.
**ПАШКАДАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** пожале́ть; **п. гро́шай** пожале́ть де́нег; **2.** (*чаго, аб чым*) пожале́ть, посе́товать (*о чём*); **п. мі́нулага** пожале́ть (посе́товать) о проше́дшем; **ён ~ваў, што не зрабі́ў гэ́тага** он пожале́л, что не сде́лал э́того; **3.** пожале́ть, поберéчь, пощади́ть; **п. старо́га** пожале́ть (поберéчь, пощади́ть) старика́; **4.** (*каго*) сжа́литься (*над кем*); **~ду́й мяне́** сжа́лься надо мно́й; **5.** приласка́ть; **п. дзіця́** приласка́ть ребёнка; **6.** *в сочетании с инф. переводится безл. конструкцией* ста́ло жа́лко (жаль); **я ~ва́ла будзіць яго́** мне ста́ло жа́лко (жаль) буди́ть его́.
**ПАШКЛІ́ЦЬ** *сов.* (*всё, многое*) застекли́ть.
**ПАШКО́ДЖАННЕ** *ср.* **1.** поврежде́ние, по́рча *ж.*; **п. ка́белю** поврежде́ние (по́рча) ка́беля; **2.** пораже́ние, поврежде́ние; **п. зро́кавага не́рва** пораже́ние зри́тельного не́рва.
**ПАШКО́ДЖАНЫ 1.** повреждённый; **2.** поражённый; 1, 2 *см.* **пашко́дзіць** 2, 3.
**ПАШКО́ДЖВАЦЦА** *несов. страд.* поврежда́ться; *см.* **пашко́джваць** 1.
**ПАШКО́ДЖВАЦЬ** *несов.* **1.** (*ломать, ранить, портить и т. п.*) поврежда́ть; **2.** поража́ть; 1, 2 *см.* **пашко́дзіць** 2, 3.
**ПАШКО́ДЗІЦЬ** *сов.* **1.** (*принести вред*) повреди́ть; **со́нца вам не п.** со́лнце вам не повреди́т; **2.** (*поломать, поранить, испортить и т. п.*) повреди́ть; **п. ка́бель** повреди́ть ка́бель; **3.** порази́ть; **туберкулёз ~дзіў лёгкія** туберкулёз порази́л лёгкие.
**ПАШКУМАТА́НЫ** *разг.* по́рванный на клочки́.
**ПАШКУМАТА́ЦЬ** *сов. разг.* порва́ть на клочки́.
**ПАШЛАВА́ТЫ** пошлова́тый.
**ПАШЛЕ́ЦЬ** *несов.* пошле́ть.
**ПАШЛЁПАЦЬ** *сов. разг.* пошлёпать.
**ПАШЛІФАВА́НЫ** отшлифо́ванный; перешлифо́ванный; *см.* **пашліфава́ць** 2.
**ПАШЛІФАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*нек-рое время*) пошлифова́ть; (*кожу — ещё*) постекли́ть; **2.** отшлифова́ть; (*всё, многое — ещё*) перешлифова́ть.
**ПАШЛЫ́НДАЦЬ** *сов. прост.* пошля́ться, поброди́ть, помота́ться.
**ПАШЛЯ́К, -ка́** *м. презр.* пошля́к.
**ПАШЛЯ́ЦІНА** *ж. разг. презр.* пошля́тина.
**ПАШЛЯ́ЧКА** *ж. презр.* пошля́чка.
**ПАШМАЛЬЦАВА́НЫ** *разг.* замусо́ленный; заса́ленный; зама́сленный; *см.* **пашмальцава́ць.**
**ПАШМАЛЬЦАВА́ЦЬ** *сов. разг.* (*о многом*) замусо́лить; заса́лить; зама́слить.
**ПАШМАРАВА́ЦЬ** *сов. разг.* натере́ть ма́зью; нама́зать, вы́мазать.
**ПАШМО́РГАЦЬ** *сов.* **1.** подёргать; **2.** (*носом*) пошмы́гать.
**ПАШМО́РГВАЦЬ** *несов.* подёргивать.
**ПАШМУ́ЛЯНЫ** *разг.* натёртый, стёртый; *см.* **пашму́ляць.**
**ПАШМУ́ЛЯЦЦА** *сов. разг.* (*во многих местах*) натере́ться, стере́ться.
**ПАШМУ́ЛЯЦЬ** *сов. разг.* (*во многих местах*) натере́ть, стере́ть.
**ПАШНА́РЫЦЬ, ПАШНЫ́РЫЦЬ** *сов. разг.* поша́рить.
**ПАШО́РГАЦЬ** *сов.* потере́ть; поша́ркать; (*спичкой*) почи́ркать.
**ПА-ШО́СТАЕ** *вводн. сл.* в-шесты́х.
**ПА́ШПАРТ** *м. в разн. знач.* па́спорт; **бестэрміно́вы п.** бессро́чный па́спорт; **п. тэлеві́зара** па́спорт телеви́зора.
**ПА́ШПАРТНЫ** па́спортный.
**ПАШПАРТЫЗАВА́ЦЦА** *несов. страд.* паспортизова́ться.
**ПАШПАРТЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* паспортизова́ть.
**ПАШПАРТЫЗА́ЦЫЯ** *ж.* паспортиза́ция.
**ПАШПАРТЫ́СТ** *м.* паспорти́ст.
**ПАШПАРТЫ́СТКА** *ж.* паспорти́стка.
**ПАШПАЦЫРАВА́ЦЬ** *сов. разг.* погуля́ть.
**ПАШПУРЛЯ́ЦЬ** *сов. разг. в разн. знач.* пошвыря́ть.
**ПАШТАЛЬЁН** *м.* почтальо́н, письмоно́сец.
**ПАШТА́МТ** *м.* почта́мт.
**ПАШТА́МЦКІ** почта́мтский.
**ПАШТМА́ЙСТАР, -тра** *м. ист.* почтме́йстер.
**ПАШТО́ВА-ТЭЛЕГРА́ФНЫ** почто́во-телегра́фный.

**ПАШТО́ВЫ** почто́вый; **~вая ма́рка** почто́вая ма́рка; **п. пераво́д** почто́вый перево́д.
**ПАШТО́ЎКА** *ж.* откры́тка, откры́тое письмо́, почто́вая ка́рточка.
**ПАШТУ́РХАЦЦА** *сов. разг.* потолка́ться.
**ПАШТУ́РХАЦЬ** *сов.* потолка́ть.
**ПАШТУ́ЧНА** *нареч.* поштучно.
**ПАШТУ́ЧНЫ** поштучный, шту́чный; **~ная апла́та** поштучная опла́та.
**ПАШТЭ́Т, -ту** *м.* паште́т.
**ПАШТЭ́ТНЫ** паште́тный.
**ПАШУКА́ЦЬ** *сов.* поиска́ть; (*ощупью — ещё*) поша́рить.
**ПАШУМЕ́ЦЬ** I *сов.* пошуме́ть.
**ПАШУМЕ́ЦЬ** II *сов. разг.* попе́ниться.
**ПАШУРПА́ЦЕЦЬ, ПАШУРПА́ЦІЦЦА** *сов. разг.* сде́латься шероховатым (шерша́вым).
**ПАШУШУ́КАЦЦА** *сов. разг.* пошушу́каться.
**ПА́ШЧА** *ж. разг. прям., перен.* пасть, зев *м.*
**ПАШЧАБЯТА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* пощебета́ть.
**ПАШЧАПА́ЦЦА** *сов.* (*во многих местах*) расщепи́ться.
**ПАШЧАПА́ЦЬ** *сов.* пощепа́ть.
**ПАШЧАРБІ́ЦЬ** *сов.* зазубри́ть; **п. сяке́ру** зазубри́ть топо́р.
**ПАШЧАСЛІ́ВІЦЦА, ПАШЧА́СЦІЦЬ** *сов. безл.* посчастли́виться.
**ПАШЧО́ЎКАЦЬ** *сов.* пощёлкать.
**ПАШЧО́ЎКВАННЕ** *ср.* пощёлкивание.
**ПАШЧО́ЎКВАЦЬ** *несов.* пощёлкивать.
**ПАШЧУПЛЕ́ЦЬ** *сов.* стать бо́лее щу́плым.
**ПАШЧЫЛЬНЕ́ЦЬ** *сов.* поплотне́ть, уплотни́ться.
**ПАШЧЫМЕ́ЦЬ** *сов.* поса́днеть; поса́днить.
**ПАШЧЫПА́НЫ** пощи́панный.
**ПАШЧЫПА́ЦЬ** *сов.* пощипа́ть.
**ПАШЧЫПВАННЕ** *ср.* пощи́пывание.
**ПАШЧЫПВАЦЬ** *несов.* пощи́пывать.
**ПАШЧЭ́РБЛЕНЫ** зазу́бренный; *см.* **пашчарбі́ць.**
**ПАШЫБАВА́ЦЬ** *сов. обл.* бы́стро пойти́.
**ПАШЫ́ВАЧНАЯ** *сущ.* поши́вочная.
**ПАШЫ́ВАЧНЫ** поши́вочный.
**ПАШЫПЕ́ЦЬ** *сов.* пошипе́ть.
**ПАШЫРА́ЛЬНІК** *м.* распространи́тель.
**ПАШЫРА́ЛЬНІЦА** *ж.* распространи́тельница.
**ПАШЫРА́ЛЬНЫ** расшири́тельный, ушири́тельный.
**ПАШЫ́РАНА** *нареч.* расши́ренно; широко́; **вы зана́дта п. разуме́еце гэ́тае пра́віла** вы сли́шком широко́ понима́ете э́то пра́вило.
**ПАШЫРАНАСЦЬ** *ж.* распространённость.
**ПАШЫРАНЫ** 1. расши́ренный, уши́ренный; 2. расши́ренный; 3. распространённый; 4. *спец.* разде́ланный, уши́ренный; 1—4 *см* **пашы́рыць.**
**ПАШЫРА́ЦЦА** *несов.* 1. расширя́ться, уширя́ться; 2. (*увеличиваться в числе, объёме*) расширя́ться; 3. распространя́ться; 4. *страд.* расширя́ться; уширя́ться; распространя́ться; разде́лываться; *см.* **пашыра́ць.**
**ПАШЫРА́ЦЬ** *несов.* 1. (*делать более широким*) расширя́ть, уширя́ть; 2. (*увеличивать в числе, объёме*) расширя́ть; 3. распространя́ть; **п. ве́ды сяро́д насе́льніцтва** распространя́ть зна́ния среди́ населе́ния; 4. *спец.* разде́лывать, уширя́ть; 1, 2, 4 *см.* **пашы́рыць.**
**ПАШЫРАЧЭ́ЦЬ** *сов. разг.* сде́латься, (стать) ши́ре.
**ПАШЫРЫЦЦА** *сов.* 1. расши́риться, уши́риться; 2. (*увеличиться в числе, объёме*) расши́риться; 3. распространи́ться.
**ПАШЫРЫЦЬ** *сов.* 1. (*сделать более широким*) расши́рить, уши́рить; **п. даро́гу** расши́рить доро́гу; 2. (*увеличить в числе, объёме*) расши́рить; **п. се́тку школ** расши́рить сеть школ; 3. распространи́ть; *см.* **пашыра́ць** 3; 4. *спец.* разде́лать, уши́рить; **п. адту́ліну** разде́лать отве́рстие.

**ПАШЫРЭ́ННЕ** *ср.* 1. расшире́ние, уширение; 2. расшире́ние; 3. распростране́ние; 4. *спец.* разде́лка *ж.*; 1—4 *см.* **пашы́рыць.**
**ПАШЫРЭ́ЦЬ** *сов.* стать ши́ре.
**ПАШЫТЫ** 1. сши́тый; ста́чанный; 2. переши́тый; перета́чанный; перемётанный; перестёганный; 1, 2 *см.* **пашы́ць** 1, 3.
**ПАШЫ́ЎКА** *ж. разг.* поши́вка, поши́в *м.*
**ПАШЫ́ЦЦА** *сов. разг.* полéзть; **п. ў нару́** поле́зть в нору́; ✧ **п. ў ду́рні** *прост.* прики́нуться дурачко́м.
**ПАШЫ́ЦЬ** *сов.* 1. сшить; (*сапоги — ещё*) стача́ть; 2. (*некрое время*) поши́ть; (*сапоги — ещё*) потача́ть; помета́ть; постега́ть; 3. (*всё, многое*) переши́ть; (*сапоги — ещё*) перетача́ть; перемета́ть; перестега́ть.
**ПАЭ́ЗІЯ** *ж.* поэ́зия.
**ПАЭКЗАМЕНАВА́ЦЦА** *сов.* поэкзаменова́ться.
**ПАЭКЗАМЕНАВА́ЦЬ** *сов.* поэкзаменова́ть.
**ПАЭ́МА** *ж.* поэ́ма.
**ПАЭСКАДРО́ННА** *нареч. воен.* поэскадро́нно.
**ПАЭСКАДРО́ННЫ** *воен.* поэскадро́нный.
**ПА-ЭСТО́НСКУ** *нареч.* по-эсто́нски.
**ПАЭ́Т** *м.* поэ́т.
**ПАЭ́ТКА** *ж. см.* **паэтэ́са.**
**ПАЭТЫЗАВА́НЫ** поэтизи́рованный.
**ПАЭТЫЗАВА́ЦЦА** *несов. страд.* поэтизи́роваться.
**ПАЭТЫЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* поэтизи́ровать.
**ПАЭТЫЗА́ЦЫЯ** *ж.* поэтиза́ция.
**ПАЭ́ТЫКА** *ж.* поэ́тика.
**ПАЭТЫ́ЧНА** *нареч.* поэти́чески.
**ПАЭТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* поэти́чность.
**ПАЭТЫ́ЧНЫ** *в разн. знач.* поэти́ческий; (*проникнутый поэзией, возвышенный — ещё*) поэти́чный.
**ПАЭТЭ́СА** *ж.* поэте́сса.
**ПА́ЮСНЫ:** **~ная ікра́** па́юсная икра́.
**ПАЯВЫ́** паево́й; **п. ўзнос** паево́й взнос.
**ПА-ЯГО́НАМУ** *нареч. обл.* по его́ (*мнению, словам и т. п.*).
**ПАЯДРАНЕ́ЦЬ** I *сов. безл.* похолода́ть, посвеже́ть.
**ПАЯДРАНЕ́ЦЬ** II *сов.* (*о плодах, зерне и т. п.*) нали́ться.
**ПАЯДЫ́НАК, -нку** *м. прям., перен.* поеди́нок.
**ПАЯЗДЖА́НІН** *м. уст., обл.* поезжа́нин.
**ПАЯЗДЖА́НКА** *ж. уст., обл.* поезжа́нка.
**ПАЯЗНЫ́** поездно́й; **~на́я брыга́да** поездна́я брига́да.
**ПА-ЯКО́МУ** *нареч. разг.* по-како́вски.
**ПА-ЯКУ́ЦКУ** *нареч.* по-яку́тски.
**ПАЯЛЧА́ЦЬ** *сов.* (*обо всём, многом*) прого́ркнуть.
**ПАЯ́ЛЬНІК** *м.* пая́льник.
**ПАЯ́ЛЬНЫ** пая́льный; **~ная ля́мпа** пая́льная ла́мпа.
**ПАЯ́ЛЬШЧЫК** *м.* пая́льщик.
**ПАЯ́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* пая́льщица.
**ПАЯМЧЭ́ЦЬ** *сов. разг.* стать удо́бнее.
**ПАЯ́ННЕ** *ср.* пая́ние.
**ПАЯ́НЫ** 1. *прич.* па́янный; 2. *прил.* па́яный.
**ПА-ЯПО́НСКУ** *нареч.* по-япо́нски.
**ПАЯ́РАК, -рку** *м.* поя́рок.
**ПАЯ́РКАВЫ** поя́рковый.
**ПАЯРЧЭ́ЦЬ** *сов.* стать я́рче.
**ПАЯСНЕ́ЦЬ** *сов.* стать ясне́е.
**ПАЯСНІ́ЦА** *ж.* 1. поясни́ца; 2. по́яс *м.*; **п. спадні́цы** по́яс ю́бки.
**ПАЯСНІ́ЧНЫ** 1. поясни́чный; 2. поясно́й; **~ныя за́сцежкі** поясны́е застёжки.
**ПАЯСНЫ** *в разн. знач.* поясно́й; **п. нож** поясно́й нож; **п. час** поясно́е вре́мя.
**ПАЯ́ЎКАЦЬ** *сов. разг.* помяу́кать.
**ПА-ЯЎРЭ́ЙСКУ** *нареч.* по-евре́йски.
**ПАЯ́ХКАЦЬ** *сов.* (*о собаке*) поля́ять (*при погоне за зайцем*).

**ПАЯЦ** *м. театр., перен.* пая́ц.
**ПАЯЦЦА** *несов. страд.* пая́ться.
**ПАЯЦЬ** *несов.* пая́ть.
**ПЕАН** *м.* (*гимн*) пеа́н.
**ПЕАНАЖ, -жу** *м. эк.* пеона́ж.
**ПЕВЕНЬ** *м. прям., перен.* пету́х; **першыя (другія) пеўні** пе́рвые (вторы́е) петухи́; **уставаць з пеўнямі** встава́ть с петуха́ми; **да пеўняў** (*вставать, сидеть*) до петухо́в; ✧ **пусціць чырвонага пеўня** пусти́ть кра́сного петуха́.
**ПЕГАС** *м. миф.* Пега́с.
**ПЕДАГАГІЧНА** *нареч.* педагоги́чно.
**ПЕДАГАГІЧНАСЦЬ** *ж.* педагоги́чность.
**ПЕДАГАГІЧНЫ** *в разн. знач.* педагоги́ческий; (*соответствующий правилам педагогики — ещё*) педагоги́чный; **~ныя кадры** педагоги́ческие ка́дры; **п. інстытут** педагоги́ческий институ́т; **~ная навука** педагоги́ческая нау́ка; **п. такт** педагоги́ческий такт.
**ПЕДАГЕНЕЗ, -зу** *м. биол.* педогене́з.
**ПЕДАГОГ** *м.* педаго́г.
**ПЕДАГОГІКА** *ж.* педаго́гика.
**ПАДАЛАГІЧНЫ** педологи́ческий.
**ПЕДАЛОГІЯ** *ж.* педоло́гия.
**ПЕДАЛЬ** *ж.* педа́ль; ✧ **націснуць на ўсе ~лі** нажа́ть на все педа́ли.
**ПЕДАЛЬНЫ** педа́льный.
**ПЕДАНТ** *м.* педа́нт.
**ПЕДАНТКА** *ж.* педа́нтка.
**ПЕДАНТЫЗМ, -му** *м.* педанти́зм.
**ПЕДАНТЫЧНА** *нареч.* педанти́чно; щепети́льно.
**ПЕДАНТЫЧНАСЦЬ** *ж.* педанти́чность; щепети́льность.
**ПЕДАНТЫЧНЫ** педанти́ческий; педанти́чный; щепети́льный.
**ПЕДАНЦКІ** педа́нтский.
**ПЕДАНЦТВА** *ср.* педа́нтство.
**ПЕДВУЧЫЛІШЧА** *ср.* педучи́лище.
**ПЕДІНСТЫТУТ** *м.* пединститу́т.
**ПЕДОЛАГ** *м.* педо́лог.
**ПЕДОМЕТР** *м. тех.* педо́метр.
**ПЕДПРАКТЫКА** *ж.* педпра́ктика.
**ПЕДСАВЕТ** *м.* педсове́т.
**ПЕДФАК** *м.* (**педагагічны факультэт**) педфа́к (педагоги́ческий факульте́т).
**ПЕДЫКЮР, -ру** *м.* педикю́р.
**ПЕДЫКЮРКА** *ж.* педикю́рша.
**ПЕДЫЯТР** *м.* педиа́тр.
**ПЕДЫЯТРЫЧНЫ** педиатри́ческий.
**ПЕДЫЯТРЫЯ** *ж.* педиатри́я.
**ПЕДЭРАСТ** *м.* педера́ст.
**ПЕДЭРАСТЫЯ** *ж.* педера́стия, мужело́жство *ср.*
**П'ЕДЭСТАЛ** *м. прям., перен.* пьедеста́л; **мармуровы п.** мра́морный пьедеста́л; **скінуць з ~ла** низве́ргнуть с пьедеста́ла.
**ПЕЗА** *нескл. ср.* (*денежная единица*) пе́со.
**П'ЕЗА** *ж. физ.* пьеза.
**П'ЕЗАМЕТРЫЧНЫ** *физ.* пьезометри́ческий.
**П'ЕЗАЭЛЕКТРЫЧНАСЦЬ** *ж. физ.* пьезоэлектри́чество *ср.*
**П'ЕЗАЭЛЕКТРЫЧНЫ** *физ.* пьезоэлектри́ческий.
**ПЕЗЕТА** *ж.* (*денежная единица*) пезе́та, песе́та.
**П'ЕЗОМЕТР** *м. физ.* пьезо́метр.
**ПЕЙЗАЖ** *м.* **1.** *род.* **пейзажу** (*вид*) пейза́ж; **2.** *род.* **пейзажа** *жив.* пейза́ж.
**ПЕЙЗАЖНЫ** пейза́жный; **п. жывапіс** пейза́жная жи́вопись.
**ПЕЙЗАЖЫСТ** *м.* пейзажи́ст.
**ПЕЙЗАЖЫСТКА** *ж.* пейзажи́стка.
**ПЕК,** *род.* **пеку** *м. тех.* пек.
**ПЕКАНУЦЬ** *сов. однокр. разг.* **1.** обже́чь, ожёчь; (*крапивой — ещё*) острека́ть, стрекну́ть; **2.** (*кнутом, плетью*) огре́ть, ожёчь; **3.** (*выстрелить*) пальну́ть; **4.** *перен.* (*словом*) подколо́ть, уколо́ть.
**ПЕКАР** *м.* пе́карь.
**ПЕКІН** *м. г.* Пеки́н.
**ПЕКІНСКІ** пеки́нский; ✧ **~кая качка** пеки́нская у́тка.
**ПЕКЛА** *ср. прям., перен.* ад *м.*; пе́кло; ✧ **сапраўднае п.** су́щий ад.
**П'ЕКСЫ, -саў** *ед. нет спорт.* пье́ксы.
**ПЕКЦІН, -ну** *м. хим.* пекти́н.
**ПЕКЦІНАВЫ** *хим.* пекти́новый.
**ПЕЛАГІЧНЫ** пелаги́ческий; **~ныя адклады** *геол.* пелаги́ческие отложе́ния; **~ныя арганізмы** пелаги́ческие органи́змы.
**ПЕЛАПАНЕС** *м. п-в* Пелопонне́с.
**ПЕЛАПАНЕСКІ** пелопонне́сский.
**ПЕЛАРГОНІЯ** *ж. бот.* пеларго́ния.
**ПЕЛЕНГ** *м. спец.* пе́ленг.
**ПЕЛЕНГАВАННЕ** *ср. спец.* пеленга́ция *ж.*, пеленгова́ние, пеленги́рование.
**ПЕЛЕНГАВАНЫ** *спец.* пеленго́ванный.
**ПЕЛЕНГАВАЦЬ** *сов. и несов. спец.* пеленгова́ть.
**ПЕЛЕНГАТАР** *м. спец.* пеленга́тор.
**ПЕЛЕНГАЦЫЯ** *ж. спец.* пеленга́ция.
**ПЕЛІКАН** *м. зоол.* пелика́н.
**ПЕЛЬКА** *ж. обл.* про́рубь.
**ПЕЛЬМЕНІ, -няў,** *ед.* **пельмень** *м. кул.* пельме́ни.
**ПЕЛЮШЦЫ, -цаў** *ед. нет* закраи́ны у коры́та для сти́рки.
**ПЕМЗА** *ж.* пе́мза.
**ПЕМЗАБЕТОН, -ну** *м. стр.* пемзобето́н.
**ПЕМЗАВАНЫ** *спец.* пемзо́ванный.
**ПЕМЗАВАЦЬ** *несов. спец.* пемзова́ть.
**ПЕМЗАВЫ** пе́мзовый.
**П'ЕМОНТ** *м.* Пьемо́нт.
**П'ЕМОНЦКАЯ РАЎНІНА** Пьемо́нтская равни́на.
**ПЕНА** *ж.* пе́на; ✧ **з пенай на губах** с пе́ной у рта.
**ПЕНАЛ** *м.* пена́л.
**ПЕНАСІЛІКАТ, -ту** *м.* пеносилика́т.
**ПЕНАСІЛІКАТНЫ** пеносилика́тный.
**ПЕНАТЫ, -таў** *ед. нет уст.* пена́ты.
**ПЕНАЧКА** *ж. зоол.* пе́ночка.
**ПЕНАШКЛО** *ср.* пеностекло́.
**ПЕНДЖАБ** *м.* Пенджа́б.
**ПЕНДЖАБСКІ** пенджа́бский.
**ПЕНЗА** *ж. г.* Пе́нза.
**ПЕНЗЕНСКАЯ ВОБЛАСЦЬ** Пе́нзенская о́бласть.
**ПЕНІ** *нескл. ср.* (*монета*) пе́нни.
**ПЕНІСТАСЦЬ** *ж.* пе́нистость.
**ПЕНІСТЫ** пе́нистый, пе́нящийся.
**ПЕНІЦЦА** *несов.* пе́ниться.
**ПЕНІЦЫЛІН, -ну** *м. фарм.* пеницилли́н.
**ПЕНІЦЫЛІНАВЫ** пеницилли́новый.
**ПЕНІЦЬ** *несов.* пе́нить; **п. квас** пе́нить квас.
**ПЕНКА** I *ж.* (*плёнка на остывающей жидкости*) пе́нка; **малако з ~каю** молоко́ с пе́нками; ✧ **здымаць ~кі** снима́ть пе́нки.
**ПЕНКА** II *ж. мин.* пе́нка.
**ПЕНКАВЫ** пе́нковый; **~вая люлька** пе́нковая тру́бка.
**ПЕНКАЗДЫМАЛЬНІЦТВА** *ср. ирон.* пенкоснима́тельство.
**ПЕНКАЗДЫМАЛЬШЧЫК** *м. ирон.* пенкоснима́тель.
**ПЕННЫ** пе́нный.
**ПЕНС** *м.* (*монета*) пенс.
**ПЕНСІЁННЫ** пенсио́нный.
**ПЕНСІЛЬВАНІЯ** *ж.* Пенсильва́ния.
**ПЕНСІЛЬВАНСКІ** пенсильва́нский.
**ПЕНСІЯ** *ж.* **1.** пе́нсия; **персанальная п.** персона́льная пе́нсия; **2.** *уст.* жа́лование *ср.*

**ПЕНСІЯНЕ́Р** *м.* пенсионе́р.
**ПЕНСІЯНЕ́РКА** *ж.* пенсионе́рка.
**ПЕНСІЯНЕ́РСКІ** пенсионе́рский.
**ПЕНСНЭ́** *нескл. ср.* пенсне́.
**ПЕНТАГО́Н** *м. мат.* пентаго́н.
**ПЕНТАГРА́МА** *ж.* пентагра́мма.
**ПЕНТА́МЕТР** *м. лит.* пента́метр.
**ПЕНТАМЕТРЫ́ЧНЫ** пентаметри́ческий.
**ПЕНТА́ЭДР, -дра** *м. мат.* пента́эдр.
**ПЕНЬ,** *род.* **пня** *м.* пень; ✧ **на пні** (*о лесе*) на корню́; **стаць пнём** стать в тупи́к; **глухі́ як п.** глухо́й как пень; **стая́ць як п.** стоя́ть как пень; **це́раз п. кало́ду** че́рез пень коло́ду; **вялі́к п. ды ду́рань** велика́ Феду́ла да ду́ра.
**ПЕНЬКАВАЛАКНО́** *ср.* пеньковолокно́.
**ПЕНЬКАПРАДЗЕ́ННЕ** *ср.* пенькопряде́ние.
**ПЕНЬКАПРАДЗІ́ЛЬНЫ** пенькопряди́льный.
**ПЕНЬКАПРАДЗІ́ЛЬШЧЫК** *м.* пенькопряди́льщик.
**ПЕНЬКАПРАДЗІ́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* пенькопряди́льщица.
**ПЕНЬКАТРАПА́ЛЬНЫ** пенькотрепа́льный.
**ПЕНЬКАТРАПА́ННЕ** *ср.* пенькотрепа́ние.
**ПЕНЬЮА́Р** *м.* пеньюа́р.
**ПЕ́НЯ** *ж.* пе́ня.
**ПЕО́Н, -ну** *м. лит.* пео́н.
**ПЕПЕРМЕ́НТ, -ту** *м. фарм.* пеперме́нт.
**ПЕ́ПІН, -ну** *м. сад.* пепи́н, пепи́нка *ж.*
**ПЕ́ПЛУМ** *м. ист.* пе́плум.
**ПЕПСІ́Н, -ну** *м. физиол., фарм.* пепси́н.
**ПЕПСІ́НАВЫ** пепси́новый, пепси́нный.
**ПЕПТО́Н, -ну** *м. физиол.* пепто́н.
**ПЕПТО́НАВЫ** пепто́новый, пепто́нный.
**ПЕРААБІРА́ЦЦА** *несов. см.* **перавыбіра́цца.**
**ПЕРААБІРА́ЦЬ** *несов. см.* **перавыбіра́ць.**
**ПЕРААБРА́ННЕ** *ср. см.* **перавыбра́нне.**
**ПЕРААБРА́НЫ** *см.* **перавы́браны.**
**ПЕРААБРА́ЦЬ** *сов. см.* **перавы́браць.**
**ПЕРААБСТАЛЁЎВАННЕ** *ср.* переоборудо́вание.
**ПЕРААБСТАЛЁЎВАЦЦА** *несов. страд.* переобору́доваться.
**ПЕРААБСТАЛЁЎВАЦЬ** *несов.* переобору́довать.
**ПЕРААБСТАЛЯВА́ННЕ** *ср.* переобору́дование.
**ПЕРААБСТАЛЯВА́НЫ** переобору́дованный.
**ПЕРААБСТАЛЯВА́ЦЬ** *сов.* переобору́довать.
**ПЕРААБУВА́ННЕ** *ср.* переобува́ние.
**ПЕРААБУВА́ЦЦА** *несов.* переобува́ться.
**ПЕРААБУВА́ЦЬ** *несов.* переобува́ть.
**ПЕРААБУ́ТЫ** переобу́тый.
**ПЕРААБУ́ЦЦА** *сов.* переобу́ться.
**ПЕРААБУ́ЦЬ** *сов.* переобу́ть.
**ПЕРААБУ́ЧАНЫ** переобу́ченный.
**ПЕРААБУЧА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* переобуча́ться.
**ПЕРААБУЧА́ЦЬ** *несов.* переобуча́ть.
**ПЕРААБУЧЫ́ЦЦА** *сов.* переобучи́ться.
**ПЕРААБУЧЫ́ЦЬ** *сов.* переобучи́ть.
**ПЕРААБУЧЭ́ННЕ** *ср.* переобуче́ние.
**ПЕРААБЦЯЖА́РАНЫ** переобремененённый.
**ПЕРААБЦЯЖА́РВАЦЦА** *несов. страд.* переобременя́ться.
**ПЕРААБЦЯЖА́РВАЦЬ** *несов.* переобременя́ть.
**ПЕРААБЦЯЖА́РЫЦЬ** *сов.* переобремени́ть.
**ПЕРААГЛЕ́ДЖАНЫ** переосвиде́тельствованный.
**ПЕРААГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *сов.* переосвиде́тельствовать.
**ПЕРААГЛЯ́Д, -ду** *м.* переосвиде́тельствование *ср.*
**ПЕРААДЗЕ́ТЫ 1.** *прич.* переоде́тый; переря́женный; наря́женный; *см.* **перааадзе́ць; 2.** *прил.* переоде́тый, наря́женный; ря́женый.
**ПЕРААДЗЕ́ЦЦА** *сов.* переоде́ться; переряди́ться; наряди́ться; **п. ў рабо́чую во́пратку** переоде́ться в рабо́чую оде́жду; **п. жанчы́най** переоде́ться (переряди́ться, наряди́ться) же́нщиной.
**ПЕРААДЗЕ́ЦЬ** *сов.* переоде́ть; переряди́ть; наряди́ть; **п. касцю́м** переоде́ть костю́м; **п. у жано́чае адзе́нне** переоде́ть (переряди́ть, наряди́ть) в же́нское пла́тье.
**ПЕРААДЗЯВА́ННЕ** *ср.* переодева́ние, ря́женье; *см.* **перaадзява́ць.**
**ПЕРААДЗЯВА́ЦЦА** *несов.* **1.** переодева́ться; переряжа́ться; переря́живаться, наряжа́ться, ряди́ться; *см.* **перaадзе́цца; 2.** *страд.* переодева́ться; переряжа́ться, переря́живаться; *см.* **перaадзява́ць.**
**ПЕРААДЗЯВА́ЦЬ** *несов.* переодева́ть; переряжа́ть, переря́живать; наряжа́ть, ряди́ть; *см.* **перaадзе́ць.**
**ПЕРААДМІНІСТРАВА́ЦЬ** *сов. неодобр.* переадминистри́ровать.
**ПЕРААДО́ЛЕННЕ** *ср.* **1.** преодоле́ние, побе́да *ж.*; **2.** преодоле́ние; 1, 2 *см.* **перaадо́лець** 1, 2.
**ПЕРААДО́ЛЕНЫ 1.** побеждённый, преодолённый; **2.** преодолённый, переси́ленный; 1, 2 *см.* **перaадо́лець** 1, 2.
**ПЕРААДО́ЛЕЦЬ** *сов.* **1.** (*одержать победу*) одоле́ть, победи́ть, преодоле́ть; **п. во́рага** одоле́ть (победи́ть, преодоле́ть) врага́; **2.** (*чувство и т. п.*) переборо́ть, преодоле́ть, переси́лить, превозмо́чь; **п. сто́му** переборо́ть (преодоле́ть, переси́лить, превозмо́чь) уста́лость; **3.** (*каго-што*) возоблада́ть (*над кем-чем*); **пачуццё абавя́зку ~лела страх** чу́вство до́лга возоблада́ло над стра́хом.
**ПЕРААДО́ЛЬВАННЕ** *ср.* **1.** преодолева́ние, побе́да *ж.*; **2.** преодолева́ние, переси́ливание, превозмога́ние; 1, 2 *см.* **перaадо́львацъ.**
**ПЕРААДО́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* преодолева́ться, переси́ливаться, превозмога́ться; *см.* **перaадо́львацъ** 2.
**ПЕРААДО́ЛЬВАЦЬ** *несов.* **1.** (*одерживать победу*) одолева́ть, побежда́ть, преодолева́ть; **2.** (*чувство и т. п.*) преодолева́ть, переси́ливать, превозмога́ть; 1, 2 *см.* **перaадо́лець** 1, 2.
**ПЕРААДО́ЛЬНЫ** преодоли́мый.
**ПЕРААДРАСАВА́НЫ** переадресо́ванный.
**ПЕРААДРАСАВА́ЦЬ** *сов.* переадресова́ть.
**ПЕРААДРАСО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* переадресо́вываться.
**ПЕРААДРАСО́ЎВАЦЬ** *несов.* переадресо́вывать.
**ПЕРААПРАНА́ННЕ** *ср.* **1.** переодева́ние; ря́женье; **2.** переодева́ние; 1, 2 *см.* **перaапрана́ць.**
**ПЕРААПРАНА́ЦЦА** *несов.* **1.** переодева́ться; переряжа́ться; **2.** *страд.* переодева́ться; переряжа́ться; *см.* **перaапрана́ць.**
**ПЕРААПРАНА́ЦЬ** *несов.* **1.** переодева́ть; переряжа́ть; **2.** (*снимая что-л., надевать другое*) переодева́ть.
**ПЕРААПРА́НЕНЫ 1.** *прич.* переоде́тый; переря́женный; **2.** переоде́тый; 1, 2 *см.* **перaапрану́ць; 3.** *прил.* переоде́тый.
**ПЕРААПРАНУ́ТЫ** *см.* **перaапра́нены.**
**ПЕРААПРАНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** переоде́ться; переряди́ться; **2.** (*сняв что-л., надеть другое*) переоде́ться.
**ПЕРААПРАНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** переоде́ть; переряди́ть; **2.** (*сняв что-л., надеть другое*) переоде́ть.
**ПЕРААРА́НЫ** *и* **ПЕРАВО́РАНЫ** *в разн. знач.* перепа́ханный; *см.* **перaара́ць.**
**ПЕРААРА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перепаха́ть; (*нарушить межу — ещё*) запаха́ться; **дрэ́нна паво́рана, трэ́ба п.** пло́хо вспа́хано, на́до перепаха́ть; **ко́лькі ён зямлі́ ~ра́ў!** ско́лько он земли́ перепаха́л!; **уча́стак зямлі́ ~ра́лі папала́м** уча́сток земли́ перепаха́ли попола́м.
**ПЕРААРГАНІЗАВА́НЫ** переорганизо́ванный.
**ПЕРААРГАНІЗАВА́ЦЦА** *сов.* переорганизова́ться.
**ПЕРААРГАНІЗАВА́ЦЬ** *сов.* переорганизова́ть.
**ПЕРААРГАНІЗА́ЦЫЯ** *ж.* переорганиза́ция.
**ПЕРААРГАНІЗО́ЎВАЦЬ** *несов.* переорганизо́вывать.
**ПЕРААРФАВА́НЫ** переве́янный; *см.* **перaарфава́ць.**
**ПЕРААРФАВА́ЦЬ** *сов.* (*веялкой*) переве́ять.
**ПЕРААРФО́ЎВАЦЬ** *несов.* (*веялкой*) переве́ивать, перева́ть.

**ПЕРААРЫЕНТАВА́ЦЦА** *сов.* переориенти́роваться.
**ПЕРААРЫЕНТА́ЦЫЯ** *ж.* переориента́ция.
**ПЕРААРЫЕНЦІРО́ЎКА** *ж.* переориентиро́вка.
**ПЕРААРЫШТАВА́НЫ** *разг.* переаресто́ванный.
**ПЕРААРЫШТАВА́ЦЬ** *сов. разг.* переарестова́ть.
**ПЕРААСІГНАВА́НЫ** *фин.* переассигно́ванный.
**ПЕРААСІГНАВА́ЦЬ** *сов. фин.* переассигнова́ть.
**ПЕРААСІГНО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. фин.* переассигно́вываться.
**ПЕРААСІГНО́ЎВАЦЬ** *несов. фин.* переассигно́вывать.
**ПЕРААСНАСЦІ́ЦЬ** *сов.* переоснасти́ть.
**ПЕРААСНАШЧА́ЦЬ** *несов.* переоснаща́ть.
**ПЕРААСНАШЧЭ́ННЕ** *ср.* переоснаще́ние.
**ПЕРААСЭНСАВА́ННЕ** *ср.* переосмысле́ние.
**ПЕРААСЭНСАВА́НЫ** переосмы́сленный.
**ПЕРААСЭНСАВА́ЦЬ** *сов.* переосмы́слить.
**ПЕРААСЭНСО́ЎВАННЕ** *ср.* переосмы́сливание.
**ПЕРААСЭНСО́ЎВАЦЬ** *несов.* переосмы́сливать.
**ПЕРААХАЛАДЖЭ́ННЕ** *ср.* переохлажде́ние.
**ПЕРААХАЛАДЗІ́ЦЦА** *сов.* переохлади́ться.
**ПЕРААХАЛАДЗІ́ЦЬ** *сов.* переохлади́ть.
**ПЕРААХАЛО́ДЖАНЫ** переохлаждённый.
**ПЕРААХАЛО́ДЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* переохлажда́ться.
**ПЕРААХАЛО́ДЖВАЦЬ** *несов.* переохлажда́ть.
**ПЕРААЦАНІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* переоцени́ть; **п. тава́ры** переоцени́ть това́ры; **п. сваé здо́льнасці** переоцени́ть свои́ спосо́бности.
**ПЕРААЦЭ́НЕНЫ** *в разн. знач.* переоценённый; *см.* **пераацані́ць.**
**ПЕРААЦЭ́НКА** *ж. в разн. знач.* переоце́нка.
**ПЕРААЦЭ́НЬВАННЕ** *ср.* переоце́нка *ж.*; *см.* **перааца́ньваць.**
**ПЕРААЦЭ́НЬВАЦЦА** *несов. страд.* переоце́ниваться; *см.* **перааца́ньваць.**
**ПЕРААЦЭ́НЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* переоце́нивать; *см.* **пераацані́ць.**
**ПЕРАБА́ВІЦЦА** I *сов. разг.* переби́ться.
**ПЕРАБА́ВІЦЦА** II *сов. разг.* перепра́виться; **ча́сці ~віліся на другí бок ракí** ча́сти перепра́вились на другу́ю сто́рону реки́.
**ПЕРАБА́ВІЦЬ** I *сов. разг.* переда́ть ли́шнее.
**ПЕРАБА́ВІЦЬ** II *сов. разг.* перепра́вить; **п. на другí бе́раг** перепра́вить на друго́й бе́рег.
**ПЕРАБАДА́ЦЦА** *сов.* перебода́ться.
**ПЕРАБАДА́ЦЬ** *сов.* перебода́ть.
**ПЕРАБАЗІ́РАВАННЕ** *ср.* перебази́рование, перебазиро́вка *ж.*
**ПЕРАБАЗІ́РАВАНЫ** перебази́рованный.
**ПЕРАБАЗІ́РАВАЦЦА** *сов.* перебази́роваться.
**ПЕРАБАЗІ́РАВАЦЬ** *сов.* перебази́ровать.
**ПЕРАБАЗІРО́ЎКА** *ж.* перебазиро́вка.
**ПЕРАБАЛАЦІ́РАВАНЫ** перебаллоти́рованный.
**ПЕРАБАЛАЦІ́РАВАЦЦА** *сов.* перебаллоти́роваться.
**ПЕРАБАЛАЦІ́РАВАЦЬ** *сов.* перебаллоти́ровать.
**ПЕРАБАЛАЦІРО́ЎВАЦЦА** *несов.* перебаллотиро́вываться.
**ПЕРАБАЛАЦІРО́ЎВАЦЬ** *несов.* перебаллотиро́вывать.
**ПЕРАБАЛАЦІРО́ЎКА** *ж.* перебаллотиро́вка.
**ПЕРАБАЛБАТА́ЦЬ** *сов. разг.* переболта́ть.
**ПЕРАБАЛЕ́ЦЬ** *сов.* (*испытать сильную боль*) переболе́ть.
**ПЕРАБАРАНАВА́НЫ** переборонённый, перебороно́ванный.
**ПЕРАБАРАНАВА́ЦЬ** *сов.* переборони́ть, переборонова́ть.
**ПЕРАБАРАНО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* перебора́ниваться.
**ПЕРАБАРАНО́ЎВАЦЬ** *несов.* перебора́нивать.

**ПЕРАБАСЦІ́** *сов. см.* **перабада́ць.**
**ПЕРАБА́ЎКА** *ж. разг.* переда́ча ли́шнего.
**ПЕРАБА́ЎЛЕНЫ** *разг.* перепра́вленный; *см.* **пераба́віць** II.
**ПЕРАБА́ЎЛЯЦЦА** I *несов. разг.* перебива́ться.
**ПЕРАБА́ЎЛЯЦЦА** II *несов. возвр., страд. разг.* переправля́ться; *см.* **пераба́віцца** II, **перабаўля́ць** II.
**ПЕРАБА́ЎЛЯЦЬ** I *несов. разг.* передава́ть, дава́ть ли́шнее; дава́ть бо́льше, чем сле́дует.
**ПЕРАБА́ЎЛЯЦЬ** II *несов. разг.* переправля́ть.
**ПЕРАБА́ЧЫЦЬ** *сов. разг.* перевида́ть.
**ПЕРАБЕ́Г, -гу** *м.* перебе́г.
**ПЕРАБЕ́ГЧЫ** *сов. в разн. знач.* перебежа́ть; **п. ву́ліцу** перебежа́ть у́лицу; **п. ў ла́гер працí́ўніка** перебежа́ть в ла́герь проти́вника.
**ПЕРАБЕ́ЖКА** *ж. в разн. знач.* перебе́жка.
**ПЕРАБЕ́ЖЧЫК** *м. прям., перен.* перебе́жчик.
**ПЕРАБЕ́ЖЧЫЦА** *ж. прям., перен.* перебе́жчица.
**ПЕРАБЕ́ЛЕНЫ** *в разн. знач.* перебелённый.
**ПЕРАБЕ́ЛКА** *ж.* перебе́лка.
**ПЕРАБЕ́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* перебе́ливаться; *см.* **перабе́льваць.**
**ПЕРАБЕ́ЛЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перебе́ливать.
**ПЕРАБІВА́ННЕ** *ср.* **1.** перебива́ние; **2.** перебива́ние, переколачивание; **3.** перебива́ние, перешиба́ние; **4.** перебива́ние, прерыва́ние; **5.** перебива́ние, перекола́чивание; 1—5 *см.* **перабіва́ць.**
**ПЕРАБІВА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*преодолевать нужду*) перебива́ться; **2.** *страд.* перебива́ться; перекола́чиваться; прерыва́ться; *см.* **перабіва́ць;** ◇ **п. з хле́ба на квас** перебива́ться с хле́ба на квас.
**ПЕРАБІВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перебива́ть; **2.** (*разбивать во множестве*) перебива́ть, перекола́чивать; **3.** (*ломать ударом*) перебива́ть, перешиба́ть; **4.** (*приостанавливать; мешать нормальному развитию чего-л.*) перебива́ть, прерыва́ть; **5.** (*прибивать иначе или в другом месте*) перебива́ть, перекола́чивать; 1—5 *см.* **перабі́ць.**
**ПЕРАБІНТАВА́НЫ** перебинто́ванный.
**ПЕРАБІНТАВА́ЦЬ** *сов.* перебинтова́ть.
**ПЕРАБІРА́ННЕ** *ср.* **1.** перебо́рка *ж.*, перебира́ние; **2.** *перен.* перебира́ние; **3.** привере́дничание; **4.** пластова́ние; **5.** теребле́ние; 1—5 *см.* **перабіра́ць.**
**ПЕРАБІРА́ЦЦА** *несов.* **1.** перебира́ться, переправля́ться; **2.** перебира́ться; переселя́ться; перекочёвывать ;1, 2 *см.* **перабра́цца; 3.** *страд.* перебира́ться; *см.* **перабіра́ць** 1.
**ПЕРАБІРА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перебира́ть; **2.** *перен.* (*проявлять неумеренность в чём-л.*) перебира́ть, перехва́тывать; 1, 2 *см.* **перабра́ць; 3.** (*капризничать*) привере́дничать, быть сли́шком разбо́рчивым; **4.** (*сено*) пластова́ть; **5.** (*трогать пальцами*) теребить.
**ПЕРАБІ́РЫЧ** *м. обл.* (*сена*) пласт.
**ПЕРАБІ́ТЫ** **1.** *в разн. знач.* переби́тый; **2.** переби́тый, переколо́ченный; **3.** переби́тый, перешибленный; **4.** переби́тый, пре́рванный; **5.** переби́тый, переколо́ченный; 1—5 *см.* **перабі́ць.**
**ПЕРАБІ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*о чем-л. бьющемся*) переби́ться; переколоти́ться; **2.** (*преодолеть нужду*) переби́ться; **3.** (*подраться — о многих*) передра́ться.
**ПЕРАБІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* переби́ть; **п. ваўко́ў** переби́ть волко́в; **п. ку́плю** переби́ть поку́пку; **п. пах** переби́ть за́пах; **п. паду́шкі** переби́ть поду́шки; **п. мяч** переби́ть мяч; **2.** (*разбить во множестве*) переби́ть, переколоти́ть; **п. пасу́ду** переби́ть (переколоти́ть) посу́ду; **3.** (*сломать ударом*) переби́ть, перешиби́ть; **п. руку́** переби́ть (перешиби́ть) ру́ку; **4.** (*приостановить; помешать нормальному развитию чего-л.*) переби́ть, прерва́ть; **п. прамо́ўцу** переби́ть (прерва́ть) ора́тора; **п. сон (апеты́т)** переби́ть сон (аппети́т); **5.** (*прибить иначе или в другом месте*) переби́ть, переколоти́ть.
**ПЕРАБЛЫ́ТАНЫ** **1.** перепу́танный; сме́шанный, спу-

танный; перемéшанный; 2. *разг.* перéвранный; 1,2 *см.* **перабл́ытаць.**

**ПЕРАБЛЫТАЦЦА** *сов. в разн. знач.* перепу́таться; (*утратить порядок — ещё*) перемешáться; **~таліся ніткі** перепу́тались ни́тки; **ду́мкі ~таліся** мы́сли перепу́тались (перемешáлись).

**ПЕРАБЛЫТАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перепу́тать; (*принять одно за другое — ещё*) смешáть, спу́тать; (*привести в беспорядок — ещё*) перемешáть; **п. дрот** перепу́тать прóволоку; **п. рэ́чы** перепу́тать вéщи; **п. адрасы́** перепу́тать адресá; **2.** *разг.* (*неверно рассказать*) переврáть.

**ПЕРАБЛЫТВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перепу́тываться; (*утрачивать порядок — ещё*) перемéшиваться; *см.* **перабл́ытацца; 2.** *страд.* перепу́тываться; смéшиваться, спу́тываться; перевирáться; *см.* **перабл́ытваць.**

**ПЕРАБЛЫТВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перепу́тывать; (*принимать одно за другое — ещё*) смéшивать, спу́тывать; (*приводить в беспорядок — ещё*) перемéшивать; **2.** *разг.* (*неверно рассказывать*) перевирáть; 1, 2 *см.* **перабл́ытаць.**

**ПЕРАБÓЙ, -бóю** *м.* перебóй; **пульс з ~бóямі** пульс с перебóями; **~бóі ў забеспячэ́нні** перебóи в снабжéнии.

**ПЕРАБÓЙНЫ** перебóйный.

**ПЕРАБÓЛЬШАНА** *нареч.* преувели́ченно.

**ПЕРАБÓЛЬШАНАСЦЬ** *ж.* преувели́ченность.

**ПЕРАБÓЛЬШАННЕ** *ср.* преувеличéние.

**ПЕРАБÓЛЬШАНЫ** преувели́ченный; прикрáшенный, приукрáшенный; *см.* **перабóльшыць.**

**ПЕРАБÓЛЬШВАННЕ** *ср.* преувеличéние.

**ПЕРАБÓЛЬШВАЦЦА** *несов. страд.* преувели́чиваться; прикрáшиваться, приукрáшиваться; *см.* **перабóльшваць.**

**ПЕРАБÓЛЬШВАЦЬ** *несов.* преувели́чивать; (*представлять в более привлекательном виде — ещё*) прикрáшивать, приукрáшивать.

**ПЕРАБÓЛЬШЫЦЬ** *сов.* преувели́чить; (*представить в более привлекательном виде — ещё*) прикрáсить, приукрáсить.

**ПЕРАБÓР I, -ру** *м.* (*излишек*) перебóр.

**ПЕРАБÓР II, -ру** *м.* перебóр; **~ры гармóніка** перебóры гармóники.

**ПЕРАБÓРЛІВА** *нареч. разг.* приверéдливо; разбóрчиво; прихотли́во.

**ПЕРАБÓРЛІВАСЦЬ** *ж. разг.* приверéдливость; разбóрчивость; прихотли́вость.

**ПЕРАБÓРЛІВЫ** *разг.* приверéдливый; разбóрчивый; прихотли́вый; ✧ **п. заўсёды галóдны** приверéдливый (разбóрчивый) всегдá гóлоден.

**ПЕРАБÓРШЧЫК** *м. спец.* перебóрщик.

**ПЕРАБÓРШЧЫЦА** *ж. спец.* перебóрщица.

**ПЕРАБÓРЫ** *ед. нет* приверéдничанье *ср.*, приверéдливость *ж.*, изли́шняя разбóрчивость.

**ПЕРАБÓЎТАНЫ** перебóлтанный.

**ПЕРАБÓЎТАЦЦА** *сов.* переболтáться.

**ПЕРАБÓЎТАЦЬ** *сов.* переболтáть.

**ПЕРАБÓЎТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* перебáлтываться.

**ПЕРАБÓЎТВАЦЬ** *несов.* перебáлтывать.

**ПЕРАБРАДЗІЦЬ** *сов.* переброди́ть; **піва ~дзіла** пи́во переброди́ло.

**ПЕРАБРАКАВÁНЫ** перебракóванный.

**ПЕРАБРАКАВÁЦЬ** *сов. в разн. знач.* перебраковáть.

**ПЕРАБРАКÓЎВАЦЦА** *несов. страд.* перебракóвываться.

**ПЕРАБРАКÓЎВАЦЬ** *несов.* перебракóвывать.

**ПЕРАБРÁНЫ** *в разн. знач.* перéбранный; *см.* **перабрáць** 1.

**ПЕРАБРАХÁЦЬ** *сов.* **1.** *разг.* перелáять, превзойти́ в лáе; **2.** *перен. прост.* превзойти́ в болтовнé; **3.** *перен. прост.* передразни́ть.

**ПЕРАБРÁЦЦА** *сов.* **1.** перебрáться, переправиться; **п. на другí бéраг** перебрáться (переправиться) на другóй бéрег; **2.** перебрáться; переселиться; перекочевáть.

**ПЕРАБРÁЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перебрáть; **п. бу́льбу** перебрáть картóфель; **п. усíх знаёмых у размóве** перебрáть всех знакóмых в разговóре; **п. стру́ны** перебрáть стру́ны; **п. набóр** *полигр.* перебрáть набóр; **п. усé грóшы з кáсы** перебрáть все дéньги из кáссы; **2.** *перен.* (*проявить неумеренность в чём-л.*) перебрáть, перехвати́ть; ✧ **п. мéру** хвати́ть ли́шнего; хвати́ть чéрез край, переборщи́ть.

**ПЕРАБРУ́ДЖАНЫ** перепáчканный, перемáранный.

**ПЕРАБРУ́ДЗІЦЦА** *сов.* перепáчкаться, перемарáться.

**ПЕРАБРУ́ДЗІЦЬ** *сов.* перепáчкать, перемарáть; перегрязни́ть.

**ПЕРАБРУКАВÁНЫ** *в разн. знач.* перемощённый; *см.* **перабрукавáць.**

**ПЕРАБРУКАВÁЦЬ** *сов. в разн. знач.* перемости́ть; **п. плóшчу** перемости́ть плóщадь; **кóлькі ву́ліц, плóшчаў ~вáў!** скóлько у́лиц, площадéй перемости́л!

**ПЕРАБРУКÓЎВАННЕ** *ср.* перемáщивание.

**ПЕРАБРУКÓЎВАЦЦА** *несов. страд.* перемáщиваться.

**ПЕРАБРУКÓЎВАЦЬ** *несов.* перемáщивать.

**ПЕРАБРЫВÁЦЦА** *несов. возвр., страд.* перебривáться.

**ПЕРАБРЫВÁЦЬ** *несов.* перебривáть.

**ПЕРАБРЫКÁЦЬ** *сов.* перелягáть.

**ПЕРАБРЫСЦÍ** *сов.* перебрести́; **п. цéраз раку́** перебрести́ чéрез рéку.

**ПЕРАБРЫ́ТЫ** перебри́тый.

**ПЕРАБРЫ́ЦЦА** *сов.* перебри́ться.

**ПЕРАБРЫ́ЦЬ** *сов.* перебри́ть.

**ПЕРАБРЭ́ХВАЦЬ** *несов. прост.* передрáзнивать.

**ПЕРАБУДАВÁНЫ 1.** *в разн. знач.* перестрóенный; **2.** переустрóенный; 1, 2 *см.* **перабудавáць.**

**ПЕРАБУДАВÁЦЦА** *сов. в разн. знач.* перестрóиться.

**ПЕРАБУДАВÁЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перестрóить; **п. дом** перестрóить дом; **п. лéкцыю** перестрóить лéкцию; **2.** (*устроить по-новому*) переустрóить; **п. жыццё** переустрóить жизнь.

**ПЕРАБУДЗÍЦЬ** *сов.* перебуди́ть.

**ПЕРАБУДÓВА** *ж. в разн. знач.* перестрóйка; **п. дóма** перестрóйка дóма; **п. сістэ́мы аплáты прáцы** перестрóйка систéмы оплáты трудá.

**ПЕРАБУДÓВАНЫ** *см.* **перабудавáны.**

**ПЕРАБУДÓЎВАННЕ** *ср.* **1.** перестрáивание, перестрóйка *ж.*; **2.** переустрóйство; 1, 2 *см.* **перабудóўваць.**

**ПЕРАБУДÓЎВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перестрáиваться; **2.** *страд.* перестрáиваться; переустрáиваться; *см.* **перабудóўваць.**

**ПЕРАБУДÓЎВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* перестрáивать; **2.** (*устраивать по-новому*) переустрáивать; 1, 2 *см.* **перабудавáць.**

**ПЕРАБЫВÁЦЬ** *сов.* перебывáть; **сягóння ў мянé ~вáлі ўсе маé сябры́** сегóдня у меня́ перебывáли все мои́ друзья́.

**ПЕРАБЫ́ТЫ** *разг.* пережи́тый; *см.* **перабы́ць.**

**ПЕРАБЫ́ЦЬ** *сов. разг.* перебы́ть, пережи́ть; **каб як зіму́ п.** как бы зи́му пережи́ть (перебы́ть); ✧ **не ўрадзíў мак— ~бу́дзем і так** *погов.* не роди́л мак — перебу́дем и так.

**ПЕРАБЯГÁННЕ** *ср.* перебегáние; *см.* **перабягáць.**

**ПЕРАБЯГÁЦЬ** *несов. в разн. знач.* перебегáть; *см.* **перабéгчы.**

**ПЕРАБЯЛÍЦЬ** *сов. в разн. знач.* перебели́ть.

**ПЕРАВÁБІЦЬ** *сов.* перемани́ть.

**ПЕРАВÁБЛЕНЫ** перемáненный.

**ПЕРАВÁБЛІВАННЕ** *ср.* перемáнивание.

**ПЕРАВÁБЛІВАЦЬ** *несов.* перемáнивать.

**ПЕРАВÁГА** *ж.* **1.** перевéс *м.*, преиму́щество *ср.*, превосхóдство *ср.*; **пачуццё ўлáснай ~гі** чу́вство собственного превосхóдства; **2.** преоблáдание *ср.*; **3.** предпочтéние *ср.*

**ПЕРАВАДЗÍЦЬ** *сов.* (*всех поочерёдно*) переводи́ть.

2. *сов.* перерешáть, решúть; **п. усé задáчы** перерешáть (решúть) все задáчи.

**ПЕРАРАШЫЦЬ** *сов.* перерешúть; **п. задáчу** перерешúть задáчу.

**ПЕРАРВÁНЫ** 1. перéрванный; 2. прéрванный; перебúтый; 3. перéрванный; 1—3 *см.* **перарвáць.**

**ПЕРАРВÁЦЦА** *сов.* 1. (*разорваться в каком-л. месте*) перервáться; 2. (*о разговоре и т. п.*) прервáться.

**ПЕРАРВÁЦЬ** *сов.* 1. перервáть; **п. дрот** перервáть прóволоку; 2. (*временно приостановить*) прервáть; (*говорящего — ещё*) перебúть; **п. штодзённую рабóту** прервáть ежеднéвную рабóту; **п. прамóўцу** прервáть (перебúть) орáтора; 3. (*разорвать во множестве*) перервáть; **п. увéсь шпагáт** перервáть весь шпагáт.

**ПЕРАРЖАВÉЛЫ** перержáвленный.

**ПЕРАРЖАВÉЦЬ** *сов.* перержáветь.

**ПЕРАРÓБКА** *ж.* 1. передéлка; переработка; 2. переработка; 3. переработка; 4. перевя́зка; 1—4 *см.* **перарабíць** 1—3, 6.

**ПЕРАРÓБЛЕНЫ** 1. передéланный; переработанный; 2. переработанный; 3. переработанный; 4. передéланный; 5. перевя́занный; 1—5 *см.* **перарабíць** 1—3, 5, 6.

**ПЕРАРÓБЛІВАННЕ** *ср.* 1. передéлывание, передéлка *ж.*; перерабáтывание, переработка *ж.*; 2. перерабáтывание, переработка *ж.*; 3. перерабáтывание, переработка *ж.*; 4. перевя́зывание, перевя́зка *ж.*; 1—4 *см.* **перарабíць** 1—3, 6.

**ПЕРАРÓБЛІВАЦЬ** *несов. см.* **перарабля́ць.**

**ПЕРАРÓД, -ду** *м. с.-х.* перерóд.

**ПЕРАРÓДЖАНЫ** перерождённый; *см.* **перарадзíць.**

**ПЕРАРÓСЛЫ** перерóсший; *см.* **перарасцí.**

**ПЕРАРÓСТАК, -тка** *м.* перерóсток.

**ПЕРАРЫВÁЛЬНІК** *м. тех.* прерывáтель.

**ПЕРАРЫВÁЦЦА** I *несов.* 1. (*разрываться в каком-л. месте*) перерывáться; 2. (*о разговоре и т. п.*) прерывáться; 1, 2 *см.* **перарвáцца;** 3. *страд.* перерывáться; прерывáться; перебивáться; *см.* **перарывáць** I.

**ПЕРАРЫВÁЦЦА** II *несов. страд.* перерывáться, разрывáться; *см.* **перарывáць** II.

**ПЕРАРЫВÁЦЬ** I *несов.* 1. перерывáть; 2. (*временно приостанавливать*) прерывáть; (*говорящего — ещё*) перебивáть; 1, 2 *см.* **перарвáць** 1, 2.

**ПЕРАРЫВÁЦЬ** II *несов.* (*рылом — о животных*) перерывáть, разрывáть; *см.* **перарыць.**

**ПЕРАРЫ́ВІСТА** *нареч.* преры́висто.

**ПЕРАРЫ́ВІСТАСЦЬ** *ж.* 1. преры́вистость; 2. преры́вчатость; 3. преры́вистость; 1—3 *см.* **перары́вісты.**

**ПЕРАРЫ́ВІСТЫ** 1. преры́вистый; **п. ток** преры́вистый ток; 2. (*имеющий перерывы*) переры́вчатый; 3. (*звучащий с перерывами*) преры́вистый, прерывáющийся.

**ПЕРАРЫСАВÁНЫ** перерисóванный.

**ПЕРАРЫСАВÁЦЬ** *сов.* перерисовáть.

**ПЕРАРЫСÓЎВАННЕ** *ср.* перерисóвывание, перерисóвка *ж.*

**ПЕРАРЫСÓЎВАЦЦА** *несов. страд.* перерисóвываться.

**ПЕРАРЫСÓЎВАЦЬ** *несов.* перерисóвывать.

**ПЕРАРЫСÓЎКА** *ж.* перерисóвка.

**ПЕРАРЫ́ТЫ** переры́тый, разры́тый; *см.* **перары́ць.**

**ПЕРАРЫ́Ў, -ры́ву** *м.* 1. (*место разрыва*) переры́в; 2. *см.* **перапы́нак** 1.

**ПЕРАРЫЦЬ** *сов.* (*рылом — о животных*) переры́ть, разры́ть; **свíнні ~ры́лі ўсе грáды** свúньи переры́ли все гря́ды.

**ПЕРАРЭГІСТРАВÁНЫ** перерегистрúрованный.

**ПЕРАРЭГІСТРАВÁЦЦА** *сов.* перерегистрúроваться.

**ПЕРАРЭГІСТРАВÁЦЬ** *сов.* перерегистрúровать.

**ПЕРАРЭГІСТРÁЦЫЯ** *ж.* перерегистрáция.

**ПЕРАРЭ́З, -зу** *м.* перерéз; *см.* **перарэ́заць.**

**ПЕРАРЭ́ЗАНЫ** *в разн. знач.* перерéзанный; *см.* **перарэ́заць.**

**ПЕРАРЭ́ЗАЦЦА** *сов.* 1. (*разрезаться на части*) перерéзаться; **стýжка лёгка ~залася** лéнта легкó перерéзалась; 2. (*перерезать друг друга*) перерéзаться; **бандúты ~заліся паміж сабóй** бандúты перерéзались мéжду собóй.

**ПЕРАРЭ́ЗАЦЬ** *сов. в разн. знач.* перерéзать; **п. стýжку** перерéзать лéнту; **п. шлях праціўніку** перерéзать путь неприя́телю; **раўнíну ~залі адгóр'і** равнúну перерéзали гóрные отрóги; **~залі ўсю жывёлу** перерéзали весь скот.

**ПЕРАРЭ́ЗВАННЕ** *ср. см.* **пераразáнне.**

**ПЕРАРЭ́ЗВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **пераразáцца.**

**ПЕРАРЭ́ЗВАЦЬ** *несов. см.* **пераразáць.**

**ПЕРАРЭ́ШАНЫ** *см.* **перарашáны.**

**ПЕРАРЭ́ШВАЦЬ** *несов. см.* **перарашáць** 1.

**ПЕРАСÁДАЧНЫ** *в разн. знач.* пересáдочный; **~ныя машы́ны** пересáдочные машúны; **~ныя раслíны** пересáдочные растéния; **п. білéт** *разг.* пересáдочный билéт.

**ПЕРАСÁДЖАНЫ** *в разн. знач.* пересáженный; *см.* **перасадзíць** 1.

**ПЕРАСАДЖÁЦЬ** *сов.* (*посадить всё, всех*) пересажáть.

**ПЕРАСÁДЖВАННЕ** *ср. в разн. знач.* пересáдка *ж.*; **п. дрэў** пересáдка дерéвьев; **п. скýры** пересáдка кóжи.

**ПЕРАСÁДЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пересáживаться; *см.* **перасéсці** 1, **перасáджваць.**

**ПЕРАСÁДЖВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* пересáживать; *см.* **перасадзíць** 1.

**ПЕРАСАДЗÍЦЬ** *сов.* 1. *в разн. знач.* пересадúть; **п. вýчня на другýю пáрту** пересадúть ученикá на другýю пáрту; **п. капýсту** пересадúть капýсту; **п. скýру на твар** пересадúть кóжу на лицó; **п. сякéру на другóе тапары́шча** пересадúть топóр на другóе топорúще; **п. на другí пóезд** пересадúть на другóй пóезд; **п. цéраз плот** пересадúть чéрез забóр; 2. (*всё, всех*) пересажáть; **за свой век ён мнóга дрэў ~дзіў** на своём векý он мнóго дерéвьев пересажáл; **акупáнты нямáла людзéй ~дзілі** оккупáнты немáло людéй пересажáли.

**ПЕРАСÁДКА** *ж. в разн. знач.* пересáдка; **п. раслíн** пересáдка растéний; **éхаць без ~кі** éхать без пересáдки; **п. скýры на твáры** пересáдка кóжи на лицé.

**ПЕРАСАЛАДЗÍЦЬ** *сов.* 1. (*сделать слишком сладким*) пересластúть; (*сахаром — ещё*) пересáхарить; 2. (*зерно, тесто*) пересолодúть.

**ПЕРАСАЛÍЦЬ** *сов.* 1. *в разн. знач.* пересолúть; **п. суп** пересолúть суп; **п. усé грыбы́** пересолúть все грибы́; 2. *перен.* пересолúть, переборщúть.

**ПЕРАСАЛÓДЖАНЫ** 1. переслащённый; пересáхаренный; 2. пересоложённый; 1, 2 *см.* **перасаладзíць.**

**ПЕРАСАЛÓДЖВАЦЦА** *несов. страд.* переслáщиваться; пересáхариваться; *см.* **перасалóджваць** 1.

**ПЕРАСАЛÓДЖВАЦЬ** *несов.* 1. (*делать слишком сладким*) переслáщивать; (*сахаром — ещё*) пересáхаривать; 2. (*зерно, тесто*) пересолáживать.

**ПЕРАСАРТАВÁННЕ** *ср.* пересортирóвка *ж.*; *см.* **перасартавáць.**

**ПЕРАСАРТАВÁНЫ** *в разн. знач.* пересортирóванный.

**ПЕРАСАРТАВÁЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересортировáть.

**ПЕРАСАРТÓЎВАННЕ** *ср.* пересортирóвка *ж.*; *см.* **перасартóўваць.**

**ПЕРАСАРТÓЎВАЦЦА** *несов. страд.* пересортирóвываться; *см.* **перасартóўваць.**

**ПЕРАСАРТÓЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* пересортирóвывать.

**ПЕРАСВÁРАНЫ** пересcóренный.

**ПЕРАСВÁРВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* перессóриваться.

**ПЕРАСВÁРВАЦЬ** *несов.* перессóривать.

**ПЕРАСВАРЫ́ЦЦА** *сов.* перессóриться.

**ПЕРАСВАРЫ́ЦЬ** *сов.* перессо́рить.
**ПЕРАСВА́ТАЦЬ** *сов. разг.* пересва́тать.
**ПЕРАСВІДРАВА́ЦЬ** *сов.* пересверли́ть.
**ПЕРАСВІДРО́ЎВАЦЬ** *несов.* пересве́рливать.
**ПЕРАСВІ́СНУЦЦА** *сов. разг.* пересви́стнуться.
**ПЕРАСВІ́СТ, -ту** *м. разг.* пересви́ст.
**ПЕРАСВІСТА́ЦЬ** *сов. разг.* пересвиста́ть.
**ПЕРАСВІ́СТВАННЕ** *ср. разг.* пересви́стывание.
**ПЕРАСВІ́СТВАЦЦА** *несов. разг.* пересви́стываться.
**ПЕРАСВІ́СТВАЦЬ** *несов. разг.* пересви́стывать.
**ПЕРАСВЯТКАВА́ЦЬ** *сов.* провести́ пра́здник, отпра́здновать.
**ПЕРАСЕ́ДЖВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* переси́живать; *см.* **перасе́дзець.**
**ПЕРАСЕ́ДЗЕЦЬ** *и* **ПЕРАСЯДЗЕ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересиде́ть; **хлеб ~дзеў** хлеб пересиде́л; **ён усі́х ~дзеў** он всех пересиде́л; **з гэ́тым хле́бам зіму́ як-не́будзь ~дзім** с э́тим хле́бом зи́му ка́к-нибудь пересиди́м; **~дзім, хай дождж перастáне** пересиди́м, пусть дождь переста́нет.
**ПЕРАСЕ́ЙВАЦЦА** *несов. страд. см.* **перасява́цца.**
**ПЕРАСЕ́ЙВАЦЬ** *несов. см.* **перасява́ць.**
**ПЕРАСЕ́ЛЕНЫ** переселённый.
**ПЕРАСЕ́СЦІ** *сов.* 1. *в разн. знач.* пересе́сть; **п. на друго́е крэ́сла** пересе́сть на друго́й стул; **п. на парахо́д** пересе́сть на парохо́д; 2. застря́ть; **бу́льба ў го́рле ~се́ла** карто́шка в го́рле застря́ла.
**ПЕРАСЕ́Ў, -се́ву** *м.* пересе́в.
**ПЕРАСЕ́Ч** *сов. см.* **перасячы́.**
**ПЕРАСЕ́ЧАНАСЦЬ** *ж.* пересечённость; **п. мясцо́васці** пересечённость ме́стности.
**ПЕРАСЕ́ЧАНЫ** 1. *прич. в разн. знач.* пересечённый; 2. *прич.* переру́бленный; 1, 2 *см.* **перасячы́** 1, 2; 3. *прил.* (*о поверхности земли*) пересечённый; **~ная мясцо́васць** пересечённая ме́стность.
**ПЕРАСЕ́ЧНЫ** *см.* **перасяка́льны.**
**ПЕРАСЕ́ЯНЫ** *в разн. знач.* пересе́янный; *см.* **перасе́яць.**
**ПЕРАСЕ́ЯЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересе́ять; **п. уча́стак** пересе́ять уча́сток; **п. усю́ муку́** пересе́ять всю муку́.
**ПЕРАСЁЛКА** *ж. обл.* жердь в избе́ для разве́шивания оде́жды.
**ПЕРАСІ́ЛЕНЫ** 1. переси́ленный; 2. *перен.* переси́ленный; 1, 2 *см.* **перасі́ліць** 1, 2.
**ПЕРАСІ́ЛІЦЦА** *сов.* надорва́ться.
**ПЕРАСІ́ЛІЦЬ** *сов.* 1. переси́лить; **п. тава́рыша** переси́лить това́рища; 2. *перен.* (*преодолеть чувство, ощущение*) переси́лить, переборо́ть, поборо́ть; **п. боль** переси́лить (переборо́ть, поборо́ть) боль; 3. надорва́ть; **п. каня́** надорва́ть ло́шадь.
**ПЕРАСІ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* 1. надрыва́ться; 2. *страд.* переси́ливаться; *см.* **перасі́льваць.**
**ПЕРАСІ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* 1. переси́ливать; 2. *перен.* (*преодолевать чувство, ощущение*) переси́ливать, переба́рывать; 1, 2 *см.* **перасі́ліць** 1, 2.
**ПЕРАСІ́НЕНЫ** *в разн. знач.* пересинённый; *см.* **перасіні́ць.**
**ПЕРАСІНІ́ЦЦА** *сов.* пересини́ться.
**ПЕРАСІНІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересини́ть; **бялі́зну дрэ́нна пасіні́лі, трэ́ба яе́ п.** бельё пло́хо посини́ли, на́до его́ пересини́ть; **гэ́ту прасціну́ ты ~ні́ла** э́ту простыню́ ты пересини́ла; **п. усю́ памы́тую бялі́зну** пересини́ть всё вы́стиранное бельё.
**ПЕРАСІ́НЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* переси́нивать; *см.* **перасіні́ць.**
**ПЕРАСКАКА́ЦЬ** *сов.* 1. (*перегнать, скача*) перескака́ть; 2. перепляса́ть; **яна́ ўсі́х ~ска́ча** она́ всех перепля́шет.
**ПЕРАСКА́КВАННЕ** *ср.* перепры́гивание, переска́кивание, перема́хивание *см.* **пераска́кваць** 1.
**ПЕРАСКА́КВАЦЬ** *несов.* 1. (*через что-л.*) перепры́гивать, переска́кивать, перема́хивать; 2. (*с одного места на другое*) переска́кивать; 3. *перен.* переска́кивать; 1—3 *см.* **пераско́чыць;** 4. (*перегонять, скача*) переска́кивать.
**ПЕРАСКАРО́ДЖАНЫ** *с.-х.* переборонённый.
**ПЕРАСКАРО́ДЖВАЦЦА** *несов. страд. с.-х.* перебора́ниваться.
**ПЕРАСКАРО́ДЖВАЦЬ** *несов. с.-х.* перебора́нивать.
**ПЕРАСКАРО́ДЗІЦЬ** *сов. с.-х.* перебо́рони́ть, переборонова́ть.
**ПЕРАСКА́ЧКА** *ж. спорт.* переска́чка.
**ПЕРАСКВА́РАНЫ** *в разн. знач.* пережа́ренный.
**ПЕРАСКВА́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пережа́риваться; *см.* **перасква́рыцца, перасква́рваць.**
**ПЕРАСКВА́РВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* пережа́ривать.
**ПЕРАСКВА́РЫЦЦА** *сов. в разн. знач.* пережа́риться.
**ПЕРАСКВА́РЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* пережа́рить.
**ПЕРАСКО́К, -ку** *м.* прыжо́к (*через что-л.*).
**ПЕРАСКО́КНУЦЬ** *сов. однокр.* перепры́гнуть, перескочи́ть.
**ПЕРАСКО́ЧЫЦЬ** *сов.* 1. (*через что-л.*) перепры́гнуть, перескочи́ть, перемахну́ть; **п. це́раз плот** перескочи́ть (перепры́гнуть, перемахну́ть) че́рез забо́р; 2. (*с одного места на другое*) перескочи́ть; **п. ад акна́ да дзвярэ́й** перескочи́ть от окна́ к две́ри; 3. *перен.* перескочи́ть; **п. це́раз дзве главы́ і чыта́ць далéй** перескочи́ть че́рез две главы́ и чита́ть да́льше; **п. на но́вую тэ́му** перескочи́ть на но́вую те́му; ✧ **не кажы́ «гоп», паку́ль не ~чыш** *посл.* не говори́ «гоп», пока́ не переско́чишь.
**ПЕРАСКРЭ́БЦІ** *сов.* (*заново или всё*) перескобли́ть.
**ПЕРАСКУ́БЕНЫ** перещи́панный; ощи́панный; *см.* **пераску́бці.**
**ПЕРАСКУ́БЦІ** *сов.* (*всех, многих, всё, многое*) перещипа́ть; ощипа́ть.
**ПЕРАСЛАІ́ЦЦА** *сов.* переслои́ться.
**ПЕРАСЛАІ́ЦЬ** *сов.* переслои́ть.
**ПЕРАСЛА́НЫ** I пере́сланный; *см.* **пераслáць** I.
**ПЕРАСЛА́НЫ** II пере́стланный; *см.* **пераслáць** II.
**ПЕРАСЛА́ЦЬ** I *сов.* (*послать из одного места в другое*) пересла́ть.
**ПЕРАСЛА́ЦЬ** II *сов.* (*постлать, выстлать заново, по-иному*) перестла́ть.
**ПЕРАСЛО́ЕНЫ** переслоённый.
**ПЕРАСЛО́ЙВАННЕ** *ср.* пересла́ивание, пересло́йка *ж.*
**ПЕРАСЛО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пересла́иваться.
**ПЕРАСЛО́ЙВАЦЬ** *несов.* пересла́ивать.
**ПЕРАСЛО́ЙКА** *ж. геол., бот.* пересло́йка.
**ПЕРАСЛУЖЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* переслужи́ть; **п. лі́шні год** переслужи́ть ли́шний год; **на ўсі́х слу́жбах ~жы́ў** на всех слу́жбах переслужи́л.
**ПЕРАСЛУ́ХАЦЬ** *сов.* переслу́шать.
**ПЕРАСМА́ЖАНЫ** пережа́ренный.
**ПЕРАСМА́ЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пережа́риваться.
**ПЕРАСМА́ЖВАЦЬ** *несов.* пережа́ривать.
**ПЕРАСМА́ЖЫЦЦА** *сов.* пережа́риться.
**ПЕРАСМА́ЖЫЦЬ** *сов.* пережа́рить.
**ПЕРАСМА́ЛЕНЫ** перепалённый, пережжённый; *см.* **перасмалі́ць** II.
**ПЕРАСМАЛІ́ЦЦА** *сов.* пересмоли́ться.
**ПЕРАСМАЛІ́ЦЬ** I *сов.* пересмоли́ть; **п. ло́дку** пересмоли́ть ло́дку.
**ПЕРАСМАЛІ́ЦЬ** II *сов.* перепали́ть, пережéчь; **п. валасы́ пры заві́ўцы** перепали́ть во́лосы при зави́вке.
**ПЕРАСМА́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* перепа́ливаться, пережига́ться; *см.* **перасма́льваць.**
**ПЕРАСМА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* перепа́ливать, пережига́ть; *см.* **перасмалі́ць** II.
**ПЕРАСМЕ́ЙВАЦЦА** *несов. разг.* пересме́иваться.
**ПЕРАСМЕ́ЙВАЦЬ** *несов. разг.* пересме́ивать.

**ПЕРАСМЕ́ШКІ, -шак** *ед. нет разг.* пересме́шки.

**ПЕРАСМЕ́ШНІК** *м.* **1.** *разг.* (*о человеке*) пересме́шник; **2.** *зоол.* пересме́шник.

**ПЕРАСМЕ́ШНІЦА** *ж. разг.* пересме́шница.

**ПЕРАСМІХА́ЦЦА** *несов.* пересме́иваться.

**ПЕРАСМІХНУ́ЦЦА** *сов.* пересмехну́ться.

**ПЕРАСМО́ЛЕНЫ** пересмолённый; *см.* **перасмалі́ць** I.

**ПЕРАСМО́ЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пересма́ливаться; *см.* **перасмалі́цца, перасмо́льваць.**

**ПЕРАСМО́ЛЬВАЦЬ** *несов.* пересма́ливать; *см.* **перасмалі́ць** I.

**ПЕРАСМЫ́КВАННЕ** *ср. обл.* подёргивание, передёргивание, дёрганье.

**ПЕРАСМЫ́КВАЦЦА** *несов. обл.* подёргиваться, передёргиваться, дёргаться.

**ПЕРАСМЫ́КВАЦЬ** *несов. обл.* **1.** (*дёргая, перемещать*) передёргивать; **2.** *безл.* (*о судорожном движении*) подёргивать, передёргивать; **яго́ ~вае** его́ подёргивает (передёргивает).

**ПЕРАСМЫКНУ́ЦЦА** *сов. обл.* передёрнуться, дёрнуться.

**ПЕРАСМЫКНУ́ЦЬ** *сов. обл.* **1.** (*дёрнув, переместить*) передёрнуть; **2.** *безл.* (*о судорожном движении*) передёрнуть; *см.* **перасмы́кваць** 2.

**ПЕРАСМЯЯ́ЦЬ** *сов. разг.* пересмея́ть.

**ПЕРАСНАВА́ЦЬ** *сов.* пересնова́ть.

**ПЕРАСНАСЦІ́ЦЬ** *сов. мор.* переснасти́ть.

**ПЕРАСНА́ШЧАНЫ** *мор.* переснащённый.

**ПЕРАСНАШЧА́ЦЦА** *несов. страд. мор.* переснаща́ться.

**ПЕРАСНАШЧА́ЦЬ** *несов. мор.* переснаща́ть.

**ПЕРАСНІ́ЦЬ** *сов. разг.* переви́деть мно́го снов.

**ПЕРАСО́ВАЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересова́ть.

**ПЕРАСО́ВАЧНЫ** *в разн. знач.* передвижно́й; **п. сто́лік** передвижно́й сто́лик; **~ная бібліятэ́ка** передвижна́я библиоте́ка.

**ПЕРАСО́Л, -лу** *м.* пересо́л.

**ПЕРАСО́ЛЕНЫ 1.** *прич. в разн. знач.* пересо́ленный; *см.* **перасалі́ць** 1; **2.** *прил.* (*слишком солёный*) пересо́ленный.

**ПЕРАСО́ЛЬВАННЕ** *ср.* пересо́л *м.*; *см.* **перасо́льваць** 1.

**ПЕРАСО́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* переса́ливаться; *см.* **перасо́льваць** 1.

**ПЕРАСО́ЛЬВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* переса́ливать; **2.** *перен.* переса́ливать, перебáрщивать; 1, 2 *см.* **перасалі́ць.**

**ПЕРАСО́ЎВАННЕ** *ср.* передвиже́ние, передви́жка *ж.*; *см.* **перасо́ўваць.**

**ПЕРАСО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** передвига́ться, дви́гаться; **2.** *страд.* передвига́ться; *см.* **перасо́ўваць.**

**ПЕРАСО́ЎВАЦЬ** *несов.* (*с места на место*) передвига́ть.

**ПЕРАСО́ЎКА** *ж.* передви́жка; **бібліятэ́ка-п.** библиоте́ка-передви́жка.

**ПЕРАСО́ХЛЫ** пересо́хший; **~лае се́на** пересо́хшее се́но; **~лыя гу́бы** пересо́хшие гу́бы.

**ПЕРАСО́ХНУЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересо́хнуть; **се́на ~хла** се́но пересо́хло; **усе́ кве́ткі ~хлі** все цветы́ пересо́хли; **~хла ў ро́це** пересо́хло во рту.

**ПЕРАСПА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* переспа́ть; **п. ноч** переспа́ть ночь; **п. у сусе́дзяў** переспа́ть у сосе́дей; **п. усі́х** переспа́ть всех.

**ПЕРАСПЕ́ЛАСЦЬ** *ж. прям., перен.* перезре́лость.

**ПЕРАСПЕ́ЛЕНЫ** переспе́лый, перезре́лый.

**ПЕРАСПЕ́ЛІЦЬ** *сов.* дать перезре́ть.

**ПЕРАСПЕ́ЛЫ 1.** перезре́вший, перезре́лый, переспе́вший, переспе́лый; **2.** *перен.* перезре́вший, перезре́лый.

**ПЕРАСПЕ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* дава́ть перезрева́ть.

**ПЕРАСПЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** перезре́ть, переспе́ть; **2.** *перен.* перезре́ть.

**ПЕРАСПРАБАВА́НЫ** *см.* **перапрабава́ны.**

**ПЕРАСПРАБАВА́ЦЬ** *сов. см.* **перапрабава́ць.**

**ПЕРАСПЯВА́НЫ** *в разн. знач.* перепе́тый; *см.* **пераспява́ць** I.

**ПЕРАСПЯВА́ЦЬ** I *сов. в разн. знач.* перепе́ть; **п. старо́га спевака́** перепе́ть ста́рого певца́; **п. шмат частýшак** перепе́ть мно́го часту́шек; **п. пе́сню спача́тку** перепе́ть пе́сню снача́ла.

**ПЕРАСПЯВА́ЦЬ** II *несов.* **1.** перезрева́ть, переспева́ть; **2.** *перен.* перезрева́ть.

**ПЕРАССА́ЦЬ** *сов.* пересоса́ть; **дзіця́ ~сса́ла** ребёнок пересоса́л.

**ПЕРАСТАВА́ЦЬ** *несов.* перестава́ть; *см.* **переста́ць.**

**ПЕРАСТА́ВІЦЬ** *сов.* переста́вить; **п. мэ́блю** переста́вить ме́бель.

**ПЕРАСТАНО́ЎКА** *ж. в разн. знач.* перестано́вка; **п. мэ́блі** перестано́вка ме́бели; **п. сіл** перестано́вка сил.

**ПЕРАСТА́РАК, -рка** *м. разг.* переста́рок.

**ПЕРАСТАРА́ЦЦА** *сов.* перестара́ться, переусе́рдствовать.

**ПЕРАСТА́ЎЛЕНЫ** переста́вленный; *см.* **переста́віць.**

**ПЕРАСТАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* переставля́ться; *см.* **перастаўля́ць.**

**ПЕРАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** переставля́ть; *см.* **переста́віць; 2.** (*што*) дви́гать (*чем*), переставля́ть; **ледзь но́гі ~ля́е** едва́ нога́ми дви́гает, едва́ но́ги переставля́ет.

**ПЕРАСТАЎНЫ́** переставно́й.

**ПЕРАСТА́ЦЬ** *сов.* переста́ть; **дождж не ~та́ў** дождь не переста́л.

**ПЕРАСТАЯ́ЦЦА** *сов. разг.* перестоя́ться.

**ПЕРАСТАЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** перестоя́ть, перестоя́ться; **малако́ ~тая́ла** молоко́ перестоя́ло (перестоя́лось); **2.** (*простоять, пережидая что-л.*) перестоя́ть; **п. дождж пад страхо́й** перестоя́ть дождь под кры́шей.

**ПЕРАСТО́Й, -то́ю** *м. спец.* перестóй.

**ПЕРАСТО́ЙВАЦЦА** *несов. разг.* переста́иваться.

**ПЕРАСТО́ЙВАЦЬ** *несов.* **1.** переста́ивать, переста́иваться; **2.** (*простаивать, пережидая что-л.*) переста́ивать; 1, 2 *см.* **перастая́ць.**

**ПЕРАСТРАЕ́ННЕ** *ср. воен.* перестрое́ние; **п. на хаду́** перестрое́ние на ходу́.

**ПЕРАСТРАЛЯ́НЫ** *в разн. знач.* перестре́лянный; *см.* **перастраля́ць.**

**ПЕРАСТРАЛЯ́ЦЦА** *сов. разг.* перестреля́ться.

**ПЕРАСТРАЛЯ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перестреля́ть; **п. усю́ дзічы́ну** перестреля́ть всю дичь; **п. усе́ патро́ны** перестреля́ть все патро́ны.

**ПЕРАСТРАХАВА́ННЕ** *ср.* перестрахо́вывание, перестрахо́вка *ж.*; *см.* **перастрахава́ць.**

**ПЕРАСТРАХАВА́НЫ** *и* **ПЕРАСТРАХО́ВАНЫ** *в разн. знач.* перестрахо́ванный.

**ПЕРАСТРАХАВА́ЦЦА** *сов. прям., перен.* перестрахова́ться.

**ПЕРАСТРАХАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перестрахова́ть.

**ПЕРАСТРАХО́ВАНЫ** *см.* **перастрахава́ны.**

**ПЕРАСТРАХО́ЎВАННЕ** *ср.* перестрахо́вывание, перестрахо́вка *ж.*; *см.* **перастрахо́ўваць.**

**ПЕРАСТРАХО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* перестрахо́вываться; *см.* **перастрахава́цца, перастрахо́ўваць.**

**ПЕРАСТРАХО́ЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перестрахо́вывать.

**ПЕРАСТРАХО́ЎКА** *ж. в разн. знач.* перестрахо́вка; **п. маёмасці** перестрахо́вка иму́щества; **су́ма ~кі** су́мма перестрахо́вки; **гэ́та ўжо п. з твайго́ бо́ку** э́то уже́ перестрахо́вка с твое́й стороны́.

**ПЕРАСТРАХО́ЎШЧЫК** *м. разг. неодобр.* перестрахо́вщик.

**ПЕРАСТРАХО́ЎШЧЫЦА** *ж. разг. неодобр.* перестрахо́вщица.

**ПЕРАСТРАЧЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* перестрочи́ть; **п. шво** перестрочи́ть шов; **п. папе́рку** перестрочи́ть бума́жку; **п. усю́ ко́ўдру** перестрочи́ть всё одея́ло.

**ПЕРАСТРО́ЕНЫ** I *воен.* перестро́енный; *см.* **перастро́іць** I.

**ПЕРАСТРО́ЕНЫ** II *радио, муз.* перестро́енный; *см.* **перастро́іць** II.

**ПЕРАСТРО́ІЦЦА** I *сов. воен.* перестро́иться; **ро́та ху́тка ~ро́ілася** ро́та бы́стро перестро́илась.

**ПЕРАСТРО́ІЦЦА** II *сов. в разн. знач.* перестро́иться; **п. на і́ншую хва́лю** перестро́иться на другу́ю волну́; **ён ху́тка ~ро́іўся** он бы́стро перестро́ился.

**ПЕРАСТРО́ІЦЬ** I *сов. воен.* перестро́ить; **п. кало́ну** перестро́ить коло́нну.

**ПЕРАСТРО́ІЦЬ** II *сов. радио, муз.* перестро́ить; **п. прыёмнік на каро́ткія хва́лі** перестро́ить приёмник на коро́ткие во́лны; **п. балала́йку** перестро́ить балала́йку.

**ПЕРАСТРО́ЙВАННЕ** I *ср. воен.* перестра́ивание, перестро́йка *ж.*; *см.* **перастро́йваць** I.

**ПЕРАСТРО́ЙВАННЕ** II *ср. радио, муз.* перестра́ивание, перестро́йка *ж.*; *см.* **перастро́йваць** II.

**ПЕРАСТРО́ЙВАЦЦА** I *несов. возвр., страд. воен.* перестра́иваться; *см.* **перастро́іцца** I, **перастро́йваць** I.

**ПЕРАСТРО́ЙВАЦЦА** II *несов. возвр., страд.* перестра́иваться; *см.* **перастро́іцца** II, **перастро́йваць** II.

**ПЕРАСТРО́ЙВАЦЬ** I *несов. воен.* перестра́ивать; *см.* **перастро́іць** I.

**ПЕРАСТРО́ЙВАЦЬ** II *несов. радио, муз.* перестра́ивать; *см.* **перастро́іць** II.

**ПЕРАСТРО́ЧАНЫ** *в разн. знач.* перестро́ченный; *см.* **перастрачы́ць.**

**ПЕРАСТРО́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* перестра́чиваться; *см.* **перастро́чваць.**

**ПЕРАСТРО́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перестра́чивать; *см.* **перастрачы́ць.**

**ПЕРАСТРУГА́НЫ** 1. *в разн. знач.* перестро́ганный; 2. перечи́щенный; 1, 2 *см.* **перастругáць.**

**ПЕРАСТРУГА́ЦЬ** *сов.* 1. *в разн. знач.* перестрога́ть; 2. (*картофель и т. п.*) перечи́стить.

**ПЕРАСТРУ́ГВАЦЦА** *несов. страд.* перестра́гиваться; *см.* **перастру́гваць.**

**ПЕРАСТРУ́ГВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перестра́гивать.

**ПЕРАСТРЫГА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* перестрига́ться; *см.* **перастры́гчыся, перастрыга́ць.**

**ПЕРАСТРЫГА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* перестрига́ть.

**ПЕРАСТРЫ́ГЧЫ** *сов. в разн. знач.* перестри́чь.

**ПЕРАСТРЫ́ГЧЫСЯ** *сов. в разн. знач.* перестри́чься.

**ПЕРАСТРЫ́ЖАНЫ** *в разн. знач.* перестри́женный.

**ПЕРАСТРЭ́ЛКА** *ж.* перестре́лка.

**ПЕРАСТРЭ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* 1. (*обстреливать друг друга*) перестре́ливаться; 2. *страд.* перестре́ливаться; *см.* **перастрэ́льваць.**

**ПЕРАСТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перестре́ливать; *см.* **перастраля́ць.**

**ПЕРАСТУ́К,** -ку *м.* пересту́к.

**ПЕРАСТУ́КАЦЬ** *сов. разг.* (*стучать громче или дольше кого-л.*) перестуча́ть; **хто каго́ ~кае** кто кого́ перестучи́т.

**ПЕРАСТУ́КВАННЕ** *ср.* пересту́кивание.

**ПЕРАСТУ́КВАЦЦА** *несов.* пересту́киваться.

**ПЕРАСТУ́КНУЦЦА** *сов.* пересту́кнуться.

**ПЕРАСТУПА́ЦЬ** I *несов.* 1. переступа́ть, перешáгивать; 2. *перен.* переступа́ть, наруша́ть; преступа́ть; 1, 2 *см.* **перасту́піць** I; 3. (*двигаться, ступая с ноги на ногу*) переступа́ть; **ён ле́дзьве ~па́ў нага́мі** он е́ле переступа́л нога́ми.

**ПЕРАСТУПА́ЦЬ** II *несов.* 1. уступа́ть; 2. (*делать уступку*) уступа́ть; 3. (*што*) поступа́ться (*чем*); 1—3 *см.* **перасту́піць** II.

**ПЕРАСТУПІ́ЦЬ** I *сов.* 1. переступи́ть, перешагну́ть; **п. (це́раз) паро́г** переступи́ть (перешагну́ть) (че́рез) поро́г; 2. *перен.* переступи́ть, нару́шить; преступи́ть; **п. мяжу́ прысто́йнасці** переступи́ть (нару́шить) грани́цу прили́чия.

**ПЕРАСТУПІ́ЦЬ** II *сов.* 1. уступи́ть; **я ~пі́ў яму́ сваю́ чаргу́** я уступи́л ему́ свою́ о́чередь; 2. (*сделать уступку*) уступи́ть; **старо́му чалаве́ку трэ́ба п.** ста́рому челове́ку на́до уступи́ть; 3. (*што*) поступи́ться (*чем*); **я лепш сваё ~плю** я лу́чше свои́м поступлю́сь.

**ПЕРАСУКА́НЫ** *в разн. знач.* пересу́ченный.

**ПЕРАСУКА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересучи́ть.

**ПЕРАСУ́КВАЦЦА** *несов. страд.* пересу́чиваться; *см.* **перасу́кваць.**

**ПЕРАСУ́КВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* пересу́чивать.

**ПЕРАСУ́НУТЫ** 1. передви́нутый; *см.* **перасу́нуць** 1; 2. подви́нутый бо́льше, чем сле́дует.

**ПЕРАСУ́НУЦЦА** *сов.* передви́нуться.

**ПЕРАСУ́НУЦЬ** *сов.* 1. (*с места на место*) передви́нуть; 2. подви́нуть бо́льше, чем сле́дует.

**ПЕРАСУ́ШАНЫ** *в разн. знач.* пересу́шенный; *см.* **перасушы́ць.**

**ПЕРАСУ́ШВАННЕ** *ср.* пересу́шивание, пересу́шка *ж.*; *см.* **перасу́шваць.**

**ПЕРАСУ́ШВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пересу́шиваться; *см.* **перасушы́цца, перасу́шваць.**

**ПЕРАСУ́ШВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* пересу́шивать; *см.* **перасушы́ць.**

**ПЕРАСУ́ШКА** *ж.* пересу́шка.

**ПЕРАСУШЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* пересуши́ться.

**ПЕРАСУШЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пересуши́ть; **п. сухары́** пересуши́ть сухари́; **п. усю́ бялі́зну** пересуши́ть всё бельё.

**ПЕРАСЦЕРАГА́ЛЬНА** *нареч.* предостерега́юще.

**ПЕРАСЦЕРАГА́ЛЬНЫ** предостерега́ющий.

**ПЕРАСЦЕРАГА́ЦЦА** *несов. страд.* предостерега́ться.

**ПЕРАСЦЕРАГА́ЦЬ** *несов.* предостерега́ть, остерега́ть.

**ПЕРАСЦЕРА́ГЧЫ** *сов.* предостере́чь, остере́чь.

**ПЕРАСЦЕРАЖЭ́ННЕ** *ср. см.* **перасцяро́га.**

**ПЕРАСЦЁБАНЫ** *разг.* перехлёстанный, перестёганный.

**ПЕРАСЦЁБАЦЬ** *сов. разг.* перехлеста́ть, перестега́ть.

**ПЕРАСЦІЛА́ННЕ** *ср.* перестила́ние, перести́лка *ж.*; *см.* **перасціла́ць.**

**ПЕРАСЦІЛА́ЦЦА** *несов. страд.* перестила́ться; *см.* **перасціла́ць.**

**ПЕРАСЦІЛА́ЦЬ** *несов.* (*стлать, выстилать заново, по-иному*) перестила́ть.

**ПЕРАСЦІ́ЛКА** *ж.* перести́лка; *см.* **перасціла́ць.**

**ПЕРАСЦІХА́ЦЬ** *несов.* 1. (*о звуках*) умолка́ть, утиха́ть (*на время*); 2. (*о ветре, буре, боли и т. п.*) утиха́ть, унима́ться; (*о дожде, снеге и т. п.*) перестава́ть; 1, 2 *см.* **перасці́хнуць.**

**ПЕРАСЦІ́ХНУЦЬ** *сов.* 1. (*о звуках*) умо́лкнуть, ути́хнуть (*на время*); 2. (*о ветре, буре, боли и т. п.*) ути́хнуть, уня́ться; (*о дожде, снеге и т. п.*) переста́ть; **ве́цер ~х** ве́тер ути́х (уня́лся); **дождж ~х** дождь переста́л.

**ПЕРАСЦЯБА́НЫ** *см.* **перасцёбаны.**

**ПЕРАСЦЯБА́ЦЬ** *сов. см.* **перасцёбаць.**

**ПЕРАСЦЯРО́ГА** *ж.* предостереже́ние *ср.*

**ПЕРАСЦЯРЭ́ЖАНЫ** предостережённый, остережённый.

**ПЕРАСЫЛА́ННЕ** *ср.* пересыла́ние, пересы́лка *ж.*; *см.* **перасыла́ць.**

**ПЕРАСЫЛА́ЦЦА** *несов. страд.* пересыла́ться; *см.* **перасыла́ць.**

**ПЕРАСЫЛА́ЦЬ** *несов.* (*посылать из одного места в другое*) пересыла́ть.

**ПЕРАСЫЛАЧНЫ** пересы́лочный.

**ПЕРАСЫ́ЛКА** *ж.* пересы́лка; *см.* **перасыла́ць.**

**ПЕРАСЫЛЬНЫ** пересы́льный; **п. пункт** пересы́льный пункт.

**ПЕРАСЫПА́ННЕ** *ср.* 1. пересыпа́ние; 2. *разг.* перебо́рка *ж.*; 1, 2 *см.* **перасыпа́ць** I.

**ПЕРАСЫПАНЫ** **1.** *в разн. знач.* пересыпанный; **2.** *разг.* перебранный; 1, 2 *см.* **перасыпаць.**

**ПЕРАСЫПАЦЦА** *несов.* **1.** пересыпаться; **2.** *страд.* пересыпаться; перебираться; *см.* **перасыпаць** I.

**ПЕРАСЫПАЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* пересыпать; **п. збожжа ў мяшкі** пересыпать зерно в мешки; **п. цукру ў чай** пересыпать сахару в чай; **п. рэчы нафталінам** пересыпать вещи нафталином; **п. гутарку жартамі** пересыпать разговор шутками; **2.** *разг.* (*с целью ремонта*) перебрать; п. **хату** перебрать избу.

**ПЕРАСЫПАЦЬ** I *несов.* **1.** *в разн. знач.* пересыпать; **2.** *разг.* (*с целью ремонта*) перебирать; 1, 2 *см.* **перасыпаць.**

**ПЕРАСЫПАЦЬ** II *несов.* *в разн. знач.* пересыпать; *см.* **пераспаць.**

**ПЕРАСЫПКА** *ж.* **1.** *в разн. знач.* пересыпка; **п. збожжа** пересыпка зерна; **п. рэчаў нафталінам** пересыпка вещей нафталином; **2.** *разг.* переборка; *см.* **перасыпаць 2.**

**ПЕРАСЫПНЫ** пересыпной.

**ПЕРАСЫХАННЕ** *ср.* пересыхание; *см.* **перасыхаць.**

**ПЕРАСЫХАЦЬ** *несов.* *в разн. знач.* пересыхать; *см.* **перасохнуць.**

**ПЕРАСЫЦЬ** *ж.* пресыщение *ср.*

**ПЕРАСЯВАННЕ** *ср.* **1.** пересев *м.*; **2.** пересеивание, пересев *м.*; 1, 2 *см.* **перасяваць.**

**ПЕРАСЯВАЦЦА** *несов.* *страд.* пересеваться; пересеиваться; *см.* **перасяваць.**

**ПЕРАСЯВАЦЬ** *несов.* **1.** пересевать; **2.** пересеивать; 1, 2 *см.* **перасеяць.**

**ПЕРАСЯГАЦЬ** *несов.* превосходить.

**ПЕРАСЯГНУТЫ** превзойдённый.

**ПЕРАСЯГНУЦЬ** *сов.* превзойти; ✧ **п. (самога) сябе** превзойти (самого) себя.

**ПЕРАСЯДАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* пересаживаться; **2.** застревать; 1, 2 *см.* **перасесці.**

**ПЕРАСЯДЗЕЦЬ** *сов.* *см.* **перасядзець.**

**ПЕРАСЯДЛАНЫ** пересёдланный.

**ПЕРАСЯДЛАЦЬ** *сов.* переседлать.

**ПЕРАСЯДЛОЎВАЦЦА** *несов.* *страд.* пересёдлываться.

**ПЕРАСЯДЛОЎВАЦЬ** *несов.* пересёдлывать.

**ПЕРАСЯКАЛЬНАСЦЬ** *ж.* *мат.* пересекаемость.

**ПЕРАСЯКАЛЬНЫ** *и* **ПЕРАСЕЧНЫ** пересекающийся; **~ныя лініі** *мат.* пересекающиеся линии.

**ПЕРАСЯКАННЕ** *ср.* перерубание, перерубка *ж.*; *см.* **перасякаць 2.**

**ПЕРАСЯКАЦЦА** *несов.* **1.** пересекаться; *см.* **перасячыся**; **2.** *страд.* пересекаться; перерубаться; *см.* **перасякаць.**

**ПЕРАСЯКАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* пересекать; **2.** (*пополам или на части*) перерубать; **3.** (*во множестве*) перерубать; 1—3 *см.* **перасячы.**

**ПЕРАСЯЛЕНЕЦ, -нца** *м.* переселенец.

**ПЕРАСЯЛЕНКА** *ж.* переселенка.

**ПЕРАСЯЛЕННЕ** *ср.* переселение.

**ПЕРАСЯЛЕНЧЫ** переселенческий.

**ПЕРАСЯЛІЦЦА** *сов.* переселиться.

**ПЕРАСЯЛІЦЬ** *сов.* переселить.

**ПЕРАСЯЛЯЦЦА** *несов.* *возвр.*, *страд.* переселяться.

**ПЕРАСЯЛЯЦЬ** *несов.* переселять.

**ПЕРАСЯЧЫ** *и* **ПЕРАСЕЧ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* пересечь; **рака ~секла горад** река пересекла город; **п. лінію другой лініяй** пересечь линию другой линией; **чыгунка ~чэ нашу вобласць** железная дорога пересечёт нашу область; **атрад ~сек шлях непрыяцелю** отряд пересёк путь неприятелю; **2.** (*пополам или на части*) перерубить; **п. жэрдку** перерубить жердь; **3.** (*во множестве*) перерубить; **за дзень ~секлі ўсе дровы** за день перерубили все дрова; **конніца ~секла шашкамі ўсю разведку праціўніка** конница перерубила шашками всю разведку противника.

**ПЕРАСЯЧЫСЯ** *сов.* пересечься; **дарогі ~секліся** дороги пересеклись.

**ПЕРАСЯЧЭННЕ** *ср.* пересечение; **пункт ~ння ліній** *мат.* точка пересечения линий.

**ПЕРАТАМІЦЦА** *сов.* переутомиться.

**ПЕРАТАМІЦЬ** I *сов.* переутомить.

**ПЕРАТАМІЦЬ** II *сов.* перетомить.

**ПЕРАТАМЛЕННЕ** *ср.* переутомление.

**ПЕРАТАМЛЯЦЦА** *несов.* *возвр.*, *страд.* переутомляться.

**ПЕРАТАМЛЯЦЬ** *несов.* переутомлять.

**ПЕРАТАНЦАВАЦЬ** *сов.* *в разн. знач.* перетанцевать; (*народные танцы—ещё*) переплясать; **п. усе танцы** перетанцевать (переплясать) все танцы; **п. спачатку** перетанцевать (переплясать) сначала; **п. усіх** перетанцевать (переплясать) всех.

**ПЕРАТАПІЦЦА** I *сов.* (*обо всех, о многих*) перетопиться.

**ПЕРАТАПІЦЦА** II *сов.* **1.** (*о сале и т. п.*) перетопиться; (*о воске — ещё*) переплавиться; **2.** (*о молоке, твороге*) испортиться от перегрева.

**ПЕРАТАПІЦЬ** I *сов.* (*всех, многих*) перетопить; **п. кацянят** перетопить котят.

**ПЕРАТАПІЦЬ** II *сов.* **1.** (*сало и т. п.*) перетопить; (*воск — ещё*) переплавить; **п. масла** перетопить масло; **2.** (*всё, многое*) перетопить, истопить; переплавить; **п. увесь воск** перетопить (истопить, переплавить) весь воск; **3.** (*молоко, творог*) створаживая, перегреть.

**ПЕРАТАПЛЯЦЦА** *несов.* *см.* **ператопліваццa.**

**ПЕРАТАПЛЯЦЬ** *несов.* *см.* **ператопліваць.**

**ПЕРАТАПТАНЫ** **1.** перетоптанный; **2.** исхоженный; 1, 2 *см.* **ператаптаць.**

**ПЕРАТАПТАЦЬ** *сов.* **1.** (*измять ногами — многое*) перетоптать; **п. кветкі** перетоптать цветы; **2.** (*перебывать в разных местах, обойти*) исходить; **колькі я сцежак ~таў!** сколько я дорог исходил!

**ПЕРАТАРМАСІЦЬ** *сов.* перетормошить.

**ПЕРАТАРМОШАНЫ** перетормошённый.

**ПЕРАТАСАВАНЫ** *прям.*, *перен.* перетасованный; *см.* **ператасаваць.**

**ПЕРАТАСАВАЦЬ** *сов.* *прям.*, *перен.* перетасовать; **п. карты** перетасовать карты; **п. паперы** перетасовать бумаги.

**ПЕРАТАСОВАНЫ** *см.* **ператасаваны.**

**ПЕРАТАСОЎВАННЕ** *ср.* перетасовывание, перетасовка *ж.*; *см.* **ператасоўваць.**

**ПЕРАТАСОЎВАЦЦА** *несов.* *страд.* перетасовываться; *см.* **ператасоўваць.**

**ПЕРАТАСОЎВАЦЬ** *несов.* *прям.*, *перен.* перетасовывать; *см.* **ператасаваць.**

**ПЕРАТАСОЎКА** *ж.* перетасовка; *см.* **ператасоўваць.**

**ПЕРАТАЎЧЫ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* перетолочь; (*картошку — ещё*) перемять; **п. ўвесь перац** перетолочь весь перец; **п. соль** перетолочь соль; **п. яшчэ раз** перетолочь ещё раз; **2.** (*очистить от шелухи всё, многое*) порушить, обрушить; **п. ўсё проса** порушить (обрушить) всё просо; **3.** *разг.* (*разбить во множестве*) перебить, переколотить; **п. ўвесь посуд** перебить (переколотить) всю посуду.

**ПЕРАТАЎЧЫСЯ** *сов.* *разг.* (*истолочься чересчур мелко*) перетолочься.

**ПЕРАТАЧЫЦЬ** I *сов.* *в разн. знач.* переточить; **п. усе дэталі** переточить все детали; **занадта п. нажы** слишком переточить ножи; **яшчэ раз п. дэталь** ещё раз переточить деталь.

**ПЕРАТАЧЫЦЬ** II *несов.* (*о червях и т. п.*) источить; (*о мышах и т. п.*) изгрызть; (*о кротах и т. п.*) изрыть.

**ПЕРАТВАРАЛЬНІК** *м.* (*прибор*) преобразователь.

**ПЕРАТВАРАЦЦА** *несов.* **1.** (*принимать другой вид, форму, изменять содержание*) превращаться, обращаться;

2. (*в дело, в жизнь*) претворя́ться, воплоща́ться; 3. (*у каго-што*) *фольк.* превраща́ться, обора́чиваться (*в кого-что, кем-чем*); 4. *страд.* превраща́ться; обраща́ться; претворя́ться, воплоща́ться; обора́чиваться; *см.* **ператвара́ць.**

**ПЕРАТВАРА́ЦЬ** *несов.* 1. превраща́ть, обраща́ть; 2. (*в дело, в жизнь*) претворя́ть, воплоща́ть; 3. (*у каго-што*) *фольк.* превраща́ть, обора́чивать (*в кого-что, кем-чем*); 1—3 *см.* **ператвары́ць.**

**ПЕРАТВАРЫ́ЦЦА** *сов.* 1. (*принять другой вид, форму, изменить содержание*) преврати́ться, обрати́ться; 2. (*в дело, в жизнь*) претвори́ться, воплоти́ться; 3. (*у каго-што*) *фольк.* преврати́ться, оберну́ться (*в кого-что, кем-чем*).

**ПЕРАТВАРЫ́ЦЬ** *сов.* 1. преврати́ть, обрати́ть; **п. краі́ну ў квітне́ючы сад** преврати́ть (обрати́ть) страну́ в цвету́щий сад; **вёску ~ры́лі ў ву́зел абаро́ны** дере́вню преврати́ли в у́зел оборо́ны; **п. у жарт** преврати́ть (обрати́ть) в шу́тку; 2. (*в дело, в жизнь*) претвори́ть, воплоти́ть; **п. ма́ры ў жыццё** претвори́ть мечты́ в жизнь; 3. (*у каго-што*) *фольк.* преврати́ть, оберну́ть (*в кого-что, кем-чем*); **чараўні́ца ~ры́ла чалаве́ка ў дрэ́ва** колду́нья преврати́ла (оберну́ла) челове́ка в де́рево.

**ПЕРАТВАРЭ́ННЕ** *ср.* 1. превраще́ние, обраще́ние; 2. претворе́ние, воплоще́ние; 3. *фольк.* превраще́ние; 1—3 *см.* **ператвары́ць.**

**ПЕРАТВО́РАНЫ** 1. превращённый, обращённый; 2. претворённый, воплощённый; 3. (*у каго-што*) *фольк.* превращённый, обёрнутый (*в кого-что, кем-чем*); 1—3 *см.* **ператвары́ць.**

**ПЕРАТКА́НЫ** перетканный.

**ПЕРАТКА́ЦЬ** *сов.* переткáть.

**ПЕРАТКНУ́ТЫ** переткну́тый.

**ПЕРАТКНУ́ЦЬ** *сов.* переткну́ть.

**ПЕРАТЛЕ́ЛЫ** перетле́вший; *см.* **ператле́ць.**

**ПЕРАТЛЕ́ЦЬ** *сов.* перетле́ть; **лі́сце ~ле́ла** листва́ перетле́ла.

**ПЕРАТЛУМА́ЧАНЫ** *разг.* перетолко́ванный.

**ПЕРАТЛУМА́ЧВАННЕ** *ср. разг.* перетолко́вывание.

**ПЕРАТЛУМА́ЧВАЦЦА** *несов. страд. разг.* перетолко́вываться.

**ПЕРАТЛУМА́ЧВАЦЬ** *несов. разг.* перетолко́вывать.

**ПЕРАТЛУМА́ЧЫЦЬ** *сов. разг.* перетолкова́ть.

**ПЕРАТЛУМАЧЭ́ННЕ** *ср. разг.* перетолкова́ние.

**ПЕРАТЛЯВА́ЦЬ** *несов.* перетлева́ть; *см.* **ператле́ць.**

**ПЕРАТНУ́ТЫ** *обл. см.* **перацця́ты.**

**ПЕРАТНУ́ЦЬ** *сов. обл. см.* **перацця́ць.**

**ПЕРАТО́МЛЕНЫ** I переутомлённый.

**ПЕРАТО́МЛЕНЫ** II перетомлённый.

**ПЕРАТО́ПКА** *ж.* 1. перето́пка; перепла́вка; 2. перето́пка; перепла́вка; 1, 2 *см.* **ператапі́ць** II 1, 2.

**ПЕРАТО́ПЛЕНЫ** I перето́пленный; *см.* **ператапі́ць** I.

**ПЕРАТО́ПЛЕНЫ** II 1. перето́пленный; перепла́вленный; 2. перето́пленный, исто́пленный; перепла́вленный; 3. перегре́тый; 1—3 *см.* **ператапі́ць** II.

**ПЕРАТО́ПЛІВАННЕ** *ср.* 1. перета́пливание, перето́пка *ж.*; перепла́вка *ж.*; 2. перета́пливание, перето́пка *ж.*; 3. перегрева́ние; 1—3 *см.* **перато́пліваць.**

**ПЕРАТО́ПЛІВАЦЦА** *несов.* 1. (*о сале и т. п.*) перета́пливаться; (*о воске — ещё*) переплавля́ться; 2. (*о молоке, твороге*) по́ртиться от перегре́ва; 3. *страд.* перета́пливаться; переплавля́ться; перегрева́ться; *см.* **перато́пліваць.**

**ПЕРАТО́ПЛІВАЦЬ** *несов.* 1. (*сало и т. п.*) перета́пливать; (*воск — ещё*) переплавля́ть; 2. (*всё, многое*) перета́пливать, иста́пливать; переплавля́ть, 3. (*молоко, творог*) створа́живая, перегрева́ть; 1—3 *см.* **ператапі́ць** II.

**ПЕРАТО́РКАНЫ** перетыканный.

**ПЕРАТО́РКАЦЬ** *сов.* перетыкать.

**ПЕРАТО́ЎЧАНЫ** 1. перетолчённый; перемя́тый; 2. пору́шенный, обру́шенный; 3. *разг.* переби́тый, переколо́ченный; 1—3 *см.* **ператаўчы́.**

**ПЕРАТО́ЧАНЫ** I *в разн. знач.* перето́ченный; *см.* **ператачы́ць** I.

**ПЕРАТО́ЧАНЫ** II исто́ченный; изгры́зенный; изры́тый; *см.* **ператачы́ць** II.

**ПЕРАТО́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* перета́чиваться; *см.* **перато́чваць.**

**ПЕРАТО́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перета́чивать; *см.* **ператачы́ць** I.

**ПЕРАТРАВІ́ЦЦА** *сов.* (*о пище*) перевари́ться, перерабо́таться.

**ПЕРАТРАВІ́ЦЬ** I *сов. спец.* перетрави́ть; **п. малю́нак** перетрави́ть рису́нок.

**ПЕРАТРАВІ́ЦЬ** II *сов.* (*пищу*) перевари́ть, перерабо́тать.

**ПЕРАТРАПА́НЫ** *разг. в разн. знач.* перетрёпанный.

**ПЕРАТРАПА́ЦЬ** *сов. разг. в разн. знач.* перетрепа́ть.

**ПЕРАТРАСА́ННЕ** *и* **ПЕРАТРЭ́СВАННЕ** *ср.* перетря́ска *ж.*; переколá́чивание; перетря́хивание; *см.* **ператраса́ць.**

**ПЕРАТРАСА́ЦЦА** *и* **ПЕРАТРЭ́СВАЦЦА** *несов. страд.* перетряса́ться; переколá́чиваться; перетря́хиваться; *см.* **ператраса́ць.**

**ПЕРАТРАСА́ЦЬ** *и* **ПЕРАТРЭ́СВАЦЬ** *несов.* перетряса́ть; (*одежду и т. п. — ещё*) переколá́чивать; (*взбивать — ещё*) перетря́хивать; *см.* **ператрэ́сці** 1.

**ПЕРАТРАЎЛЕ́ННЕ** *ср.* перева́ривание, перераба́тывание; *см.* **ператраўля́ць** II.

**ПЕРАТРА́ЎЛЕНЫ** I *спец.* перетра́вленный; *см.* **ператраві́ць** I.

**ПЕРАТРА́ЎЛЕНЫ** II перева́ренный, перерабо́танный; *см.* **ператраві́ць** II.

**ПЕРАТРА́ЎЛІВАННЕ** *ср.* перева́ривание, перераба́тывание; *см.* **ператраўля́ць** II.

**ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЦА** I *несов. страд. см.* **ператраўля́цца** I.

**ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЦА** II *несов. возвр., страд. см.* **ператраўля́цца** II.

**ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЬ** I *несов. см.* **ператраўля́ць** I.

**ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЬ** II *несов. см.* **ператраўля́ць** II.

**ПЕРАТРАЎЛЯ́ЦЦА** I *и* **ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЦА** I *несов. страд. спец.* перетра́вливаться; *см.* **ператраўля́ць** I.

**ПЕРАТРАЎЛЯ́ЦЦА** II *и* **ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЦА** II *несов. возвр., страд.* перева́риваться, перераба́тываться; *см.* **ператраві́цца, ператраўля́ць** II.

**ПЕРАТРАЎЛЯ́ЦЬ** I *и* **ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЬ** I *несов. спец.* перетра́вливать; *см.* **ператраві́ць** I.

**ПЕРАТРАЎЛЯ́ЦЬ** II *и* **ПЕРАТРА́ЎЛІВАЦЬ** II *несов.* (*пищу*) перева́ривать, перераба́тывать.

**ПЕРАТРА́ЦІЦЬ** *сов. в разн. знач.* перетра́тить; **~ціў дзе́сяць рублёў** перетра́тил де́сять рубле́й; **усе́ гро́шы ~ціў на кні́гі** все де́ньги перетра́тил на кни́ги.

**ПЕРАТРА́ЧАНЫ** *в разн. знач.* перетра́ченный; *см.* **ператра́ціць.**

**ПЕРАТРА́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* перетра́чиваться; *см.* **ператра́чваць.**

**ПЕРАТРА́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перетра́чивать; *см.* **ператра́ціць.**

**ПЕРАТРУ́ДЖАНЫ** перетру́женный.

**ПЕРАТРУ́ДЖВАЦЬ** *несов.* перетружда́ть.

**ПЕРАТРУ́ДЗІЦЬ** *сов.* перетруди́ть.

**ПЕРАТРУХЛЕ́ЦЬ, ПЕРАТРУХЛЯ́ВЕЦЬ** *сов.* иструхля́веть.

**ПЕРАТРУЦІ́ЦЬ** *сов.* (*извести отравой — всё, всех*) перетрави́ть; перемори́ть.

**ПЕРАТРУ́ЧАНЫ** перетра́вленный; переморённый; *см.* **ператруці́ць.**

**ПЕРАТРЫВА́ЦЬ** *сов.* перетерпе́ть.

**ПЕРАТРЫВО́ЖАНЫ** перетрево́женный.

**ПЕРАТРЫВО́ЖЫЦЦА** *сов.* перетрево́житься.

**ПЕРАТРЫВОЖЫЦЬ** *сов.* перетревóжить.
**ПЕРАТРЫМАНЫ** *фото* передéржанный.
**ПЕРАТРЫМАЦЬ** *сов. в разн. знач.* передержáть; **п. хлеб у пéчы** передержáть хлеб в печú; **п. здымкі ў праявіцелі** передержáть снúмки в проявúтеле; **мнóга кніг ~маў у сваіх руках** мнóго книг передержáл в своúх рукáх.
**ПЕРАТРЫМКА** *ж. фото* передéржка.
**ПЕРАТРЫМЛІВАЦЦА** *несов. страд.* передéрживаться; *см.* **пераtрымліваць.**
**ПЕРАТРЫМЛІВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* передéрживать; *см.* **пераtрымáць.**
**ПЕРАТРЭНІРОЎКА** *ж. спорт.* перетренирóвка.
**ПЕРАТРЭСВАННЕ** *ср. см.* **пераtрасáнне.**
**ПЕРАТРЭСВАЦЦА** *несов. страд. см.* **пераtрасáцца.**
**ПЕРАТРЭСВАЦЬ** *несов. см.* **пераtрасáць.**
**ПЕРАТРЭСЕНЫ** перетрясённый; переколóченный; перетря́хнутый; *см.* **пераtрэ́сці** 1.
**ПЕРАТРЭСЦІ** *сов.* 1. перетрястú; (*одежду и т. п.— ещё*) переколотúть; (*взбить — ещё*) перетряхнýть; **п. салóму** перетрястú солóму; **п. ўсе рэ́чы** перетрястú все вéщи; **п. вóпратку** перетрястú одéжду; **п. пяры́ну** перетрястú (перетряхнýть) перúну; 2. *безл.* перетрястú; (*о лихорадке — ещё*) перетрепáть; **за дарóгу мянé ~сла** за дорóгу меня́ перетряслó; 3. (*каго-што*) произвестú óбыск (*у кого, в чём*); **палíцыя ~сла ўсіх жыхарóў вёскі (ўсю вёску)** полúция произвелá óбыски у всех жúтелей дерéвни (во всей дерéвне).
**ПЕРАТРЭСЦІСЯ** *сов.* 1. протрястúсь; **п. ўсю дарóгу на калёсах** протрястúсь всю дорóгу в телéге; 2. (*от холода*) издрóгнуть; 3. (*от страха*) перетрястúсь, переволновáться.
**ПЕРАТУЗАЦЬ** *сов.* 1. издёргать; 2. *разг.* (*всех, многих*) перетормошúть.
**ПЕРАТУПІЦЬ** *сов. разг.* перетупúть; **п. нажы́** перетупúть ножú.
**ПЕРАТУПЛЕНЫ** *разг.* перетýпленный; *см.* **пераtупíць.**
**ПЕРАТУРБАЦЫЙНЫ** *астр.* пертурбациóнный.
**ПЕРАТУРБАЦЫЯ** *ж. астр., перен.* пертурбáция.
**ПЕРАТУШАВАЦЬ** *сов.* перетушевáть.
**ПЕРАТУШАНЫ** перегáшенный.
**ПЕРАТУШОЎВАННЕ** *ср.* перетушёвка *ж.*
**ПЕРАТУШОЎВАЦЬ** *несов.* перетушёвывать.
**ПЕРАТУШОЎКА** *ж.* перетушёвка.
**ПЕРАТУШЫЦЬ** *сов.* перегасúть.
**ПЕРАТЫКАЦЬ** I *несов.* перетыкáть.
**ПЕРАТЫКАЦЬ** II *несов.* (*уткóм*) перетокáть.
**ПЕРАТЫНКАВАНЫ** перештукатýренный; *см.* **пераtынкавáць.**
**ПЕРАТЫНКАВАЦЬ** *сов.* (*всё, заново*) перештукатýрить.
**ПЕРАТЫНКОЎВАЦЬ** *несов.* (*всё, заново*) перештукатýривать.
**ПЕРАЎВАСАБЛЕННЕ** *ср.* перевоплощéние.
**ПЕРАЎВАСАБЛЯЦЦА** *несов. возвр., страд.* перевоплощáться.
**ПЕРАЎВАСАБЛЯЦЬ** *несов.* перевоплощáть.
**ПЕРАЎВАСОБІЦЦА** *сов.* перевоплотúться.
**ПЕРАЎВАСОБІЦЬ** *сов.* перевоплотúть.
**ПЕРАЎВАСОБЛЕНЫ** перевоплощённый.
**ПЕРАЎЗБРАЕННЕ** *ср.* перевооружéние.
**ПЕРАЎЗБРОЕНАСЦЬ** *ж.* перевооружённость.
**ПЕРАЎЗБРОЕНЫ** *прям., перен.* перевооружённый; *см.* **пераўзбрóіць.**
**ПЕРАЎЗБРОІЦЦА** *сов.* перевооружúться.
**ПЕРАЎЗБРОІЦЬ** *сов. прям., перен.* перевооружúть; **п. áрмію** перевооружúть áрмию; **п. прамыслóвасць нóвай тэ́хнікай** перевооружúть промы́шленность нóвой тéхникой.
**ПЕРАЎЗБРОЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* перевооружáться; *см.* **пераўзбрóіцца, пераўзбрóйваць.**
**ПЕРАЎЗБРОЙВАЦЬ** *несов. прям., перен.* перевооружáть; *см.* **пераўзбрóіць.**

**ПЕРАЎСТУПАЦЬ** *несов.* переуступáть.
**ПЕРАЎСТУПІЦЬ** *сов.* переуступúть.
**ПЕРАЎСТУПКА** *ж.* переустýпка.
**ПЕРАЎСТУПЛЕНЫ** переустýпленный.
**ПЕРАЎТВАРАЛЬНІК** *м.* преобразовáтель; **Мічýрын— вялíкі п. прырóды** Мичýрин — велúкий преобразовáтель прирóды.
**ПЕРАЎТВАРАЛЬНІЦА** *ж.* преобразовáтельница.
**ПЕРАЎТВАРАЛЬНІЦКІ** преобразовáтельский.
**ПЕРАЎТВАРАЛЬНЫ** преобразовáтельный.
**ПЕРАЎТВАРАЦЦА** *несов. возвр., страд.* преобразóвываться; *см.* **пераўтвары́цца, пераўтварáць.**
**ПЕРАЎТВАРАЦЬ** *несов.* преобразóвывать; *см.* **пераўтвары́ць.**
**ПЕРАЎТВАРЫЦЦА** *сов.* преобразовáться.
**ПЕРАЎТВАРЫЦЬ** *сов.* преобразовáть; **п. жыццё** преобразовáть жизнь.
**ПЕРАЎТВАРЭННЕ** *ср.* преобразовáние; **п. прырóды** преобразовáние прирóды.
**ПЕРАЎТВОРАНЫ** преобразóванный; *см.* **пераўтвары́ць.**
**ПЕРАЎЮЧАНЫ** *в разн. знач.* перевы́юченный.
**ПЕРАЎЮЧВАЦЦА** *несов. страд.* перевыю́чиваться; *см.* **пераўю́чваць.**
**ПЕРАЎЮЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перевыю́чивать.
**ПЕРАЎЮЧЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* перевыю́чить.
**ПЕРАФАРБАВАННЕ** *ср.* перекрáшивание, перекрáска *ж.*; *см.* **перафарбавáць.**
**ПЕРАФАРБАВАНЫ** *в разн. знач.* перекрáшенный.
**ПЕРАФАРБАВАЦЦА** *сов. прям., перен.* перекрáситься.
**ПЕРАФАРБАВАЦЬ** *сов. в разн. знач.* перекрáсить.
**ПЕРАФАРБОЎВАННЕ** *ср.* перекрáшивание, перекрáска *ж.*; *см.* **перафарбóўваць.**
**ПЕРАФАРБОЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* перекрáшиваться; *см.* **перафарбавáцца, перафарбóўваць.**
**ПЕРАФАРБОЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* перекрáшивать.
**ПЕРАФАРБОЎКА** *ж.* перекрáска; *см.* **перафарбóўваць.**
**ПЕРАФАРМІРАВАННЕ** *ср.* переформирóвка *ж.*, переформировáние.
**ПЕРАФАРМІРАВАНЫ** переформирóванный.
**ПЕРАФАРМІРАВАЦЦА** *сов.* переформировáться.
**ПЕРАФАРМІРАВАЦЬ** *сов.* переформировáть.
**ПЕРАФАРМІРОЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* переформирóвываться.
**ПЕРАФАРМІРОЎВАЦЬ** *несов.* переформирóвывать.
**ПЕРАФАСОНЕНЫ** перефасóненный.
**ПЕРАФАСОНІЦЬ** *сов.* перефасóнить.
**ПЕРАФАСОНЬВАЦЦА** *несов. страд.* перефасóниваться.
**ПЕРАФАСОНЬВАЦЬ** *несов.* перефасóнивать.
**ПЕРАФАСТРЫГАВАНЫ** *порт.* перемётанный.
**ПЕРАФАСТРЫГАВАЦЬ** *сов. порт.* переметáть.
**ПЕРАФАСТРЫГОЎВАЦЬ** *несов. порт.* перемётывать.
**ПЕРАФРАЗАВАННЕ** *ср.* перефразúрование, перефразирóвка *ж.*
**ПЕРАФРАЗАВАНЫ** перефразúрованный.
**ПЕРАФРАЗАВАЦЬ** *сов. и несов.* перефразúровать.
**ПЕРАФРАЗОЎВАЦЦА** *несов. страд.* перефразúроваться.
**ПЕРАФРАЗОЎВАЦЬ** *несов.* перефразúровать.
**ПЕРАХАВАНЫ** I *в разн. знач.* перепря́танный.
**ПЕРАХАВАНЫ** II *в разн. знач.* перехорóненный.
**ПЕРАХАВАЦЦА** *сов. в разн. знач.* перепря́таться.
**ПЕРАХАВАЦЬ** I *сов.* 1. *в разн. знач.* перепря́тать; 2. сохранúть; **п. бýльбу ў склéпе** сохранúть картóфель в пóгребе.
**ПЕРАХАВАЦЬ** II *сов. в разн. знач.* перехоронúть.
**ПЕРАХАДЗІЦЬ** *сов.* 1. проходúть; **п. усю зімý ў асéннім палітó** проходúть всю зúму в осéннем пальтó; 2. перехо-

**ПРО́ПАДАМ: прападзі ты п.** *бран.* пропади́ ты про́падом.

**ПРО́ПАЛІС, -су** *м. пчел.* про́полис, у́за́ *ж.*

**ПРО́ПІСЬ** *ж. в разн. знач.* про́пись; **вучы́цца піса́ць па ~сях** учи́ться писа́ть по про́писям; **напіса́ць су́му ~ссю** написа́ть су́мму про́писью.

**ПРО́ПУСК** *м.* 1. *род.* **про́пуску** *в разн. знач.* про́пуск; **прыпыні́ць п.** приостанови́ть про́пуск; **чыта́ць з ~камі** чита́ть с про́пусками; **наве́дваць ле́кцыі без ~каў** посеща́ть ле́кции без про́пусков; 2. *род.* **про́пуска** (*документ*) про́пуск; **прад'яві́ць п.** предъяви́ть про́пуск.

**ПРО́РАЗЬ** *ж.* про́резь.

**ПРО́РАСЦЬ** *ж.* про́рость; **са́ла з ~цю** са́ло с про́ростью.

**ПРО́РВА** *ж.* 1. про́пасть, бе́здна; 2. *перен.* (*глубокое расхождение*) про́пасть; 3. *разг.* (*о жадном человеке*) про́рва; 4. (*в плотине* )проры́в *м.*; ✧ **го́рла як п.** ненасы́тная утро́ба, ненасы́тное го́рло.

**ПРО́СА** *ср.* 1. (*растение*) про́со; 2. (*крупа*) пшено́; ✧ **не сунь но́са ў чужо́е п.** *посл.* не суй но́са в чужо́е про́со.

**ПРО́САМ: п. прасі́ць** о́чень проси́ть, умоля́ть.

**ПРО́СВА** *ж. обл.* болт *м.* (*для запирания ставен*).

**ПРО́СВІРА** *ж.* просфора́, просвира́.

**ПРО́СВІРНЯ** *ж. дорев.* просви́рня.

**ПРО́СІНЬ** *ж.* про́синь, синева́.

**ПРО́СТА** 1. *нареч. в разн. знач.* про́сто; (*обычно — ещё*) нехи́тро, бесхи́тростно, незате́йливо; **зада́ча рашае́цца п.** зада́ча реша́ется про́сто; **суке́нка пашы́та п.** пла́тье поши́то про́сто; **п. абыхо́дзіцца з кім-не́будзь** про́сто обраща́ться с ке́м-л.; **усё гэ́та зро́блена п.** всё э́то сде́лано про́сто (нехи́тро); 2. *нареч.* (*не сворачивая в сторону*) пря́мо; **ідзі́це п., по́тым звярні́це нале́ва** иди́те пря́мо, пото́м сверни́те нале́во; 3. *нареч.* (*непосредственно*) пря́мо; **пачнём п. са спра́вы** начнём пря́мо с де́ла; 4. *нареч.* (*не церемонясь*) по́просту; **п. ка́жучы** по́просту говоря́; 5. *частица* про́сто; **гэ́та п. здзек** э́то про́сто издева́тельство; ✧ **п. так** про́сто так; **п. з мо́ста** ни с того́ ни с сего́, про́сто так.

**ПРОСТАВАЛО́СЫ** *разг.* простоволо́сый.

**ПРОСТАЛІНЕ́ЙНА** *нареч. см.* **прамаліне́йна.**

**ПРОСТАЛІНЕ́ЙНАСЦЬ** *ж. см.* **прамаліне́йнасць.**

**ПРОСТАЛІНЕ́ЙНЫ** *см.* **прамаліне́йны.**

**ПРОСТАНАРО́ДДЗЕ** *собир. ср. уст.* простонаро́дье.

**ПРОСТАНАРО́ДНАСЦЬ** *ж. уст.* простонаро́дность.

**ПРОСТАНАРО́ДНЫ** *уст.* простонаро́дный.

**ПРО́СТА-ТАКІ** *частица усил.* пря́мо-таки.

**ПРО́СТЫ** 1. (*несложный*) просто́й, незамыслова́тый, немудрёный, незате́йливый; 2. (*обычный*) просто́й, незате́йливый, немудрёный, неприхотли́вый, нехи́трый; 3. (*без претензий*) просто́й; (*простоватый — о человеке*) немудрёный, незамыслова́тый, незате́йливый; 4. (*о глазе*) просто́й, невооружённый; 5. (*ровный, без изгибов*) прямо́й; 6. *разг.* (*о лошади*) неспу́танный; ✧ **~тая мо́ва** *грам.* пряма́я речь.

**ПРО́СЦЕНЬКІ** *разг.* 1. (*совсем простой*) про́стенький, незате́йливый; 2. (*невысокого качества*) про́стенький; 3. (*совсем прямой*) пряме́хонький.

**ПРО́СЫП: спаць без ~пу** *разг.* спать без про́сыпу (беспробу́дно).

**ПРО́СЬБА** *ж.* про́сьба; (*настоятельная*) мольба́.

**ПРО́СЬБІТ** *м. уст.* проси́тель.

**ПРО́СЬБІТКА** *ж. уст.* проси́тельница.

**ПРО́СЬБІТНЫ** *уст.* проси́тельный, проси́тельский.

**ПРО́СЬКА** *м. и ж. разг. пренебр.* (*надоедающий просьбами*) попроша́йка.

**ПРОТАГІСТАРЫ́ЧНЫ** протоистори́ческий.

**ПРОТАГІСТО́РЫЯ** *ж.* протоисто́рия.

**ПРОТАДЫЯ́КАН** *м. церк.* протодья́кон.

**ПРОТАЗААЛО́ГІЯ** *ж.* протозооло́гия.

**ПРОТАІЕРЭ́Й** *м. церк.* протоиере́й.

**ПРОТАНЕАЛІ́Т, -ту** *м. археол.* протонеоли́т.

**ПРО́ТАРЫ** *ед. нет уст.* про́тори.

**ПРО́ФІЛЬ, -лю** *м. в разн. знач.* про́филь; **жано́чы п.** же́нский про́филь; **п. пуці́** *ж.-д.* про́филь пути́; **п. інжыне́ра-металу́рга** про́филь инжене́ра-металлу́рга.

**ПРО́ФІЛЬНЫ** про́фильный.

**ПРО́ЦІ** *предлог, нареч. обл. см.* **су́праць** 1—3.

**ПРОЦІАЛКАГО́ЛЬНЫ** противоалкого́льный.

**ПРОЦІАРЭО́ЛЬНЫ** *фото* противоорео́льный.

**ПРОЦІБО́ЛЕВЫ** *мед.* противоболево́й.

**ПРОЦІБО́РСТВА** *ср.* противобо́рство.

**ПРОЦІБО́РСТВАВАЦЬ** *несов.* противобо́рствовать.

**ПРОЦІВА́ГА** *ж. тех., перен.* противове́с *м.*; **у ~гу** в противове́с.

**ПРОЦІВАГА́З** *м.* противога́з.

**ПРОЦІВАГА́ЗАВЫ** противога́зовый.

**ПРОЦІВАГА́ЗНЫ** противога́зный.

**ПРОЦІВЕНЕРЫ́ЧНЫ** *мед.* противовенери́ческий.

**ПРОЦІГЛІ́СТАВЫ** *мед.* противоглистный.

**ПРОЦІГНІ́ЛАСНЫ** противогни́лостный.

**ПРОЦІГРАМА́ДСКІ** противообще́ственный.

**ПРОЦІДЗЕ́ЙНІЧАЦЬ** *несов.* противоде́йствовать.

**ПРОЦІДЗЕ́ЙНЫ** противоде́йствующий.

**ПРОЦІДЗЕ́ЯННЕ** *ср.* противоде́йствие.

**ПРОЦІДЫФТЭРЫ́ЙНЫ** *мед.* противодифтери́йный.

**ПРОЦІЗАКО́ННА** *нареч.* противозако́нно.

**ПРОЦІЗАКО́ННАСЦЬ** *ж.* противозако́нность.

**ПРОЦІЗАКО́ННЫ** противозако́нный.

**ПРОЦІЗАПАЛЕ́НЧЫ** *мед.* противовоспали́тельный.

**ПРОЦІЗАЧА́ТКАВЫ** *мед.* противозача́точный.

**ПРОЦІЗЗЯ́ННЕ** *ср. астр.* противосия́ние.

**ПРОЦІКАРО́СТАВЫ** *мед.* противочесо́точный.

**ПРОЦІЛАМО́ТНЫ** *мед.* противоломо́тный.

**ПРОЦІЛЕ́ГЛАЕ** *сущ.* проти́вное; **до́каз ад ~лага** доказа́тельство от проти́вного.

**ПРОЦІЛЕ́ГЛАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* противополо́жность; **адзі́нства ~цей** *филос.* еди́нство противополо́жностей; **п. по́глядаў** противополо́жность взгля́дов; **яны́ — по́ўная п. адзі́н аднаму́** они́ — по́лная противополо́жность друг дру́гу.

**ПРОЦІЛЕ́ГЛЫ** 1. *в разн. знач.* противополо́жный, проти́вный; **п. бок ву́ліцы** противополо́жная (проти́вная) сторона́ у́лицы; **~лая ду́мка** противополо́жное (проти́вное) мне́ние; 2. *мат.* противолежа́щий; **п. ву́гал** противолежа́щий у́гол.

**ПРОЦІЛІХАМА́НКАВЫ** *мед.* противолихора́дочный.

**ПРОЦІМАЛЯРЫ́ЙНЫ** *мед.* противомаляри́йный.

**ПРОЦІМІ́ННЫ** *воен.* противоми́нный.

**ПРОЦІПАВЕ́ТРАНЫ** противовозду́шный.

**ПРОЦІПАЖА́РНЫ** противопожа́рный.

**ПРОЦІПАКА́ЗАНА** *в знач. сказ. мед.* противопока́зано.

**ПРОЦІПАКАЗА́ННЕ** *ср. юр., мед.* противопоказа́ние.

**ПРОЦІПАКА́ЗАНЫ** *мед.* противопока́занный.

**ПРОЦІПАСТА́ВІЦЬ** *сов. в разн. знач.* противопоста́вить, противоположи́ть; **п. сябе́ і́ншым** противопоста́вить себя́ други́м; **п. гва́лту ўзбро́еную сі́лу** противопоста́вить наси́лию вооружённую си́лу.

**ПРОЦІПАСТАЎЛЕ́ННЕ** *ср.* противопоставле́ние, противоположе́ние; *см.* **проціпастаўля́ць.**

**ПРОЦІПАСТА́ЎЛЕНЫ** противопоста́вленный, противополо́женный; *см* **проціпаста́віць.**

**ПРОЦІПАСТАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* противопоставля́ться, противополага́ться; *см.* **проціпастаўля́ць.**

**ПРОЦІПАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* противопоставля́ть, противополага́ть; *см.* **проціпаста́віць.**

**ПРОЦІПЯХО́ТНЫ** *воен.* противопехо́тный.

**ПРОЦІРА́КАВЫ** *мед.* противора́ковый.

**ПРОЦІРЭ́ЖУЧЫ** *тех.* противоре́жущий.

**ПРОЦІСЛУПНЯКО́ВЫ** *мед.* противостолбня́чный.

**ПРОЦІСТАЎЛЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* противопоставле́ние, противоположе́ние.

**ПРОЦІСТАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* противопоставля́ться, противополага́ться.
**ПРОЦІСТАЎЛЯ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* противопоставля́ть, противополага́ть; *см.* **проціпаста́віць.**
**ПРОЦІСТАЯ́ННЕ** *ср. астр.* противостоя́ние.
**ПРОЦІСТАЯ́ЦЬ** *несов.* противостоя́ть.
**ПРОЦІСУХО́ТНЫ** *мед.* противочахо́точный, противотуберкулёзный.
**ПРОЦІТА́НКАВЫ** *воен.* противота́нковый.
**ПРОЦІТУБЕРКУЛЁЗНЫ** *мед.* противотуберкулёзный.
**ПРОЦІТЫФО́ЗНЫ** *мед.* противотифо́зный.
**ПРОЦІЎРА́ДАВЫ** противоправи́тельственный.
**ПРОЦІХАЛЕ́РНЫ** *мед.* противохоле́рный.
**ПРОЦІХІМІ́ЧНЫ** противохими́ческий.
**ПРОЦІЦІ́СК,-ку** *м. тех.* противодавле́ние *ср.*
**ПРОЦІЦЫНГО́ТНЫ** *мед.* противоцинго́тный.
**ПРОЦІЧУ́МНЫ** *мед.* противочу́мный.
**ПРОЦІШКАРЛЯТЫНО́ЗНЫ** *мед.* противоскарлатино́зный.
**ПРОЦІЭПІДЭМІ́ЧНЫ** *мед.* противоэпидеми́ческий.
**ПРОЦІЯ́ДДЗЕ** *ср. мед., перен.* противоя́дие.
**ПРО́ЦЬМА** *нареч.* у́йма, тьма, тьма-тьму́щая, ви́димо-неви́димо, бе́здна, про́пасть.
**ПРО́ЧКІ** *ед. нет* ухо́д *м.* из дому (*обычно от мужа*).
**ПРО́ШАНЫ 1.** *в разн. знач.* про́шенный; спро́шенный; **2.** про́шенный, спро́шенный, запро́шенный; **3.** приглашённый, про́шенный, зва́нный; 1—3 *см.* **прасі́ць.**
**ПРО́ШВА** *ж.* проши́вка, про́шва.
**ПРО́ШЛАСЦЬ** *ж.* про́шлое *ср.*, мину́вшее *ср.*, проше́дшее *ср.*
**ПРО́ШЛЫ** *грам.* проше́дший; **п. час** проше́дшее вре́мя.
**ПРУГ** *м.* (*край ткани*) кро́мка *ж.*; покро́ма *ж.*, покро́мка *ж.*
**ПРУ́ГКА** *нареч.* упру́го, пружи́нисто.
**ПРУ́ГКАСЦЬ** *ж.* упру́гость, пружи́нистость.
**ПРУ́ГКІ** упру́гий, пружи́нистый.
**ПРУДАНІ́ЗМ, -му** *м. ист.* прудони́зм.
**ПРУДАНІ́СТ** *м. ист.* прудони́ст.
**ПРУДАНІ́СЦКІ** *ист.* прудони́стский.
**ПРУЖА́НСКІ РАЁН** Пружа́нский райо́н.
**ПРУЖА́НЫ** *г.* Пружа́ны.
**ПРУНЕ́ЛЕВЫ** *текст.* прюне́левый.
**ПРУНЕ́ЛЬ** *ж. текст.* прюне́ль.
**ПРУС** *м. зоол.* прус.
**ПРУСА́К** I, **-ка́** *м.* (*насекомое*) пруса́к, тарака́н (*рыжий*).
**ПРУСА́К** II, **-ка́** *м.* (*житель Пруссии*) прусса́к.
**ПРУ́СІЯ** *ж. ист.* Пру́ссия.
**ПРУ́СКІ** пру́сский.
**ПРУ́СЫ, -саў** *ист.* пру́ссы.
**ПРУТ** *м.* **1.** прут, хлыст; **2.** *тех.* сте́ржень.
**ПРУТ** *м. р.* Прут.
**ПРУ́ТКА** *нареч.* упру́го.
**ПРУ́ТКАСЦЬ** *ж.* упру́гость.
**ПРУ́ТКІ** упру́гий.
**ПРУТКО́ВЫ 1.** прутко́вый; **~вае жале́за** прутко́вое желе́зо; **2.** иго́льный; *см.* **пруто́к** 1.
**ПРУТО́К, -тка́** *м.* **1.** (*для вязанья*) пруто́к, спи́ца *ж.*, игла́ *ж.*; **2.** (*уменьш. к* **прут**) пру́тик.
**ПРУЦЯНЕ́ЦЬ** *несов.* деревене́ть; кочене́ть.
**ПРУЦЯНЫ́** прутяно́й.
**ПРЫ** *предлог* **1.** *с предл. в разн. знач.* при; **стая́ць п. ўвахо́дзе** стоя́ть при вхо́де; **п. до́ме бы́ў сад** при до́ме был сад; **заста́цца п. сваёй ду́мцы** оста́ться при своём мне́нии; **быць п. сме́рці** быть при́ смерти; **шпіта́ль п. дыві́зіі** го́спиталь при диви́зии; **трыма́ць дакуме́нты п. сабе́** держа́ть докуме́нты при себе́; **быць п. збро́і** быть при ору́жии; **сказа́ць п. вы́падку** сказа́ть при слу́чае; **п. ўсіх пыта́цца нязру́чна** при всех спра́шивать нело́вко; **п. святле́ ме́сяца** при све́те луны́; **п. цары́** при царе́; **п. ўдзе́ле партыза́н** при уча́стии партиза́н; **2.** *с предл.* (*в знач.* «*вместе*», «*рядом*», «*возле*») у (*кого-чего*); при; **жыць п. бацька́х** жить у роди́телей (при роди́телях); **сядзе́ць п. акне́** сиде́ть у окна́; **стая́ць п. станку́** стоя́ть у станка́; ◇ **п. чым** при чём; **дзень п. дні** изо дня́ в де́нь; **не мець капе́йкі п. душы́** не име́ть ни копе́йки за душо́й.
**ПРЫАДЗЕ́ТЫ** приоде́тый.
**ПРЫАДЗЕ́ЦЦА** *сов.* приоде́ться.
**ПРЫАДЗЕ́ЦЬ** *сов.* приоде́ть.
**ПРЫАДКРЫВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* приоткрыва́ться.
**ПРЫАДКРЫВА́ЦЬ** *несов.* приоткрыва́ть.
**ПРЫАДКРЫ́ТЫ** приоткры́тый.
**ПРЫАДКРЫ́ЦЦА** *сов.* приоткры́ться.
**ПРЫАДКРЫ́ЦЬ** *сов.* приоткры́ть.
**ПРЫАЗЁРНЫ** приозёрный.
**ПРЫАМУ́Р'Е** *ср.* Приаму́рье.
**ПРЫАМУ́РСКІ** приаму́рский.
**ПРЫАНА́ЛЬНЫ** *анат.* приана́льный.
**ПРЫАРА́НЫ** припа́ханный.
**ПРЫАРА́ЦЬ** *сов.* припаха́ть.
**ПРЫАТЛАНТЫ́ЧНЫ** приатланти́ческий.
**ПРЫАХВО́ЦІЦЦА** (*да чаго*) *сов.* пристрасти́ться (*к чему*), приохо́титься (*к чему*); **п. да чыта́ння** пристрасти́ться (приохо́титься) к чте́нию.
**ПРЫАХВО́ЦІЦЬ** (*да чаго*) *сов.* пристрасти́ть (*к чему*), приохо́тить (*к чему*); **п. да чыта́ння** пристрасти́ть (приохо́тить) к чте́нию.
**ПРЫАХВО́ЧАНЫ** (*да чаго*) пристращённый (*к чему*), приохо́ченный (*к чему*); *см.* **прыахво́ціць.**
**ПРЫАХВО́ЧВАЦЦА** (*да чаго*) *несов. возвр., страд.* пристраща́ться (*к чему*), приохо́чиваться (*к чему*); *см.* **прыахво́ціцца, прыахво́чваць.**
**ПРЫАХВО́ЧВАЦЬ** (*да чаго*) *несов.* пристраща́ть (*к чему*), приохо́чивать (*к чему*); *см.* **прыахво́ціць.**
**ПРЫБА́ВАЧНЫ** *эк.* приба́вочный; **~ная ва́ртасць** приба́вочная сто́имость.
**ПРЫБА́ВІЦЦА** *сов.* **1.** приба́виться; **людзе́й на ву́ліцах ~вілася** люде́й на у́лицах приба́вилось; **вады́ ~вілася** воды́ приба́вилось; **дзень ~віўся** день приба́вился; **2.** (*в весе*) приба́вить, приба́виться.
**ПРЫБА́ВІЦЬ** *сов. в разн. знач.* приба́вить; **п. гро́шай** приба́вить де́нег; **п. кро́ку** приба́вить ша́гу; **п. у вазе́** приба́вить в ве́се.
**ПРЫБАЛТЫ́ЙСКІ** прибалти́йский.
**ПРЫБА́ЛТЫКА** *ж.* Приба́лтика.
**ПРЫБА́ЎКА** *ж. в разн. знач.* приба́вка.
**ПРЫБАЎЛЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* прибавле́ние.
**ПРЫБА́ЎЛЕНЫ** приба́вленный; *см.* **прыба́віць.**
**ПРЫБАЎЛЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** прибавля́ться; **2.** (*в весе*) прибавля́ть, прибавля́ться; 1, 2 *см.* **прыба́віцца; 3.** *страд.* прибавля́ться; *см.* **прыбаўля́ць.**
**ПРЫБАЎЛЯ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* прибавля́ть; *см.* **прыба́віць.**
**ПРЫБЕ́ГЧЫ** *сов.* прибежа́ть; **п. пе́ршым** прибежа́ть пе́рвым.
**ПРЫБЕ́ДНІЦЦА** *сов. разг.* прибедни́ться.
**ПРЫБЕ́ЛЕНЫ** *разг.* подбелённый; *см.* **прыбялі́ць.**
**ПРЫБЕ́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд. разг.* подбе́ливаться; *см.* **прыбе́льваць.**
**ПРЫБЕ́ЛЬВАЦЬ** *несов. разг.* (*слегка приправлять*) подбе́ливать; *см.* **прыбялі́ць.**
**ПРЫБЕРАГА́ЦЦА** *несов. страд.* приберега́ться; *см.* **прыберага́ць.**
**ПРЫБЕРАГА́ЦЬ** *несов.* приберега́ть; *см.* **прыберагчы́.**
**ПРЫБЕРАГЧЫ́** *сов.* прибере́чь; **п. гро́шы (гро́шай)** прибере́чь де́ньги (де́нег).
**ПРЫБІВА́ННЕ** *ср.* приби́вка *ж.*, прикола́чивание; прикрепле́ние; *см.* **прыбіва́ць** 1.

**ПРЫБІВА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* прибива́ться; *см.* **прыбі́цца** 1; **2.** *страд.* прибива́ться; приколачиваться; прикрепля́ться; добива́ться; *см.* **прыбіва́ць.**

**ПРЫБІВА́ЦЬ** *несов.* **1.** прибива́ть, прикола́чивать; прикрепля́ть; **2.** (*пригибать к земле*) прибива́ть; **3.** (*пригонять волнами*) прибива́ть; **4.** (*убивать*) добива́ть.

**ПРЫБІРА́ЛЬНЯ** *ж. в разн. знач.* убо́рная.

**ПРЫБІРА́ЛЬШЧЫК** *м.* убо́рщик.

**ПРЫБІРА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* убо́рщица.

**ПРЫБІРА́ННЕ** *ср.* **1.** наряже́ние, принаряже́ние; **2.** украше́ние, разукра́шивание; приукра́шивание; **3.** убо́рка *ж.*; **4.** убира́ние; **5.** убира́ние, устране́ние; 1—5 *см.* **прыбіра́ць.**

**ПРЫБІРА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*красиво одеваться*) наряжа́ться, разряжа́ться, убира́ться, разубира́ться; (*придавать себе нек-рую нарядность*) принаряжа́ться, приодева́ться; **2.** (*принимать более красивый вид*) украша́ться, разукра́шиваться, убира́ться; (*немного украшаться*) приукра́шиваться; **3.** (*производить уборку*) убира́ться, прибира́ться; **4.** *страд.* наряжа́ться, разряжа́ться; убира́ться; разубира́ться; принаряжа́ться; украша́ться, разукра́шиваться; приукра́шиваться; прибира́ться; принима́ться, устраня́ться; *см.* **прыбіра́ць.**

**ПРЫБІРА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*красиво одевать*) наряжа́ть, разряжа́ть, убира́ть, разубира́ть; (*придавать нек-рую нарядность*) принаряжа́ть, приодева́ть; **2.** (*придавать более красивый вид*) украша́ть, разукра́шивать, убира́ть; (*немного украшать*) приукра́шивать; **3.** (*приводить в порядок*) убира́ть, прибира́ть; **4.** (*уносить*) убира́ть; **5.** убира́ть, принима́ть, прибира́ть, устраня́ть; 4, 5 *см.* **прыбра́ць** 4, 5.

**ПРЫБІ́ТЫ 1.** приби́тый, приколо́ченный; прикреплённый; **2.** приби́тый; **3.** приби́тый; **4.** доби́тый; **5.** *разг.* приби́тый; 1—5 *см.* **прыбі́ць.**

**ПРЫБІЎКА** *ж.* приби́вка.

**ПРЫБІЎНЫ** прибивно́й; **~на́я палі́ца** прибивна́я по́лка.

**ПРЫБІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* приби́ться; **до́шка до́бра ~білася** доска́ хорошо́ приби́лась; **чужа́я аве́чка ~білася да чарады́** чужа́я овца́ приби́лась к ста́ду; **2.** (*при падении получить ушиб*) разби́ться, ушиби́ться, уби́ться (*до полусмерти*).

**ПРЫБІ́ЦЬ** *сов.* **1.** приби́ть, приколоти́ть; прикрепи́ть; **2.** (*пригнуть к земле*) приби́ть; **траву́ дажджо́м прыбі́ла да зямлі́** траву́ дождём приби́ло к земле́; **3.** (*пригнать волнами*) приби́ть; **4.** (*убить*) доби́ть; **5.** *разг.* (*избить*) приби́ть.

**ПРЫБЛІ́ЖАНА** *нареч.* приближённо.

**ПРЫБЛІ́ЖАНАСЦЬ** *ж. мат.* приближённость.

**ПРЫБЛІ́ЖАНЫ 1.** *прич.* прибли́женный; *см.* **прыблі́зіць; 2.** *прил. мат.* приближённый; **~нае вылічэ́нне** приближённое вычисле́ние; **3.** *в знач. сущ.* приближённый.

**ПРЫБЛІЖА́ЦЦА** *несов.* **1.** приближа́ться; **2.** (*во времени*) приближа́ться, надвига́ться; 1,2 *см.* **прыблі́зіцца; 3.** *страд.* приближа́ться; *см.* **прыбліжа́ць.**

**ПРЫБЛІЖА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* приближа́ть; *см.* **прыблі́зіць.**

**ПРЫБЛІЖЭ́ННЕ** *ср.* **1.** приближе́ние; *см.* **прыбліжа́ць, прыбліжа́цца; 2.** *мат.* приближе́ние; **рашэ́нне зада́чы ў пе́ршым ~нні** реше́ние зада́чи в пе́рвом приближе́нии.

**ПРЫБЛІ́ЗІЦЦА** *сов.* **1.** прибли́зиться; **по́езд ~зіўся** по́езд прибли́зился; **2.** (*во времени*) прибли́зиться, надви́нуться; **~зіліся халады́** прибли́зились (надви́нулись) холода́.

**ПРЫБЛІ́ЗІЦЬ** *сов. в разн. знач.* прибли́зить; **п. кні́гу да вачэ́й** прибли́зить кни́гу к глаза́м; **п. свой прые́зд** прибли́зить свой прие́зд; **п. тава́рышаў да сябе́** прибли́зить това́рищей к себе́.

**ПРЫБЛІ́ЗНА** *нареч.* приблизи́тельно; **п. падлі́чыць** приблизи́тельно подсчита́ть; **п. ў во́сем гадзі́н** приблизи́тельно в во́семь часо́в; **нара́да прадо́ўжыцца п. два дні** совеща́ние продли́тся приблизи́тельно два дня.

**ПРЫБЛІ́ЗНАСЦЬ** *ж.* приблизи́тельность.

**ПРЫБЛІ́ЗНЫ** приблизи́тельный.

**ПРЫБЛУ́ДА** *ж.* **1.** *презр.* пришéлец *м.*; **2.** приста́вшее (приблуди́вшееся) живо́тное.

**ПРЫБЛУДЗІ́ЦЦА** *сов.* (*о животном*) приблуди́ть.

**ПРЫБЛУ́ДНЫ** (*о животном, приставшем к чужому стаду*) приблу́дный; **~ная аве́чка** приблу́дная овца́.

**ПРЫБЛЫ́ТАНЫ 1.** припу́танный, привя́занный; *см.* **прыблы́таць** 1; **2.** *перен.* припу́танный, приме́шанный.

**ПРЫБЛЫ́ТАЦЦА** *сов.* припу́таться.

**ПРЫБЛЫ́ТАЦЬ** *сов.* **1.** припу́тать, привяза́ть (*кое как*); **2.** *перен.* припу́тать, примеша́ть.

**ПРЫБЛЫ́ТВАЦЦА** *несов.* **1.** припу́тываться; **2.** *страд.* припу́тываться; привя́зываться; приме́шиваться; *см.* **прыблы́тваць.**

**ПРЫБЛЫ́ТВАЦЬ** *несов.* **1.** припу́тывать, привя́зывать (*кое-как*); **2.** *перен.* припу́тывать, приме́шивать; 1, 2 *см.* **прыблы́таць.**

**ПРЫБЛЮЗНІ́ЦЦА** *сов. разг.* примере́щиться, причу́диться.

**ПРЫБО́Й, -бо́ю** *м.* прибо́й.

**ПРЫБО́Р** *м.* (*набор предметов*) прибо́р; **стало́вы п.** столо́вый прибо́р; **бры́твенны п.** бри́твенный прибо́р; **чарні́льны п.** черни́льный прибо́р.

**ПРЫБО́РКА** *ж.* убо́рка, прибо́рка.

**ПРЫБРА́НАСЦЬ** *ж.* наря́дность.

**ПРЫБРА́НЫ 1.** наря́женный, разря́женный, у́бранный, разу́бранный; принаря́женный, приоде́тый, приу́бранный; **2.** укра́шенный, разукра́шенный, у́бранный; приукра́шенный; **3.** у́бранный, при́бранный; **4.** у́бранный; **5.** у́бранный, при́нятый, устранённый; 1—5 *см.* **прыбра́ць.**

**ПРЫБРАХА́ЦЬ** *сов. пренебр.* прилга́ть, приври́ть.

**ПРЫБРА́ЦЦА** *сов.* **1.** (*красиво одеться*) наряди́ться, разряди́ться, убра́ться, разубра́ться; (*придать себе нек-рую нарядность*) принаряди́ться, приоде́ться, приубра́ться; **2.** (*принять более красивый вид*) укра́ситься, разукра́ситься, убра́ться; (*немного украситься*) приукра́ситься; **3.** (*произвести уборку*) убра́ться, прибра́ться.

**ПРЫБРА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*красиво одеть*) наряди́ть, разряди́ть, убра́ть, разубра́ть; (*придать нек-рую нарядность*) принаряди́ть, приоде́ть, приубра́ть; **2.** (*придать более красивый вид*) укра́сить, разукра́сить, убра́ть; (*немного украсить*) приукра́сить; **3.** (*привести в порядок*) убра́ть, прибра́ть; **4.** (*унести*) убра́ть; **п. са стала́** убра́ть со стола́; **5.** убра́ть, приня́ть, устрани́ть; **п. ка́мень з даро́гі** убра́ть (приня́ть) ка́мень с доро́ги; ✧ **п. да рук** прибра́ть к рука́м.

**ПРЫБРУКАВА́НЫ** примощённый.

**ПРЫБРУКАВА́ЦЬ** *сов.* примости́ть.

**ПРЫБРУКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* прима́щиваться.

**ПРЫБРУКО́ЎВАЦЬ** *несов.* прима́щивать.

**ПРЫБРЫДА́ЦЬ** *несов.* (*приходить по воде или траве*) прибреда́ть.

**ПРЫБРЫСЦІ́** *сов.* (*прийти по воде или траве*) прибрести́.

**ПРЫБРЭХВАЦЬ** *несов. пренебр.* привира́ть, подвира́ть.

**ПРЫБУДАВА́ННЕ** *ср.* пристра́ивание; *см.* **прыбудава́ць.**

**ПРЫБУДАВА́НЫ** пристро́енный; *см.* **прыбудава́ць.**

**ПРЫБУДАВА́ЦЬ** *сов.* пристро́ить; **п. флі́гель да до́ма** пристро́ить фли́гель к до́му.

**ПРЫБУДО́ВА** *ж. в разн. знач.* пристро́йка.

**ПРЫБУДО́ВАНЫ** *см.* **прыбудава́ны.**

**ПРЫБУДО́ЎВАННЕ** *ср.* пристра́ивание; *см.* **прыбудо́ўваць.**

**ПРЫБУДО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* пристра́иваться; *см.* **прыбудо́ўваць.**

**ПРЫБУДО́ЎВАЦЬ** *несов.* пристра́ивать; *см.* **прыбудава́ць.**

**ПРЫБУКСІ́РАВАНЫ** прибукси́рованный.

**ПРЫБУКСІ́РАВАЦЬ** *сов.* прибукси́ровать.

**ПРЫБЫВА́ННЕ** *ср.* **1.** прибы́тие; **2.** прибыва́ние, прибавле́ние; 1, 2 *см.* **прыбыва́ць.**

**ПРЫБЫВА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*приходить, приезжать*) прибыва́ть; **2.** (*увеличиваться*) прибыва́ть, прибавля́ться; (*в весе —ещё*) прибавля́ть; 1, 2 *см.* **прыбы́ць.**

**ПРЫБЫТАК, -тку** *м.* при́быль *ж.*, дохо́д; **атрыма́ць п.** получи́ть при́быль (дохо́д).

**ПРЫБЫТКО́ВАСЦЬ** *ж.* при́быльность, дохо́дность; **п. прадпрые́мства** при́быльность предприя́тия.

**ПРЫБЫТКО́ВЫ** при́быльный, дохо́дный; **п. заня́так** при́быльное заня́тие.

**ПРЫБЫ́ЎШЫ 1.** *прич., прил.* прибы́вший; **2.** *в знач. сущ.* прибы́вший; **3.** *деепр.* прибы́в; **4.** *деепр.* прибы́в; приба́вив.

**ПРЫБЫЦЦЁ** *ср.* прибы́тие; *см.* **прыбы́ць** 1.

**ПРЫБЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*прийти, приехать*) прибы́ть; **по́езд ~бы́ў своечасо́ва** по́езд при́был во́время; **2.** (*увеличиться*) прибы́ть, приба́виться; (*в весе — ещё*) приба́вить; **вады́ ў рацэ́ ~было́** воды́ в реке́ при́было (приба́вилось).

**ПРЫБЯГА́ЦЬ** *несов.* прибега́ть; *см.* **прыбе́гчы.**

**ПРЫБЯДНЯ́ЦЦА** *несов. разг.* прибедня́ться.

**ПРЫБЯЛІ́ЦЬ** *сов. разг.* (*слегка приправить*) подбели́ть; **п. боршч** подбели́ть борщ.

**ПРЫБЯНТЭ́ЖЫЦЦА** *сов. разг.* немно́го растеря́ться, смути́ться.

**ПРЫБЯРЭ́ЖЖА** *ср.* прибре́жье.

**ПРЫБЯРЭ́ЖНІК, -ку** *м. бот.* прибере́жник.

**ПРЫБЯРЭ́ЖНЫ** прибере́жный, прибре́жный.

**ПРЫВА́БІЦЬ** *сов.* **1.** *охот.* примани́ть, привле́чь (*звуком*); **2.** *перен.* увле́чь, плени́ть; прельсти́ть; **п. прыгажо́сцю** плени́ть (увле́чь) красото́й; **п. узнагаро́дай** прельсти́ть награ́дой; **3.** (*заманить*) завле́чь.

**ПРЫВА́БЛЕНЫ 1.** *охот.* прима́ненный, приманённый, привлечённый; **2.** *перен.* увлечённый, пленённый; прельщённый; 1,2 *см.* **прыва́біць** 1, 2.

**ПРЫВА́БЛІВА** *нареч.* привлека́тельно, зама́нчиво.

**ПРЫВА́БЛІВАННЕ** *ср. охот.* прима́нивание, привлече́ние; *см.* **прыва́бліваць** 1.

**ПРЫВА́БЛІВАСЦЬ** *ж.* привлека́тельность, зама́нчивость.

**ПРЫВА́БЛІВАЦЦА** *несов. страд.* прима́ниваться, привлека́ться; завлека́ться; *см.* **прыва́бліваць** 1, 3.

**ПРЫВА́БЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** *охот.* прима́нивать, привлека́ть (*звуком*), влечь; **2.** *перен.* увлека́ть, пленя́ть; прельща́ть; **3.** (*заманивать*) завлека́ть; 1—3 *см.* **прыва́біць.**

**ПРЫВА́БЛІВЫ** подкупа́ющий; зама́нчивый.

**ПРЫВА́БНА** *нареч.* **1.** соблазни́тельно, зама́нчиво; **2.** привлека́тельно, притяга́тельно, завлека́тельно; **3.** обая́тельно; 1—3 *см.* **прыва́бны.**

**ПРЫВА́БНАСЦЬ** *ж.* **1.** соблазни́тельность, зама́нчивость; **п. бу́дучыні** зама́нчивость бу́дущности; **2.** привлека́тельность, притяга́тельность, завлека́тельность; **3.** обая́ние *ср.*, обая́тельность; пре́лесть; **п. навізны́** обая́ние (пре́лесть) новизны́; **п. тва́ру** пре́лесть лица́.

**ПРЫВА́БНЫ 1.** соблазни́тельный, зама́нчивый; **~ныя перспекты́вы** соблазни́тельные перспекти́вы; **~ная прапано́ва** зама́нчивое предложе́ние; **2.** (*приятный*) привлека́тельный, притяга́тельный, завлека́тельный; **~ныя ры́сы тва́ру** привлека́тельные черты́ лица́; **3.** (*полный обаяния, очарования*) обая́тельный.

**ПРЫВАДНЫ́** *тех.* приводно́й; **п. пас** приводно́й реме́нь.

**ПРЫВА́ЖАНЫ** приве́шенный, дове́шенный.

**ПРЫВА́ЖВАЦЦА** *несов. страд.* приве́шиваться, дове́шиваться.

**ПРЫВА́ЖВАЦЬ** *несов.* приве́шивать, дове́шивать.

**ПРЫВА́ЖЫЦЬ** *сов.* приве́сить, дове́сить.

**ПРЫВАЗНЫ́** привозно́й, приво́зный; (*из-за границы — ещё*) ввозный.

**ПРЫВАКЗА́ЛЬНЫ** привокза́льный.

**ПРЫВА́Л, -лу** *м.* прива́л; **зрабі́ць п.** сде́лать прива́л.

**ПРЫВАЛАКА́ЦЦА** *несов. разг.* **1.** прита́скиваться, привола́киваться; прибреда́ть; **2.** *страд.* прита́скиваться, привола́киваться.

**ПРЫВАЛАКА́ЦЬ** *несов. разг.* прита́скивать, привола́кивать.

**ПРЫВАЛАЧЫ** *сов. разг.* притащи́ть, приволо́чь, приволочи́ть.

**ПРЫВАЛАЧЫ́СЯ** *сов. разг.* притащи́ться, приволо́чься; прибрести́.

**ПРЫВА́ЛЕНЫ** прива́ленный.

**ПРЫВАЛІ́ЦЦА** I *сов.* привали́ться; **ка́мень ~лі́ўся да сцяны́** ка́мень привали́лся к стене́.

**ПРЫВАЛІ́ЦЦА** II *сов.* (*о сукне*) слегка́ сваля́ться.

**ПРЫВАЛІ́ЦЬ** I *сов. в разн. знач.* привали́ть; **п. ка́мень да сцяны́** привали́ть ка́мень к стене́; **парахо́д ~лі́ў да пры́стані** парохо́д привали́л к при́стани; **~лі́ла мно́га наро́ду** привали́ло мно́го наро́ду; **яму́ шча́сце ~лі́ла** ему́ привали́ло сча́стье.

**ПРЫВАЛІ́ЦЬ** II *сов.* (*сукно*) слегка́ сваля́ть.

**ПРЫВАЛО́ЧАНЫ** *разг.* прита́щенный, приволо́ченный, приволочённый.

**ПРЫВА́ЛЬВАЦЦА** I *несов. возвр., страд.* прива́ливаться; *см.* **прывалі́цца** I, **прыва́льваць** I.

**ПРЫВА́ЛЬВАЦЦА** II *несов. возвр., страд.* слегка́ валя́ться; *см.* **прывалі́цца** II, **прыва́льваць** II.

**ПРЫВА́ЛЬВАЦЬ** I *несов. в разн. знач.* прива́ливать; *см.* **прывалі́ць** I.

**ПРЫВА́ЛЬВАЦЬ** II *несов.* (*сукно*) слегка́ валя́ть.

**ПРЫВА́ЛЬНЫ** *мор.* прива́льный.

**ПРЫВАНДРАВА́ЦЬ** *сов.* прикочева́ть.

**ПРЫВАРАЖЫ́ЦЬ** *сов.* приворожи́ть, приколдова́ть.

**ПРЫВА́РАК, -рку** *м.* прива́рок.

**ПРЫВА́РАНЫ** *в разн. знач.* прива́ренный; *см.* **прывары́ць.**

**ПРЫВА́РАЧНЫ** прива́рочный; **~нае забеспячэ́нне** прива́рочное дово́льствие.

**ПРЫВА́РВАННЕ** *ср.* прива́ривание; *см.* **прыва́рваць.**

**ПРЫВА́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* прива́риваться; *см.* **прывары́цца, прыва́рваць.**

**ПРЫВА́РВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* прива́ривать; *см.* **прывары́ць.**

**ПРЫВА́РКА** *ж. тех.* прива́рка; **рабі́ць ~ку** де́лать прива́рку; **п. злама́лася** прива́рка слома́лась.

**ПРЫВАРНЫ́** *тех.* наварно́й.

**ПРЫВАРО́ЖАНЫ** привороженный, приколдо́ванный.

**ПРЫВАРО́ЖВАЦЦА** *несов. страд.* привора́живаться, приколдо́вываться.

**ПРЫВАРО́ЖВАЦЬ** *несов.* привора́живать, приколдо́вывать.

**ПРЫВАРО́ТНІК** *м. анат.* привра́тник.

**ПРЫВАРО́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* привора́чиваться; *см.* **прываро́чваць.**

**ПРЫВАРО́ЧВАЦЬ** *несов.* привора́чивать; *см.* **прывярну́ць.**

**ПРЫВАРЫ́ЦЦА** *сов. тех.* привари́ться.

**ПРЫВАРЫ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* привари́ть; **п. капу́сты** привари́ть щей; **п. пла́нку** привари́ть пла́нку.

**ПРЫВА́Т-ДАЦЭ́НТ** *м. дорев.* прива́т-доце́нт.

**ПРЫВА́ТНА** *нареч.* ча́стным о́бразом.

**ПРЫВАТНАГАСПАДА́РЧЫ** частнохозя́йственный.

**ПРЫВАТНАКАПІТАЛІСТЫ́ЧНЫ** частнокапиталисти́ческий.

**ПРЫВА́ТНАСЦЬ** *ж.* ча́стность; ◇ **у ~ці** *вводн. сл.* в ча́стности.

**ПРЫВАТНАЎЛА́СНІЦКІ** частнособственнический, частновладе́льческий.

**ПРЫВА́ТНІК** *м.* ча́стник.

**ПРЫВА́ТНІЦКІ** ча́стнический.

**ПРЫВА́ТНЫ** *в разн. знач.* ча́стный; **заключэ́нне ад ~нага да агу́льнага** заключе́ние от ча́стного к о́бщему; **п. вы́падак** ча́стный слу́чай; **~ная ўла́снасць** ча́стная со́бственность; **~ная асо́ба** ча́стное лицо́.

**ПРЫВЕ́ДЗЕНЫ** 1. приведённый; предста́вленный; 2. *разг.* принесённый; 3. (*у што,да чаго*) приведённый (*во что*), пове́ргнутый (*во что*), пове́рженный (*во что*); 1—3 *см.* **прыве́сці.**

**ПРЫВЕ́ЗЕНЫ** привезённый; ввезённый; *см.* **прыве́зці.**

**ПРЫВЕ́ЗЦІ** *сов.* привезти́; (*из-за границы — ещё*) ввезти́.

**ПРЫВЕ́РНУТЫ** привороченный; *см.* **прывярну́ць.**

**ПРЫВЕ́САК, -ска** *м.* приве́сок; **п. да арты́кула** приве́сок к статье́.

**ПРЫВЕ́СІЦЬ** *сов.* (*прикрепить*) приве́сить.

**ПРЫВЕСЛАВА́ЦЬ** *сов.* пригрести́ (*вёслами*).

**ПРЫВЕ́СЦІ** *сов.* 1. *в разн. знач.* привести́; (*данные, доказательства — ещё*) предста́вить; **п. дзяце́й дадо́му** привести́ дете́й домо́й; **сцёжка ~вяла́ да ракі́** тропи́нка привела́ к реке́; **но́выя фа́кты ~вялі́ вучо́нага да ва́жнага адкрыцця́** но́вые фа́кты привели́ учёного к ва́жному откры́тию; **п. ў рух** привести́ в движе́ние; **п. да аднаго́ назо́ўніка** привести́ к одному́ знамена́телю; **п. цыта́ту** привести́ цита́ту; 2. *разг.* (*родить — о животных*) принести́; *см.* **прыво́дзіць** 2; 3. (*у што, да чаго*) привести́ (*во что*), пове́ргнуть (*во что*); **гэ́та ве́стка прывяла́ мяне́ ў адча́й** э́та весть привела́ (пове́ргла) меня́ в отча́яние.

**ПРЫВЕ́ТЛІВА** *нареч.* приве́тливо.

**ПРЫВЕ́ТЛІВАСЦЬ** *ж.* приве́тливость.

**ПРЫВЕ́ТЛІВЫ** приве́тливый.

**ПРЫВЕ́ТНЫ** *см.* **прыве́тлівы.**

**ПРЫВЕ́ЦІЦЬ** *сов. уст., разг.* приве́тить.

**ПРЫВЕ́ШАНЫ** приве́шенный; *см.* **прыве́сіць.**

**ПРЫВЕ́ШВАННЕ** *ср.* приве́шивание, приве́ска *ж.*; *см.* **прыве́шваць.**

**ПРЫВЕ́ШВАЦЦА** *несов. страд.* приве́шиваться; *см.* **прыве́шваць.**

**ПРЫВЕ́ШВАЦЬ** *несов.* (*прикреплять*) приве́шивать.

**ПРЫВІВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* привива́ться; *см.* **прыві́цца, прывіва́ць.**

**ПРЫВІВА́ЦЬ** *несов.* привива́ть; *см.* **прыві́ць.**

**ПРЫВІД, -ду** *м.* при́зрак, привиде́ние *ср.*, виде́ние *ср.*

**ПРЫВІДНАСЦЬ** *ж.* при́зрачность.

**ПРЫВІДНЫ** при́зрачный; **~ная здань** при́зрачное виде́ние.

**ПРЫВІЛЕ́Я** *ж.* привиле́гия; преиму́щество *ср.*

**ПРЫВІЛЕЯВА́НАСЦЬ** *ж.* привилегиро́ванность.

**ПРЫВІЛЕЯВА́НЫ** привилегиро́ванный.

**ПРЫВІТА́ЛЬНА** *нареч.* приве́тственно.

**ПРЫВІТА́ЛЬНЫ** 1. приве́тственный; 2. поздрави́тельный.

**ПРЫВІТА́ННЕ** *ср.* 1. приве́т *м.*; **перада́ць п.** переда́ть приве́т; **з тавары́скім ~ннем** с това́рищеским приве́том; 2. приве́тствие; **сло́вы ~ння** слова́ приве́тствия; 3. поздравле́ние; **атрыма́ць п. ад тава́рышаў** получи́ть поздравле́ние от това́рищей.

**ПРЫВІТА́НЫ** приве́тствованный; *см.* **прывіта́ць** 1.

**ПРЫВІТА́ЦЦА** *сов.* поздоро́ваться.

**ПРЫВІТА́ЦЬ** *сов.* 1. приве́тствовать; **знаёмы ве́села ~та́ў мяне́** знако́мый ве́село приве́тствовал меня́; 2. поздра́вить; **п. са свя́там** поздра́вить с пра́здником.

**ПРЫВІ́ТЫ** привито́й, приви́тый; *см.* **прыві́ць.**

**ПРЫВІ́ЦЦА** *сов.* приви́ться; **~вілі́ся на́выкі да фізі́чнай пра́цы** приви́лись на́выки к физи́ческому труду́.

**ПРЫВІЦЦЁ** *ср.* приви́тие; **п. на́выкаў** приви́тие на́выков.

**ПРЫВІ́ЦЬ** *сов.* приви́ть; **п. любо́ў да радзі́мы** приви́ть любо́вь к ро́дине.

**ПРЫВО́Д** I, **-ду** *м. юр.* приво́д.

**ПРЫВО́Д** II *м. тех.* приво́д; **зубча́сты п.** зубча́тый приво́д.

**ПРЫВО́ДЗІЦЦА** *несов. страд.* приводи́ться; представля́ться; *см.* **прыво́дзіць** 1.

**ПРЫВО́ДЗІЦЬ** *несов.* 1. *в разн. знач.* приводи́ть; (*данные, доказательства — ещё*) представля́ть; 2. *разг.* (*рождать — о животных*) приноси́ть; (*о нек-рых животных*) мета́ть; **свіння́ п. да двана́ццаці парася́т** свинья́ прино́сит (ме́чет) до двена́дцати порося́т; 3. (*у што, да чаго*) приводи́ть (*во что*), поверга́ть (*во что*); 1, 3 *см.* **прыве́сці** 1, 3.

**ПРЫВО́ДКА** *ж. полигр.* приво́дка.

**ПРЫВО́ДНАСЦЬ** *ж. мат.* приводи́мость.

**ПРЫВО́ДНЫ** *мат.* приводи́мый.

**ПРЫВО́З, -зу** *м.* приво́з; (*из-за границы — ещё*) ввоз.

**ПРЫВО́ЗІЦЦА** *несов. страд.* привози́ться; ввози́ться; *см.* **прыво́зіць.**

**ПРЫВО́ЗІЦЬ** *несов.* привози́ть; (*из-за границы — ещё*) ввози́ть.

**ПРЫВО́ЗКА** *ж. разг.* приво́зка.

**ПРЫВО́ЛЖА** *ср.* Приво́лжье.

**ПРЫВО́ЛЖСКАЕ ЎЗВЫШША** Приво́лжская возвы́шенность.

**ПРЫВО́ЛЛЕ** *ср.* приво́лье.

**ПРЫВО́ЛЬНА** *нареч.* приво́льно, вольго́тно.

**ПРЫВО́ЛЬНЫ** приво́льный, вольго́тный.

**ПРЫВО́РВАННЕ** *ср.* припа́шка *ж.*

**ПРЫВО́РВАЦЬ** *несов.* (*пахать*) припа́хивать.

**ПРЫВО́РКА** *ж.* припа́шка.

**ПРЫВУ́ЧАНЫ** приу́ченный.

**ПРЫВУЧА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* приуча́ться.

**ПРЫВУЧА́ЦЬ** *несов.* приуча́ть.

**ПРЫВУ́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* *см.* **прывуча́цца.**

**ПРЫВУ́ЧВАЦЬ** *несов.* *см.* **прывуча́ць.**

**ПРЫВУЧЫ́ЦЦА** *сов.* приучи́ться.

**ПРЫВУЧЫ́ЦЬ** *сов.* приучи́ть.

**ПРЫВЫКА́ЦЬ** (*да каго-чаго і с інф.*) *несов.* 1. (*приобретать привычку*) привыка́ть (*к кому-чему и с инф.*); 2. привыка́ть (*к кому-чему*), свыка́ться (*с кем-чем*); (*в новом месте, в новой среде — ещё*) осва́иваться, прижива́ться; 1, 2 *см.* **прывы́кнуць;** ✧ **нам не п.** нам не привыка́ть.

**ПРЫВЫ́КНУЦЬ** (*да каго-чаго і с інф.*) *сов.* 1. (*приобрести привычку*) привы́кнуть (*к кому-чему и с инф.*); **п. устава́ць у сем гадзі́н** привы́кнуть встава́ть в семь часо́в; **п. куры́ць** привы́кнуть кури́ть; 2. привы́кнуть (*к кому-чему*), свы́кнуться (*с кем-чем*); (*в новом месте, в новой среде — ещё*) осво́иться, приживи́ться; **п. да чалаве́ка** привы́кнуть к челове́ку; **п. да абста́він** привы́кнуть к обстано́вке; свы́кнуться с обстано́вкой; **п. да но́вага го́рада** привы́кнуть к но́вому го́роду; осво́иться в но́вом го́роде.

**ПРЫВЫ́ЧКА** *ж.* привы́чка; пова́дка; **узя́ць у ~ку** взять в привы́чку; **до́брыя, дрэ́нныя ~кі** хоро́шие, плохи́е привы́чки; **пакі́нь гэ́тую ~ку** оста́вь э́ту привы́чку.

**ПРЫВЫ́ЧНА** *нареч.* привы́чно.

**ПРЫВЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* привы́чность.

**ПРЫВЫ́ЧНЫ** привы́чный; **п. спо́саб жыцця́** привы́чный о́браз жи́зни; **~ная з'я́ва** привы́чное явле́ние.

**ПРЫВЭ́НДЖАНЫ** слегка́ подкопчённый.

**ПРЫВЭ́НДЖВАЦЬ** *несов.* слегка́ подка́пчивать.

**ПРЫВЭ́НДЗІЦЬ** *сов.* слегка́ подкопти́ть.

**ПРЫВЯДЗЕ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* приведе́ние; **п. машы́ны ў рух** приведе́ние маши́ны в движе́ние; **п. падо́бных чле́наў** *мат.* приведе́ние подо́бных чле́нов.

**ПРЫВЯ́ЗАНЫ** привя́занный; прича́ленный; *см.* **прывяза́ць.**

**ПРЫВЯЗА́ЦЦА** *сов.* 1. *в разн. знач.* привяза́ться; **п. по́ясам да слупа́** привяза́ться по́ясом к столбу́; **вяро́ўка до́бра ~за́лася** верёвка хорошо́ привяза́лась; 2. *перен.* приста́ть, прицепи́ться, привяза́ться, придра́ться; 3.

*перен.* привяза́ться (*к кому*), увяза́ться (*за кем*); **да нас ~зау́ся саба́ка** за на́ми увяза́лась соба́ка.

**ПРЫВЯЗА́ЦЬ** *сов.* привяза́ть; (*лодку и т. п. — ещё*) прича́лить.

**ПРЫВЯ́ЗВАННЕ** *ср.* привя́зывание, привя́зка *ж.*; прича́л *м.*; *см.* **прывя́зваць.**

**ПРЫВЯ́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* привя́зываться; **2.** *перен.* пристава́ть, цепля́ться, привя́зываться, придира́ться; **3.** *перен.* привя́зываться (*к кому*), увя́зываться (*за кем*); 1—3 *см.* **прывяза́цца; 4.** *страд.* привя́зываться; прича́ливаться; *см.* **прывя́зваць.**

**ПРЫВЯ́ЗВАЦЬ** *несов.* привя́зывать; (*лодку и т. п.— ещё*) прича́ливать.

**ПРЫ́ВЯЗКА** *ж.* (*ремешок, верёвка*) привя́зка.

**ПРЫВЯ́ЗКА** *ж.* (*действие*) привя́зка; *см.* **прывяза́ць;** ✧ **тапаграфі́чная п.** топографи́ческая привя́зка.

**ПРЫВЯЗНЫ́** привязно́й.

**ПРЫ́ВЯЗЬ** *ж.* **1.** при́вязь; **трыма́ць на ~зі** держа́ть на при́вязи; **хадзі́ць на ~зі** ходи́ть на при́вязи; **2.** (*приспособление для привязывания лошадей*) ко́новязь.

**ПРЫВЯ́ЛЕНЫ** *разг.* слегка́ провя́ленный.

**ПРЫВЯ́ЛІЦЬ** *сов. разг.* слегка́ провя́лить.

**ПРЫВЯ́ЛЫ** *разг.* привя́дший, слегка́ завя́дший.

**ПРЫВЯ́ЛЬВАЦЬ** *несов. разг.* слегка́ провя́ливать.

**ПРЫВЯ́НУЦЬ** *сов. разг.* привя́нуть, слегка́ завя́ть.

**ПРЫВЯРЗЦІ́СЯ** *сов.* примере́щиться, приви́деться.

**ПРЫВЯРНУ́ЦЬ** *сов.* привороти́ть; **п. ка́мень да пло́та** привороти́ть ка́мень к забо́ру.

**ПРЫВЯРШЫ́ЦЬ** *сов.* (*стог*) приверши́ть.

**ПРЫВЯСЛО́ЎВАЦЬ** *несов.* пригреба́ть (*вёслами*).

**ПРЫВЯСНЫ́** привесно́й.

**ПРЫВЯ́ЦЬ** *сов. разг.* привя́нуть.

**ПРЫГАБЛЁВАНЫ** *см.* **прыгаблява́ны.**

**ПРЫГАБЛЁЎВАЦЬ** *несов.* пристра́гивать, пристру́гивать.

**ПРЫГАБЛЯВА́НЫ** пристро́ганный, приструганный.

**ПРЫГАБЛЯВА́ЦЬ** *сов.* пристрога́ть, приструга́ть.

**ПРЫГАВА́РВАЦЦА** *несов. страд. см.* **прыгаво́рвацца.**

**ПРЫГАВА́РВАЦЬ** *несов. см.* **прыгаво́рваць.**

**ПРЫГАВАРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*вынести приговор*) приговори́ть; **п. да зняво́лення** приговори́ть к заключе́нию; **2.** *прост.* реши́ть; **~ры́лі жані́ць цябе́** реши́ли жени́ть тебя́; **3.** (*внушить любовь к себе*) приворожи́ть.

**ПРЫГАВО́Р, -ру** *м.* **1.** пригово́р; **вы́несці п.** вы́нести пригово́р; **2.** *уст.* колдовство́ *ср.*

**ПРЫГАВО́РАНЫ** приговорённый.

**ПРЫГАВО́РВАЦЦА** *несов. страд.* пригова́риваться; реша́ться; привора́живаться; *см.* **прыгаво́рваць** 1, 2, 4.

**ПРЫГАВО́РВАЦЬ** *несов.* **1.** (*выносить приговор*) пригова́ривать; **2.** *прост.* реша́ть; **3.** (*говорить, что-л. делая*) пригова́ривать; **4.** (*внушать любовь к себе*) привора́живать; 1, 2, 4 *см.* **прыгавары́ць.**

**ПРЫГАВО́РКА** *ж.* прибау́тка, пригово́р *м.*; ✧ **галава́ з пакло́нам, язы́к з ~кай** *погов.* голова́ с покло́ном, язы́к с пригово́ром.

**ПРЫГАВО́РНЫ** *уст.* колдовско́й.

**ПРЫГАДА́НЫ 1.** вспомя́нутый; **2.** упомя́нутый.

**ПРЫГАДА́ЦЦА** *сов.* вспо́мниться, припо́мниться.

**ПРЫГАДА́ЦЬ** *сов.* **1.** вспо́мнить, припо́мнить; **2.** напо́мнить; **3.** упомяну́ть.

**ПРЫГА́ДВАННЕ** *ср.* **1.** припомина́ние; **2.** напомина́ние; **3.** упомина́ние.

**ПРЫГА́ДВАЦЦА** *несов.* вспомина́ться, припомина́ться.

**ПРЫГА́ДВАЦЬ** *несов.* **1.** вспомина́ть, припомина́ть; **2.** напомина́ть; **3.** упомина́ть.

**ПРЫГАЖО́СЦЬ** *ж.* **1.** красота́; милови́дность; *см.* **прыго́жы** 1; **2.** изя́щество *ср.*; **3.** (*мнимая внешняя красота*) краси́вость.

**ПРЫГАЖУ́Н, -на́** *м.* краса́вец.

**ПРЫГАЖУ́НЯ** *ж.* краса́вица.

**ПРЫГАЖЭ́Й** *прил., нареч. сравнит. ст.* кра́ше, краси́вее, краси́вей.

**ПРЫГАЖЭ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* кра́ше, краси́вее, краси́вей.

**ПРЫГАЖЭ́ЦЬ** *несов.* хороше́ть, де́латься краси́вее.

**ПРЫГАІ́ЦЬ** *сов. разг.* подлечи́ть.

**ПРЫГАЛО́ЎЕ** *ср.* изголо́вье.

**ПРЫГАЛУ́БІЦЬ** *сов. разг.* приголу́бить, приласка́ть.

**ПРЫГАЛУ́БЛЕНЫ** *разг.* приголу́бленный, приласка́нный.

**ПРЫГАЛУ́БЛІВАЦЬ** *несов. разг.* приголу́бливать.

**ПРЫГА́НАК, -нка** *м.* ступе́ньки *мн.* крыльца́.

**ПРЫГАНЯ́ТЫ** *сущ. уст.* прика́зчик, надсмо́трщик за рабо́тами.

**ПРЫГАНЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* пригоня́ть; (*делать соответствующим по размеру — ещё*) подгоня́ть; *см.* **прыгна́ць; 2.** (*понуждать что-л. делать*) заставля́ть, принужда́ть; побужда́ть.

**ПРЫГА́Р** *м. спец.* пригар.

**ПРЫ́ГАРАД** *м.* при́город.

**ПРЫГАРАДЗІ́ЦЬ** *сов.* пригороди́ть.

**ПРЫ́ГАРАДНЫ** при́городный.

**ПРЫГАРА́ЦЬ** *несов. см.* **прыга́рваць.**

**ПРЫГА́РВАЦЬ** *несов.* пригора́ть; *см.* **прыгарэ́ць.**

**ПРЫГА́РКА** *ж.* пригар *м.*

**ПРЫГАРНУ́ЦЦА** *сов.* прижа́ться, прильну́ть.

**ПРЫГАРНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*что-л. сыпучее*) пригрести́; **2.** прижа́ть к груди́, приласка́ть.

**ПРЫГАРО́ДЖАНЫ** пригоро́женный.

**ПРЫГАРО́ДЖВАЦЬ** *несов.* пригора́живать.

**ПРЫ́ГАРШЧЫ** *ед. нет* при́го́ршни; **по́ўнымі ~шчамі** *перен.* по́лными при́го́ршнями.

**ПРЫГАРЭ́ЛЫ** пригоре́лый, пригоре́вший.

**ПРЫГАРЭ́ЦЬ** пригоре́ть; **блін ~рэ́ў** блин пригоре́л; **малако́ ~рэ́ла** молоко́ пригоре́ло.

**ПРЫГАТАВА́ННЕ** *ср.* приготовле́ние.

**ПРЫГАТАВА́НЫ** *в разн. знач.* пригото́вленный; *см.* **прыгатава́ць.**

**ПРЫГАТАВА́ЦЦА** *сов.* пригото́виться.

**ПРЫГАТАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пригото́вить; **п. абе́д** пригото́вить обе́д; **п. сюрпры́з** пригото́вить сюрпри́з.

**ПРЫГАТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пригота́вливаться, приготовля́ться; *см.* **прыгатава́цца, прыгато́ўваць.**

**ПРЫГАТО́ЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* пригота́вливать, приготовля́ть; *см.* **прыгатава́ць.**

**ПРЫГВАЗДА́НЫ** *прям., перен. разг.* пригвождённый.

**ПРЫГВАЗДА́ЦЬ** *сов. прям., перен. разг.* пригвозди́ть.

**ПРЫГІБНЫ́: п крок** *спорт.* пригибно́й шаг.

**ПРЫГІНА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* пригиба́ться; приклоня́ться; *см.* **прыгну́цца, прыгіна́ць.**

**ПРЫГІНА́ЦЬ** *несов.* пригиба́ть; приклоня́ть; *см.* **прыгну́ць.**

**ПРЫГЛА́ДЖАНЫ** *прям., перен.* пригла́женный; *см.* **прыгла́дзіць.**

**ПРЫГЛА́ДЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* пригла́живаться; *см.* **прыгла́дзіцца, прыгла́джваць.**

**ПРЫГЛА́ДЖВАЦЬ** *несов. прям., перен.* пригла́живать; *см.* **прыгла́дзіць.**

**ПРЫГЛА́ДЗІЦЦА** *сов.* пригла́диться.

**ПРЫГЛА́ДЗІЦЬ** *сов. прям., перен.* пригла́дить; **п. валасы́** пригла́дить во́лосы; **п. стыль** пригла́дить стиль.

**ПРЫГЛЕ́ДЗЕЦЦА** *сов.* **1.** присмотре́ться, пригляде́ться, всмотре́ться, вгляде́ться; **2.** (*привыкнуть*) присмотре́ться, пригляде́ться; **3.** (*надоесть*) пригляде́ться; **усё мне тут ~дзелася** всё мне здесь пригляде́лось.

**ПРЫГЛЕ́ДЗЕЦЬ** *сов.* пригляде́ть, присмотре́ть, подыска́ть.

**ПРЫГЛУ́ХНУЦЬ** *сов.* (*о звуке*) стать бо́лее глухи́м.

**ПРЫГЛУ́ШАНА** *нареч.* приглушённо.

**ПРЫГЛУ́ШАНЫ 1.** *прич.* приглушённый; **2.** *прич. перен.* приглушённый, пода́вленный; 1, 2 *см.* **прыглушы́ць; 3.** *прил.* (*глуховатый — о звуках*) приглушённый.

**ПРЫГЛУША́ЦЦА** *несов.* **1.** (*о звуке*) станови́ться бо́лее глухи́м; **2.** *страд.* приглуша́ться; подавля́ться; *см.* **прыглуша́ць.**

**ПРЫГЛУША́ЦЬ** *несов.* **1.** приглуша́ть; **2.** *перен.* (*заглушать*) приглуша́ть, подавля́ть; 1, 2 *см.* **прыглушы́ць.**

**ПРЫГЛУ́ШВАЦЦА** *несов. страд. см.* **прыглуша́цца** 2.

**ПРЫГЛУ́ШВАЦЬ** *несов. см.* **прыглуша́ць.**

**ПРЫГЛУШЫ́ЦЦА** *сов.* (*о звуке*) стать бо́лее глухи́м.

**ПРЫГЛУШЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** приглуши́ть; **п. го́лас** приглуши́ть го́лос; **2.** *перен.* (*заглушить*) приглуши́ть, подави́ть; **п. ініцыяты́ву** подави́ть инициати́ву.

**ПРЫГЛЯДА́ЦЦА** *несов.* **1.** присма́триваться, пригля́дываться, всма́триваться, вгля́дываться; **2.** (*привыкать*) присма́триваться, пригля́дываться.

**ПРЫГЛЯ́ДВАЦЦА** *несов. см.* **прыгляда́цца.**

**ПРЫГЛЯДЗЕ́ЦЦА** *сов. см.* **прыгле́дзецца.**

**ПРЫГНАІ́ЦЬ** *сов.* подгнои́ть.

**ПРЫГНА́НЫ** при́гнанный; подо́гнанный; *см.* **прыгна́ць.**

**ПРЫГНА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* пригна́ть; (*сделать соответствующим по размеру — ещё*) подогна́ть; **п. каро́ў з по́ля** пригна́ть коро́в с по́ля; **п. машы́ну ў гара́ж** пригна́ть маши́ну в гара́ж; **п. дзве́ры да вушака́** пригна́ть (подогна́ть) две́ри к косяку́; ✧ **чорт яго́ ∼на́ў** чёрт его́ принёс.

**ПРЫГНЕ́СЦІ** *сов.* **1.** притесни́ть; поработи́ть; **2.** (*привести в угнетённое состояние*) удручи́ть; подави́ть, придави́ть; **яго́ ∼няло́ го́ра** его́ подави́ло (придави́ло) го́ре.

**ПРЫГНЕ́ЧАНА** *нареч.* пода́вленно, удручённо.

**ПРЫГНЕ́ЧАНАСЦЬ** *ж.* (*настроение, состояние*) угнетённость, удручённость; пода́вленность, прида́вленность.

**ПРЫГНЕ́ЧАННЕ** *ср.* угнете́ние, притесне́ние; порабоще́ние.

**ПРЫГНЕ́ЧАНЫ 1.** притеснённый; порабощённый; **2.** удручённый; пода́вленный, прида́вленный; 1, 2 *см.* **прыгне́сці.**

**ПРЫГНЁТ, -ту** *м. мн. нет* **1.** (*действие*) гнёт, угнете́ние *ср.*, притесне́ние *ср.*; порабоще́ние *ср.*; **2.** (*угнетающая сила*) и́го *ср.*, гнёт.

**ПРЫГНО́ЕНЫ** подгноённый.

**ПРЫГНУ́ТЫ** пригну́тый; приклонённый; *см.* **прыгну́ць.**

**ПРЫГНУ́ЦЦА** *сов.* пригну́ться; приклони́ться; **дрэ́вы ∼ну́ліся да зямлі́** дере́вья пригну́лись (приклони́лись) к земле́.

**ПРЫГНУ́ЦЬ** *сов.* пригну́ть; приклони́ть; **п. цвік** пригну́ть гвоздь; **п. галіну́** пригну́ть (приклони́ть) ве́тку.

**ПРЫГНЯСЦІ́** *сов. см.* **прыгне́сці.**

**ПРЫГНЯТА́ЛЬНІК** *м.* угнета́тель, притесни́тель; поработи́тель.

**ПРЫГНЯТА́ЛЬНІЦА** *ж.* угнета́тельница, притесни́тельница; поработи́тельница.

**ПРЫГНЯТА́ЛЬНІЦКІ** угнета́тельский.

**ПРЫГНЯТА́ЛЬНЫ** угнета́ющий, подавля́ющий.

**ПРЫГНЯТА́ЦЦА** *несов. страд.* угнета́ться, притесня́ться; порабоща́ться; подавля́ться, прида́вливаться; *см.* **прыгнята́ць.**

**ПРЫГНЯТА́ЦЬ** *несов.* **1.** угнета́ть, притесня́ть; порабоща́ть; **2.** (*приводить в угнетённое состояние*) удруча́ть; подавля́ть, прида́вливать; *см.* **прыгне́сці** 2.

**ПРЫГО́ДА** *ж.* приключе́ние *ср.*, происше́ствие *ср.*

**ПРЫГО́ДНАСЦЬ** *ж.* приго́дность, го́дность.

**ПРЫГО́ДНІЦКІ** приключе́нческий; **∼кая апо́весць** приключе́нческая по́весть.

**ПРЫГО́ДНІЦТВА** *ср.* приключе́нчество.

**ПРЫГО́ДНЫ** приго́дный, го́дный.

**ПРЫГО́ЖА** *нареч.* **1.** краси́во; **2.** изя́щно; 1, 2 *см.* **пры-го́жы.**

**ПРЫГО́ЖАЕ** *сущ.* (*в эстетике*) прекра́сное.

**ПРЫГО́ЖАНЬКІ** краси́венький, хоро́шенький.

**ПРЫГО́ЖАСЦЬ** *ж. см.* **прыгажо́сць.**

**ПРЫГО́ЖЫ 1.** *в разн. знач.* краси́вый; (*о внешности — ещё*) милови́дный; **п. твар** краси́вое лицо́; **∼жыя ру́хі** краси́вые движе́ния; **∼жая му́зыка** краси́вая му́зыка; **п. ўчы́нак** краси́вый посту́пок; **∼жыя сло́вы** краси́вые слова́; **∼жая дзяўчы́на** краси́вая (милови́дная) де́вушка; **2.** изя́щный; ✧ **для ∼жага сло́ўца** для кра́сного словца́; **∼жае пісьме́нства** изя́щная литерату́ра, изя́щная слове́сность.

**ПРЫГО́Н** I, **-ну** *м.* приго́н; **п. жывёлы** приго́н скота́.

**ПРЫГО́Н** II, **-ну** *м.* **1.** *ист.* крепостно́е пра́во; **2.** (*понуждение*) принужде́ние *ср.*

**ПРЫГО́НАЧНЫ** пригóночный.

**ПРЫГО́НКА** *ж.* (*приспосабливание, прилаживание*) приго́нка, подго́нка.

**ПРЫГО́ННАЯ** *сущ.* крепостна́я.

**ПРЫГО́ННІК** *м.* крепостни́к.

**ПРЫГО́ННІЦКІ** крепостни́ческий.

**ПРЫГО́ННІЦТВА** *ср.* крепостни́чество.

**ПРЫГО́ННЫ** I (*пригоняемый*) приго́нный.

**ПРЫГО́ННЫ** II **1.** *прил.* крепостно́й; **∼нная зале́жнасць** крепостна́я зави́симость; **2.** *в знач. сущ.* крепостно́й.

**ПРЫГО́РАК, -рка** *м.* приго́рок.

**ПРЫГО́РБІЦЦА** *сов.* сго́рбиться, ссуту́литься.

**ПРЫГО́РБЛЕНЫ** сго́рбленный, ссуту́ленный.

**ПРЫГО́РКЛЫ** пригóрклый.

**ПРЫГО́РКНУЦЬ** *сов.* пригóркнуть.

**ПРЫГО́РНУТЫ 1.** пригребённый; **2.** прижа́тый к груди́, прила́сканный; 1,2 *см.* **прыгарну́ць.**

**ПРЫГО́РТВАЦЦА** *несов.* **1.** прижима́ться; **2.** *страд.* пригреба́ться; прижима́ться; *см.* **прыго́ртваць.**

**ПРЫГО́РТВАЦЬ** *несов.* **1.** (*что-л. сыпучее*) пригреба́ть; **2.** прижима́ть к груди́, ласка́ть.

**ПРЫГРАБА́ЦЦА** *несов. страд.* пригреба́ться; *см.* **прыграба́ць.**

**ПРЫГРАБА́ЦЬ** *несов.* (*сгребая, придвигать*) пригреба́ть.

**ПРЫГРАВА́ННЕ** *ср.* пригрева́ние; *см.* **прыграва́ць.**

**ПРЫГРАВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* пригрева́ться; *см.* **прыгрэ́цца, прыграва́ць.**

**ПРЫГРАВА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* пригрева́ть; *см.* **прыгрэ́ць.**

**ПРЫГРАЗІ́ЦЬ** *сов.* пригрози́ть.

**ПРЫГРАНІ́ЧНЫ** пригранйчный.

**ПРЫГРЭ́БЕНЫ** пригребённый; *см.* **прыгрэ́бці.**

**ПРЫГРЭ́БНІК** *м. обл.* по́греб.

**ПРЫГРЭ́БЦІ** *сов.* (*сгребая, придвинуть*) пригрести́.

**ПРЫГРЭ́ТЫ** *прям., перен.* пригре́тый; *см.* **прыгрэ́ць.**

**ПРЫГРЭ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* пригре́ться.

**ПРЫГРЭ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* пригре́ть; **пад паўдня́ ∼рэ́ла со́нца** к полу́дню пригре́ло со́лнце; ✧ **п. змяю на сваі́х грудзя́х** пригре́ть змею на своéй груди́.

**ПРЫГУ́БІЦЬ** *сов.* пригу́бить.

**ПРЫГУ́БЛЕНЫ** пригу́бленный.

**ПРЫГУ́БЛІВАЦЬ** *несов.* пригу́бливать.

**ПРЫГУМЕ́ННЕ** *ср.* гуме́нник *м.*

**ПРЫГУМЕ́ННЫ** пригуме́нный.

**ПРЫДАБЫВА́ЦЬ** *несов. разг.* раздобыва́ть.

**ПРЫДАБЫ́ТЫ** *разг.* раздобы́тый.

**ПРЫДАБЫ́ЦЬ** *сов. разг.* раздобы́ть.

**ПРЫДАВА́ЦЦА** *несов. страд.* придава́ться; прибавля́ться; облека́ться; *см.* **прыдава́ць.**

**ПРЫДАВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* придава́ть; (*добавлять — ещё*) прибавля́ть; (*воплощать — ещё*) облека́ть; *см.* **прыда́ць.**

**ПРЫДА́ДЗЕНЫ** при́данный; приба́вленный; облечённый; *см.* **прыда́ць.**

**ПРЫДАРО́ЖНЫ** придоро́жный.

ракá ~лíла гэ́тыя вóбласці рекá разделúла э́ти óбласти; р. тэкст на парáграфы разделúть (расчленúть) текст на парáграфы; р. з кім-нéбудзь сваю рáдасць разделúть с кéм-л. свою рáдость.

**РАЗДЗЯЛЯ́ЛЬНЫ** разделúтельный; ~ная ры́са разделúтельная чертá; р. злýчнік *грам.* разделúтельный сою́з.

**РАЗДЗЯЛЯ́ЦЦА** *несов.* 1. *в разн. знач.* разделя́ться; *см.* раздзялíцца; 2. (*состоять из нескольких разделов, частей и т. п.*) разделя́ться; гýкі ~ля́ююцца на галóсныя і зы́чныя звýки разделя́ются на глáсные и соглáсные; 3. *страд.* разделя́ться; расчленя́ться; *см.* раздзяля́ць.

**РАЗДЗЯЛЯ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* разделя́ть; (*на части — ещё*) расчленя́ть; *см.* раздзялíць.

**РАЗДЗЯЎБА́НЫ** *и* **РАЗДЗЁЎБАНЫ** 1. расклёванный; 2. раздолблённый.

**РАЗДЗЯЎБА́ЦЬ** *сов. см.* раздзяўбці.

**РАЗДЗЯЎБЦІ** *сов.* 1. расклевáть; 2. раздолбúть.

**РАЗДНЕ́ЦЬ** *сов. безл. см.* разаднéць.

**РАЗДО́БРАНЫ** *разг.* раздóбренный.

**РАЗДО́БРЫВАЦЦА** *несов. разг.* раздáбриваться; расщéдриваться.

**РАЗДО́БРЫВАЦЬ** *несов. разг.* раздáбривать.

**РАЗДО́БРЫЦЦА** *сов. разг.* раздóбриться; расщéдриться.

**РАЗДО́БРЫЦЬ** *сов. разг.* раздóбрить.

**РАЗДО́ЕНЫ** раздóенный.

**РАЗДО́Й,** -дóю *м. с.-х.* раздóй.

**РАЗДО́ЙВАННЕ** *ср.* раздáивание.

**РАЗДО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раздáиваться.

**РАЗДО́ЙВАЦЬ** *несов.* раздáивать.

**РАЗДО́ЛЛЕ** *ср. прям., перен.* раздóлье, простóр *м.*

**РАЗДО́ЛЬНЫ** раздóльный; ~нае жыццё раздóльная жизнь.

**РАЗДО́РАНЫ** раздáренный.

**РАЗДО́РВАЦЦА** *несов. страд.* раздáриваться.

**РАЗДО́РВАЦЬ** *несов.* раздáривать.

**РАЗДРАБІ́ЦЦА** *сов.* раздробúться.

**РАЗДРАБІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* раздробúть; р. соль раздробúть соль; р. косць раздробúть кость; р. мéтры ў сантымéтры раздробúть мéтры в сантимéтры.

**РАЗДРАБЛЕ́ННЕ** *ср.* раздроблéние; *см.* раздрабля́ць.

**РАЗДРАБЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* раздробля́ться; *см.* раздрабíцца, раздрабля́ць.

**РАЗДРАБЛЯ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* раздробля́ть; *см.* раздрабíць.

**РАЗДРАБНЕ́ННЕ** *ср.* размельчéние, измельчéние, раздроблéние.

**РАЗДРАБНІ́ЦЦА** *сов.* размельчúться, измельчúться, раздробúться.

**РАЗДРАБНІ́ЦЬ** *сов.* размельчúть, измельчúть, раздробúть.

**РАЗДРАБНЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* размельчáться, измельчáться, раздробля́ться.

**РАЗДРАБНЯ́ЦЬ** *несов.* размельчáть, измельчáть, раздробля́ть.

**РАЗДРАЖНЕ́ННЕ** *ср.* раздражéние.

**РАЗДРА́ЖНЕНЫ** 1. раздразнённый; 2. раздражённый; 3. раздразнённый, раздражённый; 4. *разг.* обострённый; 1—4 *см.* раздражнíць.

**РАЗДРАЖНЁНАСЦЬ** *ж.* раздражúтельность.

**РАЗДРАЖНІ́ЦЬ** *сов.* 1. раздразнúть; р. звéра раздразнúть звéря; 2. (*вызвать раздражение*) раздражúть; р. слізíстую абалóнку раздражúть слизúстую оболóчку; 3. (*вызвать какое-л. желание*) раздразнúть, раздражúть; р. апеты́т раздразнúть (раздражúть) аппетúт; 4. *разг.* обострúть; р. хварóбу обострúть болéзнь.

**РАЗДРАЖНЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* раздражúмость.

**РАЗДРАЖНЯ́ЛЬНІК** *м.* раздражúтель.

**РАЗДРАЖНЯ́ЛЬНЫ** раздражúмый.

**РАЗДРАЖНЯ́ЦЦА** *несов. страд.* раздрáзниваться; раздражáться; обостря́ться; *см.* раздражня́ць.

**РАЗДРАЖНЯ́ЦЬ** *несов.* 1. раздрáзнивать; 2. (*вызывать раздражение*) раздражáть; 3. (*вызывать какое-л. желание*) раздрáзнивать, раздражáть; 4. *разг.* обостря́ть; 1—4 *см.* раздражнíць.

**РАЗДРО́Б:** у р. в рóзницу.

**РАЗДРО́БЛЕНАСЦЬ** *ж.* раздроблённость, раздрóбленность; *см.* раздрóблены 2.

**РАЗДРО́БЛЕНЫ** 1. *прич. в разн. знач.* раздроблённый, раздрóбленный; *см.* раздрабíць; 2. *прил.* (*разобщённый*) раздроблённый, раздрóбленный; ~ная сéльская гаспадáрка раздроблённое сéльское хозя́йство.

**РАЗДРО́БНЕНЫ** размельчённый, измельчённый, раздроблённый, раздрóбленный.

**РАЗДРО́БНЫ** *разг.* рóзничный.

**РАЗДУВА́ННЕ** *ср.* раздувáние; *см.* раздувáць.

**РАЗДУВА́ЦЦА** *несов. страд.* раздувáться; *см.* раздувáць.

**РАЗДУВА́ЦЬ** *несов.* (*преувеличивать*) раздувáть; *см.* раздýць.

**РАЗДУ́МАЦЦА** *сов.* передýмать, одýматься.

**РАЗДУ́МВАЦЦА** *несов. разг.* передýмывать, одýмываться.

**РАЗДУ́МВАЦЬ** *несов.* раздýмывать.

**РАЗДУ́МЛІВА** *нареч. разг.* раздýмчиво.

**РАЗДУ́МЛІВАСЦЬ** *ж. разг.* раздýмчивость.

**РАЗДУ́МЛІВЫ** *разг.* раздýмчивый.

**РАЗДУ́РАНАСЦЬ** *ж. разг.* избалóванность, разбалóванность.

**РАЗДУ́РАНЫ** *разг.* избалóванный, разбалóванный.

**РАЗДУ́РВАЦЬ** *несов. разг.* избалóвывать, баловáть.

**РАЗДУРЫ́ЦЦА** *сов. разг.* избаловáться, разбаловáться.

**РАЗДУРЫ́ЦЬ** *сов. разг.* избаловáть, разбаловáть.

**РАЗДУРЭ́ЦЦА** *сов. разг.* расшалúться.

**РАЗДУРЭ́ЦЬ** *сов. разг.* 1. избаловáться, разбаловáться, развинтúться; хлóпчык зусíм ~рэ́ў мáльчик совсéм избаловáлся (разбаловáлся, развинтúлся); 2. развратúться; р. без рабóты развратúться от бездéлья.

**РАЗДУ́ТАСЦЬ** *ж.* раздýтость; *см.* раздýты.

**РАЗДУ́ТЫ** раздýтый; *см.* раздýць.

**РАЗДУ́ЦЬ** *сов.* (*преувеличить*) раздýть; р. лíчбы раздýть цúфры.

**РАЗДУ́ШАНЫ** раздáвленный.

**РАЗДУ́ШВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раздáвливаться; *см.* раздушы́цца, раздýшваць.

**РАЗДУ́ШВАЦЬ** *несов.* раздáвливать.

**РАЗДУШЫ́ЦЦА** *сов.* раздавúться; прабíрка ~шы́лася пры перавóзцы пробúрка раздавúлась при перевóзке.

**РАЗДУШЫ́ЦЬ** *сов.* раздавúть.

**РАЗДЫ́М,** -му *м. тех.* разъём.

**РАЗ'Е́ДЗЕНЫ** разъéденный; *см.* раз'éсці.

**РАЗ'Е́ЗД,** -ду, *ж.-д.* -да *м. в разн. знач.* разъéзд; р. гасцéй разъéзд гостéй; чыгýначны р. железнодорóжный разъéзд; кóнны р. *воен.* кóнный разъéзд.

**РАЗ'Е́ЗДЖАНЫ** *разг.* разъéзженный; разбúтый; *см.* раз'éздзіць.

**РАЗ'Е́ЗДЖВАЦЦА** *несов. страд. разг.* разъéзживаться; разбивáться; *см.* раз'éздзжваць.

**РАЗ'Е́ЗДЖВАЦЬ** *несов. разг.* разъéзживать; разбивáть; *см.* раз'éздзіць.

**РАЗ'Е́ЗДЗІЦЦА** *сов. разг.* разъéздиться.

**РАЗ'Е́ЗДЗІЦЬ** *сов. разг.* разъéздить; разбúть; р. дарóгу разъéздить (разбúть) дорóгу.

**РАЗЕІ́Н,** -ну *м. хим.* розеúн.

**РАЗ'Е́НЧЫЦЦА** *сов.* расстонáться.

**РАЗЕО́ЛА** *ж. мед.* розеóла.

**РАЗ'Е́СЦІ** *сов.* разъéсть; іржá раз'éла жалéза ржáвчина

разъе́ла желе́зо; **се́рная кісла́та раз’е́ла ткані́ну** се́рная кислота́ разъе́ла ткань.

**РАЗ’Е́СЦІСЯ** *сов. разг.* разъе́сться, раздобре́ть, растолсте́ть.

**РАЗЕ́ТА** *ж. архит.* розе́тта.

**РАЗЕ́ТКА** *ж. в разн. знач.* розе́тка.

**РАЗ’Е́ХАЦЦА** *сов.* **1.** (*поехать в разные стороны*) разъе́хаться; **праз два дні мы ~халіся** че́рез два дня мы разъе́хались; **2.** (*не встретиться*) размину́ться, разъе́хаться; **хаце́лі сустрэ́цца, але́ ~халіся** хоте́ли встре́титься, но разъе́хались (размину́лись); **3.** (*раздвинуться в разные стороны*) разъе́хаться, разойти́сь; **лы́жы ~халіся ў бакі́** лы́жи разъе́хались в сто́роны; **4.** (*развалиться*) разъе́хаться, расползти́сь; **крэ́сла ~халася** стул разъе́хался.

**РАЗЕ́Ц, -зца́** *м. в разн. знач.* резе́ц; **така́рны р.** тока́рный резе́ц; **р. ску́льптара** резе́ц ску́льптора; **скі́віца ма́е чаты́ры разцы́** че́люсть име́ет четы́ре резца́.

**РАЗЖА́БІЦЦА** *сов. обл. прост.* размоча́литься.

**РАЗЖАВА́ЦЦА** *сов.* разжева́ться; **мя́са ледзь ~ва́лася** мя́со с трудо́м разжева́лось.

**РАЗЖАВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* разжева́ть; **р. е́жу** разжева́ть пи́щу; **р. ду́мку** разжева́ть мысль.

**РАЗЖА́ЛАВАННЕ** *ср. уст.* разжа́лование.

**РАЗЖА́ЛАВАНЫ** *уст.* разжа́лованный.

**РАЗЖА́ЛАВАЦЬ** *сов. уст.* разжа́ловать.

**РАЗЖА́ЛІЦЦА** *сов.* **1.** разжа́лобиться, прони́кнуться жа́лостью; **2.** нача́ть се́товать (пла́кать).

**РАЗЖА́ЛІЦЬ** *сов.* разжа́лобить.

**РАЗЖА́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** проника́ться жа́лостью; **2.** начина́ть се́товать (пла́кать).

**РАЗЖА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* возбужда́ть жа́лость.

**РАЗЖАРТАВА́ЦЦА** *сов. разг.* расшути́ться.

**РАЗЖО́ЎВАННЕ** *ср.* разжёвывание; *см.* **разжо́ўваць.**

**РАЗЖО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разжёвываться; *см.* **разжава́цца, разжо́ўваць.**

**РАЗЖО́ЎВАЦЬ** *несов. прям., перен.* разжёвывать; *см.* **разжава́ць.**

**РАЗЖЫ́ВА** *ж. разг.* разжи́ва.

**РАЗЖЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*з чаго і без доп.*) богате́ть (*на чём и без доп.*), разжива́ться (*на чём и без доп.*); **2.** (*на што, чым*) разжива́ться (*чем*), раздобыва́ть (*что, чего*), достава́ть (*что*); 1, 2 *см.* **разжы́цца.**

**РАЗЖЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*з чаго і без доп.*) разбогате́ть (*на чём и без доп.*), разжи́ться (*на чём и без доп.*); **р. з вае́нных паста́вак** разбогате́ть (разжи́ться) на вое́нных поста́вках; **2.** (*на што, чым*) разжи́ться (*чем*), раздобы́ть (*что, чего*), доста́ть (*что*); **р. на гро́шы** разжи́ться деньга́ми, раздобы́ть (доста́ть) де́нег.

**РАЗЗБРАЕ́ННЕ** *ср.* разоруже́ние; *см.* **раззбро́іць, раззбро́іцца.**

**РАЗЗБРО́ЕНЫ** *прям., перен.* разоружённый; *см.* **раззбро́іць.**

**РАЗЗБРО́ІЦЦА** *сов. прям., перен.* разоружи́ться.

**РАЗЗБРО́ІЦЬ** *сов. прям., перен.* разоружи́ть; **р. полк** разоружи́ть полк; **р. ідэ́йна** разоружи́ть иде́йно.

**РАЗЗБРО́ЙВАННЕ** *ср.* разоруже́ние; *см.* **раззбро́йваць.**

**РАЗЗБРО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разоружа́ться; *см.* **раззбро́іцца, раззбро́йваць.**

**РАЗЗБРО́ЙВАЦЬ** *несов. прям., перен.* разоружа́ть; *см.* **раззбро́іць.**

**РАЗЗВАНІ́ЦЦА** *сов.* раззвони́ться.

**РАЗЗВАНІ́ЦЬ** *сов. разг.* (*рассказать повсюду*) раззвони́ть, растрезво́нить.

**РАЗЗВО́НЬВАЦЬ** *несов. разг.* (*рассказывать повсюду*) раззва́нивать.

**РАЗЗЛАВА́НЫ** разозлённый, рассе́рженный; обозлённый; *см.* **раззлава́ць.**

**РАЗЗЛАВА́ЦЦА** *сов.* разозли́ться, рассерди́ться; обозли́ться.

**РАЗЗЛАВА́ЦЬ** *сов.* разозли́ть, рассерди́ть; обозли́ть; **яго́ ўчы́нак ~ва́ў мяне́** его́ посту́пок разозли́л (рассерди́л, обозли́л) меня́.

**РАЗЗНАЁМІЦЦА** *сов. разг.* раззнако́миться.

**РАЗЗНАЁМЛІВАЦЦА** *несов. разг.* раззнако́мливаться.

**РАЗЗЮЗЮКАЦЦА** *сов. прост.* разболта́ться, раскаля́каться.

**РА́ЗІК** *м. уменьш. разг.* разо́к, ра́зик.

**РАЗЛАГА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* разлага́ться; *см.* **разлажы́цца** II, **разлага́ць.**

**РАЗЛАГА́ЦЬ** *несов.* (*дезорганизовать*) разлага́ть; *см.* **разлажы́ць** II.

**РАЗЛА́Д, -ду** *м.* **1.** разла́д; **р. у пра́цы** разла́д в рабо́те; **2.** раздо́р; **сяме́йны р.** семе́йный раздо́р; ✧ **я́блык ~ду** я́блоко раздо́ра.

**РАЗЛА́ДДЗЕ** *ср. разг.* разла́дица *ж.*; **душэ́ўнае р.** душе́вная разла́дица.

**РАЗЛА́ДЖАНЫ** **1.** разла́женный, испо́рченный; **2.** разла́женный, расстро́енный; **3.** расша́танный; 1—3 *см.* **разла́дзіць.**

**РАЗЛА́ДЖВАЦЦА** *несов.* **1.** разла́живаться, по́ртиться; **2.** разла́живаться, расстра́иваться; **3.** расша́тываться; 1—3 *см.* **разла́дзіцца;** **4.** *страд.* разла́живаться; по́ртиться; расстра́иваться; расша́тываться; *см.* **разла́джваць.**

**РАЗЛА́ДЖВАЦЬ** *несов.* **1.** разла́живать, по́ртить; **2.** разла́живать, расстра́ивать; **3.** расша́тывать; 1—3 *см.* **разла́дзіць.**

**РАЗЛА́ДЗІЦЦА** *сов.* **1.** разла́диться, испо́ртиться; **гадзі́ннік ~дзіўся** часы́ разла́дились (испо́ртились); **2.** разла́диться, расстро́иться; **заду́ма ~дзілася** за́мысел разла́дился (расстро́ился); **3.** расшата́ться; **не́рвы ~дзіліся** не́рвы расшата́лись.

**РАЗЛА́ДЗІЦЬ** *сов.* **1.** разла́дить, испо́ртить; **р. машы́ну** разла́дить (испо́ртить) маши́ну; **2.** разла́дить, расстро́ить; **р. спра́ву (вясе́лле)** разла́дить (расстро́ить) де́ло (сва́дьбу); **3.** расшата́ть; **р. здаро́ўе** расшата́ть здоро́вье.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЦА** I *сов. в разн. знач.* разложи́ться; **~жы́ўся па ўсёй ха́це** разложи́лся по всему́ до́му; **пахо́дны ло́жак лёгка ~жы́ўся** похо́дная крова́ть легко́ разложи́лась.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЦА** II *сов.* (*дезорганизоваться*) разложи́ться; **а́рмія во́рага ~жы́лася** а́рмия врага́ разложи́лась.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЬ** I *сов.* **1.** *в разн. знач.* разложи́ть; (*костёр — ещё*) развести́; **р. тава́р** разложи́ть това́р; **р. пахо́дны ло́жак** разложи́ть похо́дную крова́ть; **р. стра́ту памі́ж усі́мі ўдзе́льнікамі** разложи́ть убы́ток ме́жду всеми уча́стниками; **р. аго́нь** разложи́ть (развести́) ого́нь; **2.** *прост.* (*разбить, критикуя*) расчихво́стить.

**РАЗЛАЖЫ́ЦЬ** II *сов.* (*дезорганизовать*) разложи́ть; **р. а́рмію праці́ўніка** разложи́ть а́рмию проти́вника.

**РАЗЛАЖЭ́ННЕ** *ср.* разложе́ние; **р. капіталісты́чнага грама́дства** разложе́ние капиталисти́ческого о́бщества; **бытаво́е р.** бытово́е разложе́ние.

**РАЗЛА́ЗІЦЦА** I *несов. разг.* разлеза́ться; *см.* **разле́зціся.**

**РАЗЛА́ЗІЦЦА** II *сов. разг.* нача́ть сли́шком мно́го ла́зить (ла́зать).

**РАЗЛАЙДА́ЧЫЦЦА** *сов. разг.* разлени́ться, стать безде́льником.

**РАЗЛАМА́НЫ** *и* **РАЗЛО́МАНЫ** **1.** разло́манный; **2.** разло́мленный; 1, 2 *см.* **разлама́ць** 1, 2.

**РАЗЛАМА́ЦЦА** *сов.* **1.** (*сломаться*) разлома́ться; **ша́фа ~ма́лася** шкаф разлома́лся; **2.** (*разделиться на части*) разломи́ться; **хлеб ~ма́ўся** хлеб разломи́лся.

**РАЗЛАМА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*раздробить, разрушить*) разлома́ть; **р. скры́нку** разлома́ть я́щик; **р. дом** разлома́ть дом; **2.** (*ломая, разделить*) разломи́ть; **р. хлеб** разломи́ть хлеб; **3.** *безл.* (*довести до изнеможения ломотой*) разломи́ть; **мяне́ ўсяго́ ~ма́ла** меня́ всего́ разломи́ло.

**РАЗЛАПАТА́ЦЦА** *сов.* **1.** *разг.* нача́ть си́льно хло́пать (*крыльями*); **2.** *прост.* (*разговориться безумолку*) разболта́ться.

**РАЗЛА́ПІСТЫ** *разг.* разве́систый, разла́пистый.

**РАЗЛАПУШЫ́ЦЦА** *сов. разг.* бу́йно разрасти́сь.

**РАЗЛА́САВАНЫ** *разг.* разла́комленный.

**РАЗЛА́САВАЦЦА** *сов. разг.* разла́комиться.

**РАЗЛА́САВАЦЬ** *сов. разг.* разла́комить.

**РАЗЛЕ́ГЛАСЦЬ** *ж.* даль, просто́р *м.*, раздо́лье *ср.*

**РАЗЛЕ́ГЧЫСЯ** *сов. разг.* разле́чься, расположи́ться; **р. на траве́** разле́чься на траве́.

**РАЗЛЁЖВАЦЦА** *несов. разг.* разлёживаться.

**РАЗЛЁЗЛІК** *м. разг.* размазня́, слизня́к.

**РАЗЛЁЗЛЫ 1.** (*чрезмерно пропитанный влагой*) раски́сший; **2.** *перен.* вя́лый, лени́вый, раски́сший.

**РАЗЛЁЗЦІСЯ** *сов. разг.* разлёзться; **саро́чка ~злася** руба́шка разлёзлась.

**РАЗЛЕНАВА́ЦЦА** *сов.* разлени́ться, облени́ться, изleни́ться.

**РАЗЛЕ́ПЛЕНЫ** *разг.* разле́пленный.

**РАЗЛЕ́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* разлепля́ться.

**РАЗЛЕ́ПЛІВАЦЬ** *несов. разг.* разлепля́ть.

**РАЗЛЁТ, -ту** *м.* разлёт.

**РАЗЛЁТАЦЦА** *сов.* (*начать часто летать*) разлета́ться.

**РАЗЛІВА́ЛЬНЫ** разлива́тельный; **~ная лы́жка** разлива́тельная ло́жка.

**РАЗЛІВА́ННЕ** *ср.* разлива́ние, разли́в *м.*; *см.* **разліва́ць.**

**РАЗЛІВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* разлива́ться; пролива́ться; *см.* **разлі́цца, разліва́ць.**

**РАЗЛІВА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* разлива́ть; (*через край — ещё*) пролива́ть; *см.* **разлі́ць.**

**РАЗЛІ́ВАЧНЫ** разли́вочный; **~ная машы́на** разли́вочная маши́на.

**РАЗЛІ́К, -ку** *м. в разн. знач.* расчёт; **гаспада́рчы р.** хозя́йственный расчёт; **за наяу́ны р.** за нали́чный расчёт; **узя́ць р.** взять расчёт; **я сказа́ў гэ́та з пэ́ўным ~кам** я сказа́л э́то с определённым расчётом; **куля́мётны р.** пулемётный расчёт; **р. парavо́га катла́** расчёт паро́вого котла́; **па маі́х ~ках ён паві́нен ху́тка пры́ехаць** по мои́м расчётам он до́лжен ско́ро прие́хать.

**РАЗЛІКО́ВЫ** расчётный; **~вая кні́жка** расчётная кни́жка.

**РАЗЛІНЕ́ЕНЫ** разлино́ванный, разграфлённый.

**РАЗЛІНЕ́ІЦЬ** *сов.* разлинова́ть, разграфи́ть.

**РАЗЛІНЕ́ЙВАННЕ** *ср.* разлино́вка *ж.*, разграфле́ние.

**РАЗЛІНЕ́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* разлино́вываться, разграфля́ться.

**РАЗЛІНЕ́ЙВАЦЬ** *несов.* разлино́вывать, разграфля́ть.

**РАЗЛІПА́ЦЦА** *несов. разг.* разлипа́ться.

**РАЗЛІ́ПНУЦЦА** *сов. разг.* разли́пнуться.

**РАЗЛІТАВА́НЫ** *см.* **распая́ны.**

**РАЗЛІТАВА́ЦЦА** *сов. см.* **распая́цца.**

**РАЗЛІТАВА́ЦЬ** *сов. см.* **распая́ць.**

**РАЗЛІТО́ЎВАННЕ** *ср. см.* **распа́йванне.**

**РАЗЛІТО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **распа́йвацца.**

**РАЗЛІТО́ЎВАЦЬ** *несов. см.* **распа́йваць.**

**РАЗЛІ́ТЫ** разли́тый; про́литый; *см.* **разлі́ць.**

**РАЗЛІ́Ў, -ліву** *м. в разн. знач.* разли́в; **р. ракі́** разли́в реки́; **віно́ ўла́снага ~ліву** вино́ со́бственного разли́ва.

**РАЗЛІ́ЎКА** *ж.* разли́вка; **р. мета́лу** разли́вка мета́лла.

**РАЗЛІЎНЫ** *в разн. знач.* разливно́й; **р. апара́т** разливно́й аппара́т; **~но́е віно́** разливно́е вино́.

**РАЗЛІ́ЎШЧЫК** *м. спец.* разли́вщик.

**РАЗЛІ́ЎШЧЫЦА** *ж. спец.* разли́вщица.

**РАЗЛІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* разли́ться; (*через край — ещё*) проли́ться; **рака́ ~ліла́ся** река́ разлила́сь; **малако́ ~ліло́ся** молоко́ разлило́сь (пролило́сь); **цяпло́ ~ліло́ся па це́ле** теплота́ разлила́сь по те́лу; **святло́ ~ліло́ся па пако́і** свет разли́лся по ко́мнате.

**РАЗЛІЦЦЁ** *ср.* разли́тие; **р. жо́ўці** разли́тие же́лчи.

**РАЗЛІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* разли́ть; (*через край — ещё*) проли́ть; **р. малако́ на насто́льнік** разли́ть (проли́ть) молоко́ на ска́терть; **р. пі́ва ў буты́льki** разли́ть пи́во по буты́лкам; **со́нца ~ліло́ праме́нні** со́лнце разли́ло лучи́; ◇ **вадо́й не ~лье́ш** водо́й не разольёшь.

**РАЗЛІ́ЧАНЫ** рассчи́танный; вы́численный; *см.* **разлі́чыць.**

**РАЗЛІ́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* рассчи́тываться; *см.* **разлічы́цца; 2.** *страд.* рассчи́тываться; вычисля́ться; *см.* **разлі́чваць 1.**

**РАЗЛІ́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* рассчи́тывать; (*производить вычисление—ещё*) вычисля́ть; *см.* **разлічы́ць; 2.** (*возлагать надежды*) рассчи́тывать, полага́ться; **р. на дапамо́гу** рассчи́тывать на по́мощь; **~вай на мяне́** рассчи́тывай (полага́йся) на меня́.

**РАЗЛІЧЫ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* рассчита́ться, расче́сться; **р. з рабо́чымі за рабо́ту** рассчита́ться с рабо́чими за рабо́ту; **пачака́й, я яшчэ́ з табо́й ~чу́ся!** погоди́, я ещё с тобо́й рассчита́юсь!; **па пара́дку нумаро́ў ~чы́ся!** по поря́дку номеро́в рассчита́йсь!

**РАЗЛІ́ЧЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* рассчита́ть; (*произвести вычисление — ещё*) вы́числить; **р. кошт выда́ння** рассчита́ть сто́имость изда́ния; **р. паравы́ кацёл** рассчита́ть паро́вой котёл; **р. рабо́чага** рассчита́ть рабо́чего; **р. ро́ту** рассчита́ть ро́ту; **р. сі́лы** рассчита́ть си́лы.

**РАЗЛО́Г, -гу** *м.* даль *ж.*, просто́р, раздо́лье *ср.*

**РАЗЛО́ЖАНЫ** I разло́женный; разведённый; *см.* **разлажы́ць** I 1.

**РАЗЛО́ЖАНЫ** II разло́женный; *см.* **разлажы́ць** II.

**РАЗЛО́ЖЫСТЫ 1.** (*о дереве*) разве́систый; **2.** (*широкий кверху*) разло́гий.

**РАЗЛО́М, -му** *м. в разн. знач.* разло́м; **р. до́ма** разло́м до́ма; **на ме́сцы ~му** на ме́сте разло́ма.

**РАЗЛО́МАНЫ** *см.* **разлама́ны.**

**РАЗЛО́МКА** *ж.* разло́мка.

**РАЗЛО́МЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разла́мываться; *см.* **разлама́цца, разло́млiваць.**

**РАЗЛО́МЛІВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* разла́мывать; *см.* **разлама́ць.**

**РАЗЛУ́ЗАНЫ** разгры́зенный; *см.* **разлуза́ць.**

**РАЗЛУЗА́ЦЬ** *сов.* разгры́зть; **р. арэ́х** разгры́зть оре́х.

**РАЗЛУ́ЗВАЦЬ** *несов.* разгрыза́ть; *см.* **разлуза́ць.**

**РАЗЛУ́КА** *ж.* разлу́ка; **жыць у ~лу́цы** жить в разлу́ке; **дзень ~кі** день разлу́ки.

**РАЗЛУПІ́ЦЬ** *сов. разг.* **1.** (*одежду*) разорва́ть, разодра́ть; **2.** (*кожу*) расцара́пать.

**РАЗЛУ́ПЛЕНЫ** *разг.* **1.** разо́рванный, разо́дранный; **2.** расцара́панный; 1, 2 *см.* **разлупі́ць.**

**РАЗЛУ́ПЛІВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** (*одежду*) разрыва́ть, раздира́ть; **2.** (*кожу*) расцара́пывать.

**РАЗЛУЧА́ЛЬНІК** *м. тех.* разъедини́тель.

**РАЗЛУ́ЧАНАСЦЬ** *ж.* **1.** разлучённость; **2.** разъединённость; *см.* **разлу́чаны.**

**РАЗЛУ́ЧАНЫ 1.** разлучённый; **2.** разъединённый; 1, 2 *см.* **разлучы́ць.**

**РАЗЛУЧА́ЦЦА** *несов.* **1.** разлуча́ться; **2.** (*о контакте*) разъединя́ться; **3.** *страд.* разлуча́ться; разъединя́ться; *см.* **разлуча́ць.**

**РАЗЛУЧА́ЦЬ** *несов.* **1.** разлуча́ть; **2.** (*прерывать контакт*) разъединя́ть.

**РАЗЛУ́ЧНІК** *м. разг.* разлу́чник.

**РАЗЛУ́ЧНІЦА** *ж. разг.* разлу́чница.

**РАЗЛУЧЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** разлучи́ться; **2.** (*о контакте*) разъедини́ться.

**РАЗЛУЧЫ́ЦЬ** *сов.* 1. разлучи́ть; 2. (*прервать контакт*) разъедини́ть.

**РАЗЛУЧЭ́ННЕ** *ср.* 1. разлуче́ние; 2. разъедине́ние; 1, 2 *см.* **разлучы́ць.**

**РАЗЛУ́ШЧАНЫ** разгры́зенный.

**РАЗЛУ́ШЧВАЦЬ** *несов.* разгрыза́ть.

**РАЗЛУ́ШЧЫЦЬ** *сов.* разгры́зть.

**РАЗЛЫГА́НЫ** 1. разни́занный; 2. развя́занный.

**РАЗЛЫГА́ЦЦА** *сов.* 1. разниза́ться; 2. развяза́ться.

**РАЗЛЫГА́ЦЬ** *сов.* 1. разниза́ть; 2. развяза́ть.

**РАЗЛЫ́ГВАННЕ** *ср.* 1. разни́зывание; 2. развя́зывание, развя́зка *ж.*

**РАЗЛЫГВАЦЦА** *несов.* 1. разни́зываться; 2. развя́зываться; 3. *страд.* разни́зываться; развя́зываться; *см.* **разлы́гваць.**

**РАЗЛЫГВАЦЬ** *несов.* 1. разни́зывать; 2. развя́зывать.

**РАЗЛЮБІ́ЦЬ** *сов.* разлюби́ть.

**РАЗЛЮ́БЛЕНЫ** разлю́бленный.

**РАЗЛЮБЛЯ́ЦЬ** *несов.* разлюбля́ть.

**РАЗЛЮТАВА́НА** *нареч.* я́ро, я́ростно; ожесточённо.

**РАЗЛЮТАВА́НАСЦЬ** *ж.* я́рость, разъярённость; озлобле́ние *ср.*, ожесточённость, остервене́ние *ср.*

**РАЗЛЮТАВА́НЫ** разъярённый; озло́бленный, ожесточённый; остервене́лый.

**РАЗЛЮТАВА́ЦЦА** *сов.* разъяри́ться; озло́биться, рассерди́ться, ожесточи́ться; остервени́ться, остервене́ть.

**РАЗЛЮТАВА́ЦЬ** *сов.* разъяри́ть; озло́бить, рассерди́ть, ожесточи́ть; остервени́ть.

**РАЗЛЯГА́ЦЦА** *несов. разг.* 1. ложи́ться, располага́ться; *см.* **разле́гчыся;** 2. (*о звуке*) разноси́ться.

**РАЗЛЯЖА́ЦЦА** *сов. разг.* разлежа́ться.

**РАЗЛЯПІ́ЦЦА** *сов. разг.* разлепи́ться.

**РАЗЛЯПІ́ЦЬ** *сов. разг.* разлепи́ть.

**РАЗЛЯПЛЯ́ЦЦА** *несов. см.* **разле́пліваცца.**

**РАЗЛЯПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **разле́пліваць.**

**РАЗЛЯТА́ЙКА** *ж. разг.* разлета́йка.

**РАЗЛЯТА́ЦЦА** *несов. в разн. знач.* разлета́ться; *см.* **разляцécца.**

**РАЗЛЯЦЕ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* разлете́ться; **пту́шкі ~це́ліся** пти́цы разлете́лись; **лісты́ ~це́ліся** ли́стья разлете́лись; **тале́рка ~це́лася ўшчэнт** таре́лка разлете́лась вдре́безги; **надзе́і ~це́ліся** наде́жды разлете́лись; **ён ~це́ўся і сту́кнуўся аб слуп** он разлете́лся и сту́кнулся о столб.

**РАЗМАГНІ́ЦІЦЦА** *сов. прям., перен.* размагни́титься.

**РАЗМАГНІ́ЦІЦЬ** *сов. прям., перен.* размагни́тить.

**РАЗМАГНІ́ЧАНЫ** *прям., перен.* размагни́ченный.

**РАЗМАГНІ́ЧВАННЕ** *ср.* размагни́чивание; *см.* **размагні́чваць.**

**РАЗМАГНІ́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* размагни́чиваться; *см.* **размагні́ціцца, размагні́чваць.**

**РАЗМАГНІ́ЧВАЦЬ** *несов. прям., перен.* размагни́чивать.

**РАЗМАЖДЖЭ́РАНЫ** *разг.* раздроблённый; размозжённый.

**РАЗМАЖДЖЭ́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* раздробля́ться; размозжа́ться.

**РАЗМАЖДЖЭ́РВАЦЬ** *несов. разг.* раздробля́ть; размозжа́ть.

**РАЗМАЖДЖЭ́РЫЦЦА** *сов. разг.* раздроби́ться; размозжи́ться.

**РАЗМАЖДЖЭ́РЫЦЬ** *сов. разг.* раздроби́ть; размозжи́ть.

**РАЗМА́ЗАНЫ** разма́занный; размусо́ленный; *см.* **разма́заць.**

**РАЗМА́ЗАЦЦА** *сов.* разма́заться.

**РАЗМА́ЗАЦЬ** *сов. прям., перен.* разма́зать; (*изложить с ненужными подробностями — ещё*) размусо́лить; **р. гразь па ўсім тва́ры** разма́зать грязь по всему́ лицу́; **дзе мо́жна было́ сказа́ць ко́ратка, ён любі́ў р.** где мо́жно бы́ло сказа́ть кра́тко, он люби́л разма́зать (размусо́лить).

**РАЗМА́ЗВАЦЦА** *несов.* 1. разма́зываться; 2. *страд.* разма́зываться; размусо́ливаться; *см.* **разма́зваць.**

**РАЗМА́ЗВАЦЬ** *несов. прям., перен.* разма́зывать; (*излагать с ненужными подробностями — ещё*) размусо́ливать; *см.* **разма́заць.**

**РАЗМАЗНЯ́** *ж. прям., перен. разг.* размазня́; **нас частава́лі не́йкай ~не́й** нас угоща́ли како́й-то размазнёй; **не хло́пец, а р.** не па́рень, а размазня́.

**РАЗМАКА́ЦЬ** *несов.* размока́ть; *см.* **размо́кнуць.**

**РАЗМАЛАЦІ́ЦЦА** *сов. разг.* расколоти́ться, разби́ться.

**РАЗМАЛАЦІ́ЦЬ** *сов. разг.* расколоти́ть, разби́ть.

**РАЗМАЛЁВАНЫ** *см.* **размалява́ны.**

**РАЗМАЛЁЎВАННЕ** *ср.* 1. раскра́ска *ж.*, раскра́шивание; разрисо́вка *ж.*, разрисо́вывание; 2. ро́спись *ж.*, расписывание; 3. *разг. пренебр.* размалёвывание; 4. *перен.* распи́сывание; 1—4 *см.* **размалёўваць.**

**РАЗМАЛЁЎВАЦЦА** *несов.* 1. *разг. пренебр.* (*чересчур накрашивать лицо*) размалёвываться; 2. *страд.* раскра́шиваться; разрисо́вываться; распи́сываться; размалёвываться; *см.* **размалёўваць.**

**РАЗМАЛЁЎВАЦЬ** *несов.* 1. (*разноцветными красками*) раскра́шивать; (*карандашом*) разрисо́вывать; 2. (*стены, потолок*) распи́сывать; 3. *разг. пренебр.* размалёвывать; 4. *перен.* (*приукрашивать*) распи́сывать; 1—4 *см.* **размалява́ць.**

**РАЗМАЛЁЎКА** *ж.* 1. (*стенная живопись*) ро́спись; 2. раскра́ска; **карці́нкі для ~кі** карти́нки для раскра́ски.

**РАЗМАЛЁЎШЧЫК** *м. спец.* раскра́счик.

**РАЗМАЛО́ЦЦА** *сов.* 1. размоло́ться; **жы́та ~ло́лася** рожь размоло́лась; 2. (*износиться*) разрабо́таться; **уту́лка ~ло́лася** вту́лка разрабо́талась.

**РАЗМАЛО́ЦЬ** *сов.* размоло́ть.

**РАЗМАЛО́ЧАНЫ** *разг.* расколо́ченный, разби́тый.

**РАЗМАЛО́ЧВАЦЬ** *несов. разг.* расколо́чивать, разбива́ть.

**РАЗМАЛЯВА́НЫ** *и* **РАЗМАЛЁВАНЫ** 1. раскра́шенный; разрисо́ванный; 2. распи́санный; 3. *разг. пренебр.* размалёванный; 4. *перен.* распи́санный; 1—4 *см.* **размалява́ць.**

**РАЗМАЛЯВА́ЦЦА** *сов. разг.* 1. (*начать много работать красками*) расписа́ться; (*карандашом*) разрисова́ться; 2. *пренебр.* (*чересчур накрасить лицо*) размалева́ться.

**РАЗМАЛЯВА́ЦЬ** *сов.* 1. (*разноцветными красками*) раскра́сить; (*карандашом*) разрисова́ть; 2. (*стены, потолок*) расписа́ть; 3. *разг. пренебр.* размалева́ть; **р. гу́бы** размалева́ть гу́бы; 4. *перен.* (*приукрасить*) расписа́ть; **ён так ~ва́ў свае́ по́спехі!** он так расписа́л свои́ успе́хи!

**РАЗМАРЫ́Н, -ну** *м. бот.* розмари́н.

**РАЗМАРЫ́НАВЫ** розмари́новый.

**РАЗМАРЫ́ЦЦА** *сов. разг.* размори́ться; **~ры́ўся пад со́нцам** размори́лся под со́лнцем.

**РАЗМАРЫ́ЦЬ** *сов. разг.* размори́ть; **яго́ зусі́м ~ры́ла** *безл.* его́ совсе́м размори́ло.

**РАЗМАТА́НЫ** размо́танный; *см.* **размата́ць.**

**РАЗМАТА́ЦЦА** *сов.* размота́ться; **клубо́к ~та́ўся** клубо́к размота́лся.

**РАЗМАТА́ЦЬ** *сов.* размота́ть; **р. клубо́к** размота́ть клубо́к.

**РАЗМАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* разгова́ривать, говори́ть.

**РАЗМА́Х, -ху** *м. в разн. знач.* разма́х; **уда́рыць з ~ху** уда́рить с разма́ха; **рэвалюцы́йны р.** революцио́нный разма́х.

**РАЗМАХА́ЦЦА** *сов. разг.* размаха́ться.

**РАЗМА́ХВАЦЦА** *несов. прям., перен.* разма́хиваться.

**РАЗМА́ХВАЦЬ** *несов.* разма́хивать.

**РАЗМАХНУ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* размахну́ться.

**РАЗМАХНУ́ЦЬ** *сов.* размахну́ть.

**РАЗМАЦАВА́НЫ** *спец.* раскреплённый.

**РАЗМАЦАВА́ЦЦА** *сов. спец.* раскрепи́ться.
**РАЗМАЦАВА́ЦЬ** *сов. спец.* раскрепи́ть.
**РАЗМАЦО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. спец.* раскрепля́ться.
**РАЗМАЦО́ЎВАЦЬ** *несов. спец.* раскрепля́ть.
**РАЗМАЧА́ЛЕНЫ** размоча́ленный.
**РАЗМАЧА́ЛІЦЦА** *сов.* размоча́литься.
**РАЗМАЧА́ЛІЦЬ** *сов.* размоча́лить.
**РАЗМАЧА́ЛЬВАННЕ** *ср.* размоча́ливание.
**РАЗМАЧА́ЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* размоча́ливаться.
**РАЗМАЧА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* размоча́ливать.
**РАЗМАЧЫ́ЦЦА** *сов.* размочи́ться, размо́кнуть; **сухары́ до́бра ~чы́ліся** сухари́ хорошо́ размочи́лись (размо́кли).
**РАЗМАЧЫ́ЦЬ** *сов.* размочи́ть; **р. сухары́** размочи́ть сухари́; ✧ **р. лік** *спорт.* размочи́ть счёт.
**РАЗМА́ШЫСТА** *нареч.* разма́шисто.
**РАЗМА́ШЫСТАСЦЬ** *ж.* разма́шистость.
**РАЗМА́ШЫСТЫ** разма́шистый.
**РАЗМЕЖАВА́ЛЬНЫ** разграничи́тельный.
**РАЗМЕЖАВА́ННЕ** *ср.* **1.** размежева́ние; **2.** разграниче́ние; 1, 2 *см.* **размежава́ць.**
**РАЗМЕЖАВА́НЫ 1.** размежёванный; **2.** разграни́ченный; 1, 2 *см.* **размежава́ць.**
**РАЗМЕЖАВА́ЦЦА** *сов.* **1.** (*разделиться межой*) размежева́ться; **2.** (*обособиться*) разграни́читься; **3.** *перен.* размежева́ться, раздели́ться.
**РАЗМЕЖАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** размежева́ть; **р. зе́млі** размежева́ть зе́мли; **2.** разграни́чить; **р. паня́ццi** разграни́чить поня́тия.
**РАЗМЕ́Н, -ну** *м.* разме́н; **р. гро́шай** разме́н де́нег; **р. фігу́р** *шахм.* разме́н фигу́р.
**РАЗМЕ́НЕНЫ** разме́нянный; *см.* **размяні́ць.**
**РАЗМЕ́ННЫ** разме́нный; **~нная мане́та** разме́нная моне́та.
**РАЗМЕ́НЬВАЦЦА** I *несов. страд.* разме́ниваться; *см.* **разме́ньваць** I; ✧ **р. на дро́бязі** разме́ниваться на ме́лочи.
**РАЗМЕ́НЬВАЦЦА** II *несов. возвр., страд.* обме́ниваться; *см.* **размяня́цца, разме́ньваць** II.
**РАЗМЕ́НЬВАЦЬ** I *несов.* разме́нивать; *см.* **размяні́ць.**
**РАЗМЕ́НЬВАЦЬ** II *несов.* (*вещи*) обме́нивать.
**РАЗМЕ́Р, -ру** *м.* разме́р; **абу́так усі́х ~раў** о́бувь всех разме́ров.
**РАЗМЕ́РАНЫ** разме́ренный; *см.* **разме́раць.**
**РАЗМЕ́РАЦЬ** *сов.* разме́рить; **р. зямлю́** разме́рить зе́млю.
**РАЗМЕ́РВАЦЦА** *и* **РАЗМЯРА́ЦЦА** *несов. страд.* размеря́ться; *см.* **разме́рваць.**
**РАЗМЕ́РВАЦЬ** *и* **РАЗМЯРА́ЦЬ** *несов.* размеря́ть; *см.* **разме́раць.**
**РАЗМЕРКАВА́ЛЬНІК** *м. в разн. знач.* распредели́тель.
**РАЗМЕРКАВА́ЛЬНЫ** распредели́тельный; **~ная камі́сія** распредели́тельная коми́ссия; **р. шчыт** распредели́тельный щит.
**РАЗМЕРКАВА́ННЕ** *ср.* **1.** распределе́ние; развёрстка *ж.*; **2.** расположе́ние, размеще́ние; 1, 2 *см.* **размеркава́ць.**
**РАЗМЕРКАВА́НЫ 1.** распределённый; развёрстанный; **2.** располо́женный, размещённый; 1, 2 *см.* **размеркава́ць.**
**РАЗМЕРКАВА́ЦЦА** *сов.* **1.** распредели́ться; **ігракі́ ~ва́ліся па гру́пах** игроки́ распредели́лись по гру́ппам; **2.** расположи́ться, размести́ться; **кні́гі ўда́ла ~ва́ліся ў ша́фе** кни́ги уда́чно размести́лись в шкафу́.
**РАЗМЕРКАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** распредели́ть; разверста́ть; **р. гадзі́ны** распредели́ть часы́; **2.** расположи́ть, размести́ть; **р. кні́гі па палі́цах** расположи́ть (размести́ть) кни́ги по по́лкам.
**РАЗМЕ́СЦІ** *сов.* размести́; **р. даро́жку** размести́ доро́жку; **р. снег** размести́ снег.
**РАЗМЕ́ТАЦЦА** *несов. страд. см.* **размята́цца.**
**РАЗМЕ́ТАЦЬ** *несов. см.* **размята́ць.**
**РАЗМЕ́ТВАЦЦА** *несов. страд. см.* **размята́цца.**
**РАЗМЕ́ТВАЦЬ** *несов. см.* **размята́ць.**
**РАЗМЕ́ТКА** *ж.* разме́тка.
**РАЗМЕ́ТЧЫК** *м.* разме́тчик.
**РАЗМЕ́ТЧЫЦА** *ж.* разме́тчица.
**РАЗМЕ́ЦЕНЫ** разметённый; *см.* **разме́сці.**
**РАЗМЕ́ЦІЦЬ** *сов.* разме́тить.
**РАЗМЕ́ЧАНЫ** разме́ченный.
**РАЗМЕ́ШАНЫ** размя́тый, разме́шенный; *см.* **размясі́ць.**
**РАЗМЕ́ШВАННЕ** I *ср.* разме́шивание; *см.* **разме́шваць** I.
**РАЗМЕ́ШВАННЕ** II *ср.* размина́ние, разме́шивание; *см.* **размясі́ць.**
**РАЗМЕ́ШВАЦЦА** I *несов. возвр., страд.* разме́шиваться; *см.* **размяша́цца, разме́шваць** I.
**РАЗМЕ́ШВАЦЦА** II *несов. возвр., страд.* размина́ться, разме́шиваться; *см.* **размясі́цца, разме́шваць** II.
**РАЗМЕ́ШВАЦЬ** I *несов.* (*к* **размяша́ць**) разме́шивать.
**РАЗМЕ́ШВАЦЬ** II *несов.* (*глину и т. п.*) размина́ть, разме́шивать.
**РАЗМЕ́ШЧАНЫ 1.** размещённый, располо́женный; **2.** размещённый, распределённый; 1, 2 *см.* **размясці́ць;** ✧ **р. мнагачле́н** *мат.* размещённый многочле́н.
**РАЗМІНА́ННЕ** *ср.* рази́нка *ж.*; *см.* **размінаць.**
**РАЗМІНА́ЦЦА** I *несов.* **1.** (*не встречаться*) расходи́ться, разъезжа́ться; **2.** (*не зацеплять друг друга*) разъезжа́ться, расходи́ться.
**РАЗМІНА́ЦЦА** II *несов.* **1.** (*становиться мягким*) размина́ться; **2.** *перен.* размина́ться, промина́ться; **3.** *страд.* размина́ться; промина́ться; *см.* **размiна́ць.**
**РАЗМІНА́ЦЬ** *несов.* **1.** размина́ть; **2.** *перен.* размина́ть, промина́ть; 1, 2 *см.* **размя́ць.**
**РАЗМІНІ́РАВАНЫ** размини́рованный.
**РАЗМІНІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов.* размини́ровать.
**РАЗМІ́НКА** *ж.* рази́нка.
**РАЗМІНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*не встретиться*) разойти́сь, разъе́хаться, размину́ться; **2.** (*не зацепить друг друга*) разъе́хаться, разойти́сь, размину́ться.
**РАЗМНАЖА́ЛЬНЫ** *тех.* мно́жительный; **р. апара́т** мно́жительный аппара́т.
**РАЗМНАЖА́ЦЦА** *и* **РАЗМНО́ЖВАЦЦА** *несов.* **1.** (*увеличиваться в числе*) размножа́ться, мно́житься; **2.** (*плодиться*) размножа́ться, разводи́ться; **3.** *страд.* размножа́ться; разводи́ться; *см.* **размнажа́ць.**
**РАЗМНАЖА́ЦЬ** *и* **РАЗМНО́ЖВАЦЬ** *несов.* **1.** (*увеличивать в числе*) размножа́ть, мно́жить; **2.** (*плодить*) размножа́ть, разводи́ть.
**РАЗМНАЖЭ́ННЕ** *ср.* **1.** размноже́ние; **2.** размноже́ние, разведе́ние; 1, 2 *см.* **размнажа́ць;** **3.** *биол.* размноже́ние; **бяспо́лае р.** беспо́лое размноже́ние.
**РАЗМНО́ЖАНЫ 1.** размно́женный; **2.** размно́женный, разведённый; 1, 2 *см.* **размно́жыць.**
**РАЗМНО́ЖВАННЕ** *ср.* размноже́ние; *см.* **размнажа́ць** 1.
**РАЗМНО́ЖВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **размнажа́цца.**
**РАЗМНО́ЖВАЦЬ** *несов. см.* **размнажа́ць.**
**РАЗМНО́ЖЫЦЦА** *сов.* **1.** (*увеличиться в числе*) размно́житься; **2.** (*расплодиться*) размно́житься, развести́сь.
**РАЗМНО́ЖЫЦЬ** *сов.* **1.** (*увеличить в числе*) размно́жить; **2.** (*расплодить*) размно́жить, развести́.
**РАЗМО́ВА** *ж.* разгово́р *м.*
**РАЗМО́КЛЫ** размо́кший; *см.* **размо́кнуць.**
**РАЗМО́КНУЦЬ** *сов.* размо́кнуть; **папе́ра ~кла** бума́га размо́кла; **гаро́х ~к** горо́х размо́к.
**РАЗМО́Л, -лу** *м.* размо́л; **мука́ то́нкага ~лу** мука́ то́нкого размо́ла.

**РАЗМО́ЛАНЫ** *см.* **размо́латы.**
**РАЗМО́ЛАТЫ** размо́лотый.
**РАЗМО́ЛВАННЕ** *ср.* разма́лывание.
**РАЗМО́ЛВАЦЦА** *несов.* **1.** разма́лываться; **2.** (*изнашиваться*) разраба́тываться; 1, 2 *см.* **размало́цца; 3.** *страд.* разма́лываться.
**РАЗМО́ЛВАЦЬ** *несов.* разма́лывать.
**РАЗМО́РАНЫ** *разг.* разморённый; *см.* **размары́ць.**
**РАЗМО́РВАЦЦА** *несов. разг.* разма́риваться; *см.* **размары́цца.**
**РАЗМО́РВАЦЬ** *несов. разг.* разма́ривать; *см.* **размары́ць.**
**РАЗМО́ТВАННЕ** *ср.* разма́тывание, размо́тка *ж.*; *см.* **размо́тваць.**
**РАЗМО́ТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разма́тываться; *см.* **раз мата́цца, размо́тваць.**
**РАЗМО́ТВАЦЬ** *несов.* разма́тывать; *см.* **размата́ць.**
**РАЗМО́ТКА** *ж.* размо́тка; *см.* **размо́тваць.**
**РАЗМО́ЧАНЫ** размо́ченный; *см.* **размачы́ць.**
**РАЗМО́ЧВАННЕ** *ср.* разма́чивание; *см.* **размо́чваць.**
**РАЗМО́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** разма́чиваться, размока́ть; *см.* **размачы́цца; 2.** *страд.* разма́чиваться; *см.* **размо́чваць.**
**РАЗМО́ЧВАЦЬ** *несов.* разма́чивать; *см.* **размачы́ць.**
**РАЗМО́ЧКА** *ж.* размо́чка.
**РАЗМЫВА́ЛЬНІК** *м. тех.* размыва́тель.
**РАЗМЫВА́ННЕ** *ср.* размыва́ние, размы́в *м.*; проса́сывание; *см.* **размыва́ць.**
**РАЗМЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** размыва́ться; **2.** *страд.* размыва́ться; проса́сываться; *см.* **размыва́ць.**
**РАЗМЫВА́ЦЬ** *несов.* размыва́ть; проса́сывать; *см.* **размы́ць.**
**РАЗМЫ́ВІНА** *ж.* размо́ина.
**РАЗМЫКА́ЛЬНІК** *м. тех.* размыка́тель.
**РАЗМЫКА́ННЕ** *ср.* размыка́ние, размы́чка *ж.*; *см.* **размыка́ць.**
**РАЗМЫКА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* размыка́ться; *см.* **разамкну́цца, размыка́ць.**
**РАЗМЫКА́ЦЬ** *несов.* размыка́ть; *см.* **разамкну́ць.**
**РАЗМЫ́ТЫ** размы́тый; прососанный; *см.* **размы́ць.**
**РАЗМЫ́Ў, -мы́ву** *м.* размы́в.
**РАЗМЫ́ЦЦА** *сов.* размы́ться.
**РАЗМЫ́ЦЬ** *сов.* размы́ть; прососа́ть; **даро́гу ~мы́ла дажджо́м** доро́гу размы́ло дождём; **вада́ ~мы́ла плаці́ну** вода́ размы́ла (прососа́ла) плоти́ну.
**РАЗМЯЖО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** размежёвывание; **2.** разграниче́ние; *см.* **размяжо́ўваць.**
**РАЗМЯЖО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** (*разделяться межой*) размежёвываться; **2.** (*обособляться*) разграни́чиваться; **3.** *перен.* размежёвываться, разделя́ться; **4.** *страд.* размежёвываться; разграни́чиваться; *см.* **размяжо́ўваць.**
**РАЗМЯЖО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** размежёвывать; **2.** разграни́чивать; 1, 2 *см.* **размежава́ць.**
**РАЗМЯКА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* размяка́ть; *см.* **размя́кнуць.**
**РАЗМЯ́КЛАСЦЬ** *ж. разг.* рассла́бленность.
**РАЗМЯ́КЛЫ 1.** размя́кший; **~лая глі́на** размя́кшая гли́на; **2.** *перен. разг.* рассла́бленный.
**РАЗМЯ́КНУЦЬ** *сов. прям., перен.* размя́кнуть; **сухары́ ~клі** сухари́ размя́кли; **ён ад аднаго́ сло́ва ~к** он от одного́ сло́ва размя́к.
**РАЗМЯКЧА́ЛЬНЫ** размягчи́тельный; **р. пла́стыр** размягчи́тельный пла́стырь.
**РАЗМЯКЧАНЫ** *прям., перен.* размягчённый; *см.* **размякчы́ць.**
**РАЗМЯКЧА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* размягча́ться; *см.* **размякчы́цца, размякча́ць.**
**РАЗМЯКЧА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* размягча́ть; *см.* **размякчы́ць.**
**РАЗМЯКЧЫ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* размягчи́ться; **ску́ра ~чы́лася** ко́жа размягчи́лась; **сэ́рца ~чы́лася** се́рдце размягчи́лось.
**РАЗМЯКЧЫ́ЦЬ** *сов прям., перен.* размягчи́ть; **р. воск награва́ннем** размягчи́ть воск нагрева́нием; **р. сэ́рца ла́скай** размягчи́ть се́рдце ла́ской.
**РАЗМЯКЧЭ́ННЕ** *ср.* размягче́ние; *см.* **размякча́ць.**
**РАЗМЯНІ́ЦЬ** *сов.* разменя́ть; **р. гро́шы** разменя́ть де́ньги.
**РАЗМЯНЯ́НЫ** обменённый; *см* **размяня́ць.**
**РАЗМЯНЯ́ЦЦА** *сов.* (*вещами*) обменя́ться.
**РАЗМЯНЯ́ЦЬ** *сов.* (*вещи*) обменя́ть.
**РАЗМЯРА́ЦЦА** *несов. страд. см* **разме́рвацца.**
**РАЗМЯРА́ЦЬ** *несов. см.* **разме́рваць.**
**РАЗМЯРКО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** распределя́ться; **2.** располага́ться, размеща́ться; 1, 2 *см.* **размеркава́цца; 3.** *страд.* распределя́ться; развёрстываться; располага́ться, размеща́ться; *см.* **размярко́ўваць.**
**РАЗМЯРКО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** распределя́ть; развёрстывать; **2.** располага́ть, размеща́ть; 1, 2 *см.* **размеркава́ць.**
**РАЗМЯСІ́ЦЦА** *сов.* размя́ться, размеси́ться.
**РАЗМЯСІ́ЦЬ** *сов.* (*глину и т. п.*) размя́ть, размеси́ть.
**РАЗМЯСЦІ́ЦЦА** *сов.* размести́ться, расположи́ться.
**РАЗМЯСЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** размести́ть, расположи́ть; **р. тава́ры па палі́цах** размести́ть (расположи́ть) това́ры по по́лкам; **2.** размести́ть, распредели́ть; **р. заём** размести́ть (распредели́ть) заём.
**РАЗМЯТА́ЦЦА** *несов. страд.* размета́ться; *см.* **размята́ць.**
**РАЗМЯТА́ЦЬ** *несов.* размета́ть; *см.* **разме́сці.**
**РАЗМЯ́ЎКАЦЦА** *сов. разг.* размя́укаться.
**РАЗМЯ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*стать мягким*) размя́ться; **2.** *перен.* размя́ться, промя́ться.
**РАЗМЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** размя́ть; **р. кіт** размя́ть зама́зку, **2.** *перен.* размя́ть, промя́ть; **р. но́гі** размя́ть (промя́ть) но́ги.
**РАЗМЯЧА́ЦЦА** *несов. страд.* размеча́ться.
**РАЗМЯЧА́ЦЬ** *несов.* размеча́ть.
**РАЗМЯША́НЫ** разме́шанный.
**РАЗМЯША́ЦЦА** *сов.* размеша́ться.
**РАЗМЯША́ЦЬ** *сов.* размеша́ть.
**РАЗМЯШЧА́ЦЦА** *несов.* **1.** размеща́ться, располага́ться; **2.** *страд.* размеща́ться; располага́ться, распределя́ться; *см.* **размяшча́ць.**
**РАЗМЯШЧА́ЦЬ** *несов.* **1.** размеща́ть, располага́ть; **2.** размеща́ть, распределя́ть; 1, 2 *см.* **размясці́ць.**
**РАЗМЯШЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** размеще́ние, расположе́ние; **2.** размеще́ние, распределе́ние, 1, 2 *см.* **размяшча́ць.**
**РАЗНАБО́Й, -бо́ю** *м.* разнобо́й.
**РАЗНАВІ́ДНАСЦЬ** *ж.* разнови́дность.
**РАЗНАВІ́ДНЫ** разнови́дный.
**РАЗНАВО́КІ** разногла́зый.
**РАЗНАДО́МНЫЯ** *сущ. мн. бот.* разнодо́мные.
**РАЗНАДУ́МНАСЦЬ** *ж.* разномы́слие *ср.*
**РАЗНАДУ́МНЫ** разномы́слящий.
**РАЗНАЗНА́ЧНЫ** разнозна́чный, разнозна́чащий.
**РАЗНАЙТО́ВІЦЬ** *сов. мор.* разнайто́вить.
**РАЗНАЙТО́ЎЛЕНЫ** *мор.* разнайто́вленный.
**РАЗНАЙТО́ЎЛІВАЦЬ** *несов. мор.* разнайто́вливать.
**РАЗНАКО́ЛЕРНЫ** *см.* **рознакаляро́вы.**
**РАЗНАЛІ́СТЫ** *бот.* разноли́стный.
**РАЗНАМА́СНЫ** разнома́стный; **~ныя ко́ні** разнома́стные ло́шади.
**РАЗНАМО́ЎЕ** *ср.* разноязы́чие.
**РАЗНАМО́ЎНЫ** разноязы́чный.
**РАЗНАМЫ́СНАСЦЬ** *ж.* разномы́слие *ср.*
**РАЗНАМЫ́СНЫ** разномы́слящий.
**РАЗНАПО́ЛЫ** разнопо́лый.

**РАЗНАРА́ДКА** *ж.* разнаря́дка.
**РАЗНАРО́ДНАСЦЬ** *ж.* разноро́дность.
**РАЗНАРО́ДНЫ** разноро́дный.
**РАЗНАСІ́ЦЦА** *сов.* (*об обуви*) разноси́ться, растопта́ться.
**РАЗНАСІ́ЦЬ** *сов.* (*обувь*) разноси́ть, растопта́ть.
**РАЗНАСПО́РАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* разноспо́ровые.
**РАЗНАСТА́ЙНА** *нареч.* **1.** разнообра́зно; многообра́зно; всевозмо́жно; разли́чно; разноро́дно; **2.** разносторо́нне; 1, 2 *см.* **разнаста́йны.**
**РАЗНАСТА́ЙНАСЦЬ** *ж.* **1.** разнообра́зие *ср.*, разнообра́зность; многообра́зие *ср.*; разноро́дность; **2.** разносторо́нность; 1, 2 *см.* **разнаста́йны.**
**РАЗНАСТА́ЙНЫ 1.** разнообра́зный; многообра́зный; всевозмо́жный, разли́чный; разноро́дный; **2.** (*охватывающий разные стороны, с разнообразными интересами*) разносторо́нний.
**РАЗНАСТО́ПНЫ** *лит.* разносто́пный.
**РАЗНАТО́ННАСЦЬ** *ж. спец.* разното́нность.
**РАЗНАТО́ННЫ** *спец.* разното́нный.
**РАЗНАТРА́ЎЕ** *ср. с.-х.* разнотра́вье.
**РАЗНАЧЫ́НЕЦ, -нца** *м. ист.* разночи́нец.
**РАЗНАЧЫ́ННЫ** *ист.* разночи́нный.
**РАЗНАШЭ́РСНАСЦЬ** *ж. прям., перен.* разношёрстность.
**РАЗНАШЭ́РСНЫ** *прям., перен.* разношёрстный.
**РАЗНЕРВАВА́НЫ** разне́рвничавшийся, расстро́ившийся.
**РАЗНЕРВАВА́ЦЦА** *сов.* разне́рвничаться, расстро́иться.
**РАЗНЕ́СЕНЫ 1.** *в разн. знач.* разнесённый; **2.** разнесённый; разглашённый; распространённый; **3.** *перен.* разнесённый, разду́тый, взду́тый; 1—3 *см.* **разне́сці.**
**РАЗНЕ́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* разнести́; **р. газе́ты па кватэ́рах** разнести́ газе́ты по кварти́рам; **р. раху́нкі па кні́гах** разнести́ счета́ по кни́гам; **ве́цер ~нёс пыл** ве́тер разнёс пыль; **р. каго-не́будзь у газе́це** разнести́ кого́-л. в газе́те; **2.** (*слух и т. п.*) разнести́; разгласи́ть; распространи́ть; **3.** *безл. перен.* разнести́, разду́ть, вздуть; **~сла шчаку́** разнесло́ (разду́ло, взду́ло) щёку.
**РАЗНЕ́СЦІСЯ** *сов.* разнести́сь; **чу́тка ~слася** слух разнёсся.
**РАЗНІ́ЗАНЫ** разни́занный.
**РАЗНІЗА́ЦЦА** *сов.* разниза́ться.
**РАЗНІЗА́ЦЬ** *сов.* разниза́ть.
**РАЗНІ́ЗВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разни́зываться.
**РАЗНІ́ЗВАЦЬ** *несов.* разни́зывать.
**РАЗНІ́К, -ка́** *м.* рези́к.
**РАЗНІМА́ННЕ** *ср.* **1.** разнима́ние; разжима́ние; **2.** разнима́ние, разведе́ние; 1, 2 *см.* **разні́ма́ць.**
**РАЗНІМА́ЦЦА** *несов.* **1.** разнима́ться; (*о челюстях*) разжима́ться; *см.* **разня́цца; 2.** *страд.* разнима́ться; разжима́ться; разводи́ться; *см.* **разнíма́ць.**
**РАЗНІМА́ЦЬ** *несов.* **1.** разнима́ть; (*челюсти*) разжима́ть; *см.* **разня́ць** 1; **2.** (*дерущихся*) разнима́ть, разводи́ть.
**РАЗНІТАВА́НЫ** *спец.* разболто́ванный.
**РАЗНІТАВА́ЦЬ** *сов. спец.* разболтова́ть.
**РАЗНІТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд. спец.* разболто́вываться.
**РАЗНІТО́ЎВАЦЬ** *несов. спец.* разболто́вывать.
**РАЗНІ́ЦА** *ж. разг.* скотобо́йня, бо́йня.
**РАЗНО́С, -су** *м. в разн. знач.* разно́с; **р. пакéтаў** разно́с паке́тов; **зрабі́ць каму-не́будзь р.** сде́лать кому́-л. разно́с.
**РАЗНО́СІЦЦА** *несов.* **1.** разноси́ться; *см.* **разне́сціся; 2.** *страд.* разноси́ться; разглаша́ться; распространя́ться; *см.* **разно́сіць** 1, 2.
**РАЗНО́СІЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* разноси́ть; **2.** (*слух и т. п.*) разноси́ть; разглаша́ть; распространя́ть; **3.** *безл. перен.* разноси́ть, раздува́ть, вздува́ть; 1—3 *см.* **разне́сці.**
**РАЗНО́СНЫ** *в разн. знач.* разно́сный; **~ная кні́га** разно́сная кни́га; **р. тава́р** разно́сный това́р; **~ная рэцэ́нзія** разно́сная реце́нзия.
**РАЗНО́СЧЫК** *м.* разно́счик.
**РАЗНО́СЧЫЦА** *ж.* разно́счица.
**РАЗНО́ШАНЫ** разно́шенный, расто́птанный; *см.* **разнасі́ць.**
**РАЗНО́ШВАННЕ** *ср.* разна́шивание, раста́птывание; *см.* **разно́шваць.**
**РАЗНО́ШВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разна́шиваться, раста́птываться; *см.* **разнасі́цца, разно́шваць.**
**РАЗНО́ШВАЦЬ** *несов.* (*обувь и т. п.*) разна́шивать, раста́птывать.
**РАЗНЫ́** резно́й.
**РАЗНЮ́ХАНЫ** *прям., перен. разг.* разню́ханный; *см.* **разню́хаць.**
**РАЗНЮ́ХАЦЬ** *сов. прям., перен. разг.* разню́хать; **кот ~хаў, дзе схава́на са́ла** кот разню́хал, где спря́тано са́ло; **р. сакрэ́т** разню́хать секре́т.
**РАЗНЮ́ХВАЦЦА** *несов. страд. разг.* разню́хиваться; *см.* **разню́хваць.**
**РАЗНЮ́ХВАЦЬ** *несов. прям., перен. разг.* разню́хивать, *см.* **разню́хаць.**
**РАЗНЯ́** *ж. прям., перен.* резня́.
**РАЗНЯВО́ЛЕНЫ** *прям., перен.* раскрепощённый.
**РАЗНЯВО́ЛІЦЦА** *сов. прям., перен.* раскрепости́ться.
**РАЗНЯВО́ЛІЦЬ** *сов. прям., перен.* раскрепости́ть.
**РАЗНЯВО́ЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раскрепоща́ться; *см.* **разняво́ліцца, разняво́льваць.**
**РАЗНЯВО́ЛЬВАЦЬ** *несов. прям., перен.* раскрепоща́ть.
**РАЗНЯ́ТЫ 1.** разня́тый; разжа́тый; **2.** разня́тый, разведённый; 1, 2 *см.* **разня́ць.**
**РАЗНЯ́ЦЦА** *сов.* разня́ться; (*о челюстях*) разжа́ться; **ру́кі ~няліся** ру́ки разня́лись.
**РАЗНЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** разня́ть; (*челюсти*) разжа́ть; **р. ру́кі** разня́ть ру́ки; **2.** (*дерущихся*) разня́ть, развести́.
**РАЗО́К, -зка́** *м. уменьш.* разо́к; **адзі́н р.** оди́н разо́к.
**РАЗО́РА** *ж.* борозда́.
**РАЗО́РКА** *ж. уменьш.-ласк.* боро́здка.
**РАЗО́РЫНА** *ж. разг.* борозда́.
**РАЗРАБАВА́ЦЬ** *сов.* разгра́бить.
**РАЗРАБІ́ЦЦА** *сов.* (*износиться в работе*) разрабо́таться; **уту́лка ~бі́лася** вту́лка разрабо́талась.
**РАЗРАБІ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*грядку и т. п.*) разде́лать, разрабо́тать; **2.** (*расширить*) разде́лать; **р. дзі́рку** разде́лать дыру́.
**РАЗРАБЛЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** (*изнашиваться в работе*) разраба́тываться; *см.* **разрабі́цца; 2.** *страд.* разде́лываться; разраба́тываться; *см.* **разрабля́ць.**
**РАЗРАБЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** (*грядку и т. п.*) разде́лывать, разраба́тывать; **2.** (*расширять*) разде́лывать; 1, 2 *см.* **разрабі́ць.**
**РАЗРАГАТА́ЦЦА** *сов. разг.* расхохота́ться, разрази́ться сме́хом, гро́мко засмея́ться.
**РАЗРА́Д** I, **-ду** *м.* (*категория*) разря́д.
**РАЗРА́Д** II, **-ду** *м.* разря́д; **электры́чны р.** электри́ческий разря́д.
**РАЗРА́ДЖАНЫ** *прям., перен.* разряжённый; *см.* **разрадзі́ць.**
**РАЗРАДЖА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* разряжа́ться; *см.* **разрадзі́цца** I, **разраджа́ць.**
**РАЗРАДЖА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* разряжа́ть; *см.* **разрадзі́ць.**
**РАЗРАДЖЭ́ННЕ** *ср.* разряже́ние; *см.* **разраджа́ць.**
**РАЗРАДЗІ́ЦЦА** I *сов. прям., перен.* разряди́ться; **батарэ́я ~дзі́лася** батаре́я разряди́лась; **абста́віны ~дзі́ліся** обстано́вка разряди́лась.
**РАЗРАДЗІ́ЦЦА** II *сов. разг.* (*родить*) разроди́ться.
**РАЗРАДЗІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* разряди́ть; **р. вінто́ўку** разряди́ть винто́вку; **р. атмасфе́ру** разряди́ть атмосфе́ру.

**РАСКО́ЛВАННЕ** *ср.* раска́лывание, раско́лка *ж.*; *см.* **раско́лваць.**

**РАСКО́ЛВАЦЦА** *несов.* **1.** раска́лываться; (*давать трещины — ещё*) рассeда́ться; **2.** *перен.* (*распадаться*) раска́лываться; 1, 2 *см.* **раскало́цца; 3.** *страд.* раска́лываться; *см.* **раско́лваць.**

**РАСКО́ЛВАЦЬ** *несов. прям., перен.* раска́лывать; *см.* **раскало́ць.**

**РАСКО́ЛІНА** *ж.* тре́щина; рассе́лина; расще́лина.

**РАСКО́ЛЬНІК** *м. прям., перен.* раско́льник.

**РАСКО́ЛЬНІЦА** *ж. прям., перен.* раско́льница.

**РАСКО́ЛЬНІЦКІ** раско́льнический, раско́льничий.

**РАСКО́ЛЬНІЦТВА** *ср.* раско́льничество.

**РАСКО́ПАНЫ** *см.* **раскапа́ны.**

**РАСКО́ПВАЦЦА** *несов. страд.* разрыва́ться; раска́пываться; *см.* **раско́пваць.**

**РАСКО́ПВАЦЬ** *несов.* **1.** разрыва́ть, раска́пывать; **2.** (*находить в земле*) раска́пывать; **3.** *перен.* доискиваться, раска́пывать; 1—3 *см.* **раскапа́ць.**

**РАСКО́ПКА** *ж.* **1.** (*действие*) раско́пка; **р. на́сыпу** раско́пка на́сыпи; **2.** *только мн.* раско́пки; **~кі старажы́тнага Мінска** раско́пки дре́внего Ми́нска.

**РАСКО́РМЛЕНЫ** раско́рмленный.

**РАСКО́РМЛІВАЦЬ** *несов.* раска́рмливать.

**РАСКО́РПАНЫ** *см.* **раскарпа́ны.**

**РАСКО́РПАЦЬ** *сов. см.* **раскарпа́ць.**

**РАСКО́РПВАННЕ** *ср. разг.* расковы́ривание, раска́пывание.

**РАСКО́РПВАЦЦА** *несов. страд. разг.* расковы́риваться, раска́пываться.

**РАСКО́РПВАЦЬ** *несов. разг.* расковы́ривать, раска́пывать.

**РАСКО́С, -су** *м. спец.* раско́с.

**РАСКО́САСЦЬ** *ж.* раско́сость; *см.* **раско́сы.**

**РАСКО́СЫ** раско́сый; **~сыя во́чы** раско́сые глаза́.

**РАСКО́ЎВАННЕ** *ср.* раско́вывание, раско́вка *ж.*

**РАСКО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раско́вываться.

**РАСКО́ЎВАЦЬ** *несов.* раско́вывать.

**РАСКО́ЎЗАНЫ 1.** ско́льзкий; **2.** *разг.* разма́занный, растёртый; 1, 2 *см.* **раско́ўзаць.**

**РАСКО́ЎЗАЦЦА** *сов.* **1.** (*о дороге и т. п.*) сде́латься ско́льзким; **2.** (*увлечься катанием*) раската́ться; **3.** *разг.* разма́заться, растере́ться.

**РАСКО́ЎЗАЦЬ** *сов.* **1.** (*дорогу и т. п.*) сде́лать ско́льзким; **2.** *разг.* разма́зать, растере́ть.

**РАСКО́ЎЗВАЦЦА** *несов.* **1.** (*о дороге и т. п.*) де́латься ско́льзким; **2.** *разг.* разма́зываться, растира́ться.

**РАСКО́ЎЗВАЦЬ** *несов.* **1.** (*дорогу и т. п.*) де́лать ско́льзким; **2.** *разг.* разма́зывать, растира́ть.

**РАСКО́ЎКА** *ж.* раско́вка.

**РАСКО́ЧАНЫ 1.** *в разн. знач.* раска́ченный; **2.** раска́танный; 1, 2 *см.* **раскаціць.**

**РАСКО́ЧВАННЕ** *ср.* раска́т *м.*, раска́тка *ж.*, раска́тывание; *см.* **раско́чваць.**

**РАСКО́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раска́тываться; *см.* **раскаці́цца, раско́чваць.**

**РАСКО́ЧВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* раска́тывать; *см.* **раскаціць.**

**РАСКО́ША** *ж.* **1.** ро́скошь; **жыць у ~шы** жить в ро́скоши; **2.** раздо́лье *ср.*, приво́лье *ср.*, просто́р *м.*; **3.** ро́скошь, изли́шество *ср.*

**РАСКО́ШНА** *нареч.* **1.** роско́шно; **2.** просто́рно, свобо́дно; 1, 2 *см.* **раско́шны.**

**РАСКО́ШНЫ 1.** *в разн. знач.* роско́шный; **~нае жыццё** роско́шная жизнь; **~ная прыро́да по́ўдня** роско́шная приро́да ю́га; **2.** (*не тесный*) просто́рный, свобо́дный; **р. пакой** просто́рная (свобо́дная) ко́мната.

**РАСКРАДА́ЛЬНІК** *м.* расхити́тель.

**РАСКРАДА́ЛЬНІЦА** *ж.* расхити́тельница.

**РАСКРАДА́ННЕ** *и* **РАСКРА́ДВАННЕ** *ср.* раскра́дывание, разворо́вывание, хище́ние, расхище́ние.

**РАСКРАДА́ЦЦА** *и* **РАСКРА́ДВАЦЦА** *несов. страд.* раскра́дываться, разворо́вываться, расхища́ться.

**РАСКРАДА́ЦЬ** *и* **РАСКРА́ДВАЦЬ** *несов.* раскра́дывать, разворо́вывать, расхища́ть.

**РАСКРА́ДВАННЕ** *ср. см.* **раскрада́нне.**

**РАСКРА́ДВАЦЦА** *несов. страд. см.* **раскрада́цца.**

**РАСКРА́ДВАЦЬ** *несов. см.* **раскрада́ць.**

**РАСКРА́ДЗЕНЫ** раскра́денный, разворо́ванный, расхи́щенный.

**РАСКРА́СЦІ** *сов.* раскра́сть, разворова́ть, расхи́тить.

**РАСКРО́ЕНЫ 1.** раскро́енный; **2.** разре́занный; **3.** *разг.* рассечённый, раскро́енный; 1—3 *см.* **раскро́іць.**

**РАСКРО́ІЦЬ** *сов.* **1.** раскрои́ть; **р. тка́ніну на пла́цце** раскрои́ть ткань на пла́тье; **2.** (*хлеб*) разре́зать; **3.** *разг.* рассе́чь, раскрои́ть.

**РАСКРО́Й, -ро́ю** *м.* раскро́й, раскро́йка *ж.*

**РАСКРО́ЙВАЦЦА** *несов. страд.* раскра́иваться; разреза́ться; рассека́ться; *см.* **раскро́йваць.**

**РАСКРО́ЙВАЦЬ** *несов.* **1.** раскра́ивать; *см.* **раскро́іць** 1; **2.** (*хлеб*) разреза́ть; **3.** *разг.* рассека́ть, раскра́ивать.

**РАСКРУЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** раскрути́ться; (*развиться — ещё*) рассучи́ться; **дрот ~ці́ўся** про́волока раскрути́лась; **2.** (*о чём-л. свёрнутом*) разверну́ться; **тру́бка папе́ры ~ці́лася** тру́бка бума́ги разверну́лась; **3.** разверну́ться, распакова́ться; **клу́нак ~ці́ўся** свёрток разверну́лся (распакова́лся); **4.** (*развить скорость*) раскрути́ться, разверте́ться; **ко́ла так ~ці́лася, што спыні́ць не́льга** колесо́ так раскрути́лось (разверте́лось), что останови́ть нельзя́; **5.** (*об отверстии*) увели́читься в разме́ре, разверте́ться; **6.** (*отвинтиться*) развинти́ться.

**РАСКРУЦІ́ЦЬ** *сов.* **1.** раскрути́ть; (*развить — ещё*) рассучи́ть; **р. вяро́ўку** раскрути́ть (рассучи́ть) верёвку; **р. дрот** раскрути́ть про́волоку; **2.** (*что-л. свёрнутое*) разверну́ть; **р. сцяг** разверну́ть зна́мя; **р. дыва́н** разверну́ть ковёр; **3.** разверну́ть, распакова́ть; **4.** раскрути́ть, разверте́ть; **р. ко́ла** раскрути́ть (разверте́ть) колесо́; **5.** (*расширить отверстие*) разверте́ть; **р. дзі́рку** разверте́ть ды́рку; **6.** развинти́ть.

**РАСКРУ́ЧАНЫ 1.** раскру́ченный; рассу́ченный; **2.** развёрнутый; **3.** развёрнутый, распако́ванный; **4.** раскру́ченный, развёрченный; **5.** развёрченный; **6.** разви́нченный; 1—6 *см.* **раскруці́ць.**

**РАСКРУ́ЧВАННЕ** *ср.* **1.** раскру́чивание; рассу́чивание; **2.** развёртывание, развёртка *ж.*; **3.** развёртывание, развёртка *ж.*, распако́вывание, распако́вка *ж.*; **4.** раскру́чивание, развёрчивание; **5.** развёрчивание; **6.** разви́нчивание; 1—6 *см.* **раскру́чваць.**

**РАСКРУ́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** раскру́чиваться; (*развиваться — ещё*) рассу́чиваться; **2.** (*о чём-л. свёрнутом*) развёртываться; **3.** развёртываться, распако́вываться; **4.** (*развивать скорость*) раскру́чиваться, развёрчиваться; **5.** (*об отверстии*) увели́чиваться в разме́ре, развёрчиваться; **6.** (*отвинчиваться*) разви́нчиваться; 1—6 *см.* **раскруці́цца; 7.** *страд.* раскру́чиваться; рассу́чиваться; развёртываться; распако́вываться; развёрчиваться; разви́нчиваться; *см.* **раскру́чваць.**

**РАСКРУ́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** раскру́чивать; (*развивать — ещё*) рассу́чивать; **2.** (*что-л. свёрнутое*) развёртывать; **3.** развёртывать, распако́вывать; **4.** раскру́чивать, развёрчивать; **5.** (*расширять отверстие*) развёрчивать; **6.** разви́нчивать; 1—6 *см.* **раскруціць.**

**РАСКРЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** раскрыва́ться, открыва́ться; обнажа́ться; **2.** раскрыва́ться, развёртываться; **3.** раскрыва́ться, обнару́живаться, разоблача́ться; *см.* **раскры́цца** 3; **4.** *страд.* раскрыва́ться; открыва́ться; обнажа́ться, развёртываться; обнару́живаться, разоблача́ться; *см.* **раскрыва́ць.**

**РАСКРЫВА́ЦЬ** *несов.* **1.** раскрыва́ть, открыва́ть; обнажа́ть; **2.** раскрыва́ть, развёртывать; **3.** раскрыва́ть, обнару́живать, разоблача́ть; *см.* **раскры́ць** 3.

**РАСКРЫЖАВА́ННЕ** *ср.* **1.** (*действие*) распя́тие; **2.** перекрёсток *м.*

**РАСКРЫЖАВА́НЫ** распя́тый.

**РАСКРЫЖАВА́ЦЬ** *сов.* распя́ть.

**РАСКРЫЖО́ЎВАННЕ** *ср.* (*действие*) распя́тие.

**РАСКРЫЖО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* распина́ться.

**РАСКРЫЖО́ЎВАЦЬ** *несов.* (*к* **раскрыжава́ць**) распина́ть.

**РАСКРЫ́ТЫ** **1.** раскры́тый, откры́тый; обнажённый; **2.** раскры́тый, развёрнутый; **3.** раскры́тый, обнару́женный, разоблачённый; 1—3 *см.* **раскры́ць.**

**РАСКРЫТЫКАВА́НЫ** раскритико́ванный; прорабо́танный; *см.* **раскрытыкава́ць.**

**РАСКРЫТЫКАВА́ЦЬ** *сов.* раскритикова́ть; прорабо́тать; **р. кні́гу** раскритикова́ть кни́гу; **р. каго-не́будзь на схо́дзе** прорабо́тать кого́-л. на собра́нии.

**РАСКРЫТЫКО́ЎВАЦЬ** *несов.* раскритико́вывать; праба́тывать; *см.* **раскрытыкава́ць.**

**РАСКРЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** раскры́ться, откры́ться; обнажи́ться; **2.** раскры́ться, разверну́ться; **3.** раскры́ться, обнару́житься, разоблачи́ться; **яго́ душа́ ~ры́лася** его́ душа́ раскры́лась; **злачы́нства ~ры́лася** преступле́ние раскры́лось; **пе́рад ім ~ры́ліся шыро́кія прасто́ры** пе́ред ним раскры́лись широ́кие просто́ры.

**РАСКРЫЦЦЁ** *ср.* **1.** раскры́тие, откры́тие; обнаже́ние; **2.** раскры́тие, развёртывание; **3.** раскры́тие, обнаруже́ние, разоблаче́ние; 1—3 *см.* **раскры́ць.**

**РАСКРЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** раскры́ть, откры́ть; обнажи́ть; **2.** раскры́ть, разверну́ть; **3.** раскры́ть, обнару́жить, разоблачи́ть; **р. душу́** раскры́ть ду́шу; **р. здра́дніка** раскры́ть (обнару́жить, разоблачи́ть) преда́теля; **яго́ вынахо́дніцтва ~ры́ла шыро́кія магчы́масці для вытво́рчасці** его́ изобрете́ние раскры́ло широ́кие возмо́жности для произво́дства; ✧ **р. сваё ка́рты** раскры́ть свои́ ка́рты; **р. ду́жкі** раскры́ть ско́бки.

**РАСКРЫЧА́ЦЦА** *сов. разг.* раскрича́ться.

**РАСКРЫ́ШАНЫ** раскро́шенный; раздроблённый, размельчённый.

**РАСКРЫ́ШВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* кроши́ться; раздробля́ться, размельча́ться.

**РАСКРЫ́ШВАЦЬ** *несов.* кроши́ть; дроби́ть, мельчи́ть.

**РАСКРЫШЫ́ЦЦА** *сов.* раскроши́ться; раздроби́ться, размельчи́ться.

**РАСКРЫШЫ́ЦЬ** *сов.* раскроши́ть; раздроби́ть, размельчи́ть.

**РАСКУДА́ХТАЦЦА** *сов. прям., перен. разг.* раскуда́хтаться.

**РАСКУДЗЕ́ЛЕНЫ** растрёпанный; размоча́ленный, измоча́ленный.

**РАСКУДЗЕ́ЛІЦЦА** *сов.* растрепа́ться; размоча́литься, измоча́литься.

**РАСКУДЗЕ́ЛІЦЬ** *сов.* растрепа́ть; размоча́лить, измоча́лить.

**РАСКУДЗЕ́ЛЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* растрёпываться; размоча́ливаться, моча́литься.

**РАСКУДЗЕ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* растрёпывать; размоча́ливать, моча́лить.

**РАСКУДЛА́ЦІЦЦА** *и* **РАСКУДЛА́ЧЫЦЦА** *сов.* взъеро́шиться, взлохма́титься, растрепа́ться.

**РАСКУДЛА́ЦІЦЬ** *и* **РАСКУДЛА́ЧЫЦЬ** *сов.* взъеро́шить, взлохма́тить, растрепа́ть.

**РАСКУДЛА́ЧАНЫ** взъеро́шенный, взлохма́ченный, растрёпанный.

**РАСКУДЛА́ЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* взъеро́шиваться, взлохма́чиваться, растрёпываться.

**РАСКУДЛА́ЧВАЦЬ** *несов.* взъеро́шивать, взлохма́чивать, растрёпывать.

**РАСКУДЛА́ЧЫЦЦА** *сов. см.* **раскудла́ціцца.**

**РАСКУДЛА́ЧЫЦЬ** *сов. см.* **раскудла́ціць.**

**РАСКУКАВА́ЦЦА** *сов.* раскукова́ться.

**РАСКУЛА́ЧАНЫ** раскула́ченный.

**РАСКУЛА́ЧВАННЕ** *ср.* раскула́чивание.

**РАСКУЛА́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* раскула́чиваться.

**РАСКУЛА́ЧВАЦЬ** *несов.* раскула́чивать.

**РАСКУЛА́ЧЫЦЬ** *сов.* раскула́чить.

**РАСКУМЕ́КАЦЬ** *сов. разг.* раскуме́кать.

**РАСКУПІ́ЦЬ** *сов.* раскупи́ть.

**РАСКУ́ПЛЕНЫ** раску́пленный.

**РАСКУ́ПЛІВАЦЦА** *несов. страд. см.* **раскупля́цца.**

**РАСКУ́ПЛІВАЦЬ** *несов. см.* **раскупля́ць.**

**РАСКУПЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* раскупа́ться.

**РАСКУПЛЯ́ЦЬ** *несов.* раскупа́ть.

**РАСКУПО́РАНЫ** раску́поренный.

**РАСКУПО́РВАННЕ** *ср.* раску́поривание, раску́порка *ж.*

**РАСКУПО́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раску́пориваться.

**РАСКУПО́РВАЦЬ** *несов.* раску́поривать.

**РАСКУПО́РЫЦЦА** *сов.* раску́пориться.

**РАСКУПО́РЫЦЬ** *сов.* раску́порить.

**РАСКУ́РАНЫ** раску́ренный.

**РАСКУ́РВАННЕ** *ср.* раску́ривание.

**РАСКУ́РВАЦЦА** *несов. страд.* раску́риваться.

**РАСКУ́РВАЦЬ** *несов.* раску́ривать.

**РАСКУ́РКА** *ж. разг.* раску́рка.

**РАСКУРЫ́ЦЦА** *сов.* раскури́ться.

**РАСКУРЫ́ЦЬ** *сов.* раскури́ть.

**РАСКУ́СВАННЕ** *ср.* раску́сывание; *см.* **раску́сваць.**

**РАСКУ́СВАЦЦА** *несов. страд.* раску́сываться; *см.* **раску́сваць.**

**РАСКУ́СВАЦЬ** *несов. прям., перен.* раску́сывать; *см.* **раскусі́ць.**

**РАСКУСІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* раскуси́ть; **р. арэ́х** раскуси́ть оре́х; **р. чалаве́ка** раскуси́ть челове́ка.

**РАСКУ́ТЫ** *см.* **раскава́ны.**

**РАСКУ́ЦЦА** *сов. см.* **раскава́цца.**

**РАСКУ́ЦЬ** *сов. см.* **раскава́ць.**

**РАСКУ́ШАНЫ** *прям., перен.* раску́шенный; *см.* **раскусі́ць.**

**РАСЛІ́НА** *ж.* расте́ние *ср.*; **аднагадо́вая р.** однолéтнее расте́ние; **паўзу́чая р.** ползу́чее расте́ние; **вадзяна́я р.** водяно́е расте́ние.

**РАСЛІНАВО́Д** *м.* растениево́д.

**РАСЛІНАВО́ДСТВА** *ср.* растениево́дство.

**РАСЛІНАВО́ДЧЫ** растениево́дческий.

**РАСЛІ́ННА-ЖЫВЁЛЬНЫ** расти́тельно-живо́тный.

**РАСЛІ́ННАСЦЬ** *ж.* расти́тельность.

**РАСЛІ́ННЫ** расти́тельный; **р. свет** расти́тельный мир; ✧ **р. арна́мент** расти́тельный орна́мент; **~нная жыццё** расти́тельная жизнь.

**РАСНІ́ЧАСТЫ** *биол.* ресни́тчатый.

**РАСНІ́ЧКА** *ж. биол.* ресни́чка.

**РАСНІ́ЧНЫ** *биол.* ресни́чный; **~ныя чэ́рві** ресни́чные че́рви; **~нае це́ла** ресни́чное те́ло.

**РАСО́Л, -лу** *м.* рассо́л; (*для засола рыбы и т. п.— ещё*) тузлу́к.

**РАСО́ЛЬНІК, -ку** *м. кул.* рассо́льник.

**РАСО́ЛЬНЫ** рассо́льный.

**РАСО́НСКІ РАЁН** Россо́нский райо́н.

**РАСО́НЫ, -наў** *гп.* Россо́ны.

**РАСПАВІВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* распелёнываться.

**РАСПАВІВА́ЦЬ** *несов.* распелёнывать.

**РАСПАВІ́ТЫ** распелёнатый.

**РАСПАВІ́ЦЦА** *сов.* распелена́ться.

**РАСПАВІ́ЦЬ** *сов.* распелена́ть.

**РАСПАГО́ДЖВАЦЦА** *несов. безл.* разъя́сниваться, проя́снивать, проя́сниваться; *см.* **распаго́дзіцца.**

**РАСПАГО́ДЗІЦЦА** *сов. безл.* разъя́сниться, распогоди́ться, проя́снеть, проя́сниться; **на дварэ́ ~дзілася** на дворе́ разъя́снилось (проя́снело, проя́снилось).

**РАСПА́Д, -ду** *м. прям., перен.* распаде́ние *ср.*, распа́д; *см.* **распа́сціся.**

**РАСПАДАБНЕ́ННЕ** *ср. лингв.* расподобле́ние, диссимиля́ция *ж.*

**РАСПАДАБНЯ́ЦЦА** *несов. лингв.* расподобля́ться, диссимили́роваться.

**РАСПАДА́ЦЦА** *несов. прям., перен.* распада́ться; *см.* **распа́сціся.**

**РАСПАДЗЕ́ННЕ** *ср. прям., перен.* распаде́ние; *см.* **распа́сціся.**

**РАСПАЗНАВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* распознава́емость.

**РАСПАЗНАВА́ЛЬНЫ** опознава́тельный, различи́тельный.

**РАСПАЗНАВА́ННЕ** *ср.* распознава́ние, опознава́ние, различе́ние.

**РАСПАЗНАВА́ЦЬ** *несов.* распознава́ть, опознава́ть, различа́ть.

**РАСПАЗНА́НЫ** распо́знанный, опо́знанный.

**РАСПАЗНА́ЦЬ** *сов.* распозна́ть, опозна́ть, различи́ть.

**РАСПАЗЫЧАНЫ** ро́зданный в долг (взаймы́).

**РАСПАЗЫЧА́ЦЬ** *и* **РАСПАЗЫЧВАЦЬ** *несов.* раздава́ть в долг (взаймы́).

**РАСПАЗЫ́ЧЫЦЬ** *сов.* разда́ть в долг (взаймы́).

**РАСПАЗЯХА́ЦЦА** *сов.* раззева́ться.

**РАСПА́ЙВАННЕ** *ср.* распа́ивание, распа́йка *ж.*

**РАСПА́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* распа́иваться.

**РАСПА́ЙВАЦЬ** *несов.* распа́ивать.

**РАСПАКАВА́НЫ** *и* **РАСПАКО́ВАНЫ** распако́ванный; вскры́тый; растюко́ванный; *см.* **распакава́ць.**

**РАСПАКАВА́ЦЦА** *сов.* распакова́ться.

**РАСПАКАВА́ЦЬ** *сов.* распакова́ть; вскрыть; (*тюк — ещё*) растюкова́ть.

**РАСПАКО́ВАНЫ** *см.* **распакава́ны.**

**РАСПАКО́ЎВАННЕ** *ср.* распако́вывание, распако́вка *ж.*; растюко́вка *ж.*; *см.* **распако́ўваць.**

**РАСПАКО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** распако́вываться; **2.** *страд.* распако́вываться; вскрыва́ться; растюко́вываться; *см.* **распако́ўваць.**

**РАСПАКО́ЎВАЦЬ** *несов.* распако́вывать; вскрыва́ть; (*тюк — ещё*) растюко́вывать.

**РАСПАКО́ЎКА** *ж.* распако́вка; растюко́вка; *см.* **распако́ўваць.**

**РАСПА́Л, -лу** *м. спец.* разжи́г; **р. ву́галю** разжи́г у́гля.

**РАСПАЛАВІ́НІЦЦА** *сов. разг.* распа́сться на́ две ча́сти.

**РАСПАЛАВІ́НІЦЬ** *сов. разг.* разре́зать (разруби́ть) попола́м.

**РАСПАЛАВІ́НЬВАЦЦА** *несов. разг.* распада́ться на́ две ча́сти.

**РАСПАЛАВІ́НЬВАЦЬ** *несов. разг.* разреза́ть (разруба́ть) попола́м.

**РАСПАЛАГА́ЦЦА** *несов.* (*усаживаться, укладываться*) располага́ться.

**РАСПАЛАЖЫ́ЦЦА** *сов.* (*усесться, улечься*) расположи́ться.

**РАСПАЛАЖЭ́ННЕ** *ср.* расположе́ние, местоположе́ние.

**РАСПАЛАСАВА́НЫ** *разг.* располосо́ванный.

**РАСПАЛАСАВА́ЦЬ** *сов. разг.* располосова́ть.

**РАСПАЛАСО́ЎВАЦЬ** *несов. разг.* располосо́вывать.

**РАСПА́ЛАЧНЫ** растопо́чный.

**РАСПА́ЛЕНЫ 1.** разожжённый; **2.** раскалённый, распалённый; **3.** растопленный; **4.** *перен.* разожжённый; 1—4 *см.* **распалі́ць.**

**РАСПАЛІ́ЦЦА** *сов.* **1.** раскали́ться, распали́ться; **жале́за ~лілася** желе́зо раскали́лось (распали́лось); **2.** (*у чым*) растопи́ться (*без доп.*); **у пе́чы ~лілася** печь растопи́лась; **3.** *перен.* (*прийти в сильное возбуждение*) распали́ться; **р. гне́вам** распали́ться гне́вом.

**РАСПАЛІ́ЦЬ** *сов.* **1.** разже́чь; **р. касцёр** разже́чь костёр; **2.** раскали́ть, распали́ть; **р. жале́за** раскали́ть (распали́ть) желе́зо; **3.** (*у чым*) растопи́ть (*что*); **р. у пе́чы** растопи́ть печь; **4.** *перен.* разже́чь; **р. вайну́** разже́чь войну́.

**РАСПА́ЛКА** *ж.* растопка.

**РАСПА́ЛУБІЦЬ** *сов. стр.* распа́лубить.

**РАСПА́ЛУБКА** *ж. стр.* распа́лубка.

**РАСПА́ЛЬВАННЕ** *ср.* **1.** разжига́ние; **2.** раска́ливание; **3.** раста́пливание, расто́пка *ж.*; **4.** *перен.* разжига́ние; 1—4 *см.* **распа́льваць.**

**РАСПА́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** раскаля́ться, распаля́ться; **2.** (*у чым*) раста́пливаться (*без доп.*); **3.** *перен.* (*приходить в сильное возбуждение*) распа́ливаться; 1—3 *см.* **распалі́цца; 4.** *страд.* разжига́ться; раскаля́ться, распаля́ться; раста́пливаться; *см.* **распа́льваць.**

**РАСПА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* **1.** разжига́ть; **2.** раскаля́ть, раска́ливать, распаля́ть; **3.** (*у чым*) раста́пливать (*что*); **4.** *перен.* разжига́ть; 1—4 *см.* **распалі́ць.**

**РАСПАНЕ́ЛЫ** *разг.* ста́вший (сде́лавшийся) ба́рином; приобре́тший ба́рские привы́чки (зама́шки); *см.* **распане́ць.**

**РАСПАНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* стать (сде́латься) ба́рином; приобрести́ ба́рские привы́чки (зама́шки); **ну, ты ўжо зусі́м ~не́ў** ну, ты уже́ совсе́м ба́рином стал.

**РАСПАРА́ДАК, -дку** *м.* распоря́док; **пра́вілы ўну́транага ~дку** пра́вила вну́треннего распоря́дка.

**РАСПАРАДЖА́ЦЦА** *несов.* **1.** распоряжа́ться; прика́зывать; **2.** (*управлять*) распоряжа́ться; хозя́йничать.

**РАСПАРАДЖЭ́ННЕ** *ср. в разн. знач.* распоряже́ние; **р. маёмасцю** распоряже́ние иму́ществом; **ура́давае р.** прави́тельственное распоряже́ние; ✧ **у р. каго-чаго-не́будзь** в распоряже́ние кого́-чего́-л.

**РАСПАРАДЗІ́ЦЦА** *сов.* распоряди́ться; приказа́ть.

**РАСПАРА́ДЧАСЦЬ** *ж.* распоряди́тельность.

**РАСПАРА́ДЧЫ** распоряди́тельный.

**РАСПАРА́ДЧЫК** *м.* распоряди́тель.

**РАСПАРА́ДЧЫЦА** *ж.* распоряди́тельница.

**РАСПА́РАНЫ** *в разн. знач.* распа́ренный.

**РАСПА́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* распа́риваться; *см.* **распа́рыцца, распа́рваць.**

**РАСПА́РВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* распа́ривать.

**РАСПА́РКА** *ж.* распа́рка.

**РАСПАРО́ЦЦА** *сов.* распоро́ться.

**РАСПАРО́ЦЬ** *сов.* **1.** распоро́ть; **р. суке́нку** распоро́ть пла́тье; **2.** (*нанести рану чем-л. режущим*) распоро́ть; **р. жыво́т** распоро́ть живо́т.

**РАСПА́РЫЦЦА** *сов. в разн. знач.* распа́риться; **рэ́па до́бра ~рылася** ре́па хорошо́ распа́рилась; **р. ў цёплай ха́це** распа́риться в тёплой избе́.

**РАСПА́РЫЦЬ** *сов. в разн. знач.* распа́рить.

**РАСПАСО́ЎКА** I *ж. спорт.* распасо́вка.

**РАСПАСО́ЎКА** II *ж. карт.* распасо́вка.

**РАСПАСЦЕ́РЦІ** *сов.* **1.** распростере́ть; раски́нуть; (*крылья — ещё*) распра́вить; **2.** разостла́ть.

**РАСПАСЦЕ́РЦІСЯ** *сов.* **1.** распростере́ться; раски́нуться; (*о крыльях — ещё*) распра́виться; **2.** (*занять большое пространство*) раски́нуться; **за рако́й ~рліся лугі́** за реко́й раски́нулись луга́.

**РАСПАСЦЁРТЫ 1.** распростёртый; раски́нутый; распра́вленный; **2.** разо́стланный; 1, 2 *см.* **распасце́рці.**

**РАСПАСЦІРА́ЦЦА** *несов.* **1.** распростира́ться; раски́дываться; (*о крыльях — ещё*) расправля́ться; **2.** *страд.* распростира́ться; раски́дываться; расправля́ться; расстила́ться; *см.* **распасціра́ць.**

**РАСПАСЦІРА́ЦЬ** *несов.* **1.** распростира́ть; раски́дывать; (*крылья — ещё*) расправля́ть; **2.** расстила́ть.

**РАСПА́СЦІСЯ** *сов. прям., перен.* распа́сться; **р. на састаўны́я ча́сткі** распа́сться на составны́е ча́сти; **драмгурто́к ~па́ўся** драмкружо́к распа́лся; **паме́шчыцкая гаспада́рка ~па́лася** поме́щичье хозя́йство распа́лось.

**РАСПАТРАШЫЦЬ** *сов. прям., перен.* распотроши́ть.

**РАСПАТРО́НЕНЫ** *разг. шутл.* распатро́ненный.

**РАСПАТРО́НІЦЬ** *сов. разг. шутл.* распатро́нить.

**РАСПАТРО́НЬВАЦЬ** *несов. разг. шутл.* распатро́нивать.

**РАСПАЎЗА́ЦЦА** *несов. в разн. знач.* располза́ться; *см.* **распаўзці́ся.**

**РАСПАЎЗЦІ́СЯ** *сов. в разн. знач.* расползти́сь; **прусакі́ ~злі́ся па кутка́х** прусаки́ расползли́сь по угла́м; **чарні́льная пля́ма ~зла́ся па папе́ры** черни́льное пятно́ расползло́сь по бума́ге; **паліто́ ~зло́ся па швах** пальто́ расползло́сь по швам.

**РАСПАЎНЕ́ЛЫ** *разг.* располне́вший, растолсте́вший, раздобре́вший.

**РАСПАЎНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* располне́ть, растолсте́ть, раздобре́ть.

**РАСПАЎСЮДЖАНАСЦЬ** *ж.* распространённость; *см.* **распаўсю́джаны.**

**РАСПАЎСЮДЖАННЕ** *ср.* распростране́ние; **мець вялі́кае р.** име́ть большо́е распростране́ние.

**РАСПАЎСЮДЖАНЫ** 1. распространённый; *см.* **распаўсю́дзіць;** 2. (*обычный*) распространённый; **р. від расл́ін** распространённый вид расте́ний.

**РАСПАЎСЮДЖВАЛЬНІК** *м.* распространи́тель.

**РАСПАЎСЮДЖВАЛЬНІЦА** *ж.* распространи́тельница.

**РАСПАЎСЮДЖВАЛЬНІЦКІ** распространи́тельский.

**РАСПАЎСЮДЖВАННЕ** *ср.* распростране́ние; *см.* **распаўсю́джваць.**

**РАСПАЎСЮДЖВАЦЦА** *несов.* 1. распространя́ться; *см.* **распаўсю́дзіцца;** 2. (*иметь действие — о законе, власти*) распространя́ться; простира́ться; 3. *страд.* распространя́ться; *см.* **распаўсю́джваць.**

**РАСПАЎСЮДЖВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* распространя́ть; *см.* **распаўсю́дзіць.**

**РАСПАЎСЮДЗІЦЦА** *сов.* распространи́ться; **ідэ́і камуні́зма ~дзіліся па ўсім све́це** иде́и коммуни́зма распространи́лись по всему́ ми́ру.

**РАСПАЎСЮДЗІЦЬ** *сов. в разн. знач.* распространи́ть; **р. вучэ́нне** распространи́ть уче́ние; **р. пах** распространи́ть за́пах; **р. літарату́ру** распространи́ть литерату́ру.

**РАСПАЧА́ТЫ** на́чатый, предпри́нятый, затя́нный; *см.* **распача́ць.**

**РАСПАЧА́ЦЦА** *сов.* нача́ться; **~чала́ся пра́ца** начала́сь рабо́та.

**РАСПАЧА́ЦЬ** (*што*) *сов.* нача́ть, предприня́ть, приня́ться (*за что*), приступи́ть (*к чему*), затя́ть; **р. будаўні́цтва** нача́ть (предприня́ть) строи́тельство, приня́ться за строи́тельство, приступи́ть к строи́тельству.

**РАСПАЧЫНА́ЦЦА** *несов.* 1. начина́ться; *см.* **распача́цца;** 2. *страд.* начина́ться, предпринима́ться, затева́ться; *см.* **распачына́ць.**

**РАСПАЧЫНА́ЦЬ** (*што*) *несов.* начина́ть, предпринима́ть, принима́ться (*за что*), приступа́ть (*к чему*), затева́ть; *см.* **распача́ць.**

**РАСПАШО́НКА** *ж.* распашо́нка.

**РАСПАЯ́НЫ** распа́янный.

**РАСПАЯ́ЦЦА** *сов.* распая́ться.

**РАСПАЯ́ЦЬ** *сов.* распая́ть.

**РАСПЕРАЗА́НЫ** распоя́санный.

**РАСПЕРАЗА́ЦЦА** *сов.* 1. распоя́саться, снять по́яс; 2. (*о поясе*) расстегну́ться; 3. *перен.* распоя́саться; разнузда́ться.

**РАСПЕРАЗА́ЦЬ** *сов.* распоя́сать, снять по́яс.

**РАСПЕ́РЦІ** *сов.* 1. распере́ть; 2. *безл. разг.* распере́ть, разнести́; **як яго́ ~пёрла!** как его́ распёрло (разнесло́)!

**РАСПЕ́СЦІЦЦА** *сов.* 1. изне́житься, разне́житься; 2. избалова́ться.

**РАСПЕ́СЦІЦЬ** *сов.* 1. изне́жить, разне́жить; 2. избалова́ть; **р. дзяце́й** избалова́ть дете́й.

**РАСПЕ́ЦЦА** *сов.* распе́ться.

**РАСПЕ́ШЧАНАСЦЬ** *ж.* 1. изне́женность; 2. избало́ванность.

**РАСПЕ́ШЧАНЫ** 1. изне́женный, разне́женный; 2. избало́ванный; 1, 2 *см.* **распе́сціць.**

**РАСПЕ́ШЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* 1. изне́живаться, разне́живаться; 2. избало́вываться; 1, 2 *см.* **распе́сціцца, распе́шчваць.**

**РАСПЕ́ШЧВАЦЬ** *несов.* 1. изне́живать, разне́живать; 2. избало́вывать; 1,2 *см.* **распе́сціць.**

**РАСПІВА́ЦЦА** *несов.* 1. начина́ть пья́нствовать; 2. *страд. разг.* распива́ться; *см.* **распіва́ць.**

**РАСПІВА́ЦЬ** *несов. разг. в разн. знач.* распива́ть; **р. бутэ́льку віна́** распива́ть буты́лку вина́; **р. чай** распива́ть чай.

**РАСПІ́ВАЧНАЯ** *сущ. уст.* распи́вочная.

**РАСПІ́ВАЧНЫ** *уст.* распи́вочный.

**РАСПІ́Л, -лу** *м.* (*место разреза*) распи́л.

**РАСПІЛАВА́НЫ** распи́ленный.

**РАСПІЛАВА́ЦЦА** *сов.* распили́ться.

**РАСПІЛАВА́ЦЬ** *сов.* распили́ть.

**РАСПІЛО́ВАЧНЫ** распило́вочный.

**РАСПІЛО́ЎВАННЕ** *ср.* распи́ливание, распи́л *м.*, распи́лка *ж.*, распило́вка *ж.*

**РАСПІЛО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* распи́ливаться.

**РАСПІЛО́ЎВАЦЬ** *несов.* распи́ливать.

**РАСПІЛО́ЎКА** *ж.* распило́вка, распи́лка, распи́л *м.*

**РАСПІЛО́ЎШЧЫК** *м.* распило́вщик.

**РАСПІНА́ННЕ** *ср.* 1. распя́тие; 2. распя́ливание; 1, 2 *см.* **распіна́ць.**

**РАСПІНА́ЦЦА** *несов.* 1. распина́ться; **р. пе́рад кім-не́будзь** распина́ться пе́ред ке́м-л.; 2. *страд.* распина́ться; распя́ливаться; *см.* **распіна́ць.**

**РАСПІНА́ЦЬ** *несов.* 1. распина́ть; 2. распя́ливать; *см.* **распя́ць** 2.

**РАСПІРА́ЦЬ** *несов.* 1. распира́ть; 2. *безл. разг.* распира́ть, разноси́ть; *см.* **распе́рці** 2.

**РАСПІ́САНЫ** *в разн. знач.* распи́санный; *см.* **распіса́ць.**

**РАСПІСА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* расписа́ться; **р. ў ве́дамасці** расписа́ться в ве́домости; **р. ў сваёй бездапамо́жнасці** расписа́ться в свое́й беспо́мощности; **так ~са́ўся, што не спы́ніш** так расписа́лся, что не остано́вишь.

**РАСПІСА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* расписа́ть; **р. сло́вы на ка́ртачкі** расписа́ть слова́ на ка́рточки; **р. гадзі́ны прыёму** расписа́ть часы́ приёма; **маро́з ~са́ў на шы́бах узо́ры** моро́з расписа́л на стёклах узо́ры; **р. здарэ́нне** расписа́ть собы́тие.

**РАСПІ́СВАННЕ** *ср.* распи́сывание, распи́ска *ж.*, ро́спись *ж.*; *см.* **распі́сваць.**

**РАСПІ́СВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* распи́сываться; *см.* **распіса́цца, распі́сваць.**

**РАСПІ́СВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* распи́сывать; *см.* **распіса́ць.**

**РАСПІ́СКА** *ж.* (*документ*) распи́ска.

**РАСПІ́ТЫ** *разг.* распи́тый.

**РАСПІХА́ННЕ** *и* **РАСПІ́ХВАННЕ** *ср. разг.* раста́лкивание, распи́хивание; *см.* **распіха́ць** I.

**РАСПІХА́ЦЦА** *и* **РАСПІ́ХВАЦЦА** *несов. страд. разг.* рассо́вываться, распи́хиваться; *см.* **распіха́ць** II.

**РАСПІХА́ЦЬ** I *и* **РАСПІ́ХВАЦЬ** I *несов. разг.* раста́лкивать, распи́хивать; *см.* **разапхну́ць.**

**РАСПІХА́ЦЬ** II *и* **РАСПІ́ХВАЦЬ** II *несов. разг.* рассо́вывать, распи́хивать; *см.* **разапха́ць.**

**РАСПІ́ХВАННЕ** *ср. см.* **распіха́нне.**

**РАСПІ́ХВАЦЦА** *несов. страд. см.* **распіха́цца.**

**РАСПІ́ХВАЦЬ** I *несов. см.* **распіха́ць** I.
**РАСПІ́ХВАЦЬ** II *несов. см.* **распіха́ць** II.
**РАСПІ́ЦЦА** *сов.* нача́ть пья́нствовать.
**РАСПІ́ЦЬ** *сов. разг.* распи́ть.
**РАСПІШЧА́ЦЦА** *сов.* распища́ться; развизжа́ться.
**РАСПЛА́ВІЦЦА** *сов.* распла́виться; (*о воске и т. п.— ещё*) растопи́ться.
**РАСПЛА́ВІЦЬ** *сов.* распла́вить; (*воск и т. п.— ещё*) растопи́ть; **р. мета́л** распла́вить мета́лл.
**РАСПЛАДЗІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* расплоди́ться, развести́сь.
**РАСПЛАДЗІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* расплоди́ть, развести́.
**РАСПЛА́КАЦЦА** *сов.* распла́каться.
**РАСПЛАСТАВА́ННЕ** *ср.* расслое́ние.
**РАСПЛАСТАВА́НЫ** *и* **РАСПЛАСТО́ВАНЫ** **1.** распласто́ванный; **2.** расслоённый; *см.* **распластава́ць** 2.
**РАСПЛАСТАВА́ЦЦА** *сов.* расслои́ться; **паро́да ∼ва́лася** поро́да расслои́лась.
**РАСПЛАСТАВА́ЦЬ** *сов.* **1.** распластова́ть; **2.** расслои́ть; **р. слюду́** расслои́ть слюду́.
**РАСПЛАСТА́НЫ** распла́станный, распласто́ванный.
**РАСПЛАСТА́ЦЦА** *сов.* распласта́ться.
**РАСПЛАСТА́ЦЬ** *сов.* распласта́ть, распластова́ть.
**РАСПЛА́СТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* распла́стываться.
**РАСПЛА́СТВАЦЬ** *несов.* распла́стывать.
**РАСПЛАСТО́ВАНЫ** *см.* **распластава́ны.**
**РАСПЛАСТО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** пластова́ние, пласта́ние; **2.** рассла́ивание, рассло́йка *ж.*; *см.* **распласто́ўваць** 2.
**РАСПЛАСТО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** рассла́иваться; *см.* **распластава́цца;** **2.** *страд.* пластова́ться, пласта́ться; рассла́иваться; *см.* **распласто́ўваць.**
**РАСПЛАСТО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** пластова́ть, пласта́ть; **2.** рассла́ивать; *см.* **распластава́ць** 2.
**РАСПЛАСТО́ЎКА** *ж. спец.* рассло́йка.
**РАСПЛА́ТА** *ж. прям., перен.* распла́та; **р. па раху́нку** распла́та по счёту; **час ∼ты надышо́ў** час распла́ты наста́л.
**РАСПЛА́ЎЛЕНЫ** распла́вленный; растóпленный; *см.* **распла́віць.**
**РАСПЛА́ЎЛІВАННЕ** *ср.* распла́вливание, плавле́ние; раста́пливание; *см.* **расплаўля́ць.**
**РАСПЛАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* расплавля́ться; раста́пливаться; *см.* **распла́віцца, расплаўля́ць.**
**РАСПЛАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* расплавля́ть; (*воск и т. п.— ещё*) раста́пливать; *см.* **распла́віць.**
**РАСПЛАЦІ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* расплати́ться; **р. з рабо́чымі** расплати́ться с рабо́чими; **р. з во́рагамі** расплати́ться с врага́ми; **во́раг ∼ла́ціцца за свае́ злачы́нствы** враг распла́тится за свои́ преступле́ния.
**РАСПЛА́ЧВАЦЦА** *несов. в разн. знач.* распла́чиваться; *см.* **расплаці́цца.**
**РАСПЛЕ́СКВАННЕ** *ср.* расплю́щивание.
**РАСПЛЕ́СКВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* расплю́щиваться.
**РАСПЛЕ́СКВАЦЬ** *несов.* расплю́щивать.
**РАСПЛЕ́СЦІ** *сов.* расплести́; (*свитое, скрученное — ещё*) разви́ть; **р. се́тку** расплести́ сеть; **р. вяно́к** расплести́ (разви́ть) вено́к.
**РАСПЛЕ́СЦІСЯ** *сов.* **1.** расплести́сь; (*о свитом, скрученном — ещё*) разви́ться; **ко́сы ∼ляліся** ко́сы расплели́сь (развили́сь); **2.** расплести́ себе́ ко́сы.
**РАСПЛЕ́ТАЦЦА** *несов. см.* **расплята́цца.**
**РАСПЛЕ́ТАЦЬ** *несов. см.* **расплята́ць.**
**РАСПЛЕ́ТВАННЕ** *ср. см.* **расплята́нне.**
**РАСПЛЕ́ЦЕНЫ** расплетённый; разви́тый; *см.* **распле́сці.**
**РАСПЛІКА́ЦЦА** *несов. возвр., страд. обл.* расстёгиваться.
**РАСПЛІКА́ЦЬ** *несов. обл.* расстёгивать.
**РАСПЛІКНУ́ТЫ** *обл.* расстёгнутый.
**РАСПЛІКНУ́ЦЦА** *сов. обл.* расстегну́ться.
**РАСПЛІКНУ́ЦЬ** *сов. обл.* расстегну́ть.
**РАСПЛО́Д, -ду** *м. разг.* разво́д, распло́д; **пакі́нуць на р.** оста́вить на разво́д.
**РАСПЛО́ДЖАНЫ** расплoжённый, разведённый.
**РАСПЛО́ДЖВАННЕ** *ср.* разведе́ние.
**РАСПЛО́ДЖВАЦЦА** *несов.* **1.** *прям., перен.* расплoжа́ться, плоди́ться, разводи́ться; **2.** *страд.* плоди́ться, расплoжа́ться, разводи́ться; *см.* **распло́джваць.**
**РАСПЛО́ДЖВАЦЬ** *несов. прям., перен.* плоди́ть, расплoжа́ть, разводи́ть.
**РАСПЛЫВА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*о жидкостях*) расплыва́ться; растека́ться; **2.** (*раздаваться в стороны, расширяться*) расплыва́ться; (*об улыбке — ещё*) разлива́ться; **3.** *перен. разг.* (*толстеть*) расплыва́ться, раздава́ться; **4.** (*плыть в разные стороны*) расплыва́ться; 1—4 *см.* **расплы́сціся.**
**РАСПЛЫ́СЦІСЯ** *и* **РАСПЛЫ́ЦЦА** *сов.* **1.** (*о жидкостях*) расплы́ться; расте́чься; **2.** (*раздаться в стороны, расшириться*) расплы́ться; (*об улыбке — ещё*) разли́ться; **хлеб ∼лы́ўся ў пе́чы** хлеб расплы́лся в печи́; **па тва́ры ∼лыла́ся ўсме́шка** по лицу́ расплыла́сь (разлила́сь) улы́бка; **3.** *перен. разг.* (*растолстеть*) расплы́ться, разда́ться; **4.** (*уплыть в разные стороны*) расплы́ться.
**РАСПЛЫ́ЎЧАТА** *нареч.* расплы́вчато.
**РАСПЛЫ́ЎЧАТАСЦЬ** *ж.* расплы́вчатость.
**РАСПЛЫ́ЎЧАТЫ** расплы́вчатый.
**РАСПЛЫ́ЦЦА** *сов. см.* **расплы́сціся.**
**РАСПЛЮ́ХАНЫ** расплёсканный.
**РАСПЛЮХА́ЦЦА** *сов.* расплеска́ться.
**РАСПЛЮХА́ЦЬ** *сов.* расплеска́ть.
**РАСПЛЮ́ХВАННЕ** *ср.* расплёскивание.
**РАСПЛЮ́ХВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* расплёскиваться.
**РАСПЛЮ́ХВАЦЬ** *несов.* расплёскивать.
**РАСПЛЮ́ШЧАНЫ** I откры́тый, раскры́тый; *см.* **расплю́шчыць** I.
**РАСПЛЮ́ШЧАНЫ** II расплю́щенный, расплю́снутый.
**РАСПЛЮ́ШЧВАННЕ** I *ср.* открыва́ние, раскрыва́ние; *см.* **расплю́шчваць** I.
**РАСПЛЮ́ШЧВАННЕ** II *ср.* расплю́щивание.
**РАСПЛЮ́ШЧВАЦЦА** I *несов. возвр., страд.* открыва́ться, раскрыва́ться; *см.* **расплю́шчыцца** I, **расплю́шчваць** I.
**РАСПЛЮ́ШЧВАЦЦА** II *несов. возвр., страд.* расплю́щиваться.
**РАСПЛЮ́ШЧВАЦЬ** I *несов.* (*глаза*) открыва́ть, раскрыва́ть.
**РАСПЛЮ́ШЧВАЦЬ** II *несов.* расплю́щивать.
**РАСПЛЮ́ШЧЫЦЦА** I *сов.* (*о глазах*) откры́ться, раскры́ться.
**РАСПЛЮ́ШЧЫЦЦА** II *сов.* расплю́щиться, расплю́снуться.
**РАСПЛЮ́ШЧЫЦЬ** I *сов.* (*глаза*) откры́ть, раскры́ть.
**РАСПЛЮ́ШЧЫЦЬ** II *сов.* расплю́щить, расплю́снуть.
**РАСПЛЯВА́ЦЦА** *сов. разг.* расплева́ться.
**РАСПЛЯСКА́НЫ** расплю́щенный, расплю́снутый.
**РАСПЛЯ́СКАЦЦА** *сов. разг.* расхло́паться.
**РАСПЛЯСКА́ЦЦА** *сов.* расплю́щиться, расплю́снуться.
**РАСПЛЯСКА́ЦЬ** *сов.* расплю́щить, расплю́снуть.
**РАСПЛЯТА́ННЕ** *ср.* расплета́ние; развива́ние; *см.* **расплята́ць.**
**РАСПЛЯТА́ЦЦА** *несов.* **1.** расплета́ться; (*о свитом, скрученном — ещё*) развива́ться; *см.* **распле́сціся** 1; **2.** расплета́ть себе́ ко́сы; **3.** *страд.* расплета́ться; развива́ться; *см.* **расплята́ць.**
**РАСПЛЯТА́ЦЬ** *несов.* расплета́ть; (*свитое, скрученное — ещё*) развива́ть; *см.* **распле́сці.**
**РАСПО́КВАЦЦА** *несов. разг.* (*о почках, перезревших плодах*) ло́паться.

**РАСПО́КНУЦЦА** *сов. разг.* (*о почках, перезревших плодах*) ло́пнуть.

**РАСПО́Р, -ру** *м. тех.* распо́р.

**РАСПО́РАК, -рка** *м.* проре́ха *ж.*

**РАСПО́РАНЫ** *см.* **распо́раты.**

**РАСПО́РАТЫ 1.** распо́ротый; **2.** распо́ротый; 1, 2 *см.* **распаро́ць.**

**РАСПО́РВАННЕ** *ср.* распа́рывание, по́рка *ж.*; *см.* **распо́рваць** 1.

**РАСПО́РВАЦЦА** *несов.* **1.** распа́рываться; **2.** *страд.* распа́рываться; поро́ться; *см.* **распо́рваць.**

**РАСПО́РВАЦЬ** *несов.* **1.** распа́рывать, поро́ть; **2.** (*наносить рану чем-л. режущим*) распа́рывать; 1, 2 *см.* **распаро́ць.**

**РАСПО́РКА** *ж. спец.* распо́рка.

**РАСПО́РНЫ** *спец.* (*служащий для распорки*) распо́рочный.

**РАСПО́ЎЗАЦЦА** *сов. разг.* распо́лзаться.

**РАСПО́ЎЗВАЦЦА** *несов. см.* **распаўза́цца.**

**РАСПРА́ВА** *ж.* распра́ва; ✧ **р. каро́ткая** распра́ва коро́ткая; **чыні́ць суд і ~ву** твори́ть суд и распра́ву.

**РАСПРА́ВІЦЦА** *сов.* распра́виться, учини́ть распра́ву.

**РАСПРАГА́ННЕ** *ср.* распря́жка *ж.*

**РАСПРАГА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* распряга́ться, выпряга́ться.

**РАСПРАГА́ЦЬ** *несов.* распряга́ть, выпряга́ть.

**РАСПРАДАВА́ЦЦА** *несов. страд.* распродава́ться.

**РАСПРАДАВА́ЦЬ** *несов.* распродава́ть.

**РАСПРАДА́ДЗЕНЫ** распро́данный.

**РАСПРАДА́ЖА** *ж.* распрода́жа.

**РАСПРАДА́ЖНЫ** распрода́жный.

**РАСПРАДА́НЫ** *см.* **распрада́дзены.**

**РАСПРАДА́ЦЬ** *сов.* распрода́ть.

**РАСПРАНА́ННЕ** *ср.* **1.** раздева́ние; **2.** сня́тие; 1, 2 *см.* **распрана́ць.**

**РАСПРАНА́ЦЦА** *несов.* раздева́ться.

**РАСПРАНА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*кого-л.*) раздева́ть; **2.** (*одежду*) снима́ть; 1, 2 *см.* **распрану́ць.**

**РАСПРА́НЕНЫ 1.** разде́тый; **2.** сня́тый; 1, 2 *см.* **распрану́ць.**

**РАСПРА́НУТЫ** *см.* **распра́нены.**

**РАСПРАНУ́ЦЦА** *сов.* разде́ться.

**РАСПРАНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*кого-л.*) разде́ть; **р. дзіця́** разде́ть ребёнка; **2.** (*одежду*) снять; **р. кажу́х** снять тулу́п.

**РАСПРАПАГАНДАВА́НЫ** распропаганди́рованный.

**РАСПРАПАГАНДАВА́ЦЬ** *сов.* распропаганди́ровать.

**РАСПРАСТА́НЫ 1.** вы́прямленный, распрямлённый, разо́гнутый; **2.** распра́вленный, распрямлённый; **3.** распла́станный; разло́женный, развёрнутый; 1—3 *см.* **распраста́ць.**

**РАСПРАСТА́ЦЦА** *сов.* **1.** вы́прямиться, распрями́ться, разогну́ться; **2.** (*о крыльях*) распра́виться, распрями́ться; **3.** распласта́ться.

**РАСПРАСТА́ЦЬ** *сов.* **1.** вы́прямить, распрями́ть, разогну́ть; **р. спі́ну** вы́прямить (распрями́ть, разогну́ть) спи́ну; **2.** (*крылья*) распра́вить, распрями́ть; **3.** (*положить плашмя кого-л.*) распласта́ть; (*что-л.*) разложи́ть, разверну́ть.

**РАСПРАЎЛЯ́ЦЦА** *несов.* расправля́ться, учиня́ть распра́ву.

**РАСПРАЦАВА́НАСЦЬ** *ж.* разрабо́танность.

**РАСПРАЦАВА́НЫ** *в разн. знач.* разрабо́танный; *см.* **распрацава́ць.**

**РАСПРАЦАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* разрабо́тать; **р. прае́кт** разрабо́тать прое́кт; **р. пыта́нне** разрабо́тать вопро́с; **р. го́лас** разрабо́тать го́лос.

**РАСПРАЦО́ЎВАННЕ** *ср.* разраба́тывание, разрабо́тка *ж.*; *см.* **распрацо́ўваць.**

**РАСПРАЦО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* разраба́тываться; *см.* **распрацо́ўваць.**

**РАСПРАЦО́ЎВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* разраба́тывать; *см.* **распрацава́ць.**

**РАСПРАЦО́ЎКА** *ж.* **1.** разрабо́тка; *см.* **распрацава́ць; 2.** (*добыча, способ добычи полезных ископаемых*) разрабо́тка; **р. то́рфу** разрабо́тка то́рфа.

**РАСПРО́ДАНЫ** *см.* **распрада́дзены.**

**РАСПРО́СТВАЦЦА** *несов.* **1.** выпрямля́ться, распрямля́ться, разгиба́ться; **2.** (*о крыльях*) расправля́ться, распрямля́ться; **3.** распла́стываться; **4.** *страд.* выпрямля́ться, распрямля́ться; разгиба́ться; расправля́ться; распла́стываться; раскла́дываться, развора́чиваться; *см.* **распро́стваць.**

**РАСПРО́СТВАЦЬ** *несов.* **1.** выпрямля́ть, распрямля́ть, разгиба́ть; **2.** (*крылья*) расправля́ть, распрямля́ть; **3.** (*класть плашмя кого-л.*) распла́стывать; (*что-л.*) раскла́дывать, развора́чивать; 1—3 *см.* **распраста́ць.**

**РАСПРЭ́ГЧЫ** *сов.* распря́чь, вы́прячь.

**РАСПРЭ́ГЧЫСЯ** *сов.* распря́чься, вы́прячься.

**РАСПРЭ́ЖАНЫ** распряжённый, вы́пряженный.

**РАСПУ́ДЖАНЫ** распу́ганный, распу́гнутый.

**РАСПУ́ДЖВАЦЦА** *несов. страд.* распу́гиваться.

**РАСПУ́ДЖВАЦЬ** *несов.* распу́гивать.

**РАСПУ́ДЗІЦЬ** *сов.* распуга́ть, распугну́ть.

**РАСПУ́КВАЦЦА** *несов. разг.* распуска́ться; *см.* **распукну́цца.**

**РАСПУКНУ́ЦЦА** *сов. разг.* распусти́ться; **~ну́ўся бэз** распусти́лась сире́нь.

**РАСПУСКА́ННЕ** *ср.* **1.** распуска́ние; **2.** распуска́ние, растворе́ние; **3.** раста́пливание; **4.** расправле́ние; **5.** разжа́тие; **6.** расстила́ние; **7.** развя́зывание; **8.** распуска́ние; 1—8 *см.* **распуска́ць** 1, 3—9.

**РАСПУСКА́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* распуска́ться; **2.** распуска́ться; разбало́вываться, избало́вываться; **3.** избало́вываться, развраща́ться; **4.** распуска́ться, раствори́ться, расходи́ться; **5.** раста́пливаться; **6.** (*о пружине*) разжима́ться; 1—6 *см.* **распусці́цца; 7.** *страд.* распуска́ться; избало́вываться; растворя́ться; раста́пливаться; расправля́ться; разжима́ться; расстила́ться; развя́зываться; разноси́ться; *см.* **распуска́ць.**

**РАСПУСКА́ЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* распуска́ть; **2.** распуска́ть; избало́вывать; **3.** распуска́ть, растворя́ть; **4.** (*воск и т. п.*) раста́пливать; **5.** (*крылья*) расправля́ть; **6.** (*пружину*) разжима́ть; **7.** (*сноп*) расстила́ть; **8.** (*воз*) развя́зывать; **9.** (*распространять*) распуска́ть, разноси́ть; 1—9 *см.* **распусці́ць.**

**РАСПУ́СНА** *нареч.* распу́тно, развра́тно, блудли́во.

**РАСПУ́СНАСЦЬ** *ж.* **1.** распу́тность; развра́тность, развращённость, беспу́тство *ср.*, поро́чность, блудли́вость; **2.** озорство́ *ср.*, прока́зливость.

**РАСПУ́СНІК** *м.* **1.** распу́тник, развра́тник; **2.** озорни́к, баловни́к, прока́зник.

**РАСПУ́СНІЦА** *ж.* **1.** распу́тница, развра́тница; **2.** озорни́ца, баловни́ца, прока́зница.

**РАСПУ́СНІЧАЦЬ** *несов.* **1.** распу́тничать, развра́тничать, блуди́ть; **2.** озорнича́ть, прока́зить.

**РАСПУ́СНЫ 1.** распу́тный; развра́тный, развращённый, беспу́тный, поро́чный, блудли́вый; **2.** озорно́й, прока́зливый.

**РАСПУ́СТА** *ж.* **1.** распу́тство *ср.*, развра́т *м.*, блуд *м.*; **2.** баловство́ *ср.*, озорство́ *ср.*

**РАСПУСЦІ́ЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* распусти́ться; **на бяро́зках ~ціліся лісто́чкі** на берёзках распусти́лись листо́чки; **ко́сы ~ціліся** ко́сы распусти́лись; **2.** распусти́ться; разбалова́ться, избалова́ться; **дзе́ці зусі́м ~ціліся** де́ти совсе́м распусти́лись (разбалова́лись, избалова́лись); **3.** избалова́ться, разврати́ться; **4.** распусти́ться, раствори́ться, разойти́сь; **соль ~цілася** соль раствори́лась (разошла́сь); **5.** (*о воске и т. п.*) растопи́ться; **6.** (*о пружине*) разжа́ться.

**РАСПУСЦІЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* распусти́ть; **р. атра́д** распусти́ть отря́д; **р. камі́сію** распусти́ть коми́ссию; **р. парусы́** распусти́ть паруса́; **р. ко́сы** распусти́ть ко́сы; **р. по́яс** распусти́ть по́яс; **2.** распусти́ть; разбалова́ть, избалова́ть; **р. дзяце́й** распусти́ть (разбалова́ть, избалова́ть) дете́й; **3.** распусти́ть, раствори́ть; **р. цу́кар** распусти́ть (раствори́ть) са́хар; **4.** (*воск и т. п.*) растопи́ть; **5.** (*крылья*) распра́вить; **6.** (*пружину*) разжа́ть; **7.** (*сноп*) разостла́ть; **8.** (*воз*) развяза́ть; **9.** (*распространить*) распусти́ть, разнести́; **р. чу́тку** распусти́ть (разнести́) слух; ✧ **р. язы́к** распусти́ть язы́к, сболтну́ть ли́шнее; **р. ню́ні** распусти́ть ню́ни.

**РАСПУ́ТАНЫ** распу́танный; *см.* **распу́таць.**

**РАСПУ́ТАЦЦА** *сов.* (*освободиться от пут*) распу́таться.

**РАСПУ́ТАЦЬ** *сов.* (*снять путы*) распу́тать.

**РАСПУ́ТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* распу́тываться; *см.* **распу́тацца, распу́тваць.**

**РАСПУ́ТВАЦЬ** *несов.* (*снимать путы*) распу́тывать.

**РАСПУХА́ННЕ** *ср.* распуха́ние; *см.* **распуха́ць.**

**РАСПУХА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* распуха́ть; *см.* **распу́хнуць.**

**РАСПУ́ХЛЫ** распу́хший; *см.* **распу́хнуць.**

**РАСПУ́ХНУЦЬ** *сов. прям., перен.* распу́хнуть; **р. ад уда́ру** распу́хнуть от ушиба; **па́пка непаме́рна ~хла** па́пка чрезме́рно распу́хла.

**РАСПУ́ШАНЫ** *прям., перен.* распушённый.

**РАСПУ́ШВАЦЬ** *несов. прям., перен.* пуши́ть.

**РАСПУ́ШЧАНАСЦЬ** *ж.* распу́щенность, разну́зданность.

**РАСПУ́ШЧАНЫ 1.** *в разн. знач.* распу́щенный; **2.** распу́щенный; разбало́ванный, избало́ванный; **3.** распу́щенный, растворённый; **4.** растóпленный; **5.** распра́вленный; **6.** разжа́тый; **7.** разо́стланный; **8.** развя́занный; **9.** распу́щенный, разнесённый; 1—9 *см.* **распусціць.**

**РАСПУШЧА́ЦЦА** *несов. см.* **распуска́цца.**

**РАСПУШЧА́ЦЬ** *несов. см.* **распуска́ць.**

**РАСПУШЫЦЦА** *сов.* распуши́ться.

**РАСПУШЫЦЬ** *сов. прям., перен.* распуши́ть.

**РАСПЫЛЕНАСЦЬ** *ж.* распылённость.

**РАСПЫЛЕ́ННЕ** *ср. прям., перен.* распыле́ние; *см.* **распыліць.**

**РАСПЫЛЕНЫ** *прям., перен.* распылённый; *см.* **распыліць.**

**РАСПЫЛІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* распыли́ться.

**РАСПЫЛІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* распыли́ть; **р. на́фту** распыли́ть нефть; **р. сілы** распыли́ть си́лы.

**РАСПЫЛЬВАЦЦА** и **РАСПЫЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* распыля́ться; *см.* **распылі́цца, распы́льваць.**

**РАСПЫЛЬВАЦЬ** и **РАСПЫЛЯ́ЦЬ** *несов. прям., перен.* распыля́ть; *см.* **распыліць.**

**РАСПЫЛЯ́ЛЬНІК** *м.* распыли́тель.

**РАСПЫЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **распы́львацца.**

**РАСПЫЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **распы́льваць.**

**РАСПЫ́РСКАНЫ** разбры́зганный, распры́сканный.

**РАСПЫ́РСКАЦЦА** *сов.* разбры́згаться; **вада́ ~калася** вода́ разбры́згалась.

**РАСПЫРСКАЦЬ** *сов.* разбры́згать, распры́скать.

**РАСПЫРСКВАЛЬНІК** *м.* распры́скиватель.

**РАСПЫРСКВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разбры́згиваться.

**РАСПЫРСКВАЦЬ** *несов.* разбры́згивать, распры́скивать.

**РАСПЫТА́НЫ** расспро́шенный; *см.* **распыта́ць.**

**РАСПЫТА́ЦЦА** (*у каго пра што*) *сов.* расспроси́ть (*кого о чём*); **р. пра здаро́ўе** расспроси́ть о здоро́вье.

**РАСПЫТА́ЦЬ** *сов.* расспроси́ть; **р. аб даро́зе** расспроси́ть о доро́ге.

**РАСПЫТВАННЕ** *ср.* расспро́сы *мн.*, расспра́шивание.

**РАСПЫТВАЦЦА** (*у каго пра што*) *несов.* **1.** расспра́шивать (*кого о чём*); *см.* **распыта́цца; 2.** *страд.* расспра́шиваться; *см.* **распы́тваць.**

**РАСПЫТВАЦЬ** *несов.* расспра́шивать; *см.* **распыта́ць.**

**РАСПЭ́ЦКАНЫ** *разг.* разма́занный; *см.* **распэ́цкаць.**

**РАСПЭ́ЦКАЦЦА** *сов. разг.* разма́заться.

**РАСПЭ́ЦКАЦЬ** *сов. разг.* (*по поверхности*) разма́зать.

**РАСПЯВА́ЦЦА** *несов. страд.* распева́ться.

**РАСПЯВА́ЦЬ** *несов.* распева́ть.

**РАСП'Я́НСТВАВАЦЦА** *сов. разг.* раскути́ться.

**РАСПЯРА́ЗВАННЕ** *ср.* распоя́сывание.

**РАСПЯРА́ЗВАЦЦА** *несов.* **1.** распоя́сываться, снима́ть по́яс; **2.** (*о поясе*) расстёгиваться; **3.** *перен.* распоя́сываться; разну́здываться; **4.** *страд.* распоя́сываться.

**РАСПЯРА́ЗВАЦЬ** *несов.* распоя́сывать, снима́ть по́яс.

**РАСПЯ́ТЫ 1.** распя́тый; **2.** распя́ленный; 1, 2 *см.* **распя́ць.**

**РАСПЯ́ЦЦЕ** *ср. в разн. знач.* распя́тие.

**РАСПЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** распя́ть; **2.** распя́лить; **р. шку́ркі** распя́лить шку́рки.

**РАСПЯЧА́ТАНЫ** распеча́танный; вскры́тый; *см.* **распяча́таць.**

**РАСПЯЧА́ТАЦЦА** *сов.* распеча́таться.

**РАСПЯЧА́ТАЦЬ** *сов.* распеча́тать; (*письмо и т. п.— ещё*) вскрыть.

**РАСПЯЧА́ТВАННЕ** *ср.* распеча́тывание; вскры́тие; *см.* **распяча́тваць.**

**РАСПЯЧА́ТВАЦЦА** *несов.* **1.** распеча́тываться; **2.** *страд.* распеча́тываться; вскрыва́ться; *см.* **распяча́тваць.**

**РАСПЯЧА́ТВАЦЬ** *несов.* распеча́тывать; (*письмо и т. п.— ещё*) вскрыва́ть.

**РАССАБА́ЧЫЦЦА** *сов. прост.* распусти́ться, потеря́ть стыд.

**РАССА́ДЖАНЫ** *в разн. знач.* расса́женный; *см.* **рассадзіць.**

**РАССА́ДЖВАННЕ** *ср.* расса́живание; расса́дка *ж.*; *см.* **расса́джваць.**

**РАССА́ДЖВАЦЦА** *несов.* **1.** расса́живаться, размеща́ться; **2.** *разг.* (*садиться непринуждённо*) расса́живаться; 1, 2 *см.* **рассе́сціся** 1, 2; **3.** *страд.* расса́живаться; *см.* **расса́джваць.**

**РАССА́ДЖВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* расса́живать; *см.* **рассадзі́ць.**

**РАССАДЗІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* рассади́ть; **р. гасце́й** рассади́ть госте́й; **р. ву́чняў на ро́зныя па́рты** рассади́ть ученико́в на ра́зные па́рты; **р. са́джанцы** рассади́ть са́женцы; **р. галаву́** рассади́ть го́лову.

**РАССА́ДКА** *ж.* расса́дка; **р. кусто́ў** расса́дка кусто́в.

**РАССА́ДНІК** *м.* расса́дник; **бруд — р. зара́зы** грязь — расса́дник зара́зы.

**РАССАКРЭ́ЦІЦЬ** *сов.* рассекре́тить; **р. інстру́кцыю** рассекре́тить инстру́кцию; **р. супрацо́ўніка** рассекре́тить сотру́дника.

**РАССАКРЭ́ЧАНЫ** рассекре́ченный; *см.* **рассакрэ́ціць.**

**РАССАКРЭ́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* рассекре́чиваться; *см.* **рассакрэ́чваць.**

**РАССАКРЭ́ЧВАЦЬ** *несов.* рассекре́чивать; *см.* **рассакрэ́ціць.**

**РАССАЛАДЗІ́ЦЬ** *сов.* (*о сахаре*) распусти́ть в жи́дкости.

**РАССАЛО́ДЖАНЫ** распу́щенный в жи́дкости; *см.* **рассаладзіць.**

**РАССАРТАВА́ННЕ** *ср.* рассортиро́вывание, рассортиро́вка *ж.*

**РАССАРТАВА́НЫ** рассортиро́ванный.

**РАССАРТАВА́ЦЬ** *сов.* рассортирова́ть.

**РАССАРТО́ЎВАННЕ** *ср.* рассортиро́вывание, рассортиро́вка *ж.*

**РАССАРТО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* рассортиро́вываться.

**РАССАРТО́ЎВАЦЬ** *несов.* рассортиро́вывать.

**РАССВІДРАВА́НЫ** рассверлённый; разбура́вленный; *см.* **рассвідрава́ць.**

**РАССВІДРАВА́ЦЦА** *сов.* рассверли́ться.

**РАССВІДРАВА́ЦЬ** *сов.* рассверли́ть; (*буравом — ещё*) разбура́вить.

**РАССВІДРО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** рассве́рливаться; **2.** *страд.* рассве́рливаться; разбура́вливаться; *см.* **рассвідро́ўваць.**

**РАССВІДРО́ЎВАЦЬ** *несов.* рассве́рливать; (*буравом — ещё*) разбура́вливать.

**РАССВЯРБЕ́ЦЦА** *сов. разг.* раззуде́ться.

**РАССЕ́ДЖВАЦЦА** *несов. разг.* рассиживаться.

**РАССЕ́ЙВАННЕ** *ср. в разн. знач.* рассе́ивание; **р. святла́** рассе́ивание све́та; **р. варо́жай пяхо́ты** рассе́ивание вра́жеской пехо́ты; **р. лжы́вых чу́так** рассе́ивание ло́жных слу́хов.

**РАССЕ́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* рассе́иваться; *см.* **рассе́яцца, рассе́йваць.**

**РАССЕ́ЙВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* рассе́ивать; *см.* **рассе́яць.**

**РАССЕ́ЙНІК** *м.* (*машина*) рассе́в.

**РАССЕ́К, -ку** *м.* разру́б.

**РАССЕ́СЦІСЯ** *сов.* **1.** рассе́сться, размести́ться; **2.** *разг.* (*сесть непринуждённо*) рассе́сться; **3.** (*дать трещину*) рассе́сться; **сцяна́ ~се́лася** стена́ рассе́лась.

**РАССЕ́Ў, -се́ву** *м. с.-х.* рассе́в.

**РАССЕ́Ч** *сов. см.* **рассячы́.**

**РАССЕ́ЧАНЫ** рассечённый; разру́бленный; *см.* **рассячы́.**

**РАССЕ́ЧСЯ** *сов. см.* **рассячы́ся.**

**РАССЕ́ЯНА** *нареч.* рассе́янно; *см.* **рассе́яны.**

**РАССЕ́ЯНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* рассе́янность; *см.* **рассе́яны.**

**РАССЕ́ЯННЕ** *ср.* (*света, энергии*) рассе́яние.

**РАССЕ́ЯНЫ** *в разн. знач.* рассе́янный; **~нае святло́** *физ.* рассе́янный свет; **р. чалаве́к** рассе́янный челове́к.

**РАССЕ́ЯЦЦА** *сов. в разн. знач.* рассе́яться; **тума́н ~се́яўся** тума́н рассе́ялся; **стары́я сябры́ ~се́яліся па ўсёй краі́не** ста́рые друзья́ рассе́ялись по всей стране́; **кало́на во́рага ~се́ялася** коло́нна неприя́теля рассе́ялась; **непако́й ~се́яўся** трево́га рассе́ялась.

**РАССЕ́ЯЦЬ** *сов. в разн. знач.* рассе́ять; **р. медпу́нкты па ўсёй во́бласці** рассе́ять медпу́нкты по всей о́бласти; **р. эне́ргію** рассе́ять эне́ргию; **р. варо́жую ко́нніцу** рассе́ять вра́жескую ко́нницу; **р. хлусលі́выя чу́ткі** рассе́ять ло́жные слу́хи; **р. чыё-не́будзь го́ра** рассе́ять чьё-л. го́ре.

**РАССКАВЫТА́ЦЦА** *сов.* (*о собаке*) развизжа́ться.

**РАССКАКА́ЦЦА** *сов.* **1.** расскака́ться, распры́гаться; **2.** (*разогнаться — о лошади*) расскака́ться; **3.** распляса́ться.

**РАССКАРО́ДЖВАЦЬ** *несов. разг.* разборonóвывать.

**РАССКАРО́ДЗІЦЬ** *сов. разг.* разборони́ть, разборонова́ть.

**РАССКУБА́ННЕ** *ср.* расщи́пывание, раздёргивание; *см.* **расскуба́ць.**

**РАССКУБА́ЦЦА** *несов. страд.* расщи́пываться, раздёргиваться; *см.* **расскуба́ць.**

**РАССКУБА́ЦЬ** *несов.* расщи́пывать, раздёргивать; *см.* **расску́бці.**

**РАССКУ́БЕНЫ** расщи́панный, раздёрганный; *см.* **расску́бці.**

**РАССКУ́БЦІ** *сов.* расщипа́ть, раздёргать; **р. ва́ту** расщипа́ть (раздёргать) ва́ту.

**РАССКУГО́ЛІЦЦА** *сов.* **1.** (*о собаке*) разв**ы́**ться, развизжа́ться; **2.** *перен. разг.* распла́каться.

**РАССЛА́БІЦЦА** *сов.* рассла́биться.

**РАССЛА́БІЦЬ** *сов.* рассла́бить.

**РАССЛА́БЛЕНАСЦЬ** *ж.* рассла́бленность.

**РАССЛАБЛЕ́ННЕ** *ср.* расслабле́ние.

**РАССЛА́БЛЕНЫ** рассла́бленный.

**РАССЛАБЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* расслабля́ться.

**РАССЛАБЛЯ́ЦЬ** *несов.* расслабля́ть.

**РАССЛА́БНУЦЬ** *сов. разг.* рассла́бнуть.

**РАССЛА́ВІЦЬ** *сов. разг.* рассла́вить; **р. па ўсім го́радзе** рассла́вить по всему́ го́роду.

**РАССЛАЕ́ННЕ** *ср. прям., перен.* расслое́ние; **р. слюды́** расслое́ние слюды́; **р. сяля́нства** расслое́ние крестья́нства.

**РАССЛАІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* расслои́ться; **паро́да ~лаі́лася** поро́да расслои́лась; **пры капіталі́зме вёска ~лаі́лася** при капитали́зме дере́вня расслои́лась.

**РАССЛАІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* расслои́ть; **р. глébу** расслои́ть по́чву; **капіталі́зм ~лаіў сяля́нства** капитали́зм расслои́л крестья́нство.

**РАССЛА́ЎЛЕНЫ** *разг.* рассла́вленный; *см.* **рассла́віць.**

**РАССЛАЎЛЯ́ЦЬ** *несов. разг.* расславля́ть; *см.* **рассла́віць.**

**РАССЛЕ́ДАВАННЕ** *ср.* рассле́дование.

**РАССЛЕ́ДАВАНЫ** рассле́дованный.

**РАССЛЕ́ДАВАЦЬ** *сов. и несов.* рассле́довать.

**РАССЛІ́ЗГАЦЬ** *сов.* сде́лать ско́льзким, раската́ть.

**РАССЛО́ЕНЫ** *прям., перен.* расслоённый; *см.* **расслаі́ць.**

**РАССЛО́ЙВАННЕ** *ср. прям., перен.* рассла́ивание.

**РАССЛО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* рассла́иваться; *см.* **расслаі́цца, рассло́йваць.**

**РАССЛО́ЙВАЦЬ** *несов. прям., перен.* рассла́ивать; *см.* **расслаі́ць.**

**РАССЛО́ЙКА** *ж.* рассло́йка.

**РАССЛУ́ХАЦЬ** *сов.* рассл**ы́**шать, рассл**у́**шать.

**РАССМАКАВА́ЦЦА** *сов.* войти́ во вкус.

**РАССМАКАВА́ЦЬ** *сов.* (*понять*) почу́вствовать вкус.

**РАССМАКТА́ЦЬ** *сов. разг.* (*растворить*) рассоса́ть.

**РАССМЕ́ШАНЫ** рассмешённый.

**РАССМЯШЫ́ЦЬ** *сов.* рассмеши́ть.

**РАССМЯЯ́ЦЦА** *сов.* рассмея́ться.

**РАССНА́СТКА** *ж. мор.* расна́стка.

**РАССНА́СЦІЦЬ** *сов. мор.* расснасти́ть.

**РАССНА́ШЧАНЫ** *мор.* расснащённый.

**РАССНА́ШЧВАЦЦА** *несов. страд. мор.* расснащиваться.

**РАССНА́ШЧВАЦЬ** *несов. мор.* рассна́щивать.

**РАССО́ВАНЫ** *разг.* рассо́ванный; *см.* **рассо́ваць.**

**РАССО́ВАЦЬ** *сов. разг.* рассова́ть; **р. гро́шы па кішэ́нях** рассова́ть де́ньги по карма́нам.

**РАССО́ЎВАННЕ** *ср.* **1.** раздвига́ние, раздви́жка *ж.*; **2.** *разг.* рассо́вывание; 1, 2 *см.* **рассо́ўваць.**

**РАССО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** раздвига́ться; **2.** *страд.* раздвига́ться; рассо́вываться; *см.* **рассо́ўваць.**

**РАССО́ЎВАЦЬ** *несов.* **1.** раздвига́ть; *см.* **рассу́нуць;** **2.** *разг.* рассо́вывать; *см.* **рассо́ваць.**

**РАССО́ЎНЫ** раздвижно́й; раздвига́ющийся.

**РАССО́ХЛЫ** рассо́хшийся.

**РАССО́ХНУЦЦА** *сов.* рассо́хнуться.

**РАССПЯВА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* распе́ться.

**РАССТАВА́ННЕ** *ср.* расстава́ние.

**РАССТАВА́ЦЦА** *несов.* расстава́ться.

**РАССТА́ВІЦЬ** *сов.* **1.** расста́вить, расположи́ть, размести́ть; **р. мэ́блю** расста́вить (размести́ть) ме́бель; **2.** (*разъединить*) расста́вить, раздви́нуть; **р. но́гі** расста́вить (раздви́нуть) но́ги.

**РАССТАГНА́ЦЦА** *сов. разг.* расстона́ться.

**РАССТАНО́ЎКА** *ж. в разн. знач.* расстано́вка; **р. зна́каў прыпы́нку** расстано́вка зна́ков препина́ния; **р. сіл** расстано́вка сил.

**РАССТАРА́ЦЦА** *сов.* раздобы́ть.

**РАССТА́ЎЛЕНЫ** **1.** расста́вленный, располо́женный, размещённый; **2.** расста́вленный, раздви́нутый; 1, 2 *см.* **расста́віць.**

**РАССТАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* расставля́ться; располага́ться, размеща́ться; раздвига́ться; *см.* **расстаўля́ць.**

**РАССТАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* **1.** расставля́ть, располага́ть, размеща́ть; **2.** (*разъединять*) расставля́ть, раздвига́ть; 1, 2 *см.* **расста́віць.**

**РАССТА́ЦЦА** *сов.* расста́ться.

**РАССТРАЛЯ́НЫ** *в разн. знач.* расстре́лянный; *см.* **расстраля́ць.**

**РАССТРАЛЯ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* расстреля́ть; **р. шпіёнаў** расстреля́ть шпио́нов; **р. з заса́ды атра́д во́рага** расстреля́ть из заса́ды отря́д врага́; **р. усе́ патро́ны** расстреля́ть все патро́ны.

**РАССТРО́ЕНЫ** *в разн. знач.* расстро́енный; *см.* **расстро́іць.**

**РАССТРО́ІЦЦА** *сов. в разн. знач.* расстро́иться; **рады́ праці́ўніка ~ро́іліся** ряды́ проти́вника расстро́ились; **гэ́ты план ~ро́іўся** э́тот план расстро́ился; **скры́пка ~ро́ілася** скри́пка расстро́илась.

**РАССТРО́ІЦЬ** *сов. в разн. знач.* расстро́ить; **р. рады́ праці́ўніка** расстро́ить ряды́ проти́вника; **р. пла́ны** расстро́ить пла́ны; **р. рая́ль** расстро́ить роя́ль.

**РАССТРО́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* расстра́иваться; *см.* **расстро́іцца, расстро́йваць.**

**РАССТРО́ЙВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* расстра́ивать; *см.* **расстро́іць.**

**РАССТРО́ЙСТВА** *ср. в разн. знач.* расстро́йство.

**РАССТРЫ́ГА** *м. церк. пренебр.* расстри́га.

**РАССТРЫГА́ЦЦА** *несов. возвр., страд. церк.* расстрига́ться.

**РАССТРЫГА́ЦЬ** *несов. церк.* расстрига́ть.

**РАССТРЫ́ГЧЫ** *сов. церк.* расстри́чь.

**РАССТРЫ́ГЧЫСЯ** *сов. церк.* расстри́чься.

**РАССТРЫ́ЖАНЫ** *церк.* расстри́женный.

**РАССТРЫЖЭ́ННЕ** *ср. церк.* расстриже́ние.

**РАССТРЭ́Л, -лу** *м. в разн. знач.* расстре́л.

**РАССТРЭ́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд.* расстре́ливаться; *см.* **расстрэ́льваць.**

**РАССТРЭ́ЛЬВАЦЬ** *несов. в разн. знач.* расстре́ливать; *см.* **расстраля́ць.**

**РАССТУПА́ЦЦА** *несов. прям., перен.* расступа́ться; раздава́ться; *см.* **расступі́цца.**

**РАССТУПІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* расступи́ться; разда́ться; **наро́д ~пі́ўся** наро́д расступи́лся (разда́лся); **зямля́ ~пі́лася** земля́ расступи́лась (раздала́сь).

**РАССУ́ДЖАНЫ** рассу́женный; решённый; разрешённый; *см.* **рассудзі́ць.**

**РАССУ́ДЖВАЦЬ** *несов.* рассу́живать; реша́ть; (*спор — ещё*) разреша́ть.

**РАССУДЗІ́ЦЬ** *сов.* рассуди́ть; реши́ть; (*спор — ещё*) разреши́ть.

**РАССУКА́НЫ** рассу́ченный.

**РАССУКА́ЦЦА** *сов.* рассучи́ться.

**РАССУКА́ЦЬ** *сов.* рассучи́ть.

**РАССУ́КВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* рассу́чиваться.

**РАССУ́КВАЦЬ** *несов.* рассу́чивать.

**РАССУ́НУТЫ** раздви́нутый; *см.* **рассу́нуць.**

**РАССУ́НУЦЦА** *сов.* раздви́нуться; **крэ́слы ~нуліся** сту́лья раздви́нулись.

**РАССУ́НУЦЬ** *сов.* раздви́нуть; **р. крэ́слы ў бакі́** раздви́нуть сту́лья в сто́роны; **р. што́ры** раздви́нуть што́ры; **р. стол** раздви́нуть стол.

**РАССУПО́НЕНЫ** рассупо́ненный.

**РАССУПО́НІЦЦА** *сов.* рассупо́ниться.

**РАССУПО́НІЦЬ** *сов.* рассупо́нить.

**РАССУПО́НЬВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* рассупо́ниваться.

**РАССУПО́НЬВАЦЬ** *несов.* рассупо́нивать.

**РАССЦІЛА́ННЕ** *ср.* расстила́ние, расст́ил *м.*, расст́илка *ж.*; *см.* **рассціла́ць.**

**РАССЦІЛА́ЦЦА** *несов.* 1. расстила́ться; распростира́ться, раски́дываться; *см.* **разасла́цца; 2.** *страд.* расстила́ться; *см.* **рассціла́ць.**

**РАССЦІЛА́ЦЬ** *несов.* расстила́ть; *см.* **разасла́ць** II.

**РАССЦІ́ЛКА** *ж.* расст́илка, расст́ил *м.*; *см.* **рассціла́ць.**

**РАССЫЛА́ННЕ** *ср.* рассыла́ние, рассы́лка *ж.*; *см.* **рассыла́ць.**

**РАССЫЛА́ЦЦА** *несов. страд.* рассыла́ться; *см.* **рассыла́ць.**

**РАССЫЛА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* рассыла́ть; *см.* **разасла́ць** I.

**РАССЫ́ЛАЧНЫ** рассы́лочный.

**РАССЫ́ЛКА** *ж.* рассы́лка; *см.* **рассыла́ць.**

**РАССЫ́ЛЬНАЯ** *сущ.* рассы́льная.

**РАССЫ́ЛЬНЫ 1.** *прил.* рассы́льный; **2.** *в знач. сущ.* рассы́льный.

**РАССЫПА́ННЕ** *ср.* **1.** рассыпа́ние, рассы́пка *ж.*; **2.** рассыпа́ние; рассы́пка *ж.*; **3.** *перен.* рассе́ивание; рассыпа́ние; 1—3 *см.* **рассыпа́ць** 1—3.

**РАССЫ́ПАНЫ 1.** рассы́панный, просы́панный; **2.** рассы́панный; **3.** *перен.* рассе́янный; рассы́панный; 1—3 *см.* **рассы́паць.**

**РАССЫ́ПАЦЦА** *сов.* **1.** рассы́паться, просы́паться; **соль ~палася** соль рассы́палась (просы́палась); **2.** (*распасться*) рассы́паться; **валасы́ ~паліся па плячах** во́лосы рассы́пались по плеча́м; **бо́чка ~палася** бо́чка рассы́палась; **3.** *перен.* рассы́паться; рассе́яться; **ро́та ~палася па ле́се** ро́та рассы́палась по́ лесу; **лю́дзі ~паліся па ўсі́м по́лі** лю́ди рассе́ялись по всему́ по́лю.

**РАССЫПА́ЦЦА** *несов.* **1.** рассыпа́ться, просыпа́ться; **2.** (*распадаться*) рассыпа́ться; **3.** *перен.* рассыпа́ться; рассе́иваться; 1—3 *см.* **рассы́пацца; 4.** *страд.* рассыпа́ться; просыпа́ться; рассе́иваться; *см.* **рассыпа́ць** 1—3; ✧ **р. дро́бным ма́кам** рассыпа́ться ме́лким бе́сом; лебези́ть; **р. ў кампліме́нтах** рассыпа́ться в комплиме́нтах.

**РАССЫ́ПАЦЬ** *сов.* **1.** рассы́пать, просы́пать; **р. соль** рассы́пать (просы́пать) соль; **2.** (*распределить*) рассы́пать; **р. муку́ па мяшка́х** рассы́пать муку́ по мешка́м; **3.** *перен.* (*разбросать кого-что-л.*) рассе́ять; рассы́пать; **р. шко́лы па ўсёй краі́не** рассе́ять шко́лы по всей стране́; **р. ро́ту ўздоўж даро́гі** рассы́пать ро́ту вдоль доро́ги.

**РАССЫПА́ЦЬ** *несов.* **1.** рассыпа́ть, просыпа́ть; **2.** (*распределять*) рассыпа́ть; **3.** *перен.* (*разбрасывать кого-что-л.*) рассе́ивать; рассыпа́ть; 1—3 *см.* **рассы́паць; 4.** (*улыбки, похвалы и т. п.*) расточа́ть; **р. усме́шкі** расточа́ть улы́бки.

**РАССЫ́ПІСТАСЦЬ** *ж.* рассы́пчатость.

**РАССЫ́ПІСТЫ** рассы́пчатый.

**РАССЫ́ПКА** *ж.* **1.** (*действие*) рассы́пка; **2.** *торг.* (*потеря в весе*) рассы́пка, растру́ска.

**РАССЫПНЫ́** рассыпно́й; **р. строй** *воен.* рассыпно́й строй.

**РАССЫ́ПЧАТЫ** *см.* **рассы́пісты.**

**РАССЫ́ПШЧЫК** *м.* рассы́пщик.

**РАССЫ́ПШЧЫЦА** *ж.* рассы́пщица.

**РАССЫСА́ННЕ** *ср. разг.* расса́сывание.

**РАССЫСА́ЦЦА** *несов. страд. разг.* расса́сываться.

**РАССЫСА́ЦЬ** *несов. разг.* расса́сывать.

**РАССЫХА́ННЕ** *ср.* рассыха́ние.

**РАССЫХА́ЦЦА** *несов.* рассыха́ться.

**РАССЯВА́ЛЬШЧЫК** *м.* рассева́льщик.

**РАССЯВА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* рассева́льщица.

**РАССЯВА́ННЕ** *ср. с.-х.* рассе́в *м.*; **р. мінера́льных угнае́нняў** рассе́в минера́льных удобре́ний.

**РАССЯВА́ЦЦА** *несов. страд. с.-х.* рассева́ться.

**РАССЯВА́ЦЬ** *несов. с.-х.* рассева́ть.

**РАССЯДА́ЦЦА** *несов.* **1.** расса́живаться, размеща́ться; **2.** (*давать трещину*) рассeда́ться; *см.* **рассе́сціся** 3.

**РАССЯДЗЕ́ЦЦА** *сов. разг.* рассиде́ться.

**РАССЯДЛА́НЫ** рассе́дланный.

**РАССЯДЛА́ЦЦА** *сов.* расседла́ться.

**РАССЯДЛА́ЦЬ** *сов.* расседла́ть.

**РАССЯДЛО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* рассёдлываться.

**РАССЯДЛО́ЎВАЦЬ** *несов.* рассёдлывать.
**РАССЯКА́ННЕ** *ср.* рассече́ние; разруба́ние, разру́бка *ж.*; *см.* **рассяка́ць.**
**РАССЯКА́ЦЦА** *несов.* **1.** разруба́ться; *см.* **рассячы́ся; 2.** *страд.* рассека́ться; разруба́ться; *см.* **рассяка́ць.**
**РАССЯКА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* рассека́ть; (*рубя, разделять на части — ещё*) разруба́ть; *см.* **рассячы́.**
**РАССЯЛЕ́ННЕ** *ср.* расселе́ние.
**РАССЯЛІ́ЦЦА** *сов.* рассели́ться.
**РАССЯЛІ́ЦЬ** *сов.* рассели́ть.
**РАССЯЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* расселя́ться.
**РАССЯЛЯ́ЦЬ** *несов.* расселя́ть.
**РАССЯЧЫ́** *и* **РАССЕ́Ч** *сов. в разн. знач.* рассе́чь; (*рубя, разделить на части — ещё*) разруби́ть; **р. палéна** рассе́чь (разруби́ть) поле́но; **р. пáлец** рассе́чь па́лец; **р. бот** рассе́чь сапо́г; **параход рассéк хвáлі** парохо́д рассе́к во́лны; **шашá рассéкла лес на дзве чáсткі** шоссе́ рассекло́ лес на́ две ча́сти.
**РАССЯЧЫ́СЯ** *и* **РАССЕ́ЧСЯ** *сов.* разруби́ться; **палéна лёгка рассéклася** поле́но легко́ разруби́лось.
**РАССЯЧЭ́ННЕ** *ср.* рассече́ние; разруба́ние; *см.* **рассячы́.**
**РАСТАВА́ННЕ** *ср.* та́яние; *см.* **растава́ць** 1.
**РАСТАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** *прям., перен.* та́ять, раста́ивать; (*о снеге — ещё*) иста́ивать, ста́ивать; **2.** растворя́ться, распуска́ться; расходи́ться; **3.** раста́пливаться; 1—3 *см.* **раста́ць.**
**РАСТА́ЙВАЦЬ** *несов. разг.* раста́ивать, раста́пливать; *см.* **раста́яць.**
**РАСТА́ЛЫ** раста́явший.
**РАСТАМЕ́Р** *м. спец.* ростоме́р.
**РАСТАНЦАВА́ЦЦА** *сов. разг.* распляса́ться.
**РАСТАПІ́ЦЦА** *сов.* растопи́ться; (*о воске и т. п.— ещё*) распла́виться.
**РАСТАПІ́ЦЬ** *сов.* растопи́ть; (*воск и т. п.— ещё*) распла́вить.
**РАСТАПЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **растóпліваццa.**
**РАСТАПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **растóпліваць.**
**РАСТАПТА́НЫ** *и* **РАСТО́ПТАНЫ 1.** растóптанный; **2.** *разг.* разно́шенный, растóптанный; 1, 2 *см.* **растапта́ць.**
**РАСТАПТА́ЦЦА** *сов. разг.* (*об обуви*) разноси́ться, растопта́ться.
**РАСТАПТА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*раздавить*) растопта́ть; **2.** *разг.* (*обувь*) разноси́ть, растопта́ть.
**РАСТАПЫ́РАНЫ** *разг.* растопы́ренный.
**РАСТАПЫ́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* растопы́риваться.
**РАСТАПЫ́РВАЦЬ** *несов. разг.* растопы́ривать.
**РАСТАПЫ́РЫЦЦА** *сов. разг.* растопы́риться.
**РАСТАПЫ́РЫЦЬ** *сов. разг.* растопы́рить.
**РАСТАРГАВА́НЫ** *разг.* расторго́ванный.
**РАСТАРГАВА́ЦЦА** *сов. разг.* расторгова́ться.
**РАСТАРГАВА́ЦЬ** *сов. разг.* расторгова́ть.
**РАСТАРГО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* расторго́вываться.
**РАСТАРГО́ЎВАЦЬ** *несов. разг.* расторго́вывать.
**РАСТАРМАЖЭ́ННЕ** *ср.* растормо́жение.
**РАСТАРМАЗІ́ЦЬ** *сов.* растормози́ть.
**РАСТАРМАСІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* растормоши́ть.
**РАСТАРМО́ШАНЫ** *прям., перен.* растормошённый.
**РАСТАСАВА́НЫ** *и* **РАСТАСО́ВАНЫ** *прям., перен.* растасо́ванный; *см.* **растасава́ць.**
**РАСТАСАВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* растасова́ть; **р. кáрты** растасова́ть ка́рты; **р. людзéй па грýпах** растасова́ть людéй по гру́ппам.
**РАСТАСО́ВАНЫ** *см.* **растасава́ны.**
**РАСТАСО́ЎВАННЕ** *ср.* растасо́вывание, растасо́вка *ж.*; *см.* **растасóўваць.**
**РАСТАСО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* растасо́вываться; *см.* **растасóўваць.**
**РАСТАСО́ЎВАЦЬ** *несов. прям., перен.* растасо́вывать; *см.* **растасава́ць.**
**РАСТАСО́ЎКА** *ж.* растасо́вка; *см.* **растасава́ць.**
**РАСТАЎСЦЕ́ЛЫ** растолсте́вший, располне́вший; разжире́вший, раздобре́вший.
**РАСТАЎСЦЕ́ЦЬ** *сов.* растолсте́ть, располне́ть; разжире́ть, раздобре́ть.
**РАСТАЎЧЫ́** *сов.* **1.** растоло́чь; (*картошку*) размя́ть; **р. пéрац** растоло́чь пе́рец; **2.** *разг.* разби́ть, расколоти́ть; **р. вáзу** разби́ть (расколоти́ть) ва́зу; **3.** *прост.* расква́сить; **р. нос** расква́сить нос.
**РАСТАЎЧЫ́СЯ** *сов.* **1.** (*о картошке*) размя́ться; **2.** *разг.* разби́ться, расколоти́ться.
**РАСТА́ЦЬ** *сов.* **1.** *прям., перен.* раста́ять; (*о снеге — ещё*) иста́ять, ста́ять; **гýкі ~тáлі** зву́ки раста́яли; **грóшы ~тáлі** де́ньги раста́яли; **2.** раствори́ться, распусти́ться; разойти́сь; **цýкар ~тáў у вадзé** са́хар раствори́лся (разошёлся) в воде́; **3.** растопи́ться; **мáсла ~тáла** ма́сло растопи́лось.
**РАСТАЧЫ́ЦЦА** *сов.* (*на станке и т. п.*) расточи́ться.
**РАСТАЧЫ́ЦЬ** I *сов.* (*на станке и т. п.*) расточи́ть.
**РАСТАЧЫ́ЦЬ** II *сов.* (*о червях и т. п.*) источи́ть.
**РАСТАЧЫ́ЦЬ** III *сов. порт.* расста́вить; **р. каўнéр кашýлі** расста́вить во́рот руба́шки.
**РАСТА́ЯЦЬ** *сов. разг.* раста́ять, растопи́ть; **р. лёд** раста́ять (растопи́ть) лёд.
**РАСТВАРА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. хим.* раствори́мость, растворя́емость.
**РАСТВАРА́ЛЬНІК, -ку** *м. хим.* раствори́тель.
**РАСТВАРА́ЛЬНЫ** *хим.* **1.** раствори́мый; **~ныя рэ́чывы** раствори́мые вещества́; **2.** растворя́ющий.
**РАСТВАРА́ЦЦА** *несов. возвр., страд. хим.* растворя́ться.
**РАСТВАРА́ЦЬ** *несов. хим.* растворя́ть.
**РАСТВАРЫ́ЦЦА** *сов. хим.* раствори́ться.
**РАСТВАРЫ́ЦЬ** *сов. хим.* раствори́ть.
**РАСТВАРЭ́ННЕ** *ср. хим.* растворе́ние.
**РАСТВО́Р, -ру** *м. хим.* раство́р.
**РАСТВО́РАНЫ** *хим.* растворённый.
**РАСТЛУМАЧА́ЛЬНЫ** разъясни́тельный.
**РАСТЛУМА́ЧАНЫ** разъяснённый, объяснённый, пояснённый, растолко́ванный.
**РАСТЛУМА́ЧВАЦЦА** *несов. страд.* разъясня́ться, объясня́ться, поясня́ться, растолко́вываться.
**РАСТЛУМА́ЧВАЦЬ** *несов.* разъясня́ть, объясня́ть, поясня́ть, растолко́вывать.
**РАСТЛУМА́ЧЫЦЬ** *сов.* разъясни́ть, объясни́ть, поясни́ть, растолкова́ть.
**РАСТЛУМАЧЭ́ННЕ** *ср.* **1.** (*действие*) разъясне́ние, объясне́ние, поясне́ние, растолко́вывание; **2.** (*речь, документ*) разъясне́ние; **афіцы́йнае р.** официа́льное разъясне́ние.
**РАСТЛУСЦЕ́ЛЫ** разжире́вший, зажире́вший.
**РАСТЛУСЦЕ́ЦЬ** *сов.* разжире́ть, зажире́ть.
**РАСТО́К, -ткá** *м. прям., перен.* росто́к.
**РАСТО́ПЛЕНЫ** растóпленный; распла́вленный; *см.* **растапі́ць.**
**РАСТО́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раста́пливаться; расплавля́ться; *см.* **растапі́цца, растóпліваць.**
**РАСТО́ПЛІВАЦЬ** *несов.* раста́пливать; (*воск и т. п.— ещё*) расплавля́ть.
**РАСТО́ПТАНЫ** *см.* **растапта́ны.**
**РАСТО́ПТВАЦЦА** *несов.* **1.** *разг.* (*об обуви*) разна́шиваться, раста́птываться; **2.** *страд.* раста́птываться; разна́шиваться; *см.* **растóптваць.**
**РАСТО́ПТВАЦЬ** *несов.* **1.** (*раздавливать*) раста́птывать; **2.** *разг.* (*обувь*) разна́шивать, раста́птывать.
**РАСТО́РКАЦЬ** *сов. обл.* рассова́ть, распиха́ть.

**РАСТО́ЎКАЦЦА** *и* **РАСТО́ЎКВАЦЦА** *несов.* **1.** (*о картошке*) размина́ться; **2.** *разг.* разбива́ться, расколачиваться; **3.** *страд.* толо́чься; размина́ться; разбива́ться, расколачиваться; раскваашиваться; *см.* **расто́ўкаць.**

**РАСТО́ЎКАЦЬ** *и* **РАСТО́ЎКВАЦЬ** *несов.* **1.** толо́чь; (*картошку*) размина́ть; **2.** *разг.* разбива́ть, расколачивать; **3.** *прост.* расква́шивать; 1—3 *см.* **растаўчы́.**

**РАСТО́ЎКВАЦЦА** *несов. см.* **расто́ўкацца.**

**РАСТО́ЎКВАЦЬ** *несов. см.* **расто́ўкаць.**

**РАСТО́Ў-НА-ДО́НЕ,** *род.* **Растова-на-До́не** *м. г.* Росто́в-на-Дону́.

**РАСТО́ЎСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ** Росто́вская о́бласть.

**РАСТО́ЎЧАНЫ 1.** растолчённый; размя́тый; **2.** *разг.* разби́тый, расколо́ченный; **3.** *прост.* расква́шенный; 1—3 *см.* **растаўчы́.**

**РАСТО́ЧАНЫ** I расто́ченный; *см.* **растачы́ць** I.

**РАСТО́ЧАНЫ** II исто́ченный; *см.* **растачы́ць** II.

**РАСТО́ЧАНЫ** III *порт.* расста́вленный; *см.* **растачы́ць** III.

**РАСТО́ЧВАННЕ** I *ср.* раста́чивание, расто́чка *ж.*; *см.* **расто́чваць** I.

**РАСТО́ЧВАННЕ** II *ср.* иста́чивание; *см.* **расто́чваць** II.

**РАСТО́ЧВАННЕ** III *ср. порт.* расста́вка *ж.*; *см.* **расто́чваць** III.

**РАСТО́ЧВАЦЦА** I *несов. возвр., страд.* раста́чиваться; *см.* **растачы́цца, расто́чваць** I.

**РАСТО́ЧВАЦЦА** II *несов. страд.* иста́чиваться; *см.* **расто́чваць** II.

**РАСТО́ЧВАЦЦА** III *несов. страд. порт.* расставля́ться; *см.* **расто́чваць** III.

**РАСТО́ЧВАЦЬ** I *несов.* (*на станке и т. п.*) раста́чивать.

**РАСТО́ЧВАЦЬ** II *несов.* (*о червях и т. п.*) иста́чивать.

**РАСТО́ЧВАЦЬ** III *несов. порт.* расставля́ть; *см.* **растачы́ць** III.

**РАСТО́ЧКА** I *ж.* расто́чка; *см.* **растачы́ць** I.

**РАСТО́ЧКА** II *ж. порт.* расста́вка; *см.* **растачы́ць** III.

**РАСТО́ЧНІК** *м.* расто́чник.

**РАСТО́ЧНЫ** *тех.* расто́чный.

**РАСТР** *м. спец.* растр.

**РАСТРАВІ́ЦЦА** *сов. полигр.* растрави́ться.

**РАСТРАВІ́ЦЬ** *сов. полигр.* растрави́ть.

**РА́СТРАВЫ** *спец.* ра́стровый.

**РАСТРА́ЛЬНЫ** *архит.* ростра́льный.

**РАСТРАНЖЫ́РАНЫ** *разг.* растранжи́ренный.

**РАСТРАНЖЫ́РВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* растранжи́риваться.

**РАСТРАНЖЫ́РВАЦЬ** *несов. разг.* растранжи́ривать.

**РАСТРАНЖЫ́РЫЦЦА** *сов. разг.* растранжи́риться.

**РАСТРАНЖЫ́РЫЦЬ** *сов. разг.* растранжи́рить.

**РАСТРАПА́НЫ** растрёпанный; взлохма́ченный, взъеро́шенный; *см.* **растрапа́ць.**

**РАСТРАПА́ЦЦА** *сов.* растрепа́ться; (*о волосах — ещё*) взлохма́титься, взъеро́шиться.

**РАСТРАПА́ЦЬ** *сов.* растрепа́ть; (*волосы — ещё*) взлохма́тить, взъеро́шить; **р. пянькý** растрепа́ть пеньку́.

**РАСТРАСА́ЦЦА** *и* **РАСТРЭ́СВАЦЦА** *несов.* **1.** растру́шиваться, растряса́ться; **2.** *страд.* растряса́ться, растру́шиваться, развора́шиваться; *см.* **растраса́ць** 1.

**РАСТРАСА́ЦЬ** *и* **РАСТРЭ́СВАЦЬ** *несов.* **1.** (*разбрасывать*) растряса́ть, растру́шивать, развора́шивать; **2.** *разг.* теря́ть; **3.** *перен. разг.* разруша́ть, разоря́ть; 1—3 *см.* **растрэ́сці.**

**РАСТРА́ТА** *ж.* растра́та; **пакры́ць ~ту** покры́ть растра́ту.

**РАСТРА́ТЧЫК** *м.* растра́тчик.

**РАСТРА́ТЧЫЦА** *ж.* растра́тчица.

**РАСТРА́ЎЛЕНЫ** *полигр.* растра́вленный.

**РАСТРА́ЎЛІВАННЕ** *ср. полигр.* растравле́ние, растра́вливание.

**РАСТРА́ЎЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд. полигр.* растравля́ться, растра́вливаться.

**РАСТРА́ЎЛІВАЦЬ** *несов. полигр.* растравля́ть, растра́вливать.

**РАСТРА́ЦІЦЦА** *сов.* растра́титься, израсхо́доваться, издержа́ться.

**РАСТРА́ЦІЦЬ** *сов.* **1.** растра́тить, израсхо́довать, издержа́ть; (*попусту — ещё*) расточи́ть; **2.** *перен.* растра́тить; **р. сі́лы** растра́тить си́лы.

**РАСТРА́ЧАНЫ 1.** растра́ченный, израсхо́дованный, издёржанный; расточённый; **2.** *перен.* растра́ченный; 1, 2 *см.* **растра́ціць.**

**РАСТРА́ЧВАЦЦА** *несов.* **1.** растра́чиваться, расхо́доваться, издёрживаться; **2.** *страд.* растра́чиваться; расхо́доваться, издёрживаться; расточа́ться; *см.* **растра́чваць.**

**РАСТРА́ЧВАЦЬ** *несов.* **1.** растра́чивать, расхо́довать, издёрживать; (*попусту — ещё*) расточа́ть; **2.** *перен.* растра́чивать; 1, 2 *см.* **растра́ціць.**

**РАСТРО́ПА** *м. и ж. разг.* растрёпа.

**РАСТРУ́Б** *м.* растру́б; **бо́ты з ~бамі** сапоги́ с растру́бами.

**РАСТРУБІ́ЦЬ** *сов. разг.* раструби́ть; **р. па ўсім го́радзе** раструби́ть по всему́ го́роду.

**РАСТРУ́БНЫ** *тех.* растру́бный.

**РАСТРУ́ШЧАНЫ** *разг.* разби́тый, раздро́бленный, раздроблённый; размозжённый.

**РАСТРУ́ШЧВАННЕ** *ср.* раздробле́ние, размельче́ние.

**РАСТРУ́ШЧВАЦЦА** *несов. возвр., страд. разг.* разбива́ться, раздробля́ться.

**РАСТРУ́ШЧВАЦЬ** *несов. разг.* разбива́ть, раздробля́ть.

**РАСТРУ́ШЧЫЦЦА** *сов.* разби́ться, раздроби́ться; размозжи́ться.

**РАСТРУ́ШЧЫЦЬ** *сов. разг.* разби́ть, раздроби́ть; размозжи́ть.

**РАСТРЫБУ́ШАНЫ** *разг.* разва́ленный; растрёпанный, разо́рванный; растерзанный, распотрошённый.

**РАСТРЫБУШЫ́ЦЦА** *сов. разг.* растрепа́ться.

**РАСТРЫБУШЫ́ЦЬ** *сов. разг.* развали́ть; растрепа́ть, разорва́ть; растерза́ть, распотроши́ть.

**РАСТРЫВО́ЖАНЫ 1.** растрево́женный; встрево́женный; **2.** разбережённый, растра́вленный; **3.** *перен.* разбережённый растра́вленный; 1—3 *см.* **растрыво́жыць.**

**РАСТРЫВО́ЖВАЦЦА** *несов.* **1.** растрево́живаться; **2.** *страд.* береди́ться; растравля́ться; *см.* **растрыво́жваць** 2, 3.

**РАСТРЫВО́ЖВАЦЬ** *несов.* **1.** растрево́живать; встрево́живать; **2.** (*рану*) береди́ть, растравля́ть; **3.** *перен.* береди́ть, растравля́ть; 1—3 *см.* **растрыво́жыць.**

**РАСТРЫВО́ЖЫЦЦА** *сов.* растрево́житься.

**РАСТРЫВО́ЖЫЦЬ** *сов.* **1.** растрево́жить; встрево́жить; **р. паведамле́ннем** растрево́жить сообще́нием; **2.** (*рану*) разбереди́ть, растрави́ть; **3.** *перен.* разбереди́ть, растрави́ть; **р. старо́е го́ра** растрави́ть ста́рое го́ре.

**РАСТРЭ́ПВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* растрёпываться; взлохма́чиваться, взъеро́шиваться; *см.* **растрапа́цца, растрэ́пваць.**

**РАСТРЭ́ПВАЦЬ** *несов.* растрёпывать; (*волосы — ещё*) взлохма́чивать, взъеро́шивать; *см.* **растрапа́ць.**

**РАСТРЭ́СВАННЕ** *ср.* растряса́ние, растру́шивание; развора́шивание; *см.* **растраса́ць** 1.

**РАСТРЭ́СВАЦЦА** *несов. страд. см.* **растраса́цца** 2.

**РАСТРЭ́СВАЦЬ** *несов. см.* **растраса́ць.**

**РАСТРЭ́СЕНЫ 1.** растрясённый, растру́шенный, разворошённый; **2.** *разг.* растерянный; **3.** *перен. разг.* разру́шенный, разорённый; 1—3 *см.* **растрэ́сці.**

**РАСТРЭ́СКАНЫ** растре́скавшийся, покры́тый тре́щинами.

**РАСТРЭ́СКАЦЦА** *сов.* растре́скаться, покры́ться тре́щинами.

**РАСТРЭ́СКВАЦЦА** *несов.* растре́скиваться, покрыва́ться тре́щинами.
**РАСТРЭ́СЦІ** *сов.* 1. (*разбросать*) растрясти́, раструси́ть, развороши́ть; **р. се́на па двары́** растрясти́ (раструси́ть, развороши́ть) се́но по́ двору; 2. *разг.* растеря́ть; **р. па даро́зе** растеря́ть по доро́ге; 3. *перен. разг.* разру́шить, разори́ть; **р. гаспада́рку** разру́шить (разори́ть) хозя́йство.
**РАСТРЭ́СЦІСЯ** *сов.* раструси́ться, растрясти́сь.
**РАСТУ́ЛЕНЫ** разжа́тый; *см.* **растулі́ць** 1.
**РАСТУЛІ́ЦЦА** *сов.* 1. разжа́ться; **гу́бы ~лі́ліся** гу́бы разжа́лись; 2. (*о циркуле*) раствори́ться.
**РАСТУЛІ́ЦЬ** *сов.* 1. разжа́ть; **р. гу́бы** разжа́ть гу́бы; 2. (*циркуль*) раствори́ть.
**РАСТУ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* 1. разжима́ться; *см.* **растулі́цца** 1; 2. (*о циркуле*) растворя́ться; 3. *страд.* разжима́ться; растворя́ться; *см.* **расту́льваць.**
**РАСТУ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* 1. разжима́ть; *см.* **растулі́ць** 1; 2. (*циркуль*) растворя́ть.
**РАСТУ́ШАВА́НЫ** растушёванный.
**РАСТУШАВА́ЦЬ** *сов.* растушева́ть.
**РАСТУШО́ЎВАННЕ** *ср.* растушёвывание, растушёвка *ж.*
**РАСТУШО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* растушёвываться.
**РАСТУШО́ЎВАЦЬ** *несов.* растушёвывать.
**РАСТУШО́ЎКА** *ж. в разн. знач.* растушёвка.
**РАСТЫ́КАНЫ** *разг. в разн. знач.* расты́канный; *см.* **расты́каць.**
**РАСТЫ́КАЦЬ** *сов. разг. в разн. знач.* расты́кать; **р. калкі́** расты́кать ко́лышки; **р. кні́жкі па палі́цах** расты́кать кни́жки по по́лкам.
**РАСТЫКА́ЦЬ** *несов. разг. в разн. знач.* растыка́ть; *см.* **расты́каць.**
**РАСТЭРМІНАВА́НЫ** *и* **РАСТЭРМІНО́ВАНЫ** рассро́ченный.
**РАСТЭРМІНАВА́ЦЬ** *сов.* рассро́чить.
**РАСТЭРМІНО́ВАНЫ** *см.* **растэрмінава́ны.**
**РАСТЭРМІНО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* рассро́чиваться.
**РАСТЭРМІНО́ЎВАЦЬ** *несов.* рассро́чивать.
**РАСТЭРМІНО́ЎКА** *ж.* рассро́чка.
**РАСФАНТАЗІ́РАВАЦЦА** *сов. разг.* расфантази́роваться.
**РАСФАРБАВА́НЫ** раскра́шенный, расцве́ченный.
**РАСФАРБАВА́ЦЬ** *сов.* раскра́сить, расцвети́ть.
**РАСФАРБО́ЎВАННЕ** *ср.* раскра́шивание, расцве́чивание.
**РАСФАРБО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* раскра́шиваться, расцве́чиваться.
**РАСФАРБО́ЎВАЦЬ** *несов.* раскра́шивать, расцве́чивать.
**РАСФАРБО́ЎКА** *ж.* раскра́ска, расцве́тка.
**РАСФАРМІРАВА́ННЕ** *ср.* расформирова́ние.
**РАСФАРМІРАВА́НЫ** расформиро́ванный.
**РАСФАРМІРАВА́ЦЦА** *сов.* расформирова́ться.
**РАСФАРМІРАВА́ЦЬ** *сов.* расформирова́ть.
**РАСФАРМІРО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* расформиро́вываться.
**РАСФАРМІРО́ЎВАЦЬ** *несов.* расформиро́вывать.
**РАСФАРМІРО́ЎКА** *ж.* расформиро́вка.
**РАСФАСАВА́НЫ** расфасо́ванный.
**РАСФАСАВА́ЦЬ** *сов.* расфасова́ть.
**РАСФАСО́ЎВАННЕ** *ср.* расфасо́вка *ж.*
**РАСФАСО́ЎВАЦЬ** *несов.* расфасо́вывать.
**РАСФАСО́ЎКА** *ж.* расфасо́вка.
**РАСФАСО́ЎШЧЫК** *м.* расфасо́вщик.
**РАСФАСО́ЎШЧЫЦА** *ж.* расфасо́вщица.
**РАСФРАНЦІ́ЦЦА** *сов. разг.* расфранти́ться.
**РАСФРА́НЧАНЫ** *разг.* расфранчённый.
**РАСФУФЫ́РАНЫ** *прост. ирон.* расфуфы́ренный.
**РАСФУФЫ́РВАЦЦА** *несов. прост. ирон.* расфуфы́риваться.
**РАСФУФЫ́РЫЦЦА** *сов. прост. ирон.* расфуфы́риться.
**РАСФЫ́РКАЦЦА** *сов.* расфы́ркаться.
**РАСХА́ДЖВАЦЬ** *несов.* расха́живать; **р. па пако́і** расха́живать по ко́мнате.
**РАСХАДЗІ́ЦЦА** *сов.* 1. (*привыкнуть к ходьбе*) расходи́ться; 2. (*начать много ходить*) расходи́ться; 3. разойти́сь, разбушева́ться; (*о нервах*) расходи́ться.
**РАСХАЛАДЗІ́ЦЬ** *сов.* расхолоди́ть.
**РАСХАЛО́ДЖАНЫ** расхоло́женный.
**РАСХАЛО́ДЖВАЦЦА** *несов. страд.* расхола́живаться.
**РАСХАЛО́ДЖВАЦЬ** *несов.* расхола́живать.
**РАСХАПА́НЫ** расхва́танный.
**РАСХАПА́ЦЬ** *сов.* расхвата́ть.
**РАСХАПІ́ЦЬ** *сов.* 1. *см.* **расхапа́ць;** 2. *разг.* бы́стро разъедини́ть (разомкну́ть, развести́).
**РАСХАПЛЯ́ЦЦА** *несов. страд. см.* **расхо́пліваца.**
**РАСХАПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **расхо́пліваць.**
**РАСХАЦЕ́ЦЦА** *сов. безл.* расхоте́ться.
**РАСХАЦЕ́ЦЬ** *сов.* расхоте́ть.
**РАСХВА́ЛЕНЫ** расхва́ленный, превознесённый; *см.* **расхвалі́ць.**
**РАСХВАЛІ́ЦЦА** *сов.* расхвали́ться.
**РАСХВАЛІ́ЦЬ** *сов.* расхвали́ть, превознести́; **р. ву́чня** расхвали́ть (превознести́) ученика́; **р. да нябёс** превознести́ до небе́с.
**РАСХВА́ЛЬВАННЕ** *ср.* расхва́ливание, превознесе́ние; *см.* **расхва́льваць.**
**РАСХВА́ЛЬВАЦЦА** *несов.* 1. расхва́ливаться; 2. *страд.* расхва́ливаться, превозноси́ться; *см.* **расхва́льваць.**
**РАСХВА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* расхва́ливать, превозноси́ть; *см.* **расхвалі́ць.**
**РАСХВАЛЯВА́НЫ** разволно́ванный; расстро́енный; *см.* **расхвалява́ць.**
**РАСХВАЛЯВА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* разволнова́ться; (*огорчиться — ещё*) расстро́иться; **рака́ ~ва́лася** река́ разволнова́лась; **дарэ́мна ~ва́ўся** напра́сно разволнова́лся; **р. ад няўда́чы** расстро́иться от неуда́чи.
**РАСХВАЛЯВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* разволнова́ть; (*огорчить — ещё*) расстро́ить; **ве́цер ~ва́ў мо́ра** ве́тер разволнова́л мо́ре; **гэ́та пісьмо́ ~ва́ла яго́** э́то письмо́ разволнова́ло его́; **маўча́нне сы́на ~ва́ла бацько́ў** молча́ние сы́на расстро́ило роди́телей.
**РАСХВАРЭ́ЦЦА** *сов. разг.* разболе́ться, расхвора́ться.
**РАСХВАСТА́НЫ** *разг.* 1. расхлёстанный, измоча́ленный; 2. раздро́бленный, разби́тый; 3. *перен.* разби́тый, расчихво́щенный; 1—3 *см.* **расхваста́ць.**
**РАСХВАСТА́ЦЦА** *сов. разг.* расхлеста́ться, измо́чалиться; **пу́га зусі́м ~та́лася** кнут совсе́м расхлеста́лся (измоча́лился).
**РАСХВАСТА́ЦЬ** *сов. разг.* 1. (*испортить хлестанием*) расхлеста́ть, измоча́лить; **р. пу́гу** расхлеста́ть (измоча́лить) кнут; 2. раздроби́ть, разби́ть; **р. усю́ пасу́ду** разби́ть всю посу́ду; 3. *перен.* разби́ть, расчихво́стить; **р.варо́жыя тэ́рыі** разби́ть (расчихво́стить) вражде́бные тео́рии.
**РАСХВАТА́НЫ** *разг.* 1. расхлёстанный, измоча́ленный; 2. раздро́бленный, разби́тый; 3. *перен.* разби́тый, расчихво́щенный; 1—3 *см.* **расхваста́ць.**
**РАСХВАТА́ЦЬ** *сов. см.* **расхапа́ць.**
**РАСХВА́ТВАЦЬ** *несов. см.* **расхо́пліваць.**
**РАСХВАЦІ́ЦЬ** *сов. см.* **расхапі́ць.**
**РАСХВО́РВАЦЦА** *несов. разг.* разба́ливаться, расхва́рываться.
**РАСХВО́СТВАЦЦА** *несов. разг.* 1. расхлёстываться, измоча́ливаться; *см.* **расхваста́цца;** 2. *страд.* расхлёстываться, измоча́ливаться; раздробля́ться, разбива́ться; би́ться; *см.* **расхво́стваць.**
**РАСХВО́СТВАЦЬ** *несов. разг.* 1. (*портить хлестанием*) расхлёстывать, измоча́ливать; 2. раздробля́ть, разбива́ть, бить; 3. *перен.* разбива́ть; 1—3 *см.* **расхваста́ць.**
**РАСХІ́ЛЕНЫ** 1. раздви́нутый; 2. *спец.* раство́ренный; 1, 2 *см.* **расхілі́ць.**

**РАСХІЛІ́ЦЦА** *сов.* 1. раздви́нуться; **засло́на ~лі́лася** за́навес раздви́нулся; 2. *спец.* раствори́ться; **цы́ркуль ~лі́ўся замно́га** ци́ркуль раствори́лся сли́шком си́льно.

**РАСХІЛІ́ЦЬ** *сов.* 1. раздви́нуть; **р. густы́я галі́нкі** раздви́нуть густы́е ве́тки; **р. фіра́нкі** раздви́нуть занаве́ски; 2. *спец.* раствори́ть; **р. но́жкі цы́ркуля** раствори́ть но́жки ци́ркуля.

**РАСХІ́ЛЬВАЦЦА** *несов. см.* **расхіля́цца.**

**РАСХІ́ЛЬВАЦЬ** *несов. см.* **расхіля́ць.**

**РАСХІЛЯ́ЦЦА** *и* **РАСХІ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* 1. раздвига́ться; 2. *спец.* растворя́ться; 1, 2 *см.* **расхілі́цца; 3.** *страд.* раздвига́ться; растворя́ться; *см.* **расхіля́ць.**

**РАСХІЛЯ́ЦЬ** *и* **РАСХІ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* 1. раздвига́ть; 2. *спец.* растворя́ть; 1, 2 *см.* **расхілі́ць.**

**РАСХІНА́ЦЦА** *несов.* 1. раздвига́ться; (*широко раскрываться*) распа́хиваться; *см.* **расхіну́цца; 2.** *страд.* раздвига́ться; распа́хиваться; *см.* **расхіна́ць.**

**РАСХІНА́ЦЬ** *несов.* раздвига́ть; (*широко раскрывать*) распа́хивать; *см.* **расхіну́ць.**

**РАСХІНУ́ТЫ** раздви́нутый; распа́хнутый; *см.* **расхіну́ць.**

**РАСХІНУ́ЦЦА** *сов.* раздви́нуться; (*широко раскрыться*) распахну́ться; **засло́на ~ну́лася** за́навес раздви́нулся; **крысы́ паліто́ ~ну́ліся** по́лы пальто́ распахну́лись.

**РАСХІНУ́ЦЬ** *сов.* раздви́нуть; (*широко раскрыть*) распахну́ть; **ён ~ну́ў галі́ны** он раздви́нул ве́тви; **р. паліто́** распахну́ть пальто́.

**РАСХІСТА́НЫ** 1. расша́танный; 2. *перен.* расша́танный; осла́бленный; 1, 2 *см.* **расхіста́ць.**

**РАСХІСТА́ЦЦА** *сов.* 1. расшата́ться; **вушакі́ ў дзвяра́х ~та́ліся** косяки́ у двере́й расшата́лись; 2. *перен.* расшата́ться; ослабе́ть; **дысцыплі́на ~та́лася** дисципли́на расшата́лась.

**РАСХІСТА́ЦЬ** *сов.* 1. расшата́ть; **р. слуп** расшата́ть столб; **р. зуб** расшата́ть зуб; 2. *перен.* расшата́ть; осла́бить; **р. асно́вы капіталі́зму** расшата́ть усто́и капитали́зма.

**РАСХІ́СТВАЦЦА** *несов.* 1. расша́тываться; 2. *перен.* расша́тываться; ослабева́ть; 1, 2 *см.* **расхіста́цца.**

**РАСХІ́СТВАЦЬ** *несов.* 1. расша́тывать; 2. *перен.* расша́тывать; ослабля́ть; 1, 2 *см.* **расхіста́ць.**

**РАСХЛЁБВАЦЬ** *несов.* расхлёбывать; ✧ **р. ка́шу** расхлёбывать ка́шу.

**РАСХЛІ́СТАНЫ** *разг.* небре́жно расстёгнутый; распа́хнутый.

**РАСХЛІСТА́ЦЦА** *сов. разг.* небре́жно расстегну́ться; распахну́ться.

**РАСХЛІСТА́ЦЬ** *сов. разг.* небре́жно расстегну́ть; распахну́ть.

**РАСХЛУСІ́ЦЦА** *сов. прост.* разовра́ться.

**РАСХЛЯ́БАНА** *нареч.* расхля́банно, разви́нченно, разбо́лтанно.

**РАСХЛЯ́БАНАСЦЬ** *ж.* расхля́банность, разви́нченность, разбо́лтанность.

**РАСХЛЯ́БАНЫ** расхля́банный, разви́нченный, разбо́лтанный.

**РАСХЛЯБА́ЦЬ** *сов.* расхлеба́ть.

**РАСХНЫКАЦЦА** *сов. разг.* расхны́каться.

**РАСХО́Д, -ду** *м. в разн. знач.* расхо́д; **р. боепрыпа́саў** расхо́д боеприпа́сов; **вы́весці су́му ў р.** вы́вести су́мму в расхо́д; ✧ **спіса́ць у р.** списа́ть в расхо́д.

**РАСХО́ДАВАННЕ** *ср.* расхо́дование, тра́та *ж.*

**РАСХО́ДАВАЦЦА** 1. *сов. и несов.* израсхо́доваться/расхо́доваться, растра́титься/тра́титься; **я не магу́ так р. на заба́вы** я не могу́ так расхо́доваться (тра́титься) на развлече́ния; 2. *несов. страд.* расхо́доваться.

**РАСХО́ДАВАЦЬ** *сов. и несов.* израсхо́довать/расхо́довать.

**РАСХО́ДЗІЦЦА** *несов. см.* **разыхо́дзіцца.**

**РАСХО́ДНІК, -ку** *м. бот.* очи́ток.

**РАСХО́ДНЫ** расхо́дный; **р. о́рдэр** расхо́дный о́рдер.

**РАСХО́ПЛЕНЫ** 1. *см.* **расхапа́ны;** 2. *разг.* бы́стро разъединённый (разо́мкнутый, разведённый).

**РАСХО́ПЛІВАЦЦА** *несов. страд.* расхва́тываться.

**РАСХО́ПЛІВАЦЬ** *несов.* расхва́тывать.

**РАСХРАБРЫ́ЦЦА** *сов.* расхрабри́ться.

**РАСХРАПЦІ́СЯ** *сов. разг.* расхрапе́ться.

**РАСХРЫСТАНЫ** *см.* **расхлі́станы.**

**РАСХРЫСТА́ЦЦА** *сов. см.* **расхліста́цца.**

**РАСХУ́ТАНЫ** раску́танный.

**РАСХУ́ТАЦЦА** *сов.* раску́таться.

**РАСХУ́ТАЦЬ** *сов.* раску́тать.

**РАСХУ́ТВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* раску́тываться.

**РАСХУ́ТВАЦЬ** *несов.* раску́тывать.

**РАСЦАЛАВА́НЫ** расцело́ванный.

**РАСЦАЛАВА́ЦЦА** *сов.* расцелова́ться.

**РАСЦАЛАВА́ЦЬ** *сов.* расцелова́ть.

**РАСЦАНІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* расцени́ть; **р. тава́р** расцени́ть това́р; **р. паво́дзіны** расцени́ть поведе́ние.

**РАСЦВЁЛЕНЫ** 1. раздразнённый; 2. разбережённый; 1, 2 *см.* **расцвялі́ць.**

**РАСЦВЁЛЬВАЦЬ** *несов.* 1. (*кого-л.*) дразни́ть; 2. (*рану*) береди́ть.

**РАСЦВЁТКА** *ж.* расцве́тка.

**РАСЦВІСЦІ́** *сов. прям., перен.* расцвести́; **ру́жы ~цвілі́** ро́зы расцвели́; **дзяў́чы́на ~цвіла́** де́вушка расцвела́; **твар ~цвіў усме́шкай** лицо́ расцвело́ в улы́бке.

**РАСЦВІТА́ННЕ** *ср.* 1. *прям., перен.* расцвета́ние; *см.* **расцвіта́ць;** 2. (*время цветения*) расцве́т *м.*

**РАСЦВІТА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* расцвета́ть; *см.* **расцвісці́.**

**РАСЦВЫРКАЦЦА** *сов.* (*о птицах*) расчири́каться; (*о кузнечиках и т. п.*) расстрекота́ться.

**РАСЦВЯЛІ́ЦЬ** *сов.* 1. (*кого-л.*) раздразни́ть; 2. (*рану*) разбереди́ть.

**РАСЦЕРАБІ́ЦЬ** *сов.* 1. расчи́стить (вы́рубкой); 2. *перен.* проложи́ть.

**РАСЦЕРУШЫ́ЦЦА** *сов.* раструси́ться, рассы́паться.

**РАСЦЕРУШЫ́ЦЬ** *сов.* раструси́ть, рассы́пать.

**РАСЦЕ́РЦІ** *сов.* 1. *в разн. знач.* растере́ть; **р. фа́рбы** растере́ть кра́ски; **р. гразь па тва́ру** растере́ть грязь по лицу́; **р. хво́рае ме́сца** растере́ть больно́е ме́сто; 2. раздави́ть; **р. я́гаду** раздави́ть я́году.

**РАСЦЕ́РЦІСЯ** *сов. в разн. знач.* растере́ться; **фа́рба до́бра ~рлася** кра́ска хорошо́ растёрлась; **р. ручніко́м пасля́ купа́ння** растере́ться полоте́нцем по́сле купа́ния.

**РАСЦЁРТЫ** 1. *в разн. знач.* растёртый; 2. разда́вленный; 1, 2 *см.* **расце́рці.**

**РАСЦІ́** *несов. в разн. знач.* расти́; **дзе́ці расту́ць** де́ти расту́т; **трава́ расце́** трава́ растёт; **ён рос у вёсцы** он рос в дере́вне; **расту́ць наро́дныя дахо́ды** расту́т наро́дные дохо́ды; **яго́ та́лент расце́** его́ тала́нт растёт; **шум расце́** шум растёт; ✧ **р. як на дражджа́х** расти́ как на дрожжа́х.

**РАСЦІРА́ЛЬНЫ** расти́рочный.

**РАСЦІРА́ННЕ** *ср.* 1. растира́ние, расти́рка *ж.*; **р. фа́рбаў** растира́ние (расти́рка) кра́сок; 2. (*массаж*) растира́ние.

**РАСЦІРА́ЦЦА** *несов.* 1. *в разн. знач.* растира́ться; *см.* **расце́рціся;** 2. *страд.* растира́ться; разда́вливаться, дави́ться; *см.* **расціра́ць.**

**РАСЦІРА́ЦЬ** *несов.* 1. *в разн. знач.* растира́ть; 2. разда́вливать, дави́ть; 1, 2 *см.* **расце́рці.**

**РАСЦІ́РКА** *ж.* расти́рка.

**РАСЦІСКА́ЦЦА** *несов.* 1. разда́вливаться; 2. разжима́ться; 1, 2 *см.* **расці́снуцца; 3.** *страд.* дави́ться, разда́вливаться; разжима́ться; *см.* **расціска́ць.**

**РАСЦІ́СКАЦЬ** *сов.* размя́ть (*в руках*).

**РАСЦІСКА́ЦЬ** *несов.* 1. дави́ть, разда́вливать 2. разжима́ть; 1, 2 *см.* **расці́снуць.**

**РАСЦІСКНЫ** *спец.* разжи́мный.

**РАСЦІСНУТЫ 1.** раздáвленный; **2.** разжáтый; 1, 2 *см.* **расцíснуць.**

**РАСЦІСНУЦЦА** *сов.* **1.** раздави́ться; **я́йкі ў кóшыку ~нуліся** я́йца в лукóшке раздави́лись; **2.** разжáться; **кулáк ~нуўся** кулáк разжáлся.

**РАСЦІСНУЦЬ** *сов.* **1.** раздави́ть; **р. я́гаду** раздави́ть я́году; **2.** разжáть; **р. кулáк** разжáть кулáк.

**РАСЦІЦЬ** *несов.* (*растения*) расти́ть.

**РАСЦУГЛЯ́НЫ** разну́зданный.

**РАСЦУГЛЯ́ЦЬ** *сов.* разнуздáть.

**РАСЦЫРЫ́КАЦЦА** *сов.* расчири́каться.

**РАСЦЭ́НАЧНЫ** расцéночный.

**РАСЦЭ́НЕНЫ** *прям., перен.* расценённый; *см.* **расцанíць.**

**РАСЦЭ́НКА** *ж. в разн. знач.* расцéнка; **р. тавáраў** расцéнка товáров; **павы́сіць ~кі** повы́сить расцéнки.

**РАСЦЭ́НШЧЫК** *м.* расцéнщик.

**РАСЦЭ́НШЧЫЦА** *ж.* расцéнщица.

**РАСЦЭ́НЬВАЦЦА** *несов. страд.* расцéниваться; *см.* **расцэ́ньваць.**

**РАСЦЭ́НЬВАЦЬ** *несов. прям., перен.* расцéнивать; *см.* **расцанíць.**

**РАСЦЮКАВА́ЦЬ** *сов.* растюковáть.

**РАСЦЮКО́ЎВАННЕ** *ср.* растюкóвка *ж.*

**РАСЦЮКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* растюкóвываться.

**РАСЦЮКО́ЎВАЦЬ** *несов.* растюкóвывать.

**РАСЦЮКО́ЎКА** *ж.* растюкóвка.

**РАСЦЯГА́Й, -гáю** *м. кул.* расстегáй.

**РАСЦЯГА́НЫ 1.** растáсканный; **2.** растáщенный, разворóванный; 1, 2 *см.* **расцягáць.**

**РАСЦЯГА́ЦЬ** *сов.* **1.** (*по частям*) растаскáть; **2.** растащи́ть, разворовáть.

**РАСЦЯ́ГВАННЕ** *ср.* **1.** растя́гивание, растя́жка *ж.*; **2.** растáскивание, разволáкивание; **3.** разворóвывание; 1—3 *см.* **расця́гваць.**

**РАСЦЯ́ГВАЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* растя́гиваться; (*становиться, просторнее — ещё*) раздавáться; *см.* **расцягну́цца; 2.** *страд.* растя́гиваться; раздавáться; растáскиваться, разволáкиваться; разворóвываться; *см.* **расця́гваць.**

**РАСЦЯ́ГВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* растя́гивать; (*сапоги и т. п.— ещё*) раздавáть; **2.** (*по частям*) растáскивать, разволáкивать; **3.** разворóвывать; 1—3 *см.* **расцягну́ць.**

**РАСЦЯ́ГНЕНАСЦЬ** *и* **РАСЦЯ́ГНУТАСЦЬ** *ж. прям., перен.* растя́нутость; **р. лíніі фрóнта** растя́нутость ли́нии фрóнта; **р. апавядáння** растя́нутость расскáза.

**РАСЦЯ́ГНЕНЫ** *и* **РАСЦЯ́ГНУТЫ 1.** *в разн. знач.* растя́нутый; **2.** растáщенный, разволочённый; **3.** разворóванный; 1—3 *см.* **расцягну́ць.**

**РАСЦЯ́ГНУТАСЦЬ** *ж. см.* **расця́гненасць.**

**РАСЦЯ́ГНУТЫ** *см.* **расця́гнены.**

**РАСЦЯГНУ́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* растяну́ться; (*стать просторнее — ещё*) раздáться; **рызíна ~ну́лася** рези́на растяну́лась; **лíнія фрóнта ~ну́лася** ли́ния фрóнта растяну́лась; **апавядáнне вéльмі ~ну́лася** расскáз сли́шком растяну́лся; **сухажы́лле ~ну́лася** сухожи́лие растяну́лось; **прáца ~ну́лася на ты́дзень** рабóта растяну́лась на недéлю; **бóты ~ну́ліся на капылé** сапоги́ растяну́лись (раздали́сь) на колóдке.

**РАСЦЯГНУ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* растяну́ть; (*сапоги и т. п.— ещё*) раздáть; **р. пальчáткі** растяну́ть перчáтки; **р. рызíну** растяну́ть рези́ну; **р. сухажы́лле** растяну́ть сухожи́лие; **р. палатнó** растяну́ть холст; **р. абóз на нéкалькі кіламéтраў** растяну́ть обóз на нéсколько киломéтров; **р. тэ́рмін пасéву** растяну́ть срок сéва; **2.** (*по частям*) растащи́ть, разволóчь; **3.** разворовáть.

**РАСЦЯ́ЖКА** *ж.* растя́жка; **р. скýры** растя́жка кóжи.

**РАСЦЯЖНЫ́** *спец.* растяжнóй, растяжи́мый; **~ная рызíна** растяжнáя рези́на.

**РАСЦЯЖЭ́ННЕ** *ср. мед.* растяжéние; **р. звя́зак** растяжéние свя́зок.

**РАСЦЯКА́ЦЦА** *несов. прям., перен.* растекáться; *см.* **расцячы́ся.**

**РАСЦЯ́ПА** *м. и ж. разг.* растя́па.

**РАСЦЯРО́Б, -бу** *м.* вы́рубка *ж.*, расчи́стка *ж.*

**РАСЦЯРУ́ШАНЫ** растру́шенный, рассы́панный.

**РАСЦЯРУ́ШВАННЕ** *ср.* растру́шивание, рассыпáние.

**РАСЦЯРУ́ШВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* растру́шиваться, рассыпáться.

**РАСЦЯРУ́ШВАЦЬ** *несов.* растру́шивать, рассыпáть.

**РАСЦЯРЭ́БЛЕНЫ** расчи́щенный (вы́рубкой).

**РАСЦЯРЭ́БЛІВАННЕ** *ср.* расчи́стка *ж.* (вы́рубкой).

**РАСЦЯРЭ́БЛІВАЦЬ** *несов.* расчищáть (вы́рубкой).

**РАСЦЯЧЫ́СЯ** *сов. прям., перен.* растéчься; **разлíтае чарнíла ~цяклóся па сталé** прóлитые черни́ла растекли́сь по столу́; **цяплó ~цякáлася па цéле** теплотá растекáлась по тéлу.

**РАСЧАКА́НІЦЬ** *сов. тех.* расчекáнить.

**РАСЧАКА́НКА** *ж. тех.* расчекáнка.

**РАСЧАКА́НЬВАННЕ** *ср. см.* **расчакáнка.**

**РАСЧАКА́НЬВАЦЬ** *несов. тех.* расчекáнивать.

**РАСЧА́ЛЕНЫ** *тех.* расчáленный.

**РАСЧА́ЛІЦЬ** *сов. тех.* расчáлить.

**РАСЧА́ЛКА** *ж. тех.* расчáлка.

**РАСЧА́ЛЬВАННЕ** *ср. тех.* расчáлка *ж.*

**РАСЧА́ЛЬВАЦЦА** *несов. страд. тех.* расчáливаться.

**РАСЧА́ЛЬВАЦЬ** *несов. тех.* расчáливать.

**РАСЧАПІ́ЦЦА** *сов.* расцепи́ться.

**РАСЧАПІ́ЦЬ** *сов.* расцепи́ть.

**РАСЧАПЛЕ́ННЕ** *ср.* расцеплéние.

**РАСЧАПЛЯ́ЦЦА** *несов. см.* **расчэ́плівацца.**

**РАСЧАПЛЯ́ЦЬ** *несов. см.* **расчэ́пліваць.**

**РАСЧАРАВА́НА** *нареч.* разочарóванно.

**РАСЧАРАВА́НАСЦЬ** *ж.* разочарóванность.

**РАСЧАРАВА́ННЕ** *ср.* разочаровáние.

**РАСЧАРАВА́НЫ** разочарóванный.

**РАСЧАРАВА́ЦЦА** *сов.* разочаровáться.

**РАСЧАРАВА́ЦЬ** *сов.* разочаровáть.

**РАСЧАРО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* разочарóвываться.

**РАСЧАРО́ЎВАЦЬ** *несов.* разочарóвывать.

**РАСЧАРЦІ́ЦЬ** *сов.* расчерти́ть.

**РАСЧАСА́НЫ** I *и* **РАСЧЭ́САНЫ** I расчёсанный; *см.* **расчасáць** I.

**РАСЧАСА́НЫ** II *и* **РАСЧЭ́САНЫ** II растёсанный.

**РАСЧАСА́ЦЦА** I *сов.* (*гребнем*) расчесáться.

**РАСЧАСА́ЦЦА** II *сов.* растесáться.

**РАСЧАСА́ЦЬ** I *сов.* (*волосы и т. п.*) расчесáть.

**РАСЧАСА́ЦЬ** II *сов.* растесáть.

**РАСЧЛЯНЕ́ННЕ** *ср.* расчленéние.

**РАСЧЛЯНЁНАСЦЬ** *ж.* расчленённость.

**РАСЧЛЯНЁНЫ** расчленённый.

**РАСЧЛЯНІ́ЦЦА** *сов.* расчлени́ться.

**РАСЧЛЯНІ́ЦЬ** *сов.* расчлени́ть.

**РАСЧЛЯНЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* расчленя́ться.

**РАСЧЛЯНЯ́ЦЬ** *несов.* расчленя́ть.

**РАСЧО́СКА** *ж.* (*гребень*) расчёска.

**РАСЧУ́ЛЕНА** *нареч.* растрóганно, умилённо.

**РАСЧУ́ЛЕНАСЦЬ** *ж.* растрóганность, умилённость.

**РАСЧУ́ЛЕНЫ** растрóганный, трóнутый, умилённый.

**РАСЧУ́ЛІЦЦА** *сов.* расчу́вствоваться, растрóгаться, умили́ться.

**РАСЧУ́ЛІЦЬ** *сов.* растрóгать, трóнуть, умили́ть.

**РАСЧУ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* умиля́ться.

**РАСЧУ́ЛЬВАЦЬ** *несов.* трóгать, умиля́ть.

**РАСЧУ́ХАНЫ** *прост.* расчёсанный, расцарáпанный.

**РАСЧУ́ХАЦЦА** *сов. прост.* **1.** расчесáться, расцарáпаться; **2.** встряхну́ться.

**в** со́бственном соку́; **вы́ціснуць (усе́) со́кі** вы́жать (все) со́ки; **у са́мым саку́** в са́мом соку́.

**СО́КАВЫ** со́ковый.

**СО́КАЛ** *м. в разн. знач.* со́кол; **сла́ўныя ~лы на́шай краі́ны** сла́вные со́колы на́шей страны́; ✧ **гол як сако́л** гол как соко́л.

**СОКАЛАПАДО́БНЫЯ** *сущ. мн. зоол.* соколообра́зные.

**СО́КАТ, -ту** *м.* **1.** куда́хтанье *ср.*; **2.** (*машин и т. п.*) стре́кот, стук.

**СО́ЛА** *муз., театр.* **1.** *сущ. нескл. ср.* со́ло; **2.** *нареч.* со́ло; **выступа́ць с.** выступа́ть со́ло.

**СО́ЛАД, -ду** *м.* **1.** со́лод; **2.** сла́дость *ж.*; ✧ **там яму́ не с.** там ему́ не сла́дко.

**СО́ЛАДАВЫ 1.** солодо́вый; **2.** солодо́венный; **с. заво́д** солодо́венный заво́д.

**СО́ЛАДКА** *нареч.* **1.** *в разн. знач.* сла́дко; **сэ́рца с. заміра́е** се́рдце сла́дко замира́ет; **с. спаць** сла́дко спать; **с. ўсміха́цца** сла́дко улыба́ться; **2.** *в знач. безл. сказ.* сла́дко.

**СО́ЛАНА** *нареч. обл.* **1.** *в разн. знач.* со́лоно; **2.** *в знач. безл. сказ.* со́лоно.

**СОЛЕЗДАБЫ́ЧЧЫК** *м.* соледобы́тчик.

**СО́ЛЕНЫ** *в разн. знач.* со́ленный; *см.* **салі́ць.**

**СОЛЕПРАМЫСЛО́ВАСЦЬ** *ж.* солепромы́шленность.

**СОЛЕПРАМЫСЛО́ВЕЦ, -ло́ўца** *м. уст.* солепромы́шленник.

**СОЛЕПРАМЫСЛО́ВЫ** солепромы́шленный.

**СОЛЕЎТВАРА́ЛЬНЫ** *физиол.* солеобразу́ющий.

**СО́ЛКА** *ж.* со́лка.

**СО́ЛКІ** со́лкий.

**СО́ЛСБЕРЫ** *нескл. м. г.* Со́лсбери.

**СОЛЬ** I *ж. в разн. знач.* соль; **стало́вая с.** столо́вая соль; **уся́ с. у тым, што...** вся соль в том, что...; **англі́йская с.** англи́йская соль; **берталле́тава с.** бертоле́това соль; ✧ **сы́паць с. на ра́ны** сы́пать соль на ра́ны; **віта́ць хле́бам-со́ллю** встреча́ть хле́бом-со́лью; **пуд со́лі з'е́сці** пуд со́ли съесть; **с. табе́ ў во́чы!** (*от дурного глаза*) соль тебе́ в глаза́!; **мача́ць у дзве со́лі** по́ два гриба́ в ло́жку.

**СОЛЬ** II *нескл. ср. муз.* соль.

**СОЛЬ** III *ж. зоол.* соль.

**СО́ЛЬНЫ** *муз., театр.* со́льный.

**СОМ** *м. зоол.* сом.

**СО́МА** *ж. р.* Со́мма.

**СО́МАЎ** сомо́вий.

**СОН** I, *род.* **сну** *м. в разн. знач.* сон; (*то, что снится — ещё*) сновиде́ние *ср.*; **мяне́ агарну́ў с.** меня́ объя́л сон; **сніць стра́шны с.** ви́деть стра́шный сон; **прыро́да абудзі́лася ад сну** приро́да просну́лась от сна; **гэ́та то́лькі с.** э́то то́лько сон; ✧ **засну́ць (спаць) ве́чным сном** засну́ть (спать) ве́чным сном; **праз с.** сквозь сон; **сну ні ў адны́м во́ку** сна ни в одно́м глазу́; **як у сне** как во сне.

**СОН** II, *род.* **сну** *м. бот.* простре́л.

**СО́НЕЙКА** *ср.* **1.** *уменьш.-ласк.* со́лнышко; **2.** *перен.* со́лнышко.

**СО́НЕЧНА** *нареч.* со́лнечно.

**СО́НЕЧНАСЦЬ** *ж.* со́лнечность.

**СО́НЕЧНІК** *м. зоол.* со́лнечник.

**СО́НЕЧНЫ 1.** *в разн. знач.* со́лнечный; **~ная сісте́ма** со́лнечная систе́ма; **с. дзень** со́лнечный день; **с. настро́й** со́лнечное настрое́ние; **2.** (*открытый для солнца*) со́лнечный, подсо́лнечный; **с. пако́й** со́лнечная ко́мната; **с. бок** со́лнечная (подсо́лнечная) сторона́; ✧ **с. гадзі́ннік** со́лнечные часы́; **с. ўдар** *мед.* со́лнечный уда́р; **~нае спляце́нне** *анат.* со́лнечное сплете́ние.

**СО́ННА** *нареч.* со́нно.

**СО́ННІК** *м.* со́нник, снотолкова́тель.

**СО́ННЫ 1.** *прил. в разн. знач.* со́нный; (*о погружённом в сон—ещё*) спя́щий; **с. чалаве́к** со́нный (спя́щий) челове́к; **со́нныя дрэ́вы** со́нные (спя́щие) дере́вья; **со́нныя во́чы** со́нные глаза́; **с. настро́й** со́нное настрое́ние; **со́нныя кро́плі** со́нные ка́пли; **2.** *в знач. сущ.* спя́щий; ✧ **со́нная артэ́рыя** *анат.* со́нная арте́рия; **со́нная хваро́ба** *мед.* со́нная боле́знь.

**СО́НЦА** *ср. в разн. знач.* со́лнце; **усхо́д с.** восхо́д со́лнца; **го́рнае с.** *спец.* го́рное со́лнце; **загара́ць на ~цы** загора́ть на со́лнце; **с. пра́ўды** *перен.* со́лнце пра́вды; ✧ **да с.** до (восхо́да) со́лнца; **на адны́м ~цы сушы́цца** на одно́м со́лнышке суши́ться.

**СОНЦАСТАЯ́ННЕ** *ср. астр.* солнцестоя́ние; **зімо́вае с.** зи́мнее солнцестоя́ние; **ле́тняе с.** ле́тнее солнцестоя́ние.

**СОНЦАЦВЕ́Т, -ту** *м. бот.* солнцеве́т.

**СО́НЯ 1.** *м. и ж. фам.* со́ня; **2.** *ж. зоол.* со́ня.

**СО́ПКА** *ж.* со́пка.

**СО́ПКАСЦЬ** *ж.* рассы́пчатость; мучни́стость; *см.* **со́пкі.**

**СО́ПКІ** рассы́пчатый; (*содержащий в себе крахмал или муку*) мучни́стый; **~кая бу́льба** рассы́пчатая карто́шка.

**СО́ПЛІ,** *ед.* **со́пля** *ж. разг.* со́пли.

**СО́РАМ, -му** *м.* **1.** стыд; **ён адчу́ў у душы́ стра́шэнны с.** он почу́вствовал в душе́ стра́шный стыд; **2.** *в знач. сказ. с инф.* сты́дно; **с. табе́ рабі́ць гэ́так** сты́дно тебе́ де́лать так; ✧ **згарэ́ць ад ~му** сгоре́ть от (со) стыда́; **с. згубі́ць** стыд потеря́ть; **с. прыкры́ць** срам прикры́ть; **~му не ве́даць** стыда́ не знать; **с. не дым, вачэ́й не вы́есць** *посл.* стыд не дым, глаза́ не вы́ест.

**СО́РАМНА** *в знач. безл. сказ.* сты́дно; **прысу́тным было́ няёмка і с.** прису́тствующим бы́ло нело́вко и сты́дно; **як табе́ не с.!** как тебе́ не сты́дно!

**СО́РГА** *нескл. ср. бот.* со́рго.

**СОРТ,** *род.* **со́рту** *м.* сорт; **пе́ршы с.** пе́рвый сорт; **но́вы с. бу́льбы** но́вый сорт карто́феля.

**СОРТААБМЕ́Н, -ну** *м. с.-х.* сортообме́н.

**СОРТААБМЕ́ННЫ** *с.-х.* сортообме́нный.

**СОРТААБНАЎЛЕ́ННЕ** *ср. с.-х.* сортообновле́ние.

**СОРТАВЫПРАБАВА́ЛЬНЫ** *с.-х.* сортоиспыта́тельный.

**СОРТАВЫПРАБАВА́ННЕ** *ср. с.-х.* сортоиспыта́ние.

**СОРТАЗМЕ́НА** *ж. с.-х.* сортосме́на.

**СОРТАПРАКА́ТКА** *ж. тех.* сортопрока́тка.

**СОРТАПРАКА́ТНІК** *м. см.* **сортапрака́тчык.**

**СОРТАПРАКА́ТНЫ** *тех.* сортопрока́тный; **с. цэх** сортопрока́тный цех.

**СОРТАПРАКА́ТЧЫК** *м.* сортопрока́тчик.

**СОРТАЎТВАРЭ́ННЕ** *ср.* сортообразова́ние.

**СОРТАЎЧА́СТАК, -тка** *м.* **(сортадасле́дчы ўча́стак)** сортоуча́сток (сортоиспыта́тельный уча́сток).

**СО́РТНАСЦЬ** *ж. спец.* со́ртность.

**СО́РТНЫ** *спец.* со́ртный.

**СО́РУС** *м. бот.* со́рус.

**СОС,** *род.* **со́су** *м. разг.* никоти́новая смола́, остаю́щаяся по́сле куре́ния в чубуке́ тру́бки.

**СО́САЧНЫ** сосо́чный.

**СО́СКА** *ж.* со́ска; рожо́к *м.*

**СОСКАПАДО́БНЫ** сосцеви́дный, соскови́дный; **с. адро́стак скро́невай ко́сці** *анат.* сосцеви́дный отро́сток висо́чной ко́сти.

**СО́СЛЕПУ** *нареч.* со́слепа, со́слепу.

**СО́ТАВЫ** со́товый; **с. мёд** со́товый мёд.

**СОТАПАДО́БНЫ** сотови́дный.

**СО́ТКА** *ж. в разн. знач.* со́тка.

**СО́ТНІК** *м. ист.* со́тник.

**СО́ТНЯ** *ж. в разн. знач.* со́тня; **с. кіламе́траў** со́тня киломе́тров; **с. рублёў** со́тня рубле́й; **~ні рук** со́тни рук; **каза́цкая с.** каза́чья со́тня; ✧ **чо́рная с.** *дорев.* чёрная со́тня.

**СО́ТЫ** I *сущ. ед. нет* со́ты; **мядо́выя с.** медо́вые со́ты.

**СО́ТЫ** II *числит.* со́тый.

**СО́УС, -су** *м.* со́ус.

**СО́УСНІК** *м.* (*посуда*) со́усник.

**СО́УСНЫ** *кул., жив.* со́усный.

**СО́ЎГАННЕ** *ср.* **1.** *разг.* дви́гание, передвига́ние; **2.** *разг.* возня́ *ж.*; **3.** *прост.* сова́ние, ты́канье; 1—3 *см.* **со́ўгаць.**

**СОЎГАЦЦА** *несов. разг.* **1.** слоня́ться; **2.** дви́гаться взад и вперёд.

**СОЎГАЦЬ** *несов.* **1.** *разг.* (*перемещать что-л. в разных направлениях*) дви́гать, передвига́ть; **2.** *разг.* (*двигать чем-л. по поверхности*) вози́ть; **не ∼гай рукой па сталé** не вози́ руко́й по столу́; **3.** *прост.* сова́ть, ты́кать; **с. палкай у гразь** сова́ть (ты́кать) па́лкой в грязь.

**СОЎКА** *ж.* (*бабочка*) со́вка.

**СОХНУЦЬ** *несов.* **1.** (*становиться сухим, теряя влагу*) со́хнуть; просыха́ть, высыха́ть; **2.** (*вянуть—о растениях*) со́хнуть; **3.** *перен.* (*худеть, чахнуть от болезни*) со́хнуть, та́ять.

**СОЦЕННЫ** **1.** *сущ. дорев.* со́тенный; **2.** *прил.*: **∼нная вага** со́тенные весы́.

**СОЦЕНЬКА** *ж. уменьш.-ласк. разг.* со́тенка.

**СОЦКІ** *сущ. дорев.* со́тский.

**СОЧКА** *ж.* сле́жка.

**СОЧНАСЦЬ** *ж. см.* **сакавітасць.**

**СОЧНЫ** *см.* **сакавіты.**

**СОЧЫ** *нескл. м. г.* Со́чи.

**СОЧЫНСКІ** со́чинский.

**СОШКА** *ж. в разн. знач.* со́шка; **араць ∼кай пахаць** со́шкой; **кулямётныя ∼кі** пулемётные со́шки.

**СОШНЫ** *ист.* со́шный; **∼нае пісьмо** со́шное письмо́.

**СОЯ** *ж. бот.* со́я.

**СПА (Савет Працы і Абароны)** *ист.* СТО (Сове́т Труда́ и Оборо́ны).

**СПАБОРНІК** *м. уст.* соревнова́тель.

**СПАБОРНІЦКІ** соревнова́тельный.

**СПАБОРНІЦТВА** *ср.* **1.** соревнова́ние; **сацыялістычнае с.** социалисти́ческое соревнова́ние; **2.** соревнова́ние, состяза́ние; **с. па плаванню** соревнова́ние (состяза́ние) по пла́ванию; **3.** *юр.* состяза́ние; **с. старон у судзе** состяза́ние сторо́н в суде́.

**СПАБОРНІЧАЦЬ** *несов.* **1.** соревнова́ться; **с. у пад'ёме ўраджайнасці** соревнова́ться в подъёме урожа́йности; **2.** соревнова́ться, состяза́ться; **с. у забегу на далёкія дыстанцыі** соревнова́ться (состяза́ться) в забе́ге на да́льние диста́нции; **3.** *юр.* состяза́ться.

**СПАБОРНЫ** *юр.* состяза́тельный.

**СПАВАЖНА** *нареч.* неторопли́во; степе́нно; чи́нно.

**СПАВАЖНЫ** неторопли́вый; степе́нный; чи́нный.

**СПАВЕДНІК** *м. церк.* (*исповедующийся*) испове́дник.

**СПАВЕДНІЦА** *ж. церк.* испове́дница.

**СПАВЕШЧАНЫ** возвещённый, предвозвещённый.

**СПАВІВАЛЬНЫ** свива́льный, повива́льный.

**СПАВІВАННЕ** *ср.* пелена́ние, повива́ние.

**СПАВІВАЦЦА** *несов. страд.* пелена́ться, запелёнываться, повива́ться.

**СПАВІВАЦЬ** *несов.* пелена́ть, запелёнывать, повива́ть.

**СПАВІВАЧ** *м. см.* **спавівіч.**

**СПАВІВІЧ** *и* **СПАВІВАЧ** *м.* свива́льник, повива́льник.

**СПАВІТЫ** спелёнатый, запелёнатый, пови́тый.

**СПАВІЦЬ** *сов.* спелена́ть, запелена́ть, пови́ть.

**СПАВЯДАЛЬНІК** *м. церк.* (*исповедующий кого-л.*) испове́дник.

**СПАВЯДАЛЬНЯ** *ж. церк.* исповеда́льня.

**СПАВЯДАННЕ** *ср. церк.* испове́дание.

**СПАВЯДАЦЦА** *несов. церк., перен.* испове́доваться.

**СПАВЯДАЦЬ** *несов. церк.* испове́довать.

**СПАВЯСЦІЦЬ** *сов.* возвести́ть, предвозвести́ть.

**СПАВЯШЧАЦЬ** *несов.* возвеща́ть, предвозвеща́ть.

**СПАВЯШЧЭННЕ** *ср.* возвеще́ние, предвозвеще́ние.

**СПАГАДА** *ж.* сочу́вствие *ср.*, сострада́ние *ср.*, уча́стие *ср.*

**СПАГАДАННЕ** *ср.* сочу́вствие, сострада́ние.

**СПАГАДАЦЬ** (*каму-чаму*) *несов.* сочу́вствовать; принима́ть уча́стие (*в ком*).

**СПАГАДЛІВА** *и* **СПАГАДНА** *нареч.* сочу́вственно, сострада́тельно; чу́тко; уча́стливо, отзы́вчиво.

**СПАГАДЛІВАСЦЬ** *и* **СПАГАДНАСЦЬ** *ж.* сочу́вственность, сострада́тельность; чу́ткость; уча́стливость, отзы́вчивость.

**СПАГАДЛІВЫ** *и* **СПАГАДНЫ** сочу́вственный, сострада́тельный; чу́ткий; уча́стливый, отзы́вчивый.

**СПАГАДНА** *нареч. см.* **спагадліва.**

**СПАГАДНАСЦЬ** *ж. см.* **спагадлівасць.**

**СПАГАДНЫ** *см.* **спагадлівы.**

**СПАГАНЕНЫ** *разг.* **1.** испога́ненный, осквернённый; **2.** *перен.* испо́рченный, изга́женный.

**СПАГАНІЦЦА** *сов. разг.* **1.** испога́ниться, оскверни́ться; **2.** *перен.* испо́ртиться, изга́диться.

**СПАГАНІЦЬ** *сов. разг.* **1.** испога́нить, оскверни́ть; **2.** *перен.* испо́ртить, изга́дить.

**СПАГАНЬВАЦЦА** *несов. разг.* **1.** испога́ниваться, оскверня́ться; **2.** *перен.* по́ртиться, га́диться.

**СПАГАНЬВАЦЬ** *несов. разг.* **1.** испога́нивать, оскверня́ть; **2.** *перен.* по́ртить, га́дить.

**СПАГАНЯЛЬНЫ** *уст.* взыскно́й.

**СПАГАНЯЦЦА** *несов. страд.* взы́скиваться; *см.* **спаганяць** 1.

**СПАГАНЯЦЬ** *несов.* **1.** (*заставлять уплатить*) взы́скивать; **2.** (*злобу, досаду и т. п.*) вымеща́ть, срыва́ть; 1, 2 *см.* **спагнаць.**

**СПАГНАННЕ** *ср.* **1.** взыска́ние, взима́ние; **падаць да ∼ння** *юр.* пода́ть к взыска́нию; **2.** вымеще́ние; 1, 2 *см.* **спагнаць; 3.** (*наказание*) взыска́ние; **партыйнае с.** парти́йное взыска́ние.

**СПАГНАНЫ** **1.** взы́сканный; **2.** вы́мещенный, со́рванный; 1, 2 *см.* **спагнаць.**

**СПАГНАЦЬ** *сов.* **1.** (*заставить уплатить*) взыска́ть; **с. доўг** взыска́ть долг; **2.** (*злобу, досаду и т. п.*) вы́местить, сорва́ть.

**СПАД,** *род.* **спаду** *м.* **1.** (*наклон*) скат; **круты с. гары** круто́й скат горы́; **2.** (*уменьшение*) спад, у́быль *ж.*; **с. вады** спад (у́быль) воды́; **3.** (*опухоли*) опаде́ние *ср.*; **4.** *спорт.* спад; **с. назад** спад наза́д; ◊ **ісці на с.** идти́ на у́быль.

**СПАДАБАЦЦА** *сов.* понра́виться; пригляну́ться.

**СПАДАБАЦЬ** (*каго-што*) *сов.* **1.** (*почувствовать любовь, влюбиться*) полюби́ть; **с. дзяўчыну** полюби́ть де́вушку; **2.** (*почувствовать склонность, расположение*) полюби́ть; понра́виться (*кому*); **ён ∼баў гэтага чалавека** он полюби́л э́того челове́ка; ему́ понра́вился э́тот челове́к.

**СПАДАК, -ка** *м.* ни́жнее бревно́ строе́ния.

**СПАДАННЕ** *ср.* **1.** спада́ние; **2.** опада́ние, па́дание, паде́ние; **3.** спада́ние, спад *м.*, у́быль *ж.*, убыва́ние; **4.** паде́ние; **5.** опада́ние; 1—5 *см.* **спадаць** 1—5.

**СПАДАРОЖНІК** *м.* **1.** *в разн. знач.* спу́тник; попу́тчик; **мае ∼кі** мои́ спу́тники (попу́тчики); **с. жыцця** спу́тник жи́зни; **вайна—с. капіталізму** война́—спу́тник капитали́зма; **буржуазныя ∼кі рэвалюцыі** буржуа́зные попу́тчики револю́ции; **2.** (*о небесных телах*) спу́тник; **штучны с. зямлі** иску́сственный спу́тник земли́.

**СПАДАРОЖНІЦА** *ж.* спу́тница, попу́тчица.

**СПАДАРОЖНІЦКІ** попу́тнический.

**СПАДАРОЖНІЦТВА** *ср.* попу́тничество.

**СПАДАРОЖНІЧАННЕ** *ср.* сопровожде́ние, сопу́тствие; *см.* **спадарожнічаць.**

**СПАДАРОЖНІЧАЦЬ** *несов. прям., перен.* сопровожда́ть, сопу́тствовать.

**СПАДАРОЖНЫ** попу́тный, сопу́тствующий; **с. вецер** попу́тный ве́тер.

**СПАДАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* спада́ть; **2.** (*осыпаться*) опада́ть, па́дать; **3.** (*понижаться в уровне*) спада́ть, па́дать, убыва́ть, убавля́ться; **4.** (*понижаться*) па́дать; **5.** (*уменьшаться в объёме*) опада́ть; 1—5 *см.* **спасці; 6.** (*свешиваться*)

па́дать, ниспада́ть; **валасы́ ~да́юць на плéчы** во́лосы па́дают (ниспада́ют) на плéчи.

**СПАДА́ЮЧЫ 1.** *прил.* убыва́ющий; **~чая прагрэ́сія** *мат.* убыва́ющая прогре́ссия; **2.** *деепр.* спада́я; опада́я; па́дая; убыва́я, убавля́ясь; ниспада́я; *см.* **спада́ць.**

**СПА́ДЗІСТА** *нареч.* отло́го, поло́го.

**СПА́ДЗІСТАСЦЬ** *ж.* отло́гость, поло́гость.

**СПА́ДЗІСТЫ** отло́гий, поло́гий.

**СПАДЗЯВА́ННЕ** *ср.* надéжда *ж.*; *см.* **спадзява́цца** 1, 2.

**СПАДЗЯВА́ЦЦА** *несов.* **1.** (*иметь надежду*) надéяться; **с. на шча́сце** надéяться на сча́стье; **с. знайсці́ згу́бленую рэч** надéяться найти́ потéрянную вещь; **с., што ўсё бу́дзе до́бра** надéяться, что всё бу́дет хорошо́; **2.** (*рассчитывать*) надéяться, полага́ться; **с. на тава́рыша** надéяться (полага́ться) на това́рища; **3.** *в форме 1 лица ед. числа употребляется в качестве вводн. сл.* надéюсь; **ты, ~дзяю́ся, і сам гэ́та до́бра разумéеш** ты, надéюсь, и сам э́то хорошо́ понима́ешь.

**СПАДКАЕ́МЕЦ, -мца** *м. в разн. знач.* преéмник.

**СПАДКАЕ́МНІЦА** *ж. в разн. знач.* преéмница.

**СПА́ДКІ, -каў** *ед. нет разг.* наслéдство *ср.*

**СПАДНІ́ЗУ** *нареч.* исподни́зу.

**СПАДНІ́ЦА** *ж.* ю́бка; ✧ **трыма́цца за чыю-нéбудзь ~цу** *шутл.* держа́ться за чью-л. ю́бку.

**СПАДНІ́ЧЫНА** *ж. разг.* юбчо́нка.

**СПАДО́БА: не да ~бы** не нра́вится, не по вку́су.

**СПАДСПО́ДУ** *нареч. см.* **спады́спаду.**

**СПАДЦІШКА́** *нареч. разг.* исподтишка́.

**СПА́ДЧЫНА** *ж.* наслéдство *ср.*, наслéдие *ср.*; **атрыма́ць (атры́млівацъ) у ~ну** получи́ть (получа́ть) в наслéдство.

**СПА́ДЧЫННАСЦЬ** *ж.* **1.** наслéдственность; **2.** преéмственность; *см.* **спа́дчынны** 2.

**СПА́ДЧЫННІК** *м. см.* **наслéднік.**

**СПА́ДЧЫННІЦА** *ж. см.* **наслéдніца.**

**СПА́ДЧЫННЫ 1.** наслéдственный; **2.** (*определяемый правами преемства*) преéмственный.

**СПАДЫЛБА́** *нареч.* исподлобья.

**СПАДЫСПАДУ** *нареч. разг.* исподни́зу.

**СПАЖЫ́ВА** *ж.* **1.** *разг.* пожи́ва; добы́ча; **шука́ць ~вы** иска́ть пожи́вы; **2.** пита́ние *ср.*, пи́ща; **3.** *перен.* пи́ща; **с. для ро́зуму** пи́ща для ума́

**СПАЖЫВА́ННЕ** *ср.* потреблéние.

**СПАЖЫВА́НЫ** потребля́емый.

**СПАЖЫВА́ЦЦА** *несов. страд.* употребля́ться в пи́щу; испо́льзоваться, употребля́ться; *см.* **спажыва́ць.**

**СПАЖЫВА́ЦЬ** *несов.* **1.** употребля́ть в пи́щу; **2.** (*расходовать для чего-л.*) испо́льзовать, употребля́ть; 1, 2 *см.* **спажы́ць.**

**СПАЖЫВЕ́Ц, -жыўца́** *м.* потреби́тель.

**СПАЖЫВЕ́ЦКІ** *прям., перен.* потреби́тельский; **~кая каапера́цыя** потреби́тельская коопера́ция; **~кія настро́і** потреби́тельские настроéния; ✧ **~кая ва́ртасць тава́ра** потреби́тельная сто́имость това́ра.

**СПАЖЫ́ТАК, -тку** *м.* **1** пита́ние *ср.*, пи́ща *ж.*; **2.** *разг.* по́льза *ж.*

**СПАЖЫ́ТЫ 1.** употреблённый в пи́щу; **2.** испо́льзованный, употреблённый; 1, 2 *см.* **спажы́ць.**

**СПАЖЫ́ЎНА** *нареч. см.* **пажы́ўна.**

**СПАЖЫ́ЎНАСЦЬ** *ж. см.* **пажы́ўнасць.**

**СПАЖЫ́ЎНЫ** *см.* **пажы́ўны.**

**СПАЖЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** употреби́ть в пи́щу; **2.** (*израсходовать для чего-л.*) испо́льзовать, употреби́ть; **с. для сябе́** испо́льзовать для себя́.

**СПА́ЗМА** *ж.* спазм *м.*, спа́зма.

**СПАЗМАТЫ́ЧНЫ** спазмати́ческий.

**СПАЗНАВА́ЦЦА** *несов. разг.* сходи́ться, дружи́ться.

**СПАЗНАВА́ЦЬ** *несов.* испы́тывать, изве́дывать, претерпева́ть, познава́ть, узнава́ть; *см.* **спазна́ць.**

**СПАЗНА́НЫ** испы́танный, изве́данный, по́знанный, у́знанный; *см.* **спазна́ць.**

**СПАЗНА́ЦЦА** *сов. разг.* сойти́сь, сдружи́ться.

**СПАЗНА́ЦЬ** *сов.* испыта́ть, изве́дать, претерпе́ть, позна́ть, узна́ть; **с. го́ра** испыта́ть (изве́дать, претерпе́ть, узна́ть) го́ре.

**СПАЗНЕ́ННЕ** *ср.* **1.** опа́здывание; *см.* **спазні́цца** 1; **2.** опозда́ние; запозда́ние; **прыйсці́ са ~ннем** прийти́ с опозда́нием.

**СПАЗНІ́ЦЦА** *сов.* **1.** опозда́ть; **с. на рабо́ту** опозда́ть на рабо́ту; **2.** (*не сделать чего-л. своевременно*) опозда́ть, запозда́ть; **с. з пла́тай чле́нскіх узно́саў** опозда́ть (запозда́ть) с упла́той чле́нских взно́сов.

**СПАІ́ЦЬ** *сов.* спои́ть.

**СПА́ЙВАННЕ** *ср. тех.* спа́ивание, спа́йка *ж.*

**СПА́ЙВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* спа́иваться; *см.* **спая́цца, спа́йваць.**

**СПА́ЙВАЦЬ** *несов. прям., перен.* спа́ивать; *см.* **спая́ць.**

**СПА́ЙКА** *ж. в разн. знач.* спа́йка; **займа́цца ~кай** занима́ться спа́йкой; **с. тру́бкі** спа́йка тру́бки; **~кі плéўры** спа́йки плéвры; **с. рабо́чых і сяля́н** спа́йка рабо́чих и крестья́н.

**СПА́ЙНАСЦЬ** *ж. мин.* спа́йность.

**СПА́ЙНЫ** *мин.* спа́йный.

**СПА́ЙШЧЫК** *м.* спа́йщик.

**СПАКАВА́НЫ** упако́ванный; уло́женный; *см.* **спакава́ць.**

**СПАКАВА́ЦЦА** *сов.* упакова́ться.

**СПАКАВА́ЦЬ** *сов.* упакова́ть; уложи́ть; **с. кні́гі** упакова́ть кни́ги; **с. рэ́чы ў чамада́н** упакова́ть (уложи́ть) ве́щи в чемода́н.

**СПАКАЙНЕ́ЦЬ** *несов.* станови́ться споко́йнее.

**СПА́КАСЦІЦЬ** *сов. разг. в разн. знач.* испа́костить, изга́дить; **с. но́вы касцю́м** испа́костить (изга́дить) но́вый костю́м; **с. спра́ву** испа́костить де́ло.

**СПА́КАШЧАНЫ** *разг. в разн. знач.* испа́кощенный, изга́женный; *см.* **спа́касціць.**

**СПАКВАЛЯ́** *нареч. разг.* и́сподволь, полего́ньку.

**СПАКЛАДА́НЫ** кастри́рованный, вы́холощенный, оскоплённый, охолощённый.

**СПАКЛАДА́ЦЬ** *сов.* кастри́ровать, вы́холостить, оскопи́ть, охолости́ть.

**СПАКО́Й, -ко́ю** *м.* **1.** споко́йствие *ср.*, поко́й; **пару́шыць с. но́чы** нару́шить споко́йствие (поко́й) но́чи; **2.** (*физическое и душевное спокойствие*) поко́й; **хво́раму патрэ́бен с.** больно́му необходи́м поко́й; **3.** (*выдержка*) споко́йствие *ср.*, хладнокро́вие *ср.*, невозмути́мость *ж.*; **4.** *физ.* поко́й; **це́ла ў ста́не ~ко́ю** те́ло в состоя́нии поко́я; ✧ **мёртвы с.** мёртвый поко́й; **ве́чны с.** ве́чный поко́й; **пакі́нуць у ~ко́і** оста́вить в поко́е; **не два́ць ~ко́ю** не дава́ть поко́я; **не ве́даць ~ко́ю** не знать поко́я; **не мець ~ко́ю** не име́ть поко́я.

**СПАКО́ЙНА** *нареч.* **1.** споко́йно, поко́йно; **2.** споко́йно; **3.** споко́йно, невозмути́мо, ми́рно; сми́рно; **4.** неторопли́во; 1—4 *см.* **спако́йны.**

**СПАКО́ЙНАСЦЬ** *ж.* споко́йствие *ср.*, хладнокро́вие *ср.*

**СПАКО́ЙНЫ 1.** споко́йный, поко́йный; **~нае мо́ра** споко́йное мо́ре; **2.** (*не испытывающий тревог, волнения — о человеке*) споко́йный; **3.** (*уравновешенный, сдержанный*) споко́йный, невозмути́мый; ми́рный; (*кроткий и покорный — ещё*) сми́рный; **с. но́раў** споко́йный (ми́рный) нрав; **с. конь** споко́йная (сми́рная) ло́шадь; **4.** неторопли́вый; ✧ **~най но́чы** споко́йной но́чи.

**СПАКО́Н: с. вяко́ў** споко́н веко́в (ве́ку).

**СПАКОНВЕ́ЧНЫ** иско́нный.

**СПАКО́ЎВАЦЦА** *несов.* **1.** упако́вываться; **2.** *страд.* упако́вываться, укла́дываться; *см.* **спако́ўваць.**

**СПАКО́ЎВАЦЬ** *несов.* упако́вывать; укла́дывать; *см.* **спакава́ць.**

**СПАКУ́СА** *ж.* **1.** собла́зн *м.*, искуше́ние *ср.*; **2.** (*обман*) обольще́ние *ср.*, совраще́ние *ср.*

**СПАКУСІ́ЦЦА** *сов.* **1.** соблазни́ться; искуси́ться; обольсти́ться; **с. прапано́вай** соблазни́ться (искуси́ться) предложе́нием; **2.** (*сбиться с правильного пути*) совратиться.

**СПАКУСІ́ЦЬ** *сов.* **1.** соблазни́ть; искуси́ть; **ён ~сі́ў мяне́ пайсці́ ў кіно́** он соблазни́л меня́ пойти́ в кино́; **2.** (*обмануть женщину, девушку*) соблазни́ть, обольсти́ть, соврати́ть; **с. маладу́ю дзяўчыну** соблазни́ть (обольсти́ть, соврати́ть) молоду́ю де́вушку.

**СПАКУ́СЛІВА** *нареч.* соблазни́тельно.

**СПАКУ́СЛІВАСЦЬ** *ж.* **1.** соблазни́тельность; **2.** обольсти́тельность.

**СПАКУ́СЛІВЫ** *и* **СПАКУША́ЛЬНЫ** **1.** соблазни́тельный; **2.** обольсти́тельный.

**СПАКУ́СНІК** *м.* **1.** соблазни́тель; искуси́тель; **2.** (*тот, кто совращает*) соблазни́тель, обольсти́тель, соврати́тель.

**СПАКУ́СНІЦА** *ж.* **1.** соблазни́тельница; искуси́тельница; **2.** (*та, кто совращает*) соблазни́тельница, обольсти́тельница, соврати́тельница.

**СПАКУША́ЛЬНЫ** *см.* **спаку́слівы.**

**СПАКУ́ШАНЫ** **1.** соблазнённый; искушённый; **2.** соблазнённый, обольщённый, совращённый; 1, 2 *см.* **спакусі́ць.**

**СПАКУША́ЦЦА** *несов.* **1.** соблазня́ться; искуша́ться; обольща́ться; **2.** (*сбиваться с правильного пути*) совраща́ться; 1, 2 *см.* **спакусі́цца; 3.** *страд.* соблазня́ться; искуша́ться; обольща́ться, совраща́ться; *см.* **спакуша́ць.**

**СПАКУША́ЦЬ** *несов.* **1.** соблазня́ть; искуша́ть; **2.** (*обманывать женщину, девушку*) соблазня́ть, обольща́ть, совраща́ть; 1, 2 *см.* **спакусі́ць.**

**СПАКУШЭ́ННЕ** *ср.* **1.** искуше́ние; **2.** обольще́ние, совраще́ние; 1, 2 *см.* **спакуша́ць.**

**СПАЛАСАВА́НЫ** *в разн. знач.* исполосо́ванный; *см.* **спаласава́ць.**

**СПАЛАСАВА́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* исполосова́ть; **с. сукно́** исполосова́ть сукно́; **с. усю́ спі́ну** исполосова́ть всю спи́ну.

**СПАЛАСКА́НЫ** смы́тый, обмы́тый.

**СПАЛАСКА́ЦЬ** *сов.* **1.** смыть, обмы́ть; **2.: яго́ так ~ка́ла** *безл. разг.* его́ так изнури́л поно́с.

**СПАЛАСНУ́ТЫ** споло́снутый, ополо́снутый.

**СПАЛАСНУ́ЦЦА** *сов.* ополосну́ться, обмы́ться; окати́ться.

**СПАЛАСНУ́ЦЬ** *сов. однокр.* сполосну́ть, ополосну́ть.

**СПАЛАТНЕ́ЛЫ** *разг.* побледне́вший.

**СПАЛАТНЕ́ЦЬ** *сов. разг.* побледне́ть; стать бе́лым как полотно́.

**СПА́ЛЕНЫ** **1.** *в разн. знач.* сожжённый; **2.** сожжённый, исто́пленный; **3.** обожжённый, сожжённый; 1—3 *см.* **спалі́ць.**

**СПАЛІ́ЦЦА** *сов.* (*обжечься на солнце*) сже́чься.

**СПАЛІ́ЦЬ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* сжечь; **с. папе́ру** сжечь бума́гу; **со́нца ~лі́ла траву́** со́лнце сожгло́ траву́; **2.** сжечь, истопи́ть, изже́чь; **с. усе́ дро́вы** истопи́ть (изже́чь) все дрова́; **3.** обже́чь, сжечь; **с. пле́чы на со́нцы** обже́чь (сжечь) спи́ну на со́лнце; **кіслато́й ~лі́ў руку́** кислото́й обжёг ру́ку; ◇ **с. масты́** сжечь мосты́; **каб яго́ мала́нка ~лі́ла** разрази́ его́ гром.

**СПАЛО́СКВАЦЦА** *несов.* **1.** опола́скиваться, обмыва́ться; ока́тываться; **2.** *страд.* спола́скиваться, опола́скиваться; смыва́ться, обмыва́ться; *см.* **спало́скваць.**

**СПАЛО́СКВАЦЬ** *несов.* **1.** спола́скивать, опола́скивать; **2.** смыва́ть, обмыва́ть.

**СПАЛО́Х, -ху** *м.* переполо́х, испу́г.

**СПАЛО́ХАНА** *нареч.* испу́ганно.

**СПАЛО́ХАНЫ** испу́ганный.

**СПАЛО́ХАЦЦА** *сов.* испуга́ться.

**СПАЛО́ХАЦЬ** *сов.* испуга́ть.

**СПАЛО́ЦЬ** *сов. с.-х.* споло́ть.

**СПАЛУЧА́ЛЬНЫ** *спец.* сочета́тельный; **с. рэфле́кс** сочета́тельный рефле́кс.

**СПАЛУ́ЧАНАСЦЬ** *ж.* **1.** соединённость; **2.** сопряжённость; *см.* **спалу́чаны** 2.

**СПАЛУ́ЧАНЫ** **1.** *прич.* соединённый; *см.* **спалучы́ць; 2.** *прил.* сопряжённый; **~ныя пу́нкты** *физ.* сопряжённые то́чки; **~ныя рысо́ры** *тех.* сопряжённые рессо́ры.

**СПАЛУЧА́ЦЦА** *несов.* **1.** сочета́ться, соединя́ться; **2.** *страд.* сочета́ться, соединя́ться; *см.* **спалуча́ць.**

**СПАЛУЧА́ЦЬ** *несов.* сочета́ть, соединя́ть; *см.* **спалучы́ць.**

**СПАЛУЧЫ́ЦЦА** *сов.* сочета́ться, соедини́ться.

**СПАЛУЧЫ́ЦЬ** *сов.* сочета́ть, соедини́ть; **с. тэо́рыю з пра́ктыкай** сочета́ть (соедини́ть) теорию с пра́ктикой; **с. фа́рбы** сочета́ть кра́ски.

**СПАЛУЧЭ́ННЕ** *ср.* сочета́ние, соедине́ние; *см.* **спалучы́ць.**

**СПА́ЛЬВАННЕ** *ср.* сжига́ние; *см.* **спа́львацъ** 1.

**СПА́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** (*обжигаться на солнце*) сжига́ться; **2.** *страд.* сжига́ться; иста́пливаться, изжига́ться; обжига́ться; *см.* **спа́льваць.**

**СПА́ЛЬВАЦЬ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* сжига́ть; **2.** сжига́ть, иста́пливать, изжига́ть; **3.** обжига́ть, сжига́ть; 1—3 *см.* **спалі́ць.**

**СПА́ЛЬНІК** *м. ист.* спа́льник.

**СПА́ЛЬНЫ** спа́льный.

**СПА́ЛЬНЯ** *ж.* спа́льня.

**СПАМІ́Ж** *предлог обл. см.* **між.**

**СПАНДЫЛІ́Т, -ту** *м. мед.* спондили́т.

**СПАНДЭ́ЙЧНЫ** *лит.* спондейческий.

**СПАНДЭ́Й** *ж. лит.* сионде́й.

**СПАННЁ** *ср. разг.* спаньё.

**СПАНТА́ННАСЦЬ** *ж. филос.* спонта́нность.

**СПАНТА́ННЫ** спонта́нный.

**СПАПЯЛЕ́ЛЫ** преврати́вшийся в пе́пел.

**СПАПЯЛЕ́ЦЬ** *сов.* испепели́ться, преврати́ться в пе́пел.

**СПАПЯЛЁНЫ** *прям., перен.* испепелённый.

**СПАПЯЛІ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* испепели́ться.

**СПАПЯЛІ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* испепели́ть.

**СПАПЯЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* испепеля́ться; *см.* **спапялі́цца, спапяля́ць.**

**СПАПЯЛЯ́ЦЬ** *несов. прям., перен.* испепеля́ть.

**СПАРАВА́НЫ** скрещённый, спа́ренный; *см.* **спарава́ць** 1.

**СПАРАВА́ЦЦА** *сов.* скрести́ться, спа́риться.

**СПАРАВА́ЦЬ** *сов.* скрести́ть, спа́рить; **с. зубра́ з каро́вай** скрести́ть (спа́рить) зу́бра с коро́вой.

**СПАРАВІ́К, -ка́** *м. биол.* спорови́к.

**СПАРАДЖА́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* порожда́ть.

**СПАРАДЗІ́ЦЬ** *сов. в разн. знач.* породи́ть.

**СПАРА́ДКАВАНЫ** *разг.* приведённый в поря́док.

**СПАРА́ДКАВАЦЬ** *сов. разг.* привести́ в поря́док.

**СПАРАДЫ́ЧНА** *нареч.* споради́чески.

**СПАРАДЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* споради́чность.

**СПАРАДЫ́ЧНЫ** споради́ческий.

**СПАРАЖНІ́ЦЦА** *сов.* **1.** опоро́жниться, освободи́ться; **2.** *прост.* испражни́ться.

**СПАРАЖНІ́ЦЬ** *сов. разг.* опоро́жнить, освободи́ть.

**СПАРАЖНЯ́ЦЦА** *несов.* **1.** опорожня́ться, освобожда́ться; **2.** *прост.* испражня́ться; **3.** *страд. разг.* опорожня́ться, освобожда́ться.

**СПАРАЖНЯ́ЦЬ** *несов. разг.* опорожня́ть, освобожда́ть.

**СПАРАЛІЗАВА́НЫ** *разг.* парализо́ванный.

**СПАРАЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. разг.* парализова́ть.

**СПАРАЛІ́СЦІК** *м. бот.* споролистик.

**СПА́РАНА** *нареч.* спа́ренно.

**СПАРА́НГІЙ** *м. бот.* спора́нгий.

**СПА́РАНЫ** I спа́ренный; *см.* **спа́рыць** I.

**СПА́РАНЫ** II **1.** попа́ренный; **2.** вскипячённый; **3.** наби́тый; 1—3 *см.* **спа́рыць** II.

**СПАРАФІ́Л** *м. бот.* спорофи́лл.

**СПАРАФІ́Т** *м. бот.* спорофи́т.

**СПАРАХНЕ́ЛАСЦЬ** *ж.* **1.** гни́лость, трухля́вость; **2.** *перен.* дря́хлость; 1, 2 *см.* **спарахне́лы.**

**СПАРАХНЕ́ЛЫ 1.** (*о дереве, вещах*) гнило́й, истле́вший, трухля́вый; **2.** *перен.* (*о человеке*) одряхле́вший, дря́хлый.

**СПАРАХНЕ́ЦЬ** *сов.* **1.** (*о дереве, вещах*) сгнить, истле́ть; преврати́ться в труху́; **2.** *перен.* (*о человеке*) одряхле́ть.

**СПА́РВАННЕ** *ср.* спа́ривание; *см.* **спа́рваць.**

**СПА́РВАЦЦА** *несов. страд.* спа́риваться; *см.* **спа́рваць.**

**СПА́РВАЦЬ** *несов.* (*составлять пару*) спа́ривать.

**СПАРДЭ́К** *м. мор.* спарде́к.

**СПА́РЖА** *ж. бот.* спа́ржа.

**СПА́РЖАВЫ** спа́ржевый.

**СПАРНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* **1.** бо́лее спо́ро; **2.** *разг.* бо́лее убо́ристо; **3.** *разг.* экономи́чнее, вы́годнее; 1—3 *см.* **спо́рна.**

**СПАРНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* **1.** бо́лее спо́рый; **2.** *разг.* бо́лее экономи́чный, бо́лее вы́годный; 1, 2 *см.* **спо́рны** 1, 4.

**СПАРНЕ́ЦЬ** *несов. разг.* станови́ться бо́лее спо́рым; *см.* **спо́рны** 1.

**СПА́РНІК** *м. ж.-д.* спа́рник.

**СПАРО́ЖНЕНЫ** *разг.* опоро́жненный, освобождённый.

**СПАРО́ЎВАННЕ** *ср.* скре́щивание, спа́ривание; *см.* **спаро́ўваць.**

**СПАРО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* скре́щиваться, спа́риваться; *см.* **спарава́цца, спаро́ўваць.**

**СПАРО́ЎВАЦЬ** *несов.* скре́щивать, спа́ривать; *см.* **спарава́ць.**

**СПАРО́ЦЦА** *сов.* споро́ться; **нашы́ўка ~ро́лася** наши́вка споро́лась.

**СПАРО́ЦЬ** *сов.* **1.** споро́ть; **с. гу́зікі** споро́ть пу́говицы; **2.** (*снять палкой, шестом*) сбро́сить; **с. птушы́нае гняздо́** сбро́сить пти́чье гнездо́; **3.** (*чем-л. острым*) исты́кать, исколо́ть; **с. шпі́лькамі** исты́кать (исколо́ть) була́вками.

**СПА́РТА** *ж. ист.* Спа́рта.

**СПАРТА́КАВЕЦ, -каўца** *м. ист.* спарта́ковец.

**СПАРТА́КАЎСКІ** *ист.* спарта́ковский.

**СПАРТАКІЯ́ДА** *ж.* спартакиа́да.

**СПАРТА́НЕЦ, -нца** *м. ист., перен.* спарта́нец.

**СПАРТА́НКА** *ж. ист., перен.* спарта́нка.

**СПАРТА́НСКІ** *ист., перен.* спарта́нский; **~кая дзяржа́ва** спарта́нское госуда́рство; **~кія прывы́чкі** спарта́нские привы́чки.

**СПАРТА́НЦЫ, -цаў** спарта́нцы.

**СПАРТБА́ЗА** *ж.* спортба́за.

**СПАРТСМЕ́Н** *м.* спортсме́н.

**СПАРТСМЕ́НКА** *ж.* спортсме́нка.

**СПАРТСМЕ́НСКІ** спортсме́нский.

**СПАРТЫ́ЎНА-МА́САВЫ** спорти́вно-ма́ссовый.

**СПАРТЫ́ЎНА-ТРЭНІРО́ВАЧНЫ** спорти́вно-трениро́вочный.

**СПАРТЫ́ЎНЫ** спорти́вный; **~ныя гу́льні** спорти́вные и́гры; **~ная фо́рма** спорти́вная фо́рма; **~ныя арганіза́цыі** спорти́вные организа́ции.

**СПАРУЛЯ́ЦЫЯ** *ж. биол.* споруля́ция.

**СПАРЫННЯ́** *ж. мн. нет бот.* спорынья́.

**СПА́РЫЦЦА** *сов.* **1.** спа́риться; **2.** (*о молоке*) вскипяти́ться; **3.** *разг.* (*от жары*) вспоте́ть.

**СПА́РЫЦЬ** I *сов.* (*составить пару*) спа́рить.

**СПА́РЫЦЬ** II *сов.* **1.** попа́рить; **с. бру́чку** попа́рить брю́кву; **2.** (*молоко*) вскипяти́ть; **3.** (*повредить хомутом, седёлкой*) наби́ть; **с. спі́ну каню́** наби́ть спи́ну (хо́лку) ло́шади.

**СПАРЫ́Ш** I, **-ша́** *м. разг.* двойча́тка *ж.*, двоя́шка *ж.*

**СПАРЫ́Ш** II, **-ша́** *м. бот.* спорыш.

**СПАС** *м. церк.* спас.

**СПАСАВА́ЦЬ** *сов. прям., перен.* спасова́ть; **ка́рта не ідзе́, прыйшло́ся тры разы́ с.** ка́рта не идёт, пришло́сь три ра́за спасова́ть; **ён не ~су́е пе́рад цяжкасцямі** он не спасу́ет пе́ред тру́дностями.

**СПА́СВАЦЦА** *несов. страд.* трави́ться, стравля́ться, стра́вливаться; *см.* **спа́сваць.**

**СПА́СВАЦЬ** *несов.* (*производить потраву или расходовать на подножный корм*) трави́ть, стравля́ть, стра́вливать.

**СПА́СВЕНЫ** стра́вленный; *см.* **спа́свіць.**

**СПА́СВІЦЬ** *сов.* (*произвести потраву или израсходовать на подножный корм*) страви́ть.

**СПАСКУ́ДЖАНЫ** *прост.* испаску́женный, изга́женный, испа́кощенный, испога́ненный.

**СПАСКУ́ДЗІЦЦА** *сов. прост.* испаску́диться, изга́диться, испа́коститься, испога́ниться.

**СПАСКУ́ДЗІЦЬ** *сов. прост.* испаску́дить, изга́дить, испа́костить, испога́нить.

**СПАСЛА́ЦЦА** *сов.* сосла́ться; **с. на аўтарытэ́т** сосла́ться на авторите́т.

**СПА́СЦІ** *сов.* **1.** *в разн. знач.* спасть; **спа́лі ланцугі́ няво́лі** спа́ли око́вы нево́ли; **з яе́ спа́лі лахманы́** с неё спа́ли лохмо́тья; **спёка яшчэ́ не спа́ла** зной ещё не спал; **2.** (*осыпаться*) опа́сть, попа́дать; **ужо́ ўсе лісты́ спа́лі** уже́ все ли́стья опа́ли (попа́дали); **3.** (*понизиться в уровне*) спасть, упа́сть, убы́ть, уба́виться; **пасля́ паво́дкі вада́ спа́ла** по́сле наводне́ния вода́ спа́ла; **4.** (*понизиться*) упа́сть; **у хво́рага спа́ла тэмперату́ра** у больно́го упа́ла температу́ра; **5.** (*уменьшиться в объёме*) опа́сть; **пухлі́на спа́ла** о́пухоль опа́ла; ◇ **гара́ з плеч спа́ла** гора́ с плеч свали́лась.

**СПАСЦІГА́ЦЬ** *несов. разг.* постига́ть; *см.* **спасці́гнуць.**

**СПАСЦІ́ГНУЦЬ** *сов. разг.* пости́чь, пости́гнуть; **яе́ ~гла го́ра** её пости́гло го́ре.

**СПАСЫЛА́ННЕ** *ср.* ссы́лка *ж.*; *см.* **спасыла́цца.**

**СПАСЫЛА́ЦЦА** *несов.* ссыла́ться; *см.* **спасла́цца.**

**СПАСЫ́ЛАЧНЫ** ссы́лочный.

**СПАСЫ́ЛКА** *ж.* ссы́лка.

**СПАТАЙКО́Ў** *нареч. см.* **спо́тайку.**

**СПАТКА́ННЕ** *ср.* **1.** встре́ча *ж.*; **нечака́нае с.** неожи́данная встре́ча; **2.** свида́ние; **дзяўчы́на спяша́ецца на с.** де́вушка спеши́т на свида́ние.

**СПАТКА́ЦЦА** *сов.* встре́титься.

**СПАТКА́ЦЬ** *сов.* **1.** встре́тить; **2.** (*о несчастье и т. п.*) пости́чь.

**СПА́ТКІ** *межд.* бай-ба́й, ба́иньки.

**СПАТРЭ́БІЦЦА** *сов.* пона́добиться; пригоди́ться; **ён мне яшчэ́ с.** он мне ещё пона́добится (пригоди́тся); **на гэ́та ім с. не менш гадзі́ны** на э́то им потре́буется (пона́добится) не ме́нее ча́са.

**СПАТРЭ́БІЦЬ** *сов.* употреби́ть, израсхо́довать.

**СПАТЫКА́ЦЦА** I *несов.* **1.** спотыка́ться, оступа́ться; запина́ться; **2.** *перен.* (*совершать ошибки в жизни*) спотыка́ться; **3.** *перен.* (*при чтении*) спотыка́ться, запина́ться.

**СПАТЫКА́ЦЦА** II *несов.* встреча́ться.

**СПАТЫКА́ЦЬ** *несов.* **1.** встреча́ть; **2.** (*о несчастье и т. п.*) постига́ть.

**СПАТЫКНУ́ЦЦА** *сов.* **1.** споткну́ться, оступи́ться; запну́ться; **2.** *перен.* (*совершить ошибку в жизни*) споткну́ться; **3.** *перен.* (*при чтении*) споткну́ться, запну́ться.

**СПАЎЗА́ННЕ** *ср.* сполза́ние; *см.* **спаўза́ць** 1.

**СПАЎЗА́ЦЦА** *несов. прям., перен. прост.* сполза́ться; *см.* **спаўзці́ся.**

**СПАЎЗА́ЦЬ** *несов.* **1.** *прям., перен.* сполза́ть; (*сдвигаться с места — ещё*) съезжа́ть; **2.** (*удаляться*) уполза́ть; 1, 2 *см.* **спаўзці́.**

**СПАЎЗЦІ́** *сов.* **1.** *прям., перен.* сползти́; (*сдвинуться с места — ещё*) съе́хать; **с. з гары́ ўніз** сползти́ с горы́ вниз; **с. ў бало́та апартуні́зму** сползти́ в боло́то оппортуни́зма;

2. (*удалиться*) уползти́; **чарапа́ха не́куды ~зла́** черепа́ха куда́-то уползла́.

**СПАЎЗЦІ́СЯ** *сов. прям., перен. прост.* сползти́сь; **прусакі́ ~злі́ся на хлеб** прусаки́ сползли́сь на хлеб; **аднéкуль ~злі́ся ро́зныя лю́дзі** отку́да-то сползли́сь ра́зные лю́ди.

**СПАЎНА́** *нареч.* сполна́.

**СПАЎНЯ́ЦЦА** *несов.* (*о времени, возрасте*) исполня́ться; *см.* **спо́ўніцца.**

**СПАХВАЛА́** *нареч. обл. см.* **спакваля́.**

**СПАХМУРНЕ́ЛЫ** помрачне́вший, омрачённый.

**СПАХМУРНЕ́ЦЬ** *сов.* помрачне́ть, омрачи́ться.

**СПАЦЕ́ЛЫ** вспоте́вший.

**СПАЦЕ́ЦЬ** *сов.* вспоте́ть.

**СПА́ЦЦА** *несов. безл. разг.* спа́ться; **мне не спі́цца** мне не спи́тся.

**СПАЦЬ** *несов. в разн. знач.* спать; **с. во́сем гадзі́н** спать во́семь часо́в; **у ха́це яшчэ́ не кла́ліся с.** в избе́ ещё не ложи́лись спать; **лес спіць глыбо́кім сном** лес спит глубо́ким сном; **яе́ пачу́цці яшчэ́ спяць** её чу́вства ещё спят; **на́ша разве́дка не спіць** на́ша разве́дка не спит; ✧ **ла́ўры с. не даю́ць** ла́вры спать не даю́т; **с. ве́чным сном** спать ве́чным сном; **спіць і сніць** спит и ви́дит; **хто спіць, той не грашы́ць** *посл.* кто спит, (тот) не греши́т.

**СПАЧА́ТКУ** *нареч.* **1.** (*предварительно*) снача́ла, пре́жде; **с. паду́май, а по́тым гавары́** снача́ла (пре́жде) поду́май, а пото́м говори́; **2.** (*первое время*) внача́ле; **с. сумава́ў, а по́тым прывы́к** внача́ле скуча́л, а пото́м привы́к; **3.** снача́ла, сно́ва; **пачнём с.** начнём снача́ла (сно́ва).

**СПАЧУВА́ЛЬНА** *нареч.* **1.** сочу́вственно, уча́стливо; **2.** сочу́вственно; 1, 2 *см.* **спачува́льны.**

**СПАЧУВА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* **1.** сочу́вственность, уча́стливость; **2.** сочу́вственность; 1, 2 *см.* **спачува́льны.**

**СПАЧУВА́ЛЬНЫ 1.** (*сострадательный*) сочу́вственный, уча́стливый; соболе́знующий; **2.** (*одобрительный*) сочу́вственный.

**СПАЧУВА́ННЕ** (*каму-чаму*) *ср.* **1.** сочу́вствие, уча́стие (*в ком*); соболе́знование; **2.** сочу́вствие; 1,2 *см.* **спачува́ць.**

**СПАЧУВА́ЦЬ** (*каму-чаму*) *несов.* **1.** (*относиться с состраданием*) сочу́вствовать, принима́ть уча́стие (*в ком*); соболе́зновать, выража́ть соболе́знование; **2.** (*одобрять*) сочу́вствовать.

**СПАЧЫВА́ЛЬНЯ** *ж. уст.* опочива́льня.

**СПАЧЫВА́ЦЬ** *несов.* **1.** отдыха́ть; **2.** *перен. уст.* (*об умерших*) почива́ть, опочива́ть; поко́иться.

**СПАЧЫ́Н, -ну** *м.* о́тдых, поко́й.

**СПАЧЫ́НАК, -нку** *м.* о́тдых, поко́й.

**СПАЧЫ́ЦЬ** *сов.* **1.** отдохну́ть; **2.** *перен. уст.* (*об умерших*) почи́ть, опочи́ть; упоко́иться; ✧ **с. на ла́ўрах** почи́ть на ла́врах.

**СПАЯ́НАСЦЬ** *ж. прям., перен.* спа́янность.

**СПАЯ́НЫ** *прям., перен.* спа́янный; *см.* **спая́ць.**

**СПАЯ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* спая́ться; **канцы́ дро́ту мо́цна спая́ліся** концы́ про́волоки кре́пко спая́лись; **калекты́ў спая́ўся ў адзі́нае цэ́лае** коллекти́в спая́лся в еди́ное це́лое.

**СПАЯ́ЦЬ** *сов. прям., перен.* спая́ть; **с. канцы́ дро́ту** спая́ть концы́ про́волоки; **с. калекты́ў** спая́ть коллекти́в.

**СПЕКТА́КЛЬ** *м.* спекта́кль, представле́ние *ср.*

**СПЕКТР** *м. физ.* спектр.

**СПЕКТРАГЕЛІЁГРАФ** *м. физ.* спектрогелио́граф.

**СПЕКТРА́ЛЬНЫ** спектра́льный.

**СПЕКТРАМЕТРЫ́ЧНЫ** спектрометри́ческий.

**СПЕКТРАМЕ́ТРЫЯ** *ж. физ.* спектроме́трия.

**СПЕКТРАСКАПІ́ЧНЫ** спектроскопи́ческий.

**СПЕКТРАСКАПІ́Я** *ж. физ.* спектроскопи́я.

**СПЕКТРАСКО́П** *м. физ.* спектроско́п.

**СПЕКТРАФАТО́МЕТР** *м. физ.* спектрофото́метр.

**СПЕКТРО́ГРАФ** *м. физ.* спектро́граф.

**СПЕКТРО́МЕТР** *м. физ.* спектро́метр.

**СПЕКУЛЬНУ́ЦЬ** *сов. однокр. прям., перен. прост.* спекульну́ть.

**СПЕКУЛЯВА́ННЕ** *ср.* спекуля́ция *ж.*, спекули́рование; *см.* **спекуля́ваць.**

**СПЕКУЛЯВА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* спекули́ровать; **с. дэфіцы́тнымі тава́рамі** спекули́ровать дефици́тными това́рами; **с. на даве́р'і** спекули́ровать на дове́рии.

**СПЕКУЛЯ́НТ** *м.* спекуля́нт.

**СПЕКУЛЯ́НТКА** *ж.* спекуля́нтка.

**СПЕКУЛЯ́НЦКІ** спекуля́нтский.

**СПЕКУЛЯЦЫ́ЙНЫ** *в разн. знач.* спекуляти́вный; **~ная здзе́лка** спекуляти́вная сде́лка; **~ная філасо́фія** спекуляти́вная филосо́фия.

**СПЕКУЛЯ́ЦЫЯ** *ж. прям., перен.* спекуля́ция; **змага́цца са ~цыяй** боро́ться со спекуля́цией; **с. на ця́жкасцях** спекуля́ция на тру́дностях.

**СПЕ́ЛАСЦЬ** *ср.* **1.** зре́лость, спе́лость; **2.** *перен.* зре́лость; 1, 2 *см.* **спе́лы.**

**СПЕ́ЛІЦЬ** *несов.* доводи́ть до зре́лости.

**СПЕ́ЛЫ 1.** зре́лый, спе́лый; **~лыя я́блыкі** зре́лые (спе́лые) я́блоки; **2.** *перен.* (*основательно продуманный*) зре́лый; **~лыя ду́мкі** зре́лые мы́сли.

**СПЕ́РАДУ 1.** *нареч.* спе́реди; **с. во́пратка была́ ўся запэ́цкана** спе́реди оде́жда была́ вся запа́чкана; **2.** *нареч.* впереди́; **не́дзе с. чу́ліся стрэ́лы** где́-то впереди́ слы́шались вы́стрелы; **3.** *предлог с род.* спе́реди, впереди́; **ісці́ с. кало́ны** идти́ впереди́ коло́нны.

**СПЕРАЗА́НЫ** *прост.* огре́тый.

**СПЕРАЗА́ЦЬ** *сов. прост.* огре́ть.

**СПЕ́РМА** *ж. мн. нет биол.* спе́рма.

**СПЕРМАТАЗО́ІД** *м. биол.* сперматозо́ид, спе́рмий.

**СПЕРМАЦЭ́Т, -ту** *м. спец.* спермаце́т.

**СПЕРМАЦЭ́ТАВЫ** спермаце́товый.

**СПЕ́РМІЙ** *м. биол.* спе́рмий.

**СПЕРМІ́Н, -ну** *м. мед.* сперми́н.

**СПЕ́РЦІ** I *сов. прост.* **1.** *безл.* (*сдавить, стеснить*) спере́ть; **дух ~рла** дыха́ние спёрло; **2.** (*собрать в кучу*) согна́ть; **3.** (*с должности*) согна́ть.

**СПЕ́РЦІ** II *сов. прост.* (*украсть*) спере́ть, стащи́ть.

**СПЕ́РЦІСЯ** *сов. прост.* спере́ться; сгруди́ться, столпи́ться.

**СПЕ́ТЫ** спе́тый; *см.* **спець** I.

**СПЕЎ,** *род.* **спе́ву** *м.* **1.** *чаще мн.* пе́ние *ср.*; **за сцяно́й чу́ліся спе́вы** за стено́й слы́шалось пе́ние; **спе́вы салаўя́** пе́ние соловья́; **2.** *только мн.* (*учебный предмет*) пе́ние *ср.*; **3.** *церк.* песнопе́ние *ср.*

**СПЕ́ЎКА** *ж.* спе́вка.

**СПЕ́ЎНІК** *м.* (*сборник песен*) пе́сенник.

**СПЕХ,** *род.* **спе́ху** *м. разг.* спех; ✧ **(гэ́та) не к спе́ху** (э́то) не к спе́ху.

**СПЕ́ХАМ** *нареч.* на́спех, поспе́шно.

**СПЕЦ** *м. разг. в разн. знач.* спец.

**СПЕЦАЕ́ДСТВА** *ср. уст.* спецее́дство.

**СПЕЦВО́ПРАТКА** *ж.* спецоде́жда.

**СПЕЦГРУ́ПА** *ж.* спецгру́ппа.

**СПЕЦКО́Р** *м.* **(спецыя́льны карэспандэ́нт)** спецко́р (специа́льный корреспонде́нт).

**СПЕЦПАДРЫХТО́ЎКА** *ж.* спецподгото́вка.

**СПЕЦСТА́ЎКА** *ж.* спецста́вка.

**СПЕ́ЦЦА** *сов. прям., перен.* спе́ться; **хор яшчэ́ не спе́ўся** хор ещё не спе́лся; **з гэ́тым чалаве́кам ця́жка с.** с э́тим челове́ком тру́дно спе́ться.

**СПЕЦШКО́ЛА** *ж.* спецшко́ла.

**СПЕЦЫ́ФІКА** *ж.* специ́фика.

**СПЕЦЫФІКАВА́НЫ** специфици́рованный.

**СПЕЦЫФІКАВА́ЦЦА** *несов. страд.* специфици́роваться.

**СПЕЦЫФІКАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* специфици́ровать.

**СПЕЦЫФІКАТАР** *м. спец.* спецификатор.
**СПЕЦЫФІКАЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* спецификация.
**СПЕЦЫФІЧНАСЦЬ** *ж.* специфичность.
**СПЕЦЫФІЧНЫ** специфический, специфичный.
**СПЕЦЫЯ** *ж.* специя.
**СПЕЦЫЯЛІЗАВАНЫ** специализированный; *см.* **спецыялізаваць.**
**СПЕЦЫЯЛІЗАВАЦЦА 1.** *сов. и несов.* специализироваться; **с. па садаводству** специализироваться по садоводству; **2.** *несов. страд.* специализироваться; *см.* **спецыялізаваць.**
**СПЕЦЫЯЛІЗАВАЦЬ** *сов. и несов.* специализировать; **с. прадпрыемствы** специализировать предприятия.
**СПЕЦЫЯЛІЗАЦЫЯ** *ж.* специализация.
**СПЕЦЫЯЛІСТ** *м.* специалист.
**СПЕЦЫЯЛІСТКА** *ж.* специалистка.
**СПЕЦЫЯЛЬНА** *нареч. в разн. знач.* специально; **кніга напісана занадта с.** книга написана слишком специально; **я прыйшоў с. для сустрэчы з вамі** я пришёл специально для встречи с вами.
**СПЕЦЫЯЛЬНАСЦЬ** *ж.* специальность; **працаваць па ~ці** работать по специальности.
**СПЕЦЫЯЛЬНЫ 1.** (*имеющий определённое, особое назначение*) особый; **с. станок** специальный станок; **с. спісак** специальный (особый) список; **2.** (*относящийся к определённой отрасли науки и т. п.*) специальный; **с. тэрмін** специальный термин.
**СПЕЦЬ** I *сов.* спеть; **с. песню** спеть песню; **с. цяжкую партыю** спеть трудную партию; ✧ **яго песенька (песня) спета** его песенка спета.
**СПЕЦЬ** II *несов.* **1.** (*становиться спелым*) зреть, спеть, созревать, поспевать; **на полі спела жыта** на поле зрела (спела, созревала, поспевала) рожь; **2.** *перен.* (*принимать законченную форму*) зреть, созревать; **у яго спела новае рашэнне гэтай праблемы** у него зрело (созревало) новое решение этой проблемы.
**СПЁЧАНЫ 1.** испечённый; **2.** изжаренный, сжаренный; **3.** обожжённый; **4.** обожжённый; 1—4 *см.* **спячы.**
**СПЁШАНЫ** спешенный.
**СПЁШВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* спешиваться.
**СПЁШВАЦЬ** *несов.* спешивать.
**СПЁШКА** *ж. разг.* спешка.
**СПЁШНА** *нареч.* спешно.
**СПЁШНАСЦЬ** *ж.* спешность.
**СПЁШНЫ** спешный; **~ная справа** спешное дело; **~ная карэспандэнцыя** спешная корреспонденция.
**СПЁШЫЦЦА** *сов.* спешиться.
**СПЁШЫЦЬ** *сов.* спешить.
**СПЁКА** *ж.* жара, зной *м.*
**СПЁРТЫ** I *прост.* **1.** спёртый; **2.** согнанный; 1, 2 *см.* **спёрці** I; ✧ **с. мат** *шахм.* спёртый мат.
**СПЁРТЫ** II *прост.* спёртый, стащенный; *см.* **спёрці** II.
**СПІВАЦЦА** *несов. разг.* **1.** (*становиться пьяницей*) спиваться; **2.** *страд.* спиваться.
**СПІВАЦЬ** *несов. разг.* спивать.
**СПІДОМЕТР** *м. спец.* спидометр.
**СПІЖАРНЯ** *ж.* чулан *м.*
**СПІКЕР** *м. полит.* спикер.
**СПІКІРАВАЦЬ** *сов. ав.* спикировать.
**СПІЛАВАНЫ 1.** спиленный; **2.** испиленный, перепиленный; 1, 2 *см.* **спілаваць.**
**СПІЛАВАЦЬ** *сов.* **1.** (*срезать пилой*) спилить; **с. дрэва** спилить дерево; **2.** (*всё*) испилить, перепилить; **с. усе дровы** испилить (перепилить) все дрова.
**СПІЛОВАНЫ** *см.* **спілаваны.**
**СПІЛОЎВАЦЦА** *несов. страд.* спиливаться; испиливаться, перепиливаться; *см.* **спілоўваць.**
**СПІЛОЎВАЦЬ** *несов.* **1.** (*срезать пилой*) спиливать; **2.** (*всё*) испиливать, перепиливать; 1, 2 *см.* **спілаваць.**
**СПІЛОЎКА** *ж. спец.* спилка.
**СПІНА** *ж.* спина; **выпрастаць ~ну** распрямить спину; ✧ **павярнуцца ~най да каго-небудзь** повернуться спиной к кому-л.; **гнуць ~ну** гнуть спину; **паказаць ~ну** показать спину; **нож у ~ну** нож в спину; **на ўласнай ~не (зазнаць, адчуць што-небудзь)** на собственной спине (испытать, узнать что-л.); **выязджаць (ездзіць) на чыёй-небудзь ~не** выезжать (ездить) на чьей-л. спине.
**СПІНІНГ** *м. рыб.* спиннинг.
**СПІНІНГАВЫ** спиннинговый.
**СПІНІНГІСТ** *м. спорт.* спиннингист.
**СПІНКА** *ж. в разн. знач.* спинка; **с. дзіцяці** спинка ребёнка; **с. крэсла** спинка кресла; **выкраіць ~ку** *порт.* выкроить спинку.
**СПІННАМАЗГАВЫ** спинномозговой.
**СПІННЫ** спинной; ✧ **с. хрыбет** спинной хребет; **с. мозг** спинной мозг.
**СПІНТАРЫСКОП** *м. физ.* спинтарископ.
**СПІРАЛЕПАДОБНЫ** спиралеобразный.
**СПІРАЛЬ** *ж. в разн. знач.* спираль; **стальная с.** стальная спираль; **па ўзыходзячай ~лі** по восходящей спирали; **архімедава с.** *мат.* архимедова спираль.
**СПІРАЛЬКА** *ж. тех.* спиралька.
**СПІРАЛЬНЫ** спиральный; (*винтообразный — ещё*) винтовой; **с. дрот** спиральная проволока; **с. спуск самалёта** спиральный (винтовой) спуск самолёта.
**СПІРАНТ** *м. лингв.* спирант.
**СПІРАНТНЫ** *лингв.* спирантный.
**СПІРАХЕТА** *ж. бакт.* спирохета.
**СПІРАЦЦА** *несов. прост.* **1.** спираться; сгруживаться, толпиться; **2.** *страд.* спираться; сгоняться; *см.* **спіраць.**
**СПІРАЦЬ** *несов. прост.* **1.** *безл.* (*сдавливать, стеснять*) спирать; **2.** (*собирать в кучу*) сгонять; **3.** (*с должности*) сгонять; 1—3 *см.* **спёрці** I.
**СПІРОМЕТР** *м. мед.* спирометр.
**СПІРТ,** *род.* **спірту** *м. в разн. знач.* спирт; **нашатырны с.** нашатырный спирт; **драўняны с.** древесный спирт; **вінны с.** винный спирт.
**СПІРТААЧЫШЧАЛЬНЫ** *спец.* спиртоочистительный.
**СПІРТАВАННЕ** *ср. спец.* спиртование.
**СПІРТАВАЦЦА** *несов. страд. спец.* спиртоваться.
**СПІРТАВАЦЬ** *несов. спец.* спиртовать.
**СПІРТАВЫ** спиртовой.
**СПІРТАМЕР** *м. спец.* спиртомер.
**СПІРТАРЭКТЫФІКАЦЫЙНЫ** *спец.* спирторектификационный.
**СПІРТНЫ** спиртной.
**СПІРТОВЫ** *см.* **спіртавы.**
**СПІРТОЎКА** *ж.* спиртовка.
**СПІРЫТ** *м.* спирит.
**СПІРЫТКА** *ж.* спиритка.
**СПІРЫТУАЛІЗМ, -му** *м. филос.* спиритуализм.
**СПІРЫТУАЛІСТ** *м.* спиритуалист.
**СПІРЫТУАЛІСТЫЧНЫ** *филос.* спиритуалистический.
**СПІРЫТУС, -су** *м. разг.* спирт.
**СПІРЫТЫЗМ, -му** *м.* спиритизм.
**СПІРЫТЫЧНЫ** спиритический; **с. сеанс** спиритический сеанс.
**СПІС** *м. в разн. знач.* список; **старажытны с. летапісаў** древний список летописей; **вершы ў спісах** стихотворения в списках; **спісы выбаршчыкаў** списки избирателей; **чорны с.** чёрный список.
**СПІСАК, -ска** *м.* **1.** *см.* **спіс; 2.** (*документ*) список; **працоўны с.** трудовой список.
**СПІСАНЫ 1.** *в разн. знач.* списанный; **2.** исписанный; **3.** *перен. разг.* исполосованный; 1—3 *см.* **спісаць.**
**СПІСАЦЦА** *сов.* **1.** *в разн. знач.* списаться; **с. са школьнымі таварышамі** списаться со школьными товарищами;

**СТРУГА́ЦЦА** *несов.* **1.** строга́ться; **2.** *страд.* строга́ться; чи́ститься; ре́заться, нареза́ться; *см.* **струга́ць.**

**СТРУГА́ЦЬ** *несов.* **1.** строга́ть; **с. до́шку** строга́ть до́ску; **с. на варшта́це** строга́ть на верстаке́; **2.** *обл.* (*картофель и т. п.*) чи́стить; **3.** ре́зать, нареза́ть; **с. бу́льбу сало́мкаю** ре́зать (нареза́ть) карто́фель соло́мкой.

**СТРУ́ЖКА** *ж.* стру́жка.

**СТРУ́ЖКАВЫ** стру́жечный.

**СТРУК,** *род.* **струка́** *м.* боб, стручо́к; **с. гаро́ху** горо́ховый стручо́к.

**СТРУКАВА́ТЫ 1.** стручкова́тый; **2.** *разг.* (*о шерсти*) кудря́вый.

**СТРУ́КАВЫ** *и* **СТРУКО́ВЫ** стручко́вый.

**СТРУ́КАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* бобо́вые.

**СТРУКАПАДО́БНЫ** стручкова́тый.

**СТРУКО́ВЫ** *см.* **стру́кавы.**

**СТРУКТУ́РА** *ж.* структу́ра; **с. ста́лі** структу́ра ста́ли; **с. глебы** структу́ра по́чвы; **арганізацы́йная с.** организацио́нная структу́ра.

**СТРУКТУРАЛІ́ЗМ, -му** *м. лингв.* структурали́зм.

**СТРУКТУРАЛІ́СТ** *м.* структурали́ст.

**СТРУКТУРАЛІ́СЦКІ** *лингв.* структурали́стский.

**СТРУКТУРА́ЛЬНЫ** *лингв.* структура́льный.

**СТРУКТУ́РНАСЦЬ** *ж.* структу́рность.

**СТРУКТУ́РНЫ** структу́рный; **~ная фо́рмула** структу́рная фо́рмула.

**СТРУМА́НТ** *м. см.* **інструме́нт.**

**СТРУМЕ́НІСТЫ 1.** стру́йчатый; **2.** *поэт.* струи́стый.

**СТРУМЕ́НІЦЦА** *несов. прям., перен.* струи́ться.

**СТРУМЕ́НІЦЬ** *несов. прям., перен.* струи́ть.

**СТРУМЕ́ННЫ: ~нная по́мпа** *тех.* стру́йный насо́с.

**СТРУМЕ́НЬ** *м.* **1.** струя́ *ж.*, пото́к; (*воздуха — ещё*) тече́ние *ср.*; **~нямі сцякáе вада́** стру́ями (пото́ками) стека́ет вода́; **паве́траны с.** возду́шное тече́ние; **2.** *перен.* струя́ *ж.*; **уліц свéжы с. у рабо́ту** влить све́жую струю в рабо́ту.

**СТРУМЕ́НЬЧЫК** *м. уменьш.-ласк.* стру́йка *ж.*

**СТРУНА́** *ж. в разн. знач.* струна́; **металі́чныя стру́ны** металли́ческие стру́ны; **стру́ны душы́** стру́ны души́.

**СТРУ́НКА** *ж. прям., перен.* стру́нка; **гэ́та яго́ сла́бая с.** э́то его́ сла́бая стру́нка; ✧ **па ~нцы хадзі́ць** по стру́нке ходи́ть.

**СТРУ́ННЫ** стру́нный; **с. інструме́нт** стру́нный инструме́нт; **с. кварт́эт** стру́нный кварте́т.

**СТРУП** *м.* струп.

**СТРУ́ПАВЫ** стру́пный.

**СТРУХЛЕ́ЛЫ** истле́вший; обветша́лый, изветша́лый; **~лая сало́ма** истле́вшая соло́ма; **~лая кры́ша** обветша́лая (изветша́лая) кро́вля.

**СТРУХЛЕ́ЦЬ** *сов.* истле́ть; иструхля́веть; обветша́ть, изветша́ть; **дрэ́ва ~ле́ла** де́рево истле́ло; **ха́та ~ле́ла** изба́ обветша́ла (изветша́ла).

**СТРУХЛЯ́ВЕЦЬ** *сов. см.* **струхле́ць.**

**СТРУЧНЫ** стручи́стый; **с. гаро́х** стручи́стый горо́х.

**СТРУЧО́К, -чка́** *м. уменьш.* стручо́к.

**СТРЫВА́ЦЬ** *сов.* стерпе́ть, вы́держать.

**СТРЫВО́ЖАНЫ 1.** встрево́женный, нару́шенный; вспу́гнутый; **2.** стро́нутый, сдви́нутый.

**СТРЫВО́ЖЫЦЬ** *сов.* **1.** встрево́жить, нару́шить; вспугну́ть; **2.** стро́нуть, сдви́нуть.

**СТРЫГА́ЛА** *м. и ж. спец.* стрига́ла.

**СТРЫГА́ЛЬНЫ** *тех.* стрига́льный; **с. стано́к** стрига́льный стано́к.

**СТРЫГА́ЛЬШЧЫК** *м.* стрига́льщик.

**СТРЫГА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* стрига́льщица.

**СТРЫГУ́Н, -на́** *м.* (*жеребёнок*) стригу́н.

**СТРЫГУНО́К, -нка́** *м. уменьш.* (*жеребёнок*) стригуно́к.

**СТРЫГУ́ЧЫ: с. ліша́й** *мед.* стригу́щий лиша́й.

**СТРЫ́ГЧЫ** *несов.* **1.** *в разн. знач.* стричь; **с. валасы́** стричь во́лосы; **с. кліе́нта** стричь клие́нта; **с. папе́ру** стричь бума́гу; **2.** (*ушами*) стричь, пря́дать, прясть; **конь спыні́ўся і пача́ў с. вуша́мі** конь останови́лся и стал стричь (пря́дать, прясть) уша́ми; ✧ **с. купо́ны** стричь купо́ны; **с. ўсі́х пад адзі́н грэ́бень** стричь всех под одну́ гребёнку.

**СТРЫЕ́ЧНЫ** двою́родный.

**СТРЫЖ,** *род.* **стрыжа́** *м.* стриж.

**СТРЫ́ЖАНЫ 1.** *прич.* стри́женный; *см.* **стры́гчы** 1; **2.** *прил.* стри́женый; **~ная аве́чка** стри́женая овца́.

**СТРЫ́ЖАНЬ, -жня** *м.* **1.** (*в древесине, моркови и т. п.*) сердцеви́на *ж.*; **2.** *тех.* сте́ржень; **3.** *тех.* серде́чник; **4.** (*течение*) стре́жень; **5.** *перен.* (*основа*) сте́ржень.

**СТРЫ́ЖКА** *ж. в разн. знач.* стри́жка; **с. валасо́ў** стри́жка воло́с; **мо́дная с.** мо́дная стри́жка; ✧ **с. купо́наў** стри́жка купо́нов.

**СТРЫЖНЁВЫ 1.** сердцеви́нный; **2.** *перен.* стержнево́й; 1, 2 *см.* **стры́жань** 1, 5; **3.** (*о древесине*) с большо́й сердцеви́ной.

**СТРЫКТУ́РА** *ж. мед.* стрикту́ра.

**СТРЫКТУ́РНЫ** *мед.* стрикту́рный.

**СТРЫ́МАНА** *нареч.* сде́ржанно; хо́лодно.

**СТРЫ́МАНАСЦЬ** *ж.* сде́ржанность; хо́лодность.

**СТРЫМА́ННЕ** *ср.* пресече́ние; **ме́ра ~ння** *юр.* ме́ра пресече́ния.

**СТРЫ́МАНЫ 1.** *прич.* сде́ржанный, уде́ржанный; остано́вленный; **2.** *прич. перен.* сде́ржанный, уде́ржанный; **3.** *прич.* уме́ренный; 1—3 *см.* **стрыма́ць; 4.** *прил.* сде́ржанный; **с. чалаве́к** сде́ржанный челове́к; **с. адка́з** сде́ржанный отве́т.

**СТРЫМА́ЦЦА** *сов.* сдержа́ться, удержа́ться; **с. ад слёз** сдержа́ться (удержа́ться) от слёз; **с. ад неабду́манага ўчы́нку** удержа́ться от необду́манного посту́пка.

**СТРЫМА́ЦЬ** *сов.* **1.** сдержа́ть, удержа́ть; останови́ть; **ко́ней не ~ма́еш** лошаде́й не сде́ржишь (не уде́ржишь, не остано́вишь); **2.** *перен.* сдержа́ть, удержа́ть; **с. смех** сдержа́ть смех; **с. ад неабду́манага ўчы́нку** удержа́ть от необду́манного посту́пка; **3.** (*ограничить*) уме́рить; **~ма́й свой запа́л!** уме́рь свой пыл!

**СТРЫМГАЛО́Ў** *нареч.* стремгла́в, о́прометью, сломя́ го́лову, во весь опо́р.

**СТРЫ́МЛІВАННЕ** *ср. прям., перен.* сде́рживание, уде́рживание; *см.* **стры́млівацъ** 1, 2.

**СТРЫ́МЛІВАЦЦА** *несов.* **1.** сде́рживаться, уде́рживаться; *см.* **стрыма́цца; 2.** *страд.* сде́рживаться; уде́рживаться; остана́вливаться; умеря́ться; *см.* **стры́млівацъ.**

**СТРЫ́МЛІВАЦЬ** *несов.* **1.** сде́рживать, уде́рживать; остана́вливать; **2.** *перен.* сде́рживать, уде́рживать; **3.** (*ограничивать*) умеря́ть; 1—3 *см.* **стрыма́ць.**

**СТРЫ́НГЕР** *м. мор.* стри́нгер.

**СТРЫНО́ЖАНЫ** стрено́женный; *см.* **стрыно́жыць.**

**СТРЫНО́ЖВАЦЦА** *несов. страд.* стрено́живаться; *см.* **стрыно́жваць.**

**СТРЫНО́ЖВАЦЬ** *несов.* стрено́живать; *см.* **стрыно́жыць.**

**СТРЫНО́ЖЫЦЬ** *сов.* стрено́жить; **с. каня́** стрено́жить коня́.

**СТРЫ́ПЕР** *м. тех., с.-х.* стри́ппер.

**СТРЫХНІ́Н, -ну** *м. фарм., хим.* стрихни́н.

**СТРЫХО́ЎКА** *ж.* доще́чка для подра́внивания соло́мы на кры́ше.

**СТРЭЛ,** *род.* **стрэ́лу** *м.* вы́стрел.

**СТРЭЛАПАДО́БНЫ** стрелови́дный, стрелообра́зный, стрелоподо́бный.

**СТРЭ́ЛАЧНІК** *м.* стре́лочник.

**СТРЭ́ЛАЧНІЦА** *ж.* стре́лочница.

**СТРЭ́ЛАЧНЫ** *ж.-д.* стре́лочный.

**СТРЭ́ЛІЦЬ** *сов.* вы́стрелить.

**СТРЭ́ЛКА** *ж.* **1.** *в разн. знач.* стре́лка; **с. ко́мпаса** стре́лка ко́мпаса; **міну́тная с.** мину́тная стре́лка; **на чыгу́начнай ста́нцыі ўстано́ўлены аўтаматы́чныя ~кі** на железнодо-

ро́жной ста́нции устано́влены автомати́ческие стре́лки; **панчо́хі са ~камі** чулки́ со стре́лками; **2.** *только мн. бот.* пасту́шья су́мка.

**СТРЭ́ЛКАВЫ** *бот.* стре́льчатый.

**СТРЭЛКАЛІ́СТ, -ту** *м. бот.* стрелоли́ст.

**СТРЭ́ЛЬБА** *ж.* ружьё *ср.*; **паляўні́чая с.** охо́тничье ружьё.

**СТРЭ́ЛЬБАВЫ** руже́йный.

**СТРЭ́ЛЬБІШЧА** *ср.* стре́льбище.

**СТРЭ́ЛЬНУЦЬ** *сов. однокр. разг.* стрельну́ть.

**СТРЭ́ЛЯНЫ** *в разн. знач.* стре́ляный; ✧ **с. верабе́й** стре́ляный воробе́й.

**СТРЭ́МКА** *ж. прям., перен.* зано́за.

**СТРЭ́МЯ,** *род.* **стрэ́мя** *и* **стрэ́мені,** *дат.* **стрэ́мю** *и* **стрэ́мені,** *вин.* **стрэ́мя,** *тв.* **стрэ́мем** *и* **стрэ́менем,** *предл.* **(аб) стрэ́мі** *и* **(аб) стрэ́мені** *ср. в разн. знач.* стре́мя.

**СТРЭ́МЯЧКА** *ср. анат.* стре́мечко.

**СТРЭПТАКО́К** *м. бакт.* стрептоко́кк.

**СТРЭПТАКО́КАВЫ** *мед., бакт.* стрептоко́кковый.

**СТРЭПТАМІЦЫ́Н, -ну** *м. фарм.* стрептомици́н.

**СТРЭПТАЦЫ́Д, -ду** *м. фарм.* стрептоци́д.

**СТРЭ́СВАЦЦА** *несов. страд. см.* **страса́цца.**

**СТРЭ́СВАЦЬ** *несов. см.* **страса́ць.**

**СТРЭ́СЕНЫ 1.** стрясённый, стря́хнутый; **2.** сме́шанный; 1, 2 *см.* **стрэ́сці.**

**СТРЭ́СЦІ** *сов.* **1.** стрясти́, стряхну́ть; **с. пыл з ног** стрясти́ (стряхну́ть) пыль с ног; **с. я́блыкі з дрэ́ва** стрясти́ я́блоки с де́рева; **2.: с. сало́му з се́нам** смеша́ть соло́му с се́ном.

**СТРЭ́ЦЦА** *сов. см.* **сустрэ́цца.**

**СТРЭЦЬ** *сов. см.* **сустрэ́ць.**

**СТРЭ́ЧНЫ** I *см.* **сустрэ́чны.**

**СТРЭ́ЧНЫ** II *см.* **стрые́чны.**

**СТРЭ́ШКА** *ж.* **1.** *уменьш.-ласк.* кро́велька; **2.** *(у колодца и т. п.)* наве́с *м.*

**СТРЭ́ШЫН** *м. гп.* Стре́шин.

**СТРЭ́ШЫНСКІ РАЁН** Стре́шинский райо́н.

**СТУ́ДЖАНЫ** сту́женный; охлаждённый.

**СТУ́ДЗЕНЬ** *м.* янва́рь.

**СТУ́ДЗЕНЬСКІ** янва́рский.

**СТУДЗЁНА** *нареч. обл.* хо́лодно, студёно.

**СТУ́ДЗІНА́** *ж. кул. обл.* холо́дное *ср.*, холоде́ц *м.*, сту́день *м.*

**СТУДЗІ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* студи́ться.

**СТУДЗІ́ЦЬ** *(што) несов.* студи́ть; охлажда́ть; дуть *(на что)*; **с. суп** дуть на суп; ✧ **апёкшыся на малацэ́ і ваду́ с.** *посл.* обжёгшись на молоке́, бу́дешь дуть и на́ воду.

**СТУДЗЯНІ́СТЫ** студени́стый.

**СТУ́ДНЯ** *ж.* коло́дец *м.*

**СТУДЫ́ЕЦ, -ды́йца** *м.* студи́ец.

**СТУДЫ́ЙКА** *ж. разг.* студи́йка.

**СТУДЫ́ЙНЫ** студи́йный.

**СТУ́ДЫЯ** *ж. в разн. знач.* сту́дия.

**СТУДЭ́НТ** *м.* студе́нт.

**СТУДЭ́НТКА** *ж.* студе́нтка.

**СТУДЭ́НЦКІ** студе́нческий.

**СТУДЭ́НЦТВА** *собир. ср.* студе́нчество, студе́нты *мн.*

**СТУ́ЖКА** *ж. в разн. знач.* ле́нта; **атла́сная с.** атла́сная ле́нта; **вымяра́льная с.** измери́тельная ле́нта; **ізаляцы́йная с.** изоляцио́нная ле́нта; **гу́сенічная с.** гу́сеничная ле́нта; **кулямётная с.** пулемётная ле́нта; **с. транспарцёра** ле́нта транспортёра; **ві́цца ~кай** ви́ться ле́нтой.

**СТУЖКАПАДО́БНЫ** лентообра́зный.

**СТУ́ЗАНАСЦЬ** *ж.* издёрганность.

**СТУ́ЗАНЫ 1.** потрёпанный; **2.** *перен.* издёрганный, задёрганный; 1, 2 *см.* **сту́заць.**

**СТУ́ЗАЦЦА** *сов.* измая́ться; издёргаться.

**СТУ́ЗАЦЬ** *сов.* **1.** *(побить)* потрепа́ть; **2.** *перен.* издёргать, задёргать.

**СТУК 1.** *род.* **сту́ку** *м.* стук; **с. мо́лата** стук мо́лота; **2.** *в знач. межд. разг.* стук; **ён с. кулако́м у дзве́ры** он стук кулако́м в дверь.

**СТУКАНІ́НА** *ж. разг.* стукотня́.

**СТУ́КАННЕ** *ср.* сту́канье.

**СТУ́КАТ, -ту** *м.* стук *(непрерывный)*.

**СТУКАТА́ЦЬ** *несов. разг.* сту́кать, стуча́ть.

**СТУКАТНЯ́** *ж. разг.* стукотня́.

**СТУ́КАЎКА** *ж. (карточная игра)* сту́калка.

**СТУ́КАЦЦА** *несов.* **1.** сту́каться, ударя́ться; **2.** *(друг с другом)* ста́лкиваться; 1, 2 *см.* **сту́кнуцца; 3.** *(пытаться войти)* толка́ться.

**СТУ́КАЦЬ** *несов.* **1.** *(производить звук ударом)* сту́кать, ударя́ть, хло́пать; **2.** *(наносить удар)* сту́кать, ударя́ть; **3.** *(заставлять удариться)* ста́лкивать; 1—3 *см.* **сту́кнуць** 1—3; **4.** *(производить стук)* стуча́ть; **у ку́зні ~каў мо́лат** в ку́знице стуча́л мо́лот; **~кае ў скро́нях** стучи́т в виска́х; **5.** стуча́ть, стуча́ться; **с. у акно́** стуча́ть (стуча́ться) в окно́.

**СТУ́КНУТЫ 1.** сту́кнутый, уда́ренный; **2.** сто́лкнутый; 1, 2 *см.* **сту́кнуць** 2, 3.

**СТУ́КНУЦЦА** *сов.* **1.** сту́кнуться, уда́риться; **хло́пец ~нуўся паты́ліцай аб сцяну́** ма́льчик сту́кнулся (уда́рился) заты́лком о стéну; **2.** *(друг с другом)* столкну́ться; **с. лба́мі** столкну́ться лба́ми.

**СТУ́КНУЦЬ** *сов.* **1.** *(произвести звук ударом)* сту́кнуть, уда́рить, хло́пнуть; хвати́ть; **с. кулако́м па сталé** сту́кнуть (уда́рить, хвати́ть) кулако́м по столу́; **2.** *(нанести удар)* сту́кнуть, уда́рить; **с. па ка́рку** сту́кнуть (уда́рить) по шée; **3.** *(заставить удариться)* столкну́ть; **с. ілба́мі** столкну́ть лба́ми; **4.** *разг. (выпить)* хло́пнуть, сту́кнуть; **с. ча́рку гарэ́лкі** хло́пнуть (сту́кнуть) рю́мку во́дки; **5.** *безл. разг. (исполниться — о летах)* сту́кнуть; **мне ~нула два́ццаць год** мне сту́кнуло два́дцать лет.

**СТУЛ,** *род.* **сту́лу** *м. мед.* стул.

**СТУ́ЛЕНЫ** сжа́тый, со́мкнутый; *см.* **стулі́ць.**

**СТУЛІ́ЦЦА** *сов.* **1.** сжа́ться, съёжиться; **2.** *(о губах)* сжа́ться, сомкну́ться; **3.** *разг. (спрятаться)* укры́ться, скры́ться; **с. за бяро́замі** укры́ться (скры́ться) за берёзами.

**СТУЛІ́ЦЬ** *сов. (губы)* сжать, сомкну́ть.

**СТУЛЬ** *нареч. прост.* отту́да, отто́ле.

**СТУ́ЛЬВАЦЦА** *несов.* **1.** сжима́ться, съёживаться; **2.** *(о губах)* сжима́ться, смыка́ться; **3.** *разг. (прятаться)* укрыва́ться, скрыва́ться; *см.* **стулі́цца** 3; **4.** *страд.* сжима́ться, смыка́ться; *см.* **сту́льваць.**

**СТУ́ЛЬВАЦЬ** *несов. (губы)* сжима́ть, смыка́ть.

**СТУЛЬЧА́К, -ка́** *м.* стульча́к.

**СТУ́ПА** *ж.* сту́па.

**СТУПА́** *ж. (поступь)* шаг *м.*; **ці́хай ~по́й** ти́хим ша́гом.

**СТУ́ПАР, -ру** *м. мед.* сту́пор.

**СТУПА́ЦЬ** *несов.* ступа́ть; шага́ть; *см.* **ступі́ць** I.

**СТУПЕ́НЬ 1.** *ж. в разн. знач.* сте́пень; **с. майстэ́рства** сте́пень мастерства́; **у пэ́ўнай ~ні** в изве́стной сте́пени; **с. параўна́ння** *грам.* сте́пень сравне́ния; **звыча́йная с.** *грам.* положи́тельная сте́пень; **узве́сці ў с.** *мат.* возвести́ в сте́пень; **2.** *ж. (лестницы)* ступе́нь, ступе́нька; **падыма́цца па ~нях** поднима́ться по ступе́нькам; **3.** *м. обл. (ноги)* ступня́ *ж.*

**СТУПЕ́НЬЧАТЫ** ступе́нчатый.

**СТУПІ́ЦЦА** *сов.* иступи́ться.

**СТУПІ́ЦЬ** I *сов.* ступи́ть; шагну́ть; **с. не́калькі кро́каў** ступи́ть не́сколько шаго́в.

**СТУПІ́ЦЬ** II *сов.* иступи́ть; **с. пі́лу** иступи́ть пилу́.

**СТУ́ПКА** *ж.* сту́пка.

**СТУ́ПЛЕНЫ** исту́пленный; *см.* **ступі́ць** II.

**СТУ́ПЛІВАЦЦА** *несов. возвр., страд. см.* **ступля́цца.**

**СТУ́ПЛІВАЦЬ** *несов. см.* **ступля́ць.**

**СТУПЛЯ́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* иступля́ться; *см.* **ступі́цца, ступля́ць.**

**СТУПЛЯ́ЦЬ** *несов.* иступля́ть; *см.* **ступі́ць** II.

**СТУПНЯ́** *ж.* ступня́, стопа́; **пляска́тая с.** *мед.* пло́ская стопа́ (ступня́).
**СТУПНЯХО́ДНЫЯ** *сущ. мн. зоол.* стопоходя́щие.
**СТУПО́Ю** *нареч.* ша́гом.
**СТУСІ́НА** *ж. разг.* хлыст *м.*
**СТУ́ХНУЦЬ** I *сов. прост.* сту́хнуть, поту́хнуть.
**СТУ́ХНУЦЬ** II *сов.* проту́хнуть.
**СТУШАВА́НЫ** стушёванный; *см.* **стушава́ць.**
**СТУШАВА́ЦЦА** *сов. в разн. знач.* стушева́ться; **лі́ніі на малю́нку ~ва́ліся** ли́нии на рису́нке стушева́лись; **с. на не́йкі час** стушева́ться на не́которое вре́мя; **с. на экза́менах** стушева́ться на экза́менах.
**СТУШАВА́ЦЬ** *сов.* стушева́ть; **с. пло́скасць** стушева́ть пло́скость.
**СТУШО́ЎВАННЕ** *ср.* стушёвка *ж.*; *см.* **стушо́ўваць.**
**СТУШО́ЎВАЦЦА** *несов. возвр., страд.* стушёвываться; *см.* **стушава́цца, стушо́ўваць.**
**СТУШО́ЎВАЦЬ** *несов.* стушёвывать; *см.* **стушава́ць.**
**СТУШО́ЎКА** *ж.* стушёвка.
**СТХАРЫ́ЦЦА** *сов. обл.* притаи́ться.
**СТЫ́ГМА** *ж. и* **СТЫГМА́Т** *м. ист., мед., зоол.* сти́гма, стигма́т.
**СТЫГМАТЫЗА́ЦЫЯ** *ж. ист., мед.* стигматиза́ция.
**СТЫГМАТЫЗМ, -му** *м. ист., мед.* стигмати́зм.
**СТЫГМА́ТЫК** *м. ист., мед.* стигма́тик.
**СТЫК,** *род.* **сты́ку** *м.* стык; **на сты́ку дзвюх даро́г** на сты́ке двух доро́г; **с. дзвюх дывізі́й** стык двух диви́зий.
**СТЫКАВА́ННЕ** *ср. спец.* стыкова́ние.
**СТЫКАВА́ЦЦА** *несов. страд. спец.* стыкова́ться.
**СТЫКАВА́ЦЬ** *несов. спец.* стыкова́ть.
**СТЫКАВЫ** стыково́й.
**СТЫКАНЫ** *разг.* исты́канный.
**СТЫКА́ЦЦА** *несов. разг.* соприкаса́ться, станови́ться вприты́к.
**СТЫ́КАЦЬ** *сов. разг.* исты́кать.
**СТЫКА́ЦЬ** *несов. разг.* стыка́ть; **с. канцы́ про́вада** стыка́ть концы́ про́вода.
**СТЫЛАБА́Т** *м. архит.* стилоба́т.
**СТЫЛІЗАВА́НАСЦЬ** *ж.* стилизо́ванность.
**СТЫЛІЗАВА́НЫ** стилизо́ванный; *см.* **стылізава́ць.**
**СТЫЛІЗАВА́ЦЦА** *несов. страд.* стилизова́ться; *см.* **стылізава́ць.**
**СТЫЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* стилизова́ть; **с. арна́мент** стилизова́ть орна́мент.
**СТЫЛІЗА́ТАР** *м.* стилиза́тор.
**СТЫЛІЗА́ТАРСКІ** стилиза́торский.
**СТЫЛІЗА́ТАРСТВА** *ср.* стилиза́торство.
**СТЫЛІЗА́ЦЫЯ** *ж.* стилиза́ция; **с. пад маза́іку** стилиза́ция под моза́ику; **займа́цца ~цыяй** занима́ться стилиза́цией.
**СТЫЛІ́СТ** *м.* стили́ст.
**СТЫЛІ́СТКА** *ж.* стили́стка.
**СТЫЛІ́СТЫКА** *ж.* стили́стика; **с. літарату́рнай мо́вы** стили́стика литерату́рного языка́; **прабле́мы ~кі** пробле́мы стили́стики.
**СТЫЛІСТЫЧНЫ** стилисти́ческий; **~ныя памы́лкі** стилисти́ческие оши́бки; **с. прыём** стилисти́ческий приём.
**СТЫЛО́** *нескл. ср.* стило́.
**СТЫЛО́ГРАФ** *м.* стилогра́ф.
**СТЫЛЬ,** *род.* **сты́лю** *м. в разн. знач.* стиль; (*манера излагать свои мысли — ещё*) слог; **с. у маста́цтве** стиль в иску́сстве; **с. рабо́ты** стиль рабо́ты; **піса́ць до́брым сты́лем** писа́ть хоро́шим сло́гом (сти́лем); **пе́ршага сту́дзеня па но́ваму сты́лю** пе́рвого января́ по но́вому сти́лю.
**СТЫЛЬБ** *м. физ.* стильб.
**СТЫ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* сти́льность.
**СТЫ́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* сти́льный.
**СТЫЛЯВЫ́** стилево́й; **~вы́я катэго́рыі** стилевы́е категории; **~ва́я дасканалацць** стилево́е соверше́нство.
**СТЫЛЯ́ГА** *м. и ж. разг. пренебр.* стиля́га.
**СТЫ́МУЛ, -лу** *м.* сти́мул; побуди́тель; **с. ро́сту** сти́мул (побуди́тель) ро́ста; **с. павышэ́ння прадукцы́йнасці пра́цы** сти́мул повыше́ния производи́тельности труда́.
**СТЫМУЛЮЮЧЫ 1.** *прил.* стимули́рующий; **2.** *деепр.* стимули́руя.
**СТЫМУЛЯВА́ННЕ** *ср.* стимули́рование; побужде́ние; *см.* **стымулява́ць.**
**СТЫМУЛЯВА́НЫ** стимули́рованный; побуждённый; *см.* **стымулява́ць.**
**СТЫМУЛЯВА́ЦЦА** *несов. страд.* стимули́роваться; побужда́ться; *см.* **стымулява́ць.**
**СТЫМУЛЯВА́ЦЬ** *сов. и несов.* стимули́ровать; побуди́ть/побужда́ть; **с. разві́ццё жывёлагадо́ўлі** стимули́ровать разви́тие животново́дства.
**СТЫМУЛЯ́ЦЫЯ** *ж. разг.* стимуля́ция.
**СТЫНЬ** *ж. обл.* сту́жа.
**СТЫПЕ́НДЫЯ** *ж.* стипе́ндия.
**СТЫПЕНДЫЯ́ЛЬНЫ** стипендиа́льный.
**СТЫПЕНДЫЯ́Т** *м.* стипендиа́т.
**СТЫПЕНДЫЯ́ТКА** *ж.* стипендиа́тка.
**СТЫ́ПЛЕР** *м. спорт.* сти́плер.
**СТЫПЛЬ-ЧЭЗ** *м. спорт.* стипль-чез.
**СТЫРА́КС** *м.* **1.** *род.* **сты́ракса** (*дерево*) сти́ра́кс; **2.** *род.* **сты́раксу** (*бальзам, древесина и собир.*) стира́кс.
**СТЫРА́КСАВЫ** сти́ра́ксовый; **~вае дрэ́ва** сти́ра́ксовое де́рево; **с. ліст** сти́ра́ксовый лист.
**СТЫРА́КСАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* сти́ра́ксовые.
**СТЫРНАВЫ́** *уст.* **1.** *прил.* рулево́й; **2.** *в знач. сущ.* рулево́й, ко́рмчий.
**СТЫРНІ́К** *м. уст.* рулево́й, ко́рмчий.
**СТЫРНО́** *ср. уст.* руль *м.*, корми́ло.
**СТЫРО́Л, -лу** *м. хим.* стиро́л
**СТЫРО́ЛАВЫ** *хим.* стиро́ловый.
**СТЫХА́Р, -ра́** *м. церк.* стиха́рь.
**СТЫХІ́ЙНА** *нареч.* стихи́йно; *см.* **стыхі́йны.**
**СТЫХІ́ЙНАСЦЬ** *ж.* стихи́йность; *см.* **стыхі́йны.**
**СТЫХІ́ЙНЫ** *в разн. знач.* стихи́йный; **~нае няшча́сце** стихи́йное бе́дствие; **~ная дэманстра́цыя** стихи́йная демонстра́ция.
**СТЫХІ́Я** *ж. в разн. знач.* стихи́я; **бараццьба́ са ~хі́ямі** борьба́ со стихи́ями; **дробнабуржуа́зная с.** мелкобуржуа́зная стихи́я; **паэ́зія — яго́ с.** поэ́зия — его́ стихи́я; **у свае́й ~хі́і** в свое́й стихи́и.
**СТЫЦЬ** *несов. в разн. знач.* стыть, сты́нуть; **суп сты́не на стале́** суп сты́нет на столе́; **но́гі сты́нуць** но́ги сты́нут; ◇ **кроў сты́не ў жы́лах** кровь сты́нет в жи́лах.
**СТЭАРЫН, -ну** *м.* стеари́н.
**СТЭАРЫНАВЫ** стеари́новый.
**СТЭГАЗА́ЎР** *м. палеонт.* стегоза́вр.
**СТЭГАНАГРАФІ́ЧНЫ** стеганографи́ческий.
**СТЭГАНАГРА́ФІЯ** *ж.* стеганогра́фия, та́йнопись.
**СТЭГАЦЭФА́Л** *м. палеонт.* стегоцефа́л.
**СТЭК** *м.* стек.
**СТЭ́КА** *ж. иск.* сте́ка.
**СТЭЛА́Ж** I, **-жа́** *м. в разн. знач.* стелла́ж; **кні́жныя ~жы́** кни́жные стеллажи́; **паста́віць вёслы ў ~жы́** поста́вить вёсла в стеллажи́.
**СТЭЛА́Ж** II, **-жу́** *м. фин., торг.* стелла́ж.
**СТЭН** *м. физ.* стен.
**СТЭНАГРА́МА** *ж.* стеногра́мма.
**СТЭНАГРА́МНЫ** стеногра́ммный.
**СТЭНАГРАФАВА́НЫ** стенографи́рованный.
**СТЭНАГРАФАВА́ЦЦА** *несов. страд.* стенографи́роваться.
**СТЭНАГРАФАВА́ЦЬ** *несов.* стенографи́ровать.
**СТЭНАГРАФІ́СТ** *м.* стенографи́ст.
**СТЭНАГРАФІ́СТКА** *ж.* стенографи́стка.
**СТЭНАГРАФІ́ЧНЫ** стенографи́ческий.

**СТЭНАГРА́ФІЯ** *ж.* стенография.
**СТЭНАКАРДЫЯ** *ж. мед.* стенокардия.
**СТЭНАТЫПІ́СТ** *м.* стенотипист.
**СТЭНАТЫПІ́СТКА** *ж.* стенотипистка.
**СТЭНАТЫПІ́ЧНЫ** стенотипический; **\~нае пісьмо́** стенотипическое письмо.
**СТЭНАТЫ́ПІЯ** *ж.* стенотипия.
**СТЭНАТЭРМІ́ЧНЫ** *зоол.* стенотермический.
**СТЭНД** *м. в разн. знач.* стенд; **стэ́нды вы́стаўкі** стенды выставки; **выпрабава́льны с.** испытательный стенд.
**СТЭ́НДАВЫ** стендовый; **\~вая стральба́** стендовая стрельба.
**СТЭ́НДЭР** *м. тех.* стендер.
**СТЭ́НДЭРНЫ** *тех.* стендерный.
**СТЭНІ́ЧНЫ** *мед.* стенический.
**СТЭНЛІВІ́ЛЬ** *м. г.* Стэнливиль.
**СТЭНО́ГРАФ** *м.* стенограф.
**СТЭНО́З, -зу** *м. мед.* стеноз.
**СТЭНО́ЗНЫ** *мед.* стенозный.
**СТЭНО́П** *м. фото* стеноп.
**СТЭ́НТАР** *м. зоол.* стентор, трубач.
**СТЭ́НЬГА** *ж. мор.* стеньга.
**СТЭ́НЬГАВЫ** *мор.* стеньговый.
**СТЭП,** *род.* **стэ́пу** *м.* степь *ж.*
**СТЭПАВІ́К, -ка́** *м. в разн. знач.* степняк.
**СТЭПАВІ́ЧКА** *ж.* степнячка.
**СТЭ́ПАВЫ** степной.
**СТЭПС** *м. мор.* степс.
**СТЭР** *м.* (*мера объёма*) стер.
**СТЭ́РЛІНГ** *м.* стерлинг; ✧ **фунт \~гаў** фунт стерлингов.
**СТЭРЫЛІЗАВА́НЫ** *в разн. знач.* стерилизованный; *см.* **стэрылізава́ць.**
**СТЭРЫЛІЗАВА́ЦЦА 1.** *сов. и несов. в разн. знач.* стерилизоваться; **2.** *несов. страд.* стерилизоваться; *см.* **стэрылізава́ць.**
**СТЭРЫЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов. в разн. знач.* стерилизовать; **с. бінты́** стерилизовать бинты; **с. трусо́ў** стерилизовать кроликов.
**СТЭРЫЛІЗА́ТАР** *м. в разн. знач.* стерилизатор.
**СТЭРЫЛІЗА́ЦЫЯ** *ж. в разн. знач.* стерилизация.
**СТЭРЫ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* стерильность; *см.* **стэры́льны.**
**СТЭРЫ́ЛЬНЫ** *в разн. знач.* стерильный; **\~ная клётка** стерильная клетка; **с. бінт** стерильный бинт.
**СТЭРЫ́Н, -ну** *м. хим.* стерин.
**СТЭРЭАГРАФІ́ЧНЫ** *мат.* стереографический.
**СТЭРЭАГРА́ФІЯ** *ж. мат.* стереография.
**СТЭРЭАМЕТРЫ́ЧНЫ** стереометрический.
**СТЭРЭАМЕ́ТРЫЯ** *ж.* стереометрия.
**СТЭРЭАРА́МА** *ж.* стереорама.
**СТЭРЭАСКАПІ́СТ** *м.* стереоскопист.
**СТЭРЭАСКАПІ́ЧНЫ** стереоскопический.
**СТЭРЭАСКО́П** *м.* стереоскоп.
**СТЭРЭАТРУБА́** *ж. воен.* стереотруба.
**СТЭРЭАТЫ́П** *м. полигр.* стереотип.
**СТЭРЭАТЫПАВА́ННЕ** *ср. полигр.* стереотипирование.
**СТЭРЭАТЫПАВА́НЫ** *полигр.* стереотипированный.
**СТЭРЭАТЫПАВА́ЦЦА** *несов. страд. полигр.* стереотипироваться.
**СТЭРЭАТЫПАВА́ЦЬ** *сов. и несов. полигр.* стереотипировать.
**СТЭРЭАТЫПЁР** *м.* стереотипёр.
**СТЭРЭАТЫ́ПІЯ** *ж. полигр., мед.* стереотипия.
**СТЭРЭАТЫ́ПНАСЦЬ** *ж.* стереотипность.
**СТЭРЭАТЫ́ПНЫ** *прям., перен.* стереотипный; **\~нае вы́данне** стереотипное издание; **с. адка́з** стереотипный ответ.
**СТЭТАСКАПІ́ЧНЫ** *мед.* стетоскопический.
**СТЭТАСКАПІ́Я** *ж. мед.* стетоскопия.
**СТЭТАСКО́П** *м. мед.* стетоскоп.
**СТЭТО́ГРАФ** *м. мед.* стетограф.

**СУ** *нескл. ср.* (*монета*) су.
**СУАДКА́ЗЧЫК** *м. юр.* соответчик.
**СУАДКА́ЗЧЫЦА** *ж. юр.* соответчица.
**СУАДНЕ́СЕНЫ** соотнесённый.
**СУАДНЕ́СЦІ** *сов.* соотнести.
**СУАДНО́СІНЫ** *ед. нет* соотношение *ср.*; **с. сіл** соотношение сил.
**СУАДНО́СІЦЦА** *несов. возвр., страд.* соотноситься.
**СУАДНО́СІЦЬ** *несов.* соотносить.
**СУАДНО́СНАСЦЬ** *ж.* соотносительность.
**СУАДНО́СНЫ** соотносительный.
**СУАЙЧЫ́ННІК** *м.* соотечественник.
**СУАЙЧЫ́ННІЦА** *ж.* соотечественница.
**СУАПЯКУ́Н, -пекуна́** *м. юр.* соопекун.
**СУАРАНДА́ТАР** *м. юр.* соарендатор.
**СУАРЭ́НДА** *ж. юр.* соаренда.
**СУБАРАНДА́ТАР** *м. юр.* субарендатор.
**СУБАРДЫНА́ЦЫЯ** *ж.* субординация.
**СУБАРКТЫ́ЧНЫ** *геогр.* субарктический.
**СУБАРЭ́НДА** *ж. юр.* субаренда.
**СУБВЕ́НЦЫЯ** *ж. эк.* субвенция.
**СУБДАМІНА́НТА** *ж. муз.* субдоминанта.
**СУБ'Е́КТ** *м. в разн. знач.* субъект.
**СУБ'Е́КТНЫ** *лог., грам.* субъектный.
**СУБ'ЕКТЫВІ́ЗМ, -му** *м. в разн. знач.* субъективизм.
**СУБ'ЕКТЫВІ́РАВАНЫ** *филос.* субъективированный.
**СУБ'ЕКТЫВІ́РАВАЦЦА** *несов. страд. филос.* субъективироваться.
**СУБ'ЕКТЫВІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов. филос.* субъективировать.
**СУБ'ЕКТЫВІ́СТ** *м.* субъективист.
**СУБ'ЕКТЫВІСТЫ́ЧНЫ** субъективистический.
**СУБ'ЕКТЫВІ́СЦКІ** субъективистский.
**СУБ'ЕКТЫ́ЎНА** *нареч.* субъективно.
**СУБ'ЕКТЫ́ЎНАСЦЬ** *ж.* субъективность.
**СУБ'ЕКТЫ́ЎНЫ** *в разн. знач.* субъективный; **с. ідэалі́зм** *филос.* субъективный идеализм; **с. по́гляд** субъективный взгляд.
**СУБЛІМАВА́НЫ** *хим.* сублимированный.
**СУБЛІМАВА́ЦЦА** *несов. страд. хим.* сублимироваться.
**СУБЛІМАВА́ЦЬ** *сов. и несов. хим.* сублимировать.
**СУБЛІМА́Т, -ту** *м. хим.* сублимат.
**СУБЛІМА́ЦЫЯ** *ж. хим.* сублимация.
**СУБО́ТА** *ж.* суббота.
**СУБО́ТНІ** субботний.
**СУБО́ТНІК** *м.* субботник.
**СУБРЭ́ТКА** *ж. театр.* субретка.
**СУБСІДЗІ́РАВАНЫ** субсидированный.
**СУБСІДЗІ́РАВАЦЦА** *несов. страд.* субсидироваться.
**СУБСІДЗІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов.* субсидировать.
**СУБСІ́ДЫЯ** *ж.* субсидия.
**СУБСТАНТЫВА́ЦЫЯ** *ж. лингв.* субстантивация.
**СУБСТАНТЫВІ́РАВАНЫ** *лингв.* субстантивированный.
**СУБСТАНТЫВІ́РАВАЦЦА** *сов. и несов. лингв.* субстантивироваться.
**СУБСТАНТЫВІ́РАВАЦЬ** *сов. и несов. лингв.* субстантивировать.
**СУБСТАНТЫ́ЎНАСЦЬ** *ж. лингв.* субстантивность.
**СУБСТАНТЫ́ЎНЫ** *лингв., хим.* субстантивный.
**СУБСТА́НЦЫЯ** *ж. филос.* субстанция.
**СУБСТАНЦЫЯЛІЗАВА́НЫ** *филос.* субстанциализированный, субстанционализированный.
**СУБСТАНЦЫЯЛІЗАВА́ЦЦА** *филос.* **1.** *сов. и несов.* субстанциализироваться, субстанционализироваться; **2.** *несов. страд.* субстанциализироваться, субстанционализироваться.
**СУБСТАНЦЫЯЛІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов. филос.* субстанциализировать, субстанционализировать.

**СУБСТАНЦЫЯ́ЛЬНАСЦЬ** *ж. філос.* субстанциа́льность, субстанциона́льность.

**СУБСТАНЦЫЯ́ЛЬНЫ** *філос.* субстанциа́льный, субстанциона́льный.

**СУБСТРА́Т, -ту** *м. в разн. знач.* субстра́т.

**СУБСТЫТУ́Т** *м.* субститу́т.

**СУБСТЫТУ́ЦЫЯ** *ж.* субститу́ция.

**СУБТРАПІ́ЧНЫ** *геогр.* субтропи́ческий.

**СУБТРО́ПІКІ** *ед. нет геогр.* субтро́пики.

**СУБТЫ́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* субти́льность; то́нкость.

**СУБТЫ́ЛЬНЫ** субти́льный; то́нкий.

**СУБТЫ́ТР** *м. кино* субти́тр.

**СУБТЫТРАВА́ННЕ** *ср. кино* субтитрова́ние.

**СУБЯСЕ́ДНІК** *м.* собесе́дник.

**СУБЯСЕ́ДНІЦА** *ж.* собесе́дница.

**СУВЕ́Й** *м. обл.* сугро́б.

**СУВЕНІ́Р** *м.* сувени́р.

**СУВЕРЭ́Н** *м. ист.* сувере́н.

**СУВЕРЭНІТЭ́Т, -ту** *м.* суверените́т.

**СУВЕРЭ́ННАСЦЬ** *ж.* сувере́нность.

**СУВЕРЭ́ННЫ** сувере́нный.

**СУВО́Й** *м.* (*цельный кусок полотна*) суво́й, поста́в.

**СУВО́РАВЕЦ, -раўца** *м.* суво́ровец.

**СУВО́РАЎСКІ** суво́ровский; ✧ **~кае вучы́лішча** суво́ровское учи́лище.

**СУВЫМЕ́РНАСЦЬ** *ж.* соизмери́мость.

**СУВЫМЕ́РНЫ** соизмери́мый.

**СУВЯЗІ́СТ** *м.* связи́ст.

**СУВЯЗІ́СТКА** *ж.* связи́стка.

**СУВЯЗНА́Я** *сущ.* связна́я; **партыза́нка-с.** партиза́нка-связна́я.

**СУ́ВЯЗНЫ** связу́ющий; **~нае звяно́** связу́ющее звено́.

**СУВЯЗНЫ́** *сущ.* связно́й; **партыза́нскі с.** партиза́нский связно́й.

**СУ́ВЯЗЬ** *ж.* **1.** *в разн. знач.* связь; (*взаимные отношения — ещё*) обще́ние *ср.*; (*средство общения — ещё*) сообще́ние *ср.*; **с. тэо́рыі і пра́ктыкі** связь тео́рии и пра́ктики; **прычы́нная с.** причи́нная связь; **гаспада́рчая і культу́рная с. памі́ж го́радам і вёскай** хозя́йственная и культу́рная связь ме́жду го́родом и дере́вней; **це́сная с.** те́сная связь, те́сное обще́ние; **тэлефо́нная с.** телефо́нная связь, телефо́нное сообще́ние; **2.** *только мн.* свя́зи; у́зы.

**СУГЕСТЫ́ЎНАСЦЬ** *ж.* суггести́вность.

**СУГЕСТЫ́ЎНЫ** *в разн. знач.* суггести́вный.

**СУГЛІ́НАК, -нку** *м.* сугли́нок.

**СУГЛІ́НІСТЫ** *см.* **суглі́нкавы.**

**СУГЛІ́НКАВЫ** сугли́нистый; **~выя глébы** сугли́нистые по́чвы.

**СУГНЕ́Й** *м. неодобр.* бирю́к, бу́ка, нелюди́м.

**СУГУ́ЧНАСЦЬ** *ж. в разн. знач.* созву́чность, созву́чие *ср.*

**СУГУ́ЧНЫ** *в разн. знач.* созву́чный.

**СУД** *м.* **1.** *род.* **суда́** суд; **Вярхо́ўны с.** Верхо́вный суд; **рэфо́рма суда́** рефо́рма суда́; **с. ідзе́!** суд идёт!; **адда́ць пад с.** отда́ть под суд; преда́ть суду́; **быць пад судо́м** быть под судо́м; **2.** *род.* **су́ду** (*мнение, заключение*) суд; **с. гісто́рыі** суд исто́рии; ✧ **сваі́м судо́м** свое́й вла́стью; **на няма́ і су́ду няма́** *посл.* на нет и суда́ нет.

**СУДАВО́ДСТВА** *ср. юр.* судопроизво́дство.

**СУДАГАВАРЭ́ННЕ** *ср. юр.* судоговоре́ние.

**СУДА́К, -ка́** *м.* суда́к.

**СУДАКО́ВЫ** судако́вый.

**СУДА́Н** *м.* Суда́н.

**СУДА́НКА** *ж. бот.* суда́нка, суда́нская трава́.

**СУДА́НСКІ** суда́нский.

**СУ́ДАРГА** *ж. см.* **су́тарга.**

**СУ́ДАРГАВА** *нареч. см.* **су́таргава.**

**СУ́ДАРГАВЫ** *см.* **су́таргавы.**

**СУДДЗЁ** *собир. ср. разг.* изде́лия *мн.* из клёпок; **у сві́рне ста́яла с.: каду́шкі, бачу́ркі, цабры́** в амба́ре стоя́ли изде́лия из клёпок: каду́шки, бочо́нки, уша́ты.

**СУДДЗЯ́** *м. в разн. знач.* судья́; **ты не с. ў гэ́тай спра́ве** ты не судья́ в э́том де́ле; **наро́дны с.** наро́дный судья́; **с. пе́ршай катэго́рыі** *спорт.* судья́ пе́рвой катего́рии.

**СУДДЗЯ́-ФІКСА́ТАР** *м. спорт.* судья́-фикса́тор.

**СУ́ДЖАНА** *в знач. сказ.* суждено́.

**СУ́ДЖАНЫ 1.** *прич.* (*тот, кого судили*) су́женный; **2.** *прич.* (*предназначенный судьбою и т. п.*) суждённый; **3.** *в знач. сущ.* (*жених*) су́женый.

**СУДЖЭ́ННЕ** *ср. лог.* сужде́ние.

**СУДЗЕ́БНІК** *м. ист.* суде́бник.

**СУДЗЕ́ЙСКІ** суде́йский; **~кая кале́гія** суде́йская колле́гия.

**СУДЗЕ́ЙСТВА** *ср. спорт.* суде́йство.

**СУДЗІ́ЛІШЧА** *ср. уст. презр.* суди́лище.

**СУДЗІ́МАСЦЬ** *ж. юр.* суди́мость.

**СУДЗІ́НА** *ж. разг.* (*сосуд*) посу́дина.

**СУДЗІ́ЦЦА** *несов.* **1.** (*вести тяжбу*) суди́ться; **усё жыццё судзі́ўся то з адны́м, то з другі́м** всю жизнь суди́лся то с одни́м, то с други́м; **2.** *страд.* суди́ться; *см.* **судзі́ць.**

**СУДЗІ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* суди́ть; **с. злачы́нца** суди́ть престу́пника; **не ў яго́ нату́ры с. і́ншых** не в его́ хара́ктере суди́ть други́х; **с. футбо́льны матч** суди́ть футбо́льный матч.

**СУДКО́ВЫ** судко́вый.

**СУ́ДНА** I *ср.* (*корабль*) су́дно.

**СУ́ДНА** II *ср.* (*сосуд*) су́дно.

**СУДНАБУДАВА́ННЕ** *ср.* судострое́ние.

**СУДНАБУДАЎНІ́К, -ка́** *м.* судострои́тель.

**СУДНАБУДАЎНІ́ЧЫ** судострои́тельный.

**СУДНАВАДЖЭ́ННЕ** *ср.* судовожде́ние.

**СУДНАВЕ́РФ** *ж.* судове́рфь.

**СУ́ДНАВЫ** судово́й; **с. рухаві́к** судово́й дви́гатель; **с. меха́нік** судово́й меха́ник.

**СУДНАМЕХА́НІК** *м.* судомеха́ник.

**СУДНАПАД'Ё́М, -му** *м.* судоподъём.

**СУДНАПАД'Ё́МНІК** *м.* судоподъёмник.

**СУДНАПАД'Ё́МНЫ** судоподъёмный.

**СУДНАПАДЫМА́ННЕ** *ср.* судоподъём *м.*

**СУДНАРАБО́ЧЫ** *сущ.* судорабо́чий.

**СУДНАРАМО́НТ, -ту** *м.* судоремо́нт.

**СУДНАРАМО́НТНЫ** судоремо́нтный.

**СУДНАЎЛАДА́ЛЬНІК** *м.* судовладе́лец.

**СУДНАЎЛАДА́ЛЬНІЦКІ** судовладе́льческий.

**СУДНАЎЛА́СНІК** *м.* судовладе́лец.

**СУДНАЎЛА́СНІЦКІ** судовладе́льческий.

**СУДНАХО́ДНАСЦЬ** *ж.* судохо́дность.

**СУДНАХО́ДНЫ** судохо́дный.

**СУДНАХО́ДСТВА** *ср.* судохо́дство.

**СУ́ДНЫ** *уст.* су́дный; ✧ **с. дзень** *рел.* су́дный день.

**СУДОВАМЕДЫ́ЧНЫ** судебномедици́нский.

**СУДО́ВЫ** суде́бный; **с. разбо́р** суде́бное разбира́тельство; **~вая медыцы́на** суде́бная медици́на; **с. прыгаво́р** суде́бный пригово́р; **с. выкана́ўца** суде́бный исполни́тель.

**СУДО́К, -дка́** *м.* **1.** судо́к; **2.** *только мн.* судки́.

**СУДЭ́ТЫ** (*горы*) Суде́ты.

**СУДЭ́ЦКІ** суде́тский.

**СУЗАЛЕ́ЖНАСЦЬ** *ж. грам.* соподчине́ние *ср.*

**СУЗАЛЕ́ЖНЫ** *грам.* соподчинённый; соподчини́тельный; **~ныя ска́зы** соподчинённые предложе́ния; **~ная канстру́кцыя** соподчини́тельная констру́кция.

**СУЗДРО́М** *нареч. обл.* совершённо, подчисту́ю, до основа́ния, дотла́.

**СУЗІРА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* созерца́тельность.

**СУЗІРА́ЛЬНІК** *м.* созерца́тель.

**СУЗІРА́ЛЬНЫ** созерца́тельный.

**СУЗІРА́ННЕ** *ср.* созерца́ние.

**СУЗІРА́ЦЬ** *несов.* созерца́ть.

**СУЗО́Р'Е** *ср. астр.* созве́здие.
**СУІСНАВА́ННЕ** *ср.* сосуществова́ние.
**СУІСНАВА́ЦЬ** *несов.* сосуществова́ть.
**СУК,** *род.* **сука́** *м. в разн. знач.* сук; **сухі́ дубо́вы с.** сухо́й дубо́вый сук; **до́шка без суко́ў** доска́ без суко́в.
**СУ́КА** *ж.* су́ка.
**СУКАВА́ТЫ** сукова́тый, сучкова́тый; **~тае дрэ́ва** сукова́тое (сучкова́тое) де́рево.
**СУКА́ЛА** *ср.* приспособле́ние для насу́чивания пря́жи на це́вку.
**СУКА́ЛЬНЫ** сучи́льный.
**СУКА́ЛЬШЧЫК** *м.* сучи́льщик.
**СУКА́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* сучи́льщица.
**СУКА́ННЕ** *ср.* суче́ние; *см.* **сука́ць** 1.
**СУ́КАНЫ 1.** *прич.* су́ченный; *см.* **сука́ць** 1; **2.** *прил.* сучёный.
**СУ́КАРАТКА** *ж.* (*скрутившееся место нитки, верёвки*) сукру́тина.
**СУКА́ЦЬ** *несов.* **1.** (*скручивать в одну нить*) сучи́ть; **с. дра́тву** сучи́ть дра́тву; **2.** *перен. разг.* ви́ться, лета́ть; **3.** *перен. разг.* (*кулаками*) разма́хивать.
**СУКВАТАРА́НТ** *м.* соквартира́нт.
**СУКВАТАРА́НТКА** *ж.* соквартира́нтка.
**СУКВЕ́ЦЦЕ** *ср. бот.* соцве́тие.
**СУКЕ́НКА** *ж.* (*женская одежда*) пла́тье *ср.*
**СУКНАВА́Л** *м.* сукнова́л.
**СУКНАВА́ЛКА** *ж.* сукнова́лка.
**СУКНАВА́ЛЬНЫ** сукнова́льный; **~ная машы́на** сукнова́льная маши́на.
**СУКНАВА́ЛЬНЯ** *ж.* сукнова́льня.
**СУКНАВА́ЛЬШЧЫК** *м.* сукнова́льщик.
**СУКНАМЫ́ЙКА** *ж.* сукномо́йка.
**СУКНО́** *ср.* сукно́; ✧ **палажы́ць пад с.** положи́ть под сукно́.
**СУ́КНЯ** *ж. разг.* (*женская одежда*) пла́тье *ср.*
**СУКО́НКА** *ж.* **1.** суко́нка; **2.** суко́нная портя́нка.
**СУКО́ННЫ** *в разн. знач.* суко́нный; **~нная павя́зка** суко́нная повя́зка; **~нная фа́брыка** суко́нная фа́брика; **~нная мо́ва** суко́нный язы́к.
**СУКО́НШЧЫК** *м.* суко́нщик.
**СУ́КРАВІЦА** *ж.* су́кровица.
**СУ́КРАВІЧНЫ** су́кровичный.
**СУ́КРЭ** *нескл. м. г.* Су́кре.
**СУКУ́ПНАСЦЬ** *ж.* совоку́пность; **ва ўсёй ~ці** во всей совоку́пности; **усё ў ~ці** всё в совоку́пности; **па ~ці злачы́нстваў** *юр.* по совоку́пности преступле́ний.
**СУЛА́** *ж. бот., с.-х.* сулла́.
**СУЛА́ДДЗЕ** *ср. см.* **сула́днасць.**
**СУЛА́ДНА** *нареч.* согласо́ванно, стро́йно, гармони́чно, гармони́чески.
**СУЛА́ДНАСЦЬ** *ж.* согласо́ванность, согла́сность, стро́йность, гармо́ния, гармони́чность.
**СУЛА́ДНЫ** согласо́ванный, согла́сный, стро́йный, гармони́ческий, гармони́чный.
**СУЛЕМА́** *ж. хим.* сулема́.
**СУЛЕМО́ВЫ** *хим.* сулемо́вый.
**СУЛТА́Н** I *м.* (*монарх*) султа́н.
**СУЛТА́Н** II *м.* (*украшение*) султа́н.
**СУЛТАНА́Т** *м.* **1.** *род.* **султана́та** (*монархическое государство*) султана́т; **2.** *род.* **султана́ту** (*власть монарха*) султана́т.
**СУЛТА́НІХА** *ж. разг.* (*жена султана*) султа́нша.
**СУЛТА́НКА** *ж. зоол.* султа́нка.
**СУЛТА́НСКІ** султа́нский.
**СУЛТА́НСТВА** *ср.* султа́нство.
**СУЛЬФАЗО́Л, -лу** *м. хим., фарм.* сульфазо́л.
**СУЛЬФАНА́Л, -лу** *м. хим., фарм.* сульфона́л.
**СУЛЬФА́Т, -ту** *м. хим.* сульфа́т.
**СУЛЬФАТАВА́ННЕ** *ср. хим.* сульфати́рование.
**СУЛЬФА́ТНЫ** *хим.* сульфа́тный.
**СУЛЬФІ́Д, -ду** *м. хим.* сульфи́д.
**СУЛЬФІДЗІ́Н, -ну** *м. хим., фарм.* сульфиди́н.
**СУЛЬФІ́РАВАННЕ** *ср. хим.* сульфи́рование.
**СУЛЬФІ́Т, -ту** *м. хим.* сульфи́т.
**СУЛЬФІТА́ЦЫЯ** *ж.* сульфита́ция.
**СУЛЬФІ́ТНЫ** *хим.* сульфи́тный.
**СУМ,** *род.* **су́му** *м.* ску́ка *ж.*; уны́ние *ср.*; тоска́ *ж.*, грусть *ж.*, печа́ль *ж.*, кручи́на *ж.*
**СУ́МА** *ж. в разн. знач.* су́мма; **с. двух склада́емых** су́мма двух слага́емых; **с. ве́даў** су́мма зна́ний; **зна́чная с.** значи́тельная су́мма; ✧ **у су́ме** в су́мме.
**СУМАВА́ЦЬ** *несов.* **1.** скуча́ть; уныва́ть; тоскова́ть, грусти́ть, печа́литься, кручи́ниться; **2.**(*па кім-чым, аб кім-чым*) скуча́ть (*по ком-чём, по кому-чему*), тоскова́ть (*по ком-чём, по кому-чему*), грусти́ть (*по ком-чём, по кому-чему*).
**СУ́МАВЫ** *спец.* суммово́й.
**СУМА́РНА** *нареч.* сумма́рно.
**СУМА́РНАСЦЬ** *ж.* сумма́рность.
**СУМА́РНЫ** *прям., перен.* сумма́рный; **~ныя пака́зчыкі** сумма́рные показа́тели; **~ныя вы́вады** сумма́рные вы́воды.
**СУМА́ТРА** *ж. о-в* Сума́тра.
**СУ́МАЧКА** *ж.* су́мочка.
**СУ́МАЧНЫ** су́мочный; **с. замо́к** су́мочный замо́к; **с. рэ́мень** су́мочный реме́нь.
**СУМБУ́Р** *м.* сумбу́р.
**СУМБУ́РНАСЦЬ** *ж.* сумбу́рность.
**СУМБУ́РНЫ** сумбу́рный.
**СУМЕ́ЖНАСЦЬ** *ж.* сме́жность.
**СУМЕ́ЖНІК** *м.* сме́жник.
**СУМЕ́ЖНЫ** сме́жный; **~ныя ўча́сткі зямлі́** сме́жные уча́стки земли́; **матэма́тыка і фі́зіка — ~ныя дысцыплі́ны** матема́тика и фи́зика — сме́жные дисципли́ны.
**СУМЕ́СНА** *нареч.* совме́стно, сообща́, вме́сте.
**СУМЕ́СНАСЦЬ** *ж.* совме́стность.
**СУМЕ́СНЫ** совме́стный, о́бщий; **~ная апрацо́ўка зямлі́** совме́стная (о́бщая) обрабо́тка земли́.
**СУ́МЕСЬ** *ж.* смесь.
**СУМЕ́ЦЦА** *сов.* смути́ться; опе́шить; замя́ться.
**СУМЕ́ШЧАНЫ** совмещённый.
**СУМЁТ** *м.* сугро́б.
**СУ́МКА** *ж. в разн. знач.* су́мка; **да́мская с.** да́мская су́мка; **палява́я с.** полева́я су́мка; **сардэ́чная с.** *анат.* серде́чная су́мка.
**СУМЛЕ́ННА** *нареч.* че́стно, добросо́вестно.
**СУМЛЕ́ННАСЦЬ** *ж.* че́стность, добросо́вестность.
**СУМЛЕ́ННЕ** *ср.* со́весть *ж.*; ✧ **му́кі ~ння** угрызе́ния (му́ки) со́вести; **для ачы́сткі ~ння** для очи́стки со́вести; **са спако́йным ~ннем** со споко́йной со́вестью.
**СУМЛЕ́ННЫ** че́стный, добросо́вестный.
**СУ́МНА** *нареч.* **1.** гру́стно, печа́льно; тоскли́во; ску́чно; уны́ло; **2.** плаче́вно; *см.* **су́мны** 2; **3.** *в знач. безл. сказ.* гру́стно, печа́льно; тоскли́во; ску́чно.
**СУМНАВА́ТЫ** грустнова́тый; скучнова́тый.
**СУ́МНАСЦЬ** *ж.* **1.** тоскли́вость; уны́лость; **2.** плаче́вность; *см.* **су́мны** 2.
**СУМНЕ́ННЕ** *ср.* сомне́ние; **узя́ць пад с.** взять под сомне́ние, подве́ргнуть сомне́нию, усомни́ться; **не падляга́е ~нню** не подлежи́т сомне́нию.
**СУ́МНІК, -ку** *м. бот.* золота́рник.
**СУМНО́ЖНІК** *м. мат.* сомно́житель.
**СУ́МНЫ 1.** гру́стный, печа́льный; тоскли́вый; ску́чный; уны́лый; **2.** плаче́вный; **~нае стано́вішча** плаче́вное положе́ние.
**СУМНЯВА́ЦЦА** *несов.* сомнева́ться.
**СУ́МСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ** Сумска́я о́бласть.
**СУ́МЧАТКА** *ж. зоол.* сумча́тка.
**СУ́МЧАТЫ** *зоол., бот.* су́мчатый.
**СУ́МЧАТЫЯ** *сущ. мн. зоол.* су́мчатые.

**СУ́МЫ** *г.* Су́мы.
**СУМЫ́СЛЕ, СУМЫ́СНА** *нареч.* преднаме́ренно, наме́ренно, нарочи́то, наро́чно.
**СУМЫ́СНЫ** преднаме́ренный, наме́ренный, нарочи́тый, наро́чный.
**СУМЯСЦІ́ЦЦА** *сов.* совмести́ться.
**СУМЯСЦІ́ЦЬ** *сов.* совмести́ть.
**СУМЯТЛІ́ВАСЦЬ** *ж.* сумато́шливость.
**СУМЯТЛІ́ВЫ** сумато́шный, сумато́шливый.
**СУМЯТНЯ́** *ж.* сумато́ха, сумя́тица, кутерьма́.
**СУМЯШЧА́ЛЬНА** *нареч.* совмести́мо.
**СУМЯШЧА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* совмести́мость.
**СУМЯШЧА́ЛЬНІК** *м.* совмести́тель.
**СУМЯШЧА́ЛЬНІЦА** *ж.* совмести́тельница.
**СУМЯШЧА́ЛЬНІЦКІ** совмести́тельский.
**СУМЯШЧА́ЛЬНІЦТВА** *ср.* совмести́тельство.
**СУМЯШЧА́ЛЬНЫ** совмести́мый.
**СУМЯШЧА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* совмеща́ться.
**СУМЯШЧА́ЦЬ** *несов.* совмеща́ть.
**СУМЯШЧЭ́ННЕ** *ср.* совмеще́ние.
**СУ́НА** *ж. рел.* су́нна.
**СУНАЙМА́ЛЬНІК** *м. юр.* сонанима́тель.
**СУНАСЛЕ́ДВАЦЬ** *сов. юр.* сонасле́довать.
**СУНАСЛЕ́ДНІК** *м. юр.* сонасле́дник.
**СУНАСЛЕ́ДНІЦА** *ж. юр.* сонасле́дница.
**СУНІМА́ЦЦА** *несов.* **1.** унима́ться; (*о боли — ещё*) утиха́ть; смягча́ться; **2.** (*переставать двигаться*) остана́вливаться; **3.** (*становиться смирным*) унима́ться, успока́иваться; угомоня́ться; 1—3 *см.* **суня́цца; 4.** *страд.* унима́ться; остана́вливаться; успока́иваться; *см.* **сунімаць.**
**СУНІМА́ЦЬ** *несов.* **1.** унима́ть; (*сдерживать действие — ещё*) остана́вливать; **2.** (*прекращать движение*) остана́вливать; **3.** (*усмирять*) унима́ть, успока́ивать; **4.** *перен.* унима́ть; 1—4 *см.* **суня́ць.**
**СУНІ́Т** *м. рел.* сунни́т.
**СУНІ́ТКА** *ж. рел.* сунни́тка.
**СУНІ́ЦА** *ж.* (*ягода земляники*) землянич́ка.
**СУНІ́ЦКІ** *рел.* сунни́тский.
**СУНІ́ЦЫ,** *ед.* **суні́ца** земляни́ка.
**СУНІ́ЧНІК, -ку** *м.* земляни́чник.
**СУНІ́ЧНЫ** земляни́чный.
**СУ́НУТЫ** *в разн. знач.* су́нутый; *см.* **су́нуць** 1.
**СУ́НУЦЦА 1.** *сов. разг.* су́нуться; **су́нуўся ў дзве́ры, ды наза́д** су́нулся в дверь, да наза́д; **2.** *несов.* (*перемещаться*) дви́гаться; **3.** *несов. перен. разг.* плести́сь.
**СУ́НУЦЬ 1.** *сов. в разн. знач.* су́нуть; **с. со́ску ў рот** су́нуть со́ску в рот; **с. палена ў аго́нь** су́нуть поле́но в ого́нь; **с. пяць рублёў** су́нуть пять рубле́й; **2.** *сов.* (*с раздражением показать*) ткнуть; **су́нуў яму́ кнігай у нос** ткнул ему́ кни́гой в нос; **3.** *сов. разг.* пырну́ть; **су́нуў нажо́м пад бок** пырну́л ножо́м в бок; **4.** *несов.* (*перемещать*) дви́гать.
**СУНЯ́ТЫ 1.** уня́тый; остано́вленный; **2.** остано́вленный; **3.** уня́тый, успоко́енный; угомонённый; **4.** *перен.* уня́тый; 1—4 *см.* **суня́ць.**
**СУНЯ́ЦЦА** *сов.* **1.** уня́ться; (*о боли — ещё*) утихнуть; смягчи́ться; **суня́ўся го́ман** уня́лся шум; **суня́ўся пажа́р** уня́лся пожа́р; **суня́ўся боль** уняла́сь (ути́хла, смягчи́лась) боль; **2.** (*перестать двигаться*) останови́ться; **по́езд суня́ўся** по́езд останови́лся; **3.** (*стать смирным*) уня́ться, успоко́иться; угомони́ться; **дзе́ці суня́ліся і ле́глі спаць** де́ти уняли́сь (успоко́ились, угомони́лись) и легли́ спать.
**СУНЯ́ЦЬ** *сов.* **1.** уня́ть; (*сдержать действие — ещё*) останови́ть; **с. слёзы** уня́ть слёзы; **с. кроў** останови́ть кровотече́ние; **2.** (*прекратить движение*) останови́ть; **с. нато́ўп** останови́ть толпу́; **3.** (*усмирить*) уня́ть, успоко́ить; угомони́ть; **с. дзяце́й** уня́ть (успоко́ить, угомони́ть) дете́й; **4.** *перен.* уня́ть; **с. гнеў** уня́ть гнев.
**СУП,** *род.* **су́пу** *м.* суп; **мало́чны с.** моло́чный суп; **вегетарыя́нскі с.** вегетариа́нский суп.

**СУ́ПАВЫ** супово́й.
**СУПАДА́ЦЬ** *несов.* совпада́ть.
**СУПАДЗЕ́ННЕ** *ср.* совпаде́ние.
**СУПАДПАРА́ДКАВАННЕ** *ср.* соподчине́ние.
**СУПАДПАРА́ДКАВАНЫ** соподчинённый.
**СУПАДПАРА́ДКАВАЦЬ** *сов.* соподчини́ть.
**СУПАДПАРАДКО́ЎВАЦЦА** *несов. страд.* соподчиня́ться.
**СУПАДПАРАДКО́ЎВАЦЬ** *несов.* соподчиня́ть.
**СУПАКАЕ́ННЕ** *ср.* споко́йствие; успокое́ние.
**СУПАКО́ЕНАСЦЬ** *ж.* споко́йствие *ср.*
**СУПАКО́ЕНЫ 1.** успоко́енный, угомонённый, уня́тый; укрощённый; **2.** успоко́енный; **3.** успоко́енный; 1—3 *см.* **супако́іць.**
**СУПАКО́ІЦЦА** *сов.* **1.** успоко́иться, угомони́ться, уня́ться; **2.** (*перестать беспокоиться*) успоко́иться; **3.** (*смягчиться, ослабеть*) успоко́иться; (*о буре — ещё*) ути́хнуть; уня́ться; **4.** (*на чым*) успоко́иться, удовлетвори́ться (*чем*); **с. на дася́гнутым** успоко́иться на дости́гнутом.
**СУПАКО́ІЦЬ** *сов.* **1.** успоко́ить, угомони́ть, уня́ть; укроти́ть; **2.** (*рассеять беспокойство*) успоко́ить; **3.** (*смягчить, ослабить*) успоко́ить.
**СУПАКО́Й** *м. см.* **спако́й.**
**СУПАКО́ЙВАННЕ** *ср.* **1.** успокое́ние; укроще́ние; **2.** успокое́ние; **3.** успокое́ние; 1—3 *см.* **супако́йваць.**
**СУПАКО́ЙВАЦЦА** *несов.* **1.** успока́иваться, угомоня́ться, унима́ться; **2.** (*переставать беспокоиться*) успока́иваться; **3.** (*смягчаться, ослабевать*) успока́иваться; (*о буре — ещё*) утиха́ть; унима́ться; **4.** (*на чым*) успока́иваться, удовлетворя́ться (*чем*); *см.* **супако́іцца** 4; **5.** *страд.* успока́иваться; угомоня́ться, унима́ться; укроща́ться; *см.* **супако́йваць.**
**СУПАКО́ЙВАЦЬ** *несов.* **1.** успока́ивать, угомоня́ть, унима́ть; укроща́ть; **2.** (*рассеивать беспокойство*) успока́ивать; **3.** (*смягчать, ослаблять*) успока́ивать.
**СУПАКО́ЙЛІВА** *нареч.* успокои́тельно.
**СУПАКО́ЙЛІВАСЦЬ** *ж.* успокои́тельность.
**СУПАКО́ЙЛІВЫ** успокои́тельный.
**СУПАРАЎНА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* сопостави́мость.
**СУПАРАЎНА́ЛЬНЫ** сопостави́мый.
**СУ́ПАРТ** *м. тех.* су́ппорт.
**СУПАСТА́ВІЦЬ** *сов.* сопоста́вить.
**СУПАСТА́Т** *м.* супоста́т.
**СУПАСТАЎЛЕ́ННЕ** *ср.* сопоставле́ние.
**СУПАСТА́ЎЛЕНЫ** сопоста́вленный.
**СУПАСТАЎЛЯ́ЦЦА** *несов. страд.* сопоставля́ться.
**СУПАСТАЎЛЯ́ЦЬ** *несов.* сопоставля́ть.
**СУПА́СЦІ** *сов.* совпа́сть.
**СУПЕРВО́КЛАДКА** *ж.* суперобло́жка.
**СУПЕРФАСФА́Т, -ту** *м. хим., с.-х.* суперфосфа́т.
**СУПЕРФАСФА́ТНЫ** *хим., с.-х.* суперфосфа́тный.
**СУ́ПЕСАК, -ску** *м.* су́песок, су́песь *ж.*
**СУ́ПЕСКАВЫ** су́песный, су́песковый.
**СУПІ́Н** *м. грам.* супи́н.
**СУПІНА́ТАР** *м. мед.* супина́тор.
**СУ́ПІЦЦА** *несов. разг.* су́питься, насу́пливаться.
**СУ́ПІЦЬ** *несов. разг.* су́пить, насу́пливать.
**СУ́ПНІЦА** *ж.* су́пница, су́пник *м.*
**СУПО́ЛКА** *ж. уст.* сообщество *ср.*; това́рищество *ср.*
**СУПО́ЛЬНА** *нареч.* сообща́, совме́стно; совоку́пно; вме́сте, заодно́.
**СУПО́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* о́бщность, совме́стность.
**СУПО́ЛЬНІК** *м.* **1.** това́рищ по совме́стной де́ятельности, соуча́стник; **2.** соуча́стник, сообщник, посо́бник; единомы́шленник.
**СУПО́ЛЬНІЦА** *ж.* **1.** това́рищ по совме́стной де́ятельности, соуча́стница; **2.** соуча́стница, сообщница, посо́бница; единомы́шленница.
**СУПО́ЛЬНІЦКІ** сообщнический.

такóй, такóвский; (*такой, о котором говорится — ещё*) подóбный; (*в знач. сказ.—ещё*) такóв; **т. час настáне** такóе врéмя придёт; **у такíм вы́падку** в такóм слу́чае; **такíм чы́нам** таки́м óбразом; **не на такóга напáў** не на такóго (такóвского) напáл; **нікóлі не сустракáў такíх людзéй** никогдá не встречáл подóбных (таки́х) людéй; **цяпéр свет ужó не т.** ны́нче свет уж не такóй (такóв); **дáйце мне такýю кнíгу, якýю я прасíў** дáйте мне такýю кни́гу, какýю я проси́л; **т., якí ёсць** такóй, какóй есть; **2.** *опред.* такóй; (*в сочетании с прил. в знач. сказ.—ещё*) так, столь; **т. незалéжны, т. гóрды** такóй незави́симый, такóй гóрдый; **ён не т. ўжо дóбры** он не так (не столь) уж добр; **3.** *неопр. разг.* такóй, какóй-то; **гэ́та такáя невялíкіх памéраў пáлка** э́то такáя небольши́х размéров пáлка; **4.** *указ.* такóй; э́кий; **кругóм ідзé такáя будóўля!** вокру́г идёт такóе строи́тельство!; ✧ **не з такíх** не из таки́х; **т. і т.** такóй-то; **т. ж, як** такóй же, как; **т. і гэ́такі** такóй-сякóй; **такíм чы́нам** *вводн. сл.* таки́м óбразом, итáк, слéдовательно; **да такóй ступéні** до такóй стéпени; **такáя спрáва** такóе дéло; **ёсць такáя спрáва** есть такóе дéло; **у такíм вы́падку, у такíм рáзе** в такóм слу́чае; **што тут такóга?** что тут такóго?

**ТАКÍ** II *частица разг.* таки; **ён т. прыйшóў** он таки пришёл.

**ТАКÍЙСКІ** токи́йский.

**ТАКÍ-СЯКÍ** *мест. разг.* такóй-сякóй.

**ТАКÍ-ТА** **1.** *мест. неопр.* такóй-то; **2.** *частица разг.* а ещё; **вучóны т.!** а ещё учёный!

**ТАКÓЕ** **1.** *мест. ср.* такóе; *см.* **такí** I; **2.** *в знач. сущ.* такóе; **здáрылася т.!...** случи́лось такóе!...

**ТАКÓЛАГ** *м.* токóлог.

**ТАКÓЎСКІ** *разг.* такóвский.

**ТÁКСА** I *ж.* (*норма оплаты*) тáкса.

**ТÁКСА** II *ж.* (*порода собак*) тáкса.

**ТАКСАВÁННЕ** *ср.* такси́рование.

**ТАКСАВÁНЫ** такси́рованный.

**ТАКСАВÁЦЬ** *сов. и несов.* такси́ровать.

**ТАКСÁМА** **1.** *нареч.* тáкже, тóже; **я т. скóнчыў сваю́ прáцу** я тáкже (тóже) закóнчил свою́ рабóту; **ён т. чытáў газéту** он тáкже (тóже) читáл газéту; **2.** *союз соед.* тáкже; **я́блыні, а т. гру́шы зацвілí** я́блони, а тáкже гру́ши зацвели́; **3.** *частица* тóже; **а ты т. дóбры!** а ты тóже хорóш!; ✧ **т. як...** (*подобно кому-чему-л.*) так же, как...

**ТАКСАМАТÓР** *м.* таксомотóр.

**ТАКСАМАТÓРНЫ** таксомотóрный.

**ТАКСÁТАР** *м.* таксáтор.

**ТАКСАЦЫЙНЫ** *спец.* таксациóнный.

**ТАКСÁЦЫЯ** *ж. спец.* таксáция.

**ТАКСÍ** *нескл. ср.* такси́.

**ТАКСІКАЛАГÍЧНЫ** токсикологи́ческий.

**ТАКСІКАЛÓГІЯ** *ж.* токсиколóгия.

**ТАКСІКÓЛАГ** *м.* токсикóлог.

**ТАКСÍМЕТР** *м. спец.* такси́метр.

**ТАКСІМЕ́ТРЫЯ** *ж. спец.* таксимéтрия.

**ТАКСÍН, -ну** *м. мед.* токси́н.

**ТАКСІРÓЎКА** *ж.* таксирóвка.

**ТАКСІРÓЎШЧЫК** *м.* таксирóвщик.

**ТАКСІРÓЎШЧЫЦА** *ж.* таксирóвщица.

**ТАКСÍЧНАСЦЬ** *ж. спец.* токси́чность.

**ТАКСÍЧНЫ** *спец.* токси́чный, токси́ческий.

**ТАКСÓМЕТР** *м.* таксóметр.

**ТАК-СЯ́К** *нареч. см.* **сяк-тáк;** ✧ **так-ся́к наўскася́к абы́ не па-лю́дску** тяп-ля́п.

**ТАКТ** I *м. в разн. знач.* такт; **трохдóльны т.** трёхдóльный такт; **т. пóршня паравóй машы́ны** такт пóршня паровóй маши́ны; ✧ **у т.** в такт; **адбівáць т.** отбивáть такт.

**ТАКТ** II, *род.* **тáкту** *м.* (*чувство меры*) такт; **пачуццё тáкту** чу́вство тáкта; **адсу́тнасць тáкту** отсу́тствие тáкта; **прытры́млівацца тáкту** соблюдáть такт.

**ТÁКТАВЫ** *муз.* тáктовый.

**ТÁК-ТАКІ** *частица* тáк-таки.

**ТАКТÓМЕТР** *м.* тактóметр.

**ТАКТÓЎНА** *нареч.* такти́чно.

**ТАКТÓЎНАСЦЬ** *ж.* такти́чность.

**ТАКТÓЎНЫ** такти́чный.

**ТÁКТЫК** *м.* тáктик.

**ТÁКТЫКА** *ж. воен., перен.* тáктика.

**ТАКТЫ́ЧНА** *нареч.* такти́чно.

**ТАКТЫ́ЧНАСЦЬ** *ж.* такти́чность.

**ТАКТЫ́ЧНЫ** **1.** такти́чный; **т. чалавéк** такти́чный человéк; **2.** *воен., перен.* такти́ческий; **~ная развéдка** такти́ческая развéдка; **т. пóспех** такти́ческий успéх.

**ТАЛАКÁ** *ж. разг.* толóка, пóмочь; рабóта сообщá (ми́ром); **сабрáць ~кý** собрáть пóмочь; **рабíць ~кóю** рабóтать сообщá (ми́ром).

**ТАЛАКНÓ** *ср.* толокнó.

**ТАЛАКНЯ́НКА** *ж. бот.* толокня́нка.

**ТАЛАКНЯ́НЫ** толокóнный.

**ТАЛÁНТ** *м. ист.* (*мера веса, денежная единица*) талáнт.

**ТАЛАЧЫ́Н, -нá** *м. г.* Толочи́н.

**ТАЛАЧЫ́НСКІ РАЁН** Толочи́нский райóн.

**ТАЛАЧЫ́ЦЬ** *несов. разг.* (*посев и т. п.*) трави́ть, стрáвливать, топтáть, вытáптывать, стáптывать.

**ТАЛДЫ́-КУРГÁН** *м. г.* Талды́-Кургáн.

**ТАЛДЫ́-КУРГÁНСКАЯ ВÓБЛАСЦЬ** Талды́-Кургáнская óбласть.

**ТÁЛЕВЫ** *мор., тех.* тáлевый.

**ТАЛЕ́ДА** *нескл. м. г.* Толéдо.

**ТАЛЕ́ДСКІЯ ГÓРЫ** Толéдские гóры.

**ТАЛЕНАВÍТА** *нареч.* талáнтливо.

**ТАЛЕНАВÍТАСЦЬ** *ж.* талáнтливость, дарови́тость, одарённость.

**ТАЛЕНАВÍТЫ** талáнтливый, дарови́тый, одарённый.

**ТÁЛЕНТ** *м.* **1.** *род.* **тáленту** (*природные способности*) талáнт, даровáние *ср.*; дар; **2.** *род.* **тáлента** (*талантливый человек*) талáнт, даровáние *ср.*; **малады́я ~ты** молоды́е талáнты (даровáния).

**ТÁЛЕР** I *м. полигр.* тáлер.

**ТÁЛЕР** II *м. ист.* (*монета*) тáлер.

**ТАЛЕ́РАЧНІК** *м.* тарéлочник.

**ТАЛЕ́РАЧНЫ** *и* **ТАЛЕ́РКАВЫ** тарéлочный.

**ТАЛЕ́РКА** *ж.* **1.** тарéлка; **2.** *только мн. муз.* тарéлки; ✧ **не ў сваéй ~рцы** не в своéй тарéлке.

**ТАЛЕ́РКАВЫ** *см.* **талéрачны.**

**ТÁЛІ** *ед. нет мор., тех.* тáли.

**ТÁЛІЕВЫ** *хим.* тáллиевый.

**ТÁЛІЙ, -лію** *м. хим.* тáллий.

**ТÁЛІН** *м. г.* Тáллин.

**ТÁЛІНСКІ** тáллинский.

**ТАЛІСМÁН** *м.* талисмáн.

**ТÁЛІЯ** I *ж.* тáлия; **тóнкая т.** тóнкая тáлия; ✧ **у тáлію** в тáлию.

**ТÁЛІЯ** II *ж. карт.* тáлия.

**ТАЛМУ́Д** *м.* талму́д.

**ТАЛМУДЫ́ЗМ, -му** *м.* талмуди́зм.

**ТАЛМУДЫ́СТ** *м. рел., перен.* талмуди́ст.

**ТАЛМУДЫ́СЦКІ** **1.** *рел.* талмуди́ческий; **2.** *перен.* талмуди́стский.

**ТАЛÓН** *м.* талóн.

**ТАЛÓННЫ** талóнный.

**ТÁЛРЭП** *м. мор.* тáлреп.

**ТАЛСТÓВЕЦ, -тóўца** *м.* толстóвец.

**ТАЛСТÓЎКА** I *ж.* (*к* **талстóвец**) толстóвка.

**ТАЛСТÓЎКА** II *ж.* (*блуза*) толстóвка.

**ТАЛСТÓЎСКІ** толстóвский.

**ТАЛСТÓЎСТВА** *ср.* толстóвство.

**ТАЛУÓЛ, -лу** *м. хим.* толуóл.

**ТÁЛЬВЕГ** *м. геогр., геод.* тáльвег.

**ТАЛЬК,** *род.* **тáльку** *м. мин.* тальк.

**ТА́ЛЬКА** I *ж.* (*моток*) та́лька.
**ТА́ЛЬКА** II *ж. см.* **тальк.**
**ТА́ЛЬКАВЫ** та́льковый.
**ТА́ЛЬМА** *ж. уст.* та́льма.
**ТАЛЬМА́Х, -ха́** *м.* пе́ревязь *ж.*; **рука́ на ~ху́** рука́ на пе́ревязи.
**ТАЛЬЯ́НКА** *ж. разг.* талья́нка.
**ТАМ 1.** *нареч.* там; **т. і сям** там и сям; **т. і тут** там и тут; **вось т.** вот там; **2.** *нареч.* (*потом, затем*) там; **т. віда́ць бу́дзе** там ви́дно бу́дет; **3.** *частица* (*в уступительных оборотах*) там; **што б т. ні было́** что бы там ни́ было.
**ТАМАГА́ЎК** *м.* томага́вк.
**ТАМАДА́** *м.* тамада́.
**ТА́МАКА** *нареч. обл. см.* **там 1.**
**ТАМА́НСКІ ПАЎВО́СТРАЎ** Тама́нский полуо́стров.
**ТАМАРЫ́НД, -да,** (*о древесине и собир.*) **-ду** *м. бот.* тамари́нд.
**ТАМАРЫ́СК, -ку** *м. бот.* тамари́ск.
**ТАМАРЫ́СКАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* тамари́сковые.
**ТАМАСШЛА́К, -ку** *м. с.-х.* томасшла́к.
**ТАМА́Т** *м.* **1.** *род.* **тама́та** (*помидор*) тома́т; **2.** *род.* **тама́ту** (*соус*) тома́т.
**ТА́МАШНІ** та́мошний.
**ТАМБО́Ў, -бо́ва** *м. г.* Тамбо́в.
**ТАМБО́ЎСКАЯ ВО́БЛАСЦЬ** Тамбо́вская о́бласть.
**ТА́МБУР** I *м. архит., ж.-д.* та́мбур.
**ТА́МБУР** II, **-ру** *м.* (*вышивка*) та́мбур.
**ТАМБУ́Р** *м. муз.* тамбу́р.
**ТАМБУРМАЖО́Р** *м. воен. ист.* тамбурмажо́р.
**ТАМБУРМАЖО́РСКІ** *воен. ист.* тамбурмажо́рский.
**ТАМБУРЫ́Н** *м. муз.* тамбури́н.
**ТАМГА́** *ж. ист.* тамга́.
**ТАМІ́ЛЬНЫ** *тех.* томи́льный.
**ТАМІ́ЦЦА** *несов.* **1.** утомля́ться, томи́ться; **2.** *страд. тех.* томи́ться.
**ТАМІ́ЦЬ** *несов.* **1.** утомля́ть, томи́ть; **2.** *тех.* томи́ть.
**ТАМЛЕ́ННЕ** *ср. тех.* томле́ние.
**ТАМЛЯ́НКА** *ж. тех.* томля́нка.
**ТАМО́ЖНІК** *м.* тамо́женник.
**ТАМО́ЖНЫ** *в разн. знач.* тамо́женный; **~ная по́шліна** тамо́женная по́шлина; **т. двор** тамо́женный двор.
**ТАМО́ЖНЯ** *ж.* тамо́жня.
**ТАМПА́К, -ку́** *м.* томпа́к.
**ТАМПАКО́ВЫ** томпа́ковый.
**ТАМПАНАВА́ННЕ** *ср. мед.* тампони́рование.
**ТАМПАНАВА́НЫ** *мед.* тампони́рованный.
**ТАМПАНАВА́ЦЦА** *несов. страд. мед.* тампони́роваться.
**ТАМПАНАВА́ЦЬ** *сов. и несов. мед.* тампони́ровать.
**ТАМПАНА́Ж, -жу** *м. горн.* тампона́ж.
**ТАМПАНА́ЦЫЯ** *ж. мед.* тампона́ция.
**ТАМПО́Н** *м. мед., полигр.* тампо́н.
**ТАМ-СЯ́М** *нареч. см.* **сям-та́м.**
**ТАМТА́М** *м. муз.* тамта́м.
**ТАМУ́** I **1.** *нареч.* потому́; (*вот почему—ещё*) поэ́тому; (*по этой причине — ещё*) оттого́; **мне ня́ма калі́, т. я і не магу́ прыйсці́** мне не́когда, потому́ (поэ́тому, оттого́) я и не могу́ прийти́; **2.** *нареч.* (*для того, с этой целью*) зате́м; **по́йдзем у кіно́?— Я т. і зайшо́ў да цябе́** пойдём в кино́? — Я зате́м и зашёл к тебе́; **3.** *союз в сочетании со словом* **што** потому́ что, оттого́ что, и́бо, та́к как; **не ем, т. што ня́даўна абе́даў** не ем, потому́ что (оттого́ что, и́бо, та́к как) неда́вно обе́дал; **не прыйшо́ў т., што не меў ча́су** не пришёл потому́, что (оттого́, что; и́бо; та́к как) не име́л вре́мени; ✧ **а т.** а поэ́тому, а посему́.
**ТАМУ́** II *мест. в дат. п.* тому́; *см.* **той.**
**ТАНА́Ж, -жу** *м.* тонна́ж.
**ТАНА́ЛЬНАСЦЬ** *ж. муз.* тона́льность.
**ТАНА́ЛЬНЫ** *муз.* тона́льный.
**ТАНАНАРЫ́ВЕ** *нескл. м. г.* Тананари́ве.

**ТА́НГА** *нескл. ср.* та́нго.
**ТАНГАНЬІ́КА** *ж.* (*озеро и государство*) Танганьи́ка.
**ТА́НГЕНС** *м. мат.* та́нгенс.
**ТАНГЕНСО́ІДА** *ж. мат.* тангенсо́ида.
**ТАНГЕНЦЫЯ́ЛЬНЫ** *мат.* тангенциа́льный.
**ТАНДЭ́Т, -ту** *м. разг. пренебр.* дешёвка *ж.*, барахло́ *ср.*
**ТАНДЭ́ТНЫ** *разг. пренебр.* ни́зкого ка́чества.
**ТАНЕ́Й** *нареч. сравнит. ст. обл. см.* **танчэ́й.**
**ТАНЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст. обл. см.* **танчэ́йшы.**
**ТА́НЕЦ, -нца** *м. в разн. знач.* та́нец; (*народный*) пля́ска *ж.*; **тэо́рыя та́нца** тео́рия та́нца; **шко́ла та́нцаў** шко́ла та́нцев; **«Сімфані́чныя та́нцы» Рахма́нінава** «Симфони́ческие та́нцы» Рахма́нинова; **схадзі́ць на та́нцы** сходи́ть на та́нцы; **анса́мбль пе́сні і та́нца** анса́мбль пе́сни и пля́ски.
**ТАНЕ́ЦЬ** *несов. обл. см.* **танчэ́ць.**
**ТАНЖЭ́Р** *м. г.* Танже́р.
**ТАНЖЭ́РСКІ** танже́рский.
**ТАНЗУ́РА** *ж.* тонзу́ра.
**ТАНІЗАВА́НЫ** *физиол.* тонизи́рованный.
**ТАНІЗАВА́ЦЦА** *несов. страд. физиол.* тонизи́роваться.
**ТАНІЗАВА́ЦЬ** *сов. и несов. физиол.* тонизи́ровать.
**ТАНІЗА́ЦЫЯ** *ж. физиол.* тониза́ция.
**ТАНІ́Н, -ну** *м. хим.* тани́н.
**ТАНІ́НАВЫ** тани́новый.
**ТАНІ́ЦЬ** *несов. разг.* (*делать слишком тонким*) утонча́ть, утоня́ть.
**ТАНІ́ЧНЫ** I *лит.* тони́ческий.
**ТАНІ́ЧНЫ** II *мед., физиол.* тони́ческий.
**ТАНК** *м.* танк.
**ТАНКАБУДАВА́ННЕ** *ср.* танкостроéние.
**ТАНКАБУДАЎНІ́ЧЫ** танкострои́тельный.
**ТАНКАВАДЖЭ́ННЕ** *ср. воен.* танковожде́ние.
**ТА́НКАВЫ** та́нковый.
**ТАНКАДРО́М** *м. воен.* танкодро́м.
**ТАНКАЛІ́СТЫ** тонколи́стный.
**ТАНКАНО́ГІ** тонконо́гий.
**ТАНКАПРА́Д** *м. зоол.* тонкопря́д.
**ТАНКАРУ́ННЫ** тонкору́нный.
**ТАНКАСКУ́РЫ** тонкоко́жий.
**ТАНКАСТВАЛО́ВЫ** *см.* **танкаство́лы.**
**ТАНКАСТВО́ЛЫ** *и* **ТОНКАСТВАЛО́ВЫ** тонкоство́льный.
**ТАНКАСТВО́ЛЬНЫ** (*об оружии*) тонкоство́льный.
**ТАНКАСТРУ́ННЫ** тонкостру́нный.
**ТАНКАСЦЕ́ННЫ** тонкосте́нный.
**ТАНКАТА́** *ж.* то́нкость, тонина́.
**ТАНКАТРУ́БНЫ** тонкотру́бный.
**ТАНКАШЫ́І** тонкоше́ий.
**ТАНКАШЭ́РСНЫ** тонкошёрстный, тонкошёрстый.
**ТА́НКЕР** *м. мор.* та́нкер.
**ТА́НКЕРНЫ** *мор.* та́нкерный.
**ТАНКЕ́ТКА** *ж. воен.* танке́тка.
**ТАНКІ́СТ** *м.* танки́ст.
**ТАНКЛЯ́ВЫ** то́нкий; тонкова́тый.
**ТА́ННА** *нареч.* дёшево.
**ТА́ННАСЦЬ** *ж.* дешеви́зна, дешёвка.
**ТАННЕ́Й** *нареч. сравнит. ст.* деше́вле; **купі́ць т.** купи́ть деше́вле.
**ТАННЕ́ЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* деше́вле; **гэ́та су́мка ~шая** э́та су́мка деше́вле.
**ТАННЕ́ЦЬ** *несов.* дешеве́ть.
**ТА́ННЫ** *прям., перен.* дешёвый; **та́нныя ткані́ны** дешёвые тка́ни; **та́нная сла́ва** дешёвая сла́ва.
**ТАНТА́Л, -лу** *м. хим.* танта́л.
**ТАНТА́ЛАЎ: ~лавы му́кі** танта́ловы му́ки.
**ТАНТАЛІ́Т, -ту** *м. мин.* танталит.
**ТАНУ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* тону́ть; (*погибать, погрузившись в воду—ещё*) утопа́ть; **знясі́лены чалаве́к тане́, захлёбваецца** обесси́ленный челове́к то́нет (утопа́ет), за-

хлёбывается; **салдáты танýць у снéжнай імглé** солдáты тóнут в снéжной мгле; **т. у спрáвах** тонýть в делáх; **гудкí танýлі ў пóсвістах завірýхі** гудки́ тонýли в сви́сте метéли; **дýмка áўтара танé ў падрабя́знасцях** мысль áвтора тóнет в подрóбностях.

**ТАНЦАВÁЛЬНЫ** танцевáльный; плясовóй; **∼ная мýзыка** плясовáя (танцевáльная) мýзыка; **т. маты́ў** плясовóй моти́в.

**ТАНЦАВÁЦЦА** *несов. возвр., страд.* танцевáться.

**ТАНЦАВÁЦЬ** *несов.* танцевáть; (*народные танцы*) плясáть, отпля́сывать; ✧ **т. ад пéчкі** *ирон.* танцевáть от пéчки.

**ТАНЦМÁЙСТАР, -тра** *м.* танцмéйстер.

**ТАНЦÓР** *м.* танцóр; (*в народных танцах — ещё*) плясýн; **канáтны т.** канáтный плясýн.

**ТАНЦÓРКА** *ж.* танцóрка; (*в народных танцах — ещё*) плясýнья.

**ТАНЦÓЎШЧЫК** *м.* танцóвщик.

**ТАНЦÓЎШЧЫЦА** *ж.* танцóвщица.

**ТАНЦÝЛЬКА** *ж. разг. пренебр.* танцýлька.

**ТАНЧЭЙ** *нареч. сравнит. ст.* тóньше; **правядзі рысу т.** проведи́ чертý тóньше.

**ТАНЧЭЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* тóньше; **шоўк т. за палатнó** шёлк тóньше холстá.

**ТАНЧЭЦЬ** *несов. разг.* тончáть, утончáться, станови́ться тóньше.

**ТАНЮСЕНЬКІ** тóненький.

**ТАПАГРАФІЧНЫ** топографи́ческий.

**ТАПАГРÁФІЯ** *ж. в разн. знач.* топогрáфия.

**ТАПÁЗ, -зу** *м.* топáз.

**ТАПÁЗАВЫ** топáзовый.

**ТАПАЛАГІЧНЫ** *мат.* топологи́ческий.

**ТАПАЛÓГІЯ** *ж. мат.* тополóгия.

**ТАПАНІ́МІКА** *ж. спец.* топони́мика.

**ТАПАНІМІ́ЧНЫ** *спец.* топоними́ческий.

**ТАПАНІ́МІЯ** *ж. спец.* топони́мия.

**ТАПАРЫ́ШЧА** *ср.* топори́ще.

**ТÁПАЧКІ, -чак,** *ед.* **тáпачка** *ж.* тáпочки.

**ТАПÉЛЕЦ, -льца** *м.* **1.** утóпленник; **2.** утопáющий.

**ТАПÉЛЬНІЦА** *ж.* утóпленница.

**ТАПЁР** *м.* тапёр.

**ТАПЁРКА** *ж.* тапёрша.

**ТАПІЁКА** *ж.* тапиóка.

**ТАПІ́ЛЬШЧЫК** *м.* топи́льщик.

**ТАПІ́ЛЬШЧЫЦА** *ж.* топи́льщица.

**ТАПІНАМБÝР, -ру** *м. бот.* топинамбýр.

**ТАПІ́Р** *м. зоол.* тапи́р.

**ТАПІ́ЦЦА** I *несов.* **1.** (*лишать себя жизни*) топи́ться; **2.** (*идти ко дну*) тонýть, утопáть; **3.** *страд.* топи́ться; потопля́ться; *см.* **тапíць** I.

**ТАПІ́ЦЦА** II *несов. возвр., страд.* топи́ться; плáвиться; *см.* **тапíць** II.

**ТАПІ́ЦЬ** I *несов. в разн. знач.* топи́ть; (*пускать ко дну — ещё*) потопля́ть; **т. варóжыя караблí** топи́ть (потопля́ть) врáжеские корабли́; **падсýдныя тапíлі адзін другóга** *перен.* подсуди́мые топи́ли друг дрýга; ✧ **т. у лы́жцы вады́** топи́ть в лóжке воды́.

**ТАПІ́ЦЬ** II *несов.* (*превращать в жидкое состояние — сало и т. п.*) топи́ть; (*воск — ещё*) плáвить.

**ТАПЛÉННЕ** *ср.* топлéние; плавлéние; *см.* **тапíць** II.

**ТАПÓГРАФ** *м.* топóграф.

**ТАПÓЛАГ** *м.* топóлог.

**ТАПÓЛЕВЫ** тóполевый.

**ТАПÓЛЯ** *ж. и* **ТÓПАЛЬ** *м.* тóполь *м.*

**ТАПÓР, -парá** *м.* топóр.

**ТАПÓРНЫ** *прям., перен.* топóрный.

**ТАПТÁННЕ** *ср.* **1.** топтáние; *см.* **таптáць** 1, **таптáцца** 1; **2.** *перен.* попирáние; **3.** утáптывание; навивáние; **4.** *разг.* хождéние; 2—4 *см.* **таптáць** 3, 4, 6.

**ТАПТÁНЫ** тóптанный; мя́тый; *см.* **таптáць** 1.

**ТАПТÁЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* топтáться; **нерашýча т.** нереши́тельно топтáться; **чагó ты тут тóпчашся?** чегó ты тут тóпчешься?; **2.** *страд.* топтáться; мя́ться; попирáться; утáптываться; навивáться; напи́хиваться; *см.* **таптáць** 1—5; ✧ **т. на мéсцы** топтáться на мéсте.

**ТАПТÁЦЬ** *несов.* **1.** топтáть; (*делать мятым — ещё*) мять; **т. травý** топтáть (мять) травý; **кóннікі ∼тáлі натóўп** всáдники топтáли толпý; **2.** (*снашивать обувь*) топтáть; **т. бóты** топтáть сапоги́; **3.** *перен.* топтáть; попирáть; **не т. вóрагу нáшай зямлí** не топтáть врагý нáшей земли́; **т. правы́** попирáть правá; **4.** (*плотно уминать, топча ногами*) утáптывать; (*воз сена, соломы — ещё*) навивáть; **т. снег** утáптывать снег; **5.** *разг.* (*небрежно складывать, укладывать*) пихáть, напи́хивать; **6.** (*што*) *разг.* ходи́ть (*по чему*), хáживать (*по чему*); броди́ть (*по чему*); протáптывать; **т. дарóгі** ходи́ть (хáживать) по дорóгам; **т. сцéжку** протáптывать тропи́нку; ✧ **т. чые-нéбудзь сцéжкі** идти́ по чьи́м-л. стопáм.

**ТАПТÝХА** *ж.* (*вид рыболовной сети*) топтýха.

**ТАПЧÁК, -кá** *м.* (*род конного привода*) топчáк.

**ТАПЧÁН, -нá** *м.* **1.** топчáн; **2.** скамéйка *ж.*, лáвка *ж.* (*комнатная*).

**ТАПЧЫЛА** *ср. спец.* топчи́ло.

**ТАПЫ́РЫЦЦА** *несов.* **1.** топóрщиться; (*поднимать шерсть, щетину — ещё*) щети́ниться; (*поднимать перья — ещё*) хóхлиться; **2.** (*о лошади*) насторáживать ýши, стричь ушáми.

**ТАПЫ́РЫЦЬ** *несов.* **1.** топóрщить; (*шерсть, щетину — ещё*) щети́нить; (*перья — ещё*) хóхлить; **2.** (*уши*) насторáживать.

**ТÁРА** *ж. в разн. знач.* тáра.

**ТАРАБÁНІЦЬ** *несов. разг.* **1.** тарахтéть; **2.** нести́, тащи́ть (*что-л. громоздкое*).

**ТАРАБÁРСКІ** *в разн. знач.* тарабáрский.

**ТАРАБÁРШЧЫНА** *ж.* тарабáрщина.

**ТАРАБÁРЫЦЬ** *несов. прост.* тарабáрить.

**ТАРАКÁН, -нá** *м.* таракáн.

**ТАРАКÁНАВЫ** таракáний.

**ТАРÁН** I, **-нá** *м.* вóбла *ж.*; тарáнь *ж.*

**ТАРÁН** II, **-нá** *м. воен., тех.* тарáн; **гідраўлíчны т.** гидравли́ческий тарáн.

**ТАРÁНІЦЬ** *несов. в разн. знач.* тарáнить; **т. сцéны крэ́пасці** *ист.* тарáнить стéны крéпости; **т. самалёт вóрага** *ав.* тарáнить самолёт врагá; **т. абарóну праціўніка** *воен.* тарáнить оборóну проти́вника.

**ТАРÁННЫ** тарáнный; **∼нная косць** *анат.* тарáнная кость.

**ТАРАНТÁС** *м.* тарантáс.

**ТАРÁНТУЛ** *м. зоол.* тарáнтул.

**ТАРАНТЭЛА** *ж.* тарантéлла.

**ТАРАПІ́ЦЦА** *несов. разг.* (*о лошади*) пугáться, пря́дать ушáми.

**ТАРАПЛІ́ВЫ** *разг.* (*о лошади*) пугли́вый.

**ТАРАРÁМ, -му** *м. разг.* тарарáм.

**ТАРАСІ́ЦЦА** *несов.* торóситься.

**ТАРАСІ́ЦЬ** *несов.* торóсить.

**ТАРАТÁЙКА** *ж.* таратáйка.

**ТАРАХЦÉННЕ** *ср. разг.* тарахтéние.

**ТАРАХЦÉЦЬ** *несов. разг.* **1.** (*производить шум*) тарахтéть; **2.** *перен.* (*без умолку говорить*) тарахтéть, трещáть.

**ТАРАШЭННЕ** *ср.* торошéние.

**ТАРБАГÁН** *м. зоол.* тарбагáн.

**ТАРБАНÓША** *ж. зоол.* двуутрóбка.

**ТАРБАХВÁТ** *м. разг.* хапýга.

**ТАРГАВÁЦЦА** *несов. прям., перен.* торговáться.

**ТАРГАВÁЦЬ** *несов.* прицéниваться.

**ТАРГАНÝЦЦА** *сов.* (*о судорожных резких движениях*) дёрнуться.

**ТАРГАНУ́ЦЬ** *сов.* (*резким движением потянуть*) дёрнуть.
**ТА́РКА** *ж.* тёрка; **драць бу́льбу на та́рцы** тере́ть карто́фель на тёрке.
**ТА́РКАВЫ** тёрочный.
**ТАРКАНУ́ЦЬ** *сов. однокр. см.* **то́ркнуць.**
**ТАРКА́ЦЬ** *несов. см.* **то́ркаць.**
**ТАРМАЖЭ́ННЕ** *ср.* торможе́ние; *см.* **тармазі́ць.**
**ТАРМАЗІ́ЦЦА** *несов. страд.* тормози́ться; *см.* **тармазі́ць.**
**ТАРМАЗІ́ЦЬ** *несов. в разн. знач.* тормози́ть; **т. ваго́н** тормози́ть ваго́н; **т. рэфле́ксы** тормози́ть рефле́ксы; **т. спра́ву** тормози́ть де́ло.
**ТАРМАЗНУ́ЦЬ** *сов. однокр. разг.* тормозну́ть.
**ТАРМАСІ́ЦЦА** *несов. страд.* тормоши́ться, тереби́ться.
**ТАРМАСІ́ЦЬ** *несов.* тормоши́ть, тереби́ть.
**ТАРМАШЭ́ННЕ** *ср.* тормоше́ние, тереблéние.
**ТАРМО́ЖАНЫ** *в разн. знач.* торможённый; *см.* **тармазі́ць.**
**ТАРНА́ДА** *нескл. м. метеор.* торна́до.
**ТАРО́КАЦЦА** *несов. разг.* препира́ться; торгова́ться.
**ТАРО́КІ, -каў** *ед. нет* торока́.
**ТАРО́ПКА** *нареч.* быстро, торопли́во.
**ТАРО́ПКІ** быстрый, торопли́вый.
**ТАРО́С** *м.* торо́с.
**ТАРО́СІСТЫ** торо́систый.
**ТАРО́ЧЫЦЬ** *несов. воен., охот.* торочи́ть.
**ТАРПА́** *ж. и* **ТОРП** *м.* скирд *м.*, скирда́ *ж.*
**ТАРПАВА́ЛЬШЧЫК** *м.* скирдова́льщик.
**ТАРПАВА́ННЕ** *ср. с.-х.* скирдова́ние.
**ТАРПАВА́НЫ** *с.-х.* скирдо́ванный.
**ТАРПАВА́ЦЦА** *несов. страд. с.-х.* скирдова́ться.
**ТАРПАВА́ЦЬ** *несов. с.-х.* скирдова́ть.
**ТАРПАКЛА́Д** *м. с.-х.* скирдопра́в.
**ТАРПА́Н** *м. зоол.* тарпа́н.
**ТАРПАТЫ́НА** *ж. разг.* терпенти́н *м.*
**ТАРПЕ́ДА** *ж.* торпе́да.
**ТАРПЕДАВА́ННЕ** *ср.* торпеди́рование.
**ТАРПЕДАВА́НЫ** *в разн. знач.* торпеди́рованный.
**ТАРПЕДАВА́ЦЦА** *несов. страд.* торпеди́роваться; *см.* тарпедава́ць.
**ТАРПЕДАВА́ЦЬ** *сов. и несов. в разн. знач.* торпеди́ровать.
**ТАРПЕДАКІДА́ННЕ** *ср.* торпедомета́ние.
**ТАРПЕДАНО́СЕЦ, -сца** *м. ав.* торпедоно́сец.
**ТАРПЕ́ДНЫ** *в разн. знач.* торпе́дный; **т. апара́т** торпе́дный аппара́т; **т. ка́тэр** торпе́дный ка́тер.
**ТАРПЕДЫ́СТ** *м.* торпеди́ст.
**ТАРТА́К, -ка́** *м. уст.* лесопи́льный заво́д.
**ТАРТА́ЛЬШЧЫК** *м.* тарта́льщик.
**ТАРТА́ННЕ** *ср. горн.* тарта́ние.
**ТА́РТАР** *м. миф.* та́ртар.
**ТАРТА́ЦЬ** *несов. горн.* тарта́ть.
**ТА́РТУ** *нескл. м. г.* Та́рту.
**ТА́РТУСКІ** та́ртуский.
**ТАРФАРЭ́З** *м. тех.* торфоре́з.
**ТАРФАСО́С** *м. тех.* торфосо́с.
**ТАРФО́ЛЕУМ, -му** *м. тех.* торфо́леум.
**ТАРФЯ́НА-БАЛО́ТНЫ** торфя́но-боло́тный.
**ТАРФЯ́НІК** *м.* 1. *род.* **тарфя́ніку** (*торфяное болото*) торфяни́к; 2. *род.* **тарфя́ніка** (*о человеке*) торфяни́к.
**ТАРФЯНІ́СТЫ** торфяни́стый.
**ТАРФЯ́НІЦА** *ж.* торфяни́ца.
**ТАРФЯ́НІШЧА** *ср.* (*осушенное торфяное болото*) торфяни́к *м.*
**ТАРФЯНЫ́** *в разн. знач.* торфяно́й; **т. масі́ў** торфяно́й масси́в; **~ны́я гра́зі** торфяны́е гря́зи; **~на́я прамысло́васць** торфяна́я промы́шленность.
**ТАРХА́Н, -на́** *м. ист.* тарха́н.
**ТАРХА́ННЫ** *ист.* тарха́нный; **~нная гра́мата** тарха́нная гра́мота.
**ТАРЦАВА́ННЕ** *ср.* торцева́ние.
**ТАРЦАВА́НЫ** торцо́ванный.
**ТАРЦАВА́ЦЦА** *несов. страд.* торцева́ться.
**ТАРЦАВА́ЦЬ** *несов.* торцева́ть.
**ТАРЦО́ВЫ** торцо́вый.
**ТАРЦО́ЎКА** *ж.* торцо́вка.
**ТАРЧА́ЦЬ** *несов. прям., перен.* торча́ть; **ключ ~ча́ў у замку́** ключ торча́л в замке́; **т. пе́рад вачы́ма** торча́ть пе́ред глаза́ми.
**ТАРЧМА́** *нареч.* торчко́м.
**ТАРШАНАВА́НЫ** *спец.* торшони́рованный.
**ТАРШАНАВА́ЦЬ** *сов. и несов. спец.* торшони́ровать.
**ТАРШО́Н, -ну** *м. спец.* торшо́н.
**ТАРЫ́ЗМ, -му** *м. полит.* тори́зм.
**ТАРЫ́Ф, -фу** *м.* тари́ф; **чыгу́начны т.** железнодоро́жный тари́ф; **тамо́жны т.** тамо́женный тари́ф; **~фы зарабо́тнай пла́ты** тари́фы за́работной пла́ты.
**ТАРЫФІКАВА́НЫ** тарифици́рованный.
**ТАРЫФІКАВА́ЦЦА** 1. *сов. и несов.* тарифици́роваться; 2. *несов. страд.* тарифици́роваться.
**ТАРЫФІКАВА́ЦЬ** *сов. и несов.* тарифици́ровать.
**ТАРЫФІКА́ТАР** *м.* тарифика́тор.
**ТАРЫФІКА́ЦЫЯ** *ж.* тарифика́ция.
**ТАРЫ́ФНЫ** тари́фный; **~ная се́тка** тари́фная се́тка; **т. аддзе́л** тари́фный отде́л.
**ТАРЭАДО́Р** *м.* тореадо́р.
**ТАРЭ́Ц, -рца́** *м.* торе́ц.
**ТАСАВА́ННЕ** *ср.* тасо́вка *ж.*
**ТАСАВА́НЫ** тасо́ванный.
**ТАСАВА́ЦЦА** *несов. страд.* тасова́ться.
**ТАСАВА́ЦЬ** *несов.* тасова́ть.
**ТАСЁМАЧНІК** *м.* тесёмочник.
**ТАСЁМАЧНІЦА** *ж.* тесёмочница.
**ТАСЁМКА** *ж.* тесёмка.
**ТАСЁМКАВЫ** тесёмочный.
**ТАСЁМЧАТЫ** тесёмчатый.
**ТАСКА́НА** *ж.* Toска́на.
**ТАСКА́НСКІ АРХІПЕЛА́Г** Toска́нский архипела́г.
**ТАСМА́НСКІ** тасма́нский.
**ТАСМА́НІЯ** *ж. о-в* Тасма́ния.
**ТАСО́ВАНЫ** *см.* **тасава́ны.**
**ТАСС** (**Тэлегра́фнае аге́нцтва Саве́цкага Саюза**) ТАСС (Телегра́фное аге́нтство Сове́тского Сою́за).
**ТАСТАМЕ́НТ** *м. уст. см.* **завяшча́нне.**
**ТАСЬМА́** *ж.* тесьма́.
**ТАТ** *м.* тат.
**ТА́ТА** *м. разг.* па́па, тя́тя.
**ТАТАЛІЗА́ТАР** *м.* тотализа́тор.
**ТАТАЛІТА́РНАСЦЬ** *ж.* тоталита́рность.
**ТАТАЛІТА́РНЫ** тоталита́рный.
**ТАТА́ЛЬНАСЦЬ** *ж.* тота́льность.
**ТАТА́ЛЬНЫ** тота́льный.
**ТАТА́РКА** *ж.* тата́рка.
**ТАТА́РСКАЯ АЎТАНО́МНАЯ САВЕ́ЦКАЯ САЦЫЯЛІСТЫ́ЧНАЯ РЭСПУ́БЛІКА** Тата́рская Автоно́мная Сове́тская Социалисти́ческая Респу́блика.
**ТАТА́РСКІ ПРАЛІ́Ў** Тата́рский проли́в.
**ТАТА́РЫ, -раў** тата́ры.
**ТАТА́РЫН** *м.* тата́рин.
**ТАТА́РЫЯ** *ж.* Тата́рия.
**ТА́ТАЎ** *разг.* (*принадлежащий отцу*) па́пин, тя́тин, па́пы, тя́ти; **т. хала́т** па́пин хала́т, хала́т па́пы.
**ТА́ТАЧКА** *м. разг.* па́почка, па́пенька, тя́тенька.
**ТА́ТКА I** *м. ласк. разг.* па́почка, папа́ня, тя́тька.
**ТА́ТКА II** *ж.* (*к* **тат**) та́тка.
**ТА́ТРЫ** (*го́ры*) Та́тры.
**ТАТУІ́РАВАННЕ** *ср.* (*действие*) татуиро́вка *ж.*

**ТАТУІРАВАНЫ** татуированный.
**ТАТУІРАВАЦЦА** 1. *сов. и несов.* татуироваться; 2. *несов. страд.* татуироваться.
**ТАТУІРАВАЦЬ** *сов. и несов.* татуировать.
**ТАТУІРОЎКА** *ж.* татуировка.
**ТАТЫ, -таў** таты.
**ТАТЭМ** *м. этн.* тотем.
**ТАТЭМІЗМ, -му** *м. этн.* тотемизм.
**ТАТЭМІСТЫЧНЫ** *этн.* тотемистический.
**ТАЎКАТНЯ** *ж.* толкотня, сутолока, толчея.
**ТАЎКАЧ, -ча** *м.* пест.
**ТАЎКАЧЫКІ** *ед. нет обл. см.* **хвошч.**
**ТАЎРАВАНЫ** 1. *прич.* таврённый; 2. *прил.* таврёный.
**ТАЎРАВАЦЦА** *несов. страд.* тавриться.
**ТАЎРАВАЦЬ** *несов.* таврить.
**ТАЎРО** *ср.* тавро.
**ТАЎРОВЫ** тавровый; **т. знак** тавровый знак; **~вая бэлька** тавровая балка; ✧ **~вае жалеза** тавровое железо.
**ТАЎ-САГЫЗ, -зу** *м. бот.* тау-сагыз.
**ТАЎСМАТЫ** *разг.* толстоватый; (*о человеке — ещё*) плотный.
**ТАЎСТАВАТЫ** толстоватый.
**ТАЎСТАГУБЫ** толстогубый.
**ТАЎСТАЗАДЫ** *прост.* толстозадый.
**ТАЎСТАЛЫТКІ** *разг.* с толстыми икрами.
**ТАЎСТАМОРДЫ** *разг.* толстомордый, толсторожий.
**ТАЎСТАНОГІ** толстоногий.
**ТАЎСТАНОСЫ** толстоносый.
**ТАЎСТАПУЗЫ** *прост.* 1. *прил.* толстопузый; 2. *в знач. сущ. бран.* толстопузый.
**ТАЎСТАРЫЛЫ** *разг.* толсторылый.
**ТАЎСТАСКУРЫ** *прям., перен.* толстокожий; **т. лімон** толстокожий лимон; **т. эгаіст** толстокожий эгоист.
**ТАЎСТАСЦЁННЫ** толстостенный.
**ТАЎСТАЦЕЛЫ** толстотелый; **~лыя малпы** *зоол.* толстотелые обезьяны.
**ТАЎСТАШЫІ** толстошеий.
**ТАЎСТУН, -на** *м. разг.* толстяк.
**ТАЎСТУХА** *ж.* 1. *разг.* толстуха; 2. (*гриб*) толстушка.
**ТАЎСЦЕЙ** *нареч. сравнит. ст.* толще; **т. намазвай** толще намазывай.
**ТАЎСЦЕЙШЫ** *прил. сравнит. ст.* толще.
**ТАЎСЦЕЦЬ** *несов.* 1. становиться толще; 2. (*становиться тучным*) толстеть, полнеть.
**ТАЎСЦІЦЬ** *несов.* толстить, полнить.
**ТАЎСЦЯНКА** *ж. бот.* толстянка.
**ТАЎСЦЯНКАВЫЯ** *сущ. мн. бот.* толстянковые.
**ТАЎТАГРАМА** *ж. лит.* тавтограмма.
**ТАЎТАЛАГІЧНЫ** тавтологический.
**ТАЎТАЛОГІЯ** *ж.* тавтология.
**ТАЎХАНІНА** *ж. разг.* толкотня, сутолока, толчея.
**ТАЎХАНУЦЬ** *сов. разг.* толкнуть, толкануть; *см.* **таўхаць.**
**ТАЎХАЦЦА** *несов. разг.* толкаться.
**ТАЎХАЦЬ** *несов. разг.* толкать; **т. пад локаць** толкать под локоть.
**ТАЎХЕЛЬ** *разг.* 1. *сущ. м.* (*удар*) тумак; 2. *в знач. межд.* толк.
**ТАЎЧОНІК** *м.* блин из мятого картофеля.
**ТАЎЧЫ** *несов.* 1. толочь; (*картошку*) мять; **т. цукар** толочь сахар; 2. (*очищать от скорлупы*) рушить, шастать; **т. проса** рушить (шастать) просо; 3. *разг.* (*разбивать*) бить, колотить; **т. талеркі** бить (колотить) тарелки; 4. *разг.* (*избивать*) бить, колотить; ✧ **т. ваду ў ступе** *погов.* толочь воду в ступе; **маўчы, бо будуць т.** *погов.* держи язык за зубами.
**ТАЎЧЫСЯ** *несов.* 1. измельчаться; 2. *прост.* (*слоняться без дела*) толкаться, околачиваться; 3. *страд.* толочься; мяться; рушиться; биться, колотиться; *см.* **таўчы** 1—3.
**ТАЎЧЭННЕ** *ср.* 1. толчение; 2. рушение, шастанье; 1, 2 *см.* **таўчы** 1, 2.
**ТАЎШЧЫННЫ** *тех.* толстотный.
**ТАЎШЧЫНЯ** *ж.* 1. толщина; **т. сцен** толщина стен; 2. (*тучность*) толщина, полнота.
**ТАЎШЧЭЗНЫ** *разг.* толстущий, толстенный.
**ТАЎШЧЭРАЗНЫ** *см.* **таўшчэзны.**
**ТАФТА** *ж. текст.* тафта.
**ТАФЦЯНЫ** тафтяной.
**ТАХЕАМЕТРЫЧНЫ** *геод.* тахеометрический.
**ТАХЕАМЕТРЫЯ** *ж. геод.* тахеометрия.
**ТАХЕОМЕТР** *м. геод.* тахеометр.
**ТАХІКАРДЫЯ** *ж. мед.* тахикардия.
**ТАХІМЕТР** *м. тех.* тахиметр.
**ТАХІНА** *ж. зоол.* тахина.
**ТАХКАЦЬ** *несов. прост.* стучать; (*о сердце — ещё*) биться.
**ТАХОМЕТР** *м. тех.* тахометр.
**ТАХТА** *ж.* тахта.
**ТАХЦІЦЬ** *несов. прост.* гатить; ✧ **хоць грэблю ~ці** хоть пруд пруди.
**ТАЧАНКА** *ж.* тачанка.
**ТАЧАЧНІК** *м.* тачечник.
**ТАЧАЧНЫ** тачечный.
**ТАЧКА** *ж.* (*тележка*) тачка.
**ТАЧЫЛА** *ср.* точило.
**ТАЧЫЛКА** *ж.* точилка.
**ТАЧЫЛЬНЫ** точильный.
**ТАЧЫЛЬНЯ** *ж.* точильня.
**ТАЧЫЛЬШЧЫК** *м.* точильщик.
**ТАЧЫЛЬШЧЫЦА** *ж.* точильщица.
**ТАЧЫЦЦА** I *несов. страд.* точиться; *см.* **тачыць** I.
**ТАЧЫЦЦА** II *несов. страд.* точиться; грызться; рыться; *см.* **тачыць** II.
**ТАЧЫЦЬ** I *несов.* (*на станке и т. п.*) точить; **т. металічную вось** точить металлическую ось; ✧ **т. лясы** точить лясы.
**ТАЧЫЦЬ** II *несов.* (*о червях и т. п.*) точить; (*о мышах и т. п.*) грызть; (*о кротах и т. п.*) рыть; **чарвяк точыць дрэва** червь точит дерево; ✧ **сумненне точыць сэрца** сомнение точит сердце.
**ТАЧЭННЕ** *ср.* точение, точка *ж.*; *см.* **тачыць** I.
**ТАШАЎЗ** *м. г.* Ташауз.
**ТАШАЎЗСКАЯ ВОБЛАСЦЬ** Ташаузская область.
**ТАШКЕНТ** *м. г.* Ташкент.
**ТАШКЕНЦКАЯ ВОБЛАСЦЬ** Ташкентская область.
**ТАЯ** *мест. ж.* та; *см.* **той.**
**ТАЯМНІЦА** *ж.* тайна, секрет *м.*
**ТАЯМНІЧА** *нареч.* таинственно.
**ТАЯМНІЧАСЦЬ** *ж.* таинственность.
**ТАЯМНІЧЫ** таинственный.
**ТБІЛІСІ** *нескл. м. г.* Тбилиси.
**ТБІЛІСКІ** тбилисский.
**ТВАЕ** 1. *мест. притяж. мн.* твой; *см.* **твой;** 2. *в знач. сущ.* (*родные, близкие*) твой; **ці здаровы т.?** здоровы ли твой?
**ТВАЁ** 1. *мест. притяж. ср.* твоё; *см.* **твой;** 2. *в знач. сущ. ср. мн. нет* твоё; **твайго мне не трэба** твоего мне не нужно.
**ТВАНІСТЫ** топкий, илистый.
**ТВАНЬ** *ж.* (*топкое и вязкое место*) топь.
**ТВАР,** *род.* **твару** *м.* 1. лицо *ср.*; **прыгожы т.** красивое лицо; **мускулы твару** мускулы лица; 2. *перен.* (*индивидуальные черты*) лицо *ср.*, облик; **т. горада** лицо (облик) города; ✧ **глядзець у т. смерці** смотреть (глядеть) в лицо смерти; **знаць у т.** знать в лицо; **змяніцца з твару** измениться в лице; **на твары напісана** на лице написано; **паказаць свой (сапраўдны) т.** показать своё (настоящее) лицо; **перад тварам каго-чаго-небудзь** перед лицом кого-чего-л.; **т. у т.** лицом к лицу; **сцерці з твару зямлі** стереть с лица

зямлі; з **твáру** с лицá; **(не) да твáру** (не) к лицý; **кідáць (папрóкі) ў т.** кидáть, бросáть (упрёки) в лицó.

**ТВАРÓГ, -рагý** *м.* твóрóг.

**ТВАРÓЖНІЦА** *ж.* творóжница.

**ТВАРÓЖНЫ** творóжный.

**ТВАРÓЖЫСТЫ** творóжистый.

**ТВАРÓЖЫЦЦА** *несов. возвр., страд.* творóжиться.

**ТВАРÓЖЫЦЬ** *несов.* творóжить.

**ТВАРЫ́ЦЦА** *несов.* 1. (*делаться*) творúться; **што гэ́та твóрыцца?** что э́то творúтся?; 2. *страд.* творúться; созидáться, создавáться; выдéлываться; *см.* **тварыць.**

**ТВАРЫ́ЦЬ** *несов.* 1. творúть, созидáть, создавáть; 2. (*совершать что-л.*) творúть; **т. вялíкія спрáвы** творúть велúкие делá; 3. *прост.* выдéлывать; **што ён твóрыць?** что он выдéлывает?

**ТВАРЭ́ННЕ** *ср.* творéние, созидáние, создáние; *см.* **тварыць** 1.

**ТВАРЭ́Ц, -рцá** *м.* творéц, создáтель, созидáтель.

**ТВАЯ́** *мест. притяж. ж.* твоя́; *см.* **твой.**

**ТВОЙ,** *ж.* **твая́,** *ср.* **тваё,** *мн.* **тваé** *мест. притяж. м.* твой; **т. сын** твой сын; **з твайгó дóму** из твоегó дóма; **твая́ вóля** твоя́ вóля; **тваё пытáнне** твой вопрóс; ✧ **спрáва твая́** дéло хозя́йское; **няхáй на тваíм бýдзе** а) пусть ты прав (правá); б) пусть бýдет по-твóему.

**ТВОР** *м.* произведéние *ср.*, создáние *ср.*, творéние *ср.*; сочинéние *ср.*

**ТВÓРНЫ: т. склон** *грам.* творúтельный падéж.

**ТВÓРЦА** *м. разг.* творéц, создáтель, созидáтель.

**ТВÓРЧА** *нареч.* твóрчески.

**ТВÓРЧАСЦЬ** *ж.* твóрчество *ср.*

**ТВÓРЧЫ** 1. созидáтельный; **~чая прáца** созидáтельный труд; 2. твóрческий; **т. шлях пісьмéнніка** твóрческий путь писáтеля.

**ТКÁЛЛЯ** *ж. разг.* ткачúха.

**ТКАНІ́НА** *ж. прям., перен.* ткань; **ільняны́я ~ны** льняны́е ткáни; **т. сюжэ́та** ткань сюжéта.

**ТКÁНКА** *ж. анат.* ткань; **тлýшчавая т.** жировáя ткань; **мýскульная т.** мы́шечная ткань.

**ТКÁНКАВЫ** *анат., физиол.* ткáневый.

**ТКÁННЕ** *ср.* (*действие*) тканьё.

**ТКАННЁ, -ння́** *собир. ср.* тканьё.

**ТКÁНЫ** 1. *прич.* ткáнный; 2. *прил.* ткáный.

**ТКÁЦКА-ПРАДЗІ́ЛЬНЫ** ткáцко-прядúльный.

**ТКÁЦКІ** ткáцкий; **~кая спрáва** ткáцкое дéло; **т. станóк** ткáцкий станóк.

**ТКÁЦТВА** *ср.* ткáчество.

**ТКÁЦЦА** *несов. страд.* ткáться; *см.* **ткаць.**

**ТКАЦЬ** *несов. в разн. знач.* ткать; **т. палóтны** ткать холсты́; **павýк тчэ павуцíнне** паýк ткёт паутúну; **ягó фантáзія тчэ дзіýныя вóбразы** егó фантáзия ткёт удивúтельные óбразы.

**ТКАЧ,** *род.* **ткачá** *м.* ткач.

**ТКАЧЫ́ХА** *ж.* ткачúха.

**ТЛЕН,** *род.* **тлéну** *м. уст.* тлен.

**ТЛЕ́ННАСЦЬ** *ж. уст.* тлéнность, брéнность.

**ТЛЕ́ННЕ** *ср.* тлéние; *см.* **тлець** 1.

**ТЛЕ́ННЫ** *уст.* тлéнный, брéнный.

**ТЛЕЦЬ** *несов.* 1. *в разн. знач.* тлеть; **гной тлéе** навóз тлéет; **сыры́я дрóвы не гарáць, а тлéюць** сыры́е дровá не горя́т, а тлéют; 2. *перен.* тлеть, тлéться, тéплиться; **у ім яшчэ́ тлéе надзéя** в нём ещё тлéет надéжда; **жыццё ледзь тлéе** жизнь едвá тéплится.

**ТЛУМ,** *род.* **тлýму** *м. разг.* 1. óдурь *ж.*, одурéние *ср.*; 2. шум, гóмон; сумя́тица *ж.*

**ТЛУМÁЧ, -чá** *м. ист.* толмáч.

**ТЛУМАЧÁЛЬНІК** *м.* толковáтель, истолковáтель.

**ТЛУМАЧÁЛЬНІЦА** *ж.* толковáтельница, истолковáтельница.

**ТЛУМАЧÁЛЬНЫ** 1. (*дающий разъяснения*) пояснúтельный, объяснúтельный; **~ныя слóвы** *грам.* пояснúтельные словá; 2. (*содержащий толкование*) толкóвый; **т. слóўнік** толкóвый словáрь.

**ТЛУМÁЧЫЦЦА** *несов. страд.* объясня́ться; толковáться; поясня́ться; *см.* **тлумáчыць.**

**ТЛУМÁЧЫЦЬ** *несов.* 1. объясня́ть, толковáть; 2. (*определять смысл, значение*) толковáть, поясня́ть; **т. сэнс слоў** толковáть (поясня́ть) смысл слов.

**ТЛУМАЧЭ́ННЕ** *ср.* 1. объяснéние, толковáние; 2. толковáние, пояснéние; 1, 2 *см.* **тлумáчыць;** 3. объяснéние; **патрабавáць ~ння ад каго-нéбудзь** трéбовать объяснéния от когó-л.; **знайсцí т. гэ́тай з'яве** найтú объяснéние э́тому явлéнию.

**ТЛУМІ́ЦЬ** *несов. разг.* морóчить, дурúть (гóлову).

**ТЛУ́МНА** *нареч.* шýмно.

**ТЛУ́МНЫ** 1. одуря́ющий; 2. шýмный.

**ТЛУ́СТА** *нареч.* жúрно.

**ТЛУ́СТАСЦЬ** *ж.* 1. жир *м.*; **звéрху плáвае т.** свéрху плáвает жир; 2. жúрность; **т. малакá** жúрность молокá; 3. (*упитанность*) тýчность.

**ТЛУ́СТЫ** 1. (*содержащий много жира*) жúрный; **т. боршч** жúрный борщ; 2. (*упитанный*) жúрный, тýчный; 3. (*запачканный жиром*) сáльный, жúрный; **~тая пля́ма** жúрное (сáльное) пятнó; 4. тýчный; **~тая глéба** тýчная пóчва.

**ТЛУСЦЕ́ЦЬ** *несов.* жирéть, тучнéть.

**ТЛУ́СЦІЦЬ** *сов.* 1. (*пачкать жиром*) засáливать, замáсливать; 2. (*пропитывать жировыми веществами*) жировáть.

**ТЛУШЧ,** *род.* **тлýшчу** *м.* жир; **ры́бін т.** ры́бий жир.

**ТЛУШЧААДКЛАДÁННЕ** *ср.* жироотложéние.

**ТЛУШЧАВÁННЕ** *ср. спец.* жировáние; **т. скýры** жировáние кóжи.

**ТЛУ́ШЧАВЫ** 1. *в разн. знач.* жировóй; **~вая тканка** жировáя ткань; **~вая прамыслóвасць** жировáя промы́шленность; 2. (*запачканный салом*) сáльный, жúрный; **~вая пля́ма** сáльное (жúрное) пятнó; ✧ **~выя залóзы** *анат.* сáльные жéлезы.

**ТЛУШЧÁК, -кá** *м. мин., мед.* жировúк.

**ТЛУШЧАМАЛÓЧНАСЦЬ** *ж.* жиромолóчность.

**ТЛУШЧАМАЛÓЧНЫ** жиромолóчный.

**ТЛУШЧАПÓТ, -ту** *м.* жиропóт.

**ТЛУШЧЭ́ННЕ** *ср.* жировáние; *см.* **тлýсціць** 2.

**ТЛЯ** *ж.* тля; **капýсная т.** капýстная тля.

**ТЛЯТВÓРНА** *нареч. прям., перен.* тлетвóрно.

**ТЛЯТВÓРНАСЦЬ** *ж. прям., перен.* тлетвóрность.

**ТЛЯТВÓРНЫ** *прям., перен.* тлетвóрный.

**ТНУЦЬ** *сов. однокр. обл.* 1. удáрить; **т. пýгай** удáрить кнутóм; 2. (*о насекомых*) укусúть; ужáлить.

**ТО** 1. *союз* (*в начале главного предложения*) то; **калí ўжо пóзна, то я пайдý дахáты** éсли ужé пóздно, то я пойдý домóй; 2. *союз разд.* то; (*с отрицанием* **не**) не то, (*с частицей* **ці**) то ли; **то па чарзé, то адначáсна** то поперемéнно, то одноврéменно; **то той, то гэ́ты** то тот, то э́тот; **не то бýдзе, не то не** не то бýдет, не то нет; **ці то ён хвóры, ці то здарóвы** то ли он бóлен, то ли здорóв; **ці то па нявéданню, ці то па нежадáнню** то ли по незнáнию, то ли по нежелáнию; 3. *частица* -то; **а ў Масквé-то я і не быў** а в Москвé-то я и нé был; ✧ **а то** а то; úли; **і то** и то; **ды і то** да и то; **тó-та(ж)** тó-то (же); **а то ж...** а то ведь...; **вот тó-та і янó** вот тó-то и онó.

**ТÓГА** *ж. ист.* тóга; ✧ **убірáцца ў тóгу** рядúться в тóгу.

**ТÓГА** *нескл. ср.* Тóго.

**ТÓЕ** 1. *мест. указ. ср.* то; *см.* **той;** 2. *в знач. сущ. мн. нет ср.* то; **т. былó ўчóра, а гэ́та сягóння** то бы́ло вчерá, а э́то сегóдня; **т. былó яшчэ́ зімóй** то бы́ло ещё зимóй; ✧ **аднó і т.** однó и то же; **т. ды сёе** то да сё; **не т., каб...** не то, чтóбы...; **ні т. ні сёе** ни то ни сё; **як на т. лíха** как на бедý; **не глéдзячы на т.** несмотря́ на то; **калí на т. пайшлó** éсли уж на то пошлó.

**ТО́ЕСНАСЦЬ** *ж.* **1.** тождественность, тожественность, тождество *ср.*, тожество *ср.*; **2.** *мат.* тождество *ср.*, тожество *ср.*

**ТО́ЕСНЫ** тождественный, тожественный.

**ТОЙ,** *ж.* **тая́**, *ср.* **тое**, *мн.* **тыя** *мест. указ. м.* тот; **т. лес** тот лес; **з таго́ ча́су** с того времени; **у т. дзень** в тот день; **на тым баку́ ву́ліцы** на той стороне улицы; **т. са́мы по́езд** тот самый поезд; **таго́ ж дня** в тот же день; ✧ **з тым** с тем; **апрача́ таго́** кроме того; **той са́мы** тот самый; **за тым** за тем; за сим; **між тым** между тем; **ра́зам з тым** вместе с тем; **пе́рад тым** перед тем; **пасля́ таго́** после того; **тым больш** тем более; (и) подавно; **тым лепш** тем лучше; **тым ча́сам** тем временем; **таму́ наза́д** тому назад; **і без таго́** и без того; **не без таго́** не без того; **да таго́, што...** до того, что...; **тым не менш** тем не менее; **спра́ва ў тым...** дело в том...; **т. ці і́ншы** тот или иной (другой); **як т. каза́ў** как говорится; **на тым баку́** по ту сторону; **на т. свет** на тот свет; **у т. час, як...** в то время, как...; **ні з таго́ ні з сяго́** ни с того ни с сего; **няма́ таго́, каб...** нет того, чтобы...; **і да таго́ падо́бнае** и тому подобное; **т., ды не т.** *погов.* тот, да не тот.

**ТОҚ** I, *род.* **то́ку** *м.* (*электрический*) ток.

**ТОҚ** II *м.* **1.** *с.-х.* ток, гумно *ср.*; **2.** *обл.* земляной пол.

**ТОҚАПРЫЁМНІҚ** *м. эл.* токоприёмник.

**ТО́КАР** *м.* токарь.

**ТО́КІО** *нескл. м. г.* Токио.

**ТОЛ,** *род.* **то́лу** *м.* тол.

**ТО́ЛАВЫ** толовый.

**ТО́ЛЕВЫ** толевый.

**ТОЛҚ,** *род.* **то́лку** *м. в разн. знач.* толк; **ма́ла то́лку** мало толку; **з гэ́тага бу́дзе т.** из этого будет толк; ✧ **з то́лкам** с толком; **без то́лку** без толку; **не дабі́цца то́лку** не добиться толку; **збіць (збі́цца) з то́лку** сбить (сбиться) с толку.

**ТО́ЛҚАМ** *нареч.* толком; **скажы́ т.** скажи толком.

**ТОЛЬ,** *род.* **то́лю** *м.* толь.

**ТО́ЛЬҚІ** **1.** *нареч.* только, лишь; **т. яго́ не было́** только (лишь) его не было; **гэ́та т. пача́так** это только (лишь) начало; **ён жа т. гля́нуў** он же только (лишь) взглянул; **2.** *нареч.* (*только что*) едва; **тады́ ён т. пачына́ў працава́ць** тогда он едва начинал работать; **3.** *нареч.* (*единственно*) только, исключительно; **прэ́міі атрыма́лі т. выда́тнікі** премии получили только (исключительно) отличники; **4.** *союз временной* только, едва, лишь; (*в сочет. с союзом* **як** — *ещё*) едва только, лишь только, как только; **т. пераступі́ў паро́г, ма́ці мне насу́страч** только (едва, лишь) перешагнул через порог, мать мне навстречу; **як т. мы ўвайшлі́, заслóна паднялáся** едва только (лишь только, как только) мы вошли, занавес поднялся; **5.** *союз условный, противит.* только; **т. пасме́й гэ́та зрабі́ць, тады́ бу́дзеш ве́даць** только посмей это сделать, тогда узнаешь; **зайду́ і да яго́, т. пачака́й** зайду и к нему, только обожди; **6.** *частица* только; (*в соединении с частицами* **абы, каб** *при выражении желания* — *ещё*) только бы (б); **дзе т. ён не бы́ў!** где только он не бывал!; **абы́ т. (каб т.) ён бы́ў жывы́** только бы (б) он был жив; ✧ **т. што** а) *нареч.* только что, всего-то; только-только; б) *союз* только что; **т.-т.** только-только; **як т.** лишь только; **ды і т.** *вводн. сл.* да и только; **т. ўсяго́** только всего, всего только; **не т. што...** не только что...; **т. тае́ бяды́!** пустяки!; **т. што не...** только что не...; **не т., але́ і...** не только, но и...; **т. яго́ і ба́чылі** только его и видели, и был таков.

**ТОМ** *м.* том.

**ТО́МЛЕНЫ** *тех.* **1.** *прич.* томлённый; **2.** *прил.* томлёный.

**ТОМСҚ** *м. г.* Томск.

**ТО́МСҚАЯ ВО́БЛАСЦЬ** Томская область.

**ТОН,** *род.* **то́ну** *м. в разн. знач.* тон; **глухі́ т. сэ́рца** глухой тон сердца; **мажо́рны т.** мажорный тон; **сакаві́ты т. віяланчэ́лі** сочный тон виолончели; **спако́йны т. го́ласу** спокойный тон голоса; **све́тлы т. карці́ны** светлый тон картины; **то́нам вышэ́й (ніжэ́й)** *муз., перен.* тоном выше (ниже); ✧ **задава́ць т.** задавать тон; **тра́піць у т.** попасть в тон; **павы́сіць т.** повысить тон; **зба́віць т.** сбавить тон.

**ТО́НА** *ж.* тонна.

**ТО́НЕНЬҚІ** *уменьш.* тоненький.

**ТО́НІҚА** *ж. муз. в разн. знач.* тоника.

**ТО́НҚА** *нареч.* **1.** *в разн. знач.* тонко; **2.** тонко, утончённо, изысканно; 1, 2 *см.* **то́нкі;** ✧ **дзе т., там і рвé цца** *посл.* где тонко, там и рвётся.

**ТОНҚАВАЛАҚНІ́СТЫ** тонковолокнистый.

**ТОНҚАЗЯРНІ́СТЫ** тонкозернистый.

**ТОНҚАЛІ́СТАВЫ** *спец.* тонколистовой.

**ТОНҚАПЛАСТО́ВЫ** тонкослойный.

**ТОНҚАПРАДЗЕ́ННЕ** *ср. текст.* тонкопрядение.

**ТОНҚАПРАДЗІ́ЛЬНЫ** *текст.* тонкопрядильный.

**ТОНҚАСЛАЁВЫ** тонкослойный.

**ТОНҚАСТВАЛО́ВЫ** *см.* **танкаство́лы.**

**ТОНҚАСУКО́ННЫ** тонкосуконный.

**ТО́НҚАСЦЬ** *ж.* **1.** *в разн. знач.* тонкость; **2.** тонкость, утончённость, изысканность; 1, 2 *см.* **то́нкі; 3.** (*подробность*) тонкость; **удава́цца ў ~ці** вдаваться в тонкости.

**ТО́НҚІ** **1.** *в разн. знач.* тонкий; **т. слой** тонкий слой; **т. нос** тонкий нос; **т. го́лас** тонкий голос; **~кая рабо́та** тонкая работа; **т. кры́тык** тонкий критик; **т. слых** тонкий слух; **т. пах** тонкий запах; **2.** (*изящный*) тонкий, утончённый, изысканный; **т. густ** тонкий (утончённый, изысканный) вкус; ✧ **~кая штý чка** тонкая штучка; **т. намёк** тонкий намёк.

**ТОНМА́ЙСТАР, -тра** *м.* тонмейстер.

**ТО́НУС, -су** *м. физиол., перен.* тонус.

**ТОНФІ́ЛЬМ** *м. кино, радио* тонфильм.

**ТО́НЯ** *ж.* **1.** *в разн. знач.* тоня; **2.** омут *м.*

**ТОП** *м. мор.* топ.

**ТО́ПАЛЬ** *м. см.* **тапо́ля.**

**ТО́ПҚА** *ж.* (*часть печи*) топка.

**ТО́ПҚАСЦЬ** *ж.* плавкость; *см.* **то́пкі.**

**ТО́ПҚІ** (*плавящийся*) плавкий; **~кае са́ла** плавкое сало.

**ТО́ПЛЕНЫ** топлёный; (*о воске* — *ещё*) плавленый; **~нае ма́сла** топлёное масло.

**ТО́ПСЕЛЬ** *м. мор.* топсель.

**ТОР** *м. мат.* тор.

**ТО́РБА** *ж.* **1.** сумка, сума; **2.** (*символ нищеты*) сума; ✧ **з ~бай пусці́ць** пустить по миру; **но́сіцца, як ду́рань з пі́санай ~бай** *погов.* носится, как (дурень) с писаной торбой.

**ТО́РБАЧНІҚ, -ку** *м. бот.* ярутка *ж.*

**ТО́РБАЧНЫ** сумочный.

**ТОРГ** I, *род.* **то́ргу** *м. в разн. знач.* торг; **ве́сці т.** вести торг; **т. праця́гваўся цэ́лы дзень** торг длился весь день; ✧ **паспе́еш з ко́замі на т.** *погов.* не торопись, успеешь.

**ТОРГ** II *в знач. сказ. разг.* дёрг.

**ТО́РГАННЕ** *ср.* дёрганье; *см.* **то́ргаць.**

**ТО́РГАЦЦА** *несов.* (*о судорожных резких движениях*) дёргаться.

**ТО́РГАЦЬ** *несов. в разн. знач.* дёргать; **т. за рука́ў** дёргать за рукав; **яго́ ўсяго́ ~гае** *безл.* его всего дёргает.

**ТОРҚ** *межд. в знач. сказ. разг.* толк.

**ТО́РҚАННЕ** *ср.* **1.** толкание; **2.** дёрганье; **3.** клёв *м.*; **4.** *разг.* тыканье; 1—4 *см.* **то́ркаць.**

**ТО́РҚАЦЦА** *несов.* тыкаться.

**ТО́РҚАЦЬ** *несов.* **1.** толкать; **т. пад руку́** толкать под руку; **2.** (*вожжами*) дёргать; **3.** (*о рыбе*) клевать; **4.** *разг.* (*чем-л. острым*) тыкать.

**ТО́РҚНУЦЦА** *сов.* ткнуться.

**ТО́РҚНУЦЬ** *сов. однокр.* **1.** толкнуть; **т. у бок** толкнуть в бок; **2.** (*вожжами*) дёрнуть; **3.** (*о рыбе*) клюнуть; **4.** *разг.* (*чем-л. острым*) ткнуть.

**ТО́РМАЗ** *м. тех., перен.* тормоз; **т. Қаза́нцава** тормоз Казанцева; **т. развіцця́ чаго-не́будзь** тормоз развития чего-л.

**ТО́РМАЗНЫ** тормозно́й; **т. кран** тормозно́й кран.
**ТОРП** *м. см.* **тарпа́.**
**ТОРС** *м.* торс.
**ТОРТ** *м.* торт.
**ТО́РТАВЫ** то́ртовый.
**ТОРФ,** *род.* **то́рфу** *м.* торф.
**ТОРФАБРЫКЕ́Т, -ту** *м.* торфобрике́т.
**ТОРФАБРЫКЕ́ТНЫ** торфобрике́тный.
**ТОРФАЗДАБЫВА́ННЕ** *ср.* торфодобыва́ние.
**ТОРФАЗДАБЫ́ЧА** *ж.* торфодобы́ча.
**ТОРФАКАМПО́СТ, -ту** *м.* торфокомпо́ст.
**ТОРФАПЕРАГНО́ЙНЫ** торфоперегно́йный.
**ТОРФАПРАДПРЫЕ́МСТВА** *ср.* торфопредприя́тие.
**ТОРФАРАСПРАЦО́ЎКІ, -цо́вак,** *ед.* **торфараспрацо́ўка** *ж.* торфоразрабо́тки.
**ТОРФАЎБО́РАЧНЫ** торфоубо́рочный.
**ТО́РЫ** *нескл. м. ист.* то́ри.
**ТО́РЫЙ, -рыю** *м. хим.* то́рий.
**ТОСТ,** *род.* **то́сту** *м.* тост.
**ТО́ЎПІЦЦА** *несов.* **1.** толпи́ться; **2.** *обл.* вмеща́ться.
**ТОЎСТАГАЛО́ЎКА** *ж. зоол.* толстоголо́вка.
**ТО́ЎСТЫ 1.** то́лстый; **~тая кні́га** то́лстая кни́га; **2.** *разг.* (*жирный*) то́лстый, по́лный; **т. мужчы́на** то́лстый (по́лный) мужчи́на; ✧ **т. часо́піс** то́лстый журна́л.
**ТО́ЎЧАНЫ 1.** *прич.* толчённый; мя́тый; **2.** *прич. разг.* би́тый; 1, 2 *см.* **таўчы́** 1, 3; **3.** *прил.* толчёный; (*о картошке*) мя́тый.
**ТОЎШЧ** *ж. см.* **то́ўшча.**
**ТО́ЎШЧА** *ж.* **1.** (*массив*) то́лща; **т. зямно́й кары́** то́лща земно́й коры́; **2.** *перен.* то́лща, глубь.
**ТО́ЧАНЫ 1.** *прич.* то́ченный; *см.* **тачы́ць** I; **2.** *прил.* точёный; **~ныя но́жкі сто́ліка** точёные но́жки сто́лика; **~ныя вы́рабы** точёные изде́лия.
**ТО́ЧНА: так т.!** *воен.* так то́чно!
**ТПРУ** *межд.* тпру.
**ТПРУ́КАННЕ** *ср. разг.* тпру́канье.
**ТПРУ́КАЦЬ** *несов. разг.* тпру́кать.
**ТРАВА́** *ж.* трава́; ✧ **т. ~во́й** трава́ траво́й; **~во́й зарасці́** траво́й порасти́; **благу́ю ~ву́ з по́ля вон** *посл.* худу́ю траву́ с по́ля вон; **ці́шэй вады́, ніжэ́й ~вы́** *погов.* ти́ше воды́, ни́же травы́.
**ТРАВАЕ́ДНЫ** *зоол.* травоя́дный.
**ТРАВАПО́ЛЛЕ** *ср. с.-х.* травопо́лье.
**ТРАВАПО́ЛЬНЫ** *с.-х.* травопо́льный.
**ТРАВАСЕ́ЯЛКА** *ж. с.-х.* травосе́ялка.
**ТРАВАСЕ́ЯННЕ** *ср. с.-х.* травосе́яние.
**ТРАВАСТО́Й, -то́ю** *м. с.-х.* травосто́й.
**ТРАВАСУ́МЕСЬ** *ж. с.-х.* травосме́сь.
**ТРА́ВЕРЗ** *м. мор., ав.* тра́верз, тра́верс.
**ТРА́ВЕРС** *м.* (*насыпь в окопе*) тра́верс.
**ТРА́ВЕРСА** *ж. тех.* тра́верса.
**ТРАВЕРЦІ́Н, -ну** *м. мин.* траверти́н.
**ТРАВЕСЦІ́** *нескл. ср. театр., лит.* травести́.
**ТРАВІ́ЛЬНЫ** *тех.* трави́льный; **~ная машы́на** трави́льная маши́на.
**ТРАВІ́ЛЬШЧЫК** *м.* трави́льщик.
**ТРАВІ́НА** *ж. разг.* трави́на.
**ТРАВІ́НКА** *ж. разг.* трави́нка.
**ТРАВІ́ЦА** *ж. уменьш.-ласк.* тра́вка, тра́вушка.
**ТРАВІ́ЦЦА** I *несов. страд. тех.* трави́ться; *см.* **траві́ць** I.
**ТРАВІ́ЦЦА** II *несов. страд.* трави́ться; *см.* **траві́ць** II.
**ТРАВІ́ЦЦА** III *несов. страд. мор.* трави́ться; *см.* **траві́ць** III.
**ТРАВІ́ЦЬ** I *несов. тех.* трави́ть; **т. узо́р на шкату́лцы** трави́ть узо́р на шкату́лке.
**ТРАВІ́ЦЬ** II *несов.* (*производить потраву*) трави́ть; **т. пасе́вы** трави́ть посе́вы.
**ТРАВІ́ЦЬ** III *несов.* (*о пищеварении*) вари́ть, перева́ривать.
**ТРАВІ́ЦЬ** IV *несов. мор.* трави́ть; **т. кана́т** трави́ть кана́т.
**ТРАВЯНЕ́ЦЬ** *несов.* травене́ть.
**ТРАВЯНІ́СТЫ** *в разн. знач.* травяни́стый; **~тая раслі́ннасць** травяни́стая расти́тельность; **т. бе́раг** травяни́стый бе́рег.
**ТРАВЯ́НКА** *ж. хим., бот.* травя́нка.
**ТРАВЯНЫ́** *в разн. знач.* травяно́й; **~но́е по́крыва** травяно́й покро́в; **~но́е сцябло́** травяно́й сте́бель; **~на́я насто́йка** травяна́я насто́йка.
**ТРАГЕДЫ́ЙНЫ** *лит., театр.* трагеди́йный.
**ТРАГЕ́ДЫЯ** *ж. в разн. знач.* траге́дия.
**ТРАГІ́ЗМ, -му** *м.* **1.** траги́зм; **2.** траги́зм, траги́чность *ж.*
**ТРА́ГІК** *м.* тра́гик.
**ТРАГІКАМЕ́ДЫЯ** *ж. лит., театр., перен.* трагикоме́дия.
**ТРАГІКАМІ́ЧНЫ 1.** *лит., театр.* трагикоми́ческий; **2.** *перен.* трагикоми́ческий, трагикоми́чный.
**ТРАГІ́ЧНА** *нареч.* траги́чески.
**ТРАГІ́ЧНАСЦЬ** *ж.* траги́чность; *см.* **трагі́чны** 2, 3.
**ТРАГІ́ЧНЫ 1.** *лит., театр.* траги́ческий; **2.** (*ужасный, потрясающий*) траги́ческий, траги́чный; **3.** *разг.* (*очень трудный*) траги́ческий, траги́чный; **~нае стано́вішча** траги́ческое (траги́чное) положе́ние.
**ТРАГЛАДЫ́Т** *м. палеонт., перен. бран.* троглоди́т.
**ТРАДЫЦЫ́ЙНА** *нареч.* традицио́нно; *см.* **традыцы́йны.**
**ТРАДЫЦЫ́ЙНАСЦЬ** *ж.* традицио́нность; *см.* **традыцы́йны.**
**ТРАДЫЦЫ́ЙНЫ** *в разн. знач.* традицио́нный; **т. звы́чай** традицио́нный обы́чай; **т. абе́д** традицио́нный обе́д; **т. касцю́м** традицио́нный костю́м; **~ная мане́ра пісьма́ ў жы́вапісе** традицио́нная мане́ра письма́ в живопи́си.
**ТРАДЫ́ЦЫЯ** *ж.* тради́ция.
**ТРАЕКТО́РЫЯ** *ж.* траекто́рия.
**ТРАІ́СТАСЦЬ** *ж.* тро́йственность.
**ТРАІ́СТЫ** тро́йственный.
**ТРАІ́ЦЦА** *несов.* **1.** *в разн. знач.* трои́ться; **кане́ц кана́та тро́іцца** коне́ц кана́та трои́тся; **у вача́х т.** *безл.* в глаза́х трои́тся; **лі́тары тра́яцца** бу́квы троя́тся; **2.** *страд.* трои́ться; стра́иваться; *см.* **траі́ць.**
**ТРАІ́ЦЬ** *несов.* **1.** (*соединять по три*) трои́ть, стра́ивать; **т. ніткі** трои́ть (стра́ивать) ни́тки; **2.** *разг.* (*делить натрое*) трои́ть; **т. цурбаны́** трои́ть чурба́ны; **3.** *с.-х.* трои́ть, стра́ивать; **т. папа́р** трои́ть (стра́ивать) пар.
**ТРА́ЙЛЕР** *м. тех.* тра́йлер.
**ТРАЙНІ́К, -ка́** *м.* тройни́к; тройча́тка *ж.*
**ТРАЙНІКО́ВЫ** *тех.* тройни́чный.
**ТРАЙНЫ́** тройно́й; **т. скачо́к** *спорт.* тройно́й прыжо́к; ✧ **~но́е пра́віла** *мат.* тройно́е пра́вило.
**ТРАЙНЯ́** I *ж.* (*в телеге*) тройча́тка, дрога́.
**ТРАЙНЯ́** II *ж.* (*близнецы*) тро́йня.
**ТРАЙНЯ́ТЫ, -ня́т** *ед. нет* (*близнецы*) тро́йня *ж.*
**ТРАЙЧА́СТЫ 1.** тройча́тый; **2.** *анат.* тройни́чный; **т. нерв** тройни́чный нерв.
**ТРАК** *м. тех.* трак; **тра́ктарны т.** тра́кторный трак.
**ТРАКТ,** *род.* **тра́кту** *м.* **1.** (*дорога*) тракт, больша́к; **2.** (*направление*) тракт; ✧ **стра́ўнікава-кішэ́чны т.** *анат.* желу́дочно-кише́чный тракт.
**ТРАКТАВА́ННЕ** *ср.* тракто́вка *ж.*, толкова́ние.
**ТРАКТАВА́НЫ** тракто́ванный, толко́ванный.
**ТРАКТАВА́ЦЦА** *несов. возвр., страд.* трактова́ться, толкова́ться.
**ТРАКТАВА́ЦЬ** *несов.* трактова́ть, толкова́ть.
**ТРА́КТАР** *м.* тра́ктор.
**ТРАКТАРАБУДАЎНІ́К, -ка́** *м.* тракторострои́тель.
**ТРАКТАРАБУДАЎНІ́ЦТВА** *ср.* тракторострое́ние.

